# Крапіва



## 4

П'ЕСЫ

Мінск
«Мастацкая літаратура»
2003

# ХТО СМЯЕЦЦА АПОШНІМ

*Камедыя*
*ў трох актах*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Гарлахвацкі Аляксандр Пятровіч — дырэктар інстытута геалогіі.
Анна Паўлаўна — яго жонка.
Чарнавус Аляксанд р Пятровіч — прафесар.
Туляга Мікіта Сымонавіч — навуковы супрацоўнік.
Лявановіч — сакратар парткома.
Вера — малодшы навуковы супрацоўнік.
Зёлкін — малодшы навуковы супрацоўнік.
Зіна Зёлкіна — яго жонка, сакратар.
Цёця Каця — прыбіральшчыца.
Нічыпар — дворнік.
Незнаёмая жанчына.
Чалавек у форме НКУС.

## АКТ ПЕРШЫ

Калідор — вестыбюль установы. Цёця Каця выходзіць з дзвярэй дырэктаравага кабінета. За ёю Нічыпар.

Цёця Каця. Фу!.. Добра, што ты якраз падышоў, я ж бы адна гэтаму сталу і рады не дала.

Нічыпар. Гэта, брат, стол! Каб некалі мне такі пляц зямлі, то я б гаспадаром быў.

Цёця Каця. Новы поп, дык новае і маленне. У таго дырэктара, бывала, адзін столік, два крэслы, і ўсё. А ў гэтага ж стол гэтакі, а на стале ж мартаплясаў усялякіх панастаўляна — таксама грошай каштуюць.

Нічыпар. А што яму — шкада казённых грошай? Не з свае ж кішэні плаціць.

Цёця Каця. Дзве канапы скураныя, мяккія. І нашто яны? Хіба ён лежачы працаваць думае.

Нічыпар. Далікатнага, мусіць, заводу. Баіцца, каб на цвёрдым мазалёў не панаседжваць.

Цёця Каця. І вось, скажы ты... Зараз год, як я на гэтым месцы, а не магу ўцяміць, што тут людзі робяць. Такі ж каваль у кузні куе, то знак ёсць, настаўнік дзяцей вучыць, і то знак ёсць, а тут людзі нешта робяць, робяць, і работы гэтай не відаць.

Нічыпар. Кажаш, працуюць і смаку не чуюць.

Цёця Каця. Яны, можа, і чуюць, але я не бачу, які тут смак. Нейкія ўсё каменні, косці перабіраюць, пясок перасыпаюць.

Нічыпар. Гэта яны зямлю вывучаюць.

Цёця Каця. Як гэта зямлю?

Нічыпар. А так, што як паглядзяць на гэтыя косці, дык адразу скажуць, колькі зямлі год і як яна выглядала, калі маладою была.

Цёця Каця. Пляцеш ты абы-што. Думаеш, калі я баба, дык ужо і паверу ўсякаму глупству.

Нічыпар. Запытайся ў Чарнавуса. Ён чалавек дарма што сур'ёзны, а калі разгаворыцца, дык люба слухаць. Раскажа, і дзе

некалі мора было, і чаму яго цяпер там няма, і якія жывёлы былі мільёны год таму назад, і як яны елі адна другую. Так дакладна раскажа, нібы ён сам быў пры гэтым.

Цёця Каця. А ў тым інстытуце, што на Шырокай, дык сабак поўна. Там з імі ўсялякія штукі выраблягоць, практыку здымаюць. Мая суседка там прыбіральшчыцай, дык расказвае, што не даюць, каб гэтыя сабакі ротам елі, а папракручвалі дзіркі ў баку ды ўліваюць ім яду туды.

Нічыпар. Ну, гэта хто да якой навукі здатны. Адны зямлю вывучаюць, а другія жывёлу.

Цёця Каця. Але нашто ж дзіркі круціць?

Нічыпар. Чаму нашто? Трэба ж хоць адным вокам глянуць, што там усярэдзіне робіцца.

Цёця Каця. Дык хіба ім не хапае гэтых дзірак, што сабаку Бог даў?

Нічыпар. Гэта табе здаецца, што хапае, а ім, бачыш, мала... Загаварыўся тут з табой, а ў мяне яшчэ двор не прыбраны.

Цёця Каця. Прыбярэш, дзе твой двор дзенецца.

Нічыпар. Дырэктар прыйдзе, нагонку дасць.

Цёця Каця. Вельмі твой дырэктар на двор углядаецца. У яго другім галава занята. Учора адвячоркам з Зіначкай за горад імчаў на таксі, дык аж пыл курэў.

Нічыпар. З нашай Зіначкай?

Цёця Каця. А то з якою ж?

Нічыпар. Глядзі ты! У яго ж і свая жонка гладкая.

Цёця Каця. Гладкая, мусіць, прыелася, да шурпатай пацягнула.

Нічыпар. А Зёлкін як жа?

Цёця Каця. А што Зёлкін... Толькі ходзіць на мяккіх лапах ды прыслухоўваецца, хто што гаворыць. Што дырэктар з яго жонкай забаўляецца, дык ён гэтага не бачыць.

Нічыпар. Бачыць, ды віду не паказвае. Што ж гэтакі пеўнік зробіць дырэктару? А таму раскоша тут, як шчупаку ў сажалцы. Усе так і выдыгаюць перад ім: «Таварыш Гарлахвацкі! Таварыш Гарлахвацкі!» А ў таго Гарлахвацкага крукам носа не дастаць. Адзін Чарнавус яго не баіцца. Гэты сам разумее ў навуцы не менш за яго.

Цёця Каця. З'есць і Чарнавуса.

Нічыпар. Глядзі, каб не ўдавіўся.

Цёця Каця. Папомніш маё слова. З'есць, як з'еў ужо Муравіцкага. Так падвядзе, што той не будзе і ведаць, адкуль што ўзялося.

Нічыпар. Чарнавуса таксама голымі рукамі не возьмеш. Моцна вучоны чалавек. Кніжкі друкуе свае, студэнтам лекцыі

чытае, для піянераў у журнал піша. Напісаў, кажуць, нейкую кнігу важную, дык аж у Маскву паслаў. Гэта, брат, галава! (*Бярэ мятлу і выходзіць.*)

Цёця Каця канчае выціраць падлогу. Уваходзіць Вера.

Вера. Добры дзень, цёця Каця!

Цёця Каця. Дзень добры, Вера Міхайлаўна. Вось ранняя птушка! Заўсёды першая!

Вера. Аляксандра Пятровіча няма яшчэ?

Цёця Каця. Каторага вам? У нас жа іх два — дырэктар і Чарнавус.

Вера. Мне Чарнавуса.

Цёця Каця. Нешта вы жыць без яго не можаце?

Вера. Жыць-то магу, а працаваць без яго мне цяжка было б.

Цёця Каця. Гэта вы пры ім навуку праходзіце?

Вера. Ага.

Цёця Каця. Нашто вам, маладой дзяўчыне, гэтыя старыя косці спатрэбіліся?

Вера. Косці ў яго старыя, але душа маладая.

Цёця Каця. Хто ў боб, а хто ў гарох. Я пра тыя косці, што ў шафах.

Вера (*смяецца*). А я думала, пра Аляксандра Пятровіча. Мы з Чарнавусам касцямі не займаемся, гэта Гарлахвацкі іх перабірае. А наша справа — мел, гліна, вапна, фасфарыты. Галоўны далакоп — Аляксандр Пятровіч, а я яму памагаю.

Уваходзіць Леановіч.

(*Жартаўліва.*) Што, нагрузку нясеш?

Левановіч. Нясу.

Вера. Я ж ведаю, што ты пра мяне не забудзеш. Гавары хутчэй, у чым справа?

Левановіч. Справа ў тым, што трэба ў падшэфнай часці лекцыю прачытаць.

Вера. Аб чым?

Левановіч. Просяць расказаць ім аб мінулым нашай планеты.

Вера. Дык гэта ты мне даручаеш?

Левановіч (*жартуючы*). Хацеў даручыць табе, ды баюся, што байцы больш будуць глядзець на цябе, чым слухаць.

Вера. Калі ты навучыўся кампліменты гаварыць?

Левановіч. А гэта хіба камплімент?

Вера. Самы сапраўдны. Сакратару парткома гэта як быццам і не да твару.

Левановіч. Даю слова надалей гаварыць з табою толькі дырэктывамі. Дык каго мы ўсё ж такі пашлём лекцыю прачытаць?

Вера. Можа, Гарлахвацкага? Няхай бярэ сваіх мамантаў у мяшок ды ідзе расказвае.

Лявановіч. Гаварыў з ім. Просіцца — кажа, вельмі заняты.

Вера. Я б гэтага не сказала.

Лявановіч. Можа, старога?

Вера. Чарнавуса?

Лявановіч. Ага. Хоць ён, здаецца, не вельмі любіць выступаць.

Вера. З прамовамі... А пра зямлю расказаць — гэта ён з ахвотаю. У яго гэта выходзіць, як казка.

Лявановіч. Дык ты перадай яму, што я прасіў, каб ён з'ездзіў у часць. Можа, не адмовіцца?

Вера. Пабурчыць крыху, што ад работы адарвалі, а пасля і сам будзе задаволены.

Лявановіч. А аб часе я паведамлю. (*Збіраецца адыходзіць.*)

Вера. Як твой торф?

Лявановіч. Канчаю лабараторныя доследы.

Вера. Кажуць, што ты з яго ледзь не торты збіраешся рабіць.

Лявановіч. Торты што! Я выпрабляю больш сур'ёзныя рэчы.

Вера. Напрыклад?

Лявановіч. Напрыклад — спірт і яшчэ шмат чаго.

Вера. Спірт? Дык ты ж самагоншчык?

Лявановіч. Прыходзь, пачастую. (*Выходзіць.*)

Вера. Вось, цёця Каця, малады хлопец, а хутка прафесарам будзе.

Цёця Каця. Цяпер жа ўсе маладыя — разумныя, на тое ж вас і вучаць.

Вера. І на чым жа вырас! На торфе!

Цёця Каця. Усюды растуць: на торфе, на гліне. На пяску і то растуць. Такі ўжо клімáт у нас.

Вера. Добры клімат, цёця Каця, савецкі!

Цёця Каця. Я ж і кажу. А чаму гэта ён там працуе, а сюды распараджацца ходзіць?

Вера. У нас адна партыйная арганізацыя, а ён сакратар, вось і ходзіць па партыйных справах.

Цёця Каця. Вунь ідзе ваш далакоп. (*Бярэ анучу і адыходзіць убок.*)

Уваходзіць Чарнавус.

Вера (*стаўшы ў позу, гаворыць урачыста-дураслівым тонам*). Прывітанне галоўнаму далакопу, ахавальніку скарбаў старой бабулі-зямлі! Выгляд у вас бадзёры і натхнёны. Ці не ўдалося вам узламаць яшчэ адзін з куфраў старой бабулі?

Чарнавус. Раней для гэтага мне трэба выпрасіць у Гарлахвацкага пару тысяч рублёў.

Вера. Ух, вядро халоднай вады! А што — не дасць, думаеце?

Чарнавус. Трэба, каб даў, іначай мы не закончым доследаў у раёне Рудні.

Вера. З Масквы нічога не атрымалі?

Чарнавус. Не. (*Да цёці Каці.*) Кацярына Іванаўна, сёння пошты не было яшчэ?

Цёця Каця. Не, не было.

Вера. Ага, забрала за жывое! Правалілася ваша праца.

Чарнавус. Дражніцеся, а ў самой душа ў пятках.

Вера. А мне што?

Чарнавус. Як гэта што? Ваша асоба тут таксама замешана як быццам.

Вера. А я адмяжуюся. Скажу, што ніякага ўдзелу ў працы не прымала, што прафесар хоча схавацца за мае вузкія плечы малодшага супрацоўніка.

Чарнавус. Не, выбачайце! Разам працавалі, разам і адказваць будзем. Ад гэтага вам ніяк не выкруціцца.

Вера. Ды ад вас-то цяжка выкруціцца. Учора Зёлкін круціўся, круціўся, і нічога не выйшла.

Чарнавус. Як ён сябе адчувае? Не бачылі яго сягоння?

Вера. Не, яшчэ не бачыла. Думаю, што няважна.

Чарнавус. Выступаць з такім навуковым дакладам — гэта безабразіе. Адны траскучыя фразы і абсалютна нічога канкрэтнага. Не выкарыстаў нават таго матэрыялу, які яму быў дадзены амаль поўнасцю апрацаваным. І каго ён хацеў падмануць?

Вера. Сам сябе.

Чарнавус. Мабыць, злы на мяне?

Вера. Я думаю! Такую лазню вы яму далі...

Чарнавус. Я ж яму дабра жадаю.

Вера. Наўрад ці здольны ён ацаніць гэта.

Чарнавус. Можа, я занадта рэзка выступіў. Трэба будзе пагаварыць з ім.

Вера. Я лічу, што вы вельмі добра выступілі, і няма чаго вам прабачэння прасіць.

Чарнавус. Не прабачэння, а растлумачыць яму ў больш спакойнай абстаноўцы.

Вера (*паказваючы на Тулягу, які ўвайшоў*). А вось яшчэ адзін шаноўны далакоп. Што з вамі, Мікіта Сымонавіч? Чым вы так усхваляваны?

Туляга. Мяне так напужалі, што я апамятацца не магу.

Вера. Хто ж вас так напужаў?

Туляга. Я ўжо і не ведаю, ці гаварыць.

Вера. Калі вы нам не давяраеце, дык не гаварыце.

Туляга. Не ў тым справа, што не давяраю.

Вера. Дык у чым жа?

Туляга. Скажаш, а пасля пойдзе гаворка, і нажывеш непрыемнасці.

Вера. Ну, то не гаварыце.

Туляга. Але ж я хацеў бы параіцца з вамі, што рабіць.

Вера. Дык парайцеся.

Туляга. Але ж і раіцца небяспечна. Баюся, што пойдуць усялякія чуткі.

Вера. І так страшна, і гэтак страшна. Заўсёды вам чаго-небудзь страшна, Мікіта Сымонавіч. Лепш не гаварыце, а то яшчэ больш будзеце баяцца. *(Да Чарнавуса.)* Пойдзем, Аляксандр Пятровіч.

Туляга. Чакайце, таварышы!

Вера і Чарнавус спыняюцца.

Я ж не ведаю, што мне рабіць... Можа, такі параіцца з вамі?

Чарнавус (*з усмешкай*). Гэта вы ўжо самі глядзіце.

Туляга (*адважыўся*). Дзіўнае здарэнне, ведаеце... Іду гэта я па вуліцы, раптам абганяе мяне нейкі чалавек. Абганяе і... (*Не адважваецца сказаць.*)

Вера. І... што?

Туляга. Не ведаю, ці гаварыць.

Вера (*смяецца*). Дык вы хоць нас адпусціце, Мікіта Сымонавіч, калі не можаце. (*Мерыцца адыходзіць.*)

Туляга. Хвіліначку, таварышы! Я зараз... Але я прашу, каб вы пра гэта нікому ні слова.

Чарнавус. Ды ладна ўжо, Мікіта Сымонавіч.

Туляга. Дык вось... Абмінае і глядзіць мне проста ў твар.

Вера (*насмешліва*). Ну, няўжо ў твар?

Туляга. Не, вы ж паслухайце! Раз азірнуўся, другі раз азірнуўся і трэці раз азірнуўся. А пасля спыніўся і пытаецца: «Скажыце, кажа, ваша прозвішча не Падгаецкі?» Тут я ўвесь аж закалаціўся. «Не, кажу, я не Падгаецкі, я Туляга».

Вера. А ён што?

Туляга. «Выбачайце, кажа, вельмі ж падобны. Я некалі ў Варонежы, кажа, сустракаў такога тыпа»,— і пайшоў.

Вера (*іранічна*). І пайшоў! Скажыце, калі ласка! Дык гэта ж сапраўды страшна!

Туляга. Але ж гэта яшчэ не ўсё. Калі я ўваходзіў у інстытут, ён яшчэ раз азірнуўся на мяне.

Вера. А калі і яшчэ раз, дык што ж тут страшнага?

Туляга. Не, гэта такі страшна. У Варонежы сапраўды быў некалі Падгаецкі — дзянікінскі палкоўнік.

Вера. Дык вы тут пры чым?

Туляга. А я ў той час таксама быў у Варонежы.

Вера. Палкоўнікам?

Туляга. Не, я быў настаўнікам гімназіі.

Вера. Дык мы ж гэта ведаем.

Туляга. Але вы не ведаеце, што гэты палкоўнік быў падобны на мяне, як дзве кроплі вады.

Вера. Ну і што?

Туляга. Гэты чалавек можа сказаць, што ў інстытуце працуе дзянікінскі палкоўнік.

Чарнавус і Вера смяюцца.

Не, гэта зусім не смешна. Дакументаў у мяне з таго часу няма — чым я апраўдаюся?

Чарнавус. Ды кіньце вы! Гэта ўсё пустыя страхі.

Туляга. Дык, па-вашаму, няма чаго баяцца?

Вера. Ідзіце, Мікіта Сымонавіч, працуйце і нікога не бойцеся.

Туляга. Праўда, не баяцца?

Вера. Не бойцеся. Я нікому не скажу, што вы — дзянікінскі палкоўнік.

Туляга (*аж прысеў*). Тсс!.. звар'яцелі вы! Хіба гэтым можна жартаваць!

Вера (*смяецца*). Ай, баязлівец вы, баязлівец!

Разыходзяцца па сваіх пакоях. Туляга варочаецца і падыходзіць да цёці Каці.

Туляга. Кацярына Іванаўна! Вы, калі ласка, нікому не расказвайце пра гэту гаворку, а то яшчэ за праўду палічаць.

Цёця Каця. Хіба гэтаму хто паверыць! Які ж вы палкоўнік?

Туляга. Ай-ай! Не гаварыце гэтага слова! Я вас прашу.

Цёця Каця. Выбачайце, Мікіта Сымонавіч! Больш не буду.

Туляга выходзіць.

Зіначка (*уваходзіць*). Аляксандра Пятровіча яшчэ няма?

Цёця Каця. Вашага яшчэ няма.

Зіначка. Чаму майго?

Цёця Каця. У нас жа два Аляксандры Пятровічы, але ж з Чарнавусам вы ніякіх спраў не маеце, а падпісвае паперкі вам Гарлахвацкі.

Зіначка. Ой, цёця Каця! Я не ведала, што вы такая злая.

Цёця Каця. Якая ж тут злосць, таварыш Зёлкіна. Я ж праўду кажу: вы сакратар, а ён дырэктар, дык як жа вы без яго можаце абысціся альбо ён без вас?

Зінaчка (*адыходзячы ў пакой, жартаўліва грозіць пальцам*). Ладна, ладна, яхідная жанчына, я вам гэта прыпомню!

Цёця Каця (*адна*). Хто парасё ўкраў, у таго ў вушах пішчыць. Я і не думала ёй шпільку падпускаць. (*Корпаецца нешта ў кутку.*)

Нячутна ўваходзіць Зёлкін. Аглядае калідор, заўважае цёцю Кацю.

Зёлкін (*знянацку*). Добры дзень, цёця Каця!

Цёця Каця (*спалохана*). Цьфу ты, нячысты дух! Выбачайце, таварыш Зёлкін. Гэта ж вы так мяне спалохалі!

Зёлкін. Я ж толькі прывітаўся.

Цёця Каця. Дзякую вам за такое вітанне. І чаму вы, таварыш Зёлкін, ходзіце так заўсёды, быццам у вас не ногі, а мяккія лапы?

Зёлкін. Пра мае ногі вы не турбуйцеся.

Цёця Каця. Я пра сябе турбуюся, а не пра вашы ногі.

Зёлкін. Скажыце, Аляксандр Пятровіч прыйшоў?

Цёця Каця. Таго, які вам трэба, няма.

Зёлкін. А які ёсць?

Цёця Каця. Чарнавус.

Зёлкін. А хто яшчэ ёсць?

Цёця Каця. Усе ёсць.

Зёлкін. Верачка прыйшла?

Цёця Каця. Прыйшла.

Зёлкін. Мусіць, першая?

Цёця Каця. Першая.

Зёлкін. Сядзела на канапе і чакала Чарнавуса?

Цёця Каця. Сядзела і чакала.

Зёлкін (*падміргвае*). Ці не ўтрэскалася яна?

Цёця Каця. Вы лепш глядзіце, каб ваша жонка не ўтрэскалася.

Зёлкін. Вы за маю жонку не бойцеся, яна ў добрых руках.

Цёця Каця. У чыіх гэта?

Зёлкін. У маіх, вядома. Во, у гэтых.

Цёця Каця. Ха-ха-ха...

Зёлкін. Чаго вам смешна? Гэта нейкія непрыстойныя намёкі. Вы, калі маеце што сказаць, дык кажыце проста.

Цёця Каця. Ніякіх намёкаў. Я з вашых рук смяюся, што яны такія малыя.

Зёлкін. Вы, можа, намякаеце на тое, што мая жонка ўчора з некім на машыне ехала? Дык гэта хлусня. Учора адвячоркам мая жонка была тут і працавала. І я прашу вас плётак не распускаць!

Цёця Каця. А я пра машыну і не казала вам.

Зёлкін. Адным словам, пакінем пра гэта гаварыць. Калі даведаецца пра вашу гаворку таварыш Гарлахвацкі, дык ён вас з работы прагоніць.

Цёця Каця. За што? Я ж нічога не кажу, гэта вы самі.
Зёлкін. А пра што яны гаварылі?
Цёця Каця. Што ж я ведаю? Машына толькі мігнулася.
Зёлкін. Ды я не пра тое. Вера з Чарнавусам што гаварылі?
Цёця Каця. Я не прыслухоўвалася.
Зёлкін. Нядобра так, цёця Каця. Мы ж з вамі заўсёды прыяцелямі былі.
Цёця Каця. Праўда, я добра не чула, што яны гаварылі.
Зёлкін. Пра дырэктара нічога не гаварылі?
Цёця Каця. Не.
Зёлкін. А пра мяне?
Цёця Каця. І пра вас нічога.
Зёлкін. Няўжо ж яны больш нічога і не гаварылі?
Цёця Каця. Кажу ж вам, што нічога. Толькі Туляга расказаў, як у яго на вуліцы нейкі чалавек запытаўся, ці не Падгаецкі яго прозвішча.
Зёлкін. Дык ён што? Спужаўся?
Цёця Каця. Страшэнна перапужаўся. Кажа, што быў дзянікінскі палкоўнік Падгаецкі, вельмі падобны на яго.
Зёлкін. А можа, ён і сапраўды які палкоўнік?
Цёця Каця. Хто?
Зёлкін. Туляга.
Цёця Каця. Ды кіньце вы! Я ж яго ведаю даўно, яшчэ да таго, як ён у Варонеж выехаў быў. Ён і ў войску не быў ніколі.
Зёлкін (*заняты нейкімі сваімі думкамі*). Цікава, цікава... Вы мне, цёця Каця, заўсёды расказвайце што-небудзь такое... свежанькае... Я вельмі люблю слухаць. (*Адыходзіць.*)
Цёця Каця (*адна*). Бач, ласы які да бабскіх плётак! У самога вушы вялікія, хадзі да выслухоўвай!

Уваходзіць Нічыпар.

Нічыпар. Ідзе.
Цёця Каця. Няхай ідзе.
Нічыпар. Я зайшоў, каб часамі беспарадку ў цябе якога не было.
Цёця Каця. А які ў мяне беспарадак можа быць? Падмецена, выцерта... Чаго яшчэ трэба?
Нічыпар. Ды ты баба спраўная. Ну, я пайшоў...

Уваходзіць Гарлахвацкі. Знімае паліто і капялюш і аддае цёці Каці.

Гарлахвацкі. Як жывём, цёця Каця?
Цёця Каця. Нічога, жывём памаленьку.
Гарлахвацкі. Чаму памаленьку?
Цёця Каця. Ну, так гаворыцца.
Гарлахвацкі. Трэба шпарка жыць.

Цёця Каця. А як гэта — шпарка?

Гарлахвацкі. А так, каб аж вецер свістаў ля вушэй. Працаваць трэба заўзята. Вось як я, напрыклад,— адпачыць хвіліну часу няма.

Цёця Каця (*убок*). Спрацаваўся, бедны! (*Гарлахвацкаму.*) Ну, учора ж вы, мусіць, адпачылі крыху?

Гарлахвацкі. Адкуль вы ведаеце?

Цёця Каця. Я бачыла, як вы з жонкай за горад ехалі на машыне.

Гарлахвацкі. Жонка сілай ад стала адарвала, каб крыху праветрыўся.

Цёця Каця. Мне здавалася раней, што ваша жонка чарнявая, адно ж яна бландзінка.

Гарлахвацкі (*збянтэжана*). Бландзінка? Як бландзінка?

Цёця Каця. Ну, бландзінка, я ж бачыла ўчора.

Гарлахвацкі. А можа, і праўда — бландзінка. Значыць, яна гэтае самае (*круціць рукой каля валасоў*) пабландзінілася, а я і не заўважыў. (*Рагоча.*) Так улёг у работу, што нават не заўважыў, калі жонка валасы пафарбавала. Аж смешна! (*Рагоча.*)

Цёця Каця. Сапраўды, смешна. Вы думалі, чорныя, а яны светлыя, як у нашай Зіначкі.

Рагочуць абое, разумеючы адно аднаго.

Гарлахвацкі. Вы толькі не кажыце нікому, што я валасы жончыны пераблытаў, а то смяяцца будуць.

Цёця Каця. А мне што? Блытайце сабе.

Гарлахвацкі (*супакоіўшыся*). Па-мойму, цёця Каця, вы лішнюю плошчу падмятаеце... звыш нормы.

Цёця Каця. Няхай бы памералі, можа, і лішняя.

Гарлахвацкі. І не мераючы відаць. Напішыце маленькую заяўку, а я налажу рэзалюцыю, каб вам прыбавілі зарплаты.

Цёця Каця. Дзякую... Я за сакрэты грошай не бяру.

Гарлахвацкі. Вось як! (*Мацае ў кішэнях.*) А папяросы забыўся. Як жа я працаваць буду?.. Цёця Каця, вось вам грошы, прынясіце мне два пачка папярос.

Цёця Каця. Добра. (*Бярэ грошы і выходзіць.*)

Гарлахвацкі (*прычэсваецца перад люстэркам*). Ну і шэльма баба! Так адсекла!

Уваходзіць чалавек у форме НКУС.

Чалавек у форме. Скажыце, як мне пабачыць Валодзю Пракаповіча?

Гарлахвацкі. Валодзю Пракаповіча? А хто ён такі?

Чалавек у форме. Мой брат. Перадайце яму, калі ласка, што брат з раёна прыехаў,— няхай ён сюды выйдзе.

Гарлахвацкі. У нас такога няма.

Чалавек у форме. Чакайце! Гэта ж інстытут біялогіі?

Гарлахвацкі. Вы памыліліся: гэта інстытут геалогіі, інстытут біялогіі знаходзіцца на Шырокай вуліцы. Нумар дома я вам не магу сказаць.

У адных дзвярах паказваецца галава Зёлкіна.

Чалавек у форме. Значыць, на Шырокай? Ну, дзякую. Цяпер я ўжо яго знайду. (*Выходзіць.*)

Зёлкін (*падыходзіць да Гарлахвацкага*). Чаго ён прыходзіў?

Гарлахвацкі (*як бы нехаця*). Цікавяцца некаторымі асобамі.

Зёлкін. Кім, калі не сакрэт?

Гарлахвацкі. Не толькі сакрэт, а дзяржаўная тайна. (*Ідзе ў свой кабінет.*)

Зёлкін (*адзін*). За каго ж гэта бяруцца?.. Называлася Шырокая вуліца... Хто ж там жыве з нашых? (*Наморшчыўшы лоб, стараецца прыпомніць, потым дастае з кішэні блакнот і паспешна гартае.*) Аляксандр Пятровіч Чарнавус — Шырокая, 23. Вось табе і выдатны вучоны! Даскакаўся, галубок! Шкада толькі, што гэта здарылася не перад маім дакладам. (*Да цёці Каці, што ўвайшла з папяросамі.*) Цёця Каця, чулі навіну?

Цёця Каця. Не, не чула. А што такое?

Зёлкін. Няможна казаць.

Цёця Каця. Я нікому не скажу.

Зёлкін (*агледзеўшыся кругом, шэпча*). Нашага Чарнавуса... (*Далей шэпча нешта ў самае вуха.*) Прыходзілі нядаўна.

Цёця Каця (*здзіўлена*). Што вы кажаце!

Зёлкін. Маўчок. Пра гэта ведаю толькі я ды яшчэ адзін чалавек.

Цёця Каця. А-я-яй! Хто ж бы гэта мог падумаць! Гэткі, здаецца, чалавек! Проста аж не верыцца.

Ідзе з папяросамі ў кабінет дырэктара.

Зёлкін (*адзін, бярэ тэлефонную трубку*). Пеця... ты яшчэ нічога не чуў пра нашага Чарнавуса? Амба... Яшчэ не, але сёння ці заўтра напэўна... Ага, пыталіся адраса. Гэта пакуль што паміж намі... бывай... (*Набірае другі нумар.*) Саша, гэта ты? Скажу табе навіну... Наш Чарнавус пляснуўся. Не, ён яшчэ на рабоце, але ўжо ўсё роўна, як і там... Каб не ведаў, дык бы не гаварыў. (*Вешае трубку. Прыадчыняе адны дзверы, што выходзяць у калідор.*) Зіна! Выйдзі сюды на хвіліну.

Выходзіць Зіна.

Ты гэта дзе была ўчора з Гарлахвацкім?

Зіна. Ты ж ведаеш дзе.

З ё л к і н. Я-то ведаю... На машыне раскатвалася...

З і н а. Хто табе казаў?

З ё л к і н. Той, хто бачыў.

З і н а. Глупства! Бабскія плёткі!

З ё л к і н. Зінка, помні! Калі што якое, дык я цябе задушу вось гэтымі сваімі рукамі. Я зараз пайду да Гарлахвацкага і зраблю скандал. (*Накіроўваецца да дзвярэй.*)

З і н а. Пайдзі, пайдзі, ён табе ўстроіць, што і з работы паляціш.

З ё л к і н (*спыняецца*). Хацеў табе сказаць навіну цікавую, але калі ты такая — не скажу.

З і н а. Зёлачка, скажы, міленькі!

З ё л к і н. Дзяржаўная тайна.

З і н а. Магіла — нікому не скажу.

З ё л к і н. Нашага Чарнавуса (*аглядаецца кругом і шэпча на вуха*).

З і н а (*робіць вялікія вочы*). Ну?!

З ё л к і н. Гэта ведаю толькі я і яшчэ адзін чалавек.

З і н а. Ай! Трэба ж Лідзе пазваніць. Яна ж з Чарнавусавай дачкой дружыць.

З ё л к і н (*каб чула Зіна*). А Гарлахвацкаму я ўсё-такі зраблю скандал. (*Нібы накіроўваецца да дзвярэй кабінета.*)

З і н а (*махае рукой*). Ідзі, ідзі. Я пагляджу, як ты будзеш вылятаць адтуль.

Далей дзея працягваецца ў кабінеце Гарлахвацкага.

Г а р л а х в а ц к і (*закурыўшы папяросу, гаворыць да цёці Каці, якая трымаецца за ручку дзвярэй*). Вы мне што-небудзь сказаць хочаце, цёця Каця?

Ц ё ц я К а ц я. Я хацела запытацца, ды не адважуся.

Г а р л а х в а ц к і. Пра што ж вы хацелі запытацца?

Ц ё ц я К а ц я. Ці праўда гэта, Аляксандр Пятровіч, што пра нашага Чарнавуса гавораць?

Г а р л а х в а ц к і. А што пра яго гавораць?

Ц ё ц я К а ц я. Ну... вы ж ведаеце. Кажуць, што яго хутка ў нас не будзе...

Г а р л а х в а ц к і. А хто вам казаў?

Ц ё ц я К а ц я. Таварыш Зёлкін. Кажа, ужо прыходзілі па яго.

Г а р л а х в а ц к і. Зёлкін? (*Паўза.*) Мусіць, ён ведае, калі казаў.

Ц ё ц я К а ц я. Вы ж лепш ведаеце?

Г а р л а х в а ц к і. Каб я што і ведаў, дык вам бы не сказаў. Пра гэта гаварыць няможна.

Ц ё ц я К а ц я. Ага! Дык такі праўда. (*Выходзіць.*)

Г а р л а х в а ц к і (*адзін*). Пайшло пісаць!

Паўза.

Цікава панаглядаць, як гэты шаноўны вучоны трапятацца будзе. (*Устаў, прайшоўся па пакоі, падышоў да стала, узяў у рукі адну з костак мамантa.*) Маслы праклятыя! Што я з вамі рабіць буду? Дажыўся, таварыш Гарлахвацкі, няма чаго сказаць! Косткамі абклаўся, палеантолагам стаў. А было ж раней — Гарлахвацкаму банкеты, Гарлахвацкаму авацыі, Гарлахвацкі мог любога ў бараноў рог скруціць. І раптам — косткі! Скруці яе, праклятую, калі хочаш! Запхнулі мяне прыяцелі ў гэту дзіру. Далей ад небяспекі. І спецыяльнасць такую ўдружылі, з якой нікуды не паткнешся,— палеанталогія. Гэта значыць, сядзі, Гарлахвацкі, і не рыпайся, а то можаш і нас аскандаліць. Сядзі ціха, а калі спатрэбіцца — пазавём. Сядзець-то тут зацішна... Але Гарлахвацкі сядзець не прывык — вось у чым уся бяда.

Стук у дзверы.

Што ж, зробім выгляд, што мы займаемся навуковай працай. (*Раскладае на стале косткі, разгортвае кнігі і садзіцца за стол.*)

Уваходзіць Зёлкін.

Зёлкін. Выбачайце, Аляксандр Пятровіч, што я вам думаць перашкодзіў.

Гарлахвацкі (*нібы з намаганнем адрываецца ад работы*). Я вас слухаю, таварыш Зёлкін.

Зёлкін. Праваронілі, Аляксандр Пятровіч! Ах, як мы праваронілі! Нам даўно трэба было яго прашчупаць.

Гарлахвацкі. Выбачайце, я нешта не разумею... Што праваронілі? Каго прашчупаць?

Зёлкін. Вы мяне добра разумееце, Аляксандр Пятровіч, і ведаеце, пра каго я гавару. Ад мяне цяжка схаваць што-небудзь. Досыць мне было пачуць адно слова, як я адразу здагадаўся, пра каго ідзе гутарка.

Гарлахвацкі. Я вам нічога не гаварыў.

Зёлкін. Мне і гаварыць нічога не трэба, я і так усё ведаю. Я нават ведаю прычыны.

Гарлахвацкі. Якія ж прычыны?

Зёлкін. Брат за граніцай — раз. (*Загінае палец.*)

Гарлахвацкі. Брат?

Зёлкін. Так, родны брат.

Гарлахвацкі. А яшчэ што?

Зёлкін. Геалагічную здымку збіраецца рабіць у прыгранічным раёне — два. (*Загінае другі палец.*) Да брата цягне — разумееце?

Гарлахвацкі. Усё?

Зёлкін. Не, не ўсё. Кніга яго шкодніцкая — тры. (*Загінае трэці палец.*)

Гарлахвацкі. Якая кніга?

Зёлкін. А вось гэта, якую ён у выдавецтва здаў.

Гарлахвацкі. Чым яна шкодніцкая?

Зёлкін. Залежы фасфарытаў паказаны там, дзе іх вельмі мала, і не паказаны самыя багатыя. Хавае для некага — разумееце?

Гарлахвацкі. І вы можаце гэта даказаць?

Зёлкін. Няхай ён раней паспрабуе даказаць, што гэта няпраўда.

Гарлахвацкі. Гм... Як жа вы — ведаеце такія важныя факты і маўчыце? Хочаце, каб і вас пацягнулі разам з ім?

Зёлкін. Баяўся раней. А цяпер, калі за яго ўзяліся, я ўжо маўчаць не буду. Пра брата — у мяне ёсць чалавек, які напіша. Пра фасфарыты і пра здымку ў пагранічным раёне я сам шапну ў выдавецтве і на геафаку, дзе ён лекцыі чытае. У Маскву ж паслаў нейкую сваю працу. Чакае адказу, а таго не ведае, што зараз яму дадуць адказ... А што ён пра вас гаворыць, каб вы ведалі... Тулягу як вучонага ён ставіць вышэй вас.

Гарлахвацкі. Што ж, можа, гэты Туляга і сапраўды вялікія веды мае.

Зёлкін. Веды-то ён мае, але што за карысць! За ўсё жыццё ніводнага радка не надрукаваў. Баіцца. Усяго ён баіцца. Ходзіць і калоціцца. Кажуць, што ён быў у Дзянікіна палкоўнікам.

Гарлахвацкі. Ну, дзе ўжо яму!

Зёлкін. Праўда, праўда! Сёння на вуліцы адзін чалавек пазнаў яго. Дык ён цяпер ні жывы ні мёртвы ходзіць.

Гарлахвацкі (*смяецца*). Баязлівы ён, гэта праўда. Палкоўнік! Ха-ха-ха...

У кабінет з ахапкам усялякіх пакупак увальваецца Анна Паўлаўна. Зёлкін знікае.

Анна Паўлаўна. Вось палюбуйся, ірад, на сваю жонку! Што я табе — грузавічок, каб гэта ўсё цягаць на сабе?

Гарлахвацкі. Хто ж цябе прымушае?

Анна Паўлаўна. Ці чулі вы! Яшчэ трэба, каб мяне прымушалі дзяцей сваіх адзяваць. (*Перабірае пакупкі і кладзе іх на стол.*) Жоржыку паліто трэба? Трэба. Штаны яму трэба? Таксама трэба. Славіку коўдру трэба? Ну, і без гэтага не абыдзешся. (*Ставіць на стол медны таз.*)

Гарлахвацкі. Што ты, звар'яцела?

Анна Паўлаўна. Як гэта — звар'яцела! А што ж, я варэнне ў капелюшы ў тваім буду варыць?

Гарлахвацкі. Дык хіба ж на стол? Тут жа працаваць трэба. Я проста не разумею, нашто ты ўсё гэта сюды прынесла?

Анна Паўлаўна. І яшчэ прынясу. І ванначку прынясу, і прымус, і пасуду кухонную. Не павалаку ж на сабе дадому.

Гарлахвацкі. Дык ты б рамізніка ўзяла.

А н н а  П а ў л а ў н а. Дзякую табе за ласку! Вядома ж, ты тры тысячы ў месяц бярэш, што я на рамізніках буду раз'язджаць. Не хворы і сам занесці.

Г а р л а х в а ц к і. Каб ты ведала, Нюрачка, як ты мне перашкаджаеш!

А н н а  П а ў л а ў н а. І заўсёды буду перашкаджаць. Я табе даўно кажу — у цябе павінна быць машына.

Г а р л а х в а ц к і. Дзе ж я яе вазьму?

А н н а  П а ў л а ў н а. Дзе хочаш. Вунь Соня Спевак па ўсім Кіеве раз'язджае на мужавай машыне.

Г а р л а х в а ц к і. Нюрачка, прашу цябе, не ўспамінай ты мне пра Кіеў! Я і так рад, што сухім з вады выйшаў. Я ж табе казаў, што ва ўсёй гэтай установе ніводнай машыны няма.

А н н а  П а ў л а ў н а. Значыць, такая твая ўстанова. Чаго ты лез сюды? Займі такую пасаду, каб можна было жыць, як людзі жывуць.

Г а р л а х в а ц к і. Чаго лез... Прыпрэ, дык нехаця палезеш.

А н н а  П а ў л а ў н а. Але ж цяпер ужо не прыпірае? Усё абышлося добра.

Г а р л а х в а ц к і. Трэба абдумаць, за што раней узяцца.

А н н а  П а ў л а ў н а. За розум вазьміся. У цябе ж нейкае пасведчанне ёсць, што ты вучоны. Дык і дабівайся па вучонай лініі.

Г а р л а х в а ц к і. Пасведчанне... Ты ж ведаеш, як мне гэта паперка прыйшлася?

А н н а  П а ў л а ў н а. На паперцы не напісана, як яна табе прыйшлася.

Г а р л а х в а ц к і. Каб чаго-небудзь дабіцца, як ты кажаш, па вучонай лініі, трэба навуковую працу мець, а не паперку.

А н н а  П а ў л а ў н а. Дык напішы працу. Хто ж табе не дае?

Г а р л а х в а ц к і. Падумай, Нюра, што ты гаворыш. Вазьму я, напрыклад, костку хоць бы гэтага маманта. (*Паказвае на костку.*) Напішу якое-небудзь глупства, дык жа Чарнавус мне слова выгаварыць не дасць, ён мяне на смех падыме. Тады страціш і гэту пасаду, якую маеш.

А н н а  П а ў л а ў н а. Што там у цябе за Чарнавус такі?

Г а р л а х в а ц к і. Гэта такі Чарнавус, што ўсе гэтыя косці, мабыць, ведае як свае пяць пальцаў. Тут трэба асцярожна дзейнічаць, з розумам.

Уваходзіць З і н а.

З і н а. Гэта трэба адаслаць, Аляксандр Пятровіч. Падпішыце, калі ласка. (*Падае паперу.*)

Г а р л а х в а ц к і. Давайце. (*Падпісвае.*)

З і н а зняважліва аглядае пакупкі, пасля бярэ паперу і выходзіць. Гарлахвацкі з-за жончыных плячэй пасылае ёй пацалунак.

А н н а  П а ў л а ў н а. Гэта што за краля такая?

Гарлахвацкі. Так, дробязь... сакратар, Зіна Зёлкіна.

Анна Паўлаўна. Нешта ты паглядаеш на гэту дробязь, як кот на сала!

Гарлахвацкі. Што табе здалося?

Анна Паўлаўна. Глядзі, каб не збылося! Я не пагляджу, што ты вучоны.

Гарлахвацкі. Кінь, Нюра! Хіба ж я адважуся на што-небудзь такое? Я ж твой характар ведаю.

Анна Паўлаўна. Не адважваешся, не адважваешся, а пасля і адважышся. Я цябе ведаю. Нашто табе наогул трымаць яе каля сябе?

Гарлахвацкі. Як жа каля сябе? Проста яна працуе ва ўстанове, як і ўсе.

Анна Паўлаўна. Мужчын табе мала?

Гарлахвацкі. А дзе ж жанчынам падзецца?

Анна Паўлаўна. Дзе хочуць. Няма чаго ім аціраца каля чужых мужоў.

Гарлахвацкі. Дзіўна ты разважаеш, Нюра. Няўжо ж усіх жанчын з працы прагнаць?

Анна Паўлаўна. У другім месцы як сабе хочуць, а тут я не пацярплю.

Гарлахвацкі. Так ты мяне можаш аскандаліць.

Анна Паўлаўна. І аскандалю. Я наконт гэтага баба шалёная. Як скажу, што ты ў Кіеве вырабляў... Няхай не будзе ні мне, ні другой.

Гарлахвацкі. Ціха ты! (*Азіраецца баязліва.*) Я скажу лепш прыбіральшчыцы, каб яна табе памагла занесці. (*Прыадчыняе дзверы.*) Цёця Каця, хадзіце сюды!

Уваходзіць цёця Каця з пакетамі ў руках.

Пошту прынеслі? Палажыце на стол. Зараз памажыце занесці ка мне на кватэру гэтыя рэчы.

Анна Паўлаўна і цёця Каця выходзяць.

(*Адзін. Бярэ канверт і разрывае.*) Зноў напамінак. (*Чытае.*) «Напамінаем вам трэці раз аб неабходнасці даць аб сабе наступныя звесткі: 1. Ваша навуковая спецыяльнасць. 2. Якія надрукаваныя працы вы маеце? 3. Над чым працуеце ў сучасны момант?..» Ах, чорт!.. Выходзіць, што трэба пісаць навуковую працу... Якую? Адкрыць, скажам,новы від дагістарычнай жывёлы. Гэта было б цікава... Зрабіць так, каб Туляга і нават сам Чарнавус былі тут у мяне на паслугах... на іх спінах у вялікія вучоныя ўехаць. Хрыбеціны ў іх моцныя, галовы разумныя,— няхай стараюцца, калі хочуць на свеце жыць... (*Паўза.*) У ма-

настыр мяне сюды саслалі, на пакаянне. Не апраўдаў давер'я. Не, даражэнькія, рана вы Гарлахвацкага ў манастыр саслалі!.. Я дакажу, на што я здатны... Я ў гэтым манастыры так зблытаю карты, што свой свайго не пазнае. Тады вы ўбачыце, чаго варт Гарлахвацкі. (*Тэлефонны званок. Гарлахвацкі ў трубку.*) Слухаю... Гарлахвацкі... Пра Чарнавуса? А хто гэта пытаецца... З геафака?.. Я вам нічога пэўнага не маю права сказаць... Зёлкін званіў?.. Ён мае нюх на такія справы... Пацікаўлюся... Гэта Зёлкін ведае лепш за мяне. Праверу... Бывайце. (*Палажыўшы трубку.*) Трэба падліць масла ў агонь. (*Набірае нумар.*) Выдавецтва? Хто пры тэлефоне?.. Перадайце трубку самому дырэктару. Драчык? Здароў, Ваня... Гарлахвацкі гаворыць... У цябе там у пакоі, здаецца, людзі ёсць... Папрасі ўсіх выйсці. Так, размова будзе сакрэтная. Гатова? Дык вось у чым справа... Вы, здаецца, друкуеце кніжку Чарнавуса? А ты ведаеш, што ён шкоднік? Так, мой супрацоўнік Зёлкін устанавіў, што кніга напісана па-шкодніцку... Зёлкін раскажа табе ўсё падрабязна. За ім і яшчэ тое-сёе лічыцца. З Чарнавусам гаварыць не варта. Пытацца ў ворага, ці праўда, што ён вораг,— гэта смешна... Так, гэта паміж намі, пакуль што... Бывай... (*Кладзе трубку.*) Ну, пасеяў, дай божа ўраджай сабраць. А калі што-якое — Зёлкін адкажа. *(Пачынае разбіраць пошту, разрывае канверты, прабягае вачыма. Узяўшы чарговы канверт, чытае ўслых.)* «Аляксандру Пятровічу Чарна-ву-су...» З Масквы... Мусіць, водзыў на яго працу... Цікава, цікава... (*Раздзірае канверт і глядзіць на подпіс.*) Так і ёсць, прафесар Анікееў піша... (*Чытае.*) «Паважаны Аляксандр Пятровіч! Папярэдняе азнаямленне з Вашай працай дае нам падставу заявіць, што яна мае не толькі навуковае, але і глыбокае практычнае значэнне. (*Углыбіўшыся ў пісьмо, прачытвае ўголас асобныя фразы з яго.*) Гэтыя нашы меркаванні апраўдаліся Вашай працай...» Гм... Бачыш ты!.. (*Думае.*) Паважаны Аляксандр Пятровіч... А чым жа я не Аляксандр Пятровіч? Самы сапраўдны Аляксандр Пятровіч, хоць у пашпарт паглядзі... Паважаны? Паважаны, дык паважаны — супроць гэтага я таксама не буду пярэчыць. Навуковай працы, праўда, у мяне яшчэ няма... але яна будзе... Так, хутка будзе... (*Рашуча згортвае паперку.*) Вельмі дзякую вам, паважаны прафесар Анікееў. Такая паперка мне патрэбна. А Чарнавусу яна, як мёртваму кадзіла.

Стук у дзверы. Гарлахвацкі паспешна хавае пісьмо.

Зайдзіце.

Уваходзіць Ч а р н а в у с. Гарлахвацкі з шырокім жэстам.

А, міласці просім, Аляксандр Пятровіч!

Чарнавус. Вы адзін? А мне паказалася, што вы гаварылі з некім.

Гарлахвацкі. А гэта, ведаеце, такая ў мяне прывычка. З маленства... Люблю дэкламаваць, калі адзін астануся. «Брожу ли я вдоль улиц шумных, вхожу ль во многолюдный храм...» Помніце? Здорава. Дэкламую вось так сам сабе, і пад гэту дэкламацыю такія ўсякія харошыя ідэі прыходзяць у галаву, так лёгка працуецца... Сядайце, расказвайце, што новенькага. Як жывём, працуем?

Чарнавус (*садзіцца*). Добра жывём, Аляксандр Пятровіч.

Гарлахвацкі. Чуў, чуў. У Маскву паслалі, а мне не паказалі. Ах, які вы нядобры!

Чарнавус. Прабачце, Аляксандр Пятровіч, неяк так яно выйшла, сапраўды нядобра. Аж мне сорамна перад вамі.

Гарлахвацкі. Я не крыўджуся. Там, вядома, лепш за мяне здолеюць ацаніць вашу працу.

Чарнавус. Ды нешта адказу доўга няма. Я пачынаю непакоіцца.

Гарлахвацкі. Чаго вам непакоіцца? Вашы веды і вашы здольнасці даволі вядомы. Я ўпэўнены, што ваша праца атрымае найвышэйшую ацэнку.

Чарнавус. Папрацаваў-то я нямала.

Гарлахвацкі. Працуем мы, трэба сказаць, проста як коні, выбачайце за грубае параўнанне. Часамі дзівішся, як чалавек можа вынесці столькі працы. Навокал жыццё такое прыгожае, столькі радасці, а мы не маем часу імі карыстацца. А старасць не жджэ. Яна, подлая, памаленьку, нячутна падкрадваецца. Вунь і ў вас серабро на скронях.

Чарнавус. Ёсць такі.

Гарлахвацкі. Ахвяравалі б вы, Аляксандр Пятровіч, адзін вечарок, ды пайшлі б мы з вамі ў рэстаранчык, выпілі б там па малюсенькай і пагаварылі б, як людзі. Часамі так хочацца пачуць цёплае слова друга.

Чарнавус. Дзе там рэстаранчык! Часу няма. Там універсітэт, там для дзяцей пішы. Ну, і свая асноўная даследчая работа. Збіраюся маленькую экспедыцыю зрабіць. Хачу ў вас грошай прасіць.

Гарлахвацкі. Цэлую экспедыцыю?

Чарнавус. Не пужайцеся. Гэта экспедыцыя будзе складацца з мяне і яшчэ адной асобы.

Гарлахвацкі. Ну, гэта можна будзе. Вы дайце заявачку, колькі гэта будзе каштаваць, а я пагляджу, што ў нас там ёсць.

Чарнавус. Каштаваць нямнога будзе.

Гарлахвацкі. Ды вы не скромнічайце. А то я вас ведаю, вы гатовы пяшком ісці пятнаццаць кіламетраў, каб толькі на рамізніку сэканоміць.

Чарнавус. А я баяўся, што вы адмовіце.

Гарлахвацкі. Ну што вы!.. І Вера з вамі едзе?

Чарнавус. Без яе мне як без рук...

Гарлахвацкі. Харошая дзяўчына гэта Верачка.

Чарнавус. Слаўная дзяўчына. Я проста рад, што маю такую памочніцу.

Гарлахвацкі. Глядзіце, Аляксандр Пятровіч, не закахайцеся. А то вы — цаца-цаца, ды ў кішэнь.

Чарнавус. Што вы, баценька! Куды мне, старому!

Гарлахвацкі. Я ведаю такіх старэнькіх, якім дзяўчаты на шыю вешаюцца.

Чарнавус. У мяне ўжо дачка такая, як яна.

Гарлахвацкі. У вас хіба дачка дарослая ёсць?

Чарнавус. Педінстытут канчае.

Гарлахвацкі. Вось як!

Чарнавус. Так. Выдатніца.

Гарлахвацкі. У папу ўдалася.

Чарнавус. Слаўная дзяўчурка.

Гарлахвацкі. Як зваць вашу дачку?

Чарнавус. Тамара.

Гарлахвацкі. Харошае імя — Тамара. Мне адразу Лермантаў успамінаецца. А я, Аляксандр Пятровіч, таксама працу пішу... Хутка канчаю.

Чарнавус. Вялікая праца?

Гарлахвацкі. Не так яна вялікая, як цікавая. Вельмі ж мне матэрыял удзячны трапіўся... Думаю нешта новенькае сказаць у сваёй галіне.

Чарнавус. У палеанталогіі?

Гарлахвацкі. Так. Думаю арганізаваць пры інстытуце сектар палеанталогіі. Як вы глядзіце на гэта?

Чарнавус. Што ж, у добры час!

Гарлахвацкі. Думаю, што вы не адмовіцеся прыняць удзел?

Чарнавус. Змілуйцеся! Я ж, можна сказаць, прафан у гэтай галіне.

Гарлахвацкі. Як прафан? Гэты ж, напрыклад, матэрыял вам знаёмы?

Чарнавус. Ну, гэта косці маманта. А пакажыце мне штонебудзь іншае, дык я і не разбяруся.

Гарлахвацкі. А хто тут спецыяліст у гэтай галіне?

Чарнавус. Я такіх не ведаю. Спецыяльнасць гэта даволі рэдкая.

Гарлахвацкі. Каго б вы мне ўсё-такі параілі з працаўнікоў інстытута?

Чарнавус. Цяжка мне вам сказаць. Вось хіба Туляга. Раней ён захапляўся палеанталогіяй.

Гарлахвацкі. Шкада. Але ад свайго намеру я не адступлюся. Прыйдзецца запрасіць сюды на працу вядомых мне палеантолагаў з іншых рэспублік. Праца, якую я рыхтую, будзе першай цаглінкай у гэтай справе. Так і папрашу яе разглядаць як першую спробу.

Чарнавус. Вы мяне проста заінтрыгавалі. Калі не сакрэт — на якую тэму?

Гарлахвацкі. А вось гэтага я і не скажу... вам на злосць. Не люблю, ведаеце, афішыравацца. Хутка скончу, зачытаю на савеце, тады крытыкуйце, калі ласка. У вашай асобе спадзяюся бачыць суддзю строгага і справядлівага.

Чарнавус. Вельмі рад буду пазнаёміцца з вашай працай.

Гарлахвацкі. Мы з вамі яшчэ пакажам сябе, Аляксандр Пятровіч. Галовы ў нас здаровыя, рукі дужыя, сцяг навукі можам моцна трымаць.

Чарнавус (*устае*). Я пра многае не мару, Аляксандр Пятровіч. Хоць нямнога зрабіць, але каштоўнага.

Гарлахвацкі. Скромнічаеце, скромнічаеце, даражэнькі. А самі ў знамянітасці мерыцеся... Дык заходзьце калі-небудзь.

Чарнавус. Дзякую.

Гарлахвацкі. А грошы будуць. Для вас з-пад зямлі дастану.

Чарнавус. Вельмі дзякую. (*Выходзіць.*)

Гарлахвацкі (*адзін*). А наконт дзяўчуркі трэба ўсё-такі пазваніць. (*Бярэ трубку.*) Педінстытут? Каго-небудзь з прафкома... Сакратар? Вельмі добра. Я хачу папярэдзіць вас. Там у вас вучыцца Тамара Чарнавус?.. Справа ў тым, што яе папа заблытаўся ў варожых справах... Як гэта — яна пры чым? Мусіць жа, пры чым, калі я гавару... Так... гавораць з інстытута геалогіі... у нас ёсць пэўныя даныя. Наш супрацоўнік Зёлкін раскажа вам усё падрабязна. Ён зойдзе да вас... Калі ласка... (*Кладзе трубку.*) Ну вось. Чарнавуса ўпарадкаваў збольшага. Кніга яго свету не ўбачыць, з работы яго, трэба думаць, таксама знімуць адусюль. Адзіны паратунак ён будзе бачыць ва мне. А Гарлахвацкі не толькі з работы яго не зніме, а наадварот — найлепшы яго прыяцель, чулы і велікадушны. Павінен быць мне ўдзячны за гэта? Павінен. Не адважыцца стаць мне поперак дарогі? Думаю, што не адважыцца. Які б ён вучоны ні быў, а і яму свая скура дарага. Цяпер возьмемся за Тулягу. (*Адчыняе дзверы ў калідор.*) Хто тут ёсць? Нічыпар! Скажыце таварышу Тулягу, што я прашу яго зайсці да мяне. (*Зачыняе дзверы.*) Зараз мы дадзім ход яго ведам.

Уваходзіць нясмела Туляга.

Т у л я г а. Вы мяне клікалі, Аляксандр Пятровіч?

Г а р л а х в а ц к і. Я, Мікіта Сымонавіч, хацеў сказаць вам адну рэч, ды не ведаю, ці варта. Уласна кажучы, і гаварыць я не маю права.

Т у л я г а (*спуджаны*). Што-небудзь для мяне непрыемнае?

Г а р л а х в а ц к і. Не скажу, каб гэта было вельмі прыемна для вас.

Т у л я г а (*калоцячыся*). Аляксандр Пятровіч, родненькі! Што ж такое?

Г а р л а х в а ц к і. Прыходзілі, пыталіся пра вас.

Т у л я г а. Пра мяне?

Г а р л а х в а ц к і. Так. Кажуць, у вас працуе тут нейкі Туляга. Чалавек нявысветлены.

Т у л я г а (*са страхам*). Нявысветлены?

Г а р л а х в а ц к і. Ці не вядзе ён, кажуць, тут якой-небудзь падрыўной работы і ці праўда гэта, што ён дзянікінскі палкоўнік?

Т у л я г а. Палкоўнік?

Г а р л а х в а ц к і. Так. І прозвішча палкоўніка называлі, але я забыўся.

Т у л я г а. Не Падгаецкі?

Г а р л а х в а ц к і. Здаецца, Падгаецкі.

Т у л я г а (*хапаецца за галаву*). Ай, ай! Дайшло-такі! Каб яна правалілася з сваім языком! Прасіў жа не гаварыць нікому.

Г а р л а х в а ц к і. А вы каму-небудзь расказвалі па сакрэту сваю біяграфію?

Т у л я г а. Паверце, Аляксандр Пятровіч, што ўсё гэта выдумка ад пачатку да канца. Я палкоўнікам ніколі не быў.

Г а р л а х в а ц к і. Ну, можа, падпалкоўнікам. Справа ж не ў гэтым.

Т у л я г а. І падпалкоўнікам не быў.

Г а р л а х в а ц к і. А чаго ж вы былі ў Дзянікіна?

Т у л я г а. Я не ў Дзянікіна, а ў варонежскай гімназіі настаўнікам быў.

Г а р л а х в а ц к і. А я вас, помніцца, бачыў недзе на фатаграфіі... у палкоўніцкай форме.

Т у л я г а. Вы, мусіць, бачылі палкоўніка Падгаецкага. Ён быў падобны на мяне.

Г а р л а х в а ц к і. Іначай кажучы, ваша сапраўднае прозвішча Падгаецкі? Вы тут пад чужым прозвішчам?

Т у л я г а. Што вы, Аляксандр Пятровіч! Я і на свет нарадзіўся Тулягам. І дзяды і прадзеды мае былі Тулягі.

Г а р л а х в а ц к і. Значыць, вы ў Дзянікіна былі пад чужым прозвішчам?..

Т у л я г а. І там я быў Туляга. Я ж кажу — настаўнікам быў.

Гарлахвацкі. Як жа вы з Беларусі аж там апынуліся?

Туляга. Ад немца ўцякаў. Як немцы ў 1915 годзе Баранавічы ўзялі, дык я і пераехаў.

Гарлахвацкі. Ну, гэтыя казкі вы расказвайце сваёй бабулі. Ніхто ім не паверыць.

Туляга. Як жа мне гэта даказаць? Да каго звярнуцца? Навучыце, Аляксандр Пятровіч.

Гарлахвацкі. Дакажыце сваёю працай.

Туляга. А як жа з палкоўнікам быць?

Гарлахвацкі. Гэта мы без вас высветлім.

Туляга. Значыць, толькі працаю?

Гарлахвацкі. Працаю і паводзінамі. Што да працы, дык я прапаную вам заняцца палеанталогіяй.

Туляга. Палеанталогіяй? Чаму палеанталогіяй?

Гарлахвацкі. Я хачу, каб вы працавалі пад маім непасрэдным наглядам.

Туляга. Што ж я буду рабіць пад вашым наглядам?

Гарлахвацкі. Мы з вамі будзем пісаць навуковую працу.

Туляга. Мы з вамі? Удвух?

Гарлахвацкі. Так. Вы напішаце, а я прачытаю, праверу. Пасля мы яе зачытаем на савеце, апублікуем.

Туляга. За нашымі подпісамі?

Гарлахвацкі. Не. Вы ж разумееце, што ставіць сваё прозвішча побач з вашым мне нязручна.

Туляга. Значыць, толькі за маім подпісам?

Гарлахвацкі. Не, толькі за маім.

Туляга. Значыць, напішу працу я, а яна будзе лічыцца вашай?

Гарлахвацкі. Гэта зусім не важна, чыёй яна будзе лічыцца. Важна тое, каб гэта праца не прапала для грамадства. Прозвішча ваша можа яе скампраметаваць.

Туляга. Ага, разумею... Толькі я хацеў запытацца ў вас, ці не будзе гэта... подласцю?

Гарлахвацкі. Вы забываецеся, гаспадзін палкоўнік!

Туляга. Выбачайце, я не вас меў на ўвазе. Я кажу, ці не будзе гэта подласцю з майго боку?

Гарлахвацкі. Ну, ваш бок мяне мала цікавіць. Скажыце, вы згодны так працаваць?

Туляга. Дазвольце мне падумаць.

Гарлахвацкі. Дзве мінуты. (*Прайшоўся па пакоі.*) Я ведаю, што вы думаеце. Вы думаеце, а што, калі расказаць пра гэта сакратару парткома Левановічу альбо Веры? Праўда, думаеце так?

Туляга. Прызнаюся, прыходзіла мне ў галаву такая думка.

Гарлахвацкі. Дык выкіньце яе з галавы. Яна вас загубіць. Сведак у вас няма, ніхто вам не паверыць, а павераць

мне. І мне няцяжка будзе даказаць, што гэта паклёп, вылазка дзянікінца. Тады трымайцеся! Варта мне толькі зняць трубку, пазваніць — і ваша песенька спета.

Туляга сядзіць прыгнечаны.

Ну дык як? Згодны?

Т у л я г а (*прыгнечаны*). Згодзен.

Г а р л а х в а ц к і. Даўно б так. А цяпер наконт працы... Я думаю, што нам гэта дрэнь не падыдзе. (*Паказвае на косці маманта.*) Маманты цяпер сталі чуць не хатняй жывёлай. Трэба знайсці нешта новае.

Т у л я г а. Новае тут цяжка знайсці.

Г а р л а х в а ц к і. Знойдзеце, вы толькі пашукайце добра. А я аб'яўлю, што пішу працу на тэму: «Новы від дагістарычнай жывёлы». Дагаварыліся?

Т у л я г а (*слабым голасам*). Дагаварыліся. (*Выходзіць прыгнечаны.*)

Г а р л а х в а ц к і (*адзін*). Гатоў. Цяпер хоць ты з яго вяроўкі ві.

З а с л о н а

## АКТ ДРУГІ

Вестыбюль. Ч а р н а в у с ходзіць ускудлачаны. Ён часамі жэстыкуліруе, нібы разважаючы сам з сабою.

Ч а р н а в у с (*спыніўшыся ля цёці Каці*). А ён не казаў, хутка прыйдзе?

Ц ё ц я К а ц я. Не казаў. (*Да Нічыпара, калі Чарнавус адышоўся.*) Глядзець не магу, як ён мучыцца.

Н і ч ы п а р. Дзіва што мучыцца! Кожны б мучыўся. (*Выходзіць.*)

Цёця Каця моцна ўздыхае.

Ч а р н а в у с (*спыніўшыся супроць цёці Каці*). Што з вамі, Кацярына Іванаўна? Чаго вы так уздыхаеце? Няшчасце якое здарылася?

Ц ё ц я К а ц я. Вас мне шкада, Аляксандр Пятровіч.

Ч а р н а в у с. Чаго ж па мне ўздыхаць? Я ж не памёр.

Ц ё ц я К а ц я. Памёр чалавек, дык ужо адзін канец. Усе памром. А гэтага ж не дай Бог нікому добраму.

Чарнавус. Ды нічога ж такога са мною не здарылася. Я ж вось і на працу прыйшоў.

Цёця Каця. Не на ўме вам праца. Я ж бачу, не сляпая...

Чарнавус. Гэта ўсё ліхія людзі мне зрабілі. (*Зноў ходзіць.*)

З адных дзвярэй выходзіць Зіна і натыкаецца на Чарнавуса.

Зіна (*адскочыўшы ўбок*). Вой! Выбачайце, Аляксандр Пятровіч.

Чарнавус. Чаго ж выбачаць? Вы ні ў чым не вінаваты.

Зіна. Не, я... Проста я спужалася... Я не думала, што сустрэну вас тут.

Чарнавус. Вы думалі, што больш мяне не сустрэнеце? Разумею... (*Зноў ходзіць.*)

Зіна. Усё роўна як нябожчыка сустрэла. Брр.

Прыкалола на дошку аб'яву.
Уваходзіць Зёлкін.

Зёлкін. Што гэта за аб'ява?

Зіна. Прачытай.

Зёлкін (*чытае*). «...адбудзецца даклад дырэктара інстытута геалогіі А. П. Гарлахвацкага на тэму: «Новы від выкапня-жывёліны». Вось гэта вучоны! Адразу значны ўклад. Не тое што Чарнавус: дзесяць год усё нейкія гліны ды фасфарыты даследуе.

Зіна. Сланяецца вунь, як цень.

Зёлкін. Не разумею, чаго Гарлахвацкі ліберальнічае. Даўно пара з ім развітацца.

Зіна. Шкадуе... Чулая душа ў Аляксандра Пятровіча.

Зёлкін (*раўніва*). Асабліва да цябе.

Зіна. Зёлачка, ты зноў раўнуеш? Вось я скажу Аляксандру Пятровічу, дык ён цябе адвучыць.

Зёлкін (*грозна*). Жарты гэтыя ты на сваёй спіне адчуеш.

Зіна захлопвае дзверы перад яго носам. Зёлкін падыходзіць да тэлефона, бярэ трубку і гаворыць, як бы нічога і не было.

Зёлкін. Пеця?.. У нас хутка даклад цікавы... Пра новы від выкапня-жывёліны. Наш дырэктар Гарлахвацкі... Не ведаю добра... Нешта цікавае выкапаў... Чалавек ён салідны, ужо калі выкапае, дык выкапае... Вельмі цікава... Бывай... (*Выходзіць.*)

Уваходзіць Вера.

Вера. Ну як, Аляксандр Пятровіч, дасталі грошы на экспедыцыю?

Чарнавус. Мне не да экспедыцыі, Вера Міхайлаўна.

Вера (*здзіўлена*). Чаму?

Чарнавус. Мяне, здаецца, у ворагі залічылі.

В е р а. Што ж гэта значыць? Як гэта сталася?

Ч а р н а в у с. Я і сам не ведаю, як гэта сталася. Учора лёг як чэсны савецкі грамадзянін, а сягоння ўстаў, бачу — нешта няладнае. Некаторыя знаёмыя не пазнаюць мяне, на другі бок вуліцы пераходзяць, калі сустрэнуцца.

В е р а. Можа, гэта ўсё вам здаецца?

Ч а р н а в у с. Сёння мне не дазволілі чытаць лекцыі на геафаку. Гэта ж мне напэўна не здаецца. Дэкан, які меў ласку гэта паведаміць, быў не здань, а самы рэальны дэкан, паважаны Міхаіл Дзянісавіч.

В е р а. Ды не можа быць!

Ч а р н а в у с. Можа быць, Вера Міхайлаўна. Я сёння ў гэтым пераканаўся. Кніжку маю не пусцілі ў друк. Таксама скажаце — не можа быць?

В е р а. Слухайце — гэта ж не жарты!

Ч а р н а в у с. Я думаю... Якія ж тут жарты?

В е р а. А прычыны? Вы спрабавалі даведацца, якія прычыны?

Ч а р н а в у с. Спрабаваў... Нічога не выйшла. Пыкаюць, мыкаюць, вочы ўбок адводзяць... Нічога не разбяру. Адно мне выразна сказаў дырэктар выдавецтва: «Забярыце рукапіс, ён нам не патрэбен».

В е р а (*стаіць разгубленая*). Але ж вы за сабою ніякай віны не адчуваеце?

Ч а р н а в у с. Якая ж віна? Вось тут я сам, тут мая і праца ва ўсіх на віду.

В е р а. І сувязей у вас якіх-небудзь такіх ніякіх не было раней?

Ч а р н а в у с. Я ўжо сам стараўся ўспомніць. Не было...

В е р а. Чорт ведае што такое! З гэтым жа трэба змагацца. Трэба знайсці вінаватага.

Ч а р н а в у с. А ён, падлюга, хітры — маўчыць і не адгукаецца. Як тут яго знайсці?

В е р а. А знайсці трэба.

Ч а р н а в у с. О, каб знайшоў! Я б яму, нягодніку, у вочы плюнуў.

В е р а. А ён бы ўцёрся ды зноў за сваё. Не, мы расправімся з ім больш жорстка.

Ч а р н а в у с. Але гэта ж трэба кінуць працу і заняцца гэтымі бруднымі плёткамі, траціць час, трапаць нервы. Мне гэта страшна непрыемна!

В е р а. Праўда, я пра гэта не падумала. Вам трэба працаваць... Я сама за гэта вазьмуся, а вы працуйце.

Ч а р н а в у с. Вы?

В е р а. Так, я. Думаю, што вы дасце на гэта сваю згоду?

Ч а р н а в у с. Не дам.

Вера. Чаму? Вам прыемна быць у такім становішчы?

Чарнавус. Непрыемна, але я не хачу, каб і вы трапілі ў такое становішча.

Вера. Як гэта?

Чарнавус. Вас могуць абвінавaціць у сувязі з ворагам і выключыць з партыі.

Вера. Дык вы ж не вораг.

Чарнавус. Але ж гэта, бачыце, трэба даказаць.

Вера. Дык выходзіць, што, пакуль вы будзеце даказваць, я павінна стаяць убаку і спакойна глядзець, як чэснага савецкага чалавека топяць нягоднікі. Не, выбачайце!

Чарнавус (*расчулены*). Вельмі ўдзячны вам! Я рад, што каля мяне блізкі чалавек, які гатоў мне памагчы. Гэта мне вялікае маральнае падтрыманне. Бо я хоць і стараюся быць бадзёрым, а мне ўсё ж такі цяжка, Вера Міхайлаўна. Я вам яшчэ не ўсё сказаў. Вораг знайшоў самае балючае месца ў маім сэрцы — ён хоча з дачкою мяне разлучыць.

Вера. А што такое з Тамарай?

Чарнавус. Прыйшла сёння з інстытута...

Вера. Выключылі?

Чарнавус. Не выключылі, але, мусіць, нейкая размова была. Прыйшла ў слязах. Пытаецца, у якіх гэта я варожых справах заблытаўся. А гэта ж дачка, Вера Міхайлаўна. Паверце, што гэта не пустое слова. Нябожчыца пакінула яе маленькую ў голад і разруху. Я на руках яе насіў. Яе дзіцячы лепет жальбу маю разганяў. Я цешыўся, як яна расла, разумнела, станавілася свядомым чалавекам... (*Змоўк, узрушаны.*)

Зёлкін высоўвае з дзвярэй галаву і падслухоўвае.

Вера (*кладзе Чарнавусу руку на плячо*). Супакойцеся, Аляксандр Пятровіч. Супакойцеся, не гаруйце. Я пайду да Тамары, я ёй растлумачу ўсё. Я да вас буду часта прыходзіць. Вы не толькі не страціце дачкі, а ў вас будзе іх дзве: дазвольце і мне лічыцца вашай дачкой.

Зёлкін (*сам сабе*). Палюбоўніцай.

Чарнавус. Вы даўно мне як дачка.

Вера. Працуючы разам з вамі два гады, я прывыкла да вас, як да роднага, палюбіла вас.

Зёлкін (*сам сабе*). Чэснага чалавека не знайшла палюбіць.

Чарнавус. Дзякую вам за сяброўскае слова.

Вера (*жартаўліва*). Дык прымаеце мяне за дачку?

Чарнавус. Ад усяе душы.

Вера. Дык вашу руку, Аляксандр Пятровіч, і не будзем сумаваць.

Чарнавус. Вашу чэсную руку.

Горача паціскае і нечакана цалуе ёй руку. Вера сканфузілася.

Выбачайце, па шчырасці.

Зёлкін (*сам сабе*). Стары распуснік!

Вера. Дык вы куды цяпер?

Чарнавус. Думаю дачакацца Гарлахвацкага і з ім пагаварыць — можа, ён што ведае.

Вера. Пачакайце, я сягоння пагавару з Левановічам, вось толькі ў лабараторыю зайду. Гэтага нельга адкладваць. Да Тамары зайду вечарам... гадзін у восем...

Чарнавус ідзе ў пакой, а Вера да выхаду.

Зёлкін (*наўмысля трапляецца ёй насустрач*). Добры дзень, Вера.

Вера. Добры дзень. (*Пайшла міма.*)

Зёлкін. Што ж вы... не хочаце, каб я паціснуў (*падкрэслена*) вашу чэсную руку?

Вера (*спыняецца*). Падслухоўвалі?

Зёлкін. А хіба ў вас сакрэты якія-небудзь з Чарнавусам? Я і не ведаў, што вы выбралі сабе такую даверaную асобу.

Вера. Ці не параіце мне вас выбраць?

Зёлкін. Гэта справа вашага густу і... партыйнага сумлення.

Вера. Вось як!

Зёлкін. А як жа вы думалі?

Вера. Добра. Мы яшчэ пагаворым аб гэтым. (*Пайшла.*)

Зёлкін (*адзін*). Дзіва што пагаворым. Вылеціш з партыі, тады пагаворыш. Да Тамары яна пойдзе! Бачыў я, з якой Тамарай ты цалавалася.

Зёлкін ідзе ў свой пакой. Уваходзіць Туляга і спыняецца ля аб'явы.

Туляга. Назначаны дзень мае ганьбы... Адзін падлец будзе публічна прысвойваць сабе працу другога, а другі падлец, праклінаючы ў душы, будзе яму апладзіраваць. Ганьба, ганьба!

Уваходзіць Гарлахвацкі.

Гарлахвацкі. Ну, як мая праца?

Туляга. Ваша праца пасоўваецца, Аляксандр Пятровіч.

Гарлахвацкі. А іменна?

Туляга. Матэрыялы падбіраю.

Гарлахвацкі. Доўга капаецеся. Я ўжо дзень вызначыў. К гэтаму тэрміну павінна быць гатова.

Туляга. Пастараюся. Толькі гэта ці не занадта смела: новы від выкапня?

Гарлахвацкі. Аб гэтым вы не турбуйцеся. Смеласць — гэта ўжо мая справа, а не ваша. Вы толькі зачэпку знайдзіце.

Туляга выходзіць. Уваходзіць Зёлкін.

Зёлкін. Аляксандр Пятровіч, навіна!

Гарлахвацкі. Плётка ці праўда — прызнавайцеся.

Зёлкін. За каго вы мяне лічыце?

Гарлахвацкі. За Зёлкіна.

Зёлкін. Мне гэта нават крыўдна.

Гарлахвацкі. І цікавая навіна?

Зёлкін. Пальчыкі абліжаце.

Гарлахвацкі. Ну, выкладвайце. Толькі хутка, бо часу няма.

Зёлкін. Вера жыве з Чарнавусам.

Гарлахвацкі. Як гэта «жыве»? Я ведаю, што яна не памерла.

Зёлкін. Ну, як вам сказаць...

Гарлахвацкі. Ды скажыце, як-небудзь...

Зёлкін. Ну, скажам, як я з Зінай.

Гарлахвацкі. Гэта яшчэ не страшна.

Зёлкін. Як гэта не страшна? Вы хочаце сказаць, што я... што мы...

Гарлахвацкі. Я хацеў сказаць, што гэта, мусіць, няпраўда.

Зёлкін. Як гэта няпраўда? Я сам бачыў...

Гарлахвацкі. Дзе ж вы бачылі?

Зёлкін. Тут у калідоры. Цалаваліся. Спатканне прызначылі ў яго на кватэры сёння ў восем гадзін, як Тамары не будзе дома.

Гарлахвацкі. Што, дык гэта праўда?

Зёлкін. Праўда. Я лічу, што ёй у партыі не месца.

Гарлахвацкі. Строгі ж вы чалавек... А сам беспартыйны.

Зёлкін. Выбачайце, тут цесная сувязь з ворагам, бытавое разлажэнне, распуста.

Уваходзіць Чарнавус, Зёлкін знікае.

Чарнавус. Я вас даўно чакаю, Аляксандр Пятровіч.

Гарлахвацкі. Чым магу служыць, дарагі Аляксандр Пятровіч? Вельмі шкадую, што прымусіў вас чакаць. Важная нарада была, я не мог пакінуць.

Чарнавус. Я да вас з просьбай... Дапамажыце выйсці з цяжкага становішча, у якое я трапіў з нечае ласкі.

Гарлахвацкі. А што такое з вамі здарылася? Усё, што ад мяне залежыць, я зраблю.

Чарнавус. Я больш не чытаю лекцый на геафаку.

Гарлахвацкі. Чаму?

Чарнавус. Знялі, не давяраюць.

Гарлахвацкі. Ха-ха-ха... Жартуеце, калега.

Ч а р н а в у с. Мне зусім не да жартаў.

Г а р л а х в а ц к і. Значыць, вы сур'ёзна?

Ч а р н а в у с. Зусім сур'ёзна.

Г а р л а х в а ц к і. Дык гэта ж безабразіе!

Ч а р н а в у с. Я з вамі згодзен. Толькі гэта яшчэ не ўсё безабразіе: кніжку маю таксама не пусцілі ў друк.

Г а р л а х в а ц к і. Гэта ўжо зусім свінства. Якая ж прычына?

Ч а р н а в у с. У тым вось і справа, што я нічога не магу дабіцца. Усё гэта абкружана такой таямніцай, што яны і самі не ведаюць, у чым я вінаваты.

Г а р л а х в а ц к і. Дарагі мой, дык чаго ж вы маўчыце? Ганьбяць ваша чэснае імя, а вы маўчыце! Не, так нікуды не варта. Гэта сацыяльнае зло, з якім трэба змагацца. Так жа сёння вас, а заўтра мяне могуць ашальмаваць і вывесці са строю.

Ч а р н а в у с. Могуць.

Г а р л а х в а ц к і. І якая ж, выбачайце, сволач магла вам такую штуку ўстроіць?

Ч а р н а в у с. Сапраўды. Паглядзіш вакол, здаецца, усе людзі такія сумленныя, свядомыя... Няма на каго і падумаць.

Г а р л а х в а ц к і. А можа... Вы, Аляксандр Пятровіч, праверылі сябе як мае быць? Ва ўсім?

Ч а р н а в у с. Як гэта? Я не разумею.

Г а р л а х в а ц к і. Я ў тым сэнсе, што, можа, у вашай біяграфіі ёсць якая-небудзь зачэпка, ну самая такая пусцяковіна, якая магла паслужыць повадам для плётак. Вы мне прабачце, Аляксандр Пятровіч, я проста па-сяброўску кажу.

Ч а р н а в у с. Дзесяць разоў перадумаў я ўсё сваё жыццё і магу сказаць, палажыўшы руку на сэрца, ні ў чым не вінаваты.

Г а р л а х в а ц к і. Я ў гэтым і не сумняваўся. Цяпер я зусім спакойны за вас і... за сябе. Бо вы самі разумееце, што і я тут рызыкую чым-нічым. Каб я быў такі самастрахоўшчык, як і іншыя, дык мог бы прапанаваць вам падаць заяву аб вызваленні ад працы. Але я далёкі ад гэтай думкі. Мы з вамі будзем працаваць, нягледзячы ні на якія плёткі.

Ч а р н а в у с. Я высока цаню вашу велікадушнасць.

Г а р л а х в а ц к і (*спыняецца ля аб'явы*). Вось чакаю, што вы на гэта скажаце (*паказвае на аб'яву*). Спадзяюся, што вы мяне не ўгробіце.

Ч а р н а в у с. Думаю, што для гэтага не будзе ніякіх падстаў.

Г а р л а х в а ц к і. Ну, як ваша экспедыцыя, Аляксандр Пятровіч?

Ч а р н а в у с. Дык вось, бачыце, замінка выйшла.

Г а р л а х в а ц к і. А вы не звяртайце ўвагі. Непрыемна гэта ўсё, я сам разумею, але ж за працай і непрыемнасці забываюцца.

Тым больш што ў вас такі мілы памочнік, вы з ёю ўсё гора забудзеце.

Ч а р н а в у с. Ёй, беднай, таксама непрыемна гэта ўсё, але трымаецца яна геройскі і мяне падбадзёрвае. Слаўная дзяўчына. Ну, дзякую вам за падтрыманне. (*Адыходзіць.*)

Г а р л а х в а ц к і (*адзін*). Слаўная! Бач ты, стары чорт! Губа не дура. Ды цяпер табе не да дзяўчат будзе, даражэнькі.

Выходзіць. Уваходзіць Л е в а н о в і ч.

Л е в а н о в і ч (*да цёці Каці*). У якім пакоі Вера Міхайлаўна?

Ц ё ц я К а ц я. Ідзіце вунь у тыя дзверы.

Л е в а н о в і ч. Яна там не адна?

Ц ё ц я К а ц я. Не, там яшчэ ёсць людзі.

Л е в а н о в і ч. Вызавіце яе сюды. Скажыце, што сакратар парткома Левановіч просіць на хвілінку.

Ц ё ц я К а ц я. Таварыш Левановіч, заступіцеся вы за нашага Чарнавуса. Шкада чалавека. Чуе мая душа, што дарэмна ўзвялі на яго гэту напасць. Не можа быць, каб гэтакі людскі чалавек ды супроць народа. Гэта нехта набрахаў на яго.

Л е в а н о в і ч. Будзьце спакойны, цёця Каця, чэсных людзей мы ў крыўду не дадзім. Разбяромся, у чым тут справа.

Ц ё ц я К а ц я. Дык пазваць Веру Міхайлаўну сюды?

Л е в а н о в і ч. Ага, пазавіце.

Ц ё ц я К а ц я ідзе па Веру. Левановіч чытае аб'яву аб дакладзе. Уваходзіць В е р а.

(*Паказвае на аб'яву.*) Што гэта за даклад? Ты не знаёма?

В е р а. Не. Ён яшчэ трымае ў сакрэце.

Л е в а н о в і ч. Не шкодзіла б пазнаёміцца.

В е р а. Ты для гэтага мяне і паклікаў?

Л е в а н о в і ч. Не, я хацеў запытацца, ці чула ты што-небудзь пра Чарнавуса?

В е р а. Чула, што на яго ўзвялі нейкі паклёп, і збіралася да цябе ісці.

Л е в а н о в і ч. Добра, калі паклёп.

В е р а. Што ж тут добрага?

Л е в а н о в і ч. Я хачу сказаць — добра, калі гэта ўсё — няпраўда.

В е р а. Што «гэта ўсё»? Яму ж нічога не гавораць.

Л е в а н о в і ч. Ходзяць чуткі, што нейкае шкодніцтва знайшлі ў яго працах.

В е р а. У якіх працах?

Л е в а н о в і ч. Мабыць, у апошніх.

**Вера.** Я гэтыя працы ведаю. Яны напісаны на падставе тых матэрыялаў, у збіранні якіх я сама прымала непасрэдны ўдзел.

**Левановіч.** А калі ён і цябе вакол пальца абвёў?

**Вера.** Што ж я, па-твойму, палена бярозавае? Ні цэ ні бэ не разумею?

**Левановіч.** Якую ацэнку ў Маскве атрымала яго праца?

**Вера.** Яшчэ няма адказу.

**Левановіч.** Можа, там знайшлі што-небудзь?

**Вера.** А я табе дакажу, што ўсё гэта брахня. Заўтра ж паеду ў Маскву і прывязу водзыў.

**Левановіч.** Я цябе не пасылаю пакуль што.

**Вера.** Сама паеду. (*Запальчыва.*) Што, не давяраеш? І мяне ў шкодніцтве падазраеш?

**Левановіч.** Ды не кіпяціся ты!

**Вера.** Буду кіпяціцца. Абвінавачванне ў шкодніцтве — гэта не пусцяковіна.

**Левановіч.** Вось таму, што гэта справа сур'ёзная, трэба ў ёй спакойна разабрацца.

**Вера.** Па-мойму — ты не з таго канца пачаў разбірацца. Трэба пацікавіцца, адкуль ідуць гэтыя плёткі.

**Левановіч.** Я хачу з двух канцоў адразу — хутчэй будзе. Вось даведаўся, што ты прымала ў гэтай працы ўдзел, і мне ўжо лягчэй стала. А чуткі адкуль ідуць — таксама даведаемся. У Маскву каму-небудзь сапраўды прыйдзецца паехаць. Аб гэтым мы яшчэ пагаворым.

Уваходзіць Чарнавус.

Добры дзень, Аляксандр Пятровіч. (*Вітаецца за руку.*) А мы з Верай Міхайлаўнай толькі што гаварылі пра вас. Значыць, і кніжку вашу не пусцілі ў друк?

**Чарнавус.** Не пусцілі.

**Левановіч.** Гэта аб чым ваша кніжка?

**Чарнавус.** Аб фасфарытах.

**Левановіч.** Вы можаце мне даць рукапіс на пару дзён? Я хацеў бы азнаёміцца.

**Чарнавус.** Калі ласка.

**Левановіч.** Вы, кажуць, і ў Маскву паслалі нейкую працу?

**Чарнавус.** Паслаў. Аб карысных выкапнях на тэрыторыі БССР.

**Левановіч.** Адказу яшчэ не атрымалі?

**Чарнавус.** Не. Даўно чакаю.

**Левановіч.** Дык вы і не ведаеце, адкуль на вас такая напасць?

**Чарнавус.** Не ведаю. Усё роўна як снег на галаву.

Левановіч. А ў інстытуце вам працаваць не перашкаджаюць?

Чарнавус. Не, не магу паскардзіцца.

Левановіч. Якія ў вас адносіны з Гарлахвацкім?

Чарнавус. Самыя найлепшыя.

Левановіч. Што ж, працуйце... Я думаю, што хутка гэтыя хмары рассеюцца. Высветлім, у чым тут рэч. А рукапіс, калі вам не цяжка будзе, прышліце мне заўтра ў суседні корпус, у шаснаццаты пакой.

Чарнавус. Я прашу, таварыш Левановіч, прыняць меры, каб гэта непаразуменне як найхутчэй было развязана. Справа ў тым, што на падставе маіх даных дзяржплан праекціруе пабудову новых заводаў. Калі праца астанецца скампраметаванай, будаўніцтва можа сарвацца.

Левановіч. Я гэта ведаю. Я буду прасіць, каб назначылі аўтарытэтную камісію, якая можа ўстанавіць каштоўнасць вашай працы і высветліць усялякія іншыя акалічнасці.

Чарнавус. Гэта лепш за ўсё.

Левановіч выходзіць на двор. Чарнавус і Вера — у пакой. Уваходзіць незнаёмая жанчына.

Незнаёмая жанчына (*да цёці Каці*). Скажыце, дырэктар інстытута ёсць?

Цёця Каця. У кабінеце.

Незнаёмая жанчына. Кажуць, у вас ёсць халтурка для машыністкі?

Цёця Каця. Запытайцеся, можа, і ёсць.

Незнаёмая жанчына (*ахарошваецца перад люстэркам*). Ён у вас не вельмі строгі? Нічога, што я патрывожу?

Цёця Каця. Нічога.

Незнаёмая жанчына. Я-то крыху чула пра яго.

Падыходзіць да кабінета і намерваецца пастукаць. Дзверы адчыняюцца, і высоўваецца Гарлахвацкі.

Можна, таварыш дырэктар? У вас, казалі, для машыністкі работа ёсць?

Гарлахвацкі. Выбачайце, у мяне неадкладная справа. Зайдзіце праз паўгадзіны. Цёця Каця, скажыце Зёлкінай, каб яна прыйшла да мяне з паперамі.

Цёця Каця. Зараз. (*Ідзе па Зёлкіну.*)

Незнаёмая жанчына. Зёлкіна... Гэта тая, Зіначка. Паглядзім, што за яна!

Зёлкіна з паперамі праходзіць у кабінет дырэктара.

Нічога асаблівага на ёй няма. Толькі слава, што Зёлкіна.

Да дзвярэй кабінета падыходзіць Зёлкін.

Зёлкін (*цягне за ручку дзвярэй*). Замкнёна.

Незнаёмая жанчына. Ён заняты.

Зёлкін. З кім жа ён заняты?

Незнаёмая жанчына. З Зёлкінай. Не скора, відаць, вызваліцца.

Зёлкін. Чаму вы так думаеце?

Незнаёмая жанчына. Папер шмат панесла.

Зёлкін. А вы ўпэўнены, што гэта Зёлкіна?

Незнаёмая жанчына. Яе гэтак называлі. А так я не знаю. Чула крыху...

Зёлкін. Што ж вы пра яе чулі?

Незнаёмая жанчына. Глупства, не варта пераказваць.

Зёлкін. Гавораць, мусіць, што яна з Гарлахвацкім гуляе?

Незнаёмая жанчына. Можа, гэта і няпраўда. Ці мала што гавораць.

Зёлкін. А муж тут працуе і нічога не ведае.

Незнаёмая жанчына. Чаму не ведае. Ён, кажуць, такі шаптун і пляткар, што без яго ні адна плётка не абыходзіцца. Ведае, але зрабіць нічога не можа.

Зёлкін. Гэта няпраўда. Каб ведаў, дык ён бы тут разнёс усё на свеце. Я ж яго знаю... Чым яны там заняты так доўга?

Нагінаецца і хоча паглядзець у замочную шчыліну.

Незнаёмая жанчына. Ну, ну! Вось гэтага я ад вас не чакала.

Зёлкін (*агрызаючыся*). Чаго вы не чакалі?

Незнаёмая жанчына. Каб вы ў шчыліну падглядалі!

Зёлкін. А вам што да таго?

Незнаёмая жанчына. Непрыгожа.

Зёлкін. Цьфу ты, назола! Вось прыстала! (*Адыходзіць.*)

Незнаёмая жанчына. А яшчэ мужчына! Трэба мець вытрымку, грамадзянін!

Уваходзіць Анна Паўлаўна і накіроўваецца да дзвярэй кабінета.

Заняты, не прымае.

Анна Паўлаўна. З кім жа ён так заняты?

Незнаёмая жанчына. З Зёлкінай.

Анна Паўлаўна. З Зёлкінай?

Незнаёмая жанчына. Так.

Анна Паўлаўна. І даўно ён заняты?

Незнаёмая жанчына. Я мінут дваццаць ужо сяджу.

Анна Паўлаўна. А што яна за асоба такая, што ён пры ёй не прымае?

Незнаёмая жанчына. А вы хіба яе не ведаеце?

Анна Паўлаўна. Адкуль мне ведаць?! Я тут не працую.

Незнаёмая жанчына. Жанчына, кажуць, прыемная.

Анна Паўлаўна. Дык і што ж, што прыемная?

Незнаёмая жанчына. А з прыемнай жанчынай прыемна час правесці.

Анна Паўлаўна. Дазвольце! Але ж ён жанаты.

Незнаёмая жанчына. Дык і што ж?

Анна Паўлаўна. Дык у яго ж ёсць жонка. Нашто ж яму нейкая Зёлкіна?

Незнаёмая жанчына. А жонка, кажуць, страшэнная ведзьма.

Анна Паўлаўна. Гэта хлусня! Я чула, што яна досыць прыгожая жанчына.

Незнаёмая жанчына. Кажуць, дзень і ноч яго пілуе. А ён як вырвецца, дык і шукае з другімі ўцехі.

Анна Паўлаўна. Ах, паскуднік! Я яму такую ўцеху дам, што ён век не забудзе! *(Кідаецца да дзвярэй.)*

Незнаёмая жанчына (*усхопліваецца*). Ай, што я нарабіла! Гэта ж жонка! (*Выбягае.*)

Анна Паўлаўна (*стукае кулакамі ў дзверы*). Адчыні! Адчыні! Адчыні, сабачыя твае вочы! Усё роўна ж я да цябе дабяруся. (*Стукае.*) Дабяруся, ірад, нідзе ты не дзенешся! (*Стукае ў дзверы з усяе сілы.*)

Прыбягаюць цёця Каця, Зёлкін і іншыя супрацоўнікі.

Галасы. Што такое? Што здарылася?

Анна Паўлаўна. Дайце ключ хутчэй! Няшчасце здарылася.

Зёлкін. Цёця Каця, ключ ад французскага замка! Хутчэй ключ давайце!

Кабінет Гарлахвацкага.

Гарлахвацкі (*мітусіцца па кабінеце*). Ах, чорт! Уліплі мы, што называецца. Чуеце, як бушуе мая ведзьма?

Зіна. Можа, лепш адчыніць?

Гарлахвацкі. Баюся, што ад вашай завіўкі нічога не астанецца.

Зіна. Няўжо біцца будзе?

Гарлахвацкі. Можаце не сумнявацца. На гэта я ўжо маю практыку.

Зіна. Дык што ж рабіць?

Гарлахвацкі. А я, думаеце, ведаю? (*Падыходзіць да акна.*) У двары нікога няма... Паспрабаваць у акно выскачыць...

Зіна. Зімою ў акно?

Гарлахвацкі. У часе стыхійнага бедства людзі не разбіраюць, зіма ці лета, а ратуюцца, як хто можа.

Зіна. А я што буду рабіць?

Гарлахвацкі. І вы таксама.

Зіна (*з жахам*). У акно? Ні за што не палезу.

Гарлахвацкі. Дык аставайцеся, я адзін палезу. (*Бярэ партфель і накіроўваецца да акна.*)

Зіна (*з жахам*). Ні за што не астануся! Яна мяне з'есць. (*Плача.*)

Гарлахвацкі. Канчайце вы скуголіць. І без вас моташна. (*Глядзіць у акно.*) Чакайце! Вунь Туляга ідзе з лабараторыі. Мы, здаецца, выратаваны. (*Адчыняе акно і крычыць.*) Таварыш Туляга!.. Таварыш Туляга! Мікіта Сымонавіч! Сюды на хвілінку! Лезьце на падаконнік. Лезьце, лезьце, не саромейцеся!

Паказваецца галава Турягі.

Туляга. У чым справа, Аляксандр Пятровіч?

Гарлахвацкі. Вы мне патрэбны, лезьце сюды ў пакой.

Туляга. Дык нашто ж? Я ж магу праз дзверы.

Гарлахвацкі. Лезьце, я вам кажу.

Туляга. Неяк няёмка, людзі глядзяць.

Гарлахвацкі. Я вам загадваю, гаспадзін палкоўнік!

Туляга паслушна ўлазіць у пакой.

Пабудзьце з гэтай жанчынай — вось і ўсё, што ад вас патрабуецца.

Туляга (*калоцячыся*). Нічога не разумею, Аляксандр Пятровіч. Хоць зарэжце...

Гарлахвацкі. Вы былі з ёю. Мяне тут зусім не было. Зачыніце за мною акно. Цяпер разумееце?

Туляга. Прызнацца, не зусім.

Гарлахвацкі (*шыпіць*). Гаспадзін палкоўнік!.. Не прыкідвайцеся дурнем!

Туляга. Разумею, Аляксандр Пятровіч! Усё разумею.

Гарлахвацкі. Даўно б так.

Вылазіць праз акно на вуліцу. Туляга зачыняе за ім акно.

Туляга (*разводзіць рукамі*). Нічога не разумею. Растлумачце хоць вы, таварыш Зёлкіна.

Зіна (*выціраючы слёзы*). Зараз вас біць будуць.

Туляга. Мяне? За што ж мяне біць?

Зіна. Вунь ужо дзверы адмыкаюць.

Шырока расчыняюцца дзверы. У кабінет урываецца Анна Паўлаўна, за ёю астатнія. Усе на момант аслупянелі, убачыўшы Тулягу з Зінай. Потым гнеў Анны Паўлаўны змяніўся прыступам рогату.

Зёлкін (*да Зіны*). Дык вось ты з кім, нягодніца!

Зіна. Адстань!

Адштурхоўвае яго і, лавіруючы між натоўпу, выходзіць.

Зёлкін. А з вамі, даражэнькі, я зараз расквітаюся! (*Падступае з кулакамі да Тулягі.*)

Туляга (*засланяе твар рукамі*). Што вы да мяне маеце, таварыш Зёлкін?!

Зёлкін. Я табе пакажу, стары распуснік! (*Хоча ўдарыць.*)

Уваходзіць Гарлахвацкі з партфелем.

Гарлахвацкі. Што тут робіцца такое? У чым справа?

Анна Паўлаўна (*падбягае да яго*). Ой, Шура, каб ты бачыў, што тут было!

Гарлахвацкі. Дык тут і цяпер безабразіе.

Анна Паўлаўна. Зёлкіну вось з гэтым (*паказвае на Тулягу*) засталі тут.

Гарлахвацкі. Ах, якая брыдота! Другога месца не знайшлі.

Анна Паўлаўна. А жанчына тут нейкая была ў калідоры ды выдумала, што гэта ты з Зёлкінай.

Гарлахвацкі. Што яшчэ за жанчына?

Анна Паўлаўна. Ліха яе ведае, незнаёмая. Такая языкастая баба. Ды яна тут недзе. (*Аглядаецца.*) Не, уцякла ўжо.

Гарлахвацкі. Нічыпар, лаві яе там! Чорт знае што! З вуліцы зброд усялякі лезе ў кабінет. Пляткараць, распуснічаюць. (*Да Тулягі.*) Ну і вы таксама... Стары чалавек! Пасаромеўся б. Ва ўстанове, ды яшчэ ў маім кабінеце, дазваляць сабе такія рэчы!

Туляга. Аляксандр Пятровіч... Гэта бязлітасна... Вы ж самі ведаеце...

Гарлахвацкі (*грозна*). Нічога я не ведаю, таварыш Туляга! Хаця мне і трэба было б ведаць, адкуль у вас такія прывычкі.

Туляга часта моргае вачыма і кусае губы.

Ды ладна, таварышы. Я думаю, што мы будзем велікадушнымі і даруем яму на гэты раз, узяўшы слова, што больш нічога падобнага ён сабе не дазволіць. Спадзяюся, што смецця з хаты выносіць вы не будзеце, каб гэта не лягло бруднай плямай на нашу ўстанову. Прашу спакойна разысціся і працаваць. (*Крадком ад жонкі гаворыць Тулягу, які выходзіць апошнім.*) Спадзяюся, што ў вас хопіць розуму не балбатаць пра гэта.

Усе разыходзяцца. Астаюцца толькі Гарлахвацкі і Анна Паўлаўна.

(*Да жонкі, калі Туляга выйшаў.*) Ну што ты скажаш на гэта? Ха-ха-ха... (*Рагоча ўсё больш і больш, паддаючы сабе ахвоты.*)

Анна Паўлаўна. Такі ціхоня, размазня! Хто б гэта мог падумаць!.. Ха-ха-ха.

Гарлахвацкі. Сівізна ў бараду, а чорт у рабрыну.

Анна Паўлаўна. А тая пляткарка сказала, што гэта ты з Зёлкінай зачыніўся. Я чуць дом не разбурыла.

Гарлахвацкі. Ах, ах, ах! Як гэта нядобра! І заўсёды ж так. Напляце табе якая-небудзь баба, а ты, не праверыўшы, з кіпцюрамі на мяне кідаешся.

Анна Паўлаўна. Ну, годзе, мір! (*Абнімае яго за шыю і цалуе.*)

Гарлахвацкі (*ляпае яе па плячах*). Бядовая ты ў мяне, Нюра.

Анна Паўлаўна. Як твая навуковая праца?

Гарлахвацкі. Праца амаль што гатова. Вунь, глядзі, які ў мяне тут навуковы апарат.

Анна Паўлаўна (*пяшчотна*). А як машына? Хутка будзе?

Гарлахвацкі. Чакай, пацярпі крыху. Будзе табе белка, будзе і свісток.

Стук у дзверы.

Зайдзіце!

Уваходзіць Лекановіч.

А-а! Нарэшце і партыйнае кіраўніцтва ўспомніла пра нас, грэшных. Пара, даўно пара, а то мы без кіраўніцтва можам тут памылак нарабіць.

Анна Паўлаўна выходзіць.

Ты чуў, якую штуку адмачыў Туляга?

Лекановіч. Туляга? Па-мойму, ён не здольны ні на якія штукі.

Гарлахвацкі. І я так думаў. Адно ж сапраўды — у ціхім балоце чэрці вядуцца. Некалькі хвілін назад яго накрылі з Зёлкінай у маім кабінеце.

Лекановіч. Ды што ты!

Гарлахвацкі. Вось табе і што ты!

Лекановіч. Ні за што не паверу.

Гарлахвацкі. Запытай у людзей. Я тут яму пры ўсіх праборку даваў, а ён стаіць ды толькі вачыма моргае.

Лекановіч. Не падазраваў у яго такіх здольнасцей.

Гарлахвацкі. У нас тут розных талентаў хапае.

Лекановіч. Скажы, ты не ведаеш, што такое з Чарнавусам?

Гарлахвацкі. А я хацеў у цябе запытацца, што з ім такое.

Лекановіч. Але ж ты чуў што-небудзь?

Гарлахвацкі. Ходзяць нейкія чуткі. Быццам шкодніцтва нейкае ў яго працах выявілі, зноў жа сувязі нейкія.

Левановіч. Ты не правяраў, адкуль гэтыя чуткі?

Гарлахвацкі. Гэта нічога не рабі, толькі правярай. А працу за мяне хто будзе пісаць? Туляга?

Левановіч. Дзіўная бесклапотнасць! Таго ўсюды з працы знялі, а яму хоць бы што.

Гарлахвацкі. Загадаеш і мне яго зняць? Я не самастрахоўшчык. Праверым, тады будзе відаць.

Левановіч. Як ты мысліш сабе гэту праверку?

Гарлахвацкі. Трэба назначыць аўтарытэтную камісію, якая павінна выехаць на месца, дзе ён рабіў геалагічныя доследы.

Левановіч. Хто, па-твойму, у гэту камісію павінен увайсці?

Гарлахвацкі. Баюся, што мне, як дырэктару інстытута, ад гэтага не выкруціцца. Ты ж мяне не вызваліш?

Левановіч. Дапусцім, што не. А яшчэ хто?

Гарлахвацкі. Можна яшчэ Зёлкіна. Ну і Тулягу.

Левановіч. І колькі ж часу зойме гэта праверка?

Гарлахвацкі. Каля года.

Левановіч. Што?!

Гарлахвацкі. У зімніх умовах рабіць нічога нельга, а за лета хаця б нам управіцца. Прыйдзецца ж бурэнне рабіць нанова.

Левановіч. Гэта значыць сарваць увесь план работы інстытута і трымаць цэлы год пад падазрэннем Чарнавуса.

Гарлахвацкі. Што ж ты зробіш! Давяраць яму асабліва не прыходзіцца. Няхай корпаецца тут пад маім наглядам.

Левановіч. Я гаварыў з Верай. Яна галавой ручаецца, што гэта паклёп.

Гарлахвацкі. На гэта яна мае свае прычыны.

Левановіч. Яна з ім разам працуе.

Гарлахвацкі. Больш таго — кажуць, што яна з ім жыве.

Левановіч (*недаверліва глядзіць на Гарлахвацкага*). Ты гэта праверыў?

Гарлахвацкі (*смяецца*). Вось дзівак! Як жа я магу праверыць?

Левановіч (*дапытліва*). А можа, гэта няпраўда?

Гарлахвацкі. Можа, і няпраўда. За правільнасць чутак не ручаюся. Урэшце, ты сам можаш пераканацца: сягоння ў восем гадзін вечара ў іх спатканне ў Чарнавуса на кватэры.

Левановіч. Адкуль у цябе такія весткі?

Гарлахвацкі. Весткі пэўныя, можаш не сумнявацца.

Левановіч. Тут у цябе такое творыцца, што сам чорт не разбярэ. Натыкаешся на сюрпрызы, дзе іх зусім не чакаеш.

Гарлахвацкі. Такую спадчыну я атрымаў. Чыстка патрэбна. З некаторымі работнікамі прыйдзецца развітацца.

Левановіч. А замяніць кім?

Гарлахвацкі. Заменім. У мяне ёсць на ўвазе добрыя работнікі, якія ахвотна пойдуць да мяне працаваць, калі ім забяспечыць належныя ўмовы. Вось я толькі ад працы крыху вызвалюся, тады мы з табой навядзём тут парадак. Мне не ўпершыню гэтым займацца.

Левановіч (*у роздуме*). Парадак тут сапраўды прыйдзецца навесці.

Гарлахвацкі. Між іншым, дваццаць другога я даклад чытаю на вучоным савеце. Прыходзь паслухаць.

Левановіч. Я ў тваіх мамантах нічога не разумею.

Гарлахвацкі. Я пішу, каб усім было зразумела. Для мас жа пішу. Гэта будзе пробны камень і для Чарнавуса. Магчыма, што ён паспрабуе зганьбіць маю працу і скампраметаваць мяне як савецкага вучонага. Тады мы яго і выкрыем.

Левановіч (*убок*). Вось ты куды гнеш! (*Да Гарлахвацкага.*) Думаеш, што ён асмеліцца на гэта?

Гарлахвацкі. Калі ён сапраўды вораг, дык праврвецца,— быць не можа.

Левановіч. А мы яго, шэльму, за вушка ды на сонейка!

Гарлахвацкі. Як міленькага!

Левановіч. А калі ён не прарвецца, а пахваліць твой даклад?

Гарлахвацкі. Ды я не сцвярджаю, што ён абавязкова вораг. Можа, і пахваліць.

Левановіч. А здорава ты прыдумаў! Гэта ж можа вельмі хораша выйсці. Цікава! Прыйдзецца прыйсці.

Гарлахвацкі. Дык прыйдзеш?

Левановіч. Абавязкова. Бывай! (*Выходзіць.*)

Гарлахвацкі (*адзін*). Правяральшчык знайшоўся! Я, брат, такія акуляры настаўлю, што табе і чорнае белым пакажацца. Не такіх за нос вадзілі!

Заслона

## АКТ ТРЭЦІ

### Карціна першая

Калідор. Уваходзяць Чарнавус і Вера з «Праўдой» у руцэ.

Вера. Чыталі сёння «Праўду»?

Чарнавус. Яшчэ не чытаў.

Вера. Тут вам дапамога.

Ч а р н а в у с. Мне? Якая дапамога?

В е р а. Пра вас гаворыцца.

Ч а р н а в у с. Пра мяне? Пакажыце.

В е р а. Вось тут.

Ч а р н а в у с (*чытае*). «Об ошибках парторганизаций при исключении коммунистов из партии...» (*Бегла праглядае.*)

В е р а. Прачытайце вось гэты абзац.

Ч а р н а в у с (*чытае*). «Известно, далее, немало фактов, когда замаскированные враги народа, вредители-двурушники в провокационных целях организуют подачу клеветнических заявлений на членов партии и под видом «развертывания бдительности» добиваются исключения из рядов ВКП(б) честных и преданных коммунистов, отводя тем самым от себя удар и сохраняя себя в рядах партии».

В е р а. Цяпер зразумелі?

Ч а р н а в у с. Тут гаворыцца пра няправільныя выключэнні з партыі камуністаў, а я, як вам вядома, беспартыйны.

В е р а. Чэсны і адданы. А такіх беспартыйных ворагі народа таксама стараюцца ачальмаваць.

Ч а р н а в у с. Гэта праўда.

В е р а. Ну, давайце далей пачытаем. Я таксама яшчэ не ўсё чытала.

Садзяцца і ўглыбляюцца ў газету.

Ч а р н а в у с (*прачытаўшы*). Здорава!.. (*Чытае моўчкі.*) Правільна! (*Чытае ўслых.*) «...стремящегося путем проведения мер репрессий перебить наши большевистские кадры, сеять неуверенность и излишнюю подозрительность в наших рядах». Іменна, яны ж так і робяць! Як гэта адразу становіцца зразумелым!

Уваходзіць З ё л к і н. Ён ступае нячутна, каб падысці і што-небудзь падслухаць.

В е р а (*не аглядаючыся*). Не турбуйцеся, таварыш Зёлкін, у нас ніякіх сакрэтаў няма.

З ё л к і н. Я і не турбуюся. Дарэмна вам здалося.

В е р а. Не здалося, а я ў люстэрка бачу. Ідзіце лепш пачытайце, што тут пра вас пішуць.

З ё л к і н. Пра мяне? Дзе гэта?

В е р а. Ды вось, хоць бы і гэты абзац прачытайце.

З ё л к і н (*прачытаўшы, зморшчыўся*). Жарты жартамі, а ў нас таксама ёсць паклёпнікі.

В е р а. Вы кажаце шчырую праўду.

З ё л к і н. Напрыклад, наша цёця Каця вельмі любіць языком патрапаць.

В е р а. «А он украдкою кивает на Петра».

Г а р л а х в а ц к і ўваходзіць і здалёк яшчэ размахвае газетай.

Гарлахвацкі. Вітаю, таварышы! Вітаю з выдатным дакументам! Чыталі?

Вера. Чытаем.

Гарлахвацкі. Гэта дакумент! Проста пальцам паказваюць на ворагаў, двурушнікаў, здраднікаў, усялякіх прахвостаў. Нам астаецца толькі руку працягнуць і за каўнер схапіць. Тут ён увесь як на далоні! А ўявіце цяпер становішча гэтага самага подлага двурушніка! Ён жа ідзе па вуліцы, і яму здаецца, што ўсе на яго пальцам паказваюць — вось кар'ерыст! вось двурушнік! вось паклёпнік! Ён стараецца надзець маску чэснага савецкага чалавека, але грозная рука адплаты ўжо ўзнята над ім. Вось-вось сарве маску і выставіць яго на суд, на ганьбу, на ўсеагульную знявагу. Кола вакол яго звужаецца ўсё больш і больш. Тыя людзі, якія раней перад ім баяліся слова пікнуць, цяпер узнімаюць галаву і гатовы на ўвесь свет крыкнуць, што ён за чалавек. Яго мізэрная душа апынулася ў пятках. Ён шукае сабе шчыліны, каб схавацца, а грозны голас грыміць над самым яго вухам: «Дудкі, грамадзянін Зёлкін! Нідзе ты ад нас не схаваешся!»

Зёлкін (*спужаўся*). Што вы, Аляксандр Пятровіч!

Гарлахвацкі. Ха-ха-ха... Не пужайцеся, я жартую.

Чарнавус. Ды вы проста артыст, Аляксандр Пятровіч.

Гарлахвацкі. Закінуў цяпер, а некалі я іграў у драматычным гуртку.

Вера. Вы так па-майстэрску разыгрываеце, як быццам і нарадзіліся для гэтай ролі.

Гарлахвацкі (*пераходзячы на сур'ёзны тон*). Так, таварышы, за двурушнікаў і паклёпнікаў мы цяпер возьмемся па-сапраўднаму. Калі прыгледзецца, дык і ў сваім асяроддзі мы знойдзем такіх. Ім цяпер не пздаровіцца. (*Накіроўваецца да дзвярэй кабінета, потым спыняецца.*) Аляксандр Пятровіч, можна вас на хвілінку?

Чарнавус падыходзіць да Гарлахвацкага, той адводзіць яго ўбок.

Чарнавус. Чым магу служыць?

Гарлахвацкі. Я проста хацеў запытацца, як вашы справы, ды пры ўсіх нязручна.

Чарнавус. Усё так жа.

Гарлахвацкі. Нічога, не падайце духам. Вось я толькі крыху ад працы вызвалюся, даклад прачытаю, а тады сам займуся вашай справай.

Чарнавус. Я вам буду вельмі ўдзячны.

Гарлахвацкі. А працу сваю я ўжо скончыў, Аляксандр Пятровіч.

Чарнавус. Ну, вітаю вас!

Гарлахвацкі. Дзякую. Думаю, што вы гэтым не абмяжуецеся, а прыйдзеце паслухаць.

Чарнавус. З вялікай прыемнасцю.

Гарлахвацкі. І пакрытыкуеце мяне як належыць. Прызнацца, я вас пабойваюся крыху.

Чарнавус. У мяне да вас самыя найлепшыя пачуцці.

Гарлахвацкі. Дык падтрымаеце? Ваша слова для мяне многа значыць, хоць я і атрымаў ужо водзыў з Масквы ад Анікеева.

Чарнавус. Атрымалі ўжо?

Гарлахвацкі. Так. Скончыў я працу даўно, але не гаварыў аб гэтым, чакаў, што мне Масква скажа.

Чарнавус. Ну, калі вы маеце водзыў Анікеева, тады мая ацэнка для вас мала значыць.

Гарлахвацкі. Не скажыце. Вашу думку я вельмі высока цаню. Дык так, Аляксандр Пятровіч,— дружба і ўзаемная дапамога.

Чарнавус. Дзякую за давер'е. У такі момант для мяне гэта многа значыць.

Гарлахвацкі. Між іншым, вы цяпер мала зарабляеце. Можа, вы адчуваеце нястачу ў чым?

Чарнавус. Дзякую... Я да раскошы не прывык.

Гарлахвацкі. Вы мне даруйце, я пытаюся на правах друга. Можа, вам грошы патрэбны?

Чарнавус. Вельмі дзякую, Аляксандр Пятровіч. Пакуль што я магу абысціся, а калі трэба будзе, тады я звярнуся да вас.

Гарлахвацкі. А то я мог бы вам забяспечыць паўтысячы якой-небудзь.

Чарнавус. Шчыра дзякую.

Гарлахвацкі. Глядзіце. Калі што якое, дык звяртайцеся проста да мяне. Я заўсёды буду рад. (*Ідзе ў свой кабінет.*)

Чарнавус (*падыходзячы да Веры*). Цудоўны чалавек!

Вера. Хто? Гарлахвацкі?

Чарнавус. Так. Ён сапраўды ўмее паклапаціцца аб жывым чалавеку.

Вера. Я таксама была аб ім добрай думкі.

Чарнавус. А цяпер хіба не?

Вера. А цяпер ён мне здаецца крыху загадачным. Быў адзін такі выпадак, што я не ведаю, што і думаць пра яго.

Чарнавус. Вы занадта строгая да людзей. Можа, вас хто ў падман увёў наконт яго.

Вера. Баюся, каб ён сам не ўвёў нас у падман.

Чарнавус. Ну што вы! Я такой і думкі не дапускаю.

Праходзіць Туляга з «Праўдой» у руках.

Вера. А вось запытаемся ў Тулягі. Мікіта Сымонавіч!

Туляга. Я вас прасіў бы забыцца аб маім існаванні.

Вера. Я гэтага не заслужыла, Мікіта Сымонавіч. Выбачайце, калі так. А мы тут гаварылі з Аляксандрам Пятровічам пра Гарлахвацкага і хацелі запытацца, што вы думаеце пра яго?

Туляга. Што я пра яго думаю? Цудоўны чалавек!

Чарнавус (*да Веры*). Вось бачыце!

Туляга. Свет прайдзіце, другога такога не знойдзеце.

Чарнавус. Я ж ёй таксама кажу, што ён надзвычайны чалавек!

Туляга. Вось іменна — надзвычайны. Шчыры, душэўны. Гатоў з чалавекам апошнім падзяліцца.

Вера. Нават?

Туляга. Больш таго, нават каханую жанчыну гатоў уступіць другому.

Вера. Ці не занадта ўжо?

Туляга. Шчырую праўду кажу вам, паверце майму вопыту.

Вера (*здзіўлена*). Вашаму вопыту?

Туляга. Так, майму вопыту.

Вера. Расшыфруйце, Мікіта Сымонавіч, што гэта значыць.

Туляга. Потым, другім разам.

Вера. А скажыце, што вы думаеце аб ім як аб вучоным?

Туляга. А чаму гэта мне першаму трэба аб ім думаць? Дзякую за ласку, думайце самі.

Вера. Як першаму? Мы ж у чаргу не становімся, каб думаць.

Туляга (*паказвае на аб'яву*). Вось паслухаеце даклад, тады будзеце думаць, што сабе хочаце.

Вера. Вы гаворыце, як быццам нешта ведаеце пра гэты даклад.

Туляга. Нічога не ведаю. (*Пайшоў.*)

Вера (*іранічна*). Страшэнна засакрэчаны чалавек!

Туляга (*варочаецца. Гаворыць шчыра*). Ведаеце што... Лепш бы я памёр на той час, калі будзе чытацца гэты даклад.

Чарнавус. Дзіўнае жаданне, Мікіта Сымонавіч!

Туляга. Выступаць жа прыйдзецца. А гэта для мяне горай смерці.

Чарнавус. То не выступайце. Ніхто ж вас не прымусіць.

Туляга. Не выступіш — ён гэтага не даруе.

Вера (*насмешліва*). Становішча ў вас, сапраўды, бязвыхаднае. Астаецца толькі тут жа, пад гэтай аб'явай, легчы і памерці.

Туляга. Ёсць яшчэ адзін выхад.

Вера. Які?

Туляга. Але на гэта смеласць патрэбна, а яе ў мяне зроду не было.

Чарнавус. Чаго вы загадзя мучыцеся, Мікіта Сымонавіч? А можа, даклад якраз будзе такі, што мы выслухаем яго з прыемнасцю?

Туляга. Які б ён ні быў, я прыемнасці ад яго не буду мець.

Чарнавус. Якія ж прычыны вашага адчаю?

Туляга. Прычыны ёсць, Аляксандр Пятровіч! Паверце мне на слова!

Вера. Ведаеце, што я вам сур'ёзна параю, таварыш Туляга?

Туляга. Што вы мне сур'ёзнага параіце?

Вера. Плюньце вы на ўсе гэтыя страхі і будзьце савецкім чалавекам.

Туляга. Кажаце, плюнуць на страхі?

Вера. Плюньце!

Туляга. А скажыце, вы былі калі-небудзь дзянікінскім палкоўнікам?

Вера. Не, не прыходзілася.

Туляга. Гэта і відаць... (*Пайшоў.*)

Вера (*наўздагон*). Мікіта Сымонавіч!

Туляга (*спыняецца, не паварочваючыся*). Я. Што вы хацелі яшчэ сказаць?

Вера. Я ж не веру, што гэта вы былі з Зіначкай.

Туляга (*шпарка паварочваецца*). Як гэта вы не верыце? Гэта ўсе бачылі.

Вера. А я ўсё-такі не веру. Не магу паверыць.

Туляга (*падыходзіць да яе*). І не верце, Вера Міхайлаўна!.. Я заўсёды думаў, што ў вас вельмі чулая і добрая душа. (*Расчулены, паціскае руку Веры.*) Дзякую, дзякую!

Вера (*здзіўленая*). За што ж, Мікіта Сымонавіч?

Туляга. За чыстыя думкі, за чэснасць. (*Яшчэ раз паціскае ёй руку і шпарка выходзіць.*)

Вера (*гледзячы ўслед яму*). Дзіўна!

Чарнавус. Гэта гісторыя з Зёлкінай — сапраўды дзіўная гісторыя!

Вера. Вельмі дзіўная. Я думаю, ці не шантаж тут які-небудзь?

Чарнавус. На вачах ва ўсіх. Які тут можа быць шантаж?

Вера. І ўсё-такі тут нейкая загадка. Гэта відаць і з яго слоў. Аднак жа трэба ісці збірацца. Сягоння я еду ў Маскву.

Чарнавус. Такім чынам, вы і на дакладзе Гарлахвацкага не будзеце?

Вера. Можа, паспею вярнуцца.

Чарнавус. Шкада, калі спознiцеся. Даклад абяцае быць цікавым.

Вера. Пасля пазнаёмлюся. Ну, пажадайце мне ўсяго найлепшага.

Чарнавус. Ад душы жадаю...

Вера. Чакайце мяне з радаснай весткай... Бывайце! (*Выходзіць.*)

Чарнавус (*адзін*). Гэта мне была б падтрымка. (*Выходзіць.*)

Туляга ўваходзіць з газетай у руках.

Туляга. Вера Міхайлаўна!.. Яе ўжо няма. Што ж мне рабіць? Я ж павінен каму-небудзь сказаць пра гэта. Гэта ж ён вораг, а не я, дык няхай яму і страшна будзе.

Уваходзіць Craigавіч.

Левановіч. Дзень добры, таварыш Туляга! (*Вітаецца за руку.*) Як жывём?

Туляга. Пахваліцца не магу, таварыш Левановіч. Жыву і сам сябе не паважаю.

Левановіч. Што так?

Туляга. Прачытаў вось я (*паказвае газету*) пастанову Пленума, і мне сорамна стала.

Левановіч. Чаго ж вам сорамна?

Туляга. Што я такі баязлівы, нікчэмны чалавек, маладушны да нізасці.

Левановіч. Ці не занадта жорстка вы бічуеце сябе?

Туляга. Не, не занадта. Вы яшчэ не ведаеце, у чым справа.

Левановіч. Я дагадваюся, што вы хочаце мне сказаць, у чым гэта справа.

Туляга. Іменна хачу, ды баюся, што не паверыце.

Левановіч. Гаварыце, паверу.

Туляга. Калі я, напрыклад, скажу, што ведаю аднаго такога двурушніка...

Левановіч. У чым жа справа? Вы можаце ведаць такога.

Туляга. Што ён ілжэвучоны, ашуквае партыю і савецкую грамадскасць, што ён шальмуе чэсных работнікаў.

Левановіч. Бываюць і такія. Аб іх жа і гаворыцца ў пастанове Пленума.

Туляга. А калі я, напрыклад, скажу, што ён арудуе ў нашай установе?

Левановіч. Магчыма, што я дрэнна ведаю людзей.

Туляга. А калі я скажу, напрыклад, што гэта наш паважаны дырэктар Аляксандр Пятровіч Гарлахвацкі?

Левановіч. Гм... У яго, вядома, ёсць недахопы, але баюся, што вы тут крыху перавялічваеце.

Туляга. Ну вось, я ж казаў, што вы не паверыце? Яшчэ мяне паклёпнікам палічыце.

Левановіч. Вы самі разумееце, таварыш Туляга, што гэта цяжкае абвінавачанне. У вас, напэўна, ёсць якія-небудзь доказы?

Туляга. Канкрэтных доказаў няма. Я толькі ведаю, што ён невук, у палеанталогіі нічога не разумее і не можа адрозніць косці выкапня ад звычайнай кароўяй косткі.

Лeвановіч. А як жа ён працу піша?

Туляга. Не піша ён ніякай працы.

Лeвановіч. Вось жа аб'ява.

Туляга. Батрака ён сабе знайшоў, той яму піша.

Лeвановіч. Не разумею.

Туляга. Я пішу яму працу.

Лeвановіч. Чаму ж вы гэта робіце?

Туляга. Таму, што ён мяне прымусіў пагрозамі, а я спужаўся. Пры якіх абставінах, я вам потым раскажу. Цяпер мне прыходзіцца альбо ісці на подласць, альбо праявіць мужнасць і выкрыць яго.

Лeвановіч. Калі так, дык мы яго зараз жа можам выкрыць. Я паклічу яго сюды, і ўсё высветліцца.

Туляга. Э, не! Ён адапрэцца і вокам не маргне. Я зноў астануся вінаватым.

Лeвановіч. Але ж вы павінны даказаць ваша абвінавачанне.

Туляга. Вось што я вас папрашу, таварыш Лeвановіч. Дайце мне слова, што вы не патрывожыце яго яшчэ некалькі дзён. Няхай ён зробіць даклад, які я для яго пішу, тады адразу ўсё стане ясным.

Лeвановіч (*у задуменні*). Гм... Так... Так... Што ж, няхай чытае даклад... А я тым часам з свайго боку праверу некаторыя факты. (*Выходзіць.*)

Туляга (*адзін. Звяртаецца да дзвярэй кабінета*). Цяпер жа я табе напішу навуковую працу! Насмяяўся ты з мяне, абняславіў перад людзьмі, пасмяюся ж і я з цябе. Якую ж яму выдумаць дапатопную жывёліну... каб падобна была на яго?.. (*Адчыняе ўваходныя дзверы.*) Таварыш Нічыпар! Зайдзіце сюды на хвілінку.

Нічыпар уваходзіць.

У мяне да вас просьба.

Нічыпар. Якая?

Туляга. Знайдзіце мне якую-небудзь костку.

Нічыпар. Якую ж вам костку?

Туляга. Абы-якую — свіную, кароўю, толькі вялікую і не вельмі свежую.

Нічыпар. А нашто гэта вам?

Туляга. Дырэктар прасіў мяне дастаць... для параўнання. Ён піша навуковую працу.

Нічыпар. То, можа, аднае мала? Я магу і больш прынесці.

Туляга. Хопіць аднае. Ён такі вялікі вучоны, што толькі паглядзіць на гэту костку — і яму ўсё ясна.

Нічыпар. Бачыце! А я думаў, ён так сабе, як і ўсе. То я пайду пашукаю. (*Выходзіць.*)

Туляга (*да дзвярэй кабінета*). Атрымаеш ты ў мяне навуковую ступень.

Дзверы адчыняюцца. Туляга адскаквае ўбок і прымае звычайны баязлівы выгляд. Уваходзіць Гарлахвацкі.

Гарлахвацкі. Ну, як?

Туляга. Усё добра, Аляксандр Пятровіч. У дадатак да майго матэрыялу прыслаў мне прыяцель костачку, якая вельмі дапамагла. Дзякуючы ёй мне ўдалося канчаткова ўстанавіць новы від выкапня.

Гарлахвацкі. Што ж гэта за выкапень?

Туляга. Гэта далёкі продак аднае нашай хатняй жывёліны.

Гарлахвацкі. Ну вось! А вы казалі, што нічога новага нельга знайсці. Пад маім кіраўніцтвам вы яшчэ і не тое знойдзеце.

Туляга. Аднак я павінен папярэдзіць, што некаторыя нашы палажэнні, напэўна, будуць аспрэчвацца.

Гарлахвацкі. Кім?

Туляга. Чарнавусам, Левановічам і іншымі.

Гарлахвацкі. Чарнавус мне сам прызнаўся, што ён прафан у гэтай галіне. А Левановіч тым больш: ён жа тарфавік.

Туляга. Вось якраз таму, што яны з палеанталогіяй мала знаёмы, ім і будуць здавацца дзіўнымі некаторыя рэчы.

Гарлахвацкі. Не страшна, мы ім растлумачым. Вы выступіце ў спрэчках і рассееце ўсе іх сумненні. А што да даклада, дык ад яго якасці залежыць ваш лёс у першую чаргу.

Туляга. Мне напамінаць аб гэтым няма патрэбы, Аляксандр Пятровіч.

Гарлахвацкі. Тым лепш. Хутчэй канчайце, некалькі дзён асталося. (*Выходзіць.*)

Туляга (*адзін*). Некалькі дзён да твае пагібелі.

**Карціна другая**

Кабінет Гарлахвацкага. За сталом Гарлахвацкі, Левановіч, Зёлкіна (піша пратакол), Чарнавус, Туляга, Зёлкін і інш.

Гарлахвацкі (*працягвае даклад*). Зямныя нетры нямала хаваюць у сабе такіх астаткаў ранейшай флоры і фауны. Гэта жывая кніга прыроды. Прыведзеныя ў сістэму, гэтыя астаткі абазначаюць сабою тую цудоўную, ні з чым не параўнальную лесвіцу Дарвіна, па якой на працягу соцень мільёнаў год зямное

жыццё ўзбіралася крок за крокам усё вышэй і вышэй, аж пакуль не дасягнула вянца тварэння, якім з'яўляецца сучасны чалавек. Праўда, лесвіца гэта не такая стройная, як уяўляюць сабе людзі, не дасведчаныя ў гэтай галіне. Часамі ў гэтай лесвіцы не хапае цэлай ступенькі альбо нават двух-трох адразу. Калі якому-небудзь вучонаму ўдаецца знайсці і цвёрда ўстанавіць такую ступеньку, дык гэта з'яўляецца цэлай падзеяй у палеанталогіі. Мне, скромнаму работніку ў гэтай галіне, таксама пашчасцівілася, калі не ўстанавіць, дык, па крайняй меры, замацаваць адну з такіх ступенек. Справа ў тым, што ў Нью-Йоркскім музеі прыродазнаўства знаходзіцца сківіца невядомага выкапня. Паводле велізарных памераў гэтай сківіцы і паводле клыкоў, падобных на біўні маманта, гэту жывёліну можна было б аднесці да сям'і слановых, але гэтаму перашкаджае дасканала развітая поўная сістэма зубоў, чаго сярод слановых не сустракаецца. Вучоныя заспрачаліся. Адны з іх залічаюць жывёліну да слановых, а другія, грунтуючыся на сістэме зубоў, залічаюць яе ў разрад няжвачных парнакапытных. Але пазіцыя апошніх была досыць хісткай, бо нікому да гэтага часу не ўдавалася знайсці другія часткі шкілета і перш за ўсё косці канечнасцей, якія б пацвердзілі іх вывады. І вось, таварышы, гэта скромная костка, якую вы тут бачыце, канчаткова вырашае спрэчку вучоных палеантолагаў. Костку гэту даставіў нам адзін знаёмы натураліст, а адначасова з ёю і апісанне тых костак, якія былі знойдзены разам з гэтай.

Нічыпар (*прасунуўшы ў дзверы галаву*). Можна паслухаць?

Лundefinedевановіч. Можна.

Нічыпар і цёця Каця ўваходзяць, садзяцца ля дзвярэй.

Гарлахвацкі (*працягвае*). Нам удалося ўстанавіць, што гэта костка з'яўляецца адным суставам пальца пярэдняй канечнасці тае жывёліны, аб якой спрачаюцца вучоныя. Будова нагі гэтага выкапня вельмі падобна да тае, якую мы бачым у нашай свінні. Толькі апіралася гэта жывёліна пры хадзе не на два пальцы, а на ўсе чатыры, з якіх два крайнія былі крыху меншыя за два сярэднія. Такой моцнай апоры вымагала вялікая вага масіўнага тулава. З часам, калі пад уплывам неспрыяючых кліматычных умоў корму станавілася ўсё менш і менш, буйнейшыя экземпляры пачалі выміраць ад бяскорміцы, выжывалі толькі самыя дробныя, якім менш трэба было яды. Вага тулава з пакалення ў пакаленне змяншалася, і нарэшце яно страціла столькі ў вазе, што для яго падтрымання досыць было толькі двух сярэдніх пальцаў на кожнай назе: два крайнія сталі паступова атрафіравацца. Так утварыліся канечнасці нашай сучаснай свінні, у якіх два пальцы недаразвіты. Велізарная гэта жывёліна

была ўсяеднай, як аб тым сведчаць яе зубы. Яна харчавалася травой, карэннямі, пладамі, якія ёй няцяжка было даставаць з дрэў, дзякуючы свайму велізарнаму росту. А калі ёй траплялiся жывыя істоты, яна ахвотна ласавалася і імі.

Цёця Каця. Можа, яна і людзей ела?

Гарлахвацкі. Калі яны былі не досыць пільныя...

Левановіч. Тады яна абыходзілася з імі па-свінску.

Гарлахвацкі. Зусім правільна.

Левановіч. Так робяць, між іншым, не толькі дапатопныя свінні, але і некаторыя жывёліны пазнейшага перыяду.

Гарлахвацкі. Гэта тэма для спецыяльных доследаў.

Левановіч. Такія доследы дзе-нідзе вядуцца, наколькі мне вядома.

Гарлахвацкі. Магчыма. Я не ў курсе справы... Такім чынам, гэта костка (*падымае костку і зноў кладзе на стол*) і

Чарнавус бярэ яе і разглядае.

іншыя матэрыялы даюць нам падставу меркаваць, што гэта велізарная жывёліна часткова падобна была на нашу свінню, а часткова на маманта, з якім, відавочна, была ў блізкім сваяцтве.

Левановіч (*насмешліва*). Дваюраднай сястрой яму даводзілася.

Гарлахвацкі (*яму ў тон*). Магчыма... Дзякуючы гэтаму яе з поўным правам можна назваць іспалінскай, альбо мамантавай, свіннёй.

Чарнавус. Як, як вы сказалі?

Гарлахвацкі. Мамантавай свіннёй.

Чарнавус. Цікава, цікава. (*Кладзе костку на стол.*)

Гарлахвацкі (*насцярожана*). Што цікава?

Чарнавус. Усё цікава, ад пачатку да канца.

Гарлахвацкі. На тое і палеанталогія... Дык вось, таварышы, да якога вываду я прыйшоў пасля ўсебаковага і дакладнага вывучэння гэтай косткі. (*Паўза. Да Левановіча.*) Вядзі сход, мне самому нязручна.

Левановіч. У каго будуць запытанні дакладчыку?

Маўчанне.

Нічыпар. Можна мне глянуць на гэту костку?

Левановіч. Калі ласка. (*Падае костку Нічыпару.*)

Зёлкін. Скажыце, Аляксандр Пятровіч, дзе вы такі каштоўны матэрыял знайшлі для свае працы?

Гарлахвацкі. Я ўжо казаў, костку гэту даставіў мне адзін знаёмы натураліст.

Маўчанне.

Левановіч. Яшчэ хто мае запытанні?

Чарнавус. Скажыце, Аляксандр Пятровіч, да якога перыяду вы адносіце сваю знаходку?

Гарлахвацкі (*гіпнатызуе вачыма Тулягу, чакаючы ад яго паратунку*). Да гэтага... як яго... вось вылецела з галавы. Горад яшчэ такі ёсць... Да пензенскага.

Чарнавус. Выбачайце, да якога?

Гарлахвацкі. Да пензенскага.

Чарнавус. Такога перыяду ў геалогіі я не ведаю. Вы, мабыць, хацелі сказаць да пермскага?

Гарлахвацкі (*крыху сканфужаны*). Бачыце, я лічу, што пензенскі ці пермскі — гэта ўсё роўна.

Левановіч (*іранічна*). Вядома, Перм ад Пензы не так ужо і далёка.

Зёлкін (*не зразумеўшы іроніі*). Гэта проста прыдзірка да слова.

Чарнавус. У такім выпадку дакладчыку вельмі пашанцавала.

Гарлахвацкі. Сапраўды, мне трапілася вельмі каштоўная знаходка.

Чарнавус. Я ў тым сэнсе, што да гэтага часу ніводнай свінні ў пермскі перыяд пранікаць не ўдавалася.

Гарлахвацкі. Гэта сведчыць толькі аб тым, што даследаваная мною жывёліна вельмі старадаўняга паходжання.

Чарнавус. Для пермскага перыяду, калі я не памыляюся, характэрны амфібіі — жывёліны, якія маглі жыць на сушы і ў вадзе, часта мелі жабры і размнажаліся яйцамі.

Гарлахвацкі. Вы, напэўна, самі не раз наглядалі, як нашы свінні ахвотна валяюцца ў брудных лужынах. Гэта не што іншае, як цяга да тае самае стыхіі, у якой жылі іх даўнейшыя продкі. Я цалкам дапускаю, што ў гэтых продкаў маглі быць і жабры і што яны маглі...

Левановіч (*іранічна*). Несці яйца.

Гарлахвацкі. А табе смешна? Адразу відаць, што тарфавік, які глыбей як на два метры ніколі ў нетры зямлі не заглядваў.

Левановіч (*з усмешкай*). Ты памыляешся. Я часамі так глыбока заглядваю, што магу дакапацца аж да мамантавых свіней.

Чарнавус. Вы яшчэ сказалі, што ваша свіння харчавалася людзьмі.

Гарлахвацкі. Я сказаў, магчыма, што і ласавалася.

Чарнавус. У тым жа і справа, што немагчыма, паважаны Аляксандр Пятровіч. Немагчыма па той простай прычыне, што чалавек з'явіўся значна пазней. Сляды яго мы знаходзім толькі ў пачатку чацвярцічнага перыяду. Гэта на многа мільёнаў год пазней, чым жыла ваша свіння.

Гарлахвацкі. На гэта запытанне я адкажу вам у заключным слове... Наогул, я бачу, што Аляксандр Пятровіч адносіцца да маіх вывадаў з недавер'ем. Ён знаходзіцца яшчэ ў палоне ўстарэлых тэорый у галіне палеанталогіі. Але ёсць заслужаныя людзі навукі, хоць і старыя вучоныя, але з маладой душой, якія не ўсміхаюцца іранічна, гледзячы на нашы поспехі, а радасна ім апладзіруюць. Вось я маю водзыў аб сваёй працы ўсім вядомага прафесара Анікеева. Прашу азнаёміцца. (*Вымае з партфеля паперку і кладзе на стол.*)

Лехановіч прачытвае яе ўважліва пару разоў, пакручвае ў руках і кладзе на стол. Паперку бярэ Зёлкін.

Зёлкін (*чытае*). «Паважаны Аляксандр Пятровіч! Папярэдняе азнаямленне з Вашай працай дае нам падставу заявіць, што яна мае не толькі навуковае, але і глыбокае практычнае значэнне. У нас саміх былі падобныя меркаванні, але мы не мелі неабходных фактычных даных. Тым больш прыемна канстатаваць, што гэтыя нашы меркаванні апраўдаліся Вашай выдатнай працай. Ёсць, праўда, некаторыя прабелы, якія, відавочна, тлумачацца тым, што яшчэ не ўвесь патрэбны матэрыял Вамі сабраны. Пасля дэтальнага азнаямлення і супастаўлення Вашых даных з нашымі мы прышлём вам падрабязную рэцэнзію на Вашу працу.

З павагай да вас праф. Анікееў».

Чарнавус. Пакажыце, калі ласка. (*Прачытвае сам сабе.*) Практычнае значэнне... Не разумею. Нічога не разумею.

Зёлкін. Тым горш для вас.

Левановіч (*іранічна*). Можа, прафесар мае на ўвазе ў калгасах разводзіць такіх свіней?

Гарлахвацкі. Ну што ты!

Левановіч. А што, хіба нельга?

Гарлахвацкі. Яны ж даўно вымерлі!

Левановіч (*іранічна*). Вымерлі? Ах, чорт вазьмі, гэта шкада! А можа, іх можна як-небудзь зноў адрадзіць?

Гарлахвацкі. Не думаю.

Левановіч. Ты ў Кіеве не спрабаваў гэтым заняцца?

Гарлахвацкі (*збянтэжыўся*). У Кіеве?.. Не... Я там у іншым разрэзе...

Чарнавус. Дзіўная праблема...

Левановіч. Ды падумайце ж, свіння якая! Большая за слана, з жабрамі, яйца нясе.

Цёця Каця. І людзей есць.

Левановіч. Людзей есці то мы ёй не дазволім...

Чарнавус. Тут альбо я вар'ят, альбо хто-небудзь іншы.

Зёлкін. У такіх выпадках трэба быць самакрытычным. (*Да Левановіча.*) Дазвольце мне слова.

Лeвaнoвiч. Калі ласка.

Зёлкін. Павінен проста сказаць, таварышы, што ад даклада паважанага Аляксандра Пятровіча я ў вялікім захапленні. Які палёт думкі! Якое смелае пранікненне ў глыбіню сівых вякоў праз алювіі, дылювіі, пліяцэны, міяцэны і ўсякія іншыя напластаванні. Якая сіла канструктыўнага розуму ў Аляксандра Пятровіча, што дала яму магчымасць толькі на падставе аднае невялікай косткі намаляваць нам яркі вобраз дапатопнай жывёліны. Праўда, асталося яшчэ не высветленым, размнажалася яна яйцамі ці чым-небудзь іншым. Але ж хіба гэта самае важнае? Самае важнае тое, што чым бы там ні было, але яна ўсё-такі размнажалася і жыла і дажыла да нашага часу, і сягоння мы яе бачым, як жывую, у вобразе Аляксандра... выбачайце, вобраз яе мы бачым у Аляксандры... выбачайце, у дакладзе Аляксандра Пятровіча. А што датычыцца пазіцыі, якую намерваецца заняць прафесар Чарнавус, дык яна нам зусім зразумелая. Мы ведаем карэнні гэтых настрояў, і гэтыя выпады для нас не з'яўляюцца нечаканымі. Я лічу, што даклад Аляксандра Пятровіча — гэта вялікі ўклад у нашу навуку. Да даклада ў мяне ёсць толькі адна невялікая заўвага: мне думаецца, паколькі гэта жывёліна сваім выглядам знаходзіцца пасярэдзіне паміж мамантам і свіннёй, а ростам усё ж набліжаецца да маманта, дык яе лепш было б назваць не мамантавай свіннёй, а свінячым мамантам.

Гapлaxвaцкi. Гэта пытанне спрэчнае.

Зёлкін. У заключэнне я хачу ад душы падзякаваць — і думаю, што да мяне далучацца ўсе прысутныя,— падзякаваць Аляксандру Пятровічу за тую вялікую прыемнасць, якую ён даставіў нам сваім дакладам. (*Пляскае ў далоні.*)

Лeвaнoвiч. Хто яшчэ хоча выказацца?

Маўчанне.

Нічыпар. Можа, мне можна, таварышы?

Гарлахвацкі (*недаверліва*). Хіба ты тут што-небудзь разумееш?

Нічыпар. Чаму, я сёе-тое магу сказаць.

Лeвaнoвiч. Няхай гаворыць. (*Да Нічыпара.*) Гаварыце.

Нічыпар. Слухаў я, таварышы, дый думаю — якую галаву мае наш дырэктар! Я ж каб сто год думаў, дык бы гэтак не выдумаў. Мая б галава не знесла. Гэта ж узяць тую звычайную костку, што пад нагамі валяецца, паглядзець на яе і ўгадаць, якія свінні былі мільёны год назад! На гэта сапраўды трэба розум. Я ж, калі мне за абедам костка трапіцца, дык абгрызу яе як мае быць ды ў памыйніцу. Мне і не ў галаве, што, пасядзеўшы над гэтай косткай, можна вялікім вучоным стаць.

З ё л к і н (*павучальна*). Не ўсякая ж костка для гэтага падыходзіць.

Н і ч ы п а р. Я гэта разумею: і костку трэба выбраць з розумам. Вось гэту ж костку (*паказвае пальцам*) я таксама бачыў і хацеў у смецце выкінуць.

Л е в а н о в і ч. Дзе вы яе маглі бачыць?

З ё л к і н. Глупства вярзе.

Н і ч ы п а р. Не глупства, таварыш Зёлкін, а сапраўды бачыў. Тут таварыш Гарлахвацкі сказаў, што гэту костку даставіў яму адзін знаёмы. Але гэтага знаёмага і я знаю добра. Гэта Цюлік яе прывалок у калідор.

Г а л а с ы. Што?!

— Цюлік?!

— Які Цюлік?

— Што ён такое гаворыць?

Н і ч ы п а р. Сабака так завецца...

Г а р л а х в а ц к і. Ды ён п'яны, таварышы. Хіба вы не бачыце? Ідзі лепш выспіся, Нічыпар.

З ё л к і н. Безабразіе! Ледзь на нагах трымаецца!

Н і ч ы п а р (*страшна пакрыўджаны*). Хто, я п'яны?

Г а р л а х в а ц к і. Вядома ж, не я.

Н і ч ы п а р. Таварыш дырэктар! Каб я так заўтра вас бачыў, як бачыў сягоння паўлітра. Эх! Ладна! (*Ідзе на месца.*)

Л е в а н о в і ч. Што ж вы... Больш не хочаце гаварыць?

Н і ч ы п а р. А... (*Махнуў рукой.*) Не з маім розумам лезці ў гэту навуку. І так ужо аблаялі.

Л е в а н о в і ч. Хто наступны?

Маўчанне.

Г а р л а х в а ц к і. А вы, таварыш Туляга, хіба не жадаеце выказаць сваю думку?

Т у л я г а (*няёмка ўстае*). Я... не... я... уласна кажучы... Можа... Аляксандр Пятровіч раней?

Л е в а н о в і ч. А вы незалежна ад Аляксандра Пятровіча.

Т у л я г а. Што ж, калі так... Я павінен сказаць, што даклад Аляксандра Пятровіча я выслухаў з вялікай цікавасцю. Вельмі, вельмі арыгінальны даклад. І метад даследавання зусім новы, нікім дагэтуль не ўжываны, і смеласць. Вось што самае галоўнае тут... смеласць. Гэтай заслугі ў Аляксандра Пятровіча ніхто не адбярэ. А што да назвы, дык я лічу, што спрэчкі тут зусім лішнія. На маю думку, лепш за ўсё карыстацца агульнапрынятымі лацінскімі тэрмінамі. Паколькі вучоныя, як паведаміў нам дакладчык, ужо спрачаліся аб гэтай жывёліне, дык адпаведны тэрмін, напэўна, існуе.

Гарлахвацкі. Па-латыні яе таксама называюць — іспалінская свіння.

Лeвановіч (*насмешліва*). Гэта яшчэ не зусім па-латыні.

Гарлахвацкі. У перакладзе.

Лeвановіч. Не, ты дай нам сапраўдную латынь. Цікава, як гэта гучыць.

Гарлахвацкі (*адгортвае старонку даклада і чытае*). Свінтус грандыёзус.

Чарнавус рагоча. Схаваўшыся за яго плечы, рагоча і Туляга.

Што за смех! Я вас не разумею, Аляксандр Пятровіч!

Чарнавус. А я вас, Аляксандр Пятровіч, цяпер ужо зусім разумею. Да гэтага дня я думаў, што маю справу калі не з салідным вучоным, дык, па крайняй меры, з сумленным чалавекам.

Гарлахвацкі. Што вы хочаце гэтым сказаць?

Чарнавус. Я хачу сказаць, што вы — прайдзісвет!

Гарлахвацкі. Хто? Я?

Чарнавус. Так, вы.

Гарлахвацкі. Я, дырэктар навуковай установы,— прайдзісвет?

Чарнавус. Гэта непаразуменне, што вы дырэктар установы. Вы — прайдзісвет і авантурыст!

Гарлахвацкі (*стукае кулаком па стале*). Я не дазволю!

Лeвановіч (*бярэ яго за руку і садзіць у крэсла*). Супакойся, дазволіш. А вы, прафесар, спакайней гаварыце. Вашых доказаў мы яшчэ не чулі.

Чарнавус. Выбачайце, я не магу спакойна гаварыць. Тут хіба доказы патрэбны, таварыш Левановіч? Гляньце ж вы на гэту костку! Гэта ж костка самай звычайнай свінні, зарэзанай месяц таму назад. Раскопкі нашым шаноўным дакладчыкам рабіліся не далей як на заднім двары рэстарана «Еўропа». Асістэнтам пры гэтым быў не хто іншы, як той самы Цюлік, пра якога тут гаварыў Нічыпар.

Гарлахвацкі. Гэта вы і падвучылі Нічыпара, яшчэ і напаілі для смеласці. Таварышы, я прашу звярнуць увагу на гэту акалічнасць! Так дзейнічае вораг.

Чарнавус. Як бы вы мяне ні абзывалі, я вам не дазволю апашляць савецкую навуку.

Гарлахвацкі. Ого, які тон!

Чарнавус. Так, не дазволю. Я ёй лепшыя гады свайго жыцця аддаў... і ніякія шарлатаны мяне не запужаюць.

Гарлахвацкі (*да Левановіча*). Ну, не гаварыў я табе, што вораг не вытрымае, прарвецца? Скажы, гаварыў?

Лeвановіч. Гаварыў.

Гарлахвацкі. Дык што ты цяпер скажаш?

Л е в а н о в і ч. А мы яго зараз за вушка ды на сонейка.

Г а р л а х в а ц к і. Вось вам, таварышы, наглядны ўрок. Так дзейнічае вораг. Увесь горад ведае, што ён вораг. Адусюль яго прагналі, апошні прытулак яго быў тут... дзякуючы маёй слабасці, прызнаюся. Але цяпер мы пакончым з ім адным ударам, бязлітасна скрышым яго ядавітыя зубы, каб яны нас больш ніколі не кусалі! (*Стукае кулаком па стале.*) Даволі цацкаліся!

Уваходзіць В е р а.

В е р а. Што такое? Тут нейкі скандал?

Л е в а н о в і ч. Гэта спрэчкі па дакладу таварыша Гарлахвацкага.

В е р а. Нішто сабе спрэчкі, калі да зубоў дайшло!

Л е в а н о в і ч. Прафесар Чарнавус... не згодзен з дакладчыкам.

В е р а. Дык за гэта ў зубы?

Г а р л а х в а ц к і (*Веры*). Вы не ў курсе справы, дык і не ўмешвайцеся.

Л е в а н о в і ч. А прафесар Анікееў вельмі добра адзываецца аб гэтай працы. (*Падае Веры паперку.*)

В е р а (*глянуўшы на паперку*). Таварышы! Гэта ж падлог, жульніцтва.

Л е в а н о в і ч. Што? Пісьмо фальшывае?

В е р а. Не, але гэта пісьмо паслана было прафесару Чарнавусу. Я прывезла копію. Вось, калі ласка!

Г а р л а х в а ц к і. А, змова супроць мяне! Таварышы, гэта ж Чарнавусава любоўніца! Таварыш Зёлкін гэта ведае.

Зёлкін замяўся і нешта прамармытаў.

В е р а (*Гарлахвацкаму*). Вы лгун і падлец!

Г а р л а х в а ц к і. Не, гэтага больш нельга цярпець! Я пазваню, каб іх зараз жа прыбралі. (*Працягвае руку да трубкі.*)

Л е в а н о в і ч (*кладзе руку на трубку*). Не турбуйцеся, пазвонена ўжо.

Г а р л а х в а ц к і. Ты дагадаўся зрабіць гэта раней? Тым лепш.

Л е в а н о в і ч (*рашуча ўстае*). Я лічу, што гэту камедыю пара скончыць.

Г а р л а х в а ц к і. І скончыць так, каб яна для некаторых стала трагедыяй.

Л е в а н о в і ч. Так яно і будзе. (*Да іншых.*) Прашу прабачэння, таварышы, што заключнае слова замест дакладчыка прыйдзецца зрабіць мне. Мы толькі што заслухалі найцікавейшы даклад, падобнага якому не слухала, напэўна, ні адна навуковая аўдыторыя. У выніку гэтага даклада перад намі ва ўсёй прыго-

жасці ўстаў вобраз свінячага маманта. Гэта дапатопная жывёліна аказалася вельмі жывучай, і некаторыя яе экземпляры дажылі аж да нашага часу. Жывёліна гэта хоць і рэдкая ў нас, але надзвычай шкодная. Калі яе не ўзяць за жабры — добра, што якраз жабры ёсць у яе,— калі не ўзяць за гэтыя жабры, дык такі свінтус грандыёзус можа шмат шкоды нарабіць. Добра, калі ён адзін, а могуць за яго спінаю стаяць яшчэ больш клыкастыя. Баяцца іх, аднак жа, не трэба. Свінячыя маманты могуць жыць толькі там, дзе ім спрыяе клімат,— у атмасферы баязлівасці, разгубленасці, падхалімства, палітычнай слепаты, а там, дзе пануе мужнасць, чэснасць і бальшавіцкая пільнасць,— яны жыць не могуць і хутка выдыхаюць. Няхай жа ведаюць усе свінні — мамантавыя і немамантавыя: калі каторая з іх паспрабуе пакасціць у нашай савецкай навуцы, будзем біць проста па пятачку.

Гарлахвацкі раптам пачынае рагатаць. Усе глядзяць на яго са здзіўленнем.

Зіна. Які жах! Ён звар'яцеў!

Гарлахвацкі. Ха-ха-ха... Здорава ж я вас разыграў!

Туляга (*да Чарнавуса*). Як гэта разыграў? Што ён такое гаворыць?

Гарлахвацкі. Даклад жа я чытаў не свой, а вось гэтага дзянікінца. (*Паказвае на Тулягу.*) Цяпер вы пераканаліся, што гэта за вучоны!

Чарнавус. Што такое?

Зёлкін. Я так і думаў! Не можа быць, каб вы, Аляксандр Пятровіч, такую бязглуздзіцу напісалі.

Туляга. Таварыш Левановіч, гэта ж выходзіць зусім наадварот. Выходзіць, што я...

Левановіч. Не хвалюйцеся, таварышы. Я ведаю, што гэта не яго даклад. (*Паказвае на Гарлахвацкага.*)

Гарлахвацкі (*асекся і звяў*). Ах, ты гэта ведаеш.

Левановіч. Я яшчэ не гэта ведаю. Я ведаю, як вы спрабавалі разлажыць на Украіне адзін наркамат. Вам гэта не ўдалося. І тады вашы прыяцелі перакінулі вас сюды з фальшывым пасведчаннем. Тут, праводзячы сваю подлую работу, вы ашальмавалі прафесара Чарнавуса, тэрарызавалі таварыша Тулягу...

Гарлахвацкі (*гаворыць, каб прыкрыць сваю разгубленасць*). Гэта паклёп! Я не дазволю, гэта паклёп!

Левановіч. Цяпер, таварышы, вам ясна, што гэта за чалавек! Аб ім прыйдзецца пагаварыць заўтра больш грунтоўна. (*Позірк у бок Зёлкіна.*) А таксама і пра некаторых яго памочнікаў.

Усе разыходзяцца, выражаючы жэстамі і асобнымі выкрыкамі сваё абурэнне. Гарлахвацкі стаіць, абапёршыся рукамі аб стол і ўтаропіўшыся ў злашчасную костку. Туляга з высока паднятай галавой праходзіць міма яго.

Нічыпар (*падыходзіць да стала, паказвае пальцам на костку*). Можна прыбраць?..

Гарлахвацкі (*ачнуўшыся*). Га?

Нічыпар. Я пытаюся, костка вам ужо не патрэбна?

Гарлахвацкі. К чорту!

Нічыпар (*бярэ костку двума пальцамі і адчыняе фортку*). Цюлік! ф'ю, ф'ю, ф'ю!.. На табе тваё дабро назад! (*Кідае костку за акно.*) Прывалок, воўчае мяса! Праз цябе толькі непрыемнасць чалавеку! (*Хітра падморгвае цёці Каці, і абое выходзяць.*)

Канец

*1939*

# ПРОБА АГНЁМ

*Драма ў чатырох актах,*
*шасці карцінах*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Караневіч Мікалай Пятровіч — камандзір стралковага палка, маёр, 35 год.
Наталля — яго жонка, 28 год.
Перагуд Барыс Платонавіч — лейтэнант, разведчык.
Дубавец — намеснік палітрука.
Шумейка — загадчык бібліятэкі, тэхнік-інтэндант 2-га ранга.
Рыбнікаў — камісар палка, батальённы камісар.
Родны — баец, разведчык.
Бондараў — сяржант, разведчык.
Камандуючы арміяй — генерал-маёр.
Кузняцоў — камандзір артдывізіёна, капітан.
Вера — ваенфельчар.
Саламацін — баец, разведчык.
Кавальчук — тэлефаніст.
Ранены баец.
Дзяжурны па часці, лейтэнант.
Ад'ютант.
Пасыльны.
Урач.
Ёган — нямецкі салдат.
Нямецкі обер-яфрэйтар.
Байцы, камандзіры, іх жонкі, нямецкія салдаты.

## АКТ ПЕРШЫ

### Карціна першая

Фае чырвонаармейскага клуба. Справа — уваходныя дзверы. Злева — маленькія дзверы — ход на сцэну. У пярэдняй сцяне двое дзвярэй для ўваходу ў залу. Калі адчыняюцца левыя дзверы, праз іх відаць частка эстрады і пярэднія рады крэслаў, на якіх сядзяць байцы, камандзіры, некалькі жанчын. У фае пуста. У зале адбываецца канцэрт чырвонаармейскай самадзейнасці. Праз зачыненыя дзверы чутны гукі струннага аркестра. Адчыняюцца дзверы, і з залы ў фае ўваходзіць лейтэнант П е р а г у д. Ён, відаць, некага чакае: ходзіць па фае, разпоразу пазірае то на гадзіннік, то на ўваходныя дзверы. Уваходзіць Н а т а л л я. Перагуд, узрадаваны, падыходзіць да яе.

П е р а г у д. Добры вечар, Наталля Мікалаеўна!

Н а т а л л я. Добры вечар! *(Вітаюцца.)*

П е р а г у д. А я баяўся, думаў, вы ўжо не прыйдзеце.

Н а т а л л я. Чаго ж вы баяліся? *(Наталля, жартуючы, здзекуецца з Перагуда.)*

П е р а г у д. Вы ж сягоння пець павінны.

Н а т а л л я. А вы хіба адказны за вечар?

П е р а г у д. Не... але мне хацелася паслухаць вас і... пабачыць.

Н а т а л л я. Ах, вось што! *(Жартуючы.)* Я гэтага не ведала, а то раней бы прыйшла.

П е р а г у д. Здзекуйцеся, я ўсё сцярплю.

Н а т а л л я. Цярпі, казак, атаманам будзеш.

П е р а г у д. Дзе ўжо там! Хоць бы за выслугу год вы мне калі-небудзь яфрэйтара прысвоілі.

Н а т а л л я. Майго тут няма?

П е р а г у д. Не, няма.

Н а т а л л я. Як пайшоў зранку, дык і дагэтуль няма. Чакала, думала, прыйдзе. Праз яго і на вечар спазнілася.

П е р а г у д. Днём ён быў на тактычных занятках у першым батальёне.

Н а т а л л я. Што ж, пойдзем, паслухаем.

П е р а г у д. Там цяпер струнны аркестр. Вы яго на рэпетыцыі чулі. Давайце прысядзем лепш.

Наталля. Што ж мы ў пустым памяшканні будзем сядзець удваіх. Падумаюць — закаханыя. *(Садзяцца.)* Вы абяцалі мне кнігу, малады чалавек. Прынеслі?

Перагуд. Выбачайце, Наталля Мікалаеўна. Сягоння ні хвілінкі часу не меў. Яе, здаецца, вярнулі ўжо ў бібліятэку. Заўтра я вам на кватэру дастаўлю.

Наталля. Вы адважваецеся нават на такі подзвіг? А як на гэта маёр паглядзіць?

Перагуд. Яго не будзе дома.

Наталля *(насмешліва)*. Ага, я вас разумею.

Перагуд. Вы бязлітасная жанчына: выкрываеце ўсе мае хітрыкі. Ну, так, прызнаюся: мне прыемна было б сустрэцца з вамі дзе-небудзь, каб нам ніхто не перашкаджаў. Я хацеў бы многае вам сказаць.

Наталля. Кніжку вы мне дастаньце, а ўсё іншае — давайце лепш не трэба.

Перагуд. Чаму? Вам гэта непрыемна?

Наталля. Гэта небяспечна.

Перагуд. Для вас?

Наталля. І для вас таксама. Мушу вам напомніць, што маёр з пісталета за дваццаць метраў у пятак пападае. Што вам за прыемнасць класці галаву на подступах да такой старой крэпасці?

Перагуд. Няўжо ён сапраўды раўнуе вас?

Наталля. Страшэнна.

Перагуд. Да каго ж ён вас можа раўнаваць?

Наталля. Да ўсіх, з кім я сустракаюся і гавару без яго дазволу.

Перагуд. І да мяне?

Наталля. Да вас, можа, у першую чаргу.

Перагуд. На жаль, у яго няма на гэта ніякіх падстаў.

Наталля. Я ў гэтым упэўнена: вы — хлопчык скромны, і з вашага боку яму нічога не пагражае.

Перагуд. Наталля Мікалаеўна!.. Не дражніце мяне, а то вазьму зараз і вылажу ўсё, што ў мяне на душы.

Наталля. Ад гэтага шкоды нікому не будзе. Дзіцячая душа чыстая.

Перагуд. Вы здзекуецеся з мяне... Лічыце мяне нахабным хлапчуком.

Наталля. Не хлапчуком, а харошым хлопцам і хачу, каб вы такім засталіся.

Перагуд. Хіба я вам прапаную што-небудзь дрэннае?

Наталля. Вы замышляеце замах.

Перагуд. На вас?

Наталля. На свайго камандзіра палка.

Перагуд. Нават!

Наталля. Ну, як жа... мы ж з вамі будзем сустракацца адзін на адзін? Так?

Перагуд. Дапусцім, што так.

Наталля. Каб ён не ведаў?

Перагуд. Лепш, каб не ведаў.

Наталля. Дык гэта ж і ёсць змова дваіх супроць трэцяга. Прычым, гэты трэці чэсны чалавек. Мікалай жа Пятровіч чэсны чалавек, праўда?

Перагуд. Бясспрэчна.

Наталля. А калі двое замышляюць замах супроць чэснага савецкага чалавека, дык гэтыя двое нядобрыя людзі... нягоднікі і злачынцы.

Перагуд. Гэта мы з вамі?

Наталля. Я-то яшчэ не, але вы падбіваеце мяне на гэта.

Перагуд. Але ж я ніякага злачынства не замышляў. Мне проста прыемна і хараша, калі я з вамі. Вы ж не заўсёды такая...

Наталля. Якая гэта такая?

Перагуд. Такая... калючая. Вы ўмееце быць добрай і шчырай, і тады я, здаецца, палажыў бы вам галаву на калені і слухаў бы без канца.

Наталля. Скажыце, калі ласка! Ну, нічога, гэта пройдзе.

Перагуд. Ніяк не праходзіць, Наталля Мікалаеўна. Я вас нават у сне часта бачу.

Наталля. Я тут не вінавата. Гэта ваша маладосць гаворыць у вас. Толькі нашто вам сніць старых бабулек, калі навокал столькі маладых дзяўчат? Вы знойдзеце сабе такую, якая па-сапраўднаму ацэніць вашы пачуцці.

Перагуд. Дзякую вам за параду, мілая бабулька. Наздзекаваўшыся, вы, здаецца, яшчэ і жаніць мяне збіраецеся.

Наталля. Каб пазбавіць вас ад кашмарных сноў. І чым хутчэй вы гэта зробіце, тым лепш. Не чакайце, пакуль на вашым сэрцы скарынка нарасце.

Перагуд. А гэта бывае?

Наталля. Здараецца з некаторымі.

Перагуд. А я ўжо раз быў чуць-чуць не ажаніўся, Наталля Мікалаеўна.

Наталля. Чуць-чуць не лічыцца.

Перагуд. І дзяўчына была ў мяне. Яшчэ яе картачку нашу з сабой. *(Дастае картачку.)* Вось яна.

Наталля разглядае картачку.

Харошая дзяўчына была.

Наталля. І што ж яна, памерла?

Перагуд. Горш — звар'яцела.

Наталля. Што вы кажаце!

Перагуд. Так. Звар'яцела і выйшла за другога.

Наталля. Ах, бедны хлопец! У яго дзяўчыну адабралі. Недарэка!

Перагуд. І хто адабраў, Наталля Мікалаеўна? Мой лепшы друг.

Наталля. Як жа вы яму папусціліся?

Перагуд. Канчалі мы разам дзесяцігодку. Я ўсё ёй Блока ды Ясеніна чытаў, а яна глядзела на месяц і ўздыхала. А калі я ў ваеннае вучылішча ад'язджаў, мы і пакляліся перад гэтым самым месяцам, што, пакуль ён на небе свеціць, будзем вернымі адно другому.

Наталля. Ну, і далей?

Перагуд. А далей — паехаў я ў ваеннае вучылішча, а дзяўчына асталася адна і моцна па мне сумавала. Тады яе стаў суцяшаць мой друг — студэнт фізмата. Ён быў старэйшы за мяне і таму больш практычны: не чытаў ён Ясеніна, а перaконваў матэматычнымі выкладкамі.

Наталля. І што ж?

Перагуд. Ну, і пераканаў.

Наталля. Так пераканаў, што яна і клятву парушыла?

Перагуд. Не, клятвы яна не парушыла.

Наталля. Яна ж клялася перад месяцам.

Перагуд. Тады месяц не свяціў. Гэта злачынства адбылося ў цёмную асеннюю ноч. (*Хаваючы картачку.*) А харошая была дзяўчына.

Наталля. Была, ды сплыла.

Перагуд. Сплыла.

Наталля. Так вам і трэба.

Перагуд. Чаму?

Наталля. Таму, што вы расцяпа. За харошае змагацца трэба.

Перагуд. Трэба, гэта праўда. А я пусціў справу на самацёк, і за гэта моцна пакараны.

Наталля *(з насмешкай)*. Цяпер я вас разумею.

Перагуд. У якім сэнсе?

Наталля. У вас друг дзяўчыну адбіў, ды вы хочаце гэта на сваім камандзіру палка спагнаць.

Перагуд *(пакрыўджаны)*. Вы злая. Я ж да вас з адкрытай душой.

Наталля. Больш не буду. Толькі не трэба папускацца, каб вас усе крыўдзілі. Вы ж, здаецца, разведчык?

Перагуд. Разведчык.

Наталля. Тым больш. Вы павінны быць дзёрзкім і смелым. Можа, не раз прыйдзецца глядзець у вочы смерці.

П е р а г у д. Каб у яе вочы былі такія, як у вас, дык я б з прыемнасцю глядзеў.

Н а т а л л я. Здаецца, мая парада пайшла вам на карысць. Вы рашылі быць дзёрзкім з месца ў кар'ер.

П е р а г у д. Зноў не дагадзіў?

Н а т а л л я. У яе не такія вочы. У яе вялікія і чорныя. Вам не страшна?

П е р а г у д. Цяпер — не, а там — не ведаю. Калі я думаю пра вайну, дык аднаго баюся больш за ўсё,— каб мне страшна не было. А што, думаю, калі мяне на полі бою такі страх агорне, што не хопіць сілы волі перамагчы яго? Я ж яшчэ не ведаю, што такое свіст куль і разрывы снарадаў.

Н а т а л л я. Вось за маёра я спакойна. Ён нарадзіўся, каб быць воінам.

П е р а г у д. А за мяне?

Н а т а л л я. Вы таксама чэсна памраце, калі трэба будзе, але вам цяжэй будзе з жыццём расставацца, вы яго больш любіце.

П е р а г у д. І вам мяне шкада было б?

Н а т а л л я. Трошкі.

Перагуд бярэ яе руку і цалуе.

А порахам пахне. У мяне такое адчуванне, як бывае ў летні дзень перад навальніцай. Сонца пячэ, гарачыня, а з-за краю зямлі ўжо сунецца сіняя хмара, і вуха ўжо ловіць глухі далёкі рокат. Сэрца тады замірае ў трывозе.

П е р а г у д. Гэта ў вёсцы, калі сена ўбіраюць.

Н а т а л л я. У вас з радні ёсць хто-небудзь?

П е р а г у д. Ёсць маці і сястра замужняя. У калгасе пад Барысавам.

Н а т а л л я. У вас, мусіць, добрая маці?

П е р а г у д. Хіба маці можа быць дрэннай?

Н а т а л л я *(са смуткам)*. А я не помню свае маці. Пры мачасе расла.

З дзвярэй, што вядуць на сцэну, уваходзіць Ш у м е й к а.

Ш у м е й к а. Дзе вы прапалі, Наталля Мікалаеўна? Вам выступаць зараз.

Н а т а л л я. Яшчэ не прапала, таварыш Шумейка. Вы якраз упору прыйшлі і выратавалі.

Ш у м е й к а. Гэта ўсё ён вінават. Прыйдзецца далажыць камандзіру палка, што вечар зрывае. Калі ласка, Наталля Мікалаеўна. Ваш партнёр там страшна хвалюецца.

Бярэ яе пад руку і вядзе за кулісы. П е р а г у д ідзе ў залу, не зачыніўшы за сабой дзвярэй, праз якія відаць пярэднія рады крэслаў і рог эстрады. У фае ўваходзяць К а р а н е в і ч і Р ы б н і к а ў. За імі л е й т э н а н т — дзяжурны па часці.

Караневіч *(дзяжурнаму)*. Дадатковы патруль ад чацвёртай роты. Самі не спіце, часцей правярайце.

Рыбнікаў. Сусед не дрэмле, і нам спаць не паложана.

Караневіч. Перадайце ўсім камандзірам рот і начальнікам каманд, што я загадаў атрымаць на складзе поўны камплект боепрыпасаў.

Дзяжурны. Заняткаў заўтра не будзе?

Караневіч. Не, будзе выхадны. Усе падраздзяленні павінны прывесці сябе ў поўную гатоўнасць на выпадак, калі падасца каманда — шагам марш.

Дзяжурны. Ёсць, таварыш маёр.

Рыбнікаў. Усім палітрукам і іх намеснікам заўтра ў дзесяць ноль-ноль сабрацца тут, у клубе.

Дзяжурны. Ёсць, таварыш камісар. Можна ісці?

Караневіч. Ідзіце.

Дзяжурны паварочваецца і, адбіваючы крок, ідзе да дзвярэй.

А сюды мы, здаецца, на шапачны разбор паспелі.

Рыбнікаў. Што, канцэрт скончыўся? Не бяда, танцы будуць.

Караневіч. Якраз работа для нас з табой.

Рыбнікаў. А што мы, старыя? *(Заглядае ў дзверы.)* Народ сядзіць, нечага чакае яшчэ.

Караневіч. Шумейка выйшаў. Зараз нешта збрэша.

Шумейка *(з эстрады)*. Таварышы, мы падышлі да апошняга нумара нашай праграмы. Апошняга па парадку, але не па якасці. Вы самі ведаеце, што на дэсерт падаюцца самыя смачныя рэчы.

Рыбнікаў *(упаўголаса)*. Давай кампот.

Шумейка. Зараз Наталля Мікалаеўна і намеснік палітрука Дубавец спяюць беларускую песню «Не шчабечуць птушкі».

Апладысменты.

Рыбнікаў. Зойдзем, паслухаем?

Караневіч. Я ўжо дома наслухаўся.

Рыбнікаў. Твая ж родная, беларуская. Ды і спявачка таксама не чужая.

Караневіч. Я люблю народную песню ў натуры. Гэта ўжо не тое: пад раяль спяваюць, пад апладысменты кланяюцца, узяўшыся за ручкі. Бывала, з дзяўчатамі на ганку — вось гэта былі песні.

Рыбнікаў. Не ўяўляю цябе спеваком ды яшчэ з дзяўчатамі на ганку.

Караневіч. Спяваў, брат. І песні былі, і дзяўчаты былі. А якія прыгожыя песні былі! Давай тут паслухаем.

Рыбнікаў. Баішся, каб Наталля Мікалаеўна з тону не збілася, убачыўшы цябе? Давай не будзем яе канфузіць. *(Садзяцца ля адчыненых дзвярэй.)*

На сцэну выходзяць Наталля Мікалаеўна і Дубавец.

Наталля і Дубавец (*пяюць*)

Не шчабечуць птушкі,
Лес маўчыць суровы,
Друг гаворыць другу
Ды такія словы:

Рыбнікаў. А нядрэнна.
Наталля і Дубавец (*пяюць*)

Ох, як цяжка, дружа,
Свет мне пакідаці!
Ёсць у мяне жонка,
Ёсць у мяне маці...
Ёсць у мяне жонка,
Ёсць у мяне маці,
Толькі няма сілы
Галаву падняці.

Рыбнікаў. Зусім нядрэнна.
Караневіч. На паніхіду падобна.
Рыбнікаў. Ты ж муж, хіба ты можаш ацаніць?
Наталля і Дубавец (*пяюць*)

Шкода мне матулі,
Маладое жонкі,
Яшчэ болей шкода
Роднае старонкі.
Маці пагаруе —
Ды ў магілу ляжа,
Жонка пагаруе —
З іншым рукі зввяжа,
А краіне роднай
Гора не пазбыцца,
Покуль крыўдзіць-ганьбіць
Вораг-чужаніца.
Будзь ёй сынам, дружа,
Ў цяжкую гадзіну,
Покуль сэрца б'ецца,
Барані радзіму.

Песня скончылася. У зале гучныя апладысменты, выгукі: «Брава!», «Біс!» Спевакі на біс не выходзяць. Замест іх выходзіць Шумейка.

Шумейка. Шаноўная публіка дарэмна турбуецца. Вашымі воплескамі яны так ашаломлены, што не апамятаюцца да наступнага разу. Вашы рукі даволі папрацавалі, цяпер дадзім работу вашым нагам. Праз пяць хвілін танцы.

Шчаслівая і ўсхваляваная, з-за кулісы ў фае ўваходзіць Наталля. З залы ў фае шпарка ўваходзіць Перагуд. Ён не заўважае, што тут сядзяць маёр і камісар, і ідзе насустрач Наталлі Мікалаеўне.

Перагуд *(трасе руку)*. Віншую... Віншую. Наталля Мікалаеўна. Слухаў я з вялікай асалодай. Хораша. Вельмі хораша.

Наталля адчувае сябе няёмка ад захаплення Перагуда і ад позірку мужа, губы якога скласіся ў іранічную ўсмешку.

Наталля. Ну, вы тут не бесстаронні. Усе ведаюць, што вы любіце беларускія песні.

Перагуд *(не выпускаючы яе рукі)*. Асабліва, калі вы іх спяваеце.

Рыбнікаў *(выручаючы Наталлю)*. Руку адарвеш.

Перагуд хутка паварочваецца на голас камісара, сканфужаны выпускае Наталліну руку і здалёк вітаецца з камандзірам палка і камісарам. Наталля падыходзіць да Караневіча.

Рыбнікаў. Ах, разбойніца! А дагэтуль скрывала.

Наталля *(вітаючыся)*. Што я скрывала ад вас?

Рыбнікаў. Талент.

Наталля. Вы вось мужа майго скрывалі ад мяне і я яго цэлы дзень не бачыла.

Рыбнікаў. Муж ваш нікуды ад вас не ўцячэ. Вы падалі голас, і ён адразу тут як тут.

Наталля *(Караневічу)*. Няўжо ты і ў абед хоць на хвілінку не мог прыйсці?

Караневіч. Мусіць жа не мог, калі не прыйшоў.

Наталля *(апіраецца на яго плячо)*. А мне думаецца, што ты гэта наўмысля робіш, мне на злосць.

Караневіч. Я ж цэлы дзень толькі і думаю аб тым, каб табе прыкрасць зрабіць якую-небудзь.

Наталля. Ты ведаеш, Коля, якая гэта нуда! Сядзі цэлы дзень ды глядзі ў акно, ці хутка ён будзе ісці.

Караневіч. Табе пара прывыкнуць ужо да гэтага.

Наталля. Вы чуеце, што ён кажа! Прывыкнуць... Я ж не думала, што да гэтага трэба прывыкаць. Я чакала, што гэта якнебудзь зменіцца.

Караневіч. Як гэта яно можа змяніцца? Наіўная ты жанчына.

Уваходзіць дзяжурны па часці.

Дзяжурны. Таварыш маёр, камандзір дывізіі выклікае вас да сябе. *(Да камісара.)* І вас, таварыш батальённы камісар.

Рыбнікаў *(устае)*. Вось мы з табой і патанцавалі.

Караневіч. Хопіць тут і без нас аматараў падлогу націраць. *(Позірк у бок Перагуда)*. Ногі лёгкія, галава таксама,— чаму ім не выбрыкваць!

Наталля. Коля, ты не зойдзеш па мяне?

Караневіч. Я не ведаю, калі буду вольны.

Наталля. Тады я цябе чакаць не буду, пайду адна.

Караневіч. Чаго ж табе чакаць? Я, можа, і да раніцы затрымаюся. *(Пайшоў.)*

Наталля *(памкнулася за ім)*. Коля!

Караневіч спыніўся.

Ну, як я... не вельмі дрэнна? Табе не было сорамна за мяне?

Караневіч. Гэта ты пра што?

Наталля. Пра маё выступленне.

Караневіч. Цябе ж на біс вызывалі, рукі трэслі, чаго ты ў мяне пытаешся?

Наталля. А можа, мне тваё слова даражэй за ўсякія бісы.

Караневіч. Выбачай, мне часу няма. Бачыш, выклікаюць. *(Пайшоў.)*

Наталля *(уздагон, ледзь не са слязамі)*. Добрага слова пашкадаваў для мяне. *(Садзіцца.)* Нават для гэтага яму часу няма.

Перагуд *(падыходзіць)*. Гэта каму часу няма?

Наталля. Маёру Караневічу.

Перагуд. Яму такі і сапраўды часу няма. Камандаваць палком...

Наталля. Вось і адвакат знайшоўся.

Перагуд. Выбачайце.

Наталля. А мне хіба лягчэй ад таго, што ён добры камандзір палка? Я ж таксама марыла аб нейкім сваім, хоць невялікім, месцы ў жыцці. *(Гаворыць нібы сама з сабой.)* І як яшчэ марыла. Цэлую ноч не спіш, бывала, і думкі занясуць цябе далёка-далёка наперад жыцця... І ў такой ролі сябе ўяўляла, і ў такой... І аб славе марыла. Думаеце, не? Марыла. Які б, думала, подзвіг такі зрабіць, каб мяне людзі не забылі, каб і пасля маёй смерці ўспаміналі мяне з пашанай і ўдзячнасцю? Чалавек жа хоча жыць і пасля смерці... у сваім патомстве, у сваіх справах. Шчаслівы той, каму гэта ўдаецца... *(Змоўкла ў задуменні.)*

Перагуд *(ціха)*. Гаварыце.

Наталля. І аб ім марыла, аб маім спадарожніку. Старалася ўявіць сабе яго рысы твару, яго голас, яго хаду. Сярод многіх

тысяч мужчын старалася ўгадаць таго, хто будзе мне ласкавым другам і апорай у жыцці; з кім плячо ў плячо пайду да нейкай, яшчэ не яснай мне, але вялікай мэты. І вось я сустрэла яго, тады яшчэ камандзіра роты. Наіўная дзяўчынка, у якой у галаве адны толькі мары, уявіла, што гэта ён, той самы герой, які павядзе мяне да вялікай мэты. За яго стрыманасцю, мне здавалася, хаваецца вялікая душа, якая не хоча раскрывацца перад кожным, якая раскрыецца толькі мне адной, калі паміж намі не будзе ніякіх перагародак. І вось прайшла я з ім ужо значны кусок жыццёвага шляху... Праўдзівей, не з ім, а за ім, як яго цень. Я стала прыдаткам свайго мужа, камандзіра палка. Мне страшна, калі я падумаю, што да самай смерці павінна жыць вось так, водбліскам яго святла. Дзе ж мае ідэалы? Што сталася з маімі марамі? Яны асыпаліся, як пустацвет... *(Паўза.)* Выбачайце. Набалбатала я вам, сама не ведаю чаго.

Перагуд. Мне вас шкада, Наталля Мікалаеўна.

Наталля. Не трэба, Барыс Платонавіч. Гэта так, хвіліна слабасці. Няма мне з кім падзяліцца, вось я і выбрала вас сваёй ахвярай.

Перагуд. Я ніколі не думаў, што вы пакутуеце. Мне здавалася, што ён вас любіць.

Наталля. Можа, і любіць, хіба яго разбярэш. Ён ніколі не гаворыць пра гэта. Можа, гэта любоў такая дзіўная. Ён, напэўна, лічыць, што паколькі жонка, так сказаць, праведзена загадам і залічана на ўсе віды забеспячэння, дык ніякая гаворка больш не патрэбна. Ёй застаецца толькі выконваць свае абавязкі. Вось я і выконваю гэтыя абавязкі. Выконваю цярпліва і добрасумленна, стараючыся не парушаць статута сямейнай службы. Больш, здаецца, ад мяне нічога і не патрабуецца.

Перагуд. Вы ж можаце заняцца сваёй любімай справай. Калі не памыляюся, вы мединстытут скончылі?

Наталля. Не скончыла. Толькі перайшла на чацвёрты курс, як яго сюды перавялі.

Перагуд. Дык хіба нельга прадоўжыць вучобу?

Наталля. Паехаць без яго? Ён не дазволіць.

Перагуд. А без дазволу?

Наталля. Пайсці на разрыў?

Уваходзяць Шумейка і Дубавец.

Вы нам танцы абяцалі, таварыш Шумейка, дзе ваш духавы аркестр?

Шумейка. У духавога аркестра не хапае духу пачынаць без вас.

Наталля. Выдумляйце. Вы заўсёды так: што не даробіце, дык языком дагаворыце.

Ш у м е й к а. А я вам зараз дакажу, Наталля Мікалаеўна, што аркестр даўно гатоў і толькі вас чакае.

Н а т а л л я. Дакажыце.

Шумейка адчыняе дзверы ў залу. Зала падрыхтавана да танцаў. Уздоўж сцен на крэслах сядзяць в а й с к о ў ц ы і ж а н ч ы н ы. К а п е л ь м а й с т а р стаіць перад аркестрам, гатовы ўзмахнуць палачкай.

Ш у м е й к а *(да Наталлі)*. Ну, хіба я не праўду казаў? *(Да капельмайстара.)* Таварыш капельмайстар! Наталля Мікалаеўна танцаваць хоча.

Н а т а л л я. Годзе вам трапацца.

Капельмайстар дагадліва кіўнуў галавой і ўзмахнуў палачкай. Паліліся мерныя гукі вальса.

Ш у м е й к а *(кланяючыся)*. Калі ласка, Наталля Мікалаеўна.

Усе позіркі тых, хто сядзіць у зале, накіраваны на Наталлю. Ёй няёмка.

Н а т а л л я *(да Перагуда)*. Што ж, прымем выклік гэтага звадыяша?

П е р а г у д і Н а т а л л я пайшлі ў залу.

Ш у м е й к а *(Дубаўцу)*. Як ты думаеш, да чаго гэты хлопец даскачацца?

Д у б а в е ц. А што ты ў гэтым бачыш асаблівага?

Ш у м е й к а. Асаблівага нічога, але як на гэта паглядзіць маёр?

Д у б а в е ц. Маёр можа спакойна камандаваць палком.

Ш у м е й к а. Значыць, дрэнна ты ведаеш маёра. Ён не ведае спакою з таго часу, як ажаніўся.

Д у б а в е ц. Яна не такая жанчына.

Ш у м е й к а. Якраз такая.

Д у б а в е ц. Гэта значыць?..

Ш у м е й к а. Гэта значыць — прыгожая, разумная. А ён раўнівы. Гэтага досыць, каб атруціць сабе жыццё.

Д у б а в е ц. Дзіўна.

Ш у м е й к а. Як ні дзіўна, а факт.

Д у б а в е ц. Адгэтуль вывад?..

Ш у м е й к а. А вывад такі: калі хочаш спакойна пражыць на свеце, не бяры прыгожай жонкі. З ёй адны непрыемнасці. Вазьмі якога-небудзь кракадзіла, каб на яго і глянуць ніхто не захацеў, і будзеш ты самым шчаслівым мужам на свеце: і яна цябе будзе любіць, і яе ніхто.

Д у б а в е ц. Ты сапраўды знайшоў сакрэт сямейнага шчасця. Спадзяюся, што, як старэйшы таварыш, ты мне ў гэтым і прыклад пакажаш.

Шумейка. Усё, брат, кракадзіла ніяк не знайду. Глянь вось *(паказвае ў залу)* — каго ты тут возьмеш? Усе красуні, адна ў адну. Быў адзін кракадзіл, дык і таго забраў камандзір другой роты.

Рагочуць. Уваходзяць Наталля і Перагуд.

Што ж вы, Наталля Мікалаеўна?

Наталля. Хопіць. Дадому пара.

Шумейка. Пагуляйце яшчэ. Тым часам, можа, і таварыш маёр вернецца.

Наталля. Ён, відаць, затрымаецца.

Перагуд. Дазвольце вас правесці.

Наталля. Дзякую. Я сама зайду. Вы яшчэ патанцуйце.

Перагуд. Як загадаеце.

Наталля *(падкрэслена)*. Вось так і загадваю.

Перагуд *(сумна)*. Ёсць патанцаваць.

Наталля *(падае руку Перагуду, потым Шумейку)*. Бывайце.

Шумейка *(развітваючыся)*. Мне Перагуд гаварыў, што вы цікавіцеся адной кніжкай.

Наталля. Барыс Платонавіч абяцаў мне дастаць «Гроздзі гневу».

Шумейка. Гэта кніжка ў бібліятэцы.

Наталля. Дык, можа, яе можна атрымаць?

Шумейка. Бібліятэка цяпер зачынена.

Наталля. А ключ жа ў вас, напэўна?

Шумейка. Ключ-то ў мяне. *(Дастае з кішэні ключ.)* Вось ён.

Наталля. Дык, можа, вы зробіце такую ласку і прынесяце мне гэту кніжку?

Шумейка. Выбачайце, Наталля Мікалаеўна, хіба пазней крыху. Цяпер я не магу адлучыцца. А то, калі хочаце, вось вам ключ... Можаце самі ўзяць.

Наталля. Я не знайду.

Шумейка. Ён вам паможа.

Наталля *(бярэ ключ)*. Дзякую. *(Да Перагуда.)* Памажыце, Барыс Платонавіч.

Перагуд з радасцю ідзе за ёю.

Шумейка. Бачыў, як ён заззяў?

Дубавец. А гэта добра, калі чалавек любіць.

Шумейка. А калі дарэмна?

Дубавец. Нават калі дарэмна. Тады ведаеш...

Шумейка. Ведаю, Косця. Давай не будзем. Давай лепш патанцуем.

Ідуць у залу, запрашаюць дам і далучаюцца да танцаў. У самы разгар танцаў аднекуль з вуліцы данёсся сігнал баявой трывогі. Гукі ражка становяцца ўсё больш выразнымі. Танцоры, прыслухоўваючыся, нерухома застылі. Гледзячы на іх, замёр з паднятай палачкай капельмайстар, і сціх аркестр. Тады гукі трывогі напоўнілі фае і залу. Байцы і камандзіры, пакінуўшы сваіх дам, рынуліся ў дзверы. За імі сталі паспешна выходзіць жанчыны. Праз хвіліну зала апусцела. Уваходзіць Караневіч. Ён спыніўся ў дзвярах і прыслухаўся да цішыні. Хацеў выйсці назад, а потым перадумаў, увайшоў у залу. Заглянуў на сцэну. Вярнуўся ў фае.

Караневіч *(сам сабе)*. Што за чорт!

Уваходзіць Шумейка, здалёк казырае маёру.

Вы Наталлі Мікалаеўны не бачылі?

Шумейка. Яна недзе тут. Паліто яе на вешалцы.

Караневіч. Адна? Што ж яна тут робіць?

Шумейка. Там яшчэ плашч нейкага лейтэнанта.

Караневіч. Знайдзіце мне яе.

Шумейка выходзіць за дзверы. Караневіч паварочваецца да плаката, які вісіць на сцяне, і глядзіць ў адну кропку. З вуліцы даносіцца таропкая каманда і мерныя крокі чырвонаармейцаў. У фае ўваходзіць Наталля з кніжкай у руках, за ёю Перагуд. Караневіч рэзка паварочваецца і ўпіваецца вачыма ў Перагуда. Перагуд выцягваецца і апускае рукі па швах.

Караневіч. Да вас, таварыш лейтэнант, сігнал баявой трывогі не адносіцца?

Перагуд маўчыць.

Чаму вы не ў падраздзяленні?

Перагуд. Вінават, таварыш маёр. Я з Наталляй Мікалаеўнай... Я не хацеў яе адну пакінуць.

Караневіч. Та-ак. Прычына вельмі ўважлівая. Вам даручана ахоўваць гэты важны аб'ект, і вы не маглі сысці з паста.

Перагуд *(пакрыўджаны)*. Я без даручэння...

Караневіч. Што ж, гэта зусім па-рыцарску. Толькі рыцарства лепш за ўсё паказваць на полі бою, а не каля жаночай спадніцы.

Наталля *(з дакорам)*. Коля!

Перагуд *(абражаны)*. Ёсць паказаць рыцарства на полі бою. Дазволіце ісці?

Караневіч. Ступайце.

Перагуд паварочваецца і, адбіваючы крок, ідзе да дзвярэй.

Рыцар...

Наталля. Нашто ты яго так?..

Караневіч. Прашу ў мае службовыя справы не ўмешвацца.

Наталля. Гэта чалавечыя справы.

Караневіч. Я прашу растлумачыць, што ўсё гэта азначае.

Наталля *(зло іранізуючы)*. Вінавата, таварыш маёр. Гэта азначае, што я без вашага дазволу пагаварыла з чалавекам.

Караневіч. Ганьбіш мяне перад усім палком.

Наталля. Нікак нет, таварыш маёр.

Караневіч. Хахаля сабе завяла.

Наталля. Нікак нет, толькі прыяцеля, таварыш маёр. Дазволіце ісці? *(Ідзе да дзвярэй.)*

Караневіч *(раз'юшаны)*. Стой!

Наталля спыняецца.

Дрэнь!

Наталля. Рыцарства лепш за ўсё паказваць на полі бою.

Караневіч. Гавары, што ты з ім тут рабіла!

Наталля. Папрасіла, каб зайшоў са мной у бібліятэку, памог кніжку знайсці.

Караневіч. Так я табе і паверыў.

Наталля *(мякка)*. Дурны, таму і не верыш.

Караневіч. Дурны, гэта праўда. Абдураны муж заўсёды дурань. *(Пасля паўзы.)* Развітацца прыйшоў... Вось і развітаўся... Абняла мяне жонка на дарогу...

Наталля *(устрывожана)*. Што, гэта трывога... гэта сур'ёзна?

Караневіч. Полк выступае, значыць — сур'ёзна.

Наталля *(падыходзіць да Караневіча і бярэ за рукаў)*. Дык што ж мы робім? Коля! Даруй мне — дурніцы.

Караневіч. Адыдзі. Агідная ты мне.

Наталля. Не як жонка прашу я ў цябе прабачэння. Як жонка я не вінавата перад табой. Я вінавата ў тым, што, ведаючы твой няшчасны характар, не асцераглася і дала табе прычыну для падазрэння.

Караневіч. Што ж, можа, яшчэ сустрэнемся калі-небудзь... Тады і разбяромся ва ўсіх тонкасцях... А цяпер — не час. *(Збіраецца адыходзіць.)*

Наталля. Так і пойдзеш?.. І... не развітаешся?.. І не скажаш нічога?

Караневіч. Не магу я гаварыць з табой.

Наталля. Мы не павінны так расстацца. Я пайду з табой... Мы пагаворым... Я ж люблю цябе...

Караневіч *(цвёрда)*. Не трэба. Я хачу тут пакінуць і тваю любоў і сваю ганьбу. Там я хачу быць свабодным ад усяго гэтага. *(Ідзе да дзвярэй.)*

Н а т а л л я *(з болем).* Вар'ят... Няшчасны... Няшчасны вар'ят...

К а р а н е в і ч выходзіць.

Які недарэчны і сумны канец!.. Няўжо канец?

Яна кідаецца да дзвярэй, адчыняе, крычыць.

Коля! Коля!

Выбягае за дзверы. Голас яе паступова аддаляецца.

З а с л о н а

## АКТ ДРУГІ

### Карціна другая

Зямлянка — камандны пункт камандзіра палка. Справа — уваход, завешаны плашч-палаткай. У кутку ля дзвярэй — жалезная печка. Уздоўж сцен — два ложкі, зробленыя з падручнага матэрыялу. У левай палавіне стол на ўбітых у зямлю сасновых коліках. Ля стала — вузенькая лаўка. На стале гарыць свечка. На ложку за сталом сядзіць Р ы б н і к а ў. Перад ім разгорнута тапаграфічная карта і аркуш спісанай паперы. Перад Рыбнікавым стаіць намеснік палітрука Д у б а в е ц.

Р ы б н і к а ў (*адарваўшыся ад паперы*). Прысядзь, таварыш Дубавец, я зараз.

Д у б а в е ц. Нічога, таварыш камісар.

Падыходзіць да печкі і, прысеўшы, папраўляе паленцы. Камісар зноў нахіляецца над паперай. Час ад часу чуваць глухія ўдары гармат. Часамі гэтыя гукі больш моцныя, тады са столі зямлянкі на стол сыплецца пясок, і камісар змахвае рукавіцай альбо здзьмухвае яго з паперы і з карты.

Р ы б н і к а ў *(гукае)*. Кавальчук!

Уваходзіць К а в а л ь ч у к.

К а в а л ь ч у к. Я вас слухаю, таварыш камісар.

Р ы б н і к а ў. Звязаўся з камандзірам палка?

К а в а л ь ч у к. Першы батальён не адказвае.

Р ы б н і к а ў. А яго пасля бою бачыў хто-небудзь?

К а в а л ь ч у к. Пасля бою — не ведаю, а калі ішоў бой, ён быў з першым батальёнам. Сам званіў сюды, пытаўся, дзе вы. Я сказаў, што на левым флангу.

Р ы б н і к а ў. Абавязкова трэба звязацца.

К а в а л ь ч у к. Пайшоў тэлефаніст на лінію. Яшчэ не вярнуўся.

Рыбнікаў. Як звяжацеся, даложыце мне.

Кавальчук. Ёсць, таварыш камісар.

Рыбнікаў *(глянуўшы на Кавальчука)*. Усё. Можаце ісці.

Кавальчук. Кажуць, таварыш камісар, што ў першым батальёне шмат раненых.

Рыбнікаў. Хто гэта казаў?

Кавальчук. Ездавы другой роты. Ён таксама раненых вазіў. Санітарныя машыны не ўпраўляліся.

Рыбнікаў. Ёсць раненыя, таварыш Кавальчук.

Кавальчук. А вёскі не ўзялі?

Рыбнікаў. Возьмем, таварыш Кавальчук... Не сёння, дык заўтра.

Кавальчук *(уздыхае)*. Лепш бы сёння, таварыш камісар. *(Выходзіць.)*

Рыбнікаў. Як у вашай роце настрой, таварыш Дубавец?

Дубавец. Пытаюцца, чаму гэта здарылася?

Рыбнікаў. А вы што адказваеце на гэта?

Дубавец. Я кажу, што немец тут здорава ўмацаваўся і яго адразу не возьмеш.

Рыбнікаў. Сённяшняе наступленне — гэта, фактычна, разведка перад боем. Сёння многа праяснілася, заўтра будзе лягчэй.

Дубавец. Некаторыя трошкі засумавалі.

Рыбнікаў. Гэта зразумела. Часцей гаварыце з людзьмі. Раскажыце аб нашых поспехах на другіх участках фронту. Вось газеты свежыя. Тут пералічваюцца трафеі нашых войск на Калінінскім фронце. Сімпатычныя лічбы. І эпізоды яркія. У сваім палку таксама знойдзеце нямала прыкладаў гераізму. Неадкладна трэба выпусціць баявы лісток. Толькі ніякіх слёз, ніякіх жаласлівых слоў. Смерць героя не прыгнятае жывых, а кліча іх да новых подзвігаў. Вось так гэта трэба падаць.

Дубавец. Разумею, таварыш камісар.

Рыбнікаў. Ідзіце працуйце. Калі вернецца палітрук, скажыце, каб да мяне зайшоў.

Дубавец выходзіць. Уваходзіць Караневіч з рукой на перавязі, за ім Вера.

Рыбнікаў. А, нарэшце... Я ўжо непакоіўся. Званілі са штаба дывізіі. Папярэджвалі, што да нас камандуючы арміяй едзе. Ды ты што? Ранены?

Караневіч. Крыху зачапіла... Глупства.

Рыбнікаў. Гэта праўда, Вера?

Вера. У таварыша маёра навылётнае кулявое раненне левага перадплечча.

К а р а н е в і ч. А ты па-латыні загні, дык яно яшчэ страшней будзе. *(Да камісара.)* Хлусіць. Ніякага навылётнага ранення. Пад скурай прайшла. *(Веры.)* Ты свабодна.

В е р а. Начальнік санчасці загадаў мне даставіць вас на медпункт.

К а р а н е в і ч *(строга)*. Таварыш ваенфельчар! Я вам загадваю: адпраўляйцеся на сваё месца!

В е р а *(прыкладвае руку да галаўнога ўбору)*. Ёсць адправіцца на сваё месца.

К а р а н е в і ч. Ідзіце!

В е р а паварочваецца і выходзіць.

Іначай ад цябе не адчэпішся. *(Садзіцца ля стала і прынароўлівае раненую руку.)*

Р ы б н і к а ў. Табе, можа, сапраўды варта было б легчы ў шпіталь?

К а р а н е в і ч. Ну, а як жа! Напаскудзіў, дык цяпер самы раз змывацца. Няхай другі расхлёбвае.

Р ы б н і к а ў. А ў чым там рэч?

К а р а н е в і ч. На дзоты напароліся.

Р ы б н і к а ў. Што ж гэтыя дзоты... сягоння выраслі?

К а р а н е в і ч. Былі і раней, але нам з табой немец не сказаў пра гэта.

Уваходзяць к а м а н д у ю ч ы а р м і я й, яго а д ' ю т а н т.

К а м а н д у ю ч ы. Добры дзень!

К а р а н е в і ч і Р ы б н і к а ў *(устаюць)*. Добры дзень!

К а м а н д у ю ч ы. Вы камандзір палка?

К а р а н е в і ч. Я, таварыш генерал-маёр.

К а м а н д у ю ч ы. Дакладвайце, таварыш маёр, як вы выканалі загад камандавання.

К а р а н е в і ч. Баявая задача палком не выканана, таварыш генерал-маёр.

К а м а н д у ю ч ы. Чаму вы не выканалі?

Караневіч маўчыць.

Што, у праціўніка тут шмат сіл?

К а р а н е в і ч. Вёску абараняюць два батальёны эсэсаўцаў, узмоцненыя артылерыяй і цяжкімі мінамётамі.

К а м а н д у ю ч ы. А ў вас што?

К а р а н е в і ч. У мяне полк, таварыш генерал-маёр.

К а м а н д у ю ч ы. Плюс?

К а р а н е в і ч. Плюс дывізіён артылерыі.

К а м а н д у ю ч ы. Плюс?

Караневіч. Плюс рота танкаў.

Камандуючы. Значыць, справа не ў сіле. Сілы ў вас хапае. Можа, гітлераўцы храбрэйшыя за нашых байцоў? Можа, у іх пачуццё абавязку вышэй, чым у нас?

Караневіч. Байцы біліся храбра.

Камандуючы. Значыць, справа не ў байцах. Тады, выходзіць, у камандзірах? Але ж вы, я чуў, самі падымалі людзей у атаку.

Караневіч. Падымаў.

Камандуючы. А як жа гэта магло здарыцца?.. Полк моцны і паўнакроўны, байцы і камандзіры храбрыя, у атаку іх вядзе сам камандзір палка — і раптам такі канфуз!

Караневіч маўчыць.

Ды вы садзіцеся... Можа, маёр Пфуль, які камандуе эсэсаўцамі, больш здольны і спрактыкаваны, чым вы? Можа, ён які-небудзь асаблівы талент праявіў у гэтым баі?

Караневіч маўчыць.

Я бачу, што вы гатовы прызнаць перавагу над сабой маёра Пфуля.

Караневіч. Не, таварыш генерал-маёр.

Камандуючы. Гэта было б крыўдна і несправядліва. Маёр Пфуль ніякага асаблівага таленту тут не праявіў. Ён біў вас так, як біў бы кожны дурань на яго месцы.

Караневіч. Я разумею, у чым мая памылка, таварыш генерал-маёр.

Камандуючы. Гэта добра... Шкада толькі, што позна вы зразумелі. А каб вам было яшчэ ясней, я выклікаў яшчэ аднаго ўдзельніка гэтага бою. *(Да ад'ютанта.)* Камандзір дывізіёна прыйшоў?

Ад'ютант. Ён тут чакае, таварыш генерал-маёр.

Камандуючы. Няхай зойдзе.

Ад'ютант выбягае з зямлянкі і праз хвіліну варочаецца з Кузняцовым.

Кузняцоў. Таварыш генерал-маёр, камандзір артдывізіёна капітан Кузняцоў па вашаму загаду з'явіўся.

Камандуючы. Гэта ваша артылерыя грукоча, капітан?

Кузняцоў. Мая, таварыш генерал-маёр.

Камандуючы. Колькі снарадаў сёння выпусцілі?

Кузняцоў. Паўтара боекамплекта.

Камандуючы. Папрацавалі, значыць?

Кузняцоў. Папрацавалі, таварыш генерал-маёр.

Камандуючы. Па кім жа вы стралялі?

Кузняцоў *(крыху здзіўлены такім запытаннем)*. Па праціўніку, таварыш генерал-маёр.

Камандуючы. Я думаю, што не па сваіх.
Кузняцоў. Па пярэднім краі абароны праціўніка.
Камандуючы. Вынікі?
Кузняцоў. Праціўніку нанесены значныя страты.
Камандуючы. Вы ў гэтым упэўнены?
Кузняцоў. Упэўнен.
Камандуючы. Якія ж агнявыя кропкі вы знішчылі?
Кузняцоў. Гэтага я не магу сказаць.
Камандуючы. Чаму?
Кузняцоў. Месцазнаходжанне агнявых кропак было ўстаноўлена толькі прыблізна.
Камандуючы. Ага, значыць, вы ваюеце сёння толькі прыблізна. Страляеце ў белы свет. Думаеце, што ад аднаго вашага грукату праціўнік пабяжыць? Што ж вы камандзіра палка не папрасілі, каб ён вам больш дакладна ўказаў месцазнаходжанне агнявых кропак?

Кузняцоў збянтэжана паглядзеў на Караневіча.

Караневіч. Многія агнявыя кропкі выявіліся толькі ў працэсе бою.
Камандуючы. Значыць, вы наступалі...
Караневіч. ...Не маючы дакладных даных аб праціўніку.
Камандуючы. Ну, і наступілі... сабаку на хвост... А ён кусаецца. Дзе ж вашы вочы былі? Ваша разведка?
Караневіч. Мае вочы падвялі мяне на гэты раз.
Камандуючы *(Кузняцову)*. Вы свабодны, капітан. Спадзяюся, што з нашай размовы вы зробіце для сябе некаторыя вывады.

Кузняцоў паварочваецца і накіроўваецца да дзвярэй.

А вы не зробіце, дык мы зробім.
Кузняцоў *(у дзвярах)*. Зразумела, таварыш генерал-маёр. *(Выходзіць.)*
Камандуючы. Тыцкаецеся, як сляпыя кацяняты, у пярэднім краі абароны праціўніка. А ён вас лупіць. І будзе біць, пакуль не навучыцеся ваяваць па-сапраўднаму. Даваенны шаблон трэба забыць. Гэта не манеўры, маёр. Тут кулямёты праціўніка трапчоткамі не абазначаюцца. І пасрэднік не прыедзе з белай павязкай на рукаве, каб аб'явіць, што вы перамаглі. Тут пасрэднікам паміж вамі і праціўнікам з'яўляецца сама смерць. Яна падводзіць вынікі бою.

Караневіч маўчыць.

Колькі людзей вы сёння вялі ў атаку?
Караневіч. Батальён... Шэсцьсот чалавек.

Камандуючы. Колькі вярнулася?

Караневіч. Чатырыста восемьдзесят.

Камандуючы. А сто дваццаць?

Караневіч. Выбылі са строю, таварыш генерал-маёр.

Камандуючы. Выбылі са строю... Радзіма даверыла вам жыццё тысяч людзей не для таго, каб вы загубілі іх дарэмна. Хто хадзіў у разведку?

Караневіч. Лейтэнант Кацельнікаў.

Камандуючы. Трус, напэўна?

Караневіч. Я б гэтага не сказаў.

Камандуючы. Значыць, дурань. Гнаць к чортавай маце-ры! Падшукаць для гэтай справы людзей храбрых і здольных. Ёсць у вас такія?

Караневіч. Знойдуцца, таварыш генерал-маёр.

Камандуючы. Спадзяюся, што знойдуцца... К заўтраму вы павінны мець зусім ясную карціну абароны праціўніка. Дастаць «языка»! Аб выніках далажыць мне асабіста заўтра ў восем ноль-ноль.

Караневіч. Ёсць, таварыш генерал-маёр.

Камандуючы. Камандуючы фронтам пытаўся ў мяне пра ваш полк. Я сказаў, што полк баявую задачу выканае. Правільна я сказаў?

Караневіч і Рыбнікаў. Правільна, таварыш генерал-маёр.

Камандуючы. Раскажыце ўсім байцам, што вы далі слова выбіць заўтра праціўніка з умацаванага пункта.

Рыбнікаў. Будзе зроблена, таварыш генерал-маёр.

Камандуючы. А можа, вам цяжка будзе камандаваць? Вы, здаецца, ранены?

Караневіч. Дазвольце мне астацца, таварыш генерал-маёр.

Камандуючы. А то падлячыліся б.

Караневіч. Крыўдна будзе, калі полк уступіць на беларускую зямлю без мяне.

Камандуючы. А вы — беларус?

Караневіч. Беларус.

Камандуючы. Вы яшчэ ўспееце вярнуцца ў строй.

Караневіч. Магу не ўспець.

Камандуючы. Што ж, аставайцеся. Рад буду павіншаваць вас на беларускай зямлі. Будзьце здаровы.

Камандуючы і ад'ютант выходзяць.

Рыбнікаў. Зразумела?

Караневіч. Зразумела — мы з табой забойцы.

Рыбнікаў. Ну, гэта ты дарэмна. Ніхто цябе забойцам не называе.

Караневіч. Камандзір, які не ўсё зрабіў, каб забяспечыць поспех бою,— забойца.

Рыбнікаў. Ты ж гэтага не хацеў.

Караневіч. Ты ведаеш, чаго я хацеў. Я б хацеў разнесці гэту сволач на шматкі. Я хацеў бы нанесці ім такі ўдар, каб у іх валасы сталі дубка. Я ж кожны дзень бачу сляды іх агідных і крывавых злачынстваў.

Рыбнікаў. Аказваецца, і святое пачуццё нянавісці да ворага трэба ўмець трымаць у рамках, даць яму разумнае накіраванне. Па́ра можа і лакаматыў рухаць, і кацёл узарваць.

Караневіч. Так, я паспяшаўся, не праверыў даных разведкі. Паспадзяваўся на чалавека, а ён аказаўся дрэнню.

Рыбнікаў. Пагана выйшла, што і казаць. Але што ж караць сябе словамі? Словы тут не памогуць.

Караневіч. Што ж я — балбатун па-твойму?

Рыбнікаў. А ты чаго пакрыўдзіўся? Хіба ты адзін адказваеш за няўдачу? А я што ж, па-твойму? Палкавы поп? Мне пропаведзі гаварыць, а табе ваяваць? Мне баліць не менш, як табе. І віна наша аднолькавая.

Караневіч сядзіць пануры і суровы. Рыбнікаў сочыць за ім адным вокам.

Вось што, Мікалай Пятровіч... Ты адпачні гадзіну, а я прайду ў першы батальён. Потым абмяркуем, што і як.

Караневіч. Які там адпачынак! Трэба за работу брацца. Ты ідзі, а я з начальнікам штаба займуся.

Рыбнікаў. Каго ты думаеш паслаць у разведку? Спадзяюся, не Кацельнікава?

Караневіч. Пайшоў ён к чорту. Я яго і блізка не падпушчу да гэтай справы. Лепш сам пайду.

Рыбнікаў. Ты гэта не з гарачкі гаворыш?

Караневіч. А што? На сябе я магу спадзявацца больш, чым на каго.

Рыбнікаў. А палком заўтра хто будзе камандаваць?

Караневіч. Я і камандаваць буду.

Рыбнікаў. Ты не будзеш камандаваць.

Караневіч. Чаму?

Рыбнікаў. Цябе заб'юць у разведцы.

Караневіч. Так і кожнага могуць забіць.

Рыбнікаў. Кожнага не заб'юць, а цябе заб'юць.

Караневіч. Чаму якраз мяне? Не разумею.

Рыбнікаў. Там жа поўзаць трэба, а ты хіба папаўзеш?

Караневіч *(успомніўшы пра раненую руку)*. Цьфу ты чорт!

Рыбнікаў. Ды і няма чаго табе лезці туды, дзе і без цябе абыдзецца. У палку знойдуцца людзі для гэтага.

Караневіч. Каго ты прапануеш?

Рыбнікаў. Лейтэнанта Перагуда.

Караневіч. Ты думаеш?

Рыбнікаў. А чаму не? Разведчык. І, па-мойму, нядрэнны. Кожны дзень бывае на пярэднім краі і стала вядзе нагляданні за праціўнікам. Я не ведаю, чаму ты яму не даеш больш важных даручэнняў.

Караневіч. Бачыш... Я лічу яго чалавекам не досыць сур'ёзным. Можа, я памыляюся. У маім становішчы такая памылка магчыма.

Рыбнікаў. А якое тваё становішча?

Караневіч. Была адна дурная гісторыя, пра якую мне не хочацца гаварыць.

Рыбнікаў. Што за гісторыя?

Караневіч. Я праз гэтага чалавека любімую жанчыну страціў.

Рыбнікаў. Якую жанчыну? Калі гэта было?

Караневіч. Жонку я страціў праз яго.

Рыбнікаў. Вось гэта для мяне навіна! Наколькі я памятаю... Не, ты нешта выдумляеш.

Караневіч. Страціў, брат. Вось і пісаць не хоча.

Рыбнікаў. Не ведае, куды пісаць. Цяпер многія не пішуць.

Караневіч. Не таму... Развітаўся я з ёю дрэнна... Амаль што і назаўсёды... Абразіў, аблаяў.

Рыбнікаў. Шкада, вельмі шкада. Наталля Мікалаеўна — залатая жанчына.

Караневіч. Але ж золата і другім падабаецца.

Рыбнікаў. Хіба паміж імі што-небудзь было?

Караневіч. Не ведаю. Досыць таго, што магло быць. Тады, пад гарачую руку, я не стрымаўся і зрабіў глупства.

Рыбнікаў. Ён можа падумаць, што ты яго з рэўнасці заціраеш.

Караневіч. А калі яго заб'юць у разведцы, што яна можа падумаць пра мяне? Але справа не ў гэтым. Асабістыя меркаванні тут не могуць мець месца. Справа ідзе пра чэсць палка.

Рыбнікаў. Дык я выклікаю Перагуда.

Караневіч. Калі ты лічыш, што гэта найлепшая кандыдатура.

Рыбнікаў *(падыходзіць да дзвярэй)*. Пасыльны! Да камандзіра палка.

У дзвярах з'яўляецца пасыльны.

Пасыльны. Я вас слухаю, таварыш маёр.

Караневіч. Паклічце мне з разведроты лейтэнанта Перагуда.

Пасыльны. Ёсць паклікаць лейтэнанта Перагуда. *(Выходзіць.)*

Караневіч. Па-дурному ўсё выйшла.

Рыбнікаў. Ты мне ніколі нічога не гаварыў.

Караневіч. Хіба пра гэта прыемна гаварыць? Ды і час не такі, каб на свае балячкі скардзіцца. Гэта сёння прыйшлося так, што нельга было не гаварыць. Горш за ўсё крыўдна, што ні разу і не пагаварыў з ёю па-людску. Яна і не ведае, што я за чалавек. Так і будзе думаць, што з бервяном пражыла восем год.

Рыбнікаў. Пагаворыш яшчэ, Мікалай Пятровіч.

Караневіч. Ці жывая, невядома. Ты ж ведаеш, дзе я яе пакінуў. А калі і жывая, дык гаварыць са мной не захоча.

Рыбнікаў. А я ўпэўнены, што і яна вось так недзе пра цябе ўспамінае. Пасварыліся... Падумаеш, важнасць вялікая! Ці мала што бывае. Чаму вам зноў не памірыцца?

Караневіч. Можа, і ўспамінае. Яна добрая, магла і дараваць.

Рыбнікаў. Сына б вам або дачку. Яны б вас і памірылі.

Караневіч. Часу ўсё не было. Здавалася, перашкаджаць будзе, ад работы адрываць. Пасля вайны разумней будзем жыць.

Рыбнікаў. Гэта бясспрэчна. За гэты час людзі шмат перажылі і перадумалі. Ну, я пайшоў, Мікалай Пятровіч.

Караневіч. У першым батальёне... там камісара няма?

Рыбнікаў. Я сустрэў, калі яго везлі.

Караневіч. Вазьмі сувязнога першага батальёна. Ён добра дарогу ведае.

Рыбнікаў. Добра. *(Выходзіць.)*

Голас Перагуда. Дазвольце зайсці, таварыш маёр!

Караневіч. Заходзьце.

Уваходзіць Перагуд.

Перагуд. Таварыш маёр, лейтэнант Перагуд па вашаму загаду з'явіўся.

Караневіч. Добра. Вы абстаноўку на ўчастку палка ведаеце?

Перагуд. Ведаю.

Караневіч. Добра ведаеце?

Перагуд. У мяне ўсё занесена на схему.

Караневіч. Яна пры вас?

Перагуд. Пры мне.

Караневіч. Пакажыце.

Перагуд дастае з палявой сумкі схему. Караневіч разглядае.

Караневіч. Тут не ўсё. Сёння выявіліся новыя кропкі. Зайдзіце да начальніка штаба і ўдакладніце.

Перагуд. Ёсць.

Караневіч. Сёння пойдзеце ў разведку.

Перагуд. Слухаю.

Караневіч. Задача — дастаць «языка». Тэрмін — заўтра шэсць ноль-ноль. У восем ноль-ноль я буду дакладваць аб выніках вашай разведкі камандуючаму арміяй. Задача цяжкая, але спадзяюся, што вы з ёю справіцеся.

Перагуд. Спраўлюся, таварыш маёр.

Караневіч *(паглядзеў на Перагуда ўважліва і крыху іранічна)*. Мне падабаецца ваша ўпэўненасць, калі гэта... не легкадумнасць.

Перагуд. Пастараюся справіцца, таварыш маёр.

Караневіч. Ад поспеху разведкі залежыць поспех заўтрашняга наступлення.

Перагуд. Разумею.

Караневіч. І чэсць палка.

Перагуд. Разумею.

Караневіч. І ваша, таварыш Перагуд.

Перагуд. Гэта я таксама разумею.

Караневіч. Людзей падбярыце сабе ў разведроце. Прадумайце план аперацыі і праз тры гадзіны далажыце мне.

Перагуд. Ёсць, таварыш маёр. *(Глядзіць на гадзіннік.)*

Голас Шумейкі. Дазвольце зайсці, таварыш маёр.

Караневіч. Заходзьце.

Уваходзіць Шумейка.

Шумейка. Таварыша камісара няма?

Караневіч. Няма.

Шумейка. Яму пісьмо.

Падыходзіць бліжэй да святла і перабірае жмут пісьмаў.

Караневіч. Ты ўсё камісару носіш. Хоць бы адно мне прынёс.

Шумейка. Вам яшчэ пішуць, таварыш маёр.

Караневіч. Чаго хлусіш? Вунь жа яно.

Працягвае руку, каб узяць пісьмо.

Шумейка. Гэта не вам, таварыш маёр.

Караневіч. Як гэта не мне? Я ж па почырку бачу.

Шумейка. Гэта... таварышу Перагуду.

Аддае пісьмо Перагуду.

Караневіч *(збянтэжаны ад нечаканасці)*. Што ж ты мяне падводзіш. Казаў — мне, а... выходзіць — яму.

Шумейка. Я не казаў, таварыш маёр.

Караневіч. Ладна, ідзі.

Шумейка выходзіць. Караневіч нібы разглядае карту. Перагуд, глянуўшы на канверт, таксама збянтэжыўся і палажыў пісьмо ў кішэню.

Перагуд. Дазволіце ісці?

Караневіч. Вы задачу зразумелі?

Перагуд. Усё зразумеў, таварыш маёр.

Караневіч. Задача цяжкая і... небяспечная. Прыйдзецца жыццём рызыкаваць.

Перагуд. Я ведаю.

Караневіч. Можа, не слава, а смерць чакае там вас.

Перагуд. Што б мяне ні чакала, ваш загад будзе выканаіны, таварыш маёр.

Караневіч. Калі вы не гатовы да гэтага, я даю вам права адмовіцца ад выканання майго загаду. Я пашлю другога.

Перагуд. Вы даяце мне права быць трусам?

Караневіч. Пра гэта ніхто ведаць не будзе.

Перагуд. Можа, вы дасце мне права быць здраднікам радзімы?

Караневіч *(перамагаючы сябе).* Я не хацеў вас абразіць, і хваляваціца вам не трэба... асабліва сягоння.

Перагуд. Можна ісці?

Караневіч. Ідзіце.

Перагуд паварочваецца і ідзе да дзвярэй, Караневіч хвіліну вагаецца.

Мінутачку, таварыш Перагуд.

Перагуд. Я вас слухаю, таварыш маёр.

Караневіч. Вы мне не скажаце, дзе Наталля Мікалаеўна?

Перагуд. Я не ведаю.

Караневіч. Не хочаце сказаць. Яна вам піша. Гэта ад яе пісьмо.

Перагуд. Я яшчэ не чытаў.

Караневіч. Мне цяжка вас прасіць аб гэтым, але я хацеў бы ведаць, дзе яна і што з ёю.

Перагуд *(вымае пісьмо і глядзіць на канверт).* Тут паказана палявая пошта.

Караневіч. Што ж яна... на фронце, ці што?

Перагуд. Відаць, на фронце.

Караневіч. Та-ак...

Абодва стаяць у няёмкім маўчанні.

Перагуд. Зараз... Можа, я змагу сказаць больш дакладна. *(Раздзірае канверт.)*

Караневіч. Калі ласка.

Перагуд *(прабегшы вачыма пісьмо).* Яна працуе сястрой у прыфрантавым шпіталі.

Караневіч. Пра мяне не пытаецца?

Перагуд. Просіць перадаць вам прывітанне.

**Караневіч.** А сама, нябось, не напіша.

**Перагуд.** Яна дзівіцца, што вы не адказваеце ёй на пісьмы.

**Караневіч.** На пісьмы? Ды я іх і ў вочы не бачыў. Можа, гэты шалапут Шумейка губляе іх дзе-небудзь. *(Значна павесялеўшы.)* Значыць, пісала? Дазвольце, я адрас запішу.

**Перагуд.** Калі ласка. *(Дае яму канверт без пісьма.)*

**Караневіч** *(запісваючы адрас)*. А хораша яна пела ў той вечар. Помніце?

**Перагуд.** Помню, таварыш маёр.

**Караневіч.** Вельмі хораша пела. І песня такая... душэўная. *(Аддае канверт.)* Дзякую. Ідзіце рыхтуйцеся. І... *(паціскае руку)* жадаю вам поспеху. Справы пойдуць добра, дык хутка на беларускай зямлі будзем.

**Перагуд.** Хутчэй бы, таварыш маёр. Па знаёмых сцежках лягчэй будзе ісці.

**Караневіч.** У вас хто-небудзь астаўся там?

**Перагуд.** Маці і сястра.

**Караневіч.** Чакаюць нас там. Ну, яшчэ раз жадаю вам поспеху.

**Перагуд** казырае і выходзіць. Караневіч адзін.

Па славу ці па смерць паслаў я хлапчука? Загад мой правільны... Я так павінен быў зрабіць... А разам з тым чамусьці гадка на душы, як быццам я зрабіў злачынства. Што ж, няхай будзе, што будзе... А хлопца заела... Цяпер ён на ражон палезе... Калі памрэ, мне яе тым больш не вярнуць... Пакутнікам і героем будзе ён у яе вачах. Я думаў, што рана загаілася зусім, адно ж разверадзілі і зноў баліць. Аднак жа трэба ў рукі ўзяць сябе. Заўтра бой. *(Гукае.)* Пасыльны!

Уваходзіць **пасыльны**.

Паклічце да мяне начальніка штаба.

## Карціна трэцяя

Зямлянка Перагуда. **Дубавец** сядзіць ля самаробнага століка, рыхтуе баявы лісток. **Родны** падкладвае дровы ў жалезную печку.

**Родны.** Трэба лейтэнанту хлеба падагрэць.

**Дубавец.** Падагрэй, ён зараз павінен прыйсці.

**Родны** *(дастае з чахла лапатку, бярэ на нарах буханку хлеба і сячэ яго лапаткай)*. Вот жа ўмёрз... *(Сячэ.)* Як камень.

**Дубавец.** Зранку было трыццаць пяць градусаў.

**Родны** *(кладзе кускі хлеба на печку)*. Як толькі людзі трываюць! Нам, калі прыйдзецца на марозе пераначаваць, дык жа

апранены... I валёнкі, і ватнікі, і падшлёмнікі. А як жа таму пагарэльцу, у якога ні хлеба, ні адзежы, ні кутка?.. I дзеці малыя. Шмат людзей загіне.

Дубавец. Пра сям'ю нічога не чуваць?

Родны. Пяцьсот кіламетраў за фронтам,— што пра яе пачуеш?

Дубавец. Многія выйшлі.

Родны. Куды ёй з дзіцем. На вёсцы жыла. Пакуль расшалопала, што робіцца, дык і ўцякаць не было куды. Можа, дзе ўжо зямлю парыць.

Дубавец. У цябе хто, сын ці дачка?

Родны. Сын быў... Паўлік. Цяпер яму было б ужо тры гады.

Паўза. Дубавец піша.

Сапсаваў ён мне жыццё, каб яму дабра не было.

Дубавец. Каму гэта?

Родны. Адольфу Гітлеру. Зусім я ўжо быў на дарогу выбіўся. Хату збудаваў, сын падрос — жонцы можна было на поле выходзіць. I ў калгасе справы лепш пайшлі. Можна было жыць як чалавеку. А тут на́ табе — гэты шалёны сабака. Ох, каб, здаецца, ён у мае рукі папаўся!

Дубавец. То якую б ты яму кару прыдумаў?

Родны. Расстраляць — гэта для яго мала. Мучыць — толькі сябе паганіць. Я б яго, сукінага сына, у клетку пасадзіў і ў звярынец. Няхай бы людзі глядзелі, як на пачвару, пакуль бы не здох.

Дубавец. Побач з тыграм.

Родны. Тыгру крыўдна будзе. Што ж тыгр — звер як звер. Яму так прыродай вызначана — жывіцца мясам. Яму другога выхаду няма. А калі чалавек зверам робіцца, гэта страшней. Хіба які звер праліваў столькі крыві? А яшчэ лістоўкі кідае: пераходзьце на наш бок, у нас новы парадак. Правалiся ты з сваім парадкам, гад паганы!

Дубавец. Наш парадак, выходзіць, лепшы?

Родны. Наш, дык гэта наш. Мы самі яго ўстанавілі. Калі нядобра, то мы самі і паправіць можам. А тут знайшоўся чорт лысы са сваім парадкам.

Дубавец. Раней некаторыя і не адчувалі, як ім дарага савецкая ўлада.

Родны. Мала чаго раней не адчуваў. Раней па зямлі па сваёй хадзіў і таксама нічога не адчуваў. Зямля і зямля, што ж тут такога? А цяпер, каб вярнуўся, дык, здаецца, цалаваў бы гэту самую зямлю.

Уваходзіць Перагуд.

Перагуд. Што ты робіш, Косця?

Дубавец. Баявы лісток рыхтую... Пра герояў трэба напісаць.

Перагуд. Даручы каму-небудзь. Справа ёсць.

Родны. Можа, абедаць будзеце, таварыш лейтэнант?

Перагуд. Пасля. Пайдзі пакліч мне Бондарава.

Родны. Вось ваш паёк, таварыш лейтэнант. *(Ставіць на стол паўчацвяртушкі.)* Суп і хлеб на печцы.

Перагуд. Добра.

Родны выходзіць.

Дубавец. Нашто цябе маёр выклікаў?

Перагуд. Ноччу ў разведку. «Языка» трэба дастаць.

Дубавец. Справа сур'ёзная.

Перагуд. Каб ты ведаў, ад каго я сёння пісьмо атрымаў!

Дубавец. Ад дзяўчыны — па вачах бачу.

Перагуд. Ад Наташы.

Дубавец. Ад якой Наташы? Я такой не ведаю.

Перагуд. Ад Наталлі Мікалаеўны.

Дубавец. Ах, вунь што!

Перагуд. Успомніла, разумееш, не забыла. І слухай, што яна піша! *(Дастае пісьмо і чытае.)* «Працую ў шпіталі. Ад аднаго раненага ўведала ваш адрас. Рада, што вы жывыздаровы. Пісала Мікалаю Пятровічу, але ён мне не адказаў. Напішыце мне пра яго. Мусіць, ён са мной развітаўся назаўсёды. Бог з ім! Вы самі ведаеце, што я перад ім не вінавата. Жадаю вам шчасця і здароўя. І яму таксама. Наталля Караневіч». *(Да Дубаўца.)* Вось, брат, якое пісьмо!

Дубавец. Пісьмо важнае.

Перагуд. А дурань Шумейка даў мне яго перад маёрам. На таго нібы прыску ўссыпалі. І мне было страшна няёмка.

Дубавец. Ну, і што ж ён?

Перагуд. Я думаў, узарвецца. Не, стрымаўся. Але я бачыў, як гэта яму цяжка было.

Дубавец. Усё-такі зла табе ён не зробіць.

Перагуд. Ён сумленны чалавек. Але каб я праявіў якуюнебудзь слабасць, яму, напэўна, прыемна было б адчуць сваю перавагу. Я, кажа, даю вам права адмовіцца ад выканання майго загаду... Не, таварыш маёр! Кроў з носа, а загад ваш я выканаю! І не таму, што закрануты мой гонар мужчыны і воіна, а таму, што гэта загад Савецкай Радзімы; таму, што гэта загад мае Беларусі — скатаванай, акрываўленай, зганьбаванай, якая змагаецца з апошніх сіл; таму, што гэта загад мае старой маці, якую, можа, у гэты момант фашысты на вісельню ўздымаюць. Ведаеш, Косця, начамі я часта думаю пра яе. І тады яна

з'яўляецца перада мною, як жывая. Я бачу яе маршчыністы твар, бачу працягнутыя да мяне дрыжачыя рукі. А за ёю я бачу тысячы, дзесяткі тысяч старэчых і дзіцячых рук. Усе яны цягнуцца да мяне. Мне страшна і балюча, што я так мала зрабіў, амаль нічога не зрабіў для іх паратунку. Перад іх абліччам, перад іх вялікімі пакутамі бляднеюць усе нашы крыўды, усе нашы асабістыя перажыванні і пачуцці, якія б яны моцныя ні былі.

Дубавец. Ты хораша гаворыш, Бора. У мяне, ведаеш, нават мурашкі пайшлі па целе. Але ты вельмі ўзбуджаны. Табе трэба спакойна абдумаць усё, як належыць.

Перагуд. Нічога. Гэта ўзбуджанасць паможа мне. Ідучы, я прыкінуў ужо, як буду дзейнічаць. Ты мне таксама паможаш.

Дубавец. Чаму не. З прыемнасцю.

Перагуд. Толькі ты туды, за дрот, не палезеш. Я сам пайду. Вазьму з сабой Роднага і Бондарава. А ты вазьмі чалавек дзесяць лепшых хлопцаў, і я табе пакажу месца, дзе распалажыцца, будзеш напагатове. Калі фашысты будуць нас праследаваць, выручай.

Дубавец. Добра. Дык я магу ісці рыхтаваць людзей?

Перагуд. Чакай, разам пойдзем. Ты яшчэ вось што не забудзься зрабіць... Ад таго месца, дзе ты застанешся, да нямецкага бліндажа метраў паўтараста. Прыкінь, колькі часу пройдзе, пакуль мы дапаўзём, і тады пастарайся прыцягнуць чым-небудзь увагу вартавога. Так нам лягчэй будзе справіцца з ім.

Дубавец. Будзе зроблена.

Перагуд. Толькі страляць не трэба. А то трывогу падымеш, усю справу праваліш.

Дубавец. Я што-небудзь прыдумаю. Спяю што-небудзь.

Перагуд. Вазьмі ракетніцу. Як пачуеш стрэлы ў нашым баку, дай сігнал: чырвоная ракета — «Іду на дапамогу», сіняя — «Вяду бой, не магу прыйсці».

Дубавец. Добра, буду помніць.

Уваходзяць Родны і Бондараў.

Бондараў. Па вашаму загаду з'явіўся, таварыш лейтэнант.

Перагуд. Гэта хто там з'явіўся?

Бондараў. Я, сяржант Бондараў.

Перагуд. А-а, Бондараў. Справа ёсць, таварыш Бондараў. Ты мне патрэбен.

Бондараў. Я вас слухаю, таварыш лейтэнант.

Перагуд. Пойдзеш са мной у разведку?

Бондараў. Як загадаеце.

Перагуд. Загадваць не буду. Хочаш сам — ідзі, а то другога буду шукаць.

Бондараў. Нашто ж другога? Хіба я адмаўляюся?
Перагуд. Справа сур'ёзная. Трэба фашыста дастаць.
Бондараў. Жывога?
Перагуд. А дохлы нашто ён нам патрэбен?
Бондараў. Ды яны ўсе ледзь жывыя: памерзлі.
Перагуд. Нам абы языком варочаў, а там — чорт з ім. Камандуючы загадаў «языка» дастаць. Пытаецца ў камандзіра палка: «Ёсць у вас такія арлы, якія даставяць мне жывога немца?» — «Ёсць»,— адказвае камандзір палка. А арлы гэта, выходзіць, мы: я ды вы ўдвух. Нам даверылі гэту справу. Што ж мы — пойдзем і далажым: «Таварыш маёр, мы не арлы»?
Бондараў *(смяецца)*. Арлы і ёсць.
Перагуд. Не баішся? Прыйдзецца лезці нам туды, у самую пастку.
Бондараў. А калі баяцца, дык і ваяваць няма чаго. Тады кладзіся — і лапкі ўгору. Няхай фашыст робіць з табой, што сам хоча.
Перагуд. Правільна.
Бондараў. Ён, бандыт, прыйшоў у чужую хату ды не баіцца, а я ў сваёй павінен яго баяцца? Не, у сваёй хаце я ўжо яму морду наб'ю.
Перагуд. А ты, землячок, што скажаш на гэта?
Родны. У землячка і пытацца няма чаго. Яму і Бог вялеў.
Перагуд *(Дубаўцу)*. Барысаўскі, беларуская бульба.
Родны. Хоць бы адным вокам глянуць, што там цяпер робіцца.
Перагуд. Дрэнна там, браток. Вельмі дрэнна.
Родны. Хоць бы жывыя засталіся.
Перагуд. Разаб'ём ворага і вернемся ў сваю родную Барысаўшчыну. А сябрам сваім спяём:

Бывайце здаровы, жывіце багата,
А мы ад'язджаем да свае хаты.

Родны непрыкметна змахвае слязіну.

Бондараў. А хаты то і няма, гітлеравец спаліў.
Родны. Будзем мы, будзе і хата. Адно каб вярнуцца.
Перагуд. Ну, хлопцы, цяпер за работу! Падрыхтавацца як мае быць. Праверыць гранаты, каб былі спраўныя. Затворы ў вінтоўках прамыць газай і выцерці насуха, каб не прыстывалі. Узяць ножны для рэзкі дроту; узяць палатачную вяроўку і кусок якой-небудзь анучы — фашысту на соску. Можа, санкі ўзяць? Як вы думаеце?
Бондараў. А нашто, таварыш лейтэнант?

Перагуд. На плячах валачы цяжка будзе.

Родны. Прывалаком, адно каб увабраць. А з санкамі нязручна будзе.

Перагуд. Тады ўсё. Як толькі змеркнецца — рушым. Ночы цяпер светлыя. Трэба добра маскіравацца. Ідзіце да старшыны і атрымайце ў яго пятнаццаць маскхалатаў.

Бондараў. Ёсць, таварыш лейтэнант.

Родны і Бондараў выходзяць.

Перагуд. Ну, цяпер трэба падмацавацца. Падай мне гэту слязу.

Дубавец падае чацвяртушку з гарэлкай.

Табе наліць каплю?

Дубавец. Не хачу, я паабедаў ужо.

Перагуд. Чокнуцца ж я павінен з кім-небудзь?

Дубавец *(падстаўляе кубак)*. Тады чуць-чуць.

Перагуд. Ды я многа не дам, не бойся. *(Налівае ў кубкі Дубаўцу і сабе.)* Вып'ем, Косця!

Дубавец. За што піць будзем?

Перагуд. За жанчын, якія нас помняць.

Дубавец. Якія нас любяць.

Перагуд. Пастой, не забягай наперад. Я яшчэ гэтага не сказаў. Устрымаемся, пакуль што, ад гэтага слова.

Дубавец. Як хочаш. Табе відней. Адным словам — за Наталлю Мікалаеўну.

Перагуд. За мілую, чулую, добрую Наталлю Мікалаеўну! І яшчэ за адну жанчыну, якая мяне помніць і любіць і ніколі не забудзе: за маю маму! *(Выпівае і закусвае крышаном сала. Дастае з сумкі пісьмо.)* На, брат! Толькі табе давяраю. Калі што, напішы ёй... Наталлі Мікалаеўне. Напішы, што... Ну, ды ладна... Ты мяне разумееш, сам напішаш, што трэба. Вось яшчэ картачка... Не надпісана... Гэта ёй таксама... Сам надпішаш... Эх, друг! *(Хлопае Дубаўца па калене.)* Харошы ты хлопец. Давай мы з табой пацалуемся. Пасля некалі будзе. *(Цалуюцца.)* Ну, а цяпер пайшлі! *(Надзяваюць шапкі і выходзяць.)*

Заслона

# АКТ ТРЭЦІ

## Карціна чацвёртая

Зіма. Светлая ноч. Ускраіна лесу. Дрэвы, пакалечаныя артылерыйскім агнём. Справа — нямецкі бліндаж. Гледачу відаць яго тыльная частка. У перспектыве — снежнае поле з чорнымі плямамі варонак, абрыўкі драцяной агароджы. Дзе-нідзе ўгадваюцца абрысы непрыбраных трупаў.

З коміна бліндажа віецца ледзь прыкметны дымок. Ля бліндажа — нямецкі вартавы. Ён захутаны ў лахманы, з-пад якіх месцамі відаць нямецкая вайсковая форма. Вушы абвязаны хусткай, зверху — пілотка. Вартавы ходзіць ад бліндажа да дрэва, што пасярэдзіне сцэны. Па ўсім відаць, што холадна, ён пастуквае нагой аб нагу, часам спрабуе падбегчы, потым спыняецца, нейкі час прыслухоўваецца. Супакоіўшыся, зноў пачынае хадзіць ад бліндажа да дрэва і назад. Вось ён узышоў на перакрыццё бліндажа, растапырыўся над камінком, і яго маска расплываецца ва ўсмешку: цёпла. Дым лезе ў вочы, ён жмурыцца і адварочвае твар убок. Злева выпаўзае белая фігура. Гэта — Перагуд. Ён спыніўся, прыпаў да зямлі і зліўся з ёю. Відаць толькі, як ходзяць яго плечы ад частага дыхання. Асцярожна падняў галаву і агледзеўся. Змеціў вартавога і не зводзіць з яго вачэй. Улучыўшы зручны момант, ён па-пластунску паўзе да варонкі і знікае ў ёй. Асцярожна высунуў галаву. Прычыніліся дзверы бліндажа, з іх высунулася галава ў нямецкай пілотцы. Галава паварочваецца тварам угару.

Галава. Ты, свіння! Так ты вартуеш?

Вартавы. Вельмі холадна, гер обер-яфрэйтар.

Галава. Я цябе нагрэю зараз!

Вартавы збягае з бліндажа ўніз. Галава обер-яфрэйтара хаваецца за дзвярыма бліндажа. Вартавы зноў пачынае хадзіць ад бліндажа да дрэва. Перагуд махае рукой сваім байцам, каб ішлі да яго, а сам бярэ на мушку вартавога. Байцы паўзуць. Родны залазіць да Перагуда ў варонку, а Бондараў становіцца за дрэвам. Вартавы дайшоў да бліндажа і завярнуўся назад. Раптам сярод марознае ночы пачуліся гукі песні:

Не шчабечуць птушкі,
Лес маўчыць суровы,
Друг гаворыць другу
Ды такія словы:
Ох, як цяжка, дружа,
Свет мне пакідаці.
Ёсць у мяне жонка,
Ёсць у мяне маці...
Ёсць у мяне жонка,
Ёсць у мяне маці,
Толькі няма сілы
Галаву падняці.

Вартавы спыніўся і стаў слухаць. Перагуд устае на ўвесь рост і слухае, стоячы за плячыма вартавога, потым падае знак, і Бондараў намерваецца кінуцца на вартавога. Але вартавы пачаў павольна падымаць вінтоўку да пляча. Не цэлячыся, ён страляе ў той бок, адкуль чуецца песня. Разведчыкі прыталіліся ў сваіх сховішчах. З дзвярэй бліндажа выбягае обер-яфрэйтар.

Обер-яфрэйтар *(з трывогай у голасе).* Хто тут страляе?
Вартавы. Я, гер обер-яфрэйтар.
Обер-яфрэйтар. Чаго?
Вартавы. Рус пяе.

Паказвае вінтоўкай у той бок, адкуль чуваць песня.

Обер-яфрэйтар. Дурань хлопец. Ты хочаш у песню папасці?

Вартавы бярэ вінтоўку да нагі.

Вартавы. Колькі мне яшчэ стаяць засталося, гер обер-яфрэйтар?
Обер-яфрэйтар *(вымае гадзіннік).* Дзесяць мінут.

Ён яшчэ хвіліну прыслухоўваецца і, сплюнуўшы, ідзе ў бліндаж. Вартавы ідзе да дрэва, прыстаўляе да яго вінтоўку і пачынае грэць рукі, хлопаючы адна аб адну. Пасля ён робіць бег на месцы, ледзь падымаючы ногі ў эрзацвалёнках. Песня, якая пасля стрэлу змоўкла была, зноў разлягалася над снежнай раўнінай:

Шкода мне матулі,
Маладое жонкі.
Яшчэ болей шкода
Роднае старонкі.

Вартавы *(прыслухоўваецца, потым перадражнівае песню).* Цю-лю-лю-лю-лю, цю-лю-лю-лю-лю... Рус капут!

У гэты час Бондараў выскаквае з-за дрэва і валіць гітлераўца на зямлю. Гітлеравец прабуе супраціўляцца, але Бондараў ужо схапіў яго за горла, моцна прыціснуў да зямлі.

Бондараў. Брэшаш, сволач! Рус не будзе капут.
Перагуд. Цішэй, Бондараў!

Да Бондарава падбягае Родны. Ён затыкае гітлераўцу рот і звязвае яму рукі. Перагуд навёў вінтоўку на выхад з бліндажа, гатовы палажыць кожнага, хто адтуль выйдзе.

Перагуд *(шэпча).* Цягніце! *(Махае рукой у патрэбным кірунку.)*

Родны і Бондараў, узяўшы фашыста пад пахі, валакуць яго поцягам. Перагуд застаецца ў варонцы, гатовы прыкрываць іх агнём.

Родны *(за сцэнай).* Таварыш лейтэнант!

Перагуд аглядаецца, махае рукой, што азначае «цягніце далей». Сам ён яшчэ хвіліну астаецца ў варонцы, а потым паўзе за байцамі. Праз хвіліну з бліндажа выходзіць немец з вінтоўкай. Гэта змена вартавому. Ён таксама захутаны ў лахманы. Ён на мінуту спыняецца і прыглядаецца, але нічога не бачыць.

Немец *(кліча).* Ёган! Дзе ты? Ёган!

Ён абышоў вакол бліндажа, падышоў да дрэва і заўважыў нешта на снезе. Падняў — гэта пілотка Ёгана. Немец паглядзеў на сляды і ўсё зразумеў. З пілоткай у руках ён кінуўся ў бліндаж, і праз хвіліну адтуль выскачыла з аўтаматамі і вінтоўкамі аддзяленне немцаў на чале з обер-яфрэйтарам. Яны пабеглі па следу нашых разведчыкаў.

## Карціна пятая

Няроўная мясцовасць. Рэдкія кусты, яміны. Чутны аўтаматныя і паасобныя вінтовачныя стрэлы. Уваходзіць Родны з гітлераўцам на плячах. Ён моцна стаміўся.

Перагуд *(за сцэнай)*. Лажыся!

Родны кладзе гітлераўца на снег; сам кладзецца за куст і рыхтуецца да стральбы. Адстрэльваючыся, на сцэну выбягае Перагуд, за ім Бондараў.

Перагуд. Глядзі, Бондараў, каб злева не абышлі.

Сам выбірае зручнае месца для стральбы і кладзецца.

Бондараў *(углядаецца)*. Куды прэш, гад!

Цэліцца і страляе.

Перагуд. Ты, Родны, беражы немца, каб не забілі. Адцягні яго ў лагчыну.

Родны падпаўзае і адцягвае гітлераўца ў лагчынку. Гітлеравец круціць галавой і нешта мармыча.

Родны. Ну, ну, свіння вашывая! Чаго яшчэ? На руках цябе носяць, а табе не падабаецца. Вось як парну зараз! *(Намервaецца штыком.)* Ляжы каменем. *(Паўзе на сваё месца.)*

Перагуд. Бондараў, шмат іх там?

Бондараў. Не магу палічыць, таварыш лейтэнант, яны рухаюцца. Мёртвых палічым. *(Страляе.)* Вось два ўжо.

Перагуд. Трымайся, хлопцы! Зараз падмога будзе.

Бондараў. Нам бы толькі да лясочка дабрацца, а там мы дома.

Родны. Справа сіняя ракета, таварыш лейтэнант.

Перагуд. Наша. Дубавец. Косця, Косця...

Бондараў *(прыпадымаецца і ўглядаецца перад сабой)*. Бач ты які спрытны! Вось я цябе супакою.

Цэліцца з калена і раптам выпускае з рук вінтоўку, валіцца на зямлю. Перагуд і Родны гэтага не заўважаюць.

Родны. Вунь яны... Справа хочуць абысці.

Перагуд. Бі іх, Родны! Прышпільвай да зямлі.

Родны. Заляглі.

Перагуд. Вось і добра... Зараз панясеш, а мы з Бондаравым будзем прыкрываць. Гітлераўца абавязкова трэба ў штаб даставіць.

Родны. А цяжкі, каб ён спух... Зразу ўзяў — нічога як быццам, а потым як прапёр па снезе, дык аж духі заняло.

Перагуд. Казаў я санкі ўзяць... Як у цябе там, Бондараў?

Адказу няма.

Бондараў! Ты жыў ці не? Паглядзі, Родны, што з ім.

Родны падпаўзае да Бондарава і кранае яго за нагу.

Родны. Бондараў... Бондараў... Братка мой, чаго ж ты маўчыш? *(Заглядвае яму ў твар.)* Таварыш лейтэнант!

Перагуд. Ну, што там?

Родны. Няма Бондарава.

Перагуд. Як няма? А дзе ж ён?

Родны. Нежывы ён.

Перагуд. Можа, ранены толькі?

Родны. Не, таварыш лейтэнант, не дыша. *(У бок фашыстаў.)* Гады праклятыя! Сволачы!.. *(Страляе.)*

Перагуд. Не зарывайся, асцярожна, таварыш Родны. Мы за Бондарава адпомсцім яшчэ. Вазьмі ў яго патроны і гранаты.

Родны знімае з Бондарава рэмень з падсумкамі, бярэ гранаты, цалуе мёртвага друга і адпаўзае.

Перагуд. Удвух мы з табой асталіся, Родны.

Родны. Удвух, таварыш лейтэнант.

Перагуд. Што будзем рабіць?

Родны. Будзем трымацца, пакуль Дубавец не падыдзе.

Перагуд. А ракета сіняя была?

Родны. Сіняя.

Перагуд. Гэта нам не падыходзіць, Родны.

Родны. Мы можам і адысці яшчэ, пакуль яны нас не абкружылі.

Перагуд. А немец як жа? З немцам мы не адыдзем.

Родны. Фашыста я прыкончу зараз.

Перагуд. Чакай! Не трэба... З чым жа мы да камандзіра палка прыйдзем? Бондарава страцілі, «языка» не прывялі, баявой задачы не выканалі... Што ён нам скажа? Скажа: «Баязліўцы вы! Уцяклі і загаду не выканалі!» Ты хочаш, каб цябе баязліўцам лічылі?

Родны. Не хачу, таварыш лейтэнант.

Перагуд. І я не хачу.

Родны. Але што ж рабіць?

Перагуд. Бяры немца і валачы ў штаб.

Родны. А вы як жа?

Перагуд. А я застануся. Я буду весці агонь, каб даць табе да ляска дайсці.

Родны. Аднаго вас яны напэўна заб'юць.

Перагуд. Гэта не хутка будзе. *(Раскладае вакол сябе гранаты.)* Ты паспееш выйсці з-пад агню. Далажыш маёру, што яго загад выкананы.

Родны. Яны вас у палон возьмуць і замучаць.

Перагуд. Жывы я ім не дамся.

Родны. Выйдуць патроны і гранаты, тады яны і возьмуць.

Перагуд. У мяне яшчэ ёсць наган. *(Дастае з кабуры наган і кладзе за пазуху.)* Пакуль я змагу паднесці яго да скроні, яны мяне не возьмуць.

Паўза. Чутны вінтовачныя стрэлы немцаў.

Чаму ж ты не ідзеш, Родны?

Родны. Я не магу вас пакінуць аднаго...

Перагуд. Ты павінен гэта зрабіць, іначай мы не выканаем баявога задання.

Родны. Прамяняць вас на гэтага паршывага фашыста?

Перагуд. Фашыст павінен быць на камандным пункце. Ад гэтага залежыць поспех заўтрашняга наступлення.

Родны. Гад я буду, калі камандзіра свайго пакіну на пагібель.

Перагуд. Я табе загадваю, таварыш Родны!

Родны. Не магу я такі загад выканаць.

Перагуд. Я цябе застрэлю, калі не выканаеш.

Родны. Лепш я памру.

Перагуд. Ты памрэш як здраднік, які на полі бою пе выканаў загаду свайго камандзіра.

Родны. Таварыш лейтэнант! Братка мой родны! Не загадвай ты мне гэтага! *(Плача.)*

Перагуд. Так трэба, таварыш Родны. Ідзі, а то позна будзе.

Родны *(выцірае слёзы)*. Наце вам і мае гранаты.

Падпаўзае да Перагуда і кладзе ля яго свае гранаты.

Бывайце, таварыш лейтэнант!

Перагуд. Бывай, Родны!

Родны *(падпаўзае да гітлераўца)*. Ты смяешся, гад печаны? Рад, што я плачу? Смейся, сволач! Усё роўна ўсе вы паздыхаеце. Гітлер капут! Герынг капут! Фашыст капут!

Прыгінаючыся, цягне фашыста за кусты.

Перагуд *(адзін. Углядаецца перад сабой)*. Паўзуць... Смерць мая паўзе... Спазнілася. Цяпер ты толькі жыццё маё можаш узяць, чэсць я ўратаваў.

Голас немца. Рус, здавайся!

Перагуд. Пачакай, не спяшайся.

Кідае гранату. У адказ раздаецца некалькі стрэлаў. Перагуд прыпадае да зямлі і бярэ наступную гранату.

Голас гітлераўца. Рус, кідай зброю!

Перагуд. Зараз кіну.

Кідае гранату. Цішыня. Гітлераўцы больш не страляюць.

Нясмачна?

Да Перагуда злева, збоку паўзе гітлеравец. Ён падпоўз зусім блізка і, калі Перагуд стаў на калена, каб зноў кінуць гранату, кідаецца на яго ззаду і валіць на спіну. Перагуд стараецца з-пад яго выбрацца, але фашыст моцна ўзлёг яму на грудзі.

Немец *(хрыпіць у прастору)*. Вальтэр, сюды хутчэй!

Перагуд выхапіў з ножан у немца штык і ўдарыў ім немца ў бок. Скінуўшы з сябе абвяўшага фашыста, ён усхапіўся на ногі. Убягае другі салдат і страляе ў Перагуда. Перагуд асядае на зямлю. Агляну ўшыся, салдат страляе некуды ўлева і ўцякае. Убягаюць байцы на чале з Дубаўцом. Яны праследуюць фашыстаў. За сцэнай чуваць крыкі «ўра» і шум бітвы. Дубавец уваходзіць з аўтаматам у руках. За ім баец.

Дубавец. Мы спазніліся. Вунь там нехта ляжыць. Напэўна, наш. Паглядзі, Саламацін, хто гэта.

Баец падыходзіць і заглядае мёртваму ў твар.

Баец. Бондараў.

Дубавец. Забіты?!

Саламацін *(прыпадае вухам да грудзей)*. Кончаны.

Дубавец *(ідзе далей)*. А вось яшчэ двое... Адзін фашыст і адзін наш... Гэта Перагуд. *(Нахіляецца над Перагудам.)* Бора, ты жыў?

Перагуд не адказвае.

Саламацін. Дзе ўжо там. У іх тут рукапашная была. *(Падымае штык.)* Штыком арудаваў фашыст.

Дубавец *(прыглядаецца да Перагуда)*. Рана стрэляная.

Саламацін. Дык гэта лейтэнант немца парнуў. А дзе ж трэці наш? Там, мусіць, астаўся, за дротам.

Дубавец. Такія людзі загінулі! І без карысці. З пустымі рукамі прыйдзем.

Перагуд ціха застагнаў.

Ён жывы яшчэ. *(Нахіляецца.)* Бора! Што ж ты, друг?.. Дрэнна табе?

Перагуд *(шэпча)*. Дрэнна.

Дубавец. Пацярпі, браток. Зараз мы цябе даставім... Падвёў я цябе, Бора. Спазніўся. Даруй. Мне і самому туга было.

Перагуд. Косця!

Дубавец. Што, Бора?

Перагуд. Я жыць хачу.

Дубавец. Ты і будзеш жыць.

Перагуд. Не памру я?

Дубавец. Што ты, Бора! Нашто табе паміраць? Мы з табой яшчэ паваюем.

Уваходзіць Караневіч.

Караневіч *(махае рукой назад)*. Стой там! Падрыхтавацца да адбіцця контратакі.

Да Караневіча ідзе Дубавец, каб далажыць.

Караневіч *(папярэджваючы Дубаўца)*. Што ў вас тут?

Дубавец. Немцаў адагналі, таварыш маёр.

Караневіч. А я ўжо роту прыслаў вам на выручку. Чую — стральба. Напароліся, думаю, трэба выручаць. Што яшчэ?

Дубавец. Ёсць страты... баявая задача не выканана.

Караневіч *(махае на яго рукой)*. Нічога вы не ведаеце. Дзе Перагуд?

Дубавец. Цяжкаранены. Вунь ён.

Караневіч накіроўваецца да Перагуда. Перагуд бачыць камандзіра палка і хоча прыпадняцца.

Караневіч. Ляжыце, не шавяліцеся... *(Становіцца на калені і нахіляецца над Перагудам.)* Як вы маецеся?

Перагуд *(шэпча)*. Таварыш маёр, ваш загад выкананы.

Караневіч. Родны мне далажыў. Дзякую. *(Нахіляецца і цалуе Перагуда. Кліча.)* Вера!

Вера *(за сцэнай)*. Я вас слухаю, таварыш маёр.

Караневіч. Насілкі сюды!

Падбягаюць Вера і два санітары з насілкамі.

Забярыце лейтэнанта на перавязачны пункт. Самі даставіце яго ў шпіталь. Вы мне за яго адказваеце.

Вера. Ёсць, таварыш маёр.

Санітары кладуць Перагуда на насілкі.

Караневіч. Асцярожна!

Заслона

## АКТ ЧАЦВЁРТЫ

### Карціна шостая

Палата ў прыфрантавым шпіталі. У палаце чалавекі чатыры хворых. Пасярэдзіне палаты стол і крэсла. На адным з ложкаў сядзіць ранены з перавязанай нагой. Побач з ім — мыліцы, у руках газета. На суседнім ложку Перагуд у халаце.

Перагуд. Стогне ўсё.

Ранены. Гэта той, у кутку.

Перагуд. У яго, здаецца, косць патрушчана.

Ранены. Ага. Я таксама думаў, без нагі астануся, адно ж абышлося. Доктар кажа, што, можа, нават і кульгаць не буду. На фронт наўрад ці пападу зноў. Шкада. Хацеў бы я іх апошнія сутаргі бачыць.

Перагуд. Я-то яшчэ спадзяюся ўбачыць.

Ранены. У цябе іншая справа. Праз якіх тыдні два ты будзеш зусім спраўны.

Перагуд. На фронт бы хутчэй. Там у нас цяпер пайшлі справы нядрэнна. У армейскай газеце нават пішуць пра наш полк. Чыталі сёння?

Ранены *(глядзіць у газету)*. Гэта ж дзе тут?

Перагуд. Вось тут. *(Паказвае пальцам.)*

Ранены *(чытае)*. «Часць, якой камандуе маёр Караневіч, бесперапынна гоніць ворага на захад. Учора раптоўным налётам падраздзяленні таварыша Караневіча зноў выбілі фашыстаў з двух населеных пунктаў. На полі бою праціўнік пакінуў больш чатырохсот трупаў і шмат зброі. У гэтым баі маёр Караневіч быў ранены, але не пакінуў каманднага пункта, пакуль аперацыя не была закончана».

Перагуд. Гэта мой камандзір палка.

Ранены. Баявы, відаць.

Перагуд. Баявы.

Ранены. З баявым камандзірам і памерці не крыўдна. Калі памрэш, дык ведаеш, што недарма.

Уваходзіць Наталля.

Наталля. Ну, хворы, збірайцеся, машына чакае.

Ранены. Ужо?

Наталля. Ужо.

Ранены. А што тут збірацца? Я гатоў...

Перагуд. Мне таксама збірацца?

Наталля. Хочаце хутчэй вырвацца з маіх лап? Не, вы яшчэ пачакайце.

Перагуд. Ёсць пачакаць.

Наталля. У мяне з вамі яшчэ гаворка будзе.

Перагуд. Сур'ёзная?

Наталля. Вельмі.

Ранены *(падыходзіць на мыліцах да Наталлі)*. Бывайце, сястра! *(Паціскае руку.)* Дзякую вам за ўсе клопаты... Надакучаў я вам часта...

Наталля. Шчасліва... Папраўляйцеся хутчэй ды прыязджайце фашыстаў дабіваць.

Ранены. Абавязкова. *(Затрымлівае яе руку.)* Эх, сястрыца!.. Ведаеце, што я хачу вам сказаць?

Наталля. Што ж?

Ранены. Зайздрошчу я вашаму мужу.

Наталля. Хіба вы яго ведаеце?

Ранены. Я жонку яго ведаю.

Наталля. У вас лепшая будзе.

Ранены. Наўрад. *(Падыходзіць да Перагуда.)* Бывай, таварыш.

Перагуд. Бывай, браток.

Развітваюцца. Ранены выходзіць.

І ён таксама...

Наталля. Хочацца ж чалавеку сказаць што-небудзь прыемнае на развітанне. Падыміце руку. *(Ставіць тэрмометр.)* Хворыя, яны капрызныя, як дзеці: і скардзяцца, і лаюцца, бывае. А крыўдзіцца на іх нельга. Страшэнны боль другі зносіць, вось і не стрымае, грубае слова скажа. А выпісваецца — дзякуе, слёзы на вачах. І гэтыя слёзы мілей мне за ўсякія пахвалы. Адчуваеш, што гэтаму чалавеку ты сапраўды была патрэбна.

Перагуд. І ён да самай смерці будзе помніць вас. Гляне на сляды ран сваіх і ўспомніць.

Наталля. Дзіўнае пачуццё ў мяне да маіх хворых. Мне здаецца, што маці павінна адчуваць нешта падобнае. Яны ж бездапаможныя, як дзеці. Яго і пакарміць трэба, і накрыць, і на другі бок перавярнуць, і загаварыць чым-небудзь, каб ён пра сваю больку хоць на момант забыўся. А што ў яго барада і вусы, дык ад гэтага яшчэ больш шкада яго.

Перагуд. У вас добрае сэрца.

Наталля. Не ведаю. Мне самой гэта прыемна.

Перагуд. Вы адчуваеце сябе шчаслівай?

Наталля. Шчаслівая тым, што я патрэбны чалавек, што магу несці хоць крупінку цяжару, які лёг на плечы народа. Спачатку вельмі страшна было. Наш ваенны гарадок разбамбілі. Выскачыла я амаль што ў адной кашулі і апынулася на вялікай

дарозе сярод натоўпу людзей... Ні радні, ні знаёмых. У кожнага сваё гора, і кожнаму не да цябе. Трыста кіламетраў прайшла пяшком — аб адным думала: каб выйсці толькі. А потым апамяталася: куды ж я іду? Чаго? У мяне ж ні дзяцей, ні сям'і — сама сабою. Няўжо ж я не магу быць карыснай на фронце? Тут я ўспомніла, што калісьці ў медінстытуце вучылася, і пайшла прасіцца на работу. І вось мне здаецца, што я знайшла сваё сапраўднае месца.

Урач *(прыадчыняе дзверы)*. Наталля Мікалаеўна, у вас колькі ложкаў вольных?

Наталля. Адзін, ды вось яшчэ адзін павінен вызваліцца.

Урач. Прыбываюць раненыя. Падрыхтуйцеся.

Наталля. Усё будзе гатова, Міхаіл Барысавіч. *(Да Перагуда.)* Можа, і знаёмыя будуць. Усе цяжкія з вашага ўчастка трапляюць да нас. Гэта наш паток. Толькі яны звычайна ў такім стане, што з імі і пагаварыць нельга. Пакажыце вашу тэмпературу. *(Глядзіць на тэрмометр.)* Усё ў парадку. Я думала, ці можна вас адпраўляць.

Перагуд. А вы не адпраўляйце, мне і тут добра. Пакіньце мяне тут, Наталля Мікалаеўна. Пры вас я хутчэй папраўлюся.

Наталля. Не маю права.

Перагуд. Папрасіце начальніка шпіталя.

Наталля. Не дазволіць. Нам трэба прымаць новых раненых. А вы паедзеце далей, у тыл. Там хутчэй паправіцеся.

Перагуд. Не праганяйце мяне. Мне цяжка будзе перанесці...

Наталля *(жартуючы)*. Вам нічога пераносіць не прыйдзецца. Санітары перанясуць, што трэба.

Перагуд. ...разлуку з вамі.

Наталля. Ну, гэта глупства. Гэта вашаму жыццю не пагражае. Тым больш што тэмпература ў вас нармальная.

Перагуд. Вы зноў пачынаеце здзекавацца, як некалі.

Наталля. Я і так доўга цярпела, пакуль паставіла вас на ногі. Цяпер хоць душу адвесці.

Перагуд. Але ж так вы можаце мяне зноў зваліць з ног.

Наталля. Калі вы ад нямецкай кулі выжылі, то ад маіх слоў тым больш.

Перагуд. Вы хочаце хутчэй ад мяне пазбавіцца. Як падужэю, тады я сам паеду, і даю слова больш вам на вочы не пападацца.

Наталля. Я ад вас такога слова не патрабую. Харошыя людзі не для таго трапляюцца, каб імі кідацца.

Перагуд. Дзякую. Вы мне хацелі нешта сказаць.

Наталля. Хацела...

Паўза. Яна думае, як лепш пачаць гэтую далікатную размову.

Перагуд *(пачакаўшы)*. Праз гадзіну мы ўжо не пагаворым.

Наталля. Я хацела запытацца: калі вы апошні раз бачылі яго?

Перагуд. На полі бою, калі быў ранены. Як праз сон помню, што ён падыходзіў да мяне.

Наталля. Які ён цяпер? Я нават уявіць не магу. Дрэнна мы з ім развіталіся ў той вечар.

Перагуд. А ён вас любіць.

Наталля. Адкуль вы гэта ведаеце?

Перагуд. Калі Шумейка перад ім аддаў мне ваша пісьмо, яму гэта было вельмі балюча. Шкада было глядзець на яго. Ну, і я адчуваў сябе так, нібы ўкраў у яго што, а ён мяне за руку злавіў.

Наталля. Вы такі сёе-тое ўкралі ў яго.

Перагуд. Што ж?

Наталля. Часціну таго пачуцця, якое належала толькі яму.

Перагуд. Часціну... Дробны злодзей.

Наталля. А сумленне ўсё-такі мучыць?

Перагуд. Дарэмна мучыць. Я не магу вярнуць украдзенае. Гэта не ў маёй волі.

Наталля. Як бы я хацела прымірыць вас...

Перагуд. Мы прымірыліся. Мне здаецца, што ён нават пацалаваў мяне тады.

Наталля. Гэта радзіма вас прымірыла. Я б хацела вас так прымірыць, каб вы абодва былі ў маім сэрцы і каб ніводнаму крыўдна не было.

Перагуд. Гэта немагчыма.

Наталля. Так, немагчыма.

Перагуд. Значыць...

Яна маўчыць.

Я разумею.

Наталля. Не асуджвайце мяне, Барыс Платонавіч. Вы харошы чалавек, і я вам удзячна за вашы добрыя пачуцці да мяне.

Перагуд. Я харошы, але любіце вы яго.

Наталля. Адзін час мне здавалася, што я здолею яго не любіць. Я старалася пераканаць сябе, што не люблю яго.

Перагуд. І што любіце другога.

Наталля. Так.

Перагуд. Вам гэта не ўдалося. Вы палюбілі яго яшчэ больш.

Наталля. Я ведаю, што вам балюча. Людзі ў такіх справах вялікія эгаісты. Яны заняты толькі сабою і не заўважаюць, што прычыняюць боль другім. Усё пройдзе, усё загоіцца. Дайце руку і будзем сябрамі. *(Бярэ яго руку.)*

Перагуд. Дзякую і за гэта.

Доўгая паўза.

Ён — герой, а я — хлапчук. Ён сапраўдны герой. Сягоння зноў пра яго ў газеце пішуць.

Н а т а л л я. Што пішуць?

П е р а г у д. Зноў выбіў немцаў з двух населеных пунктаў.

Н а т а л л я. Я рада за яго. *(Бярэ газету і прабягае вачыма. Устрывожаная.)* Ён ранены!

П е р а г у д. Так.

Н а т а л л я. Можа, і цяжка.

П е р а г у д. Відаць, не цяжка. Там гаворыцца, што камандаваў да канца бою.

Н а т а л л я. А толькі ж учора я ад яго пісьмо атрымала. Яно мяне ўсхвалявала і ўзрадавала. Тут ён сапраўдны, такі, аб якім я некалі марыла, якім угадвала пры першых нашых сустрэчах. Ён лепшы, чым пра яго думаюць, чым думала я, чым вы думаеце. Я прачытаю вам гэта пісьмо. Я хачу, каб вы ведалі, што гэта за чалавек, і не думалі аб ім дрэнна. Можна?

П е р а г у д. Чытайце!

Н а т а л л я *(чытае пісьмо)*. «Даруй, Наташа! Даруй мне за хамства, за абразу, за мукі, якія ты цярпела праз мяне і якіх я не заўважаў. Я лічыў сябе чалавекам ідэйным, перадавым, барацьбітом за шчасце людзей і праглядзеў жывога чалавека, які жыў, любіў і пакутаваў побач са мной. Пакутаваў ад майго цяжкога характару, ад мае нячуласці, часта наўмыснай і напускной. Я цябе любіў, але не ўмеў сказаць табе цёплага, ласкавага слова, якое ты жадала пачуць ад мяне. Я цяпер разумею, як табе было цяжка і балюча. За гэты час я шмат што зразумеў. Душа твая імкнулася да цяпла і ласкі, а натыкалася на халодную сцяну. Тады ты адвярнулася ад мяне і пайшла на выпадковы аганёк. А я палічыў гэта за жаночую легкадумнасць, за ганьбу і абразу для сябе. Я чырванею, калі ўспомню пра наша развітанне. Калі можаш, даруй і забудзь. Сягоння ў мяне радасны дзень: я ступіў на родны парог, на нашу беларускую зямлю, якая нас з табой узгадавала, на якой паміраюць у фашысцкай няволі родныя і блізкія нам людзі. Я хацеў бы, каб гэты памятны дзень быў днём нашага з табой прымірэння. Калі нам яшчэ суджана жыць разам, мы будзем жыць так, каб жыццё было для нас радасцю, а не цяжарам. З гэтай надзеяй у сэрцы я пайду далей па сваёй роднай зямлі, вырываючы яе ў ворага шматок за шматком. А калі ўпаду, дык буду падаць так, каб як мага больш абняць яе сваімі рукамі. Успамяні тады мяне добрым словам». *(Выцірае набегшыя слёзы.)*

П е р а г у д *(пасля паўзы)*. Ясна, я тут лішні!.. А раз лішні, дык і няма чаго блытацца пад нагамі ў людзей. Пагрэўся трошкі ля чужога цяпла і тупай далей...

Н а т а л л я. Я вінавата перад вамі, Барыс Платонавіч. Даруйце, калі можаце... *(Паўза.)* Калі цяжкараненны, ён трапіць да нас у шпіталь. *(Глядзіць у газету.)* Гэта было ўчора. Сёння яго могуць прывезці. *(Хвалюецца.)* Ён можа зараз прыехаць.

Перагуд. Я разумею: мая прысутнасць можа яго ўсхваляваць. *(Выходзіць.)*

Наталля. Божа, як я хвалююся! Мне думаецца, што з ім здарылася нешта страшнае. Камандаваў да канца бою. Значыць, пасля бою не камандаваў. Значыць, не мог. Хоць бы жывым даехаў. Я б яго выхадзіла. Начэй бы не спала. Рукі б свае падлажыла пад яго... Чаго ж я сяджу? Ложкі не гатовы, а я сяджу. Бялізну трэба змяніць.

Ідзе да дзвярэй. Дзверы расчыняюцца. Два санітары трымаюць насілкі з раненым.

Санітар. Куды хворага палажыць?

Наталля. Нясіце вунь на той ложак.

Санітары ўносяць раненага. Яго нягалены твар выцягнуўся, нерухомы. Наталля ідзе за насілкамі.

Не, гэта не ён... *(Углядаецца.)* Ён... Божа, як ён змяніўся! Ён спіць?

Санітар. Мусіць, прытомнасць страціў. Толькі што гаварыў, піць прасіў.

Наталля *(падыходзіць да насілак)*. Коленька, родны мой! Здужалі яны цябе, праклятыя. *(Прыкладае руку да лба.)*

Караневіч *(расплюшчвае вочы)*. Наташа... Вось як... сустрэліся... *(Змоўк.)*

Наталля. Што ж ты, родны мой? Цяжка табе? *(Бярэ рукі, мацае пульс.)* Ён памірае...

Асядае на ложак і прыпадае да грудзей нябожчыка. Як вінаватыя, на цыпачках выходзяць санітары. Увайшоў Перагуд, апранены ў дарогу. Ён стаіць нерухома і глядзіць у смутку, як уздрыгваюць Наталліны плечы.

Перагуд *(ціха, пасля доўгай паўзы)*. Бывайце, Наталля Мікалаеўна!

Наталля *(падняла галаву. Няўцямна)*. Куды ж вы? А-а... у тыл... Вас эвакуіруюць...

Перагуд. Туды, на яго месца.

Наталля *(хапае яго за руку. Страсна)*. Ідзіце! Помсціце ім, праклятым! За Радзіму! За яго! За маё забітае шчасце!

Перагуд. Я не магу замяніць цябе, камандзір мой. Але пакуль сіл маіх хопіць, я буду ісці далей па той зямлі, за якую ты аддаў жыццё сваё. Я не зганьблю сцяга палка, якім ты камандаваў. Клянуся табе ў гэтым. Даруй і бывай навекі.

Цалуе нябожчыка ў лоб і выходзіць.

Канец

*1943*

# ВАЛОДЗЕЎ ГАЛЬШТУК

*П'еса*
*ў адным акце*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Мікола Сукач — партызан, з вясковых інтэлігентаў, 36 год.

Таццяна — яго жонка, 30 год.

Агата — яго маці, старая, гадоў пад 60.

Вальтэр Плінке — камендант нямецкага гарнізона ў раённым цэнтры, капітан.

Дзея адбываецца ў акупіраваным немцамі беларускім мястэчку.

Небагаты пакой. Злева дзверы, бліжэй да гледача, пры левай сцяне, невялікая шафа. Пасярэдзіне пакоя стол, засланы абрусам. У правым пярэднім кутку невялікі туалетны столік. Над ім некалькі фатаграфій у самаробных рамках. На заднім плане праз увесь пакой фіранка, якая адгароджвае спальню.

Вечар. Гарыць невялічкая лямпа. А г а т а сядзіць на табурэтцы над старой карзінай, перабірае лахманы і адкладвае ўбок тое, што ёй патрэбна.

А г а т а *(разглядае на святло старую спадніцу)*. Дзіравая... і фунта мукі не дадуць. Каля дому яшчэ спатрэбіцца. *(Кладзе назад у карзіну. Вымае новую белую кашулю. Распасцерла і са смуткам разглядае яе, узяўшы за плечукі.)* На смерць хавала... А яна і забылася на мяне. Маладых ды здаровых хапае ёй. Чорныя слугі Люцыпара-Гітлера дзень і ноч працуюць на яе. Вынішчаюць усё здаровае, маладое ды смелае. А слабыя ды баязлівыя самі паўміраюць ад холаду, ад голаду, ад страху. *(Вымае піянерскі гальштук.)* Унучак мой любы! Пакутнік мой. Няхай бы мяне лепш забілі. Ад мяне на гэтым свеце нікому ні карысці, ні радасці. А табе ж бы жыць ды красавацца. Ляжыш... Ляжыш ты, саколік, у сырой зямельцы. Налягла яна на слабыя грудкі твае. І холадна табе, і цяжка. І не можаш ты зварухнуцца. Не можаш устаць, адпомсціць забойцам тваім. І мае рукі слабыя. І я ім нічога зрабіць не магу. А татка твой невядома дзе. І не ведае, што няма ўжо ў яго сыночка. А можа, і самога няма на свеце. А мамка твая... *(Закрывае вочы рукой і ў скрусе круціць галавой.)* Няма ў цябе мамкі, сокал мой. Адраклася яна ад цябе... Адна я ў цябе засталася. Хутчэй бы Бог прыбраў мяне адгэтуль. Хутчэй бы мне з табой спаткацца... І гальштучак новенькі. Мала ты ў ім красаваўся... Пакрасуйся хоць цяпер, голуб мой. *(Устае і падыходзіць да сцяны, дзе вісяць фатаграфіі.)* Пакрасуйся, пакуль гэтыя ірады не бачаць. *(Вешае гальштук на адну з фатаграфій, як ручнік на абраз. Углядаецца ў фатаграфію.)* Як жывы ўсё роўна... Здаецца, і скажа зараз: бабка, дай мне есці. *(Стаіць яшчэ нейкі час моўчкі*

*перад фатаграфіяй, а потым ідзе на ранейшае месца. Зноў перабірае лахманы.)* Круціцца недзе цэлы дзень. Ёй і не ў галаве, што ў хаце крошкі хлеба няма. Яе там накормяць і напояць. Людзі, людзі!.. Як вас зямля носіць!..

Бразнула клямка знадворных дзвярэй.

*(Спужана.)* Хто там?

Яна хуценька кідае лахманы назад у карзіну, але не ўпраўляецца яе зачыніць, як адчыняюцца дзверы і ў пакой уваходзіць М і к о л а. Агата ідзе яму насустрач.

Сынок мой!.. Адкуль жа цябе Бог прынёс? Думала, ужо і жывога няма. *(Абнімае яго.)*

М і к о л а. Жыў, пакуль што. *(Цалуючы старую.)* Як здаровы, мама?

А г а т а. Бяда ў нас, сынок. Вялікае гора спасцігла нас. Няма нашага Валодзькі. Забілі твайго сыночка злыдні фашысцкія.

М і к о л а *(са смуткам)*. Чуў я ўжо...

А г а т а. Дайшла і да цябе вестка.

М і к о л а. Прыходзіла да нас дзяўчына з гэтага боку. Але яна і сама чула гэта ад людзей, а як здарылася, не ведае.

А г а т а. Як жа здарылася... Камендант загад вывесіў, што не можна ў лес хадзіць: хто пойдзе без дазволу — расстрэл. А ён... ведама дзіця,— у галаве яму тыя загады: стаў на лыжы ды памчаў з горкі, як бывала. У яго і ў думках не было ў лес ехаць. А салдат злажыўся ды давай страляць. Упаў Валодзька, крычыць: «Мама! Бабка! Ратуйце!» А ён яшчэ ў ляжачага дзве кулі загнаў.

М і к о л а. Пахавалі ж хоць яго?

А г а т а. Два дні ляжаў, не дазвалялі забіраць. На допыт цягалі мяне і матку. А потым яна пайшла да каменданта, дык здаўся на яе просьбу. Не ведаю ўжо, як яна яго прасіла.

М і к о л а. Хацеў бы я на магілку на яго паглядзець.

А г а т а. Не хадзі, сынок, нікуды. Страшна ў нас. Гіцлі гэтыя так і шнырацъ, так і нюхаюць... Каго зловяць — вінават не вінават — на шыбеніцу валакуць. Камендант — звер люты.

М і к о л а. Капітан Вальтэр Плінке?

А г а т а. Капітан, ці чорт, ці д'ябал — гэтага я не ведаю, але што звер, дык звер.

М і к о л а. Чуў я пра яго.

А г а т а. Баюся я, сынок. Не ведаю, ці добра ты зрабіў, што прыйшоў сюды.

М і к о л а. Не мог я сцярпець, як дачуўся. Сваімі рукамі задушу вырадка, які яго забіў.

А г а т а. Барані цябе Бог! Яго ты не вернеш, а сябе загубіш. Пацярпі, прыйдзе і на іх пагібель.

Мікола. Не магу, мама. Душа гарыць.

Агата. Усе ж думаюць, што ты загінуў ад бомбаў. У Мінску ж тады быў якраз. І немцам гэта ў вушы ўвялі. Але сэрца маё чула, што жывы ты. А потым і вестачка прыйшла — у партызанах, немцаў б'е. Далёка, мусіць, стаіце?

Мікола. Далёка... Кіламетраў восемдзесят.

Агата. Распраніся ды адпачні крыху. Змарыўся. Дарога вялікая. А ісці трэба ўсё хаваючыся ды туляючыся. Ці гэта ж мы думалі калі, што па сваёй зямлі страшна будзе хадзіць, што ў сваю хату трэба будзе ўваходзіць крадучыся, як злодзею.

Мікола распранаецца. Пад верхняй вопраткай у яго аўтамат.

Дык гэта ж ты са стрэльбай.

Мікола. Такая наша справа.

Агата. Дай я схаваю, каб не кожны сляпы бачыў.

Мікола *(аддае ёй аўтамат і вопратку)*. Далёка не хавайце, ён мне, можа, спатрэбіцца.

Агата *(вешае аўтамат на цвік за шафай, зверху вешае Міколаву вопратку)*. Вось тут будзе. Паглядзі, каб ведаў дзе.

Мікола *(глянуўшы)*. Добра.

Агата. Галодны ж ты, мусіць, а ў хаце хоць бы што на зуб узяць. Пайду хіба да суседкі, можа, бульбы пазычыць.

Мікола. А дзе ж Таня?

Агата. А мой ты сынок, не пытайся лепш.

Мікола *(занепакоены)*. А што? Здарылася што-небудзь?

Агата. Няма ў цябе жонкі.

Мікола. Хіба і яе... таксама?

Агата. Жывая, але не жонка яна табе.

Мікола. Што гэта вы кажаце, мама?

Агата. Адраклася ад цябе і ад сына. Гулячая стала. З афіцэрамі круціцца. З самім камендантам на машыне раз'язджае.

Мікола. Гэта няпраўда! Не хачу я гэтага слухаць.

Агата. Не хацела б я табе і гаварыць, сынок.

Мікола. Каб Таня да гэтага дайшла!.. Не веру, мама. Гэта вам нагнялі.

Агата. Сама б не паверыла, каб сваімі вачыма не бачыла. Радавалася ж я, што мне Бог такую нявестку даў. Цешылася, гледзячы, як вы хораша жывяце. Каб яна слова благое сказала, каб яна вокам бессаромным на каго глянула. А тут як чэрці на яе ўсселі. Плакала, праўда, як Валодзьку забілі. Тры дні не піла, не ела. А потым аднаго дня гляджу — сядзіць перад люстэркам, валасы завівае, губы малюе. «Куды гэта збіраешся?» — пытаю. «Трэба,— кажа,— у адно месца схадзіць, да сяброўкі». Надзела

лепшую сукенку, апранулася, зняла са сцяны картачку Валодзеву, пацалавала і пайшла. З таго дня і пачалося.

Мікола. Можа, яе сілаю прымусілі?

Агата. Не, сынок. Яна ж бы сказала. Спрабавала я яе ўгаворваць. Чаго ты, кажу, знюхалася з гэтым ірадам? Цябе ж людзі праклінаюць. Табою мне вочы колюць. Сорамна на вуліцу выйсці. Як жа ты, кажу, мужу ў вочы глянеш? А мне, кажа, і глядзець не прыйдзецца. Яго, кажа, можа, ужо і на свеце няма. Сына ў мяне няма таксама. Для каго ж мне сябе берагчы?

Мікола *(з болем)*. А сэрца матчына ёсць у яе? А сумленне чалавечае?

Агата. Не ведаю, сынок. Гэта ты ў яе запытайся.

Мікола. І няўжо я такую гадзіну да сваіх грудзей туліў!

Агата *(таямнічым шэптам)*. Сюды ж прыводзіла. Аднаго вечара на машыне прывёз яе.

Мікола. Начаваў?

Агата. Не. Чаго не скажу, то не скажу. Пасядзеў мінут пяць, пацалаваў ручку і паехаў.

Мікола *(у страшным абурэнні)*. Заб'ю сцерву!

Агата. Бог яе заб'е.

Мікола. Прывядзіце мне яе, мама.

Агата. Толькі не ў хаце, сынок. Выведзі ў чыстае поле і там рабі з ёю, што хочаш.

Мікола. Я ёй спачатку ў вочы пагляджу. Прывядзіце.

Агата. Сама прыйдзе... Начаваць.

Мікола. Прывядзіце. Мне доўга тут аставацца нельга.

Агата. Не вельмі яе і знойдзеш. Пайду папытаюся ў аднае маладухі... Дзверы замкну знадворку, каб ніхто чужы не зайшоў. А яна прыйдзе, дык у яе другі ключ ёсць. *(Засоўвае карзіну з адзежай за шафу і выходзіць.)*

Мікола *(адзін, аглядае пакой)*. Усё, як і было, а якая страшная перамена. Родныя вуглы сталі мне чужымі. А колькі шчаслівых часін зазнаў я тут! Колькі радасці было, калі першы раз увёў яе за руку ў гэты пакой. Які ж шчаслівы быў, што ў мяне сын расце! Усё фашыст забраў, усё апаганіў... І за ўсё я павінен адпомсціць... За сына, за жонку, за свае пакуты, за глум і здзекі з народа. Мала... Мала праліў я паганай іх крыві. *(Падыходзіць да століка, бярэ флакон з духамі.)* Заграничныя... Пан Плінке ў Францыі ўкраў... А маёй жонцы прыдаліся. *(Нюхае.)* Пах распусты і подласці. *(З агідай кідае флакон на столік. Ідзе павольна далей, заглядае за шырму.)* І ложак засланы, як раней... Які нявінны выгляд! А тут, можа, фрыц забаўляўся. Здрада заўсёды нявіннай прыкідваецца.

Чуваць, як у сенцах бразнула клямка.

Ідзе. *(Глядзіць на дзверы ў суровай рашучасці.)* Не, я не заб'ю яе зразу. Я спачатку ў вочы ёй гляну... Зблізку, як некалі. Калі язык збрэша, дык вочы не салгуць... Яны мне ніколі не лгалі.

Адчыняюцца дзверы.

Т а ц ц я н а *(у калідоры)*. Сюды, пане капітан. Вы, здаецца, заблудзілі.

М і к о л а хаваецца за фіранку. У далейшым ён часамі асцярожна высоўвае галаву, каб бачыць, што робіцца ў пакоі. У пакой уваходзіць Т а ц ц я н а. На твары сляды перажытага гора.

Калі ласка, заходзьце!

Уваходзіць капітан П л і н к е ў франтаватай вайсковай вопратцы. Ён спыняецца ля парога і, прышчурыўшыся, аглядае пакой.

Распранайцеся. Вешайце на гэты цвік.

Таццяна паказвае цвік ля дзвярэй. Сама падыходзіць да лямпы і прыбаўляе святла.

Пайшла і святла не патушыла.

П л і н к е *(вешаючы шынель)*. Вас?

Т а ц ц я н а. Я кажу, старая пайшла, кватэру замкнула, а святла не патушыла. Дарэмна газа гарыць.

П л і н к е. Фрау Таццяна эканоміць на сто грам газа.

Т а ц ц я н а. Апошнія сто грам. Сядайце. *(Паказвае на крэсла ля стала.)*

П л і н к е *(садзіцца)*. У фрау Таццяна няма газа?

Т а ц ц я н а. Няма... Гэта яшчэ савецкая... Даваенная.

П л і н к е. Я б ахвотна вам патарыў, але для жаншынам я тарыць карошыя тухі.

Т а ц ц я н а *(распранаючыся)*. З духамі ў мяне лягчэй. Парыж вы ўжо ўзялі, а Баку яшчэ...

П л і н к е. Хутка возьмем Баку. Тады я патару вам фляконьшык газа... тоны тва. Ха-ха-ха...

Т а ц ц я н а. Дзякую, гер Плінке. Я пачакаю.

П л і н к е. Не тоўга.

Т а ц ц я н а. Абяцанага тры гады чакаюць...

П л і н к е. Не тры гады... Тры... Як гэта называць?.. драй вохэ.

Т а ц ц я н а. Месяцы?

П л і н к е. Монатэ? Найн!

Т а ц ц я н а. Тыдні?

П л і н к е. Я, я, я... Ві не верыце ў сіла нашай армій?

Т а ц ц я н а. Гэта руская прыказка такая ёсць — абяцанага тры гады чакаюць.

П л і н к е *(з гонарам)*. Мы ваюем не па рускі прыказка, а па нямецкі стратэгія. Рускі прыказка — цішэ едзеш, тальшэ будзе, а нямецкі стратэгія — шпарка ехаць, ад Берлін да Сталінград.

Т а ц ц я н а. Прабачце, пане камендант. Я не хацела абразіць вашу стратэгію.

П л і н к е. Не трэба — камендант. Я ў вашым доме госць, і вы ў мяне не на служба. Называць мяне Вальтэр.

Т а ц ц я н а. Я не адважуся вас так называць.

П л і н к е. Біттэ, я дазваляю. А вас я называць Таня, Танюша? Гут?

Т а ц ц я н а. Вы маеце права.

П л і н к е. Ві даваць мне гэта права?

Т а ц ц я н а. Вы яго самі ўзялі. Ваша права ў дуле пісталета.

П л і н к е *(задаволены)*. О, я! Гэта права для пераможац. Па гэта права я загадаю маім зольдатэн, і яны прывядуць вас на мая кватэра. Я гэта не хачу. Я гавару пра тое права, якое дае наша знаёмства. Ужо два... ві гайст ды вохэ?

Т а ц ц я н а. Тыдзень.

П л і н к е. Два тыдзень, як ві да мяне прыйшоў. Памятаць?

Т а ц ц я н а *(са смуткам)*. Я ніколі гэтага не забуду.

П л і н к е. Ваш прыгожы вочы быў заплакан. Я вас шкадаваць. Я выціраць вашы слёзы міт дзізэ тух. *(Вымае з кішэні хустачку.)*

Т а ц ц я н а. Я вам вельмі ўдзячна, гер Плінке. Вы тады абяцалі пакараць забойцу майго сына. Вы яго знайшлі?

П л і н к е. О, я!

Т а ц ц я н а. Што ж вы з ім зрабілі?

П л і н к е. Я яго не расстраляць. Зольдат знае служба.

Т а ц ц я н а. І вы яго не пакаралі?

П л і н к е. Ён дакладна выканаць мая інструкцыя, і я яму абвясціць падзяка.

Таццяна да болю закусіла губу.

Ві хацець плакаць? Не трэба, Таня. Ві не малы дзіця, ві разумець: калі расстраляць адзін зольдат за слёзы кожны матка, мы астацца без армій.

Абнімае яе за плечы. Таццяна скаланулася ад агіднасці, але стрымалася.

Не трэба плакаць, Таня. Слёзы шкодна для хараство. Як зваць ваш хлёпшык?

Т а ц ц я н а. Валодзя.

П л і н к е. Ён цяпер там, на неба. Яму ёсць добра.

У пакой уваходзіць А г а т а. Плінке адхінуўся, сеў проста, як манекен, і ўставіўся на старую. Убачыўшы Плінке, Агата ўся закалацілася і з трывогай аглянулася па баках. Саўладаўшы з сабой, яна накіравалася за фіранку.

Плінке. Які гэта старуха?
Таццяна. Маці.
Плінке. Ваш?
Таццяна. Мужа майго.
Плінке. Чаго прыйшоў?
Таццяна. Гэта яе дом.

Агата выходзіць з-за фіранкі распраненая і ідзе за шафу. Плінке праводзіць яе нядобрым поглядам. Зайшоўшы за шафу, Агата хуценька знімае з цвіка аўтамат, закручвае ў Міколаву вопратку і кладзе ў карзіну.

Плінке. Калі я з жаншын, я не хацець пабочны вока. Я вас прасіць...

Таццяна маўчыць.

Плінке *(настойліва)*. Я вас прасіць...

Агата з карзінай выходзіць з-за шафы.

Таццяна. Мама, ён не хоча, каб вы тут былі. Паначуйце сёння ў каго-небудзь.
Агата *(не стрымаўшы абурэння)*. Сука ты, сука бессаромная! *(Ідзе з карзінай за фіранку.)*
Таццяна. Я не сука, мама. Так трэба.
Плінке. Што такі сука?
Таццяна *(драўляным голасам)*. Сабакава дзеўка.
Плінке. Чаму так гаварыць?
Таццяна. Яна злосная на мяне.

Агата выходзіць з-за фіранкі без карзіны.

Плінке. Я яго праганяць. Матка, гераус! *(Паказвае на дзверы.)*
Агата *(спакойна)*. Сам ты гераус.
Плінке. Пашоль вон!
Агата. Кожны злыдзень будзе распараджацца ў маёй хаце.
Плінке *(крычыць)*. Гераус! Шнэль!

Выхапіў пісталет. З-за фіранкі на яго накіроўваецца дула аўтамата.

Таццяна *(кладзе сваю руку на яго)*. Вальтэр...
Агата. Пёс шалёны!

Выходзіць. Дула аўтамата знікае.

Плінке. Што такі п'ёс?
Таццяна. Сабака.
Плінке. Дэр гунд! О-о-о! Чаму ві не дазваляць застраляць?
Таццяна. Яна старая, дурная баба.

П л і н к е. Дурная?

Т а ц ц я н а. Вядома, дурная.

П л і н к е. Чорт з ім. *(Кладзе пісталет на стол.)*

Таццяна прагна глядзіць на пісталет.

Ві спужацца?

Т а ц ц я н а. Я прывыкла да стрэлаў. Які ў вас прыгожы пісталет! *(Працягвае руку, каб узяць.)*

П л і н к е. Прабачаць! *(Паспешна хапае пісталет.)*

Т а ц ц я н а *(нервова засмяяўшыся)*. Вы мяне баіцеся?

П л і н к е. Вы можаце памыляцца і пападаць у мяне.

Т а ц ц я н а. Я не памылюся.

П л і н к е *(разраджае пісталет і дае Таццяне)*. Біттэ.

Таццяна бярэ пісталет, які яе ўжо не цікавіць, і разглядае.

Мошна курыць?

Т а ц ц я н а. Калі ласка.

Плінке ідзе да шыняля па папяросы. Таццяна, прымерваючыся, цэліцца яму ў спіну, потым з маркотным выглядам кладзе на стол не патрэбны ёй пісталет.

П л і н к е *(адчыніўшы партсігар)*. Біттэ.

Т а ц ц я н а. Не куру.

Плінке закурвае. Зацягнуўшыся, аглядае пакой. Позірк яго спыніўся на чырвоным гальштуку.

П л і н к е *(выпускаючы дым)*. О-о-о! Ротэ фанэ! Бальшавіцкі сцяг!

Т а ц ц я н а. Гэта гальштук.

П л і н к е *(падыходзіць да сцяны і разглядае картку)*. Валёдзя?

Т а ц ц я н а. Так.

П л і н к е. Піонір, піонір?..

Т а ц ц я н а. Ён быў піянерам.

П л і н к е. Малады бальшавік.

Таццяна маўчыць.

Маршыраваць у піянерскі атрад і спяваць антыфашыскі песень. Якіх песень ён спяваць?

Т а ц ц я н а. Усякія.

П л і н к е *(хітра)*. О, я снай. *(Напявае.)* Раз, два, тры, піоніры мы, мы фашыстаў не баімся, пойдзем на штыкі. Я снай. *(Разглядае другую картку.)* Гэта хто?

Т а ц ц я н а. Муж.

П л і н к е. Мужыцкі твар.

Т а ц ц я н а. Ён быў з мужыкоў.
П л і н к е. Вы яго любіце?
Т а ц ц я н а. Любіла.
П л і н к е. Ён не можа цаніць ваша хараство.
Т а ц ц я н а. Чаму вы так думаеце?
П л і н к е. Яму не такі шонка трэба.
Т а ц ц я н а. А якая ж?
П л і н к е. Яму трэба кароф.

Таццяна маўчыць.

Дзе муж?
Т а ц ц я н а. Загінуў.
П л і н к е *(хітра грозіць ёй пальцам)*. Я што-небудзь снай пра ваш муж.
Т а ц ц я н а *(устрапянулася)*. Знаеце? Скажыце мне! Хоць што-небудзь скажыце пра яго, пане Плінке!
П л і н к е. Вы таксама снай.

Таццяна моўчкі адварочваецца. Плінке падыходзіць да яе ззаду і абнімае за плечы. Таццяна скаланулася, нібы да яе дакранулася змяя.

Танюша сумаваць? Не трэба. У мяне ёсць што-небудзь для весялосць. Айн момэнт...

Ідзе да шыняля і з бакавой кішэні дастае пляскатую паходную бутэльку і плітку шакаладу. Садзіцца за стол і адчыняе бутэльку. Корак служыць і чаркай. Налівае віно.

Французскі... Віно мы п'ём французскі, табака курым грэчаскі, масла ядзім дацкі, сыр галандскі, хлеб украінскі, бульба беларускі.
Т а ц ц я н а. А ваша што?
П л і н к е. Наш? Наш фауст.
Т а ц ц я н а. Якое дачыненне мае Гётэ да беларускай бульбы?
П л і н к е. Гётэ? Найн! Не той Фауст. Гэты фауст. *(Паказвае кулак.)* Нямецкі гэты называць фауст. Мы з ім робіць спачатку так *(паказвае ўдар)*, потым так *(заграбае пяцярнёй у паветры)*, і ўсё ў нас ёсць. Біттэ!

Падае Таццяне чарку. Яна бярэ і залпам яе перакульвае. Пінке прыемна здзіўлены.

О-о-о!
Т а ц ц я н а *(страсянуўшы галавой, працягвае руку з чаркай)*. Яшчэ!

Плінке налівае, і яна так жа выпівае другую чарку.

П л і н к е. Гох! Малядзец! Яшчэ?

Т а ц ц я н а. Потым.

П л і н к е *(наліўшы сабе).* За вялікая Германія на ўвесь свет! Гайль! *(Выпівае чарку. Налівае другую.)* За перамога нашай армій! Гайль! *(Выпівае. Налівае трэцюю. Устае.)* За фюрэр! Гайль! *(Выпівае. Прапануе Таццяне шакалад.)* Біттэ!

Таццяна адломлівае кавалачак шакаладу і нехаця жуе.

Чаму, Танюша, невясёлы? Шкадаваць хлёпшык? *(Абнімае і спрабуе пацалаваць.)* Я ваш хлёпшык.

Т а ц ц я н а *(ухіляючыся).* Хлопчык не ўмее сябе трымаць.

П л і н к е *(нахабна).* Але ён умець вас трымаць. *(Груба абнімае, закідвае яе галаву, намерваецца пацалаваць у губы.)*

З-за фіранкі зноў накіроўваецца на яго дула аўтамата.

Т а ц ц я н а *(ускаквае, стрымліваючы гнеў).* Ён трошкі хам.

П л і н к е. Ён харошы хлёпшык, толькі ён ужо вялікі і хацець абнімаць жаншына. *(З выклікам.)* А ві не хацець?

Т а ц ц я н а. Як я смею не хацець? Калі я не хацець, дык гэты хлопчык робіць так. *(Пераймае Плінке.)* Потым так, і ўсё ў яго ёсць.

П л і н к е *(абражаны).* Вам гэта не падабаецца? Ві хацець, каб я быць піонір? *(З хітрай злосцю.)* Біттэ! Айн момэнт! (*Ён зрываецца з месца, зрывае з фатаграфіі Валодзеў гальштук і вешае сабе на шыю. Парадзіруючы, пяе.)* Раз, два, тры, піонеры мы, мы фашыстаў не баімся, пойдзем на штыкі.

Т а ц ц я н а *(абражаная да глыбіні душы гэтым кашчунствам, страсна, са слязамі ў голасе, падхоплівае песеньку).* Раз, два, тры, піянеры мы, мы фашыстаў не баімся, пойдзем на штыкі.

П л і н к е *(прыемна здзіўлены).* О-о-о-о! Гут! *(Маршыруючы на месцы, з новым азартам пяе тую ж песеньку.)*

Т а ц ц я н а. Хлёпшык не ўмее гальштук завязаць.

П л і н к е *(спыняецца збянтэжаны).* Як? *(Няўмела завязвае гальштук.)* Так?

Т а ц ц я н а. Не так. *(Злёгку хістаючыся, падыходзіць да Плінке, заварочвае канцы гальштука назад і завязвае пятлёй.)* Раз, два, тры, піянеры мы, мы фашыстаў не баімся, пойдзем на штыкі. *(Сціснуўшы зубы, зашморгвае пятлю.)* Вось так! *(Упёршыся каленам у спіну Плінке, яна стараецца тужэй зацягнуць пятлю.)*

Плінке хрыпіць праклёны і хапаецца рукамі за шыю. Апошнім намаганнем ён перахватвае руку Таццяны і, павярнуўшыся, б'е яе кулаком па галаве. Таццяна падае, страціўшы прытомнасць. Плінке хапае са стала пісталет.

Плінке. А, фэрфлюкт!..

З ярасцю націскае курок. Пісталет не зараджаны. Плінке разгублена глядзіць на пісталет. У гэты момант Мікола, які ўжо выйшаў з-за фіранкі, хапае Плінке ззаду за гальштук.

Мікола. Мы фашыстаў не баімся, пойдзем на штыкі.

З сілай цягне гальштук, і абодва яны апынуліся за фіранкай. Плінке падае. На віду застаюцца толькі яго ногі. Нейкі час яны яшчэ сутаргава дрыгаюць, а потым выпростваюцца і заміраюць. Мікола выходзіць з-за фіранкі і падыходзіць да Таццяны. Ён нахіляецца над ёю, потым налівае ў чарку віна і ўлівае ў рот. Таццяна расплюшчвае вочы.

Таццяна. Што такое? Дзе я? *(Праводзіць далонню па твары, нібы сціраючы з вачэй пеляну.)* Хто гэта?

Мікола. Гэта я, Мікола.

Таццяна. А ён? Дзе ён?

Мікола. Яго няма.

Таццяна *(глядзіць на ногі Плінке)*. Ты яго дакончыў?

Мікола. Не бойся, родная. *(Цалуе.)*

Таццяна. Не цалуй, губы паганыя.

Мікола. Паспрабуй устаць. *(Памагае ёй устаць.)*

Таццяна стаіць, узяўшыся за стол. Мікола падносіць ёй паліто і апранае.

Апранайся хуценька. *(Сам ён апранае шынель і надзяе шапку Плінке.)* Машына яго тут?

Таццяна ківае галавой. Мікола бярэ аўтамат. Таццяна, хістаючыся, падыходзіць да сцяны і знімае фатаграфіі.

Мікола. Паехалі.

Таццяна. А мама? Яе заб'юць.

Мікола. І маму возьмем.

Бярэ Таццяну пад руку і асцярожна вядзе да дзвярэй. Таццяна беражна трымае ў руках картачкі.

Канец

*1943*

# МІЛЫ ЧАЛАВЕК

*Камедыя*
*ў трох актах, шасці карцінах*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Дзям'ян Дзям'янавіч Жлукта (ён жа Чарскі).
Клава — яго жонка.
Язва — драматург-камедыёграф.
Праменны — былы драматург і будучы паэт.
Антон Макаравіч Канягін — намеснік старшыні гарсавета.
Аляксандра Міхайлаўна — кліентка Жлукты.
Андрэй Сымонавіч — загадчык базы.
Сцяпан Андрэевіч — памочнік Жлукты.
Дзяўчына — сакратар Канягіна.
Чалавек.
Повар.
Кліенты, госці і інш.

Дзея адбываецца ў час Айчыннай вайны ў горадзе Н.

## ПЕРАД ЗАСЛОНАЙ

Язва і Праменны ўваходзяць на сцэну аднaчасова з розных бакоў.

Праменны. Прывітанне Шэкспіру!

Язва. Здароў, братка Мальер!

Праменны. Адкуль?

Язва. З тэатра.

Праменны. Што там чуваць?

Язва. Кажуць, глядач смяяцца хоча.

Праменны. Ён хоча смяяцца, а нашаму брату хоць ты плач.

Язва. Некаторыя драматургі з гэтай задачай лёгка спраўляюцца.

Праменны. Я ведаю: яны паказваюць гледачу палец. Лічаць, што калі глядач вельмі пасмяяцца захоча, дык і з пальца пасмяецца.

Язва. Смяецца, смяецца, ды нарэшце пакрыўдзіцца. За каго вы, скажа, мяне лічыце? Што я вам — блазан, што вы мне палец паказваеце?

Праменны. І чаму гэта так? Можа, таму, што ў нашай сапраўднасці няма камедыйных герояў — тарцюфаў, прастаковых, фамусавых?

Язва. Ты хочаш сказаць, што камедыя аджыла свой век?

Праменны. Сапраўды, каго нам асмейваць? Каго ты ні возьмеш, дык гэта будзе або рабочы, або калгаснік, або інтэлігент, адным словам, чалавек савецкі. Пажартаваць з яго яшчэ можна, але паспрабуй яго асмяяць. Паспрабуй вывесці на сцэну сучаснага недарасля або сучаснага скваэняк-дмуханоўскага.

Язва. Ну што ж, і паспрабуй.

Праменны. Дык жа пакрыўдзіцца.

Язва. Хто?

Праменны. Той жа савецкі глядач.

Язва. Дарэмна ты так думаеш. Калі мы будзем высмейваць сапраўдныя нашы недахопы, ён ахвотна з намі пасмяецца. Вядома, тут трэба мець зоркае вока, а не махаць куды папала. А недахопаў у нас досыць, каб іх высмейваць.

П р а м е н н ы. Недахопаў... Лавіць блох — гэта не задача вялікага мастацтва. Цябе могуць нават пахваліць за спрыт, але Гогаль з гэтага не вырасце.

Я з в а. А можа, усё-ткі паспрабуеш?

П р а м е н н ы. Не спакушай. Я даў сабе слова не мець больш справы з гэтым няўдзячным жанрам.

Я з в а. А што ж ты збіраешся рабіць?

П р а м е н н ы. Думаю пераключыцца на лірыку. Там усялякія тонкія перажыванні, узвышаныя пачуцці... Гэта заўсёды падабаецца чытачу. А калі не выйдзе, што ж, пайду хоць у дворнікі.

Я з в а. Дык ведаеш што, друг... Ідзі лепш адразу ў дворнікі.

П р а м е н н ы. А ты?

Я з в а. А я паспрабую.

П р а м е н н ы. Што, знайшоў добры аб'ект?

Я з в а. Каб доўга не шукаць, я проста хачу паказаць гледачу майго суседа.

П р а м е н н ы. Вялікі нягоднік?

Я з в а. Вельмі мілы чалавек.

П р а м е н н ы. Блыха якая-небудзь. Жадаю табе спрыту злавіць яе. Бывай!

Я з в а. Ідзі запасайся мятлой, а я папрашу, каб паднялі гэту заслону і паказалі гледачу майго суседа.

## АКТ ПЕРШЫ

### Карціна першая

Дзея адбываецца ў лістападзе 1941 г. Пакой небагатай гарадской кватэры. Пажаўцелыя абоі, стол, два-тры крэслы, старая шафа для адзення.

Уваходзяць Ж л у к т а з двума чамаданамі і К л а в а з клункамі. Абое задыхаўшыся.

Ж л у к т а *(ставіць чамаданы на падлогу)*. Фу ты! Ну, катавасія! *(Выцірае з ілба пот.)* Яшчэ трошкі, і фіга б нам была, а не пакой. Бачыла, як ён пад'ехаў? Але не на таго напаў.

К л а в а *(зняможаная садзіцца на крэсла)*. Каб яшчэ сто метраў, я б ужо не дайшла.

Ж л у к т а. Ці думаў я месяц таму назад, што чорт мяне загоніць сюды! *(Ставіць чамаданы ў кут, потым аглядае пакой.)* Ну, як табе падабаецца пакой?

Клава *(абыякава)*. А, ужо які ёсць. Зняўшы галаву, па валасах не плачуць.

Жлукта. Вось гэта ты дарэмна. Галаву маглі зняць, гэта праўда, але мы своечасова паклапаціліся, каб захаваць яе... Нават з валасамі. *(Пагладжвае яе па галаве.)* А калі ёсць галава на плячах, дык усё будзе.

Клава. Людзей гора прымусіла. Гарады іх вораг спаліў. Самі яны ледзь жывыя павыскаквалі, у чым стаялі. А наш жа горад ад фронту яшчэ далёка.

Жлукта. Ну, ведаеш... Сцеражонага Бог сцеражэ. Прыляціць, плясне — вось табе і далёка.

Клава. Усе ж асталіся. Нават заводы не эвакуіравалі.

Жлукта. Гэта іх справа. У мяне наконт гэтага свой погляд.

Клава. Гэта — кінуць кватэру, работу, маёмасць і ехаць невядома куды. І што мы тут рабіць будзем?

Жлукта. Пачакаем, агледзімся.

Клава. Работы трэба шукаць.

Жлукта. З гэтым можна не спяшацца.

Клава. Усе працуюць. Без гэтага і хлеба не дадуць.

Жлукта. Дык я ж не ўсе. Няўжо ты гэтага не заўважыла, калі ішла за мяне замуж?

Клава. І мама... Бедная мама! Як яна там будзе жыць адна?

Жлукта. Як-небудзь пражыве.

Клава. Табе што... Гэта ж не твая мама...

Жлукта. А што я мог зрабіць?

Клава. З сабой забраць.

Жлукта. Яна ж сама не захацела.

Клава. Ты ж ёй не сказаў, што ад немцаў уцякаеш. Казаў, што на работу едзеш.

Жлукта. Я тады і сам нічога не ведаў, куды еду. А браць у няпэўную дарогу такія цымбалы, як твая мама...

Клава *(абурана)*. Табе цымбалы, а мне яна мама! І ты не смей так гаварыць.

Жлукта *(абнімае яе за плечы)*. Ну, не злуйся. Нічога ёй там не зробіцца. Будзе жыць ды кватэру пільнаваць, каб не абакралі. Вернемся, дык як знойдзем... маму тваю...

Клава. Ты ж сам кажаш, што могуць прыляцець і пляснуць.

Жлукта. Што зробіш. Яна ўжо старая, пажыла. Дай Божа нам столькі пражыць.

Клава *(адштурхоўвае яго)*. Ідзі! Не гавары мне гэтага.

Жлукта *(садзіцца на крэсла)*. Тут не да парасят, калі свінню смаляць. Тут, брат, трымай вуха востра, бо і не агледзішся, як галавою наложыш. Пук — і няма Дзям'яна Дзям'янавіча. Але Дзям'ян Дзям'янавіч не дурань, каб так узяць ні з таго ні з сяго

дый памерці. Ён яшчэ жыццём не нацешыўся, а яму кажуць — памірай. Не, пачакайце, я яшчэ жыць хачу!

Клава. Усе хочуць жыць.

Жлукта. Хочуць, дык няхай жывуць. Што мне да каго? Мне хоць бы сваё жыццё захаваць, і то хопіць з мяне.

Клава. Як быццам тваё жыццё самае каштоўнае.

Жлукта. Слухай, Клава!.. Мне гэта надакучыла. Я хачу пагаварыць з табой сур'ёзна.

Клава *(здзіўлена)*. Што гэта значыць?

Жлукта. Каб не тлумачыць табе кожны раз, чаму я раблю так, а не гэтак, я хачу табе выкласці прынцыпы, якімі я кіруюся ў жыцці. Калі ты іх запомніш, дык табе кожны мой учынак будзе зразумелы.

Клава. Раней ты ніколі не гаварыў мне аб сваіх прынцыпах.

Жлукта. Не было патрэбы. А цяпер такі час, што без прынцыпаў нельга — прападзеш.

Клава. Ну, я слухаю.

Жлукта. Першы прынцып — я хачу жыць.

Клава. Ты ўжо гэта казаў.

Жлукта. Я паўтараю, каб да цябе гэта дайшло: жыць, нягледзячы ні на што. Адгэтуль маё правіла: уцякай адтуль, дзе ты можаш загінуць. Уцякай ад бамбёжкі, ад фронту, ад мабілізацыі.

Клава. А калі ўсе так будуць рабіць, хто ж будзе радзіму абараняць?

Жлукта *(з прыкрасцю)*. Зноў яна мне — усе. Усе — калі ласка — няхай абараняюць. Я іх вітаю. Але самому гінуць — лічу абсурдам. Гэта супярэчыць майму прынцыпу. Загінуў — дык і ўсё, канец. Больш ніякага жыцця няма. Так ці не?

Клава. Не зусім так.

Жлукта *(з націскам)*. Не, іменна так! Таму я і выехаў сюды. Броні ж мне не далі, і ў мяне на руках астаўся толькі вось гэты дакумент *(вымае з бакавой кішэні ваенны білет)*, які, між іншым, мяне моцна кампраметуе.

Клава. Ваенны білет? Чым жа ён цябе кампраметуе?

Жлукта *(глядзіць у білет)*. Начальніцкі склад, ВУС дваццаць восем, годны да страявой службы — гэта ўсе ўлікі супроць мяне. Лепш, калі іх зусім не будзе. *(Ірве білет.)*

Клава. Ай, звар'яцеў! *(Хапае яго за руку.)*

Жлукта. Не бойся, я ведаю, што раблю. *(Адчыняе дзверцы і кідае білет у печ.)*

Клава. А як жа, калі запытаюць?

Жлукта. Няма, згарэў. І наогул я быў зняты з учоту. Туберкулёз, рак печані, грудная жаба — ці мала што можа быць?

*(Вымае папяросу, прыкурвае ад запальніцы.)* На чым мы спыніліся? Ага... Такім чынам я астаўся жыць. А раз я жыву, дык я хачу жыць па-людску. Разумееш?

Клава. Ну, разумею: гэта значыць, як людзі жывуць.

Жлукта. Э, не, не тое. Людзі жывуць па-рознаму, і рэдка хто жыве па-людску. Я хачу па-людску апранацца, па-людску есці, па-людску піць, па-людску любіць. Пакуль што я нічога гэтага не маю.

Клава *(пакрыўджаная)*. Дзякую за шчырасць.

Жлукта. Ах, выбачай! Што да любві, дык гэта я маю ў дастатковай колькасці. А ўсё астатняе прыйдзецца набываць.

Клава. Якім чынам?

Жлукта. Вядома, не працай, якую ты маеш на ўвазе.

Клава. Тады што ж? Злачынства?

Жлукта. О не! Я не такі дурань, каб рызыкаваць зноў жа такі жыццём або свабодай.

Клава. Я не ведаю, як можна, не працуючы, сумленным спосабам дабіцца таго, аб чым ты гаворыш?

Жлукта. Нам трэба дамовіцца наконт таго, што мы называем сумленным. Я лічу сумленным усё тое, што не падыходзіць пад артыкул крымінальнага кодэкса.

Клава. Хоць бы і так, усё роўна я не бачу, якім спосабам...

Жлукта. Ёсць такі спосаб.

Клава. Ты мяне проста заінтрыгаваў.

Жлукта. Я спадзяюся, што ты будзеш маім саюзнікам.

Клава. Што я павінна буду рабіць?

Жлукта. Галоўнае — не перашкаджаць мне.

Клава. І ўсё?

Жлукта. Бадай што і ўсё.

Клава. Пастараюся, калі гэта не будзе занадта агідна.

Жлукта. Тут асаблівай чысцёхай быць не прыходзіцца.

Клава. З чаго ж ты думаеш пачынаць?

Жлукта. З візітаў. Трэба пазнаёміцца з начальствам, паказаць, што я нешта такое-гэтакае, аб чым я скромна маўчу, але аб чым яны могуць дагадвацца. Вось не ведаю, як гэта ў мяне выйдзе. Сядзь, калі ласка, за стол, як быццам ты начальства, а я ўвайду.

Клава. Яшчэ што выдумай!

Жлукта. Сядзь! Што табе — цяжка?

Клава садзіцца за стол. Жлукта выходзіць за дзверы. Стукае ў дзверы.

Клава. Зайдзіце!

Жлукта з капелюшом у руках уваходзіць у пакой і паважна ідзе да стала. Спыняецца перад сталом і схіляецца ў лёгкім паклоне.

Ж л у к т а. Добры дзень, Іван Іванавіч!

К л а в а *(скорагаворкай).* Добры дзень! Сядайце. Што скажаце?

Ж л у к т а. Маё прозвішча Чарскі. Можа, чулі?

К л а в а *(здзіўлена глядзіць на яго).* Чаму Чарскі? Быў Жлукта і раптам Чарскі!

Ж л у к т а. Не твая справа. Ты ж не ведаеш, што я Жлукта.

К л а в а. Як гэта я не ведаю? Добры інтэрас! Каб я не ведала прозвішча свайго мужа.

Ж л у к т а. Дурніца! Ты ж бачыш мяне першы раз. І наогул ты не ўмееш быць начальнікам. Калі я ўвайду, рабі выгляд, што занята вельмі важнай справай і не зразу мяне заўважаеш. Калі гаворыш, не лапачы так хутка. Гавары ціха, павольна, па аднаму слову ў мінуту, каб даць мне магчымасць адчуць, ацаніць і ўзважыць кожнае тваё слова. Глядзі міма мяне ўдалячынь, нібы ты бачыш там тыя важныя дзяржаўныя справы, якія табе даручылі вяршыць. А Чарскі — гэта, скажам, будзе мой псеўданім. Можа, я выдатны артыст, можа, мастак ці паэт, гэта аднаму Богу вядома. Гэта прозвішча павінна зрабіць уражанне. Ну, пачнём спачатку.

Выходзіць за дзверы. Клава прымае належную позу. Жлукта стукае.

К л а в а. Зайдзіце!

Ж л у к т а ўваходзіць, як і раней, стараючыся зрабіць уражанне. Клава «занята справамі». Потым яна падняла галаву і паглядзела міма яго.

Чым магу служыць?

Ж л у к т а. Прыбыўшы ў ваш горад, я палічыў абавязкам засведчыць вам сваю пашану. Маё прозвішча *(невыразна)* Чарскі.

К л а в а. Вельмі прыемна *(падае руку).* Сядайце, калі ласка, таварыш Чарскі. Так, здаецца?

Ж л у к т а. Так, Чарскі Дзям'ян Дзям'янавіч.

К л а в а. Ну, што ж, і гэта нядрэнна.

Ж л у к т а. Дурніца.

Уваходзіць Я з в а — у шынялі без знакаў адрознення; накульгвае.

Я з в а. Выбачайце!

Ж л у к т а. Калі ласка. *(Глядзіць, чакаючы, што той скажа.)*

Я з в а. Прыйшоў пазнаёміцца. Ваш сусед. Язва Міхаіл Аляксандравіч.

Ж л у к т а. Чарскі Дзям'ян Дзям'янавіч. Гэта мая жонка.

К л а в а *(падаючы руку Язве).* Клаўдзія.

Ж л у к т а. Вы блізка тут жывяце?

Я з в а. У суседнім пакоі.

Ж л у к т а. Вось як! Даўно вы тут жывяце?

Я з в а. У горадзе гадоў восем, а ў гэтым пакоі — месяцы два... як з фронту прыехаў.

Ж л у к т а. Дык вы і на фронце былі?

Я з в а. Быў, ды мне не пашанцавала. *(Паказвае на нагу.)*

Ж л у к т а. Я б сказаў, што вам пашанцавала. Гэты самы кусок металу мог бы трапіць і крыху вышэй. Што ж вы цяпер — у адпачынку пасля шпіталя?

Я з в а. Не, зусім звольнены. Працую ў мясцовай газеце.

Ж л у к т а. Чуеш, Клава! Небяспечны ў нас сусед. Чаго добрага, на пяро падчэпіць.

Я з в а. Абы было за што.

Ж л у к т а. Шчалкапёры! Лібералы праклятыя! *(Хлопае Язву па плячы.)* Вы камедый часам не пішаце?

Я з в а. Часам пішу.

Ж л у к т а. Ну, Клаўдзія Пятроўна! Зусім мы з табой прапалі.

Я з в а. Няўжо мне такое шчасце Бог паслаў, што герой камедыі сам у рукі пайшоў? Не можа быць.

Ж л у к т а. Думаю, што гэта не здарыцца. Мы людзі хоць і не святыя, але ж і не такія благія, каб нас у камедыю ўстаўляць. Спадзяюся, што мы будзем жыць па-суседску. Хто са мною дружыў, той яшчэ ніколі не каяўся. Вось вам мая рука... на дружбу.

Я з в а. Ахвотна цісну вашу руку. Мець лішняга друга ніколі не пашкодзіць.

К л а в а. Вось вам і мая рука, таварыш драматург.

Ж л у к т а. Рука і сэрца — хоча яна сказаць.

К л а в а. Пакуль што рука, а наконт сэрца паглядзім.

Я з в а *(пацікаючы руку Клаўдзіі Пятроўны).* Дазвольце разлічваць і на сэрца. Вядома, толькі на той куточак, у якім змяшчаецца дружба, бо тая палавіна, дзе змяшчаюцца іншыя далікатныя пачуцці, занята Дзям'янам Дзям'янавічам.

Ж л у к т а. О, у яе гэта палавіна прасторная. Баюся, што яна і вас, можа, пусціць туды да мяне ў падсуседзі.

К л а в а. Дзіма! Як табе не сорам! Таварыш пісьменнік бог ведае што можа падумаць.

Ж л у к т а. Ён і так падумае. Пісьменнікі — гэта такі народ... Фантазія ў іх багатая... Дарэчы, вы, як старажыл і газетны работнік, напэўна, добра ведаеце горад і людзей.

Я з в а. Горад ведаю, а людзей шмат — усіх ведаць нельга.

Ж л у к т а. Мяне цікавяць толькі некаторыя, з якімі мне прыйдзецца сустракацца.

Я з в а. Напрыклад?

Ж л у к т а. Напрыклад, ёсць такі Бывалаў Павел Антонавіч.

Я з в а. Што ж пра яго казаць? Добры гаспадар горада. Мужык разумны і ведае сабе цану. У абыходжанні стрыманы. Знаёмства блізкага ні з кім не водзіць, апрача двух-трох чалавек. Усе яго пабойваюцца.

Ж л у к т а. На блізкае знаёмства разлічваць не прыходзіцца?

Я з в а. Бадай што.

Ж л у к т а. А Канягін Антон Макаравіч?

Я з в а. Вы нават імя ўжо ведаеце. Гэта чалавек зусім іншага складу. Просты, амаль што без адукацыі. Таму асабліва баіцца паказаць сваю неадукаванасць. Па натуры чалавек добры і чулы. Шмат каму падабаецца. Працуе шмат і нядрэнна, але без бляску. Любіць выпіць цішком. А як вып'е, пачынае гаварыць пра свае крыўды.

Ж л у к т а. Дзякую. На сягоння хопіць. *(Да Клавы.)* Я думаю зараз жа адпраўляцца ў паход.

К л а в а. Можа б, на заўтра адклаў?

Ж л у к т а. Адклад не ідзе ў лад. Ды і есці ж нешта трэба. *(Глядзіць на гадзіннік.)* Дзве гадзіны. Яшчэ можна застаць на месцы.

К л а в а. Трэ было б пра ложак падумаць, пакой у парадак прывесці.

Ж л у к т а. Папрасі суседа, ён табе паможа.

Я з в а. Ахвотна. Толькі да сябе зайду на хвілінку. *(Выходзіць.)*

К л а в а. Куды ж ты пойдзеш?

Ж л у к т а. Я думаю пачаць з гэтага цецерука, з Канягіна. Паводле апісання дзічына мне падабаецца. Прасцяку лягчэй пыл у вочы пусціць. Ну, пажадай мне поспеху. *(Цалуе жонку і выходзіць.)*

К л а в а *(адна. Падыходзіць да печы і дастае ваенны білет.)* Дурны, у печ кінуў. Ён яму яшчэ спатрэбіцца, можа. *(Разглядае.)* Вуса нейкага спужаўся... Што гэта за вус такі? А, вось ён: «ВУС» дваццаць восем. А што гэта азначае? Схаваю. Калі мой Жлукта пачне дурыць, дык я за гэты вус і ўчаплюся.

Стук у дзверы.

*(Не паспеўшы схаваць білет, Клава кідае яго назад у печ і адчыняе дзверы.)* Зайдзіце!

Я з в а *(уваходзіць)*. Ну, цяпер я ў вашым распараджэнні.

К л а в а. Добра, я вам зараз дам работу. Прабачце, калі я выкарыстаю вас не па спецыяльнасці.

Я з в а. Калі ласка.

К л а в а. Зоймемся спачатку шафай.

Я з в а. Гэта амаль што па спецыяльнасці. *(Падыходзіць да шафы.)* Куды вам пераставіць гэту дэкарацыю?

К л а в а. Вось сюды давайце. Пакуль Дзям'ян Дзям'янавіч прыйдзе...

Я з в а. Дык мы тут усё ўверх дном перавернем. Раз, два — узялі!

**Карціна другая**

Кабінет Канягіна.

К а н я г і н. Шмат яшчэ людзей у прыёмнай?

Д з я ў ч ы н а. Чалавек дзесяць.

К а н я г і н. Па якіх справах?

Д з я ў ч ы н а. Па розных. Адзенне, абутак, сталоўка... Найбольш эвакуіраваныя.

К а н я г і н. Бяда мне з імі... Што ні дзень, то больш наплыў... Няшчасныя людзі... І прыняць іх я зараз не магу: таварыш Бывалаў выклікае... Аб'явіце ім, што сёння больш прыёму не будзе. Папрасіце ад мяне прабачэння. Няхай прыходзяць заўтра ў дзесяць гадзін.

Д з я ў ч ы н а. Там адзін грамадзянін просіць прыняць яго без чаргі.

К а н я г і н. Хто такі?

Д з я ў ч ы н а. Нейкі, відаць, прыезджы. У капелюшы, так важна трымаецца.

К а н я г і н *(глядзіць на гадзіннік)*. Не магу. Таварыш Бывалаў чакае... Заўтра ў дзесяць гадзін.

Д з я ў ч ы н а. Кажа, назавіце яму маё прозвішча, дык ён адразу прыме.

К а н я г і н. А як яго прозвішча?

Д з я ў ч ы н а. Чарскі.

К а н я г і н *(намагаецца ўспомніць)*. Чакайце... нешта сапраўды як быццам знаёмае. Чарскі, кажаце?

Д з я ў ч ы н а. Так, Чарскі.

К а н я г і н. Не, такога не прыпомню. Можа, Луначарскі?

Д з я ў ч ы н а. Не, ён сказаў — Чарскі. *(Няўпэўнена.)* А можа, і Луначарскі.

К а н я г і н. Хаця Луначарскі, здаецца, памёр. Вы не помніце?

Д з я ў ч ы н а. Не помню.

К а н я г і н. Нічога вы не помніце. Вось чорт! Як бы гэта даведацца?

Д з я ў ч ы н а. Можа, таварыш Бывалаў ведае?

Канягін. Ён-то ведае, ды званіць яму нязручна па такой справе. Кажаце, важна трымаецца?

Дзяўчына. Вельмі важна. Наконт мяне, кажа, павінны былі з Масквы званіць.

Канягін *(глядзіць на гадзіннік)*. Добра, няхай заходзіць.

Дзяўчына выходзіць. Канягін «углыбляецца» ў паперы. Уваходзіць Жлукта якраз так, як ён уваходзіў на рэпетыцыі.

Жлукта *(падышоўшы да стала)*. Добры дзень, Антон Макаравіч!

Канягін *(падняўшы галаву, глядзіць удалячынь міма Жлукты)*. Добры дзень. Чым магу служыць?

Жлукта. Прыбыўшы ў ваш горад, я палічыў абавязкам засведчыць вам сваю пашану. Маё прозвішча *(невыразна)* Чаркі.

Канягін *(падае руку)*. Вельмі прыемна. Прашу садзіцца, таварыш... Выбачайце, вы, здаецца, сказалі — Луначаркі?

Жлукта. Так... не зусім. Чаркі Дзям'ян Дзям'янавіч. Вам з Масквы не званілі наконт мяне?

Канягін. Не, не званілі.

Жлукта. Тады не дзіва, што маё прозвішча вам нічога не гаворыць.

Канягін. Можа, таварышу Бывалаву званілі. Я зараз даведаюся. *(Бярэ тэлефонную трубку.)*

Жлукта. Не трэба. Не званіце, я вас прашу. Гэта нават нязручна. Выходзіць, што я набіваюся з пратэкцыяй.

Канягін кладзе трубку.

Я думаю, што і без гэтага вы дазволіце мне пражываць у вашым горадзе?

Канягін. Калі ласка.

Жлукта. І не пакінеце без увагі.

Канягін. Наш абавязак клапаціцца аб такіх людзях.

Жлукта. Хоць вы і не чулі майго прозвішча.

Канягін. Прозвішча мы чулі. Як не чуць? У газетах не раз сустракалі. А вось асабіста не прыходзілася... Скажыце, калі ласка, вы не сваяк часамі?..

Жлукта. Анатолія Васільевіча Луначаркага? Дваюрадны пляменнік.

Канягін. Я бо гляджу, што прозвішча аднолькавае. Вось толькі наконт «луны» ў мяне сумненне было. Гэта, відаць, для хараства, для паэзіі прыбаўлена.

Жлукта. Нябожчык любіў усё прыгожае. Ён і мне прышчапіў любоў да мастацтва.

Канягін. Вы надоўга да нас прыехалі?

Жлукта. На некаторы час. Гэта залежыць ад абставін.
Канягін. Чым вы ў нас думаеце заняцца?
Жлукта. Ды ў мяне шмат розных планаў.
Канягін. Творчых?
Жлукта. Пераважна.
Канягін *(працягвае каробку з папяросамі)*. Курыце.

Жлукта бярэ папяросу, вымае запальніцу, дае прыкурыць і сам прыкурвае.

Арыгінальная ў вас запальніца.

Жлукта. Даўнейшая. Відаць, яшчэ з часоў грамадзянскай вайны.

Канягін. Вось як!

Жлукта. Так! Падарак Анатолія Васільевіча.

Канягін. Цікава. Можна паглядзець?

Жлукта. Калі ласка.

Канягін *(бярэ запальніцу)*. Вельмі арыгінальная запальніца.

Жлукта. Вам падабаецца? Вазьміце яе сабе.

Канягін. Як? Не разумею.

Жлукта. Вазьміце як падарак ад мяне.

Канягін. Не смею вас крыўдзіць. Гэта ж памяць.

Жлукта. Няхай і вам будзе памяць... аб нашым знаёмстве і аб грамадзянскай вайне, якой вы былі ўдзельнікам, як я чуў.

Канягін. Мне нават нязручна забіраць у вас такую каштоўную рэч.

Жлукта. Ды што там... У мяне яшчэ ёсць рэчы, падораныя Анатоліем Васільевічам.

Канягін *(здаючыся)*. Ну, калі так... Дзякую... Вельмі дзякую.

Жлукта. Калі ласка.

Канягін. Як вы ўладзіліся ў нас?

Жлукта. Ды як-небудзь. Вайна, нічога не папішаш.

Канягін. Прабачце ўжо нам. У горадзе такая цесната. Воінскія часці, эвакуіраваныя. Дваццаць тысяч эвакуіраваных.

Жлукта. Дваццаць тысяч і яшчэ двое.

Канягін, не разумеючы, глядзіць на яго.

Я і жонка.

Канягін. Хіба вы таксама?

Жлукта. Так. Трымаўся да апошняй магчымасці. Нарэшце і знаёмых амаль нікога не засталося. Хто выехаў, хто пад разваліна загінуў. Ну, бачу, больш няма куды.

Канягін. Няшчасныя людзі. Многія ў адных кашулях выбеглі. Зіма надыходзіць, а ў іх ні вопраткі, ні абутку. І мы не ў сілах забяспечыць. Бачылі, як штурмуюць? І так кожны дзень

з ранку да вечара. Іншы раз так дапячэ, што махнуў бы на ўсё рукой ды на фронт. Там бы я ведаў сваю баявую задачу, і ўсё.

Жлукта. Вунь вы чаго захацелі! Гэта кожны б з нас згадзіўся — на фронт. Я ўжо колькі разоў прасіўся — не пускаюць. На фронце, кажуць, вас яшчэ ёсць каму замяніць, а вось тут... Раз быў зусім ужо вырваўся, дык дактары... Пачалі круціць, вярцець і знайшлі ўнутры нешта такое... не то рак печані, не то грудная жаба. Вам, кажуць, на фронт ніяк нельга. І без фронту, кажуць, вы нядоўга працягнеце, калі не будзеце сябе шанаваць. Вам, кажуць, патрэбна спакойная абстаноўка і добры харч. Ну, і знялі зусім з учоту. Вось толькі дакумент загінуў у агні, і я хаджу, як дэзерцір.

Канягін. Гэта аформіцца. Як вы з харчаваннем уладзіліся?

Жлукта. Пакуль што ніяк. У горадзе, напэўна, ёсць якаянебудзь сталоўка.

Канягін. Сталоўка-то ёсць, але абеды там няважныя. З вашым здароўем вы на такіх харчах зусім змарнееце. *(Піша і дае паперку Жлукту.)* Вось, калі ласка. Па гэтай запісцы вам сёе-тое адпусцяць. А там падумаем, як вас лепш уладзіць.

Жлукта *(бярэ паперку)*. Дзякую. Хацеў бы я яшчэ зайсці да таварыша Бывалава. Пакрыўдзіцца, калі ўведае, што я ў горадзе і не зайшоў.

Канягін. Хіба ўжо заўтра. Сёння ў яго нарада. Я таксама туды павінен ісці.

Жлукта. Перадайце яму прывітанне. Скажыце, што прыехаў сякі-такі нямазаны.

Канягін. Абавязкова перадам. *(Глядзіць на гадзіннік.)*

Жлукта. Вы, відаць, спяшаецеся?

Канягін. Прабачце. Вельмі шкадую, што не маю часу пагутарыць з вамі. Не часта трапляюцца такія людзі. *(Раптам яму прыйшла ў галаву думка.)* Ведаеце што... Прыходзьце ў суботу вечарам да мяне на пельмені. Гэта адзіны мой вечар свабодны.

Жлукта. Дзякую, Антон Макаравіч. У сваю чаргу рад буду бачыць вас у сваёй хаце. Бывайце здаровы.

Канягін. Усяго добрага. Выбачайце. *(Развітваюцца.)*

Жлукта выходзіць. Канягін бярэ трубку.

Павел Антонавіч? Гэта Канягін. Выбачайце, калі ласка, мяне тут затрымалі. Чаркі... Вы, напэўна, чулі пра яго?.. Не чулі?.. Пляменнік Луначарскага... Перадаваў вам прывітанне... Дакладна не ведаю — мастак, рэжысёр, кампазітар — нешта ў гэтым родзе... Ну, не... Вельмі мілы чалавек... Іду, ужо іду. *(Кладзе трубку і ідзе да дзвярэй.)*

## Карціна трэцяя

Пакой Жлукты, які Клава і Язва прывялі ўжо збольшага ў парадак.

Клава *(уваходзіць з бярэмам дроў, кладзе дровы ля печы).* Ну, вось... Дзесяць пален пазычыла ў суседкі. Яшчэ пайду вады прынясу, і будзе ўсё. *(Бярэ чайнік і выходзіць.)*

Язва падыходзіць да печы і адчыняе дзверцы, каб накласці дроў.

Язва *(выняўшы з печы ваенны білет, разглядае яго).* Гм... Нехта сам сябе з учоту зняў... Жлукта... Дзіўна!.. Тут ніколі ніякага Жлукты не было... Дзям'ян Дзям'янавіч... *(Кладзе білет на стол і накладае дровы. Раптам.)* Чакай! Ці не сусед гэта новы? Бярэ са стала білет. Ён жа таксама Дзям'ян Дзям'янавіч. Гэту загадку трэба разгадаць. *(Разглядае білет.)* Ваенкамат вядомы... Адгэтуль мы і пачнём. *(Кладзе білет у кішэнь.)* А пакуль прыйдзе адказ, будзем наглядаць ды запісваць. Збіраць матэрыял для камедыі. *(Вымае блакнот і запісвае.)* Дзеючыя асобы: першая — Дзям'ян Дзям'янавіч Чарскі, ён жа Жлукта. А нядрэнна гучыць. Другая *(піша)* — Клаўдзія Пятроўна, яго жонка. Асоба, здаецца, пустая. Зараз мы яе разыграем. Трэцяя *(піша)* — Міхаіл Аляксандравіч Язва. То-бок, я сам. Ну, вось, завязка гатова. Далейшае будзе разгортвацца па меры высвятлення асобы майго героя. *(Кладзе блакнот у кішэнь і распальвае печ.)*

Клава *(уваходзіць з чайнікам).* Ай, што вы робіце?

Язва. Печ распальваю. А што? Холадна ж у хаце.

Клава. У печы нічога не было?

Язва. Нейкія паперкі. Што было, то ўжо згарэла.

Клава. Ладна, няхай гарыць. Цяпер давайце сядзем адпачнём ды пагутарым. *(Ставіць крэсла бліжэй да печы.)* Мы ж з вамі амаль што незнаёмы. Я-то вам ужо сёе-тое расказвала пра сябе.

Язва. Што ж, давайце сабе і пагутарым.

Клава. Скажыце, Язва — гэта ваша сапраўднае прозвішча?

Язва. Сапраўднае.

Клава. Неяк аж не верыцца.

Язва. Што ў мяне такое прозвішча?

Клава. Не, што перада мной жывы пісьменнік. Я думала, што пісьменнікі зусім не такія. Я ўяўляла, што яны асаблівыя нейкія і нічога больш не робяць, толькі пішуць. А калі гавораць, дык прыгожа, разумна і найбольш вершам.

Язва. Можа, і ёсць такія. Я ж правінцыял.

Клава. Вы вершаў не пішаце?

Я з в а. Не.

К л а в а. Вядома, ваша прозвішча для вершаў не падыходзіць. А п'ес вы шмат напісалі?

Я з в а. Адну.

К л а в а. І ў тэатры яе ставілі?

Я з в а. Ставілі.

К л а в а. Напішыце пра мяне што-небудзь.

Я з в а. Цяпер вы рашылі выкарыстаць мяне па спецыяльнасці?

К л а в а. Напішыце, каб я была галоўнай гераіняй у п'есе і ўсе каб мне апладзіравалі, апладзіравалі. Я сядзела б тады ў зале, глядзела сама на сябе і таксама апладзіравала.

Я з в а. Добра, я напішу.

К л а в а. Сур'ёзна?

Я з в а. Сур'ёзна. Толькі ж я пішу камедыі, вам, можа, не спадабаецца, як я пра вас напішу.

К л а в а. А як вы напішаце?

Я з в а. Я напішу пра тое, як жыла-была Клавачка — харошая дзяўчынка з сінімі вочкамі і сінімі стужкамі ў косах. Усе ёю любаваліся, называлі красуняй і разумніцай.

К л а в а. А такі і называлі.

Я з в а. А мама яе песціла і ўсё за яе рабіла, нават адзявала і раздзявала. Разумніца Клавачка пайшла ў школу. Тут мама за яе не магла рабіць, ёй прыйшлося рабіць самой... Гэта было цяжка і нудна. Сяк-так яна дапаўзла да дзесятага класа...

К л а в а. Вось і няпраўда. Скончыўшы сямігодку, я паступіла ў балетную студыю.

Я з в а. Я памыліўся. Клавачка не дапаўзла да дзесятага класа. Яна ўбачыла раз на сцэне, як балерыны грацыёзна выбрыкваюць ножкамі.

К л а в а. Ну-ну... Хлусіце далей.

Я з в а. Гэта было так лёгка, так прыгожа і так прывабна — паказаць хараство сваіх ножак, што Клавачцы захацелася на сцэну. Па просьбе мамы яе прынялі ў балетную студыю. Але там прыйшлося вывучаць складаную балетную азбуку, дзесяткі разоў паўтараць тыя ж самыя па і слухаць покрыкі старога балетмайстра, які раз назваў Клавачку каровай.

К л а в а. Няпраўда, ён не так лаяўся.

Я з в а. Канчала яна рэпетыцыю ўся ў мыле, як упершыню запрэжаная жарабіца.

К л а в а. Фі, якое параўнанне!

Я з в а. Адным словам, Клавачка ўбачыла, што балетнае хараство здабываецца потам і цяжкай працай, а перамагаць цяжкасці яе не прывучылі. Тады яна пачала горка каяцца, але, на шчасце, ёй трапіўся таварыш Жжж... Чарскі.

К л а в а. Так, ну і што ж?

Я з в а. Дык вось гэты самы Чарскі ўбачыў раз на рэпетыцыі прыгожыя Клаваччыны ножкі і рашыў імі заўладаць. Трэба сказаць, што Клавачка нядоўга і ўпіралася...

К л а в а *(дабрадушна)*. Нахабнік, як вы смееце!

Я з в а. Вы перашкаджаеце мне фантазіраваць... Адным словам, пацалункі ёй прыйшліся куды больш да густу, чым балетныя па. Гэта праца яе зусім не стамляла. У выніку яна хутка з Клавачкіператварылася ў Клаўдзію Пятроўну і стала мадам Жжж... выбачайце — Чарская.

К л а в а. А далей што? Хлусіце ўжо да канца.

Я з в а. Вы хочаце ведаць, які будзе канец гэтай камедыі? Магчыма, што ён будзе добры: мой герой шчасліва будзе прадаўжаць сваю дзейнасць, і Клавачка будзе піць, есці, займацца плёткамі. Калі яна пастарэе, а можа, і шмат раней, ён пачне гуляць з другімі. Але яна павінна будзе з гэтым прымірыцца, бо не захоча расстацца з сытым жыццём.

К л а в а. Нічога сабе перспектыва!

Я з в а. Вам гэта не падабаецца?

К л а в а. Я думаю... Выставіў мяне такой мяшчанкай ды яшчэ пытаецца.

Я з в а. Я з вамі згодзен. Канец для камедыі вельмі нецікавы. Можна зрабіць, каб Клава з рэўнасці атруцілася.

К л а в а *(з жахам)*. Вы звар'яцелі! Я ніколі гэтага не зраблю!

Я з в а. Так, гэта не падыходзіць. Па-першае, як вы правільна заўважылі, мая гераіня гэтага не зробіць, гэта не ў яе характары, па-другое, я выбіваюся з свайго жанру: гэта будзе ўжо драма, а не камедыя. І наогул шчаслівы канец тут наўрад ці магчымы.

К л а в а. Атруціцца гэта, па-вашаму, шчаслівы канец?

Я з в а. Я маю на ўвазе цэнтральнага героя... Хутчэй за ўсё ён такі пападзецца. Тады Клава, пакуль яшчэ маладая і прыгожая...

К л а в а. Нарэшце вы мне камплімент сказалі.

Я з в а. У тым яе і бяда, што яна прыгожая. Каб яна не спадзявалася на сваё хараство як на сродак да жыцця, дык навучылася б працаваць. Але вы перапынілі ход маёй думкі. Тады Клава, пакуль яна маладая і прыгожая, можа трапіць да другога Чарскага, потым да трэцяга і так далей.

К л а в а *(абурана)*. Ідыёт! Як вы смееце мяне так абражаць?!

Я з в а. Пры чым тут ваша асоба? Вы бачыце, што я пішу камедыю і мучуся з гэтай няшчаснай Клавай. Гэта такое

нікчэмнае стварэнне, што з ёю ніяк эфектнай канцоўкі не зробіш. Каб вас не нерваваць, я не буду больш думаць уголас.

Доўгая паўза. Клава сядзіць надзьмутая, адвярнуўшыся ад Язвы. Язва «думае» над канцоўкай.

Клава *(пасля паўзы, паварочваецца да Язвы)*. А чаму б вам не зрабіць такую канцоўку... Клаве абрыдла пустое жыццё, агідным стаў сыты, самазадаволены муж. Яна пакінула сваю душную кватэру, стукнула дзвярыма і пайшла насустрач свежаму ветру.

Язва. Куды яна пайшла?

Клава. На фабрыку, на завод, на фронт. І ў канцы п'есы мы бачым яе стаханаўкай або Героем Савецкага Саюза.

Язва. Такая канцоўка гледачу б спадабалася. Але ж гэта няпраўдзіва. Зразумейце ж вы, што за чалавек мая Клава. Яна ж не любіць і баіцца працы. І сілы волі не хопіць у яе зрабіць так. Гэта ж няшчаснае, бязвольнае стварэнне.

Паўза. Язва сядзіць у задуменні, з якога яго выводзіць усхліпванне Клавы. Язва паварочваецца і глядзіць на яе.

Плакаць Клава можа, гэта ў яе характары. Але ж на сцэне гэта будзе нецікава. Нос чырвоны, у носе хлюпае.

Клава *(праз слёзы)*. Які вы жорсткі, бязлітасны чалавек!

Язва. Не чалавек, а аўтар камедыі. Тут я сапраўды бязлітасны.

Клава. Я думала, з вамі прыемна час правесці, а вы мне ўсю душу выматалі вашымі канцоўкамі.

Язва. Знайсці добрую канцоўку для камедыі — гэта вялікая справа.

Клава *(уздыхае)*. Пагутарыла я з вамі, няма чаго сказаць. *(Стук у дзверы.)* Зайдзіце!

Уваходзіць Праменны.

Язва. Вось ідзе мой друг, ён паправіць справу.

Праменны. Добры дзень.

Клава. Добры дзень.

Праменны *(да Клавы)*. Выбачайце. *(Да Язвы.)* А я цябе шукаю. Суседка сказала, што ты тут.

Язва. Каму я спатрэбіўся?

Праменны. Рэдактар загадаў быць у чатыры гадзіны ў рэдакцыі.

Язва. Што там здарылася?

Праменны. Трэба тэрмінова паласу рыхтаваць.

Язва. Вось гэта мне зусім недарэчы. Я збіраўся дома пасядзець ды папрацаваць.

П р а м е н н ы *(збіраецца выходзіць)*. Дык будзеш?

Я з в а. Чакай, чакай... Вось, Клаўдзія Пятроўна, мой лепшы друг, былы драматург і будучы паэт. Анатоль Праменны. Рэкамендую:

Выхаванец Мельпамены,
Драматург бы быў нядрэнны,
Ды сышоў цяпер са сцэны —
Убаяўся блох.
Што далей з Праменным будзе
І ці выйдуць з хлопца людзі,
Знае толькі Бог.
Па прызванню быццам дворнік,
А рыхтуе вершаў зборнік.

Праменны паказвае Язве за спінай кулак.

К л а в а. Вы нават на свайго друга паклёпнічаеце. Я ўпэўнена, што ён цудоўны паэт, а вы яму зайздросціце.

П р а м е н н ы. Гэта ж Язва.

К л а в а. Я ўжо ў гэтым пераканалася. Сядайце, калі ласка.

П р а м е н н ы. Дзякую. Я павінен ісці ў рэдакцыю.

К л а в а. Вершы пісаць?

П р а м е н н ы. Ды там ужо што прыйдзецца.

К л а в а. Вы лірык — праўда?

П р а м е н н ы. Так, я працую ў гэтым жанры.

К л а в а. Я па вачах пазнала.

Я з в а. Па вачах-то ён лірык, а так — разбойнік. Вы яго асцерагайцеся.

К л а в а. Хопіць вам пад'язджаць. *(Да Праменнага.)* Калі вы пачытаеце мне свае вершы?

П р а м е н н ы. Калі напішу харошыя.

Уваходзіць Ж л у к т а, за ім ч а л а в е к з п а к у н к а м і.

Ж л у к т а. Вось і я! У цябе, бачу я, поспех, Клаўдзія Пятроўна. Пакінуў з адным кавалерам, а застаў з двума.

К л а в а. Гэта друг таварыша Язвы, паэт.

Ж л у к т а. Значыць, нашага палку прыбыло. *(Падае руку.)* Чарскі.

П р а м е н н ы. Праменны.

Ж л у к т а *(чалавеку)*. Кладзіце гэта сюды. Гэта стаўце на стол. Гэта сюды давайце. Цяпер пачакайце крышку. *(Адкаркоўвае бутэльку і налівае ў шклянку.)* Вазьміце на дарогу.

Ч а л а в е к. За ваша здароўе! *(Выпівае, выціраецца рукавом, выходзіць.)*

Ж л у к т а. Спадзяюся, вы без мяне не сумавалі?

Я з в а. Прызнацца, не вельмі.

Ж л у к т а *(разгортвае пакункі)*. А без кілбаскі-то вы напэўна сумавалі? А без ікоркі? А без сырку? А без гэтай слязы? *(Паказвае на бутэльку.)*

Я з в а. Візіт ваш, як відаць, быў удалы.

Ж л у к т а. Вельмі ўдалы. Клава, парэж, калі ласка. Падыходзьце, таварышы, бліжэй. Вып'ем па чарцы дзеля нашага знаёмства. *(Налівае чаркі.)* За вашы поспехі, таварышы!

К л а в а *(да Праменнага)*. За лірыку!

Ж л у к т а *(да Язвы)*. За камедыю! Толькі каб вясёлая была. Выведзіце такога тыпуса, каб гледачы аж бокі рвалі.

Я з в а. Ёсць такі тыпус, наклёўваецца.

Ж л у к т а. Значыць, пасмяёмся. *(Выпівае.)*

К л а в а *(да Язвы)*. За добрую канцоўку!

Я з в а. Над канцоўкай прыйдзецца яшчэ падумаць. *(Выпівае.)*

Ж л у к т а. Балычку вазьміце. Цудоўны балык. Ешце, не саромейцеся. Вам нябось такая закусь не часта трапляецца. Больш за ўсё пад тарана п'яце?

Я з в а. І пад тарана, і на тарана — як прыйдзецца.

П р а м е н н ы *(падчапіўшы кавалак вяндліны)*. Мы ў гэтых адносінах народ неперабарлівы.

Ж л у к т а. Вы, сябры, трымайцеся бліжэй да мяне. Са мной не прападзяце. Сёння я зрабіў ужо невялікую вылазку. Аказваецца, нічога, можна жыць. І горад нядрэнны, і людзі ёсць неблагія. Ну, давайце яшчэ па адной *(налівае)*. За тое, каб мы жылі па-людску.

Я з в а. І самі каб людзьмі былі.

З а с л о н а

## АКТ ДРУГІ

### Карціна чацвёртая

Гарадскі сад у пачатку лета. На лаўцы сядзяць П р а м е н н ы і К л а в а.

К л а в а. Вы ж мне даўно абяцалі.

П р а м е н н ы. Прашу адтэрмінаваць... да другога разу.

К л а в а. Не, не, нічога не будзе! Сёння вам ад мяне не выкруціцца.

П р а м е н н ы. Я не магу.

Клава. Можаце, але не хочаце... Думаеце, што я не здолею ацаніць іх хараства.

Праменны. Ну, як вы гэта маглі падумаць! Я не хачу таму, што яны дрэнныя.

Клава. Хто вам сказаў, што яны дрэнныя?

Праменны. Я сам ведаю.

Клава. Гэта ад празмернай скромнасці вам так здаецца.

Праменны. І Язва кажа, што дрэнныя.

Клава. Знайшлі каго слухаць! Гэта ж чалавеканенавіснік. Ён мне як нагаварыў пры нашым першым знаёмстве, дык я тры дні плакала. Такою нікчэмнаю мяне выставіў.

Праменны. Ён часамі любіць пасмяяцца з чалавечых слабасцей.

Клава. А я зусім не такая, якою ён мяне лічыць. Праўда, я паразітка, жыву на ўсім гатовым, не займаюся карыснай працай, але ж я адчуваю хараство жыцця. Мне падабаецца ўсё ўзвышанае і высакароднае.

Праменны. Вы незадаволены сваім становішчам?

Клава. Як вам сказаць... Ёсць шмат жанчын, якія мне зайздросцяць. Муж мяне не крыўдзіць, ем я, што хачу, сплю, колькі хачу, адзяваюся, як хачу. Гэта ў той час, калі людзі недаядаюць і недасыпаюць, працуюць па дванаццаць гадзін у суткі. Але мне сумна і неяк трывожна на душы. А начамі мяне мучаць кашмары. Вось і сягоння прыснілася, што Язва гоніцца за мной з сякерай і крычыць — аддавай маю канцоўку!

Праменны. Вы ж можаце перамяніць сваё жыццё.

Клава. Адна не магу. Абаперціся мне няма на каго.

Праменны. Калі б я мог паслужыць вам хоць якой-небудзь апораю...

Клава. Нашто вам такая абуза? Вы паэт, у вас крыллі павінны быць вольныя. Ну, пачытайце, я вас прашу!

Праменны. Калі вы ўжо так намагаецеся... *(Вымае з кішэні рукапіс, чытае.)* «Песня дзяўчыны».

Помню, помню тыя росы,
Вербы над ракою;
Расплятаў мне мілы косы
Ласкавай рукою.
Дзе ж цяпер ты, мілы дружа?
Дзе ты, мой саколе?
Ці ты ў лесе, ці ты ў лузе,
Ці ты ў чыстым полі
Б'ешся з ворагам паганым
За сваю айчыну?

Ой, успомні, мой каханы,
Русую дзяўчыну!
Можа, зрок твой загарыцца,
Як маланка ў хмары,—
Ляжа вораг-чужаніца
Пад тваім ударам.
Будуць косці яго гнісці
На чужыне ў полі,
Будзем жыць мы, як калісьці,
У шчаслівай долі.
Зноў успомнім тыя росы,
Вербы над ракою,
Распляцеш ты, мілы, косы
Ласкавай рукою.

Клава маўчыць, усхваляваная.

Што ж вы засумавалі? Дрэнна, праўда?

К л а в а. Вельмі хараша... Калі слухаеш такія вершы, смутак агортвае.

П р а м е н н ы. Значыць, дрэнна. Я не ставіў сабе такой мэты, калі пісаў.

К л а в а. Смутак ад таго, што я не гэта дзяўчына, што ніхто мне косы не распляце.

П р а м е н н ы. Вось гэта ўжо крыху іншага характару *(чытае)*.

У громе бітвы і ў агні пажарышч
Я помню пра цябе, таварыш,
Я бачу мілы вобраз твой
У промні славы баявой.
Я бачу... *(Змяніўшы тон.)*

Я бачу капялюш Дзям'яна Дзям'янавіча. *(Хавае рукапіс.)* Хавайся, паэзія, проза ідзе.

К л а в а. Якая прыкрасць! Хадзем. Я не хачу, каб ён бачыў мяне з вамі.

Адыходзяць. Уваходзяць д в а к л і е н т ы. Спыняюцца, закурваюць.

1-ы к л і е н т *(ківае галавою ў бок Клавы)*. Гэта ж, здаецца, жонка Дзям'яна Дзям'янавіча?

2-і к л і е н т. Ага. Пачапіла сабе нейкага пісарчука.

1-ы к л і е н т. А якая ёй трасца? Выспіцца, выгуляецца. Нябось каб пастаяла ля станка ад ранку да вечара, дык не наўме былі б кавалеры.

2-і к л і е н т. Умудраюцца ж людзі так жыць, як быццам і вайны ніякай няма на свеце. Хоць бы гэты самы Дзям'ян

Дзям'янавіч — жыве сабе прыпяваючы... І ў армію яго не бяруць. А здаровы ж як бык.

1-ы кліент. Якая там армія! На ім, брат, такая бронь, што і снарадам не праб'еш.

2-і кліент. І кожнаму ўслужыць патрапіць. Так паставіў сябе, што без Дзям'яна Дзям'янавіча як без рук.

1-ы кліент. Хто ён такі?

2-і кліент. Мастак, ці што.

1-ы кліент. І сапраўды ж мастак. У горадзе ніводзін блат без яго не абыходзіцца. Надоечы трэба было мне вагон дастаць. Як я ні дабіваўся, нічога не выйшла. І гаварыць не хочуць. Я тады да яго. «Дзям'ян Дзям'янавіч, так і так, дапамажыце». Паабяцаў яму сёе-тое. «Колькі вам трэба вагонаў?» — пытаецца. «Хаця адзін»,— кажу. «Ідзіце,— кажа,— заўтра будзе вам вагон».— «Што там сказаць?» — пытаюся. «Анічога,— кажа,— не гаварыце. Скажыце, што вам трэба вагон». Я думаў, здзекуецца, але пайшоў усё ж. Дык што ж вы думалі? Прыходжу, а вагон ужо стаіць і мяне чакае.

2-і кліент. Спрыцён, шэльма, спрыцён. І так гэта ў яго лоўка выходзіць. Здаецца, толькі пальцамі перабірае, як добры гарманіст.

1-ы кліент. І не пападзецца, скажы ты!

2-і кліент. Хітры жук.

1-ы кліент. Тсс... ідзе.

Уваходзіць Жлукта — у капелюшы, у светлым касцюме, ружовы і бадзёры. Кліенты знімаюць шапкі і ветліва кланяюцца.

Жлукта. Што, таварышы? Я вам вельмі патрэбен?

1-ы кліент. Вельмі, Дзям'ян Дзям'янавіч.

Жлукта *(задаецца)*. А нашто я вам так спатрэбіўся? Мне часу няма.

2-і кліент. Без вашай дапамогі нашаму брату ніякага разгарнення няма.

Жлукта. Я ж не гаспадарнік. Вы не па адрасу звяртаецеся, я творчы работнік.

1-ы кліент. Мы ведаем, што вы гэтымі справамі не займаецеся, але зрабіце ўжо такую ласку.

2-і кліент. Дапамажыце, а мы не пастаім.

Жлукта. Таварышы, я зусім не хачу, каб пра мяне гаварылі, што я блатмайстар які-небудзь.

1-ы кліент. Хто гэта скажа пра вас?

2-і кліент. У каго ж гэта язык павернецца так сказаць?

Жлукта. Бывае, паможаш чалавеку, але гэта не значыць...

1-ы кліент. Вядома, што гэта значыць!

2-і кліент. Абсалютна нічога не значыць. Чалавек толькі падзякуе за гэта.

Жлукта. А якой вы дапамогі хочаце ад мяне?

1-ы кліент. Пяць бочак цэменту. Трэба да зарэзу.

Жлукта. І такой дробязі вы самі дастаць не можаце?

1-ы кліент. А дзе ж яго дастанеш?

Жлукта. У Пузырова пыталіся?

1-ы кліент. Пытаўся.

Жлукта. У Бляхмана?

1-ы кліент. Таксама пытаўся.

Жлукта. У Круглазадава?

1-ы кліент. І ў Круглазадава пытаўся.

Жлукта. І што ж?

1-ы кліент. Няма.

Жлукта. Дык пайдзіце і скажыце, што Дзям'ян Дзям'янавіч прасіў.

1-ы кліент. І будзе?

Жлукта. Калі вы думаеце, што я кідаю словы на вецер, дык чаго вы да мяне звяртаецеся?

1-ы кліент. Выбачайце, Дзям'ян Дзям'янавіч. Вельмі вам дзякую!

Жлукта. Толькі ж вы самі разумееце, такія паслугі...

1-ы кліент. Гэта — калі ласка. Што трэба, то трэба.

Жлукта. Не для мяне, вядома. Мне многа не трэба.

1-ы кліент. Я разумею. *(Адыходзіць.)*

2-і кліент. Выручайце, Дзям'ян Дзям'янавіч.

Жлукта. У чым справа?

2-і кліент. Бухгалтар нас заразае.

Жлукта. Які бухгалтар?

2-і кліент. Галоўны.

Жлукта. Што за бухгалтар? Не разумею.

2-і кліент. Нашага бухгалтара ў армію ўзялі.

Жлукта. Ну?

2-і кліент. Дык вось месяц шукаем, ніяк знайсці не можам.

Жлукта. То ён жа ў арміі, чаго ж вы шукаеце?

2-і кліент. Не таго. Таго ўжо не вернеш. Другога на яго месца.

Жлукта. Дык вы хочаце, каб я пайшоў да вас за бухгалтара?

2-і кліент. Ды не, што вы! Дапамажыце нам знайсці. Усе справы стаяць.

Жлукта. Дзе ж я яго знайду?

2-і кліент. Дзе-небудзь знайдзіце. Вы ведаеце.

Жлукта. Гэта для каго? Для прамкааперацыі?

2-і к л і е н т. Так.

Ж л у к т а. Умовы?

2-і к л і е н т. Аклад — тысячу рублёў ды па сумяшчэнню пяцьсот, літарнае харчаванне, сталоўка, кватэра.

Ж л у к т а. Гэта для бухгалтара, а за бухгалтара?

2-і к л і е н т *(збянтэжыўся)*. Вось ужо і не ведаю... Я думаў...

Ж л у к т а. Вы думалі, дарэмна?

2-і к л і е н т. Не, але мне ніколі не прыходзілася...

Ж л у к т а. І вы не ведаеце цаны на іх? Ну, я вам дапамагу... У вас, здаецца, ёсць лішні электрычны рухавічок.

2-і к л і е н т. Рухавічок? Ёсць.

Ж л у к т а. Ну дык вось...

2-і к л і е н т. За бухгалтара рухавічок? Што вы, Дзям'ян Дзям'янавіч!

Ж л у к т а. А што? Дорага?

2-і к л і е н т. Вядома. Рухавічок гэта ўсё-такі рэч.

Ж л у к т а. Бухгалтар — таксама рэч. Ды яшчэ ж вы хочаце галоўнага.

2-і к л і е н т. Я нават не ведаю, як гэта аформіць. Абмен чалавека на рухавічок.

Ж л у к т а. А гэта вельмі проста... Рухавічок забярэ ў вас адна арганізацыя па дзяржаўнай цане, а бухгалтар сам прыйдзе да вас наймацца. Ён і ведаць не будзе пра рухавічок.

2-і к л і е н т. А без рухавічка ён не прыйдзе?

Ж л у к т а. Без рухавічка ён і з месца не зрушыцца. Яго не адпусцяць з работы.

2-і к л і е н т *(падумаўшы)*. Усё ж такі дорага.

Ж л у к т а. Не хочаце, не трэба. Няхай вам рухавічок балансы падводзіць. *(Да прахожага.)* Андрэй Сымонавіч! Што ж гэта вы знаёмых не пазнаеце?

2-і к л і е н т. Куды рухавічок даставіць?

Ж л у к т а *(піша ў блакноце, вырывае лісцік і дае кліенту)*. Вось па гэтаму адрасу.

К л і е н т бярэ паперку, развітваецца і адыходзіць. Падыходзіць А н д р э й С ы м о н а в і ч і моўчкі суне руку Жлукту.

Хацеў цішком прайсці, каб я і не заўважыў? Не, брат, я цябе ўгледзеў, як ты толькі ў сад увайшоў.

А н д р э й С ы м о н а в і ч. Рыбак рыбака бачыць здаляка.

Ж л у к т а. Ад мяне, брат, як ад лёсу,— нікуды не ўцячэш.

А н д р э й С ы м о н а в і ч. Што, зноў?

Ж л у к т а. Так, трэба папоўніць.

А н д р э й С ы м о н а в і ч. Заліваеш ты здорава, Дзям'ян Дзям'янавіч.

Ж л у к т а. Ды не для мяне. Мне няможна, я хворы чалавек.
А н д р э й  С ы м о н а в і ч. А што такое?
Ж л у к т а. Рак ці жаба... Дактары ніяк не разбяруць.
А н д р э й  С ы м о н а в і ч. Ну, калі жаба, тады зразумела. Яна вільгаць любіць.
Ж л у к т а. Заўтра ў мяне будзе таварыш Канягін. Яму часам трэба чарку выпіць, арганізм патрабуе. Дома аднаму гэта нязручна. Вось ён і прыязджае да мяне па суботах. Табе ж ён не скажа, вядома,— дай гарэлкі! А ў мяне таксама не база. Ты сам павінен разумець.
А н д р э й  С ы м о н а в і ч. Белай — калі ласка.
Ж л у к т а. А каньячку?
А н д р э й  С ы м о н а в і ч. Няма.
Ж л у к т а. І як табе не сорамна хлусіць, Андрэй Сымонавіч! Учора толькі я піў твой каньячок у аднаго прыяцеля.
А н д р э й  С ы м о н а в і ч. Быў, ды няма. Некалькі бутэлек засталося для хворых.
Ж л у к т а. Хворым — кісялёк, малачко, манная кашка. Ды калі на тое пайшло, мы таксама хворыя.
А н д р э й  С ы м о н а в і ч. Жаба, кажаш?
Ж л у к т а. Жаба, каб на яе ліха.
А н д р э й  С ы м о н а в і ч. Што з табою зробіш. Для жабы прыйдзецца пашукаць. *(Адыходзіць.)*
Ж л у к т а *(знімае капялюш)*. Праменнаму паэту маё шанаванне!
П р а м е н н ы. Маё шанаванне выдатнаму дзеячу мастацтва!
Ж л у к т а. Што, прыйшлі ў сад натхнення набірацца?
П р а м е н н ы. Ужо набраўся, іду дадому.
Ж л у к т а. Разумею: вы хочаце яго свежанькае адразу ж на паперу і ў рэдакцыю.
П р а м е н н ы. На паперу і ў рэдакцыю.
Ж л у к т а. Па рублю за радок.
П р а м е н н ы. Нам досыць і па рублю. Праўда, у некаторых творчых работнікаў больш шырокі размах, але мы ім не раўня.
Ж л у к т а. Падкалоў! Ах, падкалоў! Ха-ха-ха! *(Хлопае Праменнага па плячы.)* А прызнайцеся, з кім гэта вы натхнення набіраліся?
П р а м е н н ы. Ды вось — на лоне прыроды.
Ж л у к т а. А ці не было тут яшчэ якога-небудзь іншага лона?
П р а м е н н ы. Вас гэта вельмі цікавіць?
Ж л у к т а. Вельмі. Справа ў тым, што да гэтага лона я таксама маю некаторае дачыненне.
П р а м е н н ы. Напрыклад?
Ж л у к т а. Злыя языкі гавораць, што вы заляцаецеся да мае жонкі.

П р а м е н н ы *(збянтэжаны)*. Дык што вы ад мяне хочаце?

Ж л у к т а. Я мог бы вас вызваць на дуэль, але мне гэта нявыгадна. Калі я прастралю вашу геніяльную мазгаўню, дык патомкі закляймяць мяне пракляццем, што я загубіў выдатны талент у самым яго росквіце; калі вы мяне застрэліце, дык зноў жа для мяне горш. Таму я не патрабую ад вас задавальнення.

П р а м е н н ы *(іранічна)*. Дзякую, што зліталаваліся нада мной і пакінулі мне жыццё.

Ж л у к т а. Адно, што я магу зрабіць з рэўнасці, гэта распіць з вамі бутэльку каньяку.

П р а м е н н ы. Майго, вядома? Гэта вельмі велікадушна з вашага боку.

Ж л у к т а. Каньяк павінен быць ваш, але паколькі ў вас яго няма і дастаць вы не можаце, то так і быць ужо — прыходзьце да мяне. Дзе маё не прападала.

П р а м е н н ы. Я захапляюся вашай самаахвярнасцю. Дзе гэта відана, каб страты пакрываў сам пацярпеўшы.

Ж л у к т а. Наконт страт я спакойны. Наколькі я разумею, справа абмяжоўваецца адной паэзіяй і ніколі не дойдзе...

П р а м е н н ы. Да прозы.

Ж л у к т а. Да драмы.

Я з в а *(падышоўшы неўзаметку)*. Але яна можа дайсці да камедыі.

Ж л у к т а. А, Мальер з'явіўся! Вось вам сюжэт для камедыі, пад назвай «Дарэмныя патугі». Гэты палкі юнак хоча адбіць у мяне маю жонку. І чым жа? Сваімі худасочнымі вершыкамі. Што вы на гэта скажаце?

Я з в а. Я таксама скажу — дарэмныя патугі. Клаўдзію Пятроўну вершыкамі не возьмеш.

Ж л у к т а. Дзівак чалавек. Ён думае, што жанчыны жывяцца паэзіяй. Спытайцеся ў мяне, чым яны жывяцца. Ты яе спачатку мясам накармі, дай выспацца ды выгуляцца добра, адзень як мае быць, а тады яе і на паэзію пацягне; тады яна і над вершам можа паўздыхаць. А пакуль вы нічога гэтага даставіць ёй не можаце, дык вы для мяне не канкурэнт.

П р а м е н н ы. Ці не занадта вы ўпэўнены ў сабе?

Ж л у к т а. Магу ў заклад ісці, што вы застаняцеся з носам. Вось таварыш Язва сведкам будзе.

Я з в а. Не ведаю, як хто, а я тут напэўна выйграю: ці ён застанецца з носам, ці вы з рагамі, усё роўна чарка мне будзе.

Ж л у к т а. Вось калі сатырык — ён зразу глядзіць у корань, а не лунае ў паднябессі, як некаторыя праменныя паэты. Як ваша камедыя?

Я з в а. Пішацца.

Ж л у к т а. Хутка будзем глядзець?

Я з в а. Чакаю, калі мой цэнтральны герой пацярпіць крах.

Ж л у к т а. Усё ў вашых руках. Вы як аўтар можаце прыспяшыць гэты крах.

Я з в а. Відаць, прыйдзецца, а то гэта свіння яшчэ пяць год будзе жыць ды пахрукваць... Яму напляваць, што мне трэба камедыю канчаць, што я ўжо даўно аванс праеў. Як вашы справы? Я ўжо некалькі дзён вас не бачыў.

Ж л у к т а. Дзякуй Богу.

Я з в а. Праўда, глянуўшы на вас, адразу можна сказаць, што справы ў вас — дзякуй Богу.

Ж л у к т а. Хіба я так добра выглядаю?

Я з в а. Як бутон.

П р а м е н н ы. Я думаю, што вам з такой даваеннай фізіяноміяй нават няёмка па вуліцы хадзіць.

Ж л у к т а *(праводзіць рукой па твары)*. А чаго? Нічога. Дарэмна вы так...

П р а м е н н ы. Вайна, цяжкасці, а вы нібы з іншага свету прыбылі.

Ж л у к т а. Калі жыць, дык жыць па-людску. Гэта маё правіла, якога я трымаюся пры ўсіх абставінах.

Я з в а. Мяне здзіўляе не столькі ваша правіла, колькі бліскучае правядзенне яго ў жыццё... У чым сакрэт вашага поспеху, я так і не магу зразумець.

Ж л у к т а. Ніякіх сакрэтаў тут няма. Ёсць здольнасць адказаць на запатрабаванні жыцця. Дзякуючы гэтай здольнасці я з'яўляюся маленькай папраўкай да сістэмы размеркавання. Праўда, дзеля гэтага мне прыйшлося часова адкласці свае творчыя замыслы.

Я з в а. Папраўка да сістэмы размеркавання... Гэта ўжо цэлае тэарэтычнае абгрунтаванне таго, што мы называем... *(Падшуквае слова.)*

Ж л у к т а. Блатам, вы хочаце сказаць?

Я з в а. Можа, і так. Ці не растлумачылі б вы нам больш папулярна, у чым сутнасць гэтай папраўкі?

Ж л у к т а. Калі ласка, сябры. Заходзьце вечарам да мяне, я вам усё растлумачу. А пакуль што бывайце. Ахвотна пагутарыў бы з вамі, ды часу няма. *(Адыходзіць.)*

П р а м е н н ы. Бачыў, які фрукт?

Я з в а. Цудоўна! І прытым зусім ужо спелы. Страсянуць, ён і адваліцца. І я яго страсяну. *(Вымае блакнот і запісвае.)* «Папраўка да сістэмы размеркавання. Блатбюро Жлукта і кампанія». *(Да Праменнага.)* Слухай, наконт Клавачкі ў цябе сапраўды ёсць які-небудзь намер?

П р а м е н н ы. А ведаеш, яна мне падабаецца.

Я з в а *(маючы на ўвазе новы сюжэтны ход у камедыі)*. Ну-ну! Здаецца, наклёўваецца.

П р а м е н н ы. Прыгожая жанчына. І зусім не такая пустая, як можа паказацца з першага разу.

Я з в а. Я не памыліўся, так яно і ёсць.

П р а м е н н ы. Ты згодзен? І як глыбока адчувае паэзію!

Я з в а. Цудоўна! Гэта нам і трэба.

П р а м е н н ы. На злосць гэтай самазадаволенай свінні вазьму і адаб'ю яе.

Я з в а. Выдатны ход! Лепшага не прыдумаеш.

П р а м е н н ы *(марыць услых)*. Навучыцца працаваць, будзе мне добрым памочнікам у жыцці. Будзе і ў мяне жонка... Цудоўная, чулая жанчына. А там і сям'ю завядзём.

Я з в а *(зрываецца з месца)*. Друг! Дай я цябе пацалую. *(Абнімае.)*

П р а м е н н ы *(расчулена)*. Падтрымліваеш?

Я з в а. Абедзвюма рукамі.

П р а м е н н ы. Не, сур'ёзна?

Я з в а. Ну як жа! Ты разумееш, што ты мяне выручыў? Я з гэтай няшчаснай Клавай ужо некалькі месяцаў мучуся, не ведаю, што з ёю рабіць. Ні богу свечка ні чорту качарга. А тут знайшоўся ёлап...

П р а м е н н ы *(пакрыўджана)*. Якая ж ты свіння!

Я з в а. Выбачай! Знайшоўся высакародны юнак, цудоўны паэт, які сілаю свайго натхнёнага слова вырваў няшчаснае стварэнне з лап гэтага агіднага павука. З паразіта зрабіў чалавека, карыснага для грамадства. І прытым заўваж: зло ў асобе Жлукты пакарана, дабро ў асобе Клавы — узяло верх. Лепшай канцоўкі і не прыдумаеш. Скажы праўду, ты паэзіяй пакарыў сэрца гэтай жанчыны?

П р а м е н н ы. Толькі паэзіяй.

Я з в а. Тады ты сапраўдны паэт, і я ўрачыста абяцаю не называць цябе больш дворнікам. Ніколі не думаў, што твае вершы маюць такую незвычайную сілу. Дай пачытаць! Гэта, напэўна, цудоўныя вершы.

П р а м е н н ы *(збянтэжыўся)*. Нічога асаблівага — звычайныя вершы.

Я з в а. Не, ты ўжо не скромнічай, калі ласка. Давай сюды!

П р а м е н н ы. Што табе чытаць, ты ж не дзяўчына.

Я з в а. Ніякіх адгаворак! Я не адстану, пакуль не пакажаш.

П р а м е н н ы. Ды ведаеш...

Я з в а *(катэгарычна)*. Нічога не ведаю.

П р а м е н н ы. Ты гэтыя вершы ведаеш.

Я з в а. Адкуль? Не, ты мне чытаў толькі дрэнныя свае вершы.

Праменны. Справа ў тым, што я чытаў ёй не свае вершы.
Язва. А чые?
Праменны. Пазычыў для такога выпадку ў аднаго вядомага паэта. Вось яны.

Язва бярэ рукапіс.

Язва. Здорава! Ха-ха-ха! Дальбог, лоўка! Чужымі вершамі спакусіць чужую жонку — гэта не кожны патрапіць. І чыю жонку! Самога Дзям'яна Дзям'янавіча. Жулік жуліка абжуліў. Мальер. Сапраўдны Мальер! *(Запісвае ў блакнот.)*
Праменны. Ты не ўздумай сапраўды ўплесці мяне ў гэту сваю камедыю.
Язва. А як жа ты думаў?
Праменны. Ідзі ты к чорту!
Язва. А што ж, я аднаго Жлукту выведу? Без цябе тут не абыдзецца.
Праменны. Я катэгарычна пратэстую!
Язва. А гэта ўжо ад цябе не залежыць.
Праменны. Тады я адмаўляюся ад свайго намеру ў адносінах Клаўдзіі Пятроўны.
Язва. Слухай, будзь другам, не псуй мне камедыі! Ужо ўсё так добра наладзілася, а ты пачынаеш бузіць. Чорт з табой, я не напішу, што ты чытаў ёй чужыя вершы, гэта застанецца паміж намі. Што ты нікудышны паэт...
Праменны. Катэгарычна пратэстую!
Язва. Не-не! Гэтага я таксама не напішу. Я выведу цябе геніяльным паэтам і высакародным юнаком. Маю ж я права на творчы вымысел. Толькі абяцай, што план свой ты давядзеш да канца.
Праменны. Ну, калі так...
Язва. Дай руку!
Праменны. Вось табе рука.
Язва. Цяпер я бачу фінал камедыі.

**Карціна пятая**

Кватэра Жлукты. Жлукта сядзіць за сталом без пінжака. Перад ім з папкай у руках яго памочнік Сцяпан Андрэевіч.

Жлукта. Ну, як нашы справы, Сцяпан Андрэевіч? У вас нешта выгляд не гэтае...
Сцяпан Андрэевіч. Стаміўся, Дзям'ян Дзям'янавіч. З ранку да вечара гайсаю па горадзе.
Жлукта. Але ж недарэмна?

Сцяпан Андрэевіч. Вядома. Вынікі ёсць.

Жлукта. Вы на маю новую кватэру не заходзілі?

Сцяпан Андрэевіч. Заходзіў.

Жлукта. Ну, што вы скажаце?

Сцяпан Андрэевіч. Тут нічога не скажаш.

Жлукта. Нядрэнная, праўда?

Сцяпан Андрэевіч. Ну! Нядрэнная! Лялька!

Жлукта. Жыць можна? Думаю к імянінам перабрацца з гэтага катуха. Гасцей прымаць буду ўжо ў новай. Толькі падлога ці высахне?

Сцяпан Андрэевіч. Высахне. Цяпер жа пагодка якая: дні два-тры і высахне.

Жлукта. Так... Ну, як наш дзень сягоння?

Сцяпан Андрэевіч. Нічога. Некалькі спраў з тых, пра якія мы ўчора гаварылі, я правёў удала.

Жлукта. І ў выніку?

Сцяпан Андрэевіч. Дзесяць тысяч рублёў *(вымае жмут грошай і кладзе на стол)*, два пуды пшанічнай мукі і пуд мёду.

Жлукта. Добры мёд?

Сцяпан Андрэевіч. Пакаштуйце. Дрэннага я не браў бы.

Жлукта. Мядок — гэта якраз добра к імянінам.

Сцяпан Андрэевіч. Ну, на заўтрашні дзень у мяне тут...

Жлукта *(перабіваючы)*. Хвілінку... Я хацеў сказаць вам некалькі слоў...

Сцяпан Андрэевіч. Я вас слухаю, Дзям'ян Дзям'янавіч.

Жлукта. Хутка месяц, як вы з'яўляецеся маім памочнікам і ўжо больш-менш асвоіліся з сваімі абавязкамі. Цяпер запомніце некалькі правіл, якіх вы павінны прытрымлівацца ў нашай далікатнай справе. Першае: ніколі не адмаўляйце кліенту.

Сцяпан Андрэевіч. Я так і раблю.

Жлукта. Мы ўсё можам — вось наш дэвіз. З-пад зямлі мы павінны дастаць, а даць кліенту тое, чаго ён просіць. Другое: зрабіўшы справу, умейце астацца ўбаку. Мы з'яўляемся толькі пасрэднікамі паміж кліентамі і ні за што не адказваем. Юрыдычную і маральную адказнасць нясуць яны самі.

Сцяпан Андрэевіч. Не турбуйцеся, Дзям'ян Дзям'янавіч, наконт гэтага я стрэляны верабей.

Жлукта. Трэцяе: не блытайце мяне ва ўсе дробныя справы. Рабіце самі і давайце мне справаздачу. Мяне ведаюць толькі некаторыя кліенты. Для ўсяго астатняга чалавецтва я — творчы работнік. Зразумела?

Сцяпан Андрэевіч. Усё зразумела, хоць бы вы нават і не гаварылі.

Ж л у к т а. Тым лепш. Значыць, я не памыліўся, узяўшы вас сабе ў памочнікі. Цяпер дакладвайце, што ў нас на заўтрашні дзень.

С ц я п а н  А н д р э е в і ч *(разгортвае папку)*. На заўтрашні дзень ёсць такія прапановы. Кліент № 1 — бярэ бензін, дае піламатэрыялы.

Ж л у к т а. Можам.

С ц я п а н  А н д р э е в і ч. Кліент № 2 — бярэ легкавую машыну, дае грузавую.

Ж л у к т а. Можам з прыдачай.

С ц я п а н  А н д р э е в і ч. Кліент № 3 — бярэ бронь.

Ж л у к т а. Вайсковую?

С ц я п а н  А н д р э е в і ч. Так. Дае каверкотавы касцюм.

Ж л у к т а. Мала.

С ц я п а н  А н д р э е в і ч. Дабаўляе веласіпед.

Ж л у к т а. Справа цяжкая. Трэба забяспечыць яму такую работу, якая б давала права на бронь.

С ц я п а н  А н д р э е в і ч. Я тут не магу нічога зрабіць.

Ж л у к т а. Адмовілі?

С ц я п а н  А н д р э е в і ч. Не. Сказаў пачакаць, хачу параіцца з вамі.

Ж л у к т а. Няхай зойдзе да мяне. Я пагляджу, каму яго можна парэкамендаваць. Можа, што і выйдзе.

С ц я п а н  А н д р э е в і ч. Добра. Кліент № 4. *(Шэпча Жлукту ў вуха.)*

Ж л у к т а. Сама звярталася да вас?

С ц я п а н  А н д р э е в і ч. Не. Яе давераная асоба гаварыла пад вялікім сакрэтам. Я нават не ведаю прозвішча кліента.

Ж л у к т а. Што вы адказалі?

С ц я п а н  А н д р э е в і ч. Раіў самой звярнуцца да вас.

Ж л у к т а. Правільна.

С ц я п а н  А н д р э е в і ч. Кліент № 5 — бярэ казу, дае плюшавую канапу.

Ж л у к т а. Ну, гэта дробязь. Паглядзіце там.

С ц я п а н  А н д р э е в і ч. Кліент № 6 — бярэ фанеру, дае кантрамаркі.

Ж л у к т а. Можам.

С ц я п а н  А н д р э е в і ч. Кліент № 7.

К л а в а *(высоўвае галаву)*. Дзіма, ты хутка вызвалішся?

Ж л у к т а. Я табе патрэбен?

К л а в а. Цябе хоча бачыць Аляксандра Міхайлаўна.

Ж л у к т а. Для Аляксандры Міхайлаўны я вольны. *(Кладзе грошы ў шуфляду. Памочніку.)* Мы з вамі заўтра скончым.

Жлукта апранае пінжак. П а м о ч н і к, згарнуўшы папку, паспешна выходзіць. Уваходзяць А л я к с а н д р а  М і х а й л а ў н а  і  К л а в а.

Аляксандра Міхайлаўна. Добры дзень.

Жлукта *(ідзе ёй насустрач)*. Добры дзень, Аляксандра Міхайлаўна! Даўно вас не бачыў. *(Цалуе руку.)* Як маецеся? Вы як быццам перамяніліся.

Аляксандра Міхайлаўна. Нездаровіцца. Прыйшла прасіць вас, Дзям'ян Дзям'янавіч, можа, вы памаглі б мне ў адной справе.

Жлукта. Усё, што магу.

Аляксандра Міхайлаўна. Клавачка, вы мне прабачце, хачу пагаварыць з Дзям'янам Дзям'янавічам адзін на адзін. *(Цераз сілу ўсміхнуўшыся.)* Думаю, што вы раўнаваць не будзеце?

Клава *(абражаная)*. Калі ласка! *(Выходзіць.)*

Аляксандра Міхайлаўна садзіцца на канапу і закрывае твар рукамі.

Жлукта. Што з вамі? Можа, вады даць?

Аляксандра Міхайлаўна. Не трэба.

Жлукта. Вам нядобра?

Аляксандра Міхайлаўна. У мяне вялікае няшчасце.

Жлукта. Дома што-небудзь здарылася?

Аляксандра Міхайлаўна. Мне сорамна вам гаварыць.

Жлукта. Што за глупствы! Што мы — першы дзень знаёмы з вамі?

Аляксандра Міхайлаўна. Я зацяжарала.

Жлукта. Госпадзі Божа мой! Дык чаго ж вы хвалюецеся? Для замужняй жанчыны гэта зусім нармальная рэч.

Аляксандра Міхайлаўна *(у адчаі)*. Я не магу раджаць! Разумееце? Не магу!

Жлукта. Ну, калі ласка! Арганізуем вам даведку, што вы не можаце раджаць па стану здароўя, і кладзіцеся ў бальніцу. Я толькі не ведаю, чаму вы да мяне звяртаецеся. Іван Данілавіч і сам мог бы гэта зрабіць.

Аляксандра Міхайлаўна. Гэта здарылася без яго.

Жлукта. А-а... Тады ваша становішча сапраўды далікатнае.

Аляксандра Міхайлаўна. Ратуйце мяне.

Жлукта. Чакайце, чакайце... *(Думае.)* Што ж тут нам прыдумаць? Ён з горада нікуды не едзе?

Аляксандра Міхайлаўна. Не.

Жлукта. Сваякоў у другім горадзе ў вас няма?

Аляксандра Міхайлаўна. Няма.

Жлукта. Трэба іх выдумаць і паехаць да іх у госці...

Аляксандра Міхайлаўна. І што я ў чужым горадзе?.. Да каго я там звярнуся? Хто паможа?

Жлукта. З вамі паедзе мой памочнік.

Аляксандра Міхайлаўна. О не! Ён разбалбоча.

Жлукта. Будзьце спакойны, я ведаю, каго пасылаю. Толькі гэта будзе каштаваць...

Аляксандра Міхайлаўна. У мяне ёсць залаты гадзіннік, летняе паліто, туфлі. Я скажу мужу, што ў вагоне ўкралі. Што хочаце, толькі выратуйце!

Жлукта. Заўтра я вам скажу, у якім горадзе ў вас ёсць сваякі і калі паехаць у госці.

Аляксандра Міхайлаўна *(устае)*. Дзякую! Век не забуду вашай паслугі.

Жлукта *(цалуе, потым падносіць руку з гадзіннікам да вуха)*. Цікае. Добры гадзіннік. *(Затрымліваючы руку.)* Гэта вас Бог пакараў... за вашу ўпартасць.

Аляксандра Міхайлаўна. Грэх вам здзекавацца з мяне.

Жлукта. А вы ж з мяне здзекаваліся?

Аляксандра Міхайлаўна. Давайце лепш не ўспамінаць.

Жлукта. А можа, я сам паеду з вамі ў госці да вашых сваякоў? Удваіх мы як-небудзь усцеражом ад зладзеяў ваш гадзіннік і паліто.

Аляксандра Міхайлаўна. Я ў вашых руках, але не патрабуйце ад мяне гэтага.

Жлукта. Я вас правяду, мы абмяркуем гэта пытанне ўсебакова. *(Надзявае капялюш.)*

Жлукта і Аляксандра Міхайлаўна выходзяць.

Клава *(уваходзіць)*. Пайшлі... Што ў іх за сакрэт такі, што аж мяне з пакоя выставілі? Не падабаецца мне гэта.

Жлукта ўваходзіць. Вымае з шуфляды пачку грошай, кідае іх у камод і замыкае.

Жлукта. Ты не забылася, што сёння субота?

Клава. Абед зараз будзе гатоў.

Жлукта. А закусачка і ўсё іншае?

Клава. Усё гатова.

Жлукта. Калі Антон Макаравіч без мяне прыйдзе, скажы, што я праз паўгадзіны буду.

Клава. А куды ты?

Жлукта. Трэба правесці, нязручна.

Клава. Калі ты кожнага кліента будзеш праводзіць, дык табе і дня не хопіць.

Жлукта. Клавачка, ты гаворыш глупства. Не ўсе кліенты роўныя.

Клава *(з'едліва)*. Ну, вядома! Чаго яна прыходзіла да цябе?

Жлукта. Так, па адной справе.

Клава. Дастаць што-небудзь хоча?

Жлукта. Яна ўжо дастала без мяне.

Клава. Дык у чым жа рэч?

Жлукта. Цяпер бы рада збыць, ды не ведае як.

Клава. А што гэта такое?

Жлукта. Залаты гадзіннік і яшчэ сёе-тое... Выбачай, яна там чакае. *(Выходзіць.)*

Клава. Гадзіннік! Падумаеш, сакрэт які! Дзеля гэтага трэба ўдваіх зачыняцца! Не, тут нешта іншае. І якое нахабства! Проста на маіх вачах. А я, дурная, усё сцерагуся ды шануюся. Надоечы пацалаваць хацеў, дык і то не далася. А ён таксама расцяпа: відаць, што паэт. Другі б дамагаўся, а ён і рукі апусціў. Толькі ўздыхае ды вершы чытае. Аж каюся ўжо, што была такою жорсткаю. Цяпер невядома, калі яшчэ будзе такі выпадак. Паглядзіць, што я такая непрыступная, ды і плюне. А шкада, хлопец харошы. І паэт усё-такі... *(Пяе.)*

Помню, помню тыя росы,
Вербы над ракою;
Расплятаў мне мілы косы
Ласкавай рукою.

А далей слоў не ведаю, забылася...

Праменны *(уваходзіць)*. Можна?

Клава. Ой!

Праменны. Я, мусіць, не ў час прыйшоў. Тады выбачайце. *(Хоча выйсці.)*

Клава. Ды не, калі ласка! Але так знянацку...

Праменны. Я вам перашкодзіў?

Клава. Не, нічога.

Праменны. Гэта я да Язвы ішоў, але яго дома няма, дык я думаў, можа, ён у вас.

Клава. Не, няма. Нікога няма.

Праменны. Тады выбачайце. *(Хоча ісці.)*

Клава *(у адчаі)*. Чакайце! А вершы?

Праменны *(затрымліваецца)*. Што вершы?

Клава. У вас жа, напэўна, новыя вершы ёсць?

Праменны. Новых няма. Што былі, я ўсе вам прачытаў.

Клава. Ведаеце, я забылася тую песню пра косы. Яна пры вас?

Праменны. Пры мне.

Клава. Прачытайце, калі ласка. Я вас прашу. Я хачу запомніць.

Праменны *(нерашуча)*. Дык вам жа, мусіць, часу няма.

Клава. Нічога, прачытайце.

Праменны. Я на вуліцы сустрэў вашага мужа.

Клава. Ён вернецца толькі праз паўгадзіны. Прачытайце. *(Садзіцца на канапу, гатовая слухаць.)*

Праменны вымае сшытак і хоча чытаць стоячы.

А вы сядзьце!

Праменны садзіцца на крэсла.

Сюды, на канапу. Лірыка цяпле́й гучыць, калі яе зблізку слухаеш.

Праменны садзіцца на канапу.

Бліжэй суньцеся. Вось так, каб і я магла чытаць. Так мне лягчэй будзе запомніць. Цяпер чытайце.

Праменны *(чытае)*

Помню, помню тыя росы,
Вербы над ракою;
Расплятаў мне мілы косы
Ласкавай рукою.

Клава. Вельмі хараша. *(Схіляе галаву Праменнаму на плячо.)*

Праменны *(чытае яшчэ з большым натхненнем)*

Дзе ж цяпер ты, любы дружа?
Дзе ты, мой саколе?
Ці то ў лесе, ці то ў лузе,
Ці то ў чыстым полі...

Клава. Чакайце хвілінку. *(Паўтарае сама сабе страфу.)* Так. Цяпер буду помніць. Скажыце, а прозай вы таксама пішаце?

Праменны. Прыходзіцца часамі.

Клава. Скажыце мне прозай што-небудзь такое.

Праменны. Што ж вам сказаць?

Клава. Што-небудзь пра мяне.

Праменны. Нічога не выйдзе.

Клава. Чаму?

Праменны. Пра вас я магу толькі вершам.

Клава. А вы паспрабуйце. Скажыце, напрыклад, ці думаеце вы калі пра мяне?

Праменны. Я думаю пра вас дзень і ноч. Нават калі сплю, вы з'яўляецеся мне ў сне.

Клава. Ну, і... што ж вы тады робіце?

Праменны. Я цалую вашы рукі, вашы вусны, вашы цудоўныя вочы.

Клава. А як вы гэта робіце?

Праменны. Я не магу вам гэта выказаць словамі.

Клава. Уявіце, што гэта ў сне.

Праменны. У сне я вас абнімаю вось так *(абнімае)* і цалую ў самыя вусны — вось так... *(Цалуюцца.)*

Стук у дзверы, якога Праменны і Клава за пацалункам не чуюць. Уваходзіць Язва.

Клава *(убачыўшы Язву)*. Ай! Як вам не сорам! Не пастукалі нават!

Язва. Не хвалюйцеся, усё ў парадку. Камедыя развіваецца нармальна. Пакуль няверны муж наладжвае спатканне з адной з сваіх палюбоўніц, яго верная жонка... і гэтак далей. *(Вымае блакнот і запісвае.)*

Клава. Што вы там крэмзаеце? Гэта мне таварыш Праменны свой сон расказваў, а вы напішаце чорт ведае што.

Язва *(піша)*. Адзначым: акт другі, карціна пятая — сон паэта Праменнага.

Праменны. Гэта свінства — умешвацца ў чужыя інтымныя справы! Ты не маеш на гэта ніякага права.

Язва. Як! Аўтар камедыі не мае права паказваць інтымнае жыццё сваіх герояў? Добры інтэрас! І наогул, гэта не твая справа. Нейкі другарадны персанаж хоча вучыць аўтара, што яму паказваць і што не.

Праменны. Тваё нахабства мяне абурае.

Язва. Годзе! Давай не будзем. Скажы лепш, якія твае далейшыя намеры ў адносінах Клаўдзіі Пятроўны? Як аўтар я павінен гэта ведаць.

Праменны. Гэта я скажу самой Клаўдзіі Пятроўне.

Язва. Толькі не марудзь, калі ласка! А ў вас, Клаўдзія Пятроўна, якія намеры ў адносінах гэтага майго героя?

Клава. У мяне ніякіх намераў няма.

Язва. А калі ён скажа, што страшэнна вас любіць?

Клава. Дык ён жа гэтага не гаворыць.

Язва. Што ён жыць без вас не можа?

Клава. Я гэтага ад яго яшчэ не чула.

Язва. Калі ён захоча вырваць вас з лап аспіда і васіліска і зрабіць сяброўкай жыцця, заўсёднай крыніцай свайго паэтычнага натхнення?

Клава. Ці не сватаць вы мяне збіраецеся?

Язва. Аўтару прыходзіцца быць і сватам.

Клава. Я вам на гэта нічога не адкажу.

Язва. Чаму?

Клава. Я павінна падумаць.

Язва. Разумею: вы хочаце сваё апошняе слова сказаць у апошнім акце. Што ж, няхай будзе і так. Але там я вам ужо развяжу языкі. Хопіць! Пара канчаць гэту камедыю. Іначай будзе

таптанне на месцы, чаго глядач цярпець не можа. Між іншым, я чуў, што хутка імяніны Дзям'яна Дзям'янавіча.

Клава. Праз два тыдні.

Язва. Вось гэта і будзе фіналам камедыі. Толькі, Клаўдзія Пятроўна, пастарайцеся, каб мы з ім *(паказвае на Праменнага)* таксама былі запрошаны.

Клава. Тут я ўбаку. Ён сам запрашае сваіх гасцей.

Язва. Скажыце, што мы яму сюрпрыз рыхтуем.

Клава. Добра, скажу. Толькі каб без скандалу.

Язва. Даю слова, што мы будзем трымаць сябе як свядомыя грамадзяне.

Клава *(схамянулася)*. Ай, у мяне ж курыца перасмажылася!

Язва. Дазваляю вам выйсці за кулісы.

Клава выходзіць.

Праменны. Ты сапраўды пішаш гэту камедыю ці толькі дурышся?

Язва. Я ўжо да фінішу падыходжу, а ён — дурышся!

Праменны. Па-мойму, нічога ў цябе не выйдзе.

Язва. А па-мойму, выходзіць.

Праменны. Выйсці-то, можа, і выйдзе, але што гэта будзе за камедыя? Што ты ў ёй паказваеш? Важдаешся ўвесь час з гэтым блатняком і яго кліентамі.

Язва. Мая задача — паказаць тыя балячкі, якія часамі з'яўляюцца на нашым здаровым целе.

Праменны. Занадта ўжо згушчаны фарбы.

Язва. Гэта ў адносінах Жлукты фарбы згушчаны? Ну, ведаеш... У гэтай бочцы пакасці так густа перамешаны прагнасць, подласць, цынізм, нахабства, што больш згусціць ніяк нельга. Не, я з асалодаю ўтыкаю вастрыё свайго пяра ў гэту агідную тушу.

Праменны. Ну, няхай Жлукта, а гэтыя ўсе, што карыстаюцца яго паслугамі?

Язва. А гэтыя ўсе няхай не крыўдзяцца, калі я зачаплю каго-небудзь з тых, хто стаіць блізка яго.

Праменны. Але ж іх у цябе шмат... Што скажа на гэта глядач?

Язва. Глядач? А вось запытайся ў гледачоў, хіба няма сярод іх такіх, якія не раз карысталіся паслугамі якога-небудзь Жлукты? Ім і не ў галаве, што яны самі сваімі неабдуманымі ўчынкамі памагаюць жлуктам расці і пладзіцца. Дык няхай жа паглядзяць збоку на сябе ды пасмяюцца, а пасмяяўшыся, падумаюць. Апрача таго, ты яшчэ не ведаеш, чым гэта ўсё скончыцца, і не можаш меркаваць, удалася мая камедыя ці не.

Праменны. Як ты ні кажы, а ў ёй няма амаль ніводнага дадатнага вобраза.

Язва. Як? А мы з табой?

Праменны. Таксама героі!

Язва. А чым ты не герой? Добры газетны работнік, былы драматург і будучы паэт. Вобраз, праўда, бледнаваты. Адзіная яркая рыса — гэта тое, што ты чужымі вершамі спакушаеш чужых жонак.

Праменны. Тсс... пачуе.

Язва. Маўчу, маўчу... А я ўжо тым герой, што ўзяўся за напісанне гэтай камедыі.

Уваходзіць Клава.

Клава. Муж ідзе.

Язва выходзіць. Праменны, на момант затрымаўшыся, цалуе Клаву.

*(Шэпча.)* Прыходзьце заўтра.

Праменны выходзіць. Уваходзіць Жлукта.

Жлукта. Да мяне ніхто не прыходзіў?

Клава. Да цябе? Не, ніхто.

Жлукта *(глядзіць на Клаву)*. Якая ты ружовая!

Клава. Ад пліты.

Жлукта. Выходзіць, табе карысна стаяць ля пліты.

Клава. Ну, уладзіў ты ёй?

Жлукта. Уладжу, гэта дробязь. Ёсць важнейшыя справы.

Клава. Якія?

Жлукта. Трэба да імянін рыхтавацца.

Клава. Пераедзем на новую кватэру, тады ўжо.

Жлукта. Пірагі там і іншае, што па тваёй лініі, рана, вядома, а па маёй лініі пара пачынаць. Трэба грамадскую думку падрыхтаваць. Па горадзе павінны пайсці чуткі, што Чарскі збіраецца спраўляць імяніны.

Клава. Падумаеш, якая важная падзея!

Жлукта. Гм... А ты праўду кажаш: імяніны — мала. Тады аб'явім, што Чарскі рыхтуецца святкаваць юбілей.

Клава. Які юбілей?

Жлукта. Дваццацігадовы юбілей творчай дзейнасці.

Клава. Якой дзейнасці?

Жлукта. Якой-небудзь... мастацкай, сцэнічнай.

Клава. А калі скажуць, пакажы сваю творчасць?

Жлукта. Няма, згарэла, вайна.

Клава. А нашто гэта табе?

Ж л у к т а. Я хачу, каб на вечары начальства было. Лішняя заручка ніколі не пашкодзіць. Ну, проста на імяніны могуць і не пайсці, хоць бы той жа Бывалаў. А калі юбілей, тут ужо справа іншая, павінны ўважыць. Добра было б, каб у друку артыкульчык з'явіўся. Язва мог бы гэта зрабіць, але не дагадаецца, шэльма.

К л а в а. Ён казаў, што рыхтуюць з Праменным табе нейкі сюрпрыз.

Ж л у к т а. Да імянін?

К л а в а. Ага. Але трэба, каб ты іх на вечар запрасіў.

Ж л у к т а. На вечар? Начальства будзе, нязручна. Можа, лепш паслаць ім дадому паўлітра і закускі, няхай вып'юць.

К л а в а. Пакрыўдзяцца.

Ж л у к т а. Запрасіць, кажаш? Хіба ў якасці прадстаўнікоў друку? А што, гэта, можа, і нядрэнна. Салідна нават. Паставім ім асобны столік. Праменны мог бы і верш мне прысвяціць. Ты яму намякні хіба.

К л а в а. Чаму я павінна яму намякаць?

Ж л у к т а. Таму што ён табе свае вершы чытае, а не мне.

К л а в а. Сочыш?

Ж л у к т а. Кліенты мне гавораць.

К л а в а. Шпіёнаў завёў?

Ж л у к т а. Глупства ты гаворыш. Наогул мяне гэта мала турбуе, але ты павінна трымаць сябе больш прыстойна.

К л а в а. Чыя б карова мычала, а чыя б і памаўчала.

Ж л у к т а *(з пагрозай)*. Глядзі! Я мычу, мычу, дый зараўці магу!

Стук у дзверы.

Калі ласка!

Уваходзіць К а н я г і н.

К а н я г і н. Добры дзень у хату!

Жлукта *(ідзе насустрач)*. Добры дзень, Антон Макаравіч! *(Вітаецца.)*

К а н я г і н *(падыходзіць да Клавы)*. А вы ўсё квітнееце, Клаўдзія Пятроўна. *(Вітаецца.)*

К л а в а. Вясна, Антон Макаравіч.

К а н я г і н. Маладосць, Клаўдзія Пятроўна, а не вясна. Маладосць чалавека красіць. Мне ўжо і вясна не памагае.

К л а в а. Вы зусім яшчэ не стары, Антон Макаравіч. За вамі яшчэ дзяўчаты бегаць будуць.

К а н я г і н. Дзе ўжо там... Сама нябось не выбрала старэнькага, а вунь якога арла сабе аблюбавала. *(Хлопае Жлукту па плячы.)*

Жлукта. Сядайце, Антон Макаравіч. Клава, падай нам, што ў цябе там ёсць.

Клава выходзіць.

Канягін *(садзіцца)*. Стаміўся, Дзям'ян Дзям'янавіч. Да дванаццаці, да дзвюх гадзін ночы кожны дзень.

Жлукта. Адпачываць трэба, Антон Макаравіч. Вы сябе зусім не шануеце.

Канягін. Якое там адпачываць! Тысячы спраў розных. Ляжаш, і яны з галавы не выходзяць. Са скуры вылузайся, а зрабі.

Клава ставіць на стол бутэльку каньяку, чаркі, закуску.

*(Бярэ ў рукі бутэльку і разглядае этыкетку.)* «Арарат»! Дзе гэта вы дасталі?

Жлукта. Сябры прыслалі з Масквы. *(Налівае.)* Вып'ем, Антон Макаравіч... Каб хутчэй нам перажыць усе гэтыя нягоды. *(Чокаюцца.)*

Канягін *(выпівае)*. А-а-а... Добры каньячок... *(Закусвае.)* Прэ, нячысты дух. На Кубань хоча прабрацца. Крыўдна, Дзям'ян Дзям'янавіч. Да слёз крыўдна. Але скруціць ён сабе галаву. Мы яму скруцім. Ёсць яшчэ сіла ў нас. Збяромся і ўдарым. Усе падымемся на акаяннага. Я пайду, вы пойдзеце.

Жлукта. Пойдзем, Антон Макаравіч. Я даўно аб гэтым мару, ды вось дактары праклятыя.

Канягін. Я і забыўся. У вас жа, здаецца, рак ці жаба, вы казалі?

Жлукта. У тым вось і справа, што яны і самі не разбяруць. *(Налівае.)* Давайце яшчэ па маленькай. *(Выпіваюць.)*

Канягін. Выдатны каньячок! *(Закусвае.)*

Жлукта. Хутка мы з вамі па-сапраўднаму вып'ем, Антон Макаравіч.

Канягін. А што такое?

Жлукта. Юбілей спраўляю.

Канягін. Вось як!

Жлукта. Так. Дваццацігадовы юбілей творчай дзейнасці.

Канягін. Тут ужо хочаш не хочаш, а прыйдзецца выпіць.

Жлукта. Хачу запрасіць Паўла Антонавіча, як вы параіце?

Канягін. А чаму ж? Трэба запрасіць.

Жлукта. Не прыйдзе. Ён, напэўна, і не ведае, што ў горадзе пражывае нейкі Чарскі.

Канягін. Ведае. Я сам колькі разоў гаварыў яму пра вас. Заняты ён, праўда, але дзеля такога выпадку...

Жлукта. Хіба вы ўжо закінеце слоўца.

К а н я г і н. Пагавару. Думаю, што не адмовіцца. Хіба ўжо вельмі заняты будзе. Ох, вы нас абкарміць надумалі, Клаўдзія Пятроўна. Пасядзіце з намі.

К л а в а. Я зараз, Антон Макаравіч. *(Выходзіць.)*

К а н я г і н. Харошая ў цябе жонка, Дзям'ян Дзям'янавіч.

Ж л у к т а. Ды і вас Бог не пакрыўдзіў.

К а н я г і н. Не, я на Аўдоццю Карпаўну нічога не скажу. Яна таксама добрая жанчына. Толькі сумна ёй. Я ўвесь час заняты. Яна адна ды адна дома... толькі з дачкою. Хоць бы ты, кажа, пагаварыў калі з намі. Пасля вайны, кажу. Тады ўжо мы з табой нагаворымся. *(Закурвае.)*

Ж л у к т а. У вас новая запальніца. Тую, мусіць, згубілі ўжо?

К а н я г і н. О не, дзе вы бачылі! Такі дарагі падарунак ды згубіць. Я ёю карыстаюся толькі ў асабліва ўрачыстых выпадках. А гэта ў мяне штодзённая. *(Да Клавы.)* Хопіць вам ужо насіць, Клаўдзія Пятроўна. Прысядзьце з намі ды выпіце чарачку. *(Налівае.)* Вып'ем, Дзям'ян Дзям'янавіч, за нашых жонак: за тваю Клаўдзію Пятроўну і за маю Аўдоццю Карпаўну, за іх клопаты аб нас, за вернасць сямейнаму ачагу.

Ж л у к т а *(гледзячы на Клаву)*. Каб яны і надалей былі нам вернымі жонкамі і руплівымі памочніцамі. *(П'юць.)*

К а н я г і н. Цудоўнае пітво! *(Закусвае.)* У цябе я душой адпачываю, Дзям'ян Дзям'янавіч. Ніхто мяне тут не асудзіць, не абсмяе. З табой я аб усім магу пагаварыць. А больш мне няма з кім. Таварышаў шмат, а друга няма. І людзі яны нядрэнныя. Павел Антонавіч — выдатны работнік: адукаваны, разумны, а душа не ляжыць. Начальства ён мне. Падначаленага бачыць, а чалавека не бачыць. Мікалай Андрэевіч — гэты заўсёды з жартачкамі. Насмешнік. Не так скажаш, зараз жа падхопіць. А я чалавек просты, універсітэтаў не праходзіў. Хоць і не па-вучонаму скажу, але ад душы. Добра ім, што яны мелі магчымасць універсітэты канчаць. Крыўдна, Дзям'ян Дзям'янавіч!

Ж л у к т а. Супакойцеся, Антон Макаравіч, бог з імі. Вашу работу ўбачаць і ацэняць. Давайце вып'ем за нашу дружбу. *(Налівае.)*

К а н я г і н *(устае)*. Друг!.. Давай я цябе пацалую! *(Цягнецца цераз стол.)* Адзіны ты ў мяне друг. За гэта вып'ем! Клаўдзія Пятроўна! За нашу дружбу! Дайце вашу ручку! *(Цалуе руку. П'е. Не разлічыўшы, садзіцца міма крэсла.)*

Клава падхоплівае яго пад руку.

К л а в а. Асцярожна! Вы не ўдарыліся? *(Усаджвае Канягіна на крэсла.)*

Канягін. А я ім дакажу, што я — гэта я. І не маеце права смяяцца з мяне. Універсітэты за маёй спінай канчалі.

Клава. Закусіце, Антон Макаравіч.

Канягін. Клаўдзія Пятроўна, вашу ручку! *(Цалуе руку.)* Ты, Дзям'ян Дзям'янавіч, не глядзі на мяне так сярдзіта.

Жлукта. Што вы, Антон Макаравіч! Я ведаю, што вы для Клаўдзіі Пятроўны такі самы друг, як і для мяне.

Канягін. І не крыўдзіся. Я стары, на мяне крыўдзіцца грэх. Вашу ручку, Клаўдзія Пятроўна! Я хацеў пацалаваць вашу ручку, а вы не далі.

Клава. Вы ж пацалавалі.

Канягін *(здзіўлена)*. Ужо? Глядзі ты, які спрытны! А якую я пацалаваў?

Клава. Вось гэту, правую.

Канягін. А цяпер дайце левую... а то ёй крыўдна будзе. А ты не глядзі, Дзям'ян Дзям'янавіч.

Жлукта. Я нічога не бачу. Вось я нават адвярнуўся.

Канягін *(трымаючы Клавіну руку)*. Ты талент! Ты геній! Чарскі! О! Я ведаю, хто такі Чарскі! Луна? Не, не луна. Адным словам, ты твары сабе, твары... І не звяртай на нас увагі.

Жлукта. Вы мне прабачце, Антон Макаравіч, я на хвілінку адлучуся. *(Выходзіць.)*

Канягін. Пайшоў?

Клава. Пайшоў.

Канягін. Пакрыўдзіўся?

Клава. Не, чаго яму крыўдзіцца?

Канягін. А-а, тварыць пайшоў. *(Не выпускаючы Клавінай рукі, кладзе галаву на рукі.)* Я ім дакажу, што я — гэта я... *(Заціх.)*

Жлукта *(у дзвярах)*. Гатоў?

Клаваківае галавой.

Канягін *(падымаючы галаву)*. Заўсёды гатоў. Налей, друг!

Жлукта. Налей нам, Клава, па добрай чарцы.

Клава налівае. Канягін тым часам зноў палажыў галаву на рукі і захроп.

Угаманіўся.

Клава. Давай паложым на канапу.

Падымаюць Канягіна з крэсла і кладуць на канапу.

Боты трэба было б зняць.

Жлукта. Няхай дрыхне так.

Клава. Нашто ты яго спойваеш заўсёды?

Жлукта. Мая справа даць кліенту тое, чаго ён хоча. Хоча піць, няхай п'е; хоча ў камізэльку паплакаць, няхай паплача.

Камізэлька высахне, а мне такога кліента мець выгадна. Ды дзе ж яму і напіцца, як не ў мяне?

Клава. А мне яго шкада. *(Пачынае прыбіраць са стала.)* Добры чалавек, і такое няшчасце — выпіць любіць.

Жлукта. Нам такія і трэба.

Абое выходзяць.
Канягін уздзіраецца з канапы. Садзіцца.

Канягін. Дык гэта, значыцца, я — кліент. Пачаставаў, сволач! Цалаваўся яшчэ... Юда... «Кліент, яму такія патрэбны»... А ты хто такі? Чаркі... А хто такі Чаркі? Гэта мы яшчэ паглядзім.

Язва *(уваходзіць)*. Добры вечар, Антон Макаравіч! А дзе ж гаспадар?

Канягін *(ківае пальцам)*. Хадзі сюды.

Язва падыходзіць.

Скажы, хто я такі?

Язва. Намеснік старшыні гарсавета, як мне вядома.

Канягін. Гэта там *(махае рукой)*. Тут хто я?

Язва. А тут вы, па-мойму, госць.

Канягін. А ён кажа, што я — кліент.

Язва. Вось як! Можа, для яго вы і кліент.

Канягін. Не, сволач, я — не кліент, я — чалавек. Чалавек я ці не?

Язва. Чалавек.

Канягін. Чэсны?

Язва. Абсалютна.

Канягін. А ён?

Язва. Пра яго я гэтага не скажу.

Канягін. А хто ён?

Язва. Вы апраніцеся, Антон Макаравіч. *(Нацягвае на яго паліто.)* Вось ваша шапачка. А хто ён, гэта мы ўжо высветлілі. Я вас правяду і раскажу. *(Бярэ пад руку і вядзе да дзвярэй.)*

Заслона

## АКТ ТРЭЦІ

### Карціна шостая

Новая кватэра Жлукты. Новая мэбля, трумо, дываны. Пасярэдзіне пакоя доўгі стол. На стале бутэлькі з гарэлкай і віном, талеркі з халоднай закускай. Клава раскладае прыборы.

Клава *(лічыць прыборы, ківаючы пальцам, потым уголас)*. ...семнаццаць, васемнаццаць. Здаецца, усе.

Жлукта *(вымае паперку)*. Павел Антонавіч — раз. Канягін з жонкаю — два.

Клава. Тры.

Жлукта. Два і тры... *(Прабягае вачыма спіс.)* ...семнаццаць, васемнаццаць — правільна. Плюс два прадстаўнікі друку. На іх столік паўлітра хопіць. *(Бярэ са століка бутэльку віна і ставіць на вялікі стол. Повару, які ўносіць талерку з закускай.)* Гэта цяляціна? Сюды стаўце.

Клава. Можа, на той канец?

Жлукта. Тут будзе сядзець Павел Антонавіч. Ён, я чуў, любіць цялялцінку.

Повар ставіць талерку і выходзіць.

Ну, як стол выглядае? Па-мойму, нічога.

Клава. Зусім добра.

Жлукта. Хацеў бы я ведаць, хто яшчэ ў горадзе можа закаціць такі банкет! *(Любуецца відовішчам.)* А помніш, Клава, як мы прыехалі сюды? Ты яшчэ хацела тады на работу ісці. Не верыла ў мае магчымасці. Што ты цяпер скажаш?

Клава. Нездарма цябе завуць усёмагутным.

Жлукта. Я такі і ёсць.

Клава. Глядзі, каб не пляснуўся са сваёй магутнасцю.

Жлукта. Яшчэ што скажаш. Ніводзін кароль не сядзіць так моцна на сваім троне, як я. Доказ — сённяшні банкет.

Клава. Ты думаеш, усе прыйдуць?

Жлукта. Абавязкова. Калі сам Павел Антонавіч абяцаў быць, дык я што-небудзь значу для іх.

Клава. Табе абяцаў?

Жлукта. Я Канягіну званіў, прасіў пагаварыць. Ён сказаў, што будзе.

Стук у дзверы.

Вось ужо нехта ідзе. Калі ласка!

Уваходзяць Язва і Праменны.

Язва. Віншую, віншую, віншую!

Праменны *(стаўшы ў позу)*

Віншую ад сэрца цябе я, друг Чарскі!
Працуеш ты ўдала, жывеш ты па-царску,
І як ні круці там — ці гэтак, ці так,
А ты ў сваёй справе, дальбог жа, мастак!
Табе па заслугах аддасца за гэта —
Многія лета! Многія лета!

Жлукта *(да Клавы)*. Чула? *(Праменнаму.)* Вы ж бы пакінулі гэта для тосту.

Язва. Для тосту мы знойдзем нешта лепшае.

Жлукта. Дзякую, сябры! Шчыра дзякую! *(Цісне рукі.)*

Язва. Клаўдзіі Пятроўне маё шанаванне. І вы сёння ззяеце водбліскам славы як спадарожнік гэтага вялікага свяціла.

Праменны. Віншую! *(Цісне Клаве руку і дапытліва глядзіць у вочы. Яна ледзь прыкметна ківае галавой.)*

Язва. Мы, здаецца, не спазніліся?

Жлукта *(глядзіць на гадзіннік)*. Наадварот, вы з'явіліся вельмі акуратна.

Язва. Як прадстаўнікі друку мы баяліся прапусціць хоць якую-небудзь дробязь з гэтай вялікай урачыстасці.

Жлукта. Вось ваш столік, таварышы. Будзьце як дома і прабачце, калі мы на хвіліну вас пакінем.

Жлукта і Клава выходзяць.

Праменны. Кажуць, што сам Павел Антонавіч Бывалаў запрошаны.

Язва. Запрасіць можна і самога Госпада Бога.

Праменны. А Канягін будзе?

Язва. Гэтага я ўгаварыў. Абяцаў яму поўную асалоду. Трэба, каб гэты пузыр лопнуў з трэскам.

Праменны. А яго прыход нам не перашкодзіць?

Язва. Наадварот, дапаможа. *(Падыходзіць да століка.)* Лупянём па чарцы, пакуль суд ды справа.

Праменны. Давай. Больш наўрад ці прыйдзецца.

Язва *(налівае)*. Ты яе папярэдзіў?

Праменны. Гаварыў. Вагаецца.

Язва. За поспех нашага прадпрыемства! *(П'юць і закусваюць. Да Клавы, якая ўвайшла.)* Вы, мая гераіня, гатовы да развязкі?

Клава *(спужана)*. Ой! Так хутка!

Язва. Часіна набліжаецца.

Клава. Што ж я павінна рабіць?

Я з в а. Што падкажа вам ваша сэрца. Сітуацыя такая, што любы ваш учынак прыдасца мне для фіналу.

К л а в а. Страшна мне.

Я з в а. Гэта нармальна. У такіх выпадках заўсёды бывае страшна.

К л а в а. Ён будзе праследаваць.

Я з в а. У мяне ёсць лякарства ад страху. *(Вымае ваенны білет.)* Вось гэты талісман. Ён мне ўжо саслужыў службу.

К л а в а *(здзіўлена)*. Ваенны білет? Ён у вас быў?

Стук у дзверы. Клава ідзе сустракаць гасцей. Уваходзіць К а н я г і н.

К а н я г і н. Добры вечар, Клаўдзія Пятроўна! Віншую!

К л а в а. Дзякую, Антон Макаравіч.

К а н я г і н. А дзе ж сам віноўнік урачыстасці? А, вось ён. *(Да Жлукты, які выйшаў з другога пакоя.)* Юбіляру маё шанаванне! Віншую. Жадаю шмат год і ўсё такое.

Я з в а *(паціху да Праменнага)*. Шмат год турэмнага зняволення.

Ж л у к т а. Дзякую! Шчыра дзякую, што прыйшлі, не пагрэбавалі.

К а н я г і н. Ну што вы! Гэтакі гонар! Хіба можна грэбаваць!

Ж л у к т а. Вы для мяне самы дарагі госць.

К а н я г і н. Што там госць! Быў бы юбіляр, а госці заўсёды знойдуцца.

Ж л у к т а. Толькі я Аўдоцці Карпаўны нешта не бачу.

К а н я г і н. Хварэе, небарака. Печань яе мучыць.

Ж л у к т а. Як шкада! Хоць бы трошкі пасядзела з намі.

К а н я г і н. Не можа. Ніяк не можа.

Ж л у к т а. Што ж, прыйдзецца нам выпіць за яе здароўе.

К а н я г і н. Ды ўжо ж. *(Аглядае пакой.)* А кватэрка ў вас нядрэнная.

Ж л у к т а. Так, нішто сабе. Цяперашнім часам раскашавацца не прыходзіцца.

К а н я г і н. А гэта што ў вас за партрэт?

Ж л у к т а. Фамільны, можна сказаць. Анатолій Васільевіч Луначарскі.

К а н я г і н. Дзядзька, значыцца.

Ж л у к т а. Ага.

К а н я г і н. А вы такі здорава падобны на яго. *(Падморгвае Язве.)*

Я з в а *(паціху Праменнаму)*. Як свіння на лебедзя.

Ж л у к т а. Як-ніяк радня ўсё-такі.

К а н я г і н. Адразу відаць.

Ж л у к т а. Даўно вы ў нас не былі, Антон Макаравіч.

К а н я г і н. Моцна заняты быў. Ды і Аўдоцця Карпаўна хварэе.

К л а в а. А мы думалі, пакрыўдзіліся чаго-небудзь.

К а н я г і н. Ну што вы!

К л а в а. Апошні раз пайшлі вы ад нас так, што мы і не бачылі.

Ж л у к т а. Прыйшлі ў сталовую, глядзім...

К а н я г і н. А кліента і след прастыў.

Ж л у к т а *(крыху занепакоены)*. Якога кліента?

К а н я г і н. Цьфу ты! Звярзлося невядома што. Госця, хацеў я сказаць.

К л а в а. А мы баяліся, хаця б з вамі чаго не здарылася па дарозе.

К а н я г і н. А што можа здарыцца? Дарога невялікая: не дойдзеш, ракам дапаўзеш.

Ж л у к т а. Жартаўнік вы, Антон Макаравіч.

П о в а р *(высоўвае галаву з дзвярэй кухні)*. Можна вас на хвілінку, Клаўдзія Пятроўна?

К л а в а *(да Канягіна)*. Прабачце. *(Выходзіць.)*

Ж л у к т а *(бярэ Канягіна пад локаць і адводзіць крыху ўбок)*. З Паўлам Антонавічам гаварылі?

К а н я г і н. Ён прасіў прабачэння.

Ж л у к т а *(спахмурнеўшы)*. Не захацеў прыехаць.

К а н я г і н. Заняты. Чакае званка з Масквы. Даручыў мне вас павіншаваць.

Ж л у к т а. Хоць не забывае пра мяне, і гэта добра.

К а н я г і н. Ён пра такіх людзей не забывае.

К л а в а *(высунула галаву з кухонных дзвярэй)*. Дзіма, на хвілінку. Прабачце, Антон Макаравіч!

Ж л у к т а *(да Канягіна)*. І там без мяне не ўправяцца. *(Выходзіць.)*

Я з в а *(паказвае на чарку)*. Можа, пакуль суд ды справа, возьмеце маленькую, Антон Макаравіч?

К а н я г і н *(жэст рукой, нібы адхіляе ад сябе нешта)*. Не, кончана! Я з таго самага дня і ў рот не бяру. Як успомню, што праз яе, праклятую, у кліенты трапіў...

Я з в а. Сёння ён будзе ўшанаваны як мае быць.

К а н я г і н. Толькі таму я і прыйшоў.

Я з в а *(ляпае рукой па запісной кніжцы)*. Тут у мяне ўся яго паднаготная.

К а н я г і н. А вы перадайце гэта ў адпаведныя органы.

Я з в а. Органы ім зоймуцца, само сабою. Спачатку мы самі наладзім яму бенефіс. Вы толькі нам дапамагайце.

Уваходзіць Ж л у к т а, за ім — К л а в а.

Ж л у к т а. Выбачайце яшчэ раз, Антон Макаравіч, што пакінулі вас адных.

К а н я г і н. А мы і не сумавалі.

Уваходзяць г о с ц і, вітаюцца, віншуюць Жлукту. Жанчыны абкружылі яго.

1-я г о с ц я. Дайце хоць глянуць на яго.

2-я г о с ц я. Зажмурся, вочы папсуеш.

1-я г о с ц я. Квітнее, проста квітнее.

2-я г о с ц я. Каб наша ўсё мастацтва так квітнела.

П а ж ы л а я г о с ц я *(аглядаючы кватэру)*. Якое ўтульнае гняздзечка! Праўда, Сеня?

П а ж ы л ы г о с ц ь. Якая птушачка, такое і гняздзечка.

П а ж ы л а я г о с ц я. Добры вечар, Клавачка! Як вы міла сёння выглядаеце! А якая ў вас сукенка прыгожая!

К л а в а. Гэта мне Дзям'ян Дзям'янавіч к юбілею падарыў.

П а ж ы л а я г о с ц я. Цудоўная. Праўда, Сеня, прыгожая сукенка?

П а ж ы л ы г о с ц ь. Не толькі сукенка.

П а ж ы л а я г о с ц я. Хоць бы раз ты справіў мне такую.

П а ж ы л ы г о с ц ь. Ты ў мяне і без сукенкі нішто сабе бабка.

Жлукта сустракае ў дзвярах А л я к с а н д р у М і х а й л а ў н у і выходзіць з ёю на авансцэну.

Ж л у к т а. Як вы сябе адчуваеце, Аляксандра Міхайлаўна?

А л я к с а н д р а М і х а й л а ў н а. Дзякую, я здарова.

Ж л у к т а. Пабляднелі.

А л я к с а н д р а М і х а й л а ў н а. Я думаю.

Ж л у к т а. А гэта вам да твару. Я вельмі рад, што ўсё ў парадку. *(Цалуе руку, а потым падносіць яе да вуха.)* Цікаюць.

А л я к с а н д р а М і х а й л а ў н а. Не напамінайце мне пра гэта.

1-ы г о с ц ь *(праходзячы па сцэне)*. Я ўжо не адмовіўся б і за стол сесці.

2-і г о с ц ь. Ды вось не запрашаюць.

1-ы г о с ц ь. Хто ён такі, гэты Чарскі?

2-і г о с ц ь. Каб я ведаў.

1-ы г о с ц ь. Каб прыйшлося тост падняць, дык невядома, што і гаварыць.

2-і г о с ц ь. У гэтым без нас разбяруцца. Наша справа выпіць ды закусіць.

1-ы г о с ц ь. А выпіць ёсць што.

Я з в а. Шкада мне гэтых хлопцаў. Прыйдзецца ім пайсці нясолана хлябаўшы.

Ж л у к т а. Таварышы, прашу да стала! Антон Макаравіч, сюды, калі ласка!

Госці рассаджваюцца.

Жлукта *(увіхаючыся каля Канягіна)*. Вам каньячку?

Канягін. Мне ўсё роўна. Хоць і каньячку.

Жлукта. Таварышы, прашу наліць!

Язва. Я прапаную выбраць тамаду. Гаспадар няхай будзе толькі гаспадаром.

Жлукта. Тады папросім Антона Макаравіча.

Галасы. Антона Макаравіча. Таварыша Канягіна!

Пажылы госць. Ён у нас чалавек бывалы і трывалы, яму і чаркі ў рукі.

Канягін. Дзякую за давер'е. Пастараюся яго апраўдаць. *(Устаў.)* Я прапаную падняць першы тост за нашага слаўнага юбіляра, за...

Язва *(устае)*. Таварыш тамада! Прашу слова для нечарговай заявы.

Галасы. Як гэта бястактна!

— Хто ён такі?

— Выскачыў, як Піліп з канапель.

Язва. Я разумею, таварышы, вашу нецярплівасць і законнае абурэнне, але прашу хвілінку ўвагі.

Канягін. Гаварыце, што ў вас там.

Язва. Мы з таварышам Праменным падрыхтавалі сюрпрыз. Мы б хацелі паднесці яго юбіляру раней, чым будзе выпіты першы бакал.

Галасы. Пасля! Пасля!

— Чаго ж вы спалі дагэтуль?

Канягін. Таварышы! Давайце не крыўдзіць юбіляра. Даставім яму прыемнасць атрымаць сюрпрыз, а таварышам, якія рыхтавалі, паднесці яго.

Галасы. Ну, вось яшчэ!

— Выдумалі невядома што.

Язва. Дзям'ян Дзям'янавіч і Клаўдзія Пятроўна! Прашу вас выйсці на хвілінку ў другі пакой. Калі я крыкну «можна», тады вы зойдзеце.

Жлукта і Клава выходзяць.

Мы напісалі віншаванне ў вершах і хочам зачытаць яго, як толькі юбіляр увойдзе ў пакой. Але вось бяда — мы не ведаем, у якой галіне таварыш Чарскі працуе. Можа, хто нам падкажа?

Усе маўчаць. Доўгая паўза.

Канягін. Ну што ж, давайце выручаць хлопцаў.

1-ы госць. Па-мойму, ён мастак.

Язва. Дзе вы бачылі яго карціны? У Траццякоўскай галерэі?

1-ы госць. Карцін я не бачыў, але нехта мне казаў, што ён мастак.

Канягін. Вось гэта здорава! Святкуем юбілей і не ведаем чый.

1-ы госць. Можа, наогул ліпа.

Жаночыя галасы. Што вы!

— Такі мілы чалавек.

— Такі культурны.

Пажылая госця. А я ведаю, хто ён.

Госці глядзяць на яе з надзеяй.

Пажылы госць. Ведаеш, а маўчыш.

Пажылая госця. Ён артыст.

Канягін. Вы ў гэтым упэўнены?

Пажылы госць. Ты бачыла яго на сцэне?

Пажылая госця. Не, але ён такі прыемны, такія ў яго манеры...

Пажылы госць *(у самае вуха пажылой госці)*. Дур-ні-ца.

2-і госць. Я чуў, што ён выдатны дзеяч мастацтва.

Канягін. У якой галіне?

2-і госць. Вось гэтым я не пацікавіўся.

Жлукта *(крычыць з далёкага пакоя)*. Можна?

Язва *(крычыць)*. Яшчэ няможна!

Пажылы госць. Гэта матэрыял для «Кракадзіла».

Язва. Матэрыял ужо выкарыстаны. Ёсць фельетон.

1-ы госць. Дзе?

Язва. У нас у рэдакцыі. Называецца «Жлукта ўсёмагутны».

2-і госць. Чаму Жлукта?

Язва. Гэта сапраўднае прозвішча нашага юбіляра.

Пажылая госця. Чуеш, Сеня?

Язва. Высветлена, што ён ніякі не дзеяч, а...

Пажылы госць. Жулік?

Язва. Беглы загадчык гаспадаркі аднае ўстановы.

Усе ашаломлены.

1-ы госць. Вось дык штука!

Язва. Збег сюды ад мабілізацыі ў армію.

1-ы госць. Вось табе і пляменнік Луначарскага.

Пажылы госць. Так, так, так. І пра каго ж там гаворыцца ў фельетоне?

Язва. Пра ўсіх, хто карыстаўся яго паслугамі. Так што не хвалюйцеся, таварышы, нікога не забылі.

Усе занепакоіліся, захваляваліся. Святочна-банкетны настрой зразу спаў.

Аляксандра Міхайлаўна. Гэта кашмар!

Язва. Адносна вас, Аляксандра Міхайлаўна, там толькі лёгкі намёк пра нейкія далікатныя паслугі.

Аляксандра Міхайлаўна. Ах! *(Устае з-за стала і выходзіць.)*

Канягін. Ну вось, чулі? Віншую вас, шаноўныя кліенты! Дачакаліся свята.

Галасы. І вас, Антон Макаравіч! І вас.

— Каньячок-то вы з ім папівалі.

Канягін. Не адмаўляю, дарагія калегі... калегі па ганьбе. І я трапіў у лік Жлуктавых кліентаў. Як жа мы трапілі ў такое паганае становішча? Хто па дурасці, у каго цвёрдасці характару не хапіла, а ў каго і сумлення. І людзі мы як быццам неблагія, і работу даручылі нам важную. Тут я бачу і загадчыкаў баз, і бухгалтараў, і гандлёвых работнікаў.

Кожнаму з нас ён аказваў нейкія паслугі, а выйшла, што мы яму служылі. Вось і дапамаглі выспець такому фрукту. Жлукта — гэта ж страшны тып. Гэта зяпа, міла ўсміхаючыся, злопае вас так, што вы і не агледзіцеся. Для яго няма нічога святога, апрача яго трыбуха. У той час, калі людзі перажываюць вялікія цяжкасці, калі праліваецца святая кроў нашага народа, гэты агідны клоп тлусцее на нашай бядзе. Гляньце на гэты пакой, на гэтыя дываны, на гэты стол — хіба гэта набыта сумленнай працай? А хто яму дапамагаў? Мы. А чаго мы сёння сюды сабраліся? Выказваць сваю пашану прахвосту, піць крадзены каньяк і есці крадзеную кілбасу.

2-і госць. Каму яна цяпер у горла палезе?

Канягін. Адно магу сказаць на ўцеху сумленным людзям: ён сваё атрымае спаўна. Няма на савецкай зямлі такога месца, дзе б нягоднікі заставаліся пераможцамі.

Канягін рашуча накіроўваецца да дзвярэй. Не гледзячы адзін аднаму ў вочы, выходзяць іншыя.

Пажылая госця. Такі мілы чалавек... Хто б гэта мог падумаць!

Пажылы госць. Бррр... Якая гадасць! Як быццам мяне ў памыйную яму ўвапхнулі.

Праз хвіліну пакой апусцеў. Засталіся Язва і Праменны.

Язва. Канцоўка ёсць. Засталося толькі паставіць кропку. *(Крычыць.)* Можна!

Уваходзіць Жлукта з шырокай усмешкай на твары, гатовы да ўсякай прыемнай нечаканасці. За ім Клава.

Жлукта *(усмешка ўсё такая ж шырокая, але разгубленая)*. Гэта такі сюрпрыз? *(Асцярожна аглядаецца па баках,*

*нібы чакае нападу, заглядае пад стол.)* Што яны — пахаваліся? *(Ён яшчэ спрабуе ўсміхацца, але на твары ўжо трывога і страх.)* Надумаліся ў хованкі гуляць... Нічога не разумею. *(Заглядае ў калідор, крычыць.)* Яны пайшлі! *(Злосна глядзіць на Язву.)* Гэта вы ўсё падстроілі!

Я з в а. Я ж павінен быў скончыць гэту камедыю.

Ж л у к т а *(крычыць)*. Вон!

Я з в а *(спакойна)*. Чакайце, яшчэ не ўсё. Паводле добрага старога звычаю я павінен яшчэ пажаніць вось гэту пару. *(Паказвае на Праменнага і Клаву.)*

Ж л у к т а *(кідаецца да яго з кулакамі)*. Выбірайся вон з сваімі жартачкамі!

Праменны бярэ са стала бутэльку, гатовы адбіць атаку Жлукты. Жлукта адступае.

*(У бяссільнай злосці садзіцца на крэсла.)* Пайшлі... Грэбуюць... Чарскі ім не кампанія... Ідзіце!.. Ідзіце!.. Чарскі без вас абыдзецца. Паглядзім, як вы без яго абыдзецеся.

Я з в а. Доўгага маналога не трэба.

Ж л у к т а *(злосна глянуўшы на Язву, бярэ тэлефонную трубку)*. Два трыццаць пяць. Вакзал? Начальніка станцыі... Сяргей Міхайлавіч? Гэта Чарскі гаворыць... Чарскі... Добры вечар... Мне трэба два мяккія да Ташкента...

П р а м е н н ы. Адзін мяккі.

Ж л у к т а *(стральнуўшы ў яго вачыма)*. Два мяккія... Так... На заўтра... Дзякую... *(Кладзе трубку.)* Збірайся, Клава, тут нам больш рабіць няма чаго.

К л а в а. Я не паеду.

Ж л у к т а *(раз'юшаны)*. Што?

П р а м е н н ы. Яна не паедзе. *(Становіцца побач з Клавай.)*

Ж л у к т а. Ты рашыла прамяняць мяне на гэтага вершаплёта?

К л а в а. Я раблю так, як мне падказвае маё сэрца.

Ж л у к т а. А жраць тваё сэрца што будзе?

К л а в а. Гэта не твая справа.

П р а м е н н ы. Вы думаеце, што жанчыны жывяцца крадзенай кілбасой? Спытайцеся ў мяне, чым яны жывяцца. Яны жывяцца паэзіяй. *(Торкае пальцам сабе ў грудзі.)*

Ж л у к т а *(Клаве)*. Ты так лёгка ад мяне не адкруцішся. Я цябе абняслаўлю на ўвесь свет.

К л а в а *(вымае з-за пазухі ваенны білет)*. А во! ВУС-28.

Ж л у к т а *(працягвае руку)*. Дай сюды!

К л а в а. Не, ты ад мяне так лёгка не адкруцішся. *(Да Праменнага.)* Я зараз. *(Выходзіць.)*

Я з в а. Ну, як адчувае сябе «папраўка да сістэмы размеркавання»?

Ж л у к т а *(сашчапіўшы зубы)*. Чарнільная душа! *(Выходзіць у другі пакой.)*

Я з в а. Так, вы можаце пакінуць сцэну. Ваша роля сыграна. *(Праменнаму.)* Ну, адхапіў кавалак шчасця?

П р а м е н н ы. Дзякую, друг, што дапамог мне схіліць на свой бок гэту цудоўную жанчыну.

Я з в а *(у тон яму)*. Дзякую, друг, што дапамог мне напісаць гэту камедыю.

П р а м е н н ы. Наконт камедыі я яшчэ сумняваюся.

Я з в а. Наконт твайго шчасця я таксама не ўпэўнены.

К л а в а *(уваходзіць апранутая, з чамаданчыкам у руках)*. Я гатова.

Я з в а *(злучае рукі Праменнага і Клавы)*. Благаслаўляю вас, дзеці мае. Цалуйцеся, чэрці! Праменны і Клава марудзяць. Пад заслону гэта неабходна. Я патрабую! *(Праменны і Клава цалуюцца.)*

Ж л у к т а паказваецца ў дзвярах з расчыненым парожнім чамаданам і з панурай злосцю глядзіць на Клаву і Праменнага.

Я з в а. Кропка! *(У кулісу.)* Можна апускаць заслону.

З а с л о н а а п у с к а е ц ц а.

К а н е ц

*1945*

# З НАРОДАМ

*Драма*
*ў сямі карцінах*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Гудовіч Павел Андрэевіч — кампазітар, 50 год.
Ганна Якаўлеўна — яго жонка.
Браніслава Адамаўна — пляменніца Ганны Якаўлеўны, 32 гады.
Юля Муравіцкая — партызанка.
Шкуранкоў Антон Еўдакімавіч — кампазітар, 60 год.
Марфа Пятроўна — суседка Браніславы Адамаўны, 55 год.
Максіменя Антон Іванавіч — сусед Гудовіча, партызан.
Мігуцкі Анатоль Захаравіч — загадчык аддзела мастацтва пры немцах.
Людвіг Шуфт — афіцэр, гестапавец.
Стракач — перакладчык у гестапа.
Жабрак.
Камісар партызанскага атрада.
Гараджане, партызаны, нямецкія салдаты, паліцэйскія.

Дзея адбываецца ў 1941—1942 гг. у адным з акупіраваных гарадоў Беларусі.

## Карціна першая

Летняя раніца. Вялікі пакой у кватэры Гудовіча. У задняй сцяне — дзверы ў калідор. У левай — дзверы ў суседні пакой. Вокны адчынены. Косыя праменні сонца кладуцца на падлогу, на засланы каляровым абрусам стол. Лёгкі ветрык пакалыхвае фікусы. Гудовіч у халаце — дрэмле, седзячы ў крэсле. Ганна Якаўлеўна ўваходзіць з вядром і конаўкай. Яна на момант спыняецца ў дзвярах, глядзіць на Гудовіча, потым на цыпачках падыходзіць да фікусаў.

Гудовіч *(не паварочваючы галавы)*. Гэта ты, Аня?

Ганна Якаўлеўна. Прабач, я цябе пабудзіла.

Гудовіч. А я і не спаў... Так, драмаў трошкі.

Ганна Якаўлеўна. А ты лёг бы ў пасцель.

Гудовіч. У восем гадзін раніцы? Хто ж гэта кладзецца?

Ганна Якаўлеўна. Той, хто да васьмі не клаўся.

Гудовіч. Дык гэта не я.

Ганна Якаўлеўна. А хто ж гэта ноччу ўставаў?

Гудовіч. А ты і гэта бачыла?

Ганна Якаўлеўна. Бачыла.

Гудовіч. Ну, дык гэта ты і не спала да васьмі гадзін. То табе і трэба легчы ў пасцель.

Ганна Якаўлеўна. Праўда, і я не спала. Учора нахвалявалася.

Гудовіч. Чаго ж хвалявацца? Усё добра абышлося.

Ганна Якаўлеўна. Добрае хваляванне таксама спаць не дае. Ты ж ведаеш, як я заўсёды перажываю і твае поспехі, і твае няўдачы.

Гудовіч. Адно месца ў арыі ўсё ніяк не ўдавалася. А тут раптам прыйшло ў галаву. Прыйсці-то прыйшло, а выйсці ніяк не выходзіла. Я і так, я і гэтак варочаўся — не магу заснуць, дый годзе. Прыйшлося ўставаць запісваць. Запісаў, лёг і адразу заснуў.

Ганна Якаўлеўна. Адпачыць табе трэба, Паўлуша. Не беражэш ты сябе.

Гудовіч. Скончу, тады адпачну.

Ганна Якаўлеўна. Калі тое будзе. І лета пройдзе. У дождж, у холад — што за адпачынак?

Гудовіч. Не забывайся, што ў мяне ўмова з тэатрам. К першаму жніўня я павінен клавір здаць.

Ганна Якаўлеўна. Здасі на месяц пазней, пачакаюць.

Гудовіч. Цяпер гэта мне не да твару. Чытала ў газеце: «Заслужаны дзеяч мастацтва кампазітар Гудовіч працуе над новай операй «Шчаслівая доля». Савецкая грамадскасць з цікавасцю чакае новага твора таленавітага кампазітара». Чула? *(З націскам.)* Савецкая грамадскасць чакае. Народ чакае. Хіба я магу падводзіць людзей, якія ўчора так цёпла мяне віталі?

Ганна Якаўлеўна. Вось як звалішся з ног, дык і падвядзеш.

Гудовіч. А чаго гэта я будуваліцца з ног?

Ганна Якаўлеўна. Таго, што ты хворы.

Гудовіч. Хворы, кажаш? Нешта я гэтага не заўважаю.

Ганна Якаўлеўна. А ці даўно скардзіўся, што ў цябе сэрца баліць.

Гудовіч. Калі тое было, што я скардзіўся? Тады, як не рабіў нічога. Ад гэтага яно і балела. А цяпер я здаровы, матухна. Як бык, здаровы.

Ганна Якаўлеўна. Храбрышся.

Гудовіч. Вось скончу оперу, а тады і адпачыць можна. У Крым ці на Каўказ. У Кіславодску хораша ўвосень. Паветра ў гарах чыстае, сумленне ў цябе чыстае — адпачывай, колькі душа жадае. За адным разам і ў нарзанчыку памокнем, сэрца падлечым.

Ганна Якаўлеўна. А Шкуранкоў у Сочы збіраецца. Пуцёўкі ўзяў ужо.

Гудовіч. Шкуранкоў мне не прыклад. У яго свае «Мары шчасця», а ў мяне свая «Шчаслівая доля».

Ганна Якаўлеўна. Не любіць ён цябе.

Гудовіч. Ведаю. Учора павіншаваў, як тры грошы даў.

Ганна Якаўлеўна. Седзячы ў зале, усё рэплікі кідаў. «Агітка,— кажа.— Не прызнаю такой музыкі». Я ледзь утрымалася.

Гудовіч. А ты не хвалюйся. Няхай не прызнае, абы мяне народ прызнаваў.

Ганна Якаўлеўна. Табе, можа, варта было б назву змяніць. Ён кажа, што ты ў яго тэму ўкраў і нават назву запазычыў.

Гудовіч. Няхай гаворыць, што хоча. Тэма шчасця — гэта не яго ўласнасць, гэта спрадвечная народная тэма. Ён напісаў оперу аб тым, як народ марыў аб шчасці, але не знайшоў яго, а

мая опера аб тым, як народ здабыў гэта шчасце дзякуючы савецкай уладзе.

Ганна Якаўлеўна. Гэта ўсё добра, але пра адпачынак трэба ўсё-такі падумаць. Выгляд твой мне не падабаецца.

Гудовіч. Пра выгляд мы падумаем крыху пасля, а цяпер — працаваць. *(Напяваючы нешта сабе пад нос, ён ідзе ў суседні пакой.)*

Ганна Якаўлеўна *(ківае ўслед яму галавой)*. Ну, пайшоў... *(Сцірае пыл з фікусаў.)*

З суседняга пакоя даносяцца гукі музыкі. Паўтараюцца варыяцыі таго ж самага матыву: Гудовіч працуе. Лёгкі стук у дзверы. Ганна Якаўлеўна, не адгукваючыся, ідзе да дзвярэй, прыадчыняе. На парозе паказваецца Броня.

Броня. Дзень добры, цёця.

Ганна Якаўлеўна. Тсс... *(Ківае галавой у бок суседняга пакоя.)* Рана нешта ў госці прыйшла.

Броня. На работу іду. Забегла даведацца, як вы маецеся пасля ўчарашняга.

Ганна Якаўлеўна. Ды вось маемся... Павел Андрэевіч не спаў цэлую ноч.

Броня. Перахваляваўся, мабыць, учора.

Ганна Якаўлеўна. Вядома. Некаторыя шаптуны правал прарочылі, а тут поспех.

Броня. Ды яшчэ які поспех!

Ганна Якаўлеўна. Вось нервы і расхадзіліся.

Броня. На сэрца не скардзіўся?

Ганна Якаўлеўна. Храбрыцца, не прызнаецца.

Броня. А я яму парашкоў прынесла.

Ганна Якаўлеўна. Угаворваю, каб у адпачынак ішоў, дык і слухаць не хоча.

Броня. А куды ў адпачынак?

Ганна Якаўлеўна. Яшчэ не ведаем. Скончыць оперу, тады ўжо будзем думаць.

Броня. Вазьміце і мяне з сабою.

Ганна Якаўлеўна. Ды ўжо ж... возьмем цябе, сірату.

Броня. Не магу я без вас. З таго часу, як аўдавела, і дня не магу пражыць, каб не наведацца.

Ганна Якаўлеўна. А куды ж табе ісці, як не да нас? Цётка ж я табе. І Павел Андрэевіч цябе таксама любіць.

Броня. Ён мне як бацька родны.

Ганна Якаўлеўна. Бацька-то бацька, а замуж табе трэба было б ісці. Памром мы, і застанешся адна-адзінокая.

Броня. Абы за каго я не хачу, а якога б хацела — не трапляецца.

Ганна Якаўлеўна. Трапіцца яшчэ... Маладая, прыгожая...

Гудовіч *(уваходзіць)*. Хто гэта тут малады ды прыгожы? Ну, вядома — Браніслава Адамаўна.

Броня *(ідзе яму насустрач)*. Добры дзень, Павел Андрэевіч!

Гудовіч. Чакай, чакай хвіліначку! *(Разглядае Броню здалёк, як карціну.)* Та-ак...

Броня. Што — так, Павел Андрэевіч? Вы мяне прымушаеце чырванець.

Гудовіч. Сапраўды — зноў пахарашэла.

Броня. Сур'ёзна?

Гудовіч. Досыць сур'ёзна. Працэнтаў на пяцьдзесят.

Броня. Ой! Дык якая ж я ўродзіна была дагэтуль!

Ганна Якаўлеўна *(смяецца)*. Не ўдаўся твой камплімент.

Гудовіч *(ляпае Броню па плячы)*. Нічога, яна мяне і так палюбіць.

Броня. Даўно люблю, Павел Андрэевіч.

Гудовіч. Доказы?

Броня. Калі ласка! Вось парашкоў вам прынесла. *(Дастае з сумкі парашкі.)*

Ганна Якаўлеўна *(насмешліва)*. Каб стары не кашляў.

Броня *(з дакорам)*. Ну што вы, цёця! Гэта для заспакаення сэрца.

Гудовіч. О не, не! Нізашто не буду піць.

Броня. Чаму?

Гудовіч. Гэта, мусіць, некае прываротнае зелле.

Ганна Якаўлеўна. Будзе яна такое дарагое зелле траціць на старога.

Броня. Сур'ёзна, Павел Андрэевіч,— выпіце! Гэта вельмі добрыя парашкі.

Гудовіч. Ах, сур'ёзна? Калі сур'ёзна, тады ведаеш што?

Броня. Што?

Гудовіч. Нясі іх назад.

Броня. Ды што вы, Павел Андрэевіч!

Гудовіч. Нясі, нясі, каб я іх не бачыў! *(Выходзіць.)*

Ганна Якаўлеўна. Давай сюды.

Броня. Два разы на дзень. *(Аддае парашкі.)* Ну, я пайшла ў бальніцу. Дзяжуру сёння. *(Гукае.)* Бывайце здаровы, Павел Андрэевіч!

Гудовіч *(высоўвае галаву)*. Бывай, чараўніца! Заходзь часцей, толькі без парашкоў. Так ты мяне хутчэй прыварожыш.

Броня выходзіць. У акне паказваецца верх вудзільна, а потым галава Максімені.

Максіменя. Добры дзень, Ганна Якаўлеўна!

Ганна Якаўлеўна. Добры дзень, суседзе!

Максіменя. Гаспадар на рыбку не збіраецца?

Ганна Якаўлеўна. А вы яго падгаварыце.

Максіменя. Вось і я ж думаю. Няхай бы пайшоў праветрыўся. А то ад гэтай музыкі ў яго ўжо, мусіць, аж у галаве гудзе.

Гудовіч *(уваходзіць)*. Антону Іванавічу прывітанне!

Максіменя. Добрай раніцы, Павел Андрэевіч!

Гудовіч. У рыбку сабраліся?

Максіменя. У рыбку, Павел Андрэевіч.

Гудовіч. Мабыць, позна ўжо. Гэта трэба на досвітку.

Максіменя. На досвітку я не мог. Толькі што з работы прыйшоў.

Гудовіч. А цяпер якая ж рыба?

Максіменя. Чаму — якая? Звычайная.

Гудовіч. Сур'ёзная рыба днём адпачывае дзе-небудзь у халадку.

Максіменя. Ой, не кажыце! У тую нядзелю нагледзеў я адну мясціну. Язі во такія ходзяць. Як засланкі.

Гудовіч. І злавілі?

Максіменя. Баяцца, не асвойталіся яшчэ. Але я іх добра занадзіў, бульбы накідаў. Сёння павінны быць рахманыя.

Ганна Якаўлеўна. А добра было б свежай рыбкі на абед усмажыць.

Гудовіч. Са смятанкаю. Язь — смачная рыба, калі добра зрабіць.

Максіменя. Аднаго я ўсё-такі ўвабраў. Фунтаў так на... не менш як на сем.

Гудовіч. Ого! І вуда вытрымала?

Максіменя. Я яго натаміў як мае быць. Ён на яму ціснe, а я назад заварочваю; ён пад корч, а я яго зноў назад. Мінут, можа, пятнаццаць так вадзіў. Потым ён усё-такі змогся: перавярнуўся пузам дагары і толькі шчэлепамі зяхае. Вось я яго сачком падчапіў і хадзі сюды!

Гудовіч. Прыемна такога дзядзю падчапіць.

Ганна Якаўлеўна. Дык я прыгатую табе з сабой штонебудзь узяць.

Гудовіч. Занадзілі, кажаце?

Максіменя. Занадзіў, Павел Андрэевіч. Добра занадзіў.

Гудовіч. Ну, лавіце на здароўе.

Максіменя *(расчараваны)*. А вы?

Гудовіч. Другім разам. Рада б душа ў рай, ды грахі не пускаюць.

Максіменя. Вось прывалаку торбу язёў, дык будзеце каяцца. А вам на тую злосць і панюхаць не дам. *(Адыходзіць.)*

Гудовіч *(высунуўшыся ў акно)*. Адпусціцеся, сэрца не камень. Мая чарачка, а ваша рыбка, як-небудзь і паладзім. *(Да Ганны Якаўлеўны.)* Вось жа ахвотнік! Цэлую ноч працаваў, не спаў, а ўсё роўна — на рыбу.

Ганна Якаўлеўна. Натура такая.

Гудовіч. Жывая натура. Усё на свеце яго цікавіць. І пагаварыць з ім прыемна. *(На стук у дзверы.)* Калі ласка!

Юля *(з парога. Відаць, што хвалюецца)*. Добры дзень! Прабачце, Павел Андрэевіч, што я вас турбую з самага рання.

Гудовіч. Калі ласка, Юлінька, я рад вас бачыць. Праходзьце далей, сядайце.

Юля. Гэта ж у нас у школе сёння выпускны вечар, дык мы вельмі просім вас з Ганнай Якаўлеўнай прыйсці да нас.

Гудовіч. Значыць, вас сёння можна павіншаваць з атэстатам сталасці?

Юля. Вечарам, Павел Андрэевіч.

Гудовіч. І куды ж вы цяпер?

Юля. Не ведаю, трэба падумаць. Можа, на юрыдычны.

Гудовіч. Зусім не ўяўляю вас пракурорам. Я думаў... Памойму, вы тэатрам захапляліся. І голас у вас нядрэнны.

Юля. Такіх галасоў повен свет.

Гудовіч. Гэта як сказаць. Каб вы заняліся як след... Я чуў, як вы спяваеце ў гуртку.

Юля. Сёння мы выступаем, і мне даручылі прасіць вас... Праўда, гэта нахабства... Вы заняты творчай працай...

Гудовіч *(смяецца)*. Даруйце мне за такое нахабства...

Юля *(зусім збянтэжылася)*. Я, здаецца, глупства сказала. Нахабства, што мы вас турбуем.

Гудовіч. Турбуйце ўжо, што зробіш.

Юля. Можа б, вы прыйшлі крышку раней ды паслухалі, як мы спяваем. Параілі б, з чым нам выступаць, з чым не варта.

Гудовіч. За гэта з вас хабар.

Юля. Калі не вельмі вялікі...

Гудовіч. Зараз пабачыце. *(Ідзе ў суседні пакой і выходзіць адтуль з нотамі.)* Гэта песня з мае оперы. Вы з ёю ўжо знаёмы.

Юля *(чытае ноты)*. «У надхмар'і сокал кружыць, у надхмар'і сокал кружыць, а па ім дзяўчына тужыць...» Так, знаёма.

Гудовіч. Я хачу паслухаць яе ў вашым выкананні.

Юля. Баюся, што не здолею.

Гудовіч. Паспрабуйце. Гэта няцяжка. *(Пяе казліным голасам першыя радкі песні.)* Вось так!

Юля стрымлівае ўсмешку.

Не так, вядома,— лепш. Голас у мяне не вельмі што.

Юля *(становіцца ў позу, адкашліваецца)*. Мусіць, нічога не выйдзе.

Гудовіч. Выйдзе, выйдзе.

Ідзе ў суседні пакой. Адтуль чутны гукі музыкі.

Юля *(пачынае пець)*

У надхмар'і сокал кружыць,
У надхмар'і сокал кружыць,
А па ім дзяўчына тужыць:

Пяе яна спачатку няўпэўнена, потым голас яе патроху мацнее.

— Ой ты сокал, мой саколе!
Ты не бачыш, як на доле
Па табе саколка тужыць.

Яна ўжо зусім авалодала сабой і пяе з натхненнем.

— Бачу, мілая, і чую,
Бачу, мілая, і чую —
Нам груган бяду вяшчуе:
Ён маёй краіне любай
Пагражае страшнай згубай,—
У крывавы бой лячу я.

Раптам у зладжаныя гукі песні ўрываецца прарэзлівы роў сірэны. Юля змаўкае, трывожна прыслухоўваецца.

Гудовіч *(пакінуў граць, выходзіць з суседняга пакоя)*. Чаго спужаліся?

Ганна Якаўлеўна. Трывога.

Гудовіч. Асавіяхім людзей палохае.

Ганна Якаўлеўна. Хто яго ведае... У такі час...

Гудовіч. А што — час? Святам самы раз практыкавацца.

Юля. Мне трэба на зборны пункт.

Гудовіч. Гэта куды ж?

Юля. На Камароўку.

Гудовіч. Ну, мілая! Пакуль вы дабяжыце, дык і адбой будзе. Давайце скончым. Няхай толькі раўці перастане.

Ганна Якаўлеўна *(прыслухоўваецца)*. Нібы яна з мяне жылы цягне.

Сірэна змаўкае.

Гудовіч. Ну, вось і ўсё. *(Ідзе да раяля. Зноў чутны гукі музыкі.)*

Юля *(пяе)*

Хмара чорная віецца,
Хмара чорная віецца...

Трывога яе не пакідае. Яна збіваецца з такта, кусае губы, змаўкае.

Гудовіч. Яшчэ раз гэта месца, Юлінька, і я перастану вас мучыць.

Юля *(намаганнем волі авалодвае сабой, пяе)*

Хмара чорная віецца,
З чорным птахам сокал б'ецца,—
За Савецкую Айчыну,
За цябе, красу-дзяўчыну,
Кроў гарачая пральецца.

Без стуку ўваходзіць Мігуцкі. Усе здзіўлена на яго глядзяць.

Мігуцкі. А тут ціш ды гладзь.

Ганна Якаўлеўна *(зашыкала на яго, замахала рукамі)*. Не перашкаджайце!

Юля *(пяе)*

Храбра біся, сокал ясны!

Мігуцкі слухае з іранічнай усмешкай.

Храбра біся, сокал ясны,
Каб не стрэў нас лёс няшчасны;
Каб груган не каркаў болей
Над шчаслівай нашай доляй,—
Храбра біся, сокал ясны.

Уваходзіць Гудовіч.

Гудовіч *(да Мігуцкага)*. Па-першае — добрай раніцы.

Мігуцкі. Сёння гэта не абавязкова.

Гудовіч. А па-другое — зусім не ціш. Мы тут шумім.

Мігуцкі. Зайздрошчу вашым нервам.

Гудовіч. А што нервы? Нервы як нервы.

Мігуцкі. Вайна, а вы песнямі забаўляецеся.

Гудовіч. Што вы выдумалі! Якая вайна?

Мігуцкі. Сур'ёзная, з немцамі.

Гудовіч. Хоць бы вы раз, Анатоль Захаравіч, прыйшлі з прыемнай навіной! Вы адчыняеце дзверы, і я ўжо калачуся: ведаю, што вы што-небудзь жудаснае скажаце. Хто гэта вам казаў пра вайну?

Мігуцкі. Сам Молатаў.

Гудовіч. Вам аднаму?

Мігуцкі. Усім, па радыё. *(Уключае рэпрадуктар.)* Ды ў вас і радыё не працуе.

Гудовіч *(з дакорам)*. Аня, я ж прасіў пазваніць на радыёвузел.

Ганна Якаўлеўна. Званіла. Абяцалі і не прыйшлі.

Гудовіч. Дык вы не жартуеце?

Зноў чуваць роў сірэны.

Мігуцкі. Вось, калі ласка.

Гудовіч, Ганна Якаўлеўна і Юля з трывогай прыслухоўваюцца.

Юля. Пабягу. Мне на зборны пункт трэба. Бывайце здаровы!

Гудовіч. Бывайце, Юлінька. Відаць, мы сёння не сустрэнемся.

Юля. Вечар напэўна адкладуць.

Гудовіч. Вось яно — самае страшнае.

Мігуцкі. Справа сур'ёзная.

Ганна Якаўлеўна. А вы гаворыце так спакойна...

Мігуцкі. Няма сэнсу хваляваццa.

Гудовіч. Я таксама не сумняваюся, што мы пераможам, але ж...

Мігуцкі. Я-то ў гэтым не зусім упэўнены.

Гудовіч *(не верыць сваім вушам)*. Як! Вы думаеце...

Мігуцкі *(спакойна)*. Гітлер ударыў знянацку. Ён не дасць нам правесці мабілізацыю.

Гудовіч. Дык што тады?

Мігуцкі. А тады... Самі можаце здагадацца. Вы не маленькі.

Гудовіч *(з раптоўным абурэннем)*. Вы зноў мяне пужаеце? Страшэнны вы чалавек! Лепш бы вы не прыходзілі.

Мігуцкі. Я не пужаю. Але ж я не страус, каб хаваць галаву ў пясок.

Гудовіч. Вы — не страус, вы — груган.

Мігуцкі. Груган — цвярозая птушка.

Гудовіч. Дык чаго ж гэта цвярозая птушка, чорт бы яе пабраў, так спакойна каркае, калі яна чуе пагібель?

Мігуцкі. А чаго нам трапятацца, Павел Андрэевіч? Ад нас тут нічога не залежыць. Усё без нас вырашыцца.

Гудовіч. Як гэта без нас? Лёс краіны вырашаецца, а мы склаўшы рукі будзем збоку наглядаць?

Мігуцкі. Ён вырашаецца там, на фронце. Калі вы такі ваяка, дык бярыце вінтоўку ці кулямёт ды вырашайце.

Гудовіч. Не абавязкова ж на фронце. На фронце я, вядома, не ваяка.

Мігуцкі. Дык як жа вы думаеце вырашаць лёс краіны?

Гудовіч. Я яшчэ не ведаю. Але я папытаюся, мне скажуць, што рабіць.

Мігуцкі. Пакуль вы надумаецеся, дык немец сцапае вас, як курапатку.

Ганна Якаўлеўна. Ціпун вам на язык!

Гудовіч. Ну не, дудкі! Як вы ні каркайце, яны сюды не дойдуць. А калі б гэта няшчасце здарылася, дык я не дурань аставацца тут ім на здзекі.

Мігуцкі. А нашто ім з вас здзекавацца? Вы — чалавек мастацтва, ніякі не палітык, чалавек глыбока беспартыйны.

Гудовіч. Але ж я — чалавек савецкі. *(Схамянуўся.)* Ды вы што? Угаворваеце мяне?..

Мігуцкі *(штучна смяецца)*. Дзівак вы, Павел Андрэевіч.

Ганна Якаўлеўна *(устрывожана)*. Гэта што?

Мігуцкі. Зеніткі... А можа, бомбы.

Ганна Якаўлеўна. Няўжо бомбы?

Мігуцкі. На досвітку бамбілі Севастопаль, Каўнас, Брэст. Прыйшла чарга і да нас.

Ганна Якаўлеўна. Паўлуша, можа, гэта што рабіць трэба?

Гудовіч. А што ж рабіць?

Ганна Якаўлеўна. Нешта ж робяць у такіх выпадках. Помню, па радыё перадавалі. Мы гэтым ніколі не цікавіліся, а вось і прыйшлося.

Мігуцкі *(падыходзіць да акна)*. Гарыць недзе. Здаецца, вакзал.

Усе глядзяць у акно.

Ганна Якаўлеўна. Што ж гэта такое? Чаму ж нашы іх не адганяюць?

Гукі выбухаў чутны выразней.

Мігуцкі. Адыдзіцеся ад акна. *(Садзіцца ля сцяны.)*

Ганна Якаўлеўна. А вокны трэба зачыніць.

Гудовіч. Няхай, што гэта паможа?

Ганна Якаўлеўна. Я заўсёды ў навальніцу зачыняю.

Зачыняе акно. Моцны выбух, і яна падае, схапіўшыся за грудзі.

Гудовіч *(падбягае да Ганны Якаўлеўны)*. Аня, што з табой? Анечка! *(Аглядае.)* Мусіць, паветрам яе.

Мігуцкі *(падыходзіць і таксама аглядае)*. А вось, бачыце? Відаць, невялікі асколак.

Гудовіч. Анечка! *(Да Мігуцкага.)* Няўжо канец?
Мігуцкі *(мацае пульс)*. Пульс б'ецца.
Гудовіч. Вы ўмееце перавязваць?
Мігуцкі. Давайце бінт.
Гудовіч. Няма.
Мігуцкі. Дык што-небудзь. Хутчэй!

Гудовіч мітусіцца па кватэры, нарэшце прыносіць прасціну, але не ведае, што з ёй рабіць.

Гудовіч. Вось гэта хіба.
Мігуцкі *(бярэ прасціну, раздзірае)*. Які ж вы расцяпа!

Глянуўшы ў акно, кідае прасціну і бяжыць да дзвярэй.

Гудовіч. Куды ж вы, Анатоль Захаравіч?
Мігуцкі. Дом гарыць, мая кватэра занялася. *(Выбягае.)*
Гудовіч *(падбягае да акна, праз якое відаць полымя)*. Гэй, людзі! Таварышы! Памажыце хто-небудзь! Ніхто не чуе. *(З намаганнем падымае Ганну Якаўлеўну на рукі.)* Родная мая! Куды ж мы цяпер? *(Стаіць у нерашучасці, асветлены заравам.)*

## Карціна другая

Бедна абсталяваны пакой гарадской кватэры. Гудовіч адзін. Ён моцна змяніўся, асунуўся. На ім паношаны касцюм, відаць, не на яго шыты. Ён нешта запісвае на нотную паперу, потым бярэ скрыпку, грае. Гэта ўрыўкі з оперы «Шчаслівая доля», якія мы чулі ўжо ў першай карціне.
Уваходзіць Броня.

Броня. Прачакаліся, Павел Андрэевіч?
Гудовіч. А мне не здоўжылася.
Броня. Есці, мабыць, хочаце?
Гудовіч. Ды як табе сказаць... За працаю дык яно і не рупіць.
Броня. А мяне затрымалі сёння. Ды яшчэ на рынак забягала.
Гудовіч. Можа, што добрае чула?
Броня. Не чуваць добрага, Павел Андрэевіч. Зводку іх чула. Гітлер перамогамі выхваляецца.
Гудовіч. Чым жа ён выхваляецца?
Броня. Хваліцца, што праз два дні Сталінград возьме.
Гудовіч. Ці не зарана ён хваліцца? У прошлым годзе таксама хваліўся, а потым і паперлі яго ад Масквы. Каб не было яму і пад Сталінградам тое самае.

Броня. Усе чакаюць гэтага. Прафесара Каліноўскага бачыла. Прывітанне перадаваў. «Скажыце,— кажа,— Паўлу Андрэевічу, няхай не падае духам. Хутка павінны пачуць добрыя навіны». А што — не сказаў.

Гудовіч. Народ верыць у перамогу. А вера — гэта вялікая сіла. Глядзі, як заекаталі гітлераўцы наконт партызан. Значыць, народ за зброю ўзяўся. Вось што значыць вера!

Броня. І сёння нейкага чына хавалі. Кажуць, ля Рудзенска недзе партызаны ўходалі.

Гудовіч. Ну, вось! А ты казала, няма добрых навін.

Броня. Дык гэта мала.

Гудовіч *(бярэцца за скрыпку.)* Пераначуем, болей пачуем.

Броня. Як вам сёння працуецца?

Гудовіч. А, ведаеш, нішто. У галаве як быццам ясней стала. Сёння я досыць ладны кусок другога акта аднавіў.

Броня. Мучыцеся вы, а не працуеце. Цесна, няўтульна, інструмента няма. Скрыпка — гэта ж не тое ўсё-такі.

Гудовіч. Я ўжо прывык.

Броня. Сесці б вам за раяль, як бывала, ды ў цяпле, ды ў святле.

Гудовіч. Давай лепш думаць пра будучае: пра тое, як гэту маю оперу будуць слухаць савецкія людзі. Як ты думаеш — будзе гэта?

Броня. Будзе, Павел Андрэевіч. Толькі... прыйдзецца крыху пачакаць.

Гудовіч. Вось я і баюся, ці дачакаюся. Не хацелася б, каб запісаныя тут пачуцці ляглі ў магілу разам са мною.

Броня *(устрывожана)*. Вы дрэнна сябе адчуваеце?

Гудовіч. Звычайна.

Броня. Дык нашто ж такая гаворка?

Гудовіч. Ты ж ведаеш, што такое сэрца. Гэта, можа, здарыцца раптоўна. Дык я вось і прашу цябе...

Броня. Пакажыце ваш пульс... *(Садзіцца ля Гудовіча і бярэ яго руку.)* Ніякіх перамен я не заўважаю. З вашым сэрцам можна яшчэ сорак год жыць.

Гудовіч. Я пастараюся. Але ты, Бронечка, усё-такі дай мне слова, што захаваеш вось гэта *(паказвае на ноты)* для нашых людзей.

Броня. Аб гэтым мяне прасіць не трэба, Павел Андрэевіч. Усё ваша для мяне дарагое.

Гудовіч. Дзякую.

Броня. Але найлепшы спосаб захаваць вашы творы — гэта захаваць вас. І я буду старацца гэта рабіць.

Гудовіч. Як жа ты мяне будзеш захоўваць? Я ж не малое дзіця, сам захаваюся як-небудзь.

Броня. Вы чалавек дарослы, але вас часамі трэба і даглядзець і перасцерагчы.

Гудовіч. Я чалавек не вельмі практычны, гэта праўда. Нябожчыца ўсе дробныя клопаты брала на сябе.

Броня. Я хацела б замяніць вам яе... наколькі гэта ў маіх сілах. У вас павінен быць блізкі чалавек, які б вас любіў і бярог.

Гудовіч. Табе і самой цяжка, а ты яшчэ лішні цяжар хочаш узяць на сябе.

Броня. А можа, для мяне гэта і не цяжар якраз. Можа, гэта палёгка ў жыцці.

Гудовіч. Ну, ужо і палёгка!

Броня. Вы сабе жартуйце, а я сваю задачу ведаю. Мяне і цёця перад смерцю прасіла аб гэтым.

Гудовіч. Нябожчыца ведала, каго прасіла. А толькі мне няёмка. Я і так у цябе на карку сяджу: хлеб твой ем і ў хаце тваёй жыву.

Броня. Як вам не сорамна, Павел Андрэевіч! Вы проста крыўдзіце мяне. Хіба што вы мяне за чужую лічыце.

Гудовіч. Ціха, маўчу, маўчу.

Уваходзіць Шкуранкоў.

Шкуранкоў. Добры дзень, Павел Андрэевіч.

Гудовіч *(адкладвае скрыпку)*. Добры дзень, Антон Еўдакімавіч!

Шкуранкоў. Што гэта вас не відаць нідзе. Я думаў, ці не захварэлі?

Гудовіч. Ды вось працую патроху.

Шкуранкоў. Заказ узялі?

Гудовіч. Які там заказ! Хачу аднавіць сваю оперу.

Шкуранкоў. «Шчаслівую долю»?

Гудовіч. Сваю «Шчаслівую долю», якую фашыст загубіў.

Шкуранкоў. «Шчаслівая доля»... Ці не занадта іранічна гэта гучыць сягоння.

Гудовіч. Нават дзёрзка, калі хочаце. Няшчасны жабрак, які страціў усё на свеце, адважваецца жыць сваёю «Шчаслівою доляй». Хіба гэта не нахабства? А як гэта добра, што ёсць такі куточак, куды не дацягнуцца паганыя рукі акупантаў! Гэта мае творчыя мары. Тут я поўны ўладар. Магу рабіць добрых людзей шчаслівымі, колькі захачу, магу благаслаўляць усё сумленнае, высакароднае і праклінаць звярынае і подлае. І нават сам паршывы Гітлер нічога мне не зробіць.

Ш к у р а н к о ў. Прабачце, Павел Андрэевіч, але гэта ўсё самападман, дзіцячая ўцеха, якая не мае ніякага практычнага значэння. Шчаслівай долі ўсё-такі няма.

Г у д о в і ч. Была і будзе. Яна яшчэ будзе.

Ш к у р а н к о ў. Будзе, калі нас не будзе.

Г у д о в і ч. А гэта не важна, што нас не будзе. Я веру ў гэта, значыць, я загадзя, ужо сягоння, перажываю гэту шчаслівую долю ў сваіх творчых марах. Я ёю жыву. Яна — гэта вера — ратуе мяне ад адчаю, дае мне сілу і мужнасць быць чалавекам.

Ш к у р а н к о ў. Гэта зноў жа ўсё толькі мары. Я думаю, што нам з вамі пара стаць на рэальную глебу і больш дакладна вызначыць лінію сваіх паводзін.

Г у д о в і ч. Вось гэта вы праўду кажаце — бліжэй да жыцця. Мы са сваімі марамі занадта замкнуліся ў сваёй лупіне. Народ не толькі марыць, але і змагаецца. І мы павінны яму дапамагчы, чым можам. Я ўжо сам думаў пра гэта.

Ш к у р а н к о ў. Вы мяне не так зразумелі, Павел Андрэевіч. Я зусім не збіраюся ісці ў партызаны. Божа мяне барані! Несур'ёзна гэта ўсё.

Г у д о в і ч. Што не сур'ёзна?

Ш к у р а н к о ў. Ды вось гэта гульня ў партызанскую вайну. Хіба можна супроць такой сілы што зрабіць? Ну, заб'юць сотню, другую гітлераўцаў, хіба гэта вырашыць лёс вайны? Вунь жа дзе апынуліся ўжо: да Грознага падыходзяць. Сталінград не сёння-заўтра будзе ў іх. І няма такой сілы, якая магла б іх спыніць.

Г у д о в і ч. Такая сіла ёсць.

Ш к у р а н к о ў. Дзе?

Г у д о в і ч. У народзе, у савецкай дзяржаве.

Ш к у р а н к о ў. Відаць, мы з вамі пераацанілі моц савецкай дзяржавы. Не бачу, Павел Андрэевіч, ніякай сілы.

Г у д о в і ч. Відаць, не праз тыя акуляры вы глядзіце, Антон Еўдакімавіч, калі не бачыце.

Ш к у р а н к о ў. А праз якія акуляры я гляджу, па-вашаму?

Г у д о в і ч. Ці не праз берлінскія вы пачынаеце глядзець...

Ш к у р а н к о ў. А мы давайце скінем акуляры: я — берлінскія, якія вы мне прыпісваеце, а вы — маскоўскія, і давайце паглядзім на рэчы цвяроза. Ну, дзе? Пакажыце мне гэту сілу.

Г у д о в і ч. Хто страціў здольнасць бачыць, таму не пакажаш.

Ш к у р а н к о ў. Дарэмна вы, Павел Андрэевіч, мне Берлін закідаеце. Я, здаецца, нікуды не лез, устрымліваўся ад якой бы там ні было палітычнай тэмы, пісаў нявінныя рэчы. Але ж гэта становіцца небяспечным. Нас пачынаюць абвінавачваць у сабатажы. Гэта да дабра не давядзе.

Гудовіч. У нашых умовах небяспечна быць сумленным чалавекам. Значыць — далоў сумленне?

Шкуранкоў. Ну і супроць ражна не папрэш. Хочаш не хочаш, а прыходзіцца лічыцца з рэальнымі абставінамі.

Гудовіч. І гэта гаворыць той самы кампазітар Шкуранкоў, які быў вядомы ў народзе.

Шкуранкоў. Недарэмна. Я такі сёе-тое зрабіў для народа.

Гудовіч. Вы сёе-тое зрабілі тады, у спакойны час, калі вам нічога гэта не каштавала. А цяпер, калі народ у бядзе, вы гатовы адрачыся ад яго. А якраз цяпер ваш голас пратэсту яму патрэбен.

Шкуранкоў. Які пратэст? Аб чым вы гаворыце, Павел Андрэевіч? Гэта непатрэбнае і небяспечнае донкіхоцтва. Яно нікому не дапаможа, а нас загубіць. Вынік барацьбы ўжо вырашан.

Гудовіч. Шкада мне вас, Антон Еўдакімавіч. Вы — чалавек без веры.

Шкуранкоў. Была ў мяне вера, ды больш ёй няма на што абаперціся.

Гудовіч. Не было ў вас сапраўднай веры. У вашай веры былі вельмі кароткія крылы: яны не ўтрымалі вас на вышыні, і вы плюхнуліся ў балота, проста да ног ката. Бязвер'е парадзіла ў вас трусасць, а ад трусасці недалёка і да подласці.

Шкуранкоў. Ну, гэта вы ўжо хапілі праз меру, Павел Андрэевіч. Ніякай подласці я яшчэ не зрабіў.

Гудовіч. Я кажу — недалёка.

Шкуранкоў. Я бачу, што ў нас недалёка да сваркі. *(Устае.)* З вамі сёння нельга гаварыць. Думаю, што пры наступнай сустрэчы мы лепш зразумеем адзін аднаго. *(Выходзіць.)*

Гудовіч *(адзін)*. Я цябе і так добра разумею.

Уваходзіць Броня.

Броня. Чаго ён нешта насуплены пайшоў? Ці не паспрачаліся вы тут?

Гудовіч. Ды як жа! Прыйшоў выведаць, ці не састаўлю я яму кампанію падымаць лапкі ўгору. Дагэтуль сядзеў і чакаў, чыя возьме, а цяпер лічыць, што ўжо ўсё вырашана, і таму можна не саромецца.

Броня. А вы не хвалюйцеся. Мала хто што вярзе. Ці вам жа ўсё гэта трэба пераЖываць?

Гудовіч. Слухаць агідна.

Броня. Можа, перакусіце крыху?

Гудовіч. А ведаеш, не пашкодзіць.

Броня *(разгортвае скрутак)*. Вось хлеб і агуркі. Перакусіце пакуль што, а я пайду суп згатую.

Гудовіч *(бярэ ў рукі хлеб)*. Дзе ўзяла?

Броня. Агуркі — на рынку, а хлеб там — у бальніцы.

Гудовіч. А ты сама? Абедала без хлеба? *(Адсоўвае хлеб.)* Не, я не буду есці гэтага хлеба.

Броня. Вось і дарэмна. Хлеб смачны.

Гудовіч *(бярэцца за скрыпку)*. Заўтра і я пайду хлеб зарабляць.

Броня. Якім гэта спосабам?

Гудовіч. Сумленным. Я людзям пайграю, а людзі заплацяць.

Броня. Дзе гэта вы пайграеце?

Гудовіч. Я гэта табе пасля скажу.

Броня. Дайце слова, што вы не зробіце ніякага глупства.

Гудовіч. Глупства? Не. Даю слова, што глупства не зраблю. *(Наладжвае скрыпку.)*

Броня. Ну, глядзіце ж! *(Выходзіць.)*

Гудовіч. Паглядзім, што ў мяне за рэпертуар.

Наігрывае паціху беларускія і рускія песні, з кожнай па куплету. Часамі адразу не трапляе на лад, паўтарае. Спыніўся. Механічна адшчыпнуў хлеба. Есць. Наігрывае «А ў полі вярба». Стук у дзверы.

Заходзьце!

Уваходзіць Мігуцкі, добра апрануты і чыста паголены.

Мігуцкі. Нарэшце я вас знайшоў. Добры дзень, Павел Андрэевіч.

Гудовіч *(не ўзрадаваны)*. Добры дзень.

Мігуцкі. І зусім выпадкова. Іду, чую — нехта грае «А ў полі вярба». Ну, думаю, хто-небудзь з нашых.

Гудовіч. Адно ж...

Мігуцкі. Адно ж так яно і ёсць. *(Прыглядаецца да Гудовіча.)* Перамяніліся вы моцна. Даўно я вас не бачыў.

Гудовіч. Я вас таксама. З таго часу, як вы кінулі мяне з раненай жонкай на руках.

Мігуцкі. Та-ак... Гэта ўжо больш года будзе. Я чуў, што Ганна Якаўлеўна памерла.

Гудовіч. Праз два тыдні пасля таго. А я вось... застаўся тут.

Мігуцкі. А ў мяне тады таксама... амаль усё згарэла. Мала што паспеў выхапіць.

Гудовіч маўчыць. Няёмкая паўза.

Як вы жывяце, Павел Андрэевіч?

Гудовіч. Нічога, добра жыву.

Мігуцкі *(скептычна, амаль грэбліва аглядае пакой, самога Гудовіча)*. Я б не сказаў... Чорны хлеб з агуркамі...

Гудовіч. Надакучыла: штодзень белы ды белы. Загадаў чорнага прынесці.

Мігуцкі. Жартаўнік вы, Павел Андрэевіч. Гэта добра, што вы не траціце гумару, але жыць так... Працуеце вы дзе-небудзь? Я чуў, вы ў аркестры працавалі... радавым музыкантам.

Гудовіч. Другая скрыпка.

Мігуцкі. Смеху варт! Лепшы беларускі кампазітар... Вам у мастацтве першая скрыпка належыць.

Гудовіч. А мне і другой не даверылі. Прагналі.

Мігуцкі. За што?

Гудовіч. Ды вось за гэта самае. Кажуць — занадта шмат гонару для іх.

Мігуцкі. А ведаеце, я б вас таксама прагнаў. Няма чаго дурыкамі займацца. Я хачу вам прапанаваць сапраўдную работу... паводле вашых сіл і таленту.

Гудовіч. А вы... Гэта ў вашых магчымасцях?

Мігуцкі. Я — загадчык аддзела мастацтва.

Гудовіч. А-а, тады зразумела.

Мігуцкі. Трэці месяц. Усё хацеў з вамі пагаварыць, ды вас не відаць нідзе. Я хачу з вамі падпісаць умову.

Гудовіч. На што?

Мігуцкі. На оперу.

Гудовіч. На якую?

Мігуцкі. На «Шчаслівую долю».

Гудовіч. Вы... здзекуецеся?

Мігуцкі. Зусім не. Опера на тую ж самую вашу тэму: як беларускі народ знайшоў сваё шчасце. Толькі там гаварылася аб шчасці савецкім, а тут...

Гудовіч *(перабівае)*. Аб шчасці нямецкім?

Мігуцкі. Беларускім.

Гудовіч маўчыць.

Падумайце. Лібрэта гатова. Ганарар — трыццаць...

Гудовіч *(падхоплівае)*. Срэбранікаў.

Мігуцкі *(пасля доўгай паўзы)*. Вы — чалавек савецкі, я гэта ведаю. Вы мне заявілі аб гэтым яшчэ ў першы дзень вайны. Але з таго часу шмат што змянілася. Вы тады назвалі мяне груганом. Вы цяпер бачыце, што гэты груган правільна каркаў. Я не хачу гвалтаваць вашага сумлення, але давайце разважаць сур'ёзна. Ну, што з таго, што вы савецкі чалавек? Каму гэта можа спатрэбіцца сёння ці, скажам, на працягу бліжэйшых

пяцідзесяці год? Немцы калі што робяць, дык робяць грунтоўна. А вы ж ведаеце, дзе яны цяпер. Савецкая ўлада дажывае апошнія дні.

Гудовіч. Вы зноў прыйшлі мяне пужаць.

Мігуцкі. Але ж вы са мной згодны?

Гудовіч. Я не хацеў бы з вамі дыскуціраваць на гэту тэму.

Мігуцкі. Можаце смела гаварыць, што думаеце. Я ў гестапа не пабягу... Дык вось, мы дамовіліся, што савецкая ўлада...

Гудовіч. Я з вамі не дамаўляўся наконт савецкай улады.

Мігуцкі. Усё роўна, гэта без нас станецца. Ну, а народ беларускі? Ён жа астанецца. Якая б ні была яго псіхіка, немцы не будуць прыстасоўваць да яе сваю палітыку. Значыць, трэба беларускую псіхіку прыстасоўваць да нямецкай палітыкі. Інача атрымаецца разлад, які скончыцца дрэнна для беларускага народа. Вось тут мастацтва і можа адыграць вялікую ролю.

Гудовіч. Беларускую псіхіку прыстасоўваць да нямецкай палітыкі... Вы сваю ўжо прыстасавалі?

Мігуцкі. Я заўсёды разважаю цвяроза.

Гудовіч. Але ж ваш прыклад можа аказацца непераканаўчым. Народ скажа, што ён не згодзен прыстасоўваць сваю спіну да нямецкай палкі і сваю шыю да нямецкай пятлі.

Мігуцкі. Чаму ж пятля? Пятля — гэта на выпадак разладу.

Гудовіч. Як я зразумеў, вы мне пакуль што прапануеце палку?

Мігуцкі. Я вам прапаную трыццаць тысяч. *(Паўза.)* Што вы на гэта скажаце?

Гудовіч. На жаль, я павінен вам падзякаваць.

Мігуцкі. Адмаўляецеся?

Гудовіч. Зусім незалежна ад тэорыі прыстасавання. Я непрацаздольны чалавек. Пасля ўсіх няшчасцяў, якія на мяне зваліліся...

Мігуцкі. А вы паспрабавалі б.

Гудовіч. Спрабаваў, нічога не выходзіць. Ні думак, ні пачуццяў — поўная прастрацыя.

Мігуцкі *(недаверліва)*. Скажыце, калі ласка! Вось няшчасце!

Гудовіч. Дайце рады. Ёлап ёлапам стаў. Як быццам і таленту ніколі не было.

Мігуцкі *(з націскам)*. Я спадзяюся, што гэта пройдзе.

Гудовіч. Я таксама спадзяюся, што некалі пройдзе.

Мігуцкі. Вы проста без яды аслабелі. Вось атрымаеце аванс, крыху падкорміцеся.

Гудовіч. Ад авансу я ўстрымаюся. Я магу яго не апраўдаць.



З унукам Мікалаем на дачы.
Ждановічы.
1963 г.



Якуб Колас,
Пятрусь Броўка,
Кандрат Крапіва.
1955 г.



З дачкой Людмілай.
1945 г.



З унукамі Аленай і Мікалаем.
1963 г.



З Іванам Шамякіным.
1976 г.

З Сяргеем Міхалковым.
1981 г.



Кандрат Крапіва,
Іван Мележ,
Максім Лужанін.
1976 г.



З Аляксеем Кулакоўскім.
1976 г.



З сынам Ігарам, унучкай Аленай
і жонкай Аленай Канстанцінаўнай.
1956 г.




Дорогой
Кондрат Кондратьевич!

Московский Художественный Академический театр Союза ССР им. М. Горького с чувством искренней радости, от всего сердца приветствует Вас в день Вашего славного шестидесятилетия.

Мы рады сказать Вам сегодня о том чувстве глубокой творческой симпатии, которую всегда вызывала и вызывает в нас Ваша многообразная литературная деятельность. Мы высоко ценим Ваш талант — целеустремленный, сильный, всеми своими корнями связанный с жизнью народа, борьбе за счастье которого Вы щедро отдаете все силы своего мужественного и смелого сердца. В образах Ваших пьес и басен, во всем строе Вашего творчества, подлинно народного, богатого чувством и мыслью, живо отразился социалистический наш век.

Март 1956 г.

А. Солодовников

**Віншавальны адрас МХАТа у сувязі з шасцідзесяцігоддзем К. Крапівы (фрагменты)**



Апошняе фота з роднымі.
Снежань 1989 г.

Мігуцкі. Будзем лічыць, што гэта не апошняе ваша слова. Падумайце, а пасля мы сустрэнемся.

Уваходзіць Броня.

Броня. Добры дзень!

Гудовіч. Гэта мая сваячка... і гаспадыня.

Броня. Мы з Анатоліем Захаравічам знаёмы.

Гудовіч. Не, ты яшчэ незнаёма, Бронечка. Гэта спадар Мігуцкі, загадчык мастацкага аддзела.

Броня. А-а, разумею.

Сама ж не ведае, як да гэтага паставіцца, і дапытліва глядзіць на Гудовіча.

Гудовіч. Спадар Мігуцкі такі добры, што прапануе мне трыццаць тысяч за оперу.

Броня. За якую?

Гудовіч. За «Шчаслівую долю».

Броня здзіўлена.

Не падумай чаго дрэннага: за шчаслівую долю пад немцам. Падумай, якая куча грошай!

Броня. Дык вы ж хворы.

Гудовіч *(да Мігуцкага)*. Ну, вось. Я вам праўду сказаў — хворы. Не так целам, як духам.

Мігуцкі. А ў чым жа той дух будзе трымацца? Вы, Браніслава Адамаўна, лепш даглядайце Паўла Андрэевіча, дык ён хутчэй паправіцца. Зайдзіце да мяне, я вам запіску дам на паёк.

Гудовіч. Не паможа. Нічога не паможа.

Мігуцкі. Ну, гэта мы пабачым. Няма чаго загадзя сябе адпяваць. *(Да Броні.)* Дык вы зайдзіце. *(Да Гудовіча.)* Жадаю вам хуткай папраўкі. Мы яшчэ пагаворым. *(Развітваецца і выходзіць.)*

Гудовіч *(з абурэннем)*. Падлюга!

Броня. Дабіраецца да вашага сумлення.

Гудовіч. Трыццаць тысяч ён мне патыкае. Удавіся ты імі.

Броня. Супакойцеся, Павел Андрэевіч.

Гудовіч. Правільна я зрабіў, што адмовіўся?

Броня. Зусім правільна. Але на гэтым яшчэ не канец. Трэба быць асцярожным.

Гудовіч. Не шкада трыццаці тысяч?

Броня. Звязацца з фашыстамі — значыць загінуць.

Гудовіч. Маладзец ты ў мяне. Дай я цябе пацалую за гэта.

Цалуе. Броня выходзіць. Гудовіч бярэ скрыпку і працягвае перапыненую работу — рыхтуе рэпертуар на заўтрашні дзень. У яго яшчэ не ўляглося абурэнне, і ён з асаблівым націскам, амаль са злосцю грае «Чаму ж мне не пець».



8 — 1614

## Карціна трэцяя

Гарадская плошча. Гудовіч са скрыпкай у руках стаіць на рагу невялікага сквера. Ля ног ляжыць перавернуты дагары капялюш. Халодны асенні вецер развявае сівыя валасы. Твар яго нібы акамянеў.

Гудовіч грае народныя песні «А ў полі вярба», «Як памерла матулька», «Зялёны дубочак» і інш.

Праходзяць людзі. Некаторыя не звяртаюць на музыку ніякай увагі. Другія спыняюцца, слухаюць, кідаюць у капялюш рублёвую паперку і ідуць па сваіх справах. Іншыя не спыняюцца. Яны кідаюць у капялюш грошы, стараючыся не глядзець Гудовічу ў твар. Па ўсім відаць, што гэта яго знаёмыя.

Мужчына. Гэта ж Гудовіч!

Жанчына. Ён самы.

Мужчына. Да чаго давялі чалавека, сволачы!

Жанчына *(аглядаецца на Гудовіча)*. У яго, небаракі, рукі адубелі. Ледзьве струны перабірае.

Дзяўчынка. Дзядзя, а «Восень» умееш?

Гудовіч, нічога не адказваючы, грае «Восень».

1-я жанчына. Песня якая гаротная.

2-я жанчына. Як наша жыццё.

Падыходзяць тры нямецкія салдаты. Людзі разыходзяцца і з апаскай наглядаюць здалёк. Салдаты з выглядам гаспадароў пакурваюць цыгаркі, задаволена ўхмыляюцца. Потым, як па камандзе, яны кідаюць акуркі ў капялюш і, рагочучы, ідуць далей. Гудовіч не звяртае ўвагі на гэта нахабства, і твар яго нерухомы, як і раней.

1-я жанчына *(хуценька падыходзіць і выкідае з капелюша акуркі)*. Каб на вас шэрсць курэла, злыдні праклятыя!

Падыходзіць Мігуцкі.

Мігуцкі. Што гэта вы робіце, Павел Андрэевіч?

Гудовіч. Хлеб зарабляю.

Мігуцкі *(заглядае ў капялюш)*. Не многа ж вы зарабілі.

Гудовіч. Затое сумленна.

Мігуцкі. Небяспечны гэта хлеб.

Гудовіч. Хіба ён каму-небудзь поперак горла стаў?

Мігуцкі. Гэта дэманстрацыя. Вы наўмысля выстаўляеце напаказ свае пакуты: «Вось глядзіце, да чаго мяне давялі!»

Гудовіч. Я нічога страшнага не раблю: граю людзям песні. Калі і гэта страшна каму-небудзь, дык дрэнная іх справа.

Мігуцкі. Вы гуляеце з агнём. Кіньце гэта небяспечнае глупства. Пакуль вам падаюць руку дапамогі, прыміце яе. Гэта вам раіць ваш сапраўдны друг.

Гудовіч. Друг мой сапраўдны! Не перашкаджайце мне зарабляць свой хлеб. Вы адпужваеце ад мяне людзей.

Мігуцкі *(адыходзіць)*. Стары вар'ят.

Марфа Пятроўна *(з рыначным кошыкам)*. Не, ён не вар'ят. Ён добры чалавек.

Мігуцкі. А вы адкуль ведаеце, што ён добры чалавек?

Марфа Пятроўна. А гэта мой сусед. Мы з ім цераз калідор жывём.

Мігуцкі. Гэты ваш добры чалавек пагана робіць.

Марфа Пятроўна. А што ж тут паганага? Песні не благія. Вось толькі што жабраваць пайшоў. Ну, дык, мусіць жа, гора прыперла.

Мігуцкі. Гора прыперла. Вось табе і суседка. Цераз калідор жыве, а нічога не ведае.

Марфа Пятроўна *(заінтрыгаваная)*. А што такое?

Мігуцкі. Хадзіце сюды *(адводзіць яе ўбок)*. Як вас зваць?

Марфа Пятроўна. Марфа Кульбацкая.

Мігуцкі. А бацьку як звалі?

Марфа Пятроўна. Пятрусь.

Мігуцкі. Дык вось, Марфа Пятроўна. Ваш сусед сапраўды добры чалавек. Мала таго — ён выдатны чалавек, і мне яго шкада. Ён можа загінуць.

Марфа Пятроўна. Праз гэта, што грае?

Мігуцкі. Ага. Бачыце, грае ён тут не так сабе. Яго нехта падбухторвае на гэта. Немцы, як даведаюцца...

Марфа Пятроўна. Хто ж яго падбухторвае?

Мігуцкі. Мала цяпер усякай поскудзі? Можа, хто знарок хоча пад манастыр падвесці. Вы там нікога не заўважалі?

Марфа Пятроўна. Прыходзіць да яго зрэдку яшчэ такі самы музыкант... Шкуранкоў ці як яго. А больш я нікога не бачыла.

Мігуцкі. Вы, мусіць, не вельмі прыглядаліся.

Марфа Пятроўна. Ну, вядома. Хіба мне ў галаве. Як пайду на рынак, дык бывае, што і цэлы дзень там.

Мігуцкі. Шкада чалавека. Яшчэ на шыбеніцу трапіць. Вы ўсё-такі наглядайце.

Марфа Пятроўна. А што толку, што я буду наглядаць? Чым я тут дапамагу?

Мігуцкі. А вы скажыце мне, калі хто да яго будзе прыходзіць. Больш вам і рабіць нічога не трэба. Ну, можа, часамі падслухаць, што будуць гаварыць. Вось вам мой адрас. *(Вымае блакнот, запісвае і дае ёй адрас.)* І крыху грошай... за турботу.

Марфа Пятроўна. А за што ж грошы? Турбота невялікая. Дзеля добрага чалавека я і без грошай паслухаю.

**Мігуцкі.** Вы толькі яму, суседу, нічога не гаварыце, а так цішком. Калі ён будзе ведаць, то, вядома, да яго ніхто не пойдзе. Сам ён будзе куды-небудзь хадзіць. Гэта яшчэ горш.

**Марфа Пятроўна.** Што ж, мне не цяжка, цераз калідор жывучы. Я разоў пяць на дзень бываю ў іх.

**Мігуцкі.** Ну, вось і добра. Я хацеў бы ведаць, хто там яго падбівае на такія справы. Значыць, дагаварыліся. Я вас буду чакаць. *(Адыходзіць.)*

**Гудовіч** *(грае і пяе ахрыплым голасам)*

Ой, восень, восень,
Скуль ты ўзялася?
Жалем, слязамі
Скрозь разлілася:
Бедныя людзі
Крыюцца ў хатцы,—
Страшна ім, страшна
З холадам знацца.
Кепска, ой, кепска
Жыці ў няволі...

Раптам чысты дзявочы голас падхоплівае песню.

Трэба шукаці
Лепшае долі.

Людзі аглядаюцца на дзяўчыну. Гэта **Юля**, апранеая ў шэрую ватоўку, укручаная цёплай хусткай. Гудовіч стрэўся з ёю вачыма і пазнаў. Губы яго задрыжалі, твар прасвятлеў. Маскіруючы сваю ўзрушанасць, ён закашляўся. Песня абарвалася. Людзі шчодра кідаюць у капялюш рублі, дзеляцца ўражаннем, разыходзяцца. Улучыўшы момант, Юля кідае ў капялюш паперку і хутчэй адыходзіць. Гудовіч асцярожна кладзе на зямлю скрыпку, бярэ ў рукі капялюш і выбірае з яго рублі. Зайздросна пазірае на грошы жабрак, што сядзіць побач.

**Жабрак.** Ты, пан, мяне аграбіў.

Гудовіч глядзіць на яго няўцямліва.

Грошы мае загроб. Гэта ўсё ў маёй шапцы было б, а трапіла ў твой капялюш. Прыйшоў на маё месца і дазволу не папытаўся. У нас, жабракоў, так не водзіцца.

**Гудовіч.** Я цябе сапраўды пакрыўдзіў. На! *(Кладзе рублі яму ў шапку.)*

**Жабрак.** Пакінь сабе крыху. Ты ж таксама пілікаў тут і горла драў.

**Гудовіч.** Мне не трэба.

**Жабрак.** І мне твайго не трэба. Жабрак жабраку не дорыць. На, забірай. *(Кладзе частку грошай Гудовічу ў кішэнь.)*

Не вымаючы з капелюша, Гудовіч разгортвае паперку і чытае. Аглядаецца вакол сябе. Хавае паперку ў кішэнь. Людзей ля яго няма: усе падаліся ў процілеглы канец сквера. З таго боку даносіцца стрыманы гул. Хутка на сцэну выходзіць гітлеравец з аўтаматам у руках. За ім, са звязанымі назад рукамі, спатыкаючыся, ідуць мужчына і жанчына. Вопратка на іх вісіць шматкамі, праз дзіркі відаць скатаванае цела, на тварах сляды пабояў. У жанчыны адно вока зусім запухла. У кожнага на грудзях фанерная дошка з надпісам. У мужчыны «Я страляў у нямецкіх салдат», у жанчыны «Я памагала партызанам». За арыштаванымі, з аўтаматамі напагатове, ідуць гітлераўцы. Паводдаль, па баках і ззаду — натоўп людзей. У натоўпе прыглушаны гул абурэння і словы спачування.

Галасы. Іх на шыбеніцу гоняць.
— Бедныя! Чаго ж вы пападаліся ў рукі гэтым катам?
— І жанчына-небарака.
— Можа, дзеці-сіроты засталіся.
— Не плачце. Ім і так цяжка.
— Радзіма вас не забудзе!

Партызанка. Смерць фашысцкім...

Удар прыклада збівае яе з ног. Два салдаты зноў паставілі яе на ногі і штуршкамі прымушаюць даганяць пярэдніх.

Галасы. Вырадкі праклятыя!
— Звяругі!
— А нашы — героі. На смерць ідуць з узнятай галавою.
— Героі. Шапку перад імі трэба здымаць.

Усе, як па камандзе, знімаюць шапкі.

Немец *(рэзка паварочваецца і настаўляе аўтамат)*. Цурук!

Канвой з арыштаванымі аддаляецца. Людзі, прыгнечаныя бачаным, стаяць панура і маўкліва. У жанчын на вачах блішчаць слёзы. Нечыя нервы не вытрымалі: жанчына заплакала наўзрыд. Гудовіч стаіць на тым жа месцы. Усе на яго забыліся. Вось ён прыкладае скрыпку да пляча і ціха, ледзь чутна, грае «Широка страна моя родная...». Нібы электрычны ток прайшоў па натоўпе. Узняліся галовы, выпрасталіся плечы. Людзі хвіліну слухаюць, як зачараваныя, а пасля таксама паціху, як змоўшчыкі, пачынаюць пець. Пяюць мужчыны, трымаючы шапкі ў руках, пяюць жанчыны з мокрымі ад слёз вачыма. Апусцілася заслона, а песня ўсё яшчэ гучыць як перамога нязломнага духу.

### Карціна чацвёртая

Дэкарацыя другой карціны.
Броня, апранутая, стаіць ля акна. У парозе суседка Марфа Пятроўна.

Броня. Вы добра бачылі, што гэта ён?

Марфа Пятроўна. Добра. Гэтак, як цябе бачу.

Броня. На пляцы?

Марфа Пятроўна. Ага. Там, дзе жабракі сядзяць.

Броня. Што гэта ён надумаўся?

Марфа Пятроўна. Надумаешся, голад не цётка.

Броня. Я думала, работа трапілася. Казаў учора, што пойдзе хлеб зарабляць.

Марфа Пятроўна. Казаў, то і пайшоў. Табе ж лягчэй будзе. І чаго ты над ім так дрыжыш? Што ён — дзіця малое? Гляджу я на вас і дзіўлюся. Ні бацька ён табе, ні дзядзька — чужы чалавек, а ты куска не з'ясі, ды ўсё яму.

Броня. Ён мне радней роднага.

Марфа Пятроўна. Радней роднага толькі муж можа быць. Але ж... А ўрэшце — Бог вас ведае.

Броня. Якое глупства вы гаворыце, Марфа Пятроўна!

Марфа Пятроўна. Стараваты, гэта праўда. Але каб добры харч, то ён бы яшчэ акрыяў. Маладога — дзе ж ты яго ўхопіш цяперашнім часам?.. Ды яшчэ ўдавою быўшы.

Броня. Душа ў яго цудоўная, таму я яго люблю. А больш мне нічога не трэба.

Марфа Пятроўна. Пры целе і душа хараша.

Броня. Пра яго так няможна гаварыць. Ён выдатны талент.

Марфа Пятроўна. Дык і трымайся! Абедзвюма рукамі трымайся. Раз даў табе Бог такі талент, дык не выпускай. Прыйдуць нашы, ён зноў у славе будзе. Ты за ім яшчэ пакрасуешся.

Броня. Ой, Марфа Пятроўна! З вамі гаварыць нельга. Вы ўсё не з таго боку падыходзіце. Хіба я пра гэта думаю?

Марфа Пятроўна. А ты думай і пра гэта. За цябе ніхто не падумае. Я, мілая, век пражыла, ведаю, з якога боку да каго падысці, і табе дрэннага не параю.

Броня *(глядзіць у акно)*. Ідзе, здаецца. Так, ідзе. *(Узрадаваная, яна распранаецца і пачынае наводзіць парадак у пакоі.)*

Марфа Пятроўна. Адлягло? Ну, то я пайду. Ты яму не гавары, што я тут балбатала. А трымаць — трымай!

Броня махае на Марфу Пятроўну рукой. Тая выходзіць. Уваходзіць Гудовіч. Ён празяб і адчувае сябе крыху вінаватым перад Броняй, але задаволены сабой.

Броня. Ну, ідзіце, ідзіце, бліжэй! Зараз вам лазня будзе.

Гудовіч. А і няма за што. Дарэмна ты заняла баявую пазіцыю.

Броня. Як няма за што? Вы сёння моцна правініліся.

Гудовіч. Я працаваў. Вось і заработак. *(Выкладвае на стол грошы.)*

Броня. Вы жабраваць хадзілі? Можа, там яшчэ дзе торба з кускамі? *(Ідзе і заглядае ў пярэднюю.)*

Гудовіч. А нашто торба, калі ў мяне капялюш.

Броня. На вуліцы? І як вам не сорамна?

Гудовіч. Ні капелькі. Гэта чыстыя грошы. Іх мне даў народ. Яны не заплямлены ні крывёю, ні здрадніцтвам. Бяры смела. *(Бярэ са стала грошы і дае Броні.)*

Броня *(беручы грошы)*. А рукі ж, як лёд.

Гудовіч. Рукі пазяблі, а душы цяплей стала. Цэлы дзень са сваімі людзьмі. Я бачыў іх вочы, чуў, чым яны дышуць.

Броня. А вы глупства там ніякага не зрабілі?

Гудовіч. Не, я толькі граў.

Броня. Што вы гралі?

Гудовіч. Песні. Нашы, народныя: «Перапёлачку», «Вярбу»; не важна — што, важна — дзе граў, каму граў — вось што важна!

Броня. Я вас прашу — не рабіце гэтага больш.

Гудовіч. Гэта ты дарэмна просіш.

Броня. Родненькі! Беражыце сябе. Баюся я за вас.

Гудовіч. Чаго? Я ж не з бомбаю хадзіў, а во *(бярэ ў руку скрыпку)* — са скрыпкай толькі.

Броня. Усё роўна. Не хадзіце больш.

Гудовіч. Во страху нагнаў! Не такі я герой, як ты думаеш.

Броня. І не трэба. Будзьце тым, кім вы ёсць. Ваша пара прыйдзе.

Гудовіч *(распранаецца. Паліто вешае на вешалку, а капялюш кладзе на акно. Трэ рукі і хукае)*. Бачыў я сёння герояў.

Броня. Дзе?

Гудовіч. На шыбеніцу іх вялі... скатаваных. Людзі плакалі, і я... *(хукае на рукі)* ледзь не заплакаў. А яны... Гімны ім трэба складаць. *(Прыкладае рукі да печы. Паўза.)* Жыў буду — складу.

Броня. Я чула — павесілі іх.

Гудовіч. І жанчына там была... Маладая яшчэ. *(Паўза.)* Броня, дзе тая лістоўка?

Броня. Якая?

Гудовіч. З вершам Янкі Купалы, што мне прафесар Каліноўскі прынёс.

Броня. Я схавала.
Гудовіч. Дай мне яе сюды.

Броня выходзіць і хутка варочаецца.

Броня. Вось яна.
Гудовіч *(чытае)*

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны!

Вось і я напішу. Музыку напішу. Няхай людзі пяюць, гневам распаляюцца.

Броня. Толькі з лістоўкай асцярожна.

Гудовіч. Я на памяць вывучу. А лістоўку ты зноў схаваеш. *(Прыкладае рукі да печы.)*

Паўза.

Броня. У нас, у бальніцы, сёння аблава была. Кругом ачапілі гестапаўцы.

Гудовіч. Лавілі каго?

Броня. Партызана шукалі. Усіх хворых пературбавалі.

Гудовіч. Знайшлі?

Броня. Не, не знайшлі. Як падышлі да ложка, дык я ні жывая ні мёртвая была. Але наш ардынатар — ён па-нямецку ўмее — сказаў ім нешта, яны паківалі галовамі, паглядзелі гісторыю хваробы і пайшлі далей.

Гудовіч. Дык партызан такі быў?

Броня. Ён у нашай палаце ляжыць.

Гудовіч. Ён табе сказаў, што партызан?

Броня. Не, мне ніхто не казаў. Я дзяжурыла, як яго прывезлі пад выглядам паліцая. Адзін толькі ўрач, Антон Піліпавіч, ведае пра гэта. Але я таксама здагадалася.

Гудовіч. І нікому не сказала?

Броня. Не. Нават яму самому. Няхай думае, што і я лічу яго за паліцая. Так яму спакайней будзе.

Гудовіч. Выходзіць, ты яго пакрываеш.

Броня. Ну і што ж такое? Свой чалавек.

Гудовіч. Такога нічога, толькі за гэта фашысты вешаюць. Дык, можа, і мне прасіць цябе, каб ты так не рабіла?

Броня. Мне можна, я чалавек звычайны.

Гудовіч. А мне няможна, бо я, па-твойму, незвычайны.

Броня. А вы павінны берагчы сябе.

Гудовіч. Дзякуй табе за такую прывілегію.

Броня *(лагодна)*. Ну, годзе, супакойцеся. Мы пра гэта пасля пагаворым. А зараз я пайду да суседкі папытаюся, ці няма ў яе кіпятку. Вам трэба сагрэцца. *(Мімаходам бярэ з акна капялюш і нясе на вешалку. Выходзіць.)*

Гудовіч *(бярэ з вешалкі капялюш і зноў кладзе на акно. Вымае з кішэні паперку, глядзіць у яе)*. У шэсць гадзін. *(Глядзіць на гадзіннік.)* Зараз павінна быць. Таксама канспірацыя. Капялюш ёй палажы на акне. На табе капялюш. Паглядзім, што ты мне скажаш. Напэўна, ноты прасіць будзе. А ў мяне і ў самога нічога няма.

Броня *(уваходзіць са шклянкай чаю, ставіць на стол)*. Грэйцеся.

Гудовіч. Дзякую. *(П'е.)* Чаёк — гэта добра.

Броня *(глядзіць на капялюш)*. Я ж яго, здаецца, вешала.

Гудовіч. Гэта ты, мусіць, думала вешаць.

Броня паціскае плячыма, вешае капялюш зноў на вешалку і выходзіць.

Гудовіч *(зноў нясе капялюш на акно)*. Канспірацыя дык канспірацыя.

Ён яшчэ не данёс капелюша да акна, як увайшла Броня.

Броня. Да вас прыйшлі, Павел Андрэевіч.

Гудовіч. А-а... Прасі, прасі. *(Зашпільвае пінжак, папраўляе гальштук.)*

Уваходзіць Юля.

Юля. Добры вечар. *(Яна на момант спыняецца ў дзвярах.)*

Гудовіч. Добры вечар, Юлінька.

Ідуць адно другому насустрач.

Юля. Дарагі Павел Андрэевіч! Як я рада! *(Працягвае яму абедзве рукі.)*

Гудовіч *(усхваляваны)*. Я таксама рад, Юлінька. Убачыў вас на плошчы і ўзрадаваўся. *(Ён усё трымае яе рукі.)* Толькі я заўважыў, што гаварыць там вы са мной не хочаце. Дзякуй, што зайшла наведаць старога. *(Глядзіць ёй у твар.)* Такая ж... ясная, як і была. Нібы прамень з майго мінулага. Як слаўна, як хораша мы жылі! *(Паўза.)* Распранайцеся. *(Памагае ёй распранацца.)*

Юля раскручвае хустку, знімае ватоўку, застаецца ў паношаным скромным плацці. Яны зусім забыліся на Броню, якая наглядае за імі збоку, як чужая.

Юля. Чула я пра ваша гора, Павел Андрэевіч.

Гудовіч. Гора, Юлінька, вялікае гора. Ды не ў аднаго мяне.

Юля. Як убачыла я вас, як вы на холадзе, без шапкі, ды песня гэта, аж сэрца ў мяне зайшлося. Забылася на ўсякую асцярогу і падцягнула вам.

Гудовіч. Вельмі дарэчы падцягнула.

Юля. А пасля пайшла і паплакала трошкі.

Гудовіч. А вось гэта, можа, і не дарэчы. Як жа вы жывяце, Юлінька? Дзе паварочваецеся?

Юля *(глянуўшы на Броню)*. Усюды, Павел Андрэевіч. Дзе мяне толькі няма.

Гудовіч. Выбачайце, я забыўся вас пазнаёміць. Гэта — мая сваячка, гаспадыня, строгі апякун, найлепшы друг. Пры ёй можаце гаварыць смела, як і пры мне.

Броня. Часамі і друг можа быць лішнім.

Гудовіч. А гэта — мая былая вучаніца і добрая прыяцелька Юля Мураўіцкая.

Броня і Юля паціскаюць адна другой рукі.

Гудовіч. Бронечка, можа, ты яшчэ раздабудзеш шклянку чаю?

Броня выходзіць.

Сядайце, Юлінька. Раскажыце мне што-небудзь.

Юля *(садзіцца)*. Раскажу. Я да вас прыйшла не з пустымі рукамі.

Гудовіч. Ну, ну, я слухаю.

Юля. Перш за ўсё прывітанне вам ад вашых шчырых сяброў, якіх вы нават не ведаеце, але якія вас добра ведаюць і любяць.

Гудовіч. Дзякую. Ад каго ж бы гэта?

Юля. Не магу вам пералічыць — іх шмат... Аднаго вы нават ведаеце. Шле вам нізкі паклон ваш былы сусед... рыбак, што язёў лавіў.

Гудовіч. Антон Іванавіч?

Юля. Ага, Максіменя. Чакае вас да сябе ў госці.

Гудовіч. Зайду, абавязкова зайду. Дзе ж ён жыве?

Юля. А жыве ён... супроць ліха на ўзгорачку.

Гудовіч. Ну, гэта, відаць, далекавата. Ліха-то я ведаю дзе, а вось узгорачак той... Без вас я туды не патраплю.

Уваходзіць Броня. Ёй непрыемна, што Гудовіч так захоплен гаворкай з Юляй. З непрыязню глянуўшы на Юлю, яна ставіць перад ёй чай. Юля дзякуе кіўком галавы. Броня выходзіць. Чуваць, як яна на кухні бразгае вёдрамі, збіраецца ісці па ваду.

Юля. Гэта вам адна загадка. А цяпер другая: угадайце, ад каго вам пісьмо?

Гудовіч. Чакайце, падумаю.

Юля. Ад выдатнага чалавека, вашага прыяцеля і сябра па працы.

Гудовіч. Такіх тут у мяне няма. Усе мае прыяцелі і сябры па працы там, на свабоднай зямлі. Адзін я застаўся тут, як падбіты жораў.

Юля *(вымае з кішэні пісьмо, паказвае канверт, прыкрываючы адваротны адрас)*. Пазнаяце, чый гэта почырк?

У дзвярах паказваецца галава Марфы Пятроўны. Яна пільна прыслухоўваецца.

Гудовіч. Чакайце, чакайце. Почырк гэты я недзе бачыў. Гэты почырк напамінае мне... напамінае мне почырк нашай дарагой Аляксандры Патапаўны, нашай народнай артысткі. Але ж гэтага быць не можа. Яна ж там, наколькі мне вядома.

Юля *(дае яму пісьмо)*. Прачытайце адваротны адрас.

Гудовіч *(чытае)*. «Москва, Пушечная, 9, ЦЕДРИ, Александре Потаповне Гаевской». Юлінька, скажыце — я не сплю? Як жа гэта? Адкуль? Дзе вы ўзялі гэта пісьмо?

Юля. З неба звалілася. І проста мне ў рукі.

Гудовіч *(паказвае пальцам угару)*. З неба? Так-так, разумею. Толькі з неба яно і магло зваліцца. *(Разрывае канверт, чытае.)* «Дарагі Павел Андрэевіч! Гарачае прывітанне вам з Вялікай зямлі ад вашых сяброў. Не думайце, што мы забылі пра вас. Мы ўсе вас помнім і любім па-ранейшаму. Прымаюцца захады, каб вы былі з намі. Прыязджайце, мы вас чакаем з гатовымі абдымкамі. Тут ваш талент зноў распрастае свае магутныя крылы, звязаныя фашысцкай няволяй. А пакуль гэта станецца, просім неадкладна прыслаць нам клавір вашай «Шчаслівай долі». Тэатр прыступае да працы, і мы хацелі б пачаць вашай операй. Жадаю вам мужнасці, здароўя і шчаслівага падарожжа. Да хуткага спаткання ў Маскве. Ваша Алеся». Чакайце, чакайце. Дайце апамятацца.

Усхваляваны ўстае і ходзіць па пакоі. Галава Марфы Пятроўны знікае.

Масква! Няўжо гэта можа быць? І якія гэта захады? Хто іх прымае?

Юля. Цэнтральны Камітэт і наш урад. Наконт вас даўно было запытанне: дзе знаходзіцца, што робіць.

Гудовіч. Помняць! У такі час! Аб адным чалавеку клапоцяцца. Каб, скажам, генерал быў, а музыка — хіба да яе цяпер?

Юля. Лічаць, што і музыкай можна ворага біць.

Гудовіч. Яна просіць, каб я зараз клавір паслаў. А як жа я пашлю?

Юля. Давайце мне.

Гудовіч. Вам?

Юля. Не бойцеся, дойдзе па прызначэнню.

Гудовіч. Дык вось вы хто!

Юля. Паштальён, усяго толькі.

Гудовіч *(адчыняе шуфлядку стала)*. Але ж ён у мяне ў такім выглядзе... На кавалачках паперы, карандашом... Тут ніхто нічога не разбярэ. Ды і не скончаны яшчэ. Мне трэба не менш месяца, каб прывесці гэта ўсё ў парадак. Я акуратна, дробненька перапішу ў адзін сшытак, каб гэта менш месца займала.

Юля. А самі вы хіба не збіраецеся?

Гудовіч. Я рад бы, але як? Што? Якім чынам?

Юля. Такім жа самым чынам, якім у нас апынуўся доктар Данілевіч.

Гудовіч. А ён што? Я ж яго тыдзень таму назад бачыў у горадзе.

Юля. А цяпер ён там.

Гудовіч. Значыць, і я магу?

Юля. Вядома, можаце. У мяне ёсць прапанова наконт гэтага.

Гудовіч. У вас?

Юля. Так. Не мая, вядома. Мяне паслалі людзі трошкі важнейшыя, чым я. Мне даручылі прывесці вас у партызанскі атрад.

Гудовіч. Вы адтуль?

Юля. Так. Мяне паслалі да вас, бо каму другому вы маглі б не паверыць.

Гудовіч. Вось дык Юлінька!

Юля. Вы не давяраеце?

Гудовіч. Ды што вы, што вы! Я сабе, сваім вушам не веру. Стары Гудовіч — партызан. Крышку не вяжацца. Гэта такія людзі!.. Я іх бачыў сёння на вуліцы. І жанчына там была. Можа, такі ж паштальён, як і вы. Толькі не дай Бог бачыць вас у такім становішчы.

Юля. Дык як, Павел Андрэевіч? У нас вам будзе добра. Будзеце сядзець у зямлянцы і працаваць над «Шчаслівай доляй». А прыйдзе самалёт, сядзеце і праз тры гадзіны ў Маскве.

Гудовіч. Вы мне казку расказваеце.

Юля. Якая стане праўдай. А тут вам заставацца небяспечна.

Гудовіч. Што ж, я згодзен. Толькі ж гэта не сягоння?

Юля. Не, я вам скажу, калі. Мы змайструем вам пропуск, падрыхтуем фурманку. Тут адзін шафёр збіраецца да нас пе-

райсці... з нямецкай машынай. Я з ім трымаю сувязь. З ім бы вельмі зручна было. Вы будзьце напагатове і трымайцеся асцярожна. Грэць на вуліцу больш не хадзіце.

Гудовіч. Не пайду. З сённяшняга дня буду лічыць сябе партызанам.

Юля. Шчыра вітаю вас! *(Паціскае Гудовічу руку.)*

Гудовіч. А што на фронце чуваць? У вас жа весткі пэўныя.

Юля. Пад Сталінградам страшныя баі.

Гудовіч. Нашы трымаюцца?

Юля. Цяжка ім, але трымаюцца. Пакляліся стаяць насмерць.

Гудовіч. Дай ім Бог сілы. Ну, а як настрой там, на Вялікай зямлі?

Юля. Лётчыкі расказваюць: настрой адзін — перамагчы. Будзе і на нашай вуліцы свята.

Гудовіч *(усхваляваны ходзіць па пакоі)*. Хацелася б дажыць да гэтага свята.

Юля. А мы і дажывём.

Гудовіч. Трэба дажыць, Юлінька. Дажыць, чаго б гэта ні каштавала! А тады ўжо мы і пасвяткуем. На ўвесь свет будзе наша свята чутно. *(Ходзіць усхваляваны.)*

Юля. Ну, мне пара. У нашым становішчы падоўгу гасцяваць не прыходзіцца. *(Устае.)*

Гудовіч. Дзякую, Юлінька, за добрыя весці. Перадайце прывітанне свайму начальству, і дзякуй ім за клопаты аба мне.

Юля. Дык рыхтуйцеся, Павел Андрэевіч. Я думаю, не пазней як дзён праз пяць я да вас зайду.

Гудовіч. Ды ўжо ж буду рыхтавацца.

Ён знімае з вешалкі Юліну ватоўку, з якой падае на падлогу фінка. Гудовіч падымае яе.

О-го-го! Вы нават са зброяй.

Юля *(засаромеўшыся, хуценька хавае фінку ў кішэнь)*. Гэта так... на ўсякі выпадак. Бывайце здаровенькі, Павел Андрэевіч!

Гудовіч. Бывайце, Юлінька. Жадаю вам шчасліва таптаць вашы сцежкі. *(Цалуе яе ў лоб.)*

Юля выходзіць. Гудовіч зараз жа бярэцца ўпарадкоўваць свае запісы. Уваходзіць Броня.

Гудовіч. Пайшла яна?

Броня. Пайшла. Што гэта за дзяўчо?

Гудовіч. Гэта залатое дзяўчо. Яна мне адчыніла акно ў іншы свет.

Б р о н я *(насцярожана)*. Што гэта за свет такі?

Г у д о в і ч. Свет, дзе няма фашысцкай ночы.

Б р о н я. У вас святочны настрой.

Г у д о в і ч. Для настрою ёсць прычына.

Б р о н я. Якая?

Г у д о в і ч *(таямніча)*. Мяне клічуць у Маскву.

Б р о н я *(здзіўлена глядзіць на яго, як на вар'ята)*. У Маскву?

Г у д о в і ч. Так. Да партызан, а пасля ў Маскву.

Б р о н я. Хто кліча? Гэта блазніца?

Г у д о в і ч. Аляксандра Патапаўна Гаеўская. Прымаюцца заходы.

Б р о н я. І вы паверылі?

Г у д о в і ч. Вось яе пісьмо.

Б р о н я *(бярэ пісьмо і разглядае)*. І вы згадзіліся?

Г у д о в і ч. Так, я даў згоду.

Броня, прыгнечаная, садзіцца на крэсла.

Ты што? Не рада?

Б р о н я. А чаго ж мне радавацца? Што вы розум страцілі?

Г у д о в і ч. Чаму я страціў розум? Быць на свабоднай савецкай зямлі, тварыць для савецкіх людзей — хіба гэта не разумнае жаданне?

Б р о н я. Пакуль вы з гэтай дзяўчынкай дойдзеце да партызан, вас дзесяць разоў застрэляць. Гэта ў лепшым выпадку.

Г у д о в і ч. А ў горшым што ж, калі гэта лепшы?

Б р о н я. А ў горшым вас схопяць тут, на кватэры, і павесяць. За сувязь з партызанамі.

Г у д о в і ч. Адкуль яны будуць ведаць?

Б р о н я. Вы ўпэўнены, што гэта почырк Гаеўскай?

Г у д о в і ч. Па-мойму, яе.

Б р о н я. А па-мойму, такое пісьмо можна і тут напісаць.

Г у д о в і ч. Нашто ж яго будзе хто пісаць?

Б р о н я. Каб вас у пастку злавіць.

Г у д о в і ч. Па-твойму, і Юля хоча мяне ў пастку злавіць?

Б р о н я. Адкуль вы ведаеце, што не?

Г у д о в і ч *(смяецца)*. Вунь куды махнула! Не, галубка. Здрада такімі вачыма не глядзіць.

Б р о н я. Вас ніхто не бачыў, як вы гралі на вуліцы?

Г у д о в і ч. Мігуцкі бачыў. Усё працягваў мне сваю паганую руку дапамогі.

Б р о н я. Вось ён і мог падаслаць.

Г у д о в і ч. Глупства, глупства! *(Закрывае вушы рукамі.)* Не хачу слухаць. Ты сама ад страху розум страціла.

Уваходзіць Ш к у р а н к о ў.

Шкуранкоў. Пакрыўдзіўся быў на вас, думаў не заходзіць, ды не ўцярпеў. Усё ж мы людзі аднае прафесіі і ў аднолькавым становішчы знаходзімся... Мне трэба з вамі параіцца.

Гудовіч. Гэта аб чым жа?

Шкуранкоў. Вельмі цікавае здарэнне. Толькі вам і магу сказаць пра гэта. *(Аглядаецца на Броню.)*

Броня выходзіць.

Ведаеце, ад каго я атрымаў пісьмо?

Гудовіч. Ад каго?

Шкуранкоў. З Масквы.

Гудовіч *(моцна зацікаўлены)*. З Масквы?

Шкуранкоў. Так, ад Аляксандры Патапаўны.

Гудовіч. Што вы кажаце!

Шкуранкоў. Уявіце сабе. Я проста вачам сваім не верыў.

Гудовіч. І што ж яна піша?

Шкуранкоў. Піша глупства, вядома. Толькі бабскі розум да гэтага можа дадумацца. У Маскву мяне запрашае. Відаць, ім там вельмі не хапае мяне.

Гудовіч. Дык вы што на гэта?

Шкуранкоў. Ды што вы пытаецеся! Хіба гэта магчыма? Абсурд, вядома. Мяне турбуе не гэта. Пісьмо прынесла партызанка — вось што мяне турбуе. Вы разумееце маё становішча?

Гудовіч. Зусім разумею.

Шкуранкоў. Гэта ж мазгоў трэба не мець, каб падвяргаць мяне такой небяспецы. Што там за камандзіры безгаловыя. Я ж ім не які-небудзь цюха-мацюха, што хоць і загіне, дык не вялікая бяда.

Гудовіч. Яны лічаць, што вялікім людзям уласціва і вялікая мужнасць.

Шкуранкоў. Глупства. Яны не маюць права падводзіць мяне пад абух.

Гудовіч. І што ж вы сказалі дзяўчыне?

Шкуранкоў. Я яе прагнаў. Сказаў, калі яшчэ раз прыйдзе, дык паліцыю паклічу.

Гудовіч *(іранічна)*. Тут вы праявілі вялікую мужнасць.

Шкуранкоў. Я думаю, што я зрабіў разумна. А яна — такая дурніца. «Я,— кажа,— не веру, вы не такі. Гэта вы знарок пужаеце паліцыяй, думаеце, што я падаслана. Усё роўна,— кажа,— я да вас прыйду яшчэ». Ну, мяне яшчэ горшая злосць узяла.

Гудовіч. Сапраўды, злосць. Гэта вельмі крыўдна, калі цябе лічаць сумленным чалавекам, а ты такім не з'яўляешся.

Шкуранкоў. Добра вам іранізаваць. Паглядзеў бы я, што б вы рабілі на маім месцы.

Гудовіч. На вашым месцы я зрабіў бы, можа, якраз наадварот.

Шкуранкоў. Дай Божа чутае бачыць. А я не прэтэндую на геройства. Мне вось і пісьмо гэта не дае спакою. Здаецца, грудзі яно мне пячэ. *(Вымае з кішэні пісьмо.)* Спаліць хацеў, ды перадумаў: раптам даведаюцца як-небудзь! Скажуць — пакажы, а ў мяне яго няма. Значыць — канспірацыя, змова.

Гудовіч. А вы... нясіце яго ў гестапа.

Шкуранкоў. А што, гэта, бадай, самае разумнае. Ёй ніякай шкоды не будзе, і я невінаваты.

Гудовіч. Нясіце... Толькі рукі больш я вам не падам.

Шкуранкоў. Што зробіш. Мне шкада траціць прыяцеля, але жыццё мне даражэй вашай рукі.

Гудовіч *(абураны ходзіць па пакоі)*. І вось прыйдзе час, святы час вызвалення, якога чакаюць усе сумленныя людзі. Як вы тады народу ў вочы глянеце?

Шкуранкоў. А мне і глядзець не прыйдзецца. Я ўжо вам казаў: пакуль гэты час прыйдзе, дык нас з вамі чэрві з'ядуць.

Гудовіч *(спыняецца)*. А ведаеце, што, Антон Еўдакімавіч... Мне здаецца, што вас ужо чэрві з'елі. Яны растачылі ваша сумленне, усё лепшае, што ў вас было, і ў вас засталося толькі самае паганае, што і чэрві есці не будуць — подласць.

Шкуранкоў *(абураны)*. Як вы смееце! Ды я вас!.. Ды я вас знаць больш не хачу. *(Выходзіць, стукнуўшы дзвярыма.)*

Гудовіч абураны ходзіць па пакоі.
Уваходзіць Броня.

Броня *(нейкі час моўчкі наглядае за Гудовічам)*. Павел Андрэевіч! Малю вас, адумайцеся! Не ідзіце насустрач сваёй пагібелі!

Гудовіч. Дарэмна просіш. Я ўжо гэта цвёрда вырашыў. *(Паліць пісьмо, потым апранаецца.)*

Броня *(кідаецца да яго)*. Куды вы?

Гудовіч. Не бойся, не ў партызаны. Хачу прайсціся па вуліцы, разабрацца з думкамі.

Броня садзіцца і пачынае плакаць. Гудовіч падыходзіць і кладзе ёй рукі на плечы.

А гэта ты дарэмна. Радавацца трэба, а не плакаць. Усё складаецца як не трэба лепш. Я зараз прыйду, і ўсё спакойна абдумаем. *(Выходзіць.)*

Броня, апёршыся на стол, моцна ўсхліпвае. У пакой заглядвае Марфа Пятроўна.

Марфа Пятроўна. Што гэта ў вас тут нарабілася? Ён пайшоў, а ты плачаш. Ці не пасварыліся?

Броня. Пакіньце мяне, Марфа Пятроўна!

Марфа Пятроўна. А што гэта за яна прыходзіла?

Броня. А вам нашто?

Марфа Пятроўна. Як гэта нашто? Мне цікава ведаць, хто каля майго парога швэндаецца.

Броня. Знаёмая Паўла Андрэевіча.

Марфа Пятроўна. Што гэта за знаёмая? Чаго ёй тут трэба?

Броня. Не ведаю.

Марфа Пятроўна. Не ведаеш. А чаго ж ты плачаш?

Броня. Мусіць, па ноты прыходзіла.

Марфа Пятроўна. Глядзі, мілая, каб па гэтых нотах табе печ не давялося.

Броня. Што гэта значыць?

Марфа Пятроўна. Звядуць яны яго з пуці. Гэта ўжо як піць даць.

Броня. Вы так гаворыце, нібы нешта ведаеце пра яе.

Марфа Пятроўна. Можа, і ведаю.

Броня *(зацікаўлена)*. Што ж вы ведаеце, Марфа Пятроўна?

Марфа Пятроўна. А тое, што я гэту тваю знаёмую з нямецкім афіцэрам бачыла.

Броня *(моцна занепакоеная)*. А вы не памыляецеся?

Марфа Пятроўна. Не памыляюся. Ты маё вока ведаеш.

Броня. Гэта вельмі небяспечна, калі так.

Марфа Пятроўна. Дык вось глядзі, мілая, я цябе папярэдзіла. *(Выходзіць.)*

**Карціна пятая**

Пакой у гестапа. За сталом лейтэнант Людвіг Шуфт. Перад ім у крэсле Мігуцкі. Абодва кураць.

Шуфт *(гаворыць з моцным акцэнтам)*. Хутка тут будзе ваш падшэфны — кампазітар Гудовіч. Перад гэтым я хацеў бы меці ад вас інфармацыю.

Мігуцкі. Вы яго арыштавалі?

Шуфт. Не, запрасіў на гутарку. Вы з ім гаварылі?

Мігуцкі. Гаварыў, пане Шуфт.

Шуфт. І што ж?

Мігуцкі. Упарты стары.

Шуфт. Грошы?

Мігуцкі. Не бярэ.

Шуфт. Ідэя? Служэнне народу? Гаварылі з ім на гэту тэму?

Мігуцкі. Гаварыў. У яго наконт гэтага свой погляд.

Шуфт. Савецкая закваска!

Мігуцкі. Так, яшчэ трымаецца.

Шуфт. Значыць, гаворка з ім скончана?

Мігуцкі. У мяне, пакуль што, скончана. Можа, у вас знойдуцца іншыя сродкі, каб пераканаць яго.

Шуфт. У нас сродкі вельмі радыкальныя. Вы іх ведаеце.

Мігуцкі. Для такіх няма яшчэ падстаў, пане Шуфт.

Шуфт. А гэта дзяўчына з пісьмом? Змест пісьма вам вядомы?

Мігуцкі. Не. Гэта дурная баба — яго суседка — нічога пэўнага не высветліла.

Шуфт *(паказвае Мігуцкаму пісьмо)*. Можа, такое пісьмо? Гэта мне прынёс Шкуранкоў.

Мігуцкі *(разглядае пісьмо)*. Магчыма, што і такое. Вельмі магчыма.

Шуфт. Вось вам і падставы.

Мігуцкі. Калі і такое, дык роля Гудовіча тут, відаць, пасіўная.

Шуфт. Усё ў нашых руках. Мы зробім яе актыўнай.

Мігуцкі. І што ж вы яго... павесіце?

Шуфт *(зацягваецца)*. А вы як бы зрабілі на нашым месцы, пане Мігуцкі?

Мігуцкі. Я б на вашым месцы не спяшаўся, пане Шуфт.

Шуфт. Вы шкадуеце яго?

Мігуцкі. Не шкадую, а ранавата.

Шуфт. Вашы довады?

Мігуцкі. Улічваючы яго папулярнасць, нам выгадней было б мець яго жывым... на нашым баку. За ім пайшлі б другія.

Шуфт. Ёсць яшчэ шансы?

Мігуцкі. Я думаю, што ў яго гэтай закваскі ненадоўга хопіць. Асабліва, калі вы намалюеце яму перспектыву ў выглядзе перакладзіны з пятлёй. *(Зацягваецца.)* А пасля я з ім яшчэ пагавару.

Шуфт *(кладзе акурак у попельніцу)*. Добра. Мы над вашай прапановай падумаем. *(Устае.)* Заходзьце, пане Мігуцкі.

Мігуцкі *(устае)*. З прыемнасцю, пане Шуфт. *(Кланяецца.)* Бывайце здаровы! *(Выходзіць.)*

Шуфт націскае кнопку. Уваходзіць ефрэйтар-гестапавец.

Шуфт. Іст Гудовіч берайтс гекоммен?

Ефрэйтар. Яволь, гер лёйтнант.

Шуфт. Голен зі ін гер.

Яфрэйтар выходзіць. Шуфт вымае з шуфляды пісталет і кладзе на стол. Праз хвіліну ўваходзіць Гудовіч і спыняецца ў парозе.

Добры дзень, пан Гудовіч! Падыходзьце сюды.

Гудовіч падыходзіць.

Сядайце.

Гудовіч. Пастаю. Відаць, не ў госці запрасілі.

Шуфт *(настойліва паказваючы рукой на крэсла)*. Зэцэн зі зіх.

Гудовіч павольна садзіцца ў крэсла.

Гаворыце па-нямецку?

Гудовіч. Не.

Шуфт *(націскае кнопку)*.

Уваходзіць яфрэйтар.

Іх браўхэ дэн долмэчэр!

Яфрэйтар выходзіць. Шуфт прапануе Гудовічу папяросу.

Курыце?

Гудовіч. Не куру.

Уваходзіць перакладчык Стракач.

Шуфт *(Гудовічу)*. Прабачце, што я вас патурбаваў.

Гудовіч. Гэта ваша справа — людзей турбаваць.

Шуфт. Як вы сябе адчуваеце?

Гудовіч. Як у гестапа.

Шуфт. Што вы цяпер робіце?

Гудовіч. З ласкі пана лейтэнанта і яго фюрэра я цяпер адпачываю.

Шуфт *(да Стракача)*. Вас?

Стракач. Эргольт эр зіх ецт.

Шуфт. Чаму вы адмаўляцца працаваць?

Гудовіч. Я страціў здольнасць да творчай працы.

Шуфт. Як гэта?

Гудовіч. Стаў круглым ідыётам.

Шуфт. Я не веру гэтаму.

Гудовіч. Мне нязручна вам даводзіць, што я — ідыёт.

Шуфт. Вы ўсё ж сёе-тое робіце.

Гудовіч. Напрыклад?

Шуфт. Напрыклад — граеце песні на вуліцы.

Гудовіч. Для гэтага не трэба вялікага таленту.

Ш у ф т. Для гэтага патрэбна... фрэхгайт.

С т р а к а ч. Дзёрзкасць патрэбна.

Г у д о в і ч. Песні самыя нявінныя, народныя.

Ш у ф т. Гэтыя песні мне не падабаюцца.

Г у д о в і ч. Народ наш не ведаў мастацкага густу пана лейтэнанта, калі складаў гэтыя песні.

Ш у ф т. Гэта ёсць пратэст. Вы айнэн дорнэнкранц на галаву палажылі і выйшлі на вуліцу, ві ауф Гольгота.

С т р а к а ч. Вы ўсклалі на галаву цярновы вянок і выйшлі на вуліцу, як на Галгофу.

Г у д о в і ч. Я не Хрыстос: не магу сваімі пакутамі вызваліць ад іх свой народ.

Ш у ф т *(гарачліва)*. Так, вы ніякі не Хрыстос, і калі з вамі здарыцца такая непрыемнасць, як з ім, дык васкрэснуць вам не ўдасца. Для вас лепш было б знайсці з намі агульную мову. Мы гарантырэн вам добрыя ўмовы.

Г у д о в і ч. Калі я не Хрыстос, дык гэта не значыць, што я Іуда.

Ш у ф т. Вы прапануеце нейтралітэт? Вы свой нейтралітэт парушылі ўжо.

Г у д о в і ч. Якім чынам?

Ш у ф т. Вы падаліся ў партызаны.

Г у д о в і ч. Новы анекдот.

Ш у ф т. Не будзем траціць лішніх слоў. *(Пакручвае ў руках пісталет.)* Да вас перад два дні прыходзіла дзяўчына?

С т р а к а ч *(паціху)*. Не прызнавайцеся.

Г у д о в і ч. Два дні таму назад? *(Нібы ўспамінае.)* Не помню.

Ш у ф т. Успомніце, хто вам прынёс пісьмо.

С т р а к а ч *(паціху)*. Пісьма не было.

Г у д о в і ч. Пісьмо было.

Ш у ф т. Ад каго?

Г у д о в і ч. Ад народнай артысткі Гаеўскай.

Ш у ф т. Што яна піша?

Г у д о в і ч. Яна просіць у мяне клавір оперы «Шчаслівая доля».

Ш у ф т. Вы паслалі ёй клавір?

Г у д о в і ч. Нават каб хацеў, дык я не мог бы гэтага зрабіць: праца мая згарэла.

Ш у ф т. Што яна піша яшчэ?

Г у д о в і ч. Нічога.

Ш у ф т. А не запрашае яна вас у Масква?

Г у д о в і ч. Запрашае.

Ш у ф т. Што ж, вы збіраецеся?

Гудовіч. Калі вы падручыцеся мяне туды даставіць.

Шуфт. Вас туды той даставіць, хто адтуль даставіў пісьмо.

Гудовіч. Пісьмо мне прынесла дзяўчынка. Мяне даставіць ёй не пад сілу.

Шуфт. Тая самая дзяўчынка, якой вы не маглі ўспомніць?

Гудовіч. Я ўспомніў: пісьмо прынесла дзяўчынка.

Шуфт. Дзе гэта пісьмо?

Гудовіч. Я яго спаліў.

Шуфт. Нашто вы гэта зрабілі?

Гудовіч. Я палічыў, што яго лепш спаліць: пісьмо ўсё ж маскоўскае.

Шуфт. Такім чынам, мы ўстанавілі, што вы мелі сувязь з партызанамі.

Гудовіч. Партызан я і ў вочы не бачыў.

Шуфт. А дзяўчына хто ж, па-вашаму? Анёлак Божы?

Гудовіч. Не ведаю. Я не паспеў у яе запытацца, хто яна.

Шуфт. Вы помніце яе ў твар?

Гудовіч. Не, не помню.

Шуфт. А калі мы яе вам пакажам? Пазнаеце?

Гудовіч. Не пазнаю. Гэта было на змярканні, і твару яе я не разгледзеў. Я яшчэ не паспеў распячатаць пісьмо, як яна пайшла.

Уваходзіць яфрэйтар.

Яфрэйтар. Гер лёйтнант! Гер обэрст руфт зі.

Шуфт *(кіўнуў Гудовічу галавой)*. Прабачце.

Шуфт выходзіць.

Стракач *(мяняе тон)*. У непрыемную гісторыю трапілі вы, Павел Андрэевіч. Я вам шчыра спачуваю. Вы, вядома, маеце падставы мне не давяраць. Вы не ведаеце, хто я, чаго тут і хто мяне сюды паставіў.

Гудовіч. А вы мяне адкуль ведаеце, што так са мной размаўляеце?

Стракач. Божа мой! Хто ж вас не ведае? Я помню яшчэ прэм'еру вашай першай оперы. Гэта быў трыумф. Бура авацый. І сёння бачыць вас у такім становішчы — душа баліць.

Гудовіч. Я ніякага злачынства не зрабіў. Мне няма чаго баяцца.

Стракач. Яны на гэта іначай глядзяць. Дарэмна вы так шчыра з ім размаўляеце. Трэба было ўсё адмаўляць: дзяўчына не прыходзіла, пісьма не было, з партызанамі ніякай сувязі не маеце. Да іх дайшлі нейкія чуткі, вось яны і бяруць вас на бога.

Гудовіч. Я не лічыў патрэбным што-небудзь скрываць.

Стракач. Не, гэта небяспечна. Яны могуць вас заблытаць. Я вам вось што параю. *(Аглядаецца на дзверы, таямніча.)* Да вас прыйдзе жанчына.

Гудовіч *(зацікаўлена)*. Так?

Стракач. Дык вы заявіце сюды.

Гудовіч. А хто яна такая?

Стракач. Тсс...

Уваходзіць Шуфт. Стракач зразу надае твару службовы выраз.

Шуфт. Такім чынам, мы ўстанавілі, што вы наладзілі сувязь з партызанамі.

Гудовіч. Я не наладжваў ніякай сувязі.

Шуфт. Партызаны наладжвалі, а вы не заявілі. Гэта дапамога партызанам. Вы ведаеце, што мы робім у такіх выпадках?

Гудовіч. Ведаю.

Шуфт. Але мы з вамі не спяшаемся. Мы даём вам час абдумаць становішча. Спадзяёмся, што мы з вамі знойдзем агульную мову. А павесіць вас, пане Гудовіч, мы заўсёды паспеем. *(Хлопае па плячы.)*

Гудовіч. Дзякую за прыемную перспектыву.

Шуфт. Будзем лічыць, што ўмова паміж намі заключана: мы вас не вешаем, а вы абяцаеце трымацца лаяльна і падумаць аб перспектыва. Ауфвідэрзээн.

Падае Гудовічу руку. Той яе «не заўважае» і цяжкаю ступою накіроўваецца да дзвярэй.

Шуфт *(Стракачу)*. Гаварылі яму пра жанчыну?

Стракач. Гаварыў. Здаецца, клюнула.

Шуфт *(падморгвае Стракачу)*. А вешаць яго усё-такі прыйдзецца. Як вы думаеце?

Стракач. Думаю, што прыйдзецца. І неўзабаве.

## Карціна шостая

Дэкарацыя другой карціны

Гудовіч адзін у пакоі. Ён піша музыку на словы Янкі Купалы. Бярэ скрыпку, грае і падпявае: «Партызаны, партызаны...» Уваходзіць Броня. Яна, апраненая, спыняецца ў дзвярах. Закусвае губы, выходзіць. Праз хвіліну ўваходзіць распраненая, і цяпер Гудовіч яе заўважае. Ён адкладвае скрыпку ўбок.

Броня. Ніхто не прыходзіў?

Гудовіч. Не. Мне страшна думаць пра гэта. І не думаць таксама не магу.

Б р о н я. Хоць бы ён намякнуў, хто яна.

Г у д о в і ч. Хто яна, хто ён сам — нічога не ведаю.

Б р о н я. Давайце возьмем сябе ў рукі і спакойна абдумаем усё па парадку. Перш за ўсё — хто ён? Гэты, што намякнуў пра жанчыну? Прыяцель ці вораг?

Г у д о в і ч. Што прыяцелю рабіць у гестапа?

Б р о н я. Можа, яго туды нашы паслалі... каб людзей перасцерагаў? Фашысты пастку строяць, а ён ратуе вас, папярэджвае, што да вас падашлюць правакатара.

Г у д о в і ч. А я думаю, што ён сам правакатар. Хоча, каб я выдаў ім партызанку, калі яна прыйдзе. Тады мне адна дарога — да іх. Сярод сумленных людзей месца мне не было б.

Б р о н я. Вось тут і ўгадай, хто прыйдзе: партызанка ці правакатар.

Г у д о в і ч. А не ўгадаеш — смерць.

Б р о н я. Няўжо смерць?

Г у д о в і ч. Калі прыйдзе правакатар, ды я не заяўлю — мне смерць, а калі партызанка прыйдзе, [redacted] я заяўлю — ёй смерць.

Б р о н я. Калі прыйдзе незнаёмая жанчына, тады ясна: падаслалі.

Г у д о в і ч. Нічога не ясна, і хутчэй за ўсё, што прыйдзе іменна незнаёмая. Я баюся, што Юлю яны схапілі.

Б р о н я. Чаму вы так думаеце?

Г у д о в і ч. Немец пытаўся, ці пазнаў бы я тую дзяўчынку, што пісьмо прыносіла.

Б р о н я. Вочнай стаўкі ўсё ж не было.

Г у д о в і ч. Можа, яна ў такім стане, што гэтага нельга было зрабіць.

Б р о н я. Можа, яна і сапраўды там, але...

Г у д о в і ч. Што але? Дагаворвай, чаго ж ты маўчыш?

Б р о н я. Але не ў ролі палоннай.

Г у д о в і ч. Што ты гэтым хочаш сказаць?

Б р о н я. Я вам казала, што Марфа Пятроўна бачыла яе з нямецкім афіцэрам.

Г у д о в і ч. Брахня, гэтага не магло быць.

Б р о н я. А калі не брахня?

Г у д о в і ч. Гэта подласць думаць так пра чалавека, які, можа, канае цяпер у фашысцкім засценку.

Б р о н я. Дык гэта не брахня, Павел Андрэевіч. Я сама сёння бачыла яе з нямецкім афіцэрам.

Г у д о в і ч. Гэта ты толькі што выдумала.

Б р о н я. Не выдумала, а бачыла на свае вочы.

Г у д о в і ч. Тады табе проста здалося.

Б р о н я. Я не магла памыліцца — гэта была яна. Выйшлі з машыны удваіх і зайшлі ў адзін дом.

Г у д о в і ч. Не веру, не веру і не веру. Гэтага не магло быць.

Б р о н я. А чаму вы ў яе так уверылі?

Г у д о в і ч. Я яе ведаю: гэта мая вучаніца, сумленная дзяўчына, камсамолка.

Б р о н я. Хіба няма такіх, што былі нібы харошымі дзяўчатамі, а цяпер з нямецкімі афіцэрамі круцяцца?

Г у д о в і ч. Ты не смееш так думаць пра яе!

Б р о н я. Я ўпэўнена, што яна — правакатар.

Г у д о в і ч. Ты падбіваеш мяне на подласць.

Б р о н я. Я вас ад смерці ратую.

Г у д о в і ч. Чуў ужо. Шкура табе даражэй за ўсё.

Б р о н я *(моцна абражаная)*. Мне цяжка чуць гэта ад вас, Павел Андрэеевіч. *(Усхліпвае.)* Каб яны згадзіліся ўзяць маю шкуру... за ваша жыццё... я з радасцю дала б яе садраць.

Г у д о в і ч. Ну, не твая, мая шкура табе даражэй за ўсё. Гэта ўсё роўна.

Б р о н я. Ваша будучыня мне даражэй за ўсё.

Г у д о в і ч. У здрадніка няма будучыні. Праз яе мне Радзіма руку падае, каб выратаваць, а я яе пад вісельню.

Б р о н я. Глядзіце, каб яна сама не падвяла вас пад вісельню.

Г у д о в і ч *(страшна абураны)*. Не смей!

Броня ціха плача. Гудовіч падыходзіць да яе.

Г у д о в і ч. Прабач. Я змучаны, хворы чалавек.

Б р о н я *(абнімае яго за плячо)*. Родны мой! Голуб вы мой сівы! Я ж бы хацела параіць вам, як найлепш. Калі я і глупства скажу, дык не гневайцеся. Ад вялікай любасці да вас і дурнею. Загінеце ж вы! І я загіну. За што? За правакатарку. Калі ўжо так суджана, дык лепш няхай яна адна. Яна ж здрадніца, а вы... Вы тварыць павінны.

Г у д о в і ч. Каму патрэбна творчасць, на якой ляжыць каінава пячаць? Хіба я магу апяваць гераізм людзей, якіх сам паставіў пад вісельню?

Б р о н я. Значыць — смерць?

Г у д о в і ч. Геройская смерць — гэта не смерць. Жыццё, купленае подласцю,— вось гэта смерць.

Б р о н я *(з адчаем)*. Я не хачу! Вы жыць павінны. Я не дапушчу!

Г у д о в і ч. Ты, неразумная, хочаш стаць мне на дарозе ў самы адказны момант майго жыцця?

Б р о н я. Я не толькі стану — трупам лягу, а выратую вас.

Г у д о в і ч. У мяне хопіць сілы пераступіць і цераз твой труп, і я пайду туды, куды кліча мяне мой народ і маё сумленне.

Б р о н я. Вы не дойдзеце, смерць пяройме вас на дарозе. Але я перайму яе.

У пярэдняй чуецца бразгат конаўкі аб бітон.

Г о л а с з п я р э д н я й. Малачка не будзеце браць?

Г у д о в і ч. Хто там?

Г о л а с. Малачка, пытаюся, не будзеце браць?

Б р о н я. Не, мілая, грошай няма.

Уваходзіць Ю л я з бітонам у руках.

Ю л я. А я пачакаю на грошы.

Г у д о в і ч *(углядаецца)*. Юлінька! Дарагая мая! *(Ідзе ёй насустрач.)* Я тут душою збалеў па вас. *(Цалуе ў лоб. Да Броні.)* Ну, глянь жа ты на яе. Чый яна пасланец?

Броня панура і няветліва глянула на Юлю.

А мы тут чорт ведае якіх страхаў сабе навыдумлялі. Распранайцеся, Юлінька.

Ю л я. Дзякую, Павел Андрэевіч, няма часу. Я прыйшла па вас.

Г у д о в і ч *(збянтэжаны нечаканасцю)*. Ужо?

Ю л я. Усё падрыхтавана, Павел Андрэевіч.

Г у д о в і ч. Ну вось! А я і не сабраўся. А ўсё ты, Бронечка, вінавата.

Ю л я. Ніякіх збораў не трэба. Апранайцеся і пойдзем.

Г у д о в і ч. А клавір?

Ю л я. Клавір вазьміце абавязкова.

Г у д о в і ч. А ён у мяне схаваны. *(Выходзіць.)*

Б р о н я. Дзяўчына мілая! Я не ведаю, хто вы, але хоць якое-небудзь сэрца ёсць жа ў вашых грудзях. Я вас малю — не чапайце гэтага чалавека.

Ю л я. Не разумею, чаго вы хочаце.

Б р о н я. Не чапайце, не губіце старога. У імя вашага бацькі, калі ён у вас ёсць.

Ю л я. Мяне паслалі ратаваць яго, а не губіць.

Б р о н я. Не, вы прыйшлі, каб загубіць яго. А ён нявінны, як голуб, даверлівы, як дзіця. Вы клічаце яго ў пятлю, і ён паслушна ідзе за вамі.

Ю л я. Вы перавялічваеце небяспеку. Паверце, што гэта не так страшна.

Б р о н я. Прашу вас, змілуйцеся, адкасніцеся ад яго. Скажыце таму, хто вас паслаў, што ён прагнаў вас, што ён і слухаць не хоча аб партызанах.

Ю л я. Я гэтым вельмі засмуціла б таго, хто мяне паслаў. Не магу я гэтага зрабіць.

Б р о н я. Малю вас, не адбірайце яго ў мяне.

Ю л я. Прызнайцеся: вы вельмі яго любіце?

Б р о н я. Вы гэта бачыце.

Ю л я. Я вас разумею: вы хочаце захаваць яго для сябе. А я прыйшла, каб захаваць яго для Радзімы. Мая мэта — вышэйшая, і я вам не ўступлю.

Б р о н я *(устае)*. Вы абавязкова хочаце бачыць яго на шыбеніцы?

Ю л я. Адкуль вы гэта ўзялі?

Б р о н я. Я ведаю, хто вас паслаў.

Ю л я. Хто, па-вашаму?

Б р о н я. Гестапа.

Ю л я. Ха-ха-ха! Вы, мабыць, звар'яцелі.

Б р о н я. Так, не прыкідвайцеся. Я бачыла вас з нямецкім афіцэрам. Я не памылілася — гэта былі вы. Толькі, вядома, не ў гэтым убранні.

Ю л я. Я не прыкідваюся — вы маглі мяне бачыць з чалавекам у афіцэрскай форме. Я лёгка магла б развеяць ваша падазрэнне, але я не маю права гаварыць, што гэта за чалавек і чаго я з ім была.

Б р о н я. Вядома, што ж вам яшчэ гаварыць. Пры вашай прафесіі праўды гаварыць не паложана.

Уваходзіць Г у д о в і ч з папкай у руках.

Г у д о в і ч. А мяне ж тут, Юлінька, у гестапа выклікалі.

Ю л я *(устрывожана)*. У гестапа? Чаго?

Г у д о в і ч. Пра пісьмо даведаліся.

Ю л я. Як жа яны маглі даведацца?

Г у д о в і ч. Я думаў, што вас яны сцапалі. А Броня дык чорт ведае што пра вас падумала.

Ю л я. Я ведаю: яна мяне правакатарам лічыць.

Г у д о в і ч. Вы прабачце ёй, Юлінька. Гэта яна так за мяне баіцца, дык ёй невядома што здаецца.

Ю л я. Ды гэта што, сцярплю як-небудзь. З нашай сястрой і не тое бывае. Пазаўчора маю падругу гестапаўцы схапілі. Ёсць падазрэнне, што яе выдаў Шкуранкоў.

Г у д о в і ч. Ах, які падлюга! Ён гэта мог зрабіць. Помніш, Броня, я табе гаварыў.

Ю л я. Ён, вядома, не прызнаецца.

Г у д о в і ч. Калі яго, паскудніка, некалі будуць судзіць, я б хацеў быць за сведку.

Ю л я. Гэта будзе тады, калі мы ўсіх здраднікаў паклічам на суд, а цяпер...

Г у д о в і ч. Я гатоў, Юлінька. Толькі апрануся.

Юля. Я пайду раней, а вы назіркам за мной.

Гудовіч. Добра. *(Прыслухоўваецца.)* Там, здаецца, нехта ўвайшоў. Я дзвярэй не замкнуў.

Броня выходзіць у пярэднюю і зараз жа ў дзвярах з'яўляецца Мігуцкі.

Мігуцкі *(стаўшы ў дзвярах)*. Добры дзень, Павел Андрэевіч! Зайшоў вас наведаць. Кажуць, з вамі маленькая непрыемнасць здарылася? *(Сочыць вокам за Юляй.)*

Гудовіч. Якая непрыемнасць?

Мігуцкі. Кажуць, выклікалі вас некуды.

Гудовіч. З кім цяпер гэтага не бывае.

Мігуцкі. І мяне праз вас турбавалі. «Гэта,— кажуць,— вашы кадры». *(Раптам да Юлі.)* Пачом малачко?

Юля. Па дваццаць рублёў.

Мігуцкі. Дорага, дорага.

Юля *(хоча прайсці ў дзверы)*. Дазвольце!

Мігуцкі *(заступае ёй дарогу)*. Можа, для знаёмага ўступіце крыху?

Юля. Я вас не ведаю.

Мігуцкі *(напявае песню, якую пела Юля ў першай карціне)*. Помніце?

Юля. А што гэта такое? Вы, мусіць, мяне палічылі за некага другога. *(Хоча прайсці.)*

Мігуцкі *(настаўляе пісталет)*. Хвіліначку.

Юля падаецца назад.

Адыдзіцеся ў куток. Яшчэ далей!.. Вось так. *(Да Гудовіча.)* А я яшчэ заступаўся за вас! З пятлі выратаваў.

Гудовіч. Нешта я не помню.

Мігуцкі. Ну як жа! Вас жа павесіць хацелі.

Гудовіч. Дык гэтым я вам абавязаны?

Мігуцкі. Толькі мне.

Гудовіч *(іранічна)*. Шчыра дзякую. Але пры чым тут малочніца?

Мігуцкі. А вось мы зараз даведаемся, пры чым яна тут. *(Гукае.)* Марфа Пятроўна!

Уваходзіць Марфа Пятроўна.

Гэта прыходзіла з пісьмом?

Марфа Пятроўна. Гэта, гэта самая.

Мігуцкі. Збегайце ў паліцыю, скажыце, што я яе затрымаў. Няхай прыйдуць, забяруць.

Марфа Пятроўна *(разявіла рот ад здзіўлення)*. У нямецкую паліцыю?

Мігуцкі. А ў якую ж яшчэ?

Марфа Пятроўна. Ну, добра... Я зараз збегаю. *(Выходзіць.)*

Мігуцкі. Што ж нам рабіць, Павел Андрэевіч?

Гудовіч. Вы ведаеце, што вам рабіць.

Броня. Павел Андрэевіч яе не клікаў. Яна сама прывязалася.

Мігуцкі. У такіх выпадках трэба заяўляць. Вунь аб'явы вывешаны.

Броня. Ды яна толькі што прыйшла.

Мігуцкі. Шкада мне вас, Павел Андрэевіч. Улезлі вы ў непрыемную гісторыю.

Гудовіч. Не трэба мне вашага шкадавання.

Мігуцкі. Мне шкада, што прападае творчы работнік. Звязаўшыся з агентамі Масквы, вы здрадзілі беларускай справе. *(Паказвае на Юлю.)* Яны — прычына ўсіх няшчасцяў. Каб не такія, беларускі народ спакойна жыў бы пад аховай вялікай Германіі.

Гудовіч. Ваша «вялікая Германія» ахоўвае толькі такіх вялікіх падлюгаў, як вы, якія гатовы прадаць ёй свой народ.

Мігуцкі. Дарэмна, дарэмна вы так, каб не прыйшлося вам раскаяцца.

Броня. Даруйце старому, Анатоль Захаравіч. Ён упарты і наравісты, але дрэннага нічога не робіць.

Мігуцкі. Як я магу даравацъ? Не я буду яго справу разбіраць.

Броня. Вы можаце, калі захочаце, выратаваць яго.

Мігуцкі. Вядома, я мог бы сказаць, напрыклад, што гэта не я паслаў па паліцыю, а ён сам — і ўсё. Больш нічога не трэба. Але мне прыйшлося б пакрывіць душою. А дзеля чаго? Гэта я мог бы зрабіць толькі дзеля беларускай справы: калі б, скажам, Павел Андрэевіч даў слова, што ён будзе з намі супрацоўнічаць.

Гудовіч. Якое вы маеце права называць подлае здрадніцтва беларускай справай? Беларуская справа — гэта тое, што робіць беларускі народ, а не яго ка́ты.

Мігуцкі. Вось, чуеце! Як ты яго выратуеш, калі ён сам у пятлю лезе?

Броня. Гэта ён з гарачкі не ведае, што гаворыць. Дайце яму адумацца, узважыць усё, і ён будзе з вамі. Ды вы прысядзьце, Анатоль Захаравіч.

Мігуцкі. Не турбуйцеся. *(Глядзіць на гадзіннік.)* Зараз павінны прыйсці.

Броня *(падносіць крэсла)*. Сядайце. Што ж вам стаяць, як на пасту. Нікуды яна не дзенецца.

Мігуцкі. Дзякую.

Не зводзячы вачэй і пісталета з Юлі, Мігуцкі павольна апускаецца ў крэсла. Броня рыўком падхоплівае крэсла і штурхае Мігуцкага ў грудзі. Мігуцкі падае. Броня навальваецца на яго. Яна абедзвюма рукамі ўхапіла правую руку Мігуцкага і прыціснула яе да падлогі.

Броня *(крычыць)*. Уцякайце праз акно!

Але Юля, якая адразу кінулася Броні на дапамогу, ужо ўзмахнула фінкай. Рука Мігуцкага абвяла і выпусціла пісталет. Броня і Юля адначасова ўсталі і апынуліся адна супраць другой.

Юля. Дзякую.
Броня. Прабач за абразу.

Адчыняюцца дзверы, і на парозе паказваецца Марфа Пятроўна. Юля хапае пісталет Мігуцкага і настаўляе на дзверы, чакаючы паліцыі.

Марфа Пятроўна. Не бойцеся! Я не хадзіла ў паліцыю. Уцякайце хутчэй!
Юля. Пайшлі, Павел Андрэевіч!
Марфа Пятроўна. А я нічога знаць не знаю, ведаць не ведаю.

Юля, Гудовіч і Броня выходзяць.

Марфа Пятроўна *(праходзячы міма трупа Мігуцкага)*. О, ірад! Абдурыць хацеў. Прыяцелем прыкідваўся! *(Выходзіць.)*

## Карціна сёмая

Позняя восень. Адвячорак. Лясная палянка. Недзе побач то пачынае гусці, то зноў змаўкае матор самалёта. Цераз палянку праносяць раненых, відаць, для пагрузкі на самалёт. На ўскраіне лесу відны капітальна пабудаваныя партызанскія зямлянкі. З лесу даносіцца песня многіх галасоў. Песня набліжаецца. На палянку выходзяць: Гудовіч — у кажуху, у валёнках, шапцы-вушанцы, з чамаданчыкам у руках; камісар атрада, група партызан і партызанак, сярод іх Юля і Максіменя.

Партызаны *(пяюць)*

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.

Камісар атрада *(становіцца на пянёк)*. Таварышы! Сёння ад нас на Вялікую зямлю, у родную Маскву, адлятае наш друг, наш лепшы партызан Павел Андрэевіч Гудовіч.

Гудовіч *(круціць галавой)*. Ну і жартаўнік.

Камісар. Так, наш лепшы партызан. Праўда, ён не страляе з кулямёта, але ў яго ёсць свая моцная зброя, з якою ён стаў на абарону Радзімы. Мы ганарымся, што вырвалі такога чалавека з фашысцкіх кіпцюроў. Сёння мы перадаём яго з рук на рукі нашым баявым сябрам — савецкім сокалам, якія даставяць яго жывым і здаровым у родную Маскву. Давайце прызнаемся, таварышы: шкада нам адпускаць Паўла Андрэевіча. Мы ўсе яго моцна палюбілі за тое, што ён сапраўдны савецкі чалавек. Наш, родны. Але мы не павінны быць эгаістамі. Наш атрад — вельмі вузкае поле для дзейнасці такога таленту. Там, на Вялікай зямлі, яго оперы будуць слухаць тысячы, дзесяткі тысяч савецкіх людзей. Яго творы будуць натхняць іх на гераічныя подзвігі. Пажадаем жа яму далейшых творчых поспехаў. Спадзяёмся, Павел Андрэевіч, хутка сустрэцца з вамі на вызваленай беларускай зямлі, пры шчаслівай долі.

Доўгія апладысменты.

Гудовіч *(усхваляваны)*. Дзякую, сябры мае... Баявыя мае сябры. Я ганаруся тым, што вы называеце мяне партызанам. Гэта значыць, што, як савецкі грамадзянін, як савецкі мастак, я трапіў на правільную дарогу. Шчыра дзякую вам, дарагія сябры, за паратунак. Кажуць, што я таксама валодаю зброяй, якою можна біць ворага. Абяцаю вам, што я выкарыстаю гэтую зброю на ўсю яе магутнасць, наколькі хопіць маіх сіл. А наконт сустрэчы мы ўжо ўмовіліся: на вызваленай роднай беларускай зямлі. І хутка. Жадаю вам, сябры мае, баявых поспехаў і ўсяго найлепшага.

Ён цалуецца з камісарам, падыходзіць да Юлі.

Ну, Юлінька! Дзякую табе, галубка, за ўсё.

Юля абхапіла яго за шыю і моцна пацалавала. Гудовіч падыходзіць да Максімені.

Ну, суседзе, дзякую і табе.

Яны абнімаюцца і тройчы цалуюцца.

*(Да Броні, якая падышла да яго з санітарнай сумкай цераз плячо)*. Вось бачыш, Бронечка. Ты баялася за мяне. Адна хацела мяне ўберагчы. А Радзіма ўсіх нас беражэ... І мяне, і цябе. І мы павінны ёй паслужыць. Вось і ты партызанкай стала. Спадзяюся, што ты будзеш баявой партызанкай. Не плач, чаго ж ты?

Броня. Гэта я з радасці, Павел Андрэевіч.

Гудовіч. Ну, з радасці можна. Бывай! Не сумуй, хутка ўбачымся.

Цалуюцца.

Максіменя. Прывітанне Маскве...

Гудовіч *(кланяецца, расчулены, усім у пояс).* Дзякую ўсім вам, слаўныя людзі.

Ён шукае на зямлі чамаданчык, але яго ўжо ўзяў камісар. Гудовіч і камісар накіроўваюцца да самалёта. Партызаны праводзяць іх да краю палянкі. Пяюць зноў: «Партызаны, партызаны...» Зараўлі маторы. Партызаны сочаць за стартам. Хутка на фоне вячэрняга неба паказваецца сілуэт самалёта. Партызаны махаюць яму рукамі.

Максіменя. Шчаслівага падарожжа, сусед!

Партызаны пяюць «Широка страна моя родная».

Канец

*1948*

# ПЯЮЦЬ ЖАВАРАНКІ

*П'еса ў чатырох актах, шасці карцінах*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Насця Вярбіцкая — перадавая калгасніца, агратэхнік.
Аўдоцця Захараўна Вярбіцкая — яе маці.
Іван Міхайлавіч Туміловіч — старшыня калгаса.
Макар Піліпавіч Пытляваны — старшыня другога калгаса.
Мікола Верас — брыгадзір.
Сымон Максімавіч Верас — яго бацька.
Паўліна Бохан — калгасніца, удава гадоў пад сорак.
Цімох Пятровіч Паланевіч — другі сакратар абкома.
Круглік — намеснік старшыні аблвыканкома.
Вера Паўлаўна Марозава — начальнік абласнога кіраўніцтва сельскай гаспадаркі.
Здаравеня — калгасны бухгалтар.
Бандарчык — рахункавод.
Маша — тэхсакратар абласнога кіраўніцтва сельскай гаспадаркі.
Ліда, Каця — калгасніцы, Насціны сяброўкі.
Раман — шафёр.
Валодзя — шафёр.
Афіцыянтка ў сталоўцы.
Вясельныя госці.

## АКТ ПЕРШЫ

### Карціна першая

Хата Аўдоцці Вярбіцкай. Злева — уваходныя дзверы. Улева ад дзвярэй — руская печ. Ад печы праз усю хату дашчаная перагародка з дзвярамі ў бакоўку. У правай сцяне — акно на вуліцу. На авансцэне з правага боку — стол, засланы абрусам. На дварэ сакавік. Праз акно льюцца праменні яркага вясновага сонца. Аўдоцця ўвіхаецца каля печы. Насця збіраецца на работу: апранае ватоўку, бярэ ў рукі сякеру, прабуе пальцам лязо.

Насця. Мама, дзе гэта наш брусок?

Аўдоцця. Глядзі за комінам.

Насця. Я ж цябе прасіла, каб ты майго струманту за комін не закідала. Вунь яму месца, на паліцы. *(Бярэ за комінам брусок.)*

Аўдоцця. Цябе ж у балаторыю прызначалі, а ты зноў за сякеру бярэшся.

Насця. Лабараторыя яшчэ не абсталявана, а хмызняку шмат церабіць. Нязручна ж мне адной гуляць, калі ўсе дзяўчаты на работу ідуць. І працадзень будзе запісаны.

Аўдоцця. Каб жыў быў Міша, не даў бы ён табе гэтага струманту. Як ён, мой сынок, цешыўся, што ў яго такая сястрычка расце! *(Яна гатова заплакаць.)*

Насця. Не трэба, мама.

Аўдоцця. Восем дзянёчкаў не дацягнуў да канца вайны.

Насця. Ты зноў разжаліш сябе на цэлы дзень. Ён не любіў слёз.

Аўдоцця, перамагаючы жаль, выцірае слёзы. Насця пачынае вастрыць сякеру.

Аўдоцця *(пасля паўзы)*. Няхай жа ж бы ты яшчэ блінец з'ела.

Насця. Не хачу, пад'ела ўжо.

Аўдоцця. Мо скварку возьмеш з сабой?

Насця. Не, дадому прыйду абедаць.

Аўдоцця. Прыйдзеш, як сцямнее. Я цябе ведаю.

Насця. Сёння раней прыйду.

А ў д о ц ц я. Можа, вам не канечне ў нядзелю і на работу ісці? Такі ж савецкая ўлада нездарма ўстанавіла выходны дзень... Мусіць жа, для таго, каб людзі адпачывалі.

Н а с ц я. Шкада дзень такі ўтраціць. Хутка зямлю пусціць.

А ў д о ц ц я. Ды хутка ўжо. Жаваранкі пачынаюць пець. Я чула сёння, пойла несучы. Нясмела так, як быццам вучацца.

Н а с ц я. Вось і трэба спяшацца. Лагчына ж там. Залье вадой і не падступішся.

А ў д о ц ц я. Я гэта разумею, але ж і цябе мне шкада. Дзяўчына ж ты: і пагуляць і павесяліцца трэба.

Н а с ц я. Папрацую, а тады і пагуляю ў ахвоту.

А ў д о ц ц я. Замуж пойдзеш, тады ўжо так не пагуляеш.

Н а с ц я. Дзе той яшчэ замуж.

А ў д о ц ц я. І матцы не прызнаешся.

Н а с ц я. Няма ў чым.

А ў д о ц ц я. А я ўсё ведаю.

Н а с ц я. Што ты ведаеш?

А ў д о ц ц я. Старшыня мне казаў, што да цябе дабіваецца нейкі брыгадзір, аж з другога раёна.

Н а с ц я. Дабіваецца, ды ніяк не даб'ецца.

А ў д о ц ц я. Распытваў пра цябе ў старшыні. Казаў — у сваты прыедзе.

Н а с ц я. Тады тое будзе.

А ў д о ц ц я. А ты нібыта нічога не ведаеш?

Н а с ц я. Крыху ведаю. Яшчэ зімой была з ім у нас гаворка.

А ў д о ц ц я. Чакаеш, значыцца? Дай Божа табе шчасця. Хаця каб чалавек добры трапіўся.

Уваходзяць з сякерамі П а ў л і н а, К а ц я і Л і д а.

П а ў л і н а. Дзень добры ў хату.

А ў д о ц ц я. Дзень добры.

П а ў л і н а. Але ж якраз на бліны паспелі.

Л і д а *(дэкламуе)*

> Дзень быў святы. Яшчэ ад рання
> Блінцы пякліся на сняданне...

А ў д о ц ц я. А вы такі сядзьце ды з'ешце па блінцу. Дужэйшыя будзеце з хмызняком змагацца.

К а ц я. Дзякуем, цётачка. Мы дома паснедалі.

П а ў л і н а. Вы, дзяўчаткі, як сабе хочаце. Вам-то яно і не варта шмат есці — фігуру сапсуяце. А я такі з'ем гарачы.

А ў д о ц ц я *(кладзе на талерку гарачы блін і падае Паўліне)*. Пасілкуйся крыху.

П а ў л і н а *(бярэ блін)*. Дзякую, матачка. Я сваіх сёння не пякла.

Н а с ц я *(жартаўліва)*. На чужыя спадзявалася?

П а ў л і н а. Не аб'ем вас, бедненькіх. Пшанічкі ж пудоў дваццаць, здаецца, атрымалі.

А ў д о ц ц я. А можа б, з'елі, дзяўчаткі, і вы? За фігуру я ўжо буду адказваць, калі што якое. Ліда, няўжо і ты саромеешся?

Л і д а. Не саромеюся, але дапраўды ж не хачу, цётачка. Мы ж не на пагулянку ідзём, дык запраўляліся як мае быць.

А ў д о ц ц я. Не хочаце — як хочаце.

За акном чуваць песня. Гэта х л о п ц ы, ідучы на работу, пяюць частушкі, прысвечаныя дзяўчатам.

У Настулі поўна хата:
Дзеўкам гулі, дзеўкам свята,
А хмызняк сабе расце,
А брыгадка у хвасце.

Д з я ў ч а т ы кідаюцца да акна. Адказваюць хлопцам частушкай.

Ах, які там абібок
Словы кідае ў наш бок?
Сам ваюе з хмызняком
Толькі доўгім языком.

А ў д о ц ц я. Я ўжо Насці казала: можа, не канечне вам сёння ісці на работу. Такі ж нядзелька. Бог, і той, як вас некалі вучылі, шэсць дзён працаваў, а на сёмы ўсё-такі мусіў адпачыць.

Л і д а. Яму не было з кім спаборнічаць, а нас вунь Марцінава брыгада абганяе.

П а ў л і н а *(канчаючы есці блін)*. Сёння, дзяўчаткі, нам трэба паднаціснуць, каб работу зрабіць ды яшчэ і пагуляць. Вечарам кіно, хлопцы зарачанскія прыйдуць, так што трымай фасон. Я ўдава і то думаю не падкачаць. *(Ставіць талерку на лаву.)* Дзякую, матачка. Цяпер хоць дубы варочаць.

Ліда ўключае рэпрадуктар. Чуецца песня на словы Янкі Купалы «Вечарынка ў калгасе...». Каця і Ліда падпяваюць.

Н а с ц я *(устае з сякерай у руках)*. Ну, дзевачкі, канчайце песні.

П а ў л і н а. Канчайце, дзяўчаты, на гэта вечар будзе. Каця, выключай!

Каця хоча даслухаць песню. Паўліна падыходзіць і выключае рэпрадуктар. Глянула ў акно.

П а ў л і н а. Авой-вой-вой! Што ж гэта за важныя госці завіталі ў наш калгас!

К а ц я. Дзе?

Паўліна. Ды вунь ідуць па вуліцы з нашым старшынёй.

Аўдоцця. Можа, з раёна хто?

Ліда *(глядзіць у акно)*. Не, у раёне такіх, здаецца, няма.

Паўліна. А хлопец які фартовы! У паліто, у капелюшы. Налятай, каму замуж пара, а я пачакаю.

Каця. Фартовы, ды ў наш бок глядзець не хоча.

Насця. Можа, які карэспандэнт... *(Падышоўшы да акна, глянула і крыху сумелася.)* А, гэты...

Усе паварочваюцца да яе і падазрона глядзяць у твар.

Паўліна. Ты хіба яго ведаеш?

Насця *(нехаця)*. Крыху ведаю... Гэта брыгадзір з калгаса «Новая ніва». А той, старэйшы, мусіць, іх старшыня.

Каця. Брыгадзір? А я думала, прафесар які.

Ліда. Замалады на прафесара.

Паўліна. Адкуль жа ты яго ведаеш?

Насця. Разам на агратэхнічных курсах былі.

Паўліна *(падазрона)*. Нешта ты, дзяўчына, паружавела. Якія вы там курсы праходзілі — Бог вас ведае.

Насця *(жартаўліва-начальніцкім тонам)*. Загадваю спыніць недарэчную балбатню! Слухай маю каманду. У руж'ё! За мной — шагам марш!

Накіроўваецца да дзвярэй. Ліда і Каця ідуць за ёю.

Паўліна *(глянуўшы ў акно)*. Чакай, чакай! Далібог жа ў двор завярнулі.

Аўдоцця. А дай ты рады.

Выцірае аб фартух рукі, папраўляе хустку. Дзяўчаты топчуцца ля дзвярэй.

Паўліна. Ну, Насця, трымай фасон! Глядзі, каб ты гэтыя курсы скончыла на круглыя пяцёркі.

Ліда *(разгублена глядзіць на сваю рабочую вопратку)*. Фасон — няма чаго сказаць!

Паўліна. А вас, дзевачкі, тут ніхто на выстаўку не выстаўляе. Пайшлі ў катух!

Паўліна з сякерай, за ёй Ліда і Каця, спяшаючыся, ідуць у бакоўку. Насця таксама памкнулася за імі.

Аўдоцця. Ты ж не хавайся. Можа, сапраўды, да цябе інтэрас маюць.

Уваходзяць Туміловіч, Пытляваны, Мікола і застаюць Насцю сярод хаты з сякерай у руках.

Тумілoвіч. Добры дзень.

М і к о л а. Добрай раніцы.

П ы т л я в а н ы. Дзень добры.

А ў д о ц ц я. Дзень добры.

Усе вітаюцца за рукі.

Т у м і л о в і ч *(падыходзіць да Насці)*. Вось як у нас! Няхай паспрабуе падступіцца які-небудзь агрэсар. *(Ківае на Міколу.)*

М і к о л а. А мы з мірнымі намерамі. *(Вітаецца з Насцяй, як з добра знаёмай.)* Як жывём-маемся, Настасся Рыгораўна?

Т у м і л о в і ч. А калі з мірнымі, тады прапаную раззброіцца *(бярэ з рук Насці сякеру)* і сесці за круглы стол.

А ў д о ц ц я. Стол хоць і не круглы, але добрыя людзі за ім яшчэ не былі пакрыўджаны.

Т у м і л о в і ч. Дазвольце нам ужо і распрануцца, Аўдоцця Захараўна, бо нашы госці маюць намер пасядзець ды пагутарыць.

А ў д о ц ц я. А калі ласка — распранайцеся. Мы самі рады пагутарыць з добрымі людзьмі. Насця, вазьмі вопратку!

Насця бярэ бякешу Пытляванага і вешае на вешалку. Туміловіч і Мікола вешаюць сваю вопратку самі. Мікола застаецца ў добрым, акуратна пашытым касцюме. Туміловіч у кіцелі ваеннага крою.

А ў д о ц ц я *(змахвае фартухом пыл з зэдліка, падсоўвае крэслы)*. Сядайце, калі ласка.

Т у м і л о в і ч. Сядзелі на гэтай нядзелі.

Садзіцца першы, за ім — Пытляваны. Мікола падае крэсла Насці, якая стаіць, прыпёршыся плячамі да печы, і сам садзіцца побач з ёю. Яны пачынаюць паціху размаўляць паміж сабой.

П ы т л я в а н ы. Аўдоцця Захараўна, мусіць, не ведае, што мы за людзі. То ўжо ты, Іван Міхайлавіч, адрэкамендуй нас.

Т у м і л о в і ч. Гэта такія людзі, Аўдоцця Захараўна, што з імі трэба трымаць вуха востра. Чулі, можа,— ёсць такі калгас багаты — «Новая ніва»?

А ў д о ц ц я. Чулі, чаму ж не. Добрае далёка чуваць.

Т у м і л о в і ч. Дык вось гэта — старшыня таго калгаса, Макар Піліпавіч Пытляваны. А гэта — яго лепшы брыгадзір. Мікола Верас.

А ў д о ц ц я. І прозвішчы гэтыя нам вядомы.

Т у м і л о в і ч. А ведаеце, чаму гэты калгас багаты?

А ў д о ц ц я. Мусіць, добра робяць, дык і багаты.

Т у м і л о в і ч. Для сябе-то яны добра робяць. Ездзяць па калгасах, выглядаюць, дзе ёсць што самае лепшае, і забіраюць. Вось чаму яны багатыя.

А ў д о ц ц я. То, мусіць, яны варты таго, калі ім даюць. Для добрых людзей і найлепшага не шкада.

Туміловіч. Добра вам так гаварыць, калі вас не абыходзіць. А што мне рабіць, калі яны хочуць забраць у мяне майго агратэхніка — Настассю Рыгораўну Вярбіцкую?

Аўдоцця *(глядзіць на дачку)*. То яна ж і мне нейкай крыху радней прыходзіцца.

Туміловіч. Вось як! Тады мы з вамі саюзнікі. Які ж у нас будзе план?

Аўдоцця. Паспрабуем супраціўляцца.

Мікола. Вось нас і адрэкамендавалі, Макар Паліпавіч! Выходзіць, што мы нейкія грабежнікі: толькі тым і жывём, што ў людзей адбяром. А мы тым часам і сваё сёе-тое маем.

Пытляваны. А калі ўжо бяром у людзей, дык і іх не крыўдзім. Супроць чужога добрага сваё не горшае выстаўляем. А добрае да добрага, дык выйдзе найлепшае.

Туміловіч. А каму яно дастанецца, гэта найлепшае?

Пытляваны. А гэта паводле закону ўжо... Як у людзей, так і ў нас. Звычай ламаць мы не збіраемся.

Насця. Гледзячы які звычай. Мы шмат што зламалі. І звычай, калі ўстарэлы, таксама можна зламаць.

Пытляваны *(падморгвае Міколу)*. Працаўнік аказвае моцнае супраціўленне.

Аўдоцця. У нас пазіцыя моцная — на печ апіраемся.

Туміловіч. І зброі хапае ў качарэжніку.

Пытляваны. Жарты жартамі, Аўдоцця Захараўна, а калі гаварыць насур'ёз, дык мы прыехалі не грабіць вас, а прасіць вашай ласкі, каб вы аддалі нам сваю дачку. Харошая яна ў вас, і праўду ваш старшыня сказаў, што мы на яе вока маем.

Аўдоцця. Харошую ж і аддаваць шкада.

Пытляваны. Што зробіш. Такая ўжо доля матчына: чым лепшая дачка, тым хутчэй яе забіраюць. Гэты мой хлопец быту мне не даў. «Можа, кажу, на май адкладзём?» Дзе там! «Нам з ёю, кажа, і ў сакавіку будзе май». А хлопец — я вам не хвалячы скажу — не благі. Лепшы брыгадзір у маім калгасе. А калгас наш, вы ж самі чулі, не апошні ў вобласці. Да ўзнагароды прадставілі. Хлопец павінен немалы ордэн атрымаць.

Мікола. Ой, дзядзька Макар! Я аж пачырванеў ад сораму. Расхвальваеце вы мяне, як на кірмашы.

Пытляваны. То, можа, табе яшчэ і жаніцца рана, калі ты такі сарамлівы? Трэба ж людзям ведаць, з кім яны справу маюць. А можа, я лайдака якога прывёз. *(Да Аўдоцці.)* Дык што вы нам на гэта скажаце, Аўдоцця Захараўна?

Аўдоцця. Што ж я магу сказаць... Добраму чалавеку я рада, а там ужо іх справа. Аддаць сілаю я не аддам і ўтрымаць не ўтрымаю. Яе доля, яе і воля.

Пытляваны. Дзякуем вам і за тое, што не пярэчыце. А іх мы спытаемся само сабою. *(Глядзіць на Міколу і Насцю.)* Пакуль мы тут сёе ды тое, дык яны, можа, ужо і зладзілі. Малады больш здатны на ўгаворы, чым стары.

Мікола. Па аднаму пытанню ніяк да згоды не прыйдзем.

Пытляваны. Што, ганьбу табе даюць?

Насця. Ганьбы я не даю. Мы з Мікалаем Сымонавічам не першы раз сустракаемся. І ўжо гаварылі пра гэта.

Мікола. І згода ў нас была.

Насця. Была згода, але ж мы тады аб усім не дамаўляліся.

Мікола. Я мяркую, што Настасся Рыгораўна павінна ў наш калгас пераехаць.

Пытляваны. А як жа? Абавязкова.

Насця. Чаму абавязкова?

Пытляваны. А што, вам наш калгас не падабаецца?

Насця. Я вашага калгаса яшчэ не бачыла.

Пытляваны. Мусіць, маму шкадуеце пакідаць? Дык мы і маму забяром.

Тумiловiч. Сват ласы на чужыя прыпасы. Мала таго, што агратэхніка ў мяне забірае, дык яшчэ хоча і лепшую цялятніцу забраць.

Аўдоцця. У дачкі хоць згоды пытаюцца, а мяне дык не пытаючыся забіраюць, ласку робячы. А я яшчэ, можа, і не прыму такой ласкі.

Мікола. Прабачце, Аўдоцця Захараўна. Мы думалі, што вам прыемна будзе жыць разам з Насцяй.

Аўдоцця. Мяне тут людзі паважаюць за маю працу, а на якім я становішчы ў вас буду, гэтага я не ведаю. Можа, я ў вас на апошнім месцы буду.

Пытляваны. Ды вам у нас зусім працаваць не прыйдзецца. Вы ўжо і адпачыць маеце права. Будзеце ўнукаў няньчыць. А цялятніц у нас хопіць.

Аўдоцця. Вось бачыце! У вас ужо і работы для мяне не знаходзіцца.

Пытляваны. Зноў не патрапіў сказаць!

Аўдоцця. Урэшце, тут мая справа дзесятая. Дачку сватайце, не мяне. А я памяркую ўжо, як мне зручней.

Насця. Ад мамы мне, вядома, не хочацца адыходзіць, але справа тут не ў гэтым. Я пытаюся: чаму я абавязкова павінна ісці да яго, а не ён да мяне?

Пытляваны *(здзіўлены такім запытаннем)*. Смешна вы пытаецеся — чаму!

Насця. Ну так — чаму?

Пытляваны. Ды так яно вядзецца спрадвеку.

Насця. Ці мала што было спрадвеку. Спрадвеку сацыялізма не было, а мы яго збудавалі.

Пытляваны. Разумніца мая, дык пры чым жа тут сацыялізм?

Насця. Вельмі пры чым. Спрадвеку жанчына нявольніцай была ў сям'і, а я свабодная савецкая жанчына.

Мікола. Дык вы ж і будзеце свабоднай.

Пытляваны. Мы вас за краты не пасадзім і на паншчыну не пагонім.

Насця. А скакаць пад сваю дудку прымусіце. Гэтага ад вас можна чакаць.

Мікола. Чаму вам так здаецца, Настасся Рыгораўна?

Насця. Настрой у вас вельмі ўжо такі *(падбірае слова)*... мужчынскі.

Пытляваны. Каб у нас бабскі настрой быў, то мы б і ў сваты не паехалі.

Насця. І на спрадвечнае нешта вельмі напіраеце. Можа, вы ва ўсім адсталых поглядаў трымаецеся.

Пытляваны. Няхай сабе мы людзі і адсталыя, абы калгас наш быў перадавы. А што да вашых жаночых правоў, дык ніхто іх у вас не адбірае.

Насця. А я ўсё ж думаю не ісці ў ваш калгас.

Пытляваны са здзіўленнем глядзіць на Міколу. Той паціскае плячамі.

Мікола. Каму-небудзь усё ж такі прыйдзецца ісці: ці вам да мяне, ці мне да вас. А іначай як жа мы пажэнімся?

Насця. Вось вы і пераходзьце.

Туміловіч. Правільна, Насця! Няхай лепш нам у калгас прыбытак будзе.

Пытляваны *(з іроніяй)*. А можа, мы так зробім: адмераем ад кожнага калгаса па пятнаццаць кіламетраў ды збудуем на сярэдзіне вам дом, каб, значыцца, вашага жаночага раўнапраўя не парушаць.

Насця. Вы сабе кпіце, а я вось не пайду да вас, і што вы мне зробіце?

Пытляваны. Дык гэта вы такі сур'ёзна?

Насця. Прынцыпова.

Пытляваны. Век, можна сказаць, пражыў, такой упартай дзяўчыны не сустракаў.

Аўдоцця. Яно і некалі часамі бывала, што хлопец ішоў да дзяўчыны.

Пытляваны. Калі дома яму не было на чым жыць, тады ён ішоў у прымы. Гэта бывала. З бяднейшай гаспадаркі ў багацейшую. А каб з багатай ды ў бедную — гэтага ніколі не бывала.

М і к о л а. Што ж, калі на тое пайшло, дык я гатоў і ў прымы...

П ы т л я в а н ы. Што? Ты ў прымы? Тады ты не паважаеш ні сябе, ні свайго калгаса.

Т у м і л о в і ч. Няўжо гэта такая ганьба — перайсці да нас у калгас?

М і к о л а. Чакайце, я не скончыў. Я гатоў у прымы, але ў лепшую гаспадарку, як кажа Макар Піліпавіч.

П ы т л я в а н ы. Ну, гэта іншая справа. Гэта прынцып правільны: рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе ляпей. Калі ўжо вам абавязкова прынцып патрэбен, дык лепшага не прыдумаеш. *(Да Насці.)* Што вы цяпер скажаце, прынцыповая дзяўчына?

А ў д о ц ц я. Што ж, дачушка, мусіць, з гэтым трэба згадзіцца. Як ты думаеш, Ваня?

Т у м і л о в і ч. Не ведаю, можа, мы тут і прайграем, але прапанова, па-мойму, справядлівая.

Усе глядзяць на Насцю, чакаючы, што яна скажа. Напружанае маўчанне.

Н а с ц я *(хвалюючыся)*. Я... Я згодна.

М і к о л а *(узрадаваны)*. Вось так яно лепш будзе.

П ы т л я в а н ы *(уздыхае з палёгкай)*. Ну, дзякуй Богу, як той казаў, зрушылася з месца.

П а ў л і н а *(высунула галаву з бакоўкі, каб сваты не заўважылі)*. Эх ты!.. Не вытрымала. Толькі для фасону казырылася.

П ы т л я в а н ы. Такі суджана жыць вам у нашым калгасе.

Н а с ц я. Чаму ў вашым?

П ы т л я в а н ы. Вы ж далі згоду.

Н а с ц я. Не ў вашым, а ў лепшым.

П ы т л я в а н ы. Дык гэта ж і ёсць у нашым.

Н а с ц я. Гэта яшчэ невядома.

П ы т л я в а н ы *(да Міколы з іранічнай усмешкай)*. Чуў! Яны яшчэ сумняваюцца.

А ў д о ц ц я. Ну, тут жа спрачацца няма чаго...

П ы т л я в а н ы *(перабіваючы)*. Правільна, усё ясна.

А ў д о ц ц я. Вы паглядзіце наш калгас, а мы ваш, і будзе ясна.

П ы т л я в а н ы. А я лічу, Аўдоцця Захараўна, што гэтыя розгляды зусім лішнія. Мы гэту справу можам вырашыць тут жа, не сыходзячы з месца. Выкладвайце вы свае казыры на стол, а мы свае. Чые паб'юць, таго і верх.

Т у м і л о в і ч. Пачынайце, ваш ход.

П ы т л я в а н ы. Як, Мікола,— з туза лупянём?

М і к о л а. Не праказырайцеся, Макар Піліпавіч.

Пытляваны *(не дапускаючы такой думкі)*. Ну! *(Стукае далонню па стале.)* Чатыры кілаграмы збожжа на працадзень і восем рублёў грашыма!

З выглядам пераможцы абводзіць усіх вачамі. У лагеры праціўніка некатарае замяшанне.

Тумiловiч *(пасля паўзы)*. У нас менш... Тры кілаграмы і чатыры рублі.

Пытляваны. Вось то-та ж! Ходзім далей. *(Стукае па стале.)* Дваццаць цэнтнераў азімых з гектара ўкругавую!

Тумiловiч. Мала не дацягнулі: васемнаццаць і дзве дзесятыя.

Пытляваны. То, можа, больш і хадзіць не варта?

Тумiловiч. Не, мы яшчэ не здаліся.

Пытляваны. Не здаліся? Дык мы вас зараз даканаем. *(Стукае па стале з асаблівым азартам.)* Герой Сацыялістычнай Працы!

Насця. Гэта хто ж такі?

Пытляваны. Вось гэты малады чалавек, ваш жаніх.

Насця дапытліва, з цікавасцю глядзіць на Міколу.

Тумiловiч. Калі прысвоілі званне?

Пытляваны. Прысвояць. Спісы ў раёне ўжо зацверджаны.

Тумiловiч. Гэта яшчэ мала. У нас вось Насця таксама да ордэна прадстаўлена, але мы не хвалімся. Вазьміце ход назад.

Пытляваны. Гэта вам не козыр? Тады хадзіце вы.

Тумiловiч. Сто дваццаць новых дамоў на папялішчы — гэта козыр?

Пытляваны. Сякі-такі козыр.

Тумiловiч. Канюшня, два кароўнікі, свінарнік, птушнік.

Пытляваны. У нас жывёла таксама на двары не стаіць, так што гэта козыр слабы.

Тумiловiч. Школа, медпункт, клуб...

Пытляваны. Клуб — гэта нам без патрэбы. Горад пад бокам. Захацеў у кіно ці ў тэатр — на машыну, і праз паўгадзіны там.

Не сцярпеўшы, з бакоўкі з сякерай у руках імкліва выходзіць Паўліна. За ёю — Ліда і Каця. Сваты аж сумеліся ад нечаканасці.

Паўліна *(да Тумiловiча)*. Дазволь мне, старшыня! Не ўсе казыры выстаўляеш. *(Да Пытляванага.)* А гэта ў вас ёсць? *(Уключае электрычную лямпачку.)*

Пытляваны. Ого! Тут цэлая засада на нас.

Ліда. А гэта ёсць?

Уключае рэпрадуктар. Чуецца песня «І хто яго знае, чаго ён маргае»...

Пытляваны *(з прыкрасцю)*. Кінь балавацца! *(Вырывае з разеткі штэпсельную вілку.)* Дай пагаварыць з людзьмі.

Тумiловiч. І яшчэ ў нас адзін сур'ёзны козыр ёсць, Макар Піліпавіч.

Пытляваны. Які ж гэта, цікава?

Тумiловiч. Гэта наш трохгадовы план.

Пытляваны. Ого! Проста не калгас, а дзяржава.

Насця. Дзяржава не дзяржава, а сацыялістычная гаспадарка. А яна, як вам вядома, планавая.

Пытляваны *(іранічна)*. Вось як! Што ж у вас там за планы такія?

Тумiловiч. Такія планы, што калі праз тры гады прыедзеце да нас па другую дзяўчыну...

Каця. Па Ліду ўжо, мусіць...

Ліда *(засаромеўшыся)*. Па цябе, можа.

Паўліна. Па мяне. І я падрасту ўжо да таго часу.

Тумiловiч. Прыедзеце, дык не пазнаеце нас.

Каця. Падумаеце, што заблудзілі ды ў горад трапілі.

Тумiловiч. Будынкі будуць у нас цагляныя. Праўленне, свірны, школа. Сёлета цагляны завод канчаем. Клуб гэты таксама да часу ў нас. Новы пабудуем. З добрай сцэнай, каб і гарадскі тэатр мог да нас прыехаць.

Пытляваны. А хлеб ці будзе?

Тумiловiч. Ёсць і будзе.

Ліда. Вы пра сад забыліся, Іван Міхайлавіч.

Тумiловiч. І сад. Дваццаць гектараў засадзім. Пчолкі — само сабою.

Пытляваны. Прыгожы план. Хто ж гэта яго выдумаў?

Тумiловiч. Калектыўна склалі. Настасся Рыгораўна дапамагла праўленню. А потым на агульным сходзе абмеркавалі, дапоўнілі.

Пытляваны. Та-ак. Прыгожая паперка, што і казаць.

Тумiловiч. Чаму — паперка?

Пытляваны. А план — што ж гэта такое? Пакуль што паперка. Гэта яшчэ — альбо дождж, альбо снег, альбо будзе, альбо і не.

Тумiловiч. Мы ўжо яго ў жыццё пачалі праводзіць.

Пытляваны. Вы нешта такое яшчэ толькі пачалі, а ў нас яно ўжо ў руках. Возьмеш у рукі чатыры кілаграмы ды наверх восем рублёў, дык гэта ж вагу мае. *(Нібы ўзважвае на руках.)* Не тое, што ваш план.

Паўліна. Чулі мы ўжо гэтыя чатыры кілаграмы. Больш, мусіць, і пахваліцца няма чым. Што ў вас яшчэ добрае ёсць, апрача чатырох кілаграмаў?

Пытляваны *(раззлаваны, што яго прыпіраюць да сцяны)*. Усё ў нас ёсць, маладзіца.

Паўліна. Так ужо і ўсё? Ну і хвалько сват!

Пытляваны. Усё як мае быць. Вось толькі пудзіла няма добрага ў гарод паставіць.

Усім крыху няёмка, што размова пачынае пераходзіць у сварку.

Насця. Дык вы за гэтай патрэбай і прыехалі да нас?

Мікола. Што вы, Настасся Рыгораўна! Барані вас Божа прыняць гэта на свой кошт.

Паўліна. Гэта сват у мяне цаляе, гледзячы на маю вопратку. Не, сваток, нас такім козырам не заб'еш. Мы крыху дужэйшыя, чым ты думаеш.

Мікола. Макар Пілiпавіч пагарачыўся, просім не крыўдзіцца.

Пытляваны *(апраўдваючыся)*. Ды як жа! Тут сур'ёзная размова, а яны мяне электрычнасцю торкаюць, цацкамі здзівіць хочуць.

Насця. Гэта не цацкі, а культурнае калгаснае жыццё.

Тумiловiч. Гэта цацка нам работу робіць.

Пытляваны. Электрычнасць — гэта не факт. Працадзень — вось факт. Калі чалавек атрымаў *(паказвае на Міколу)* сто дваццаць пудоў збожжа, ды на кніжцы ляжыць тысяч дзесяць, дык тут адразу відаць, які калгас і які калгаснік. Так што сумнявацца пра наш калгас няма чаго. Вы, мусіць, газет не чытаеце. *(Вымае з кішэні газетную выразку.)* Вось жа чорным па белым напісана: «Выдатныя дасягненні перадавога калгаса «Новая ніва».

Насця. Чыталі.

Пытляваны. Дык чаго ж вам яшчэ?

Насця. Хочам самі пераканацца.

Пытляваны. Ну што ж, пераконвайцеся, ваша справа. *(Устае ганарлівы і пакрыўджаны.)*

Тумiловiч. І я прыеду, калі дазволіш, Макар Піліпавіч. Хачу павучыцца ў перадавога калгаса.

Пытляваны *(апранаецца)*. А такі не пашкодзіла б. *(Не то жартуючы, не то сур'ёзна.)* А то не ўмеюць сабе хлеба нарабіць, а яшчэ задаюцца. Паехалі, Мікола!

Паўліна. І я прыеду. Пагляджу хоць на той гарод, у якім мне стаяць давядзецца. Ці ёсць там што пільнаваць.

Пытляваны. Бывайце здаровы! Прабачце, калі што не так.

Выходзіць. За ім з усмешкай, якая азначае — «Вось дзівак!», выходзіць Тумiловiч.

Мікола *(апранаецца).* Гарачы ён у нас — бяда! Асабліва калі пра калгас хто не так скажа.

Паўліна. Бзікаваты стары.

Аўдоцця. З гонарам чалавек.

Мікола. Прашу не крыўдзіцца. Старому можна і даравацъ. *(Падыходзіць да Насці.)* Дык калі вас чакаць, Настасся Рыгораўна?

Насця. Чакаць не трэба. Мы як-небудзь знянацку.

Мікола. Можна і знянацку. Толькі каб хутчэй гэта было. Да сяўбы б і вяселле адгулялі. *(Адыходзіць з Насцяй на авансцэну.)* Што сталася, Насця? Якая цябе муха ўкусіла?

Насця. Тая, што вы з сабою прывезлі.

Мікола. Я чакаў, што ты ласкавей мяне сустрэнеш.

Насця. Ты чакаў, што я адразу на шыю табе кінуся. А як жа — герой прыехаў!

Мікола. Ну, а калі і герой, дык чаго табе крыўдна?

Насця. Занадта ўжо вы ўпэўнены ў сваёй перамозе. А ў мяне таксама крышку гонару ёсць. Ты не думаў, што, можа, мне крыўдна ад гэтага? І за сябе і за свой калгас.

Мікола. Не было ў мяне намеру крыўдзіць цябе. Не ведаю, чаму табе так здалося.

Насця. Калі хочаш ведаць, дык мяне і касцюм гэты твой крыўдзіць. І тут як быццам твой нейкі верх.

Мікола. Я ж не вінават, што застаў цябе ў рабочай вопратцы. Не ў латаным жа мне было ў сваты ехаць. Ды глупства ўсё гэта. Мне здаецца, што ты проста шукаеш нейкай прычыны. Можа, каешся ўжо, што слова дала?

Насця. Слова назад я не бяру, але хачу больш прыглядзецца да цябе. І на калгас хачу глянуць. Можа, у вас такія парадкі, што мне там моташна будзе.

Мікола. Што ж, прыязджай, паглядзі. Толькі дарэмна ты, Насця, лішнія перашкоды выдумляеш. Калі я незнарок чым-небудзь пакрыўдзіў цябе, прабач. *(Падыходзіць да Аўдоцці.)* Прабачце, Аўдоцця Захараўна. Можа, мы чаго лішняга тут нагаварылі.

Аўдоцця. Здаецца, нічога лішняга не было.

Мікола. Можа, і вы да нас прыедзеце?

Аўдоцця. Няхай ужо яна сама. Я толькі магу справу сапсаваць, бо мне здаецца, што такога хараства, як у нас, нідзе няма. Рэчка, лес...

Мікола. У нас таксама хараша. Ну, прабачце яшчэ раз. Бывайце здаровы. *(Цалуе руку.)* Бывайце здаровы, дзяўчаткі!

Развітваецца. Насця праводзіць яго да дзвярэй. У дзвярах ён паціху гаворыць ёй нешта ласкавае. Яна з цёплай усмешкай ківае яму галавой. Мікола выходзіць.

Паўліна. Ну, Насця, вось што я табе скажу... Муштраваць-то ты муштруй, а хлопца не ўтрачвай. Хлопец харошы.

Аўдоцця. Мне ён таксама спадабаўся.

Насця. Вось навіну мне сказалі! Я даўно ведаю, што ён харошы. Але ж і сябе трэба трошкі паважаць. Няхай адразу адчуе, што я пад яго дудку скакаць не збіраюся. *(Задумалася. З лёгкім смуткам.)* І калгас мне не хочацца пакідаць. Толькі размахнуліся як мае быць... І планы нашы... Колькі я пра гэта марыла!.. А тут трэба ўсё гэта пакідаць... Проста аж злосць!

Паўліна. Дзяўчыне злосць, што замуж трэба ісці.

Аўдоцця. Глядзі, дачушка, разглядайся, каб пасля не каялася. Я цябе прымушаць не хачу. Як твая душа і розум табе кажуць, так і рабі.

Насця *(страпянуўшыся)*. Ну, добра! Яшчэ паглядзім ды падумаем. Пайшлі, дзяўчаткі! Замуж збірайся, а жыта сей. *(Бярэ сякеру.)*

Паўліна і дзяўчаты выходзяць.

Заслона

## АКТ ДРУГІ

### Карціна другая

Канцылярыя праўлення калгаса «Новая ніва». Бухгалтар Здаравеня і рахункавод Бандарчык за працай: Здаравеня дыктуе з ведамасці лічбы, Бандарчык адкладвае на лічыльніках.

Здаравеня. Дзве тысячы чатырыста трыццаць два... Тысяча шэсцьсот сорак... Дзве тысячы сто шэсцьдзесят восем... Дзве тысячы дзвесце дваццаць чатыры... Чатырыста пяцьдзесят шэсць.

Бандарчык. У каго ж гэта так мала?

Здаравеня. У Тадоры Белакапыцкай. Хварэе ўсё.

Бандарчык. Хвароба — мігрэнь: жраць ахвота, а працаваць лень.

Здаравеня. Ты, Бандарчык, мог бы добрым доктарам быць. Вельмі ж правільна дыягназ ставіш.

Бандарчык. Мне гэта не цяжка: яна паўз нашы вокны ледзь не штодзень у горад на рынак ходзіць.

Здаравеня *(дыктуе)*. Дзве тысячы восемсот сорак... Тысяча семсот пяцьдзесят два... Колькі там усяго?

Бандарчык. Чатырыста дзевяноста дзевяць тысяч ноль дваццаць чатыры рублі.

Здаравеня *(звярае з ведамасцю)*. Правільна. Паўмільёна без аднае тысячы нашы калгаснікі палажылі сабе ў кішэнь. А гэтыя прыезджыя не верылі.

Бандарчык. Чаго яны прыехалі аж з «Светлага шляху»?

Здаравеня. Кажуць — вопыт пераймаць.

Бандарчык. Слава пра наш калгас грыміць на ўсю вобласць.

Здаравеня. Грыміць, брат, грыміць... Толькі з вялікага грому часамі малы дождж бывае.

Бандарчык. Чатыры кілаграмы — гэта не мала.

Здаравеня. Хіба справа ў адных кілаграмах? Ты чуў, што я на сходзе гаварыў?

Бандарчык. Чуў, Антон Лявонавіч, але ж з вамі не згадзіліся.

Здаравеня. Хто назад глядзіць, а не наперад, той не згадзіўся.

Бандарчык. Чаго ім больш глядзець наперад, калі некаторыя па сто пудоў і больш атрымалі?

Здаравеня. Ну і што з таго? Пад'еў, а далей што?

Бандарчык. Пад'еў, паспаў і зноў на тым месцы стаў.

Здаравеня. Яно так і выходзіць. Вось прыехалі людзі вучыцца, а мне сорамна.

Бандарчык. А ў газетах жа хваляць.

Здаравеня. Хваляць... Падсунулі карэспандэнту чатыры кілаграмы ды восем рублёў, дык у яго і вочы на лоб палезлі. А што да чаго — хіба ён разабраўся? Вось тут яно ўсё відаць, як на далоні. *(Паказвае на паперы.)*

Бандарчык. Таму яны адразу і пачалі порыцца ў паперах.

Уваходзіць Паўліна. Яна ў іншай вопратцы, чым была ў першай карціне, і яе не адразу можна пазнаць.

Паўліна. Дзень добры.

Здаравеня. Дзень добры.

Паўліна. Таварыша Пытляванага няма?

Здаравеня. Няма.

Бандарчык. Пытляваны ўвесь выйшаў, адзін чорны застаўся.

Здаравеня. А вам абавязкова старшыня патрэбен?

Паўліна. Гэта я хацела кароўку прывесці.

Здаравеня. Вы з горада?

Паўліна. Ага.

Здаравеня. Заўтра з ранку можаце прывесці.

Паўліна. Але ж, кажуць, вы дорага бераце.

Здравеня. Сто пяцьдзесят рублёў.

Паўліна *(жахнулася)*. Сто пяцьдзесят!

Здравеня. Такая ў нас расцэнка.

Бандарчык. Затое ўжо кароўка ваша...

Здравеня *(грозна)*. Таварыш Бандарчык!

Бандарчык прыкрывае рот рукою.

Паўліна. Можа б, уступілі крыху?

Здравеня. Не маю права, такая пастанова праўлення.

Паўліна. З рабочага чалавека так драць.

Здравеня. Хутка прыйдзе старшыня, пагаварыце з ім,— можа, уступіць. Толькі наўрад. Ён у нас гаспадарлівы.

Паўліна. Скнара, відаць. І гэта вы з усіх так лупіце?

Здравеня. З усіх. Увесь горад да нас водзіць.

Паўліна. Я бо гляджу, чаму ваш калгас багаты.

Уваходзіць Пытляваны і, не звяртаючы ўвагі на Паўліну, накіроўваецца да стала.

Пытляваны. Ну, што ў вас тут, таварыш Здравеня?

Здравеня. Нічога асаблівага, Макар Піліпавіч.

Пытляваны. Мікола паехаў на падкормку?

Здравеня. Паехаў. А больш угнаення не адпускаюць. Машына прыйшла парожняя.

Пытляваны. Чаму?

Здравеня. Грошай не перавялі.

Пытляваны. Чаму ж вы не перавялі?

Здравеня. Няма чаго пераводзіць, на рахунку нічога няма.

Пытляваны. Як няма?

Здравеня. Няма. Усё на працадні раздалі.

Пытляваны *(падумаўшы)*. Трэба будзе капец бульбы раскрыць ды на рынак вывезці.

Стары Верас *(які ўвайшоў за хвіліну перад гэтым)*. На насенне не хопіць, Макар Піліпавіч. Там яе не так і многа.

Пытляваны. Хопіць. А не хопіць, дастанем. Ты глядзі, каб коні былі ў парадку.

Стары Верас. Коні ў парадку. Вось толькі Афраці... Цьфу ты! Вось імя далі жывёліне! Ніяк выгаварыць не магу.

Бандарчык. Афрадзіта. Гэта я прыдумаў. Багіня такая была.

Стары Верас. Вось багіню гэту самую... зноў брыгадзір пад гной узяў, а ёй зараз жарабіцца пара. Загадай, каб не чапалі.

Пытляваны. Загадваю: калі хто захоча запрагаць, гані вон з канюшні.

Стары Верас. Ты брыгадзіру скажы.

Пытляваны. Добра, скажу.

Здаравеня. Макар Піліпавіч, да нас госці прыехалі. Вы, мусіць, не ведаеце?

Пытляваны. Каму гэта час ёсць па гасцях ездзіць у такую пару?

Здаравеня. З калгаса «Светлы шлях».

Пытляваны. А-а, гэтыя... Хто там прыехаў?

Здаравеня. Кажуць, іх трое прыехала, але сюды заходзілі двое... Старшыня і дзяўчына маладая — не ведаю, хто яна ў іх.

Стары Верас. Праўда, трое. Я сам-то не бачыў, але казалі, што трое. Адна недзе да сваякоў зайшла.

Пытляваны. Што яны тут рабілі?

Здаравеня. Знаёміліся са справамі.

Бандарчык. Усё перабралі, усё роўна як рэвізія якая.

Пытляваны. А чаго ж вы іх пусцілі ў паперы?

Здаравеня. Кажуць — прыехалі вопыт пераймаць, як жа іх не пусціць?

Пытляваны. Я ведаю, чаго яны прыехалі. Не абавязкова ім у справы лезці. Кожны дурань будзе тут капацца ў маіх паперах.

Паўліна пры гэтых словах аж падскочыла на лаўцы. Яна хацела нешта сказаць, але ў пару стрымалася.

Здаравеня *(успомніўшы аб ёй)*. Вось тут грамадзянка прыйшла наконт быка.

Пытляваны *(непрыемна ўражаны весткаю аб гасцях, амаль не слухае, што яму гаворыць Здаравеня)*. Наконт якога быка?

Паўліна. Звычайнага, якія бываюць быкі.

Пытляваны *(амаль не гледзячы на яе)*. У нас звычайнага няма, у нас толькі пародзістыя. Звычайныя гэта ў іншых калгасах.

Паўліна. Пародзісты яшчэ лепш. Толькі ж дарага вельмі — сто пяцьдзесят рублёў.

Пытляваны. Колькі варт, столькі і бяром.

Паўліна. Гэта ж мне паўмесяца працаваць трэба.

Пытляваны. За малако ўтаргуеш і заплаціш.

Паўліна. Не так лёгка ўтаргаваць. Малако цяпер два рублі літр. Гэта семдзесят пяць літраў малака трэба.

Пытляваны. А без быка не будзе і малака.

Паўліна. Прафесар, і той столькі не зарабляе, колькі ваш бык.

Пытляваны. Вашаму прафесару яечка разбіў на снеданне, дык ён і дабёр, а быку трэба паўпуда аўса даць, ды канюшыны, ды пойла.

Стары Верас. Яна думае — бык святым духам жыве.

Паўліна. Не, не магу я столькі плаціць.

Пытляваны. Не, дык не. Няхай карова ялаўкаю ходзіць.

Паўліна выходзіць.

Стары Верас. Яно такі і праўда, дарагавата, Макар Пілі-павіч. Мы ж гэту таксу ўстанавілі яшчэ ў сорак пятым годзе. З таго часу колькі разоў зніжэнне цэн было, а нашы быкі ўсё ў адной цане ходзяць.

Пытляваны. Прывядзе, не дзе дзенецца. У горадзе быкоў не трымаюць. *(Да Здаравені.)* Дык дзе яны цяпер?

Здаравеня. Хто?

Пытляваны. Госці гэтыя самыя.

Здаравеня. Пайшлі гаспадарку аглядаць.

Пытляваны. Самі?

Здаравеня. З загадчыкам фермы.

Пытляваны. Ну, гэты пакажа... тое, што не трэба. Чаму ж вы мяне не паклікалі?

Бандарчык. Я бегаў, вас дома не было.

Здаравеня. Што ж тут дрэннага, Макар Піліпавіч? Людзі хочуць добрае пераняць — няхай пераймаюць. Не першы ж раз да нас людзі прыязджаюць.

Пытляваны. Прыязджалі, ды не такія. Гэтыя ўбачаць тое, што другім і не відаць. Паказваць, дык трэба ведаць, што і як... Часамі і растлумачыць трэба.

Здаравеня. Яны людзі вопытныя, самі ва ўсім разбяруцца.

Пытляваны. Дзіва што разбяруцца! Аж занадта... Трэба самому ісці.

Накіроўваецца да дзвярэй. У гэты час уваходзяць Туміловіч, Насця і Паўліна.

Туміловіч. Добры дзень, Макар Піліпавіч. А мы ўжо ўсю тваю гаспадарку агледзелі. *(Вітаецца з Пытляваным за руку, за ім Насця.)*

Пытляваны. Добры дзень. На рэвізію прыехалі?

Туміловіч. А так, як было ўмоўлена: прыехалі пераканацца, што ваш калгас лепшы.

Пытляваны. Ну і што ж?

Паўліна *(падыходзіць да Пытляванага і таксама працягвае руку)*. Добры дзень!

Пытляваны *(не падаючы рукі.)* А як жа... Даўно бачыліся.

Паўліна. Не ласкава ж вы сватоў прымаеце.

Пытляваны. Чакай, маладзіца... *(Углядаецца.)* Гэта ж ты мне тут галаву дурыла з быком?

Паўліна. А гэта я хацела праверыць, ці праўда, што пра вашы даходы людзі гавораць.

Пытляваны. Вось з якімі хітрыкамі вы да мяне пад'язджаеце!

Туміловіч. Гэта яна па старой партызанскай прывычцы — у разведку хадзіла.

Пытляваны. Па твайму загаду?

Туміловіч. Не, па сваёй ініцыятыве.

Пытляваны. А цяпер пачнецца атака?

Туміловіч. Падобна на гэта.

Пытляваны. Што ж, пачынайце, будзем адбівацца.

Туміловіч. У нас такая думка, што вас крыху перахвалілі, Макар Піліпавіч.

Паўліна. Не крыху, а такі і добра перахвалілі.

Пытляваны. Вось як! Перахвалілі, значыцца? Хто ж гэта мяне перахваліў?

Туміловіч. І тое, што ты гаварыў, як прыязджаў да нас...

Пытляваны. Усё брахня?

Туміловіч. Ды як табе сказаць... Яно-то, можа, і праўда...

Насця. Але не ўся.

Туміловіч. Так, далёка не ўся.

Пытляваны. Выкладайце тады ўсю.

Туміловіч. Працадзень у вас не малы — гэта праўда.

Пытляваны *(падказвае)*. Калгаснікі жывуць заможна — гэта таксама праўда.

Туміловіч. А вось калгас ваш бедны.

Здаравеня падморгвае Бандарчыку: «Слухай!»

Пытляваны. Вось табе і на! Як жа гэта так выходзіць: калгаснікі багатыя, а калгас бедны!

Туміловіч. Так і выходзіць. Ва ўсякім разе бяднейшы за наш.

Насця. Мы тут з Іванам Міхайлавічам падлічвалі. Выходзіць, што наша грамадская гаспадарка перавышае вашу.

Туміловіч. Так што працадзень вы ўзнялі, а грамадскую гаспадарку занядбалі.

Насця. Гэтак і ў нас бы выйшла каля чатырох кілаграмаў. Мы вунь колькі хлеба на будоўлю аддалі.

Туміловіч. Ды ў МТС шэсцьдзесят сем тон, а вы ўсяго трыццаць.

Пытляваны. Я дабром не раскідаюся. Вы хочаце, каб МТС за вас усю работу парабіла, а я стараюся сваёю сілаю ўпраўляцца.

Туміловіч. Фермы мы глядзелі... Яны-то ўкамплектаваны, але ж гэта ўсё цяляткі ды парасяткі. Ім яшчэ расці ды расці.

Пытляваны. Вырастуць. Мы шмат жывёлы прадалі летась.

Паўліна. Я бо гляджу, што свінаферму можна ў прыпол забраць.

Пытляваны. Шырокі ў цябе прыпол, маладзіца.

Тумiловiч. Цялят закупілі па кантрактацыі, а ставіць іх няма дзе. Так яны і засталіся зімаваць у хлявах калгаснікаў. Выгляд іх няважны.

Насця. Вядома, якая ж ім выгода ў халодным хляве.

Паўліна. Затое ў іх бык — мільянер.

Пытляваны. Прыстала ты да гэтага быка, як п'яны да плота.

Тумiловiч. Быкі важныя, нічога не скажаш. Бярэш ты за іх, Макар Піліпавіч, поўнай жменяй. Але ж і грошы ўсе па кішэнях размеркавалі.

Пытляваны. А што? Маем права. З дзяржавай разлічыліся поўнасцю і ў тэрмін. Цяпер сваім дабром распараджаемся, як самі знаем.

Тумiловiч. Бухгалтар вунь скардзіцца, што няма за што ўгнаенне выкупіць.

Пытляваны. Давай, давай, крытыкуй. Я ўжо разам на ўсё адкажу.

Насця. І жывяце некультурна. Клуба няма, радыё няма, электрычнасці — таксама.

Пытляваны. Дарагія гэта ўсё цацкі.

Паўліна. Расказваюць — некалі засцянковая шляхта так жыла: насыпле шляхціц жыта засек, напхае панчоху грошай, а дзеці непісьменныя, і сам мякіну есць.

Пытляваны. Ты ж майго хлеба не каштавала, можа, ён і не з мякінай.

Паўліна. Не вельмі тут і пакаштуеш.

Пытляваны. Ну, вы ўсё выклалі?

Тумiловiч. Ды, бадай што, і ўсё.

Пытляваны. Выходзіць, мой калгас вам не падабаецца?

Тумiловiч. Ты ж чуў нашу крытыку.

Пытляваны. Ваш лепшы?

Паўліна. Ёсць пра што гаварыць!

Насця. Я-то не прамяняю свайго на ваш.

Пытляваны. Ну, што ж, не мяняеце — і не трэба. Застанёмся пры сваіх. Лепш давайце пойдзем да мяне ды пакаштуем мае мякіны. А гэту дарэмную гаворку давайце скончым. Кожнаму свой лепшы.

Насця. Як гэта скончым! Я не згодна, Макар Піліпавіч. Не для таго мы гэту гаворку пачыналі, каб вось так нічым скон-

чыць. Для мяне — гэта размова аб маім лёсе, аб тым, ці буду я жыць з любімым чалавекам. Ды і не толькі мяне кранае гэта размова. Яна адносіцца да ўсіх нас. Яна і да вас адносіцца, Макар Піліпавіч. Чалавеку патрэбны крыллі, каб ён мог узлятаць вышэй і вышэй. А вы са сваімі поглядамі і парадкамі абцінаеце яму гэтыя крыллі. План — гэта для вас паперка, клуб — цацка. Чалавек імкнецца да святла, а вы кажаце — сала еш. Вось прыехала я да вас і нібы ў глухую сцяну ўперлася. Няма тут прастору для мае мары. А без гэтага хіба можна быць шчаслівым?

Тумілові ч. Я таксама не збіраюся канчаць гэту гаворку.

Пытляваны. А чаго ж ты яшчэ хочаш? Жаніха? Забірай. Толькі шчыра вам скажу: дурань будзе, калі пойдзе. Ад дабра дабра не шукаюць.

Тумілові ч. Жаніх мяне мала турбуе. Гэта іх мілая справа — дзе хочуць, там і жывуць. А спрэчку гэту мне з табой, Макар Піліпавіч *(з націскам)*, абавязкова трэба давесці да канца.

Пытляваны. Абавязкова, кажаш? А нашто гэта табе патрэбна?

Тумілові ч. Вельмі патрэбна. Я павінен ведаць, хто з нас на правільнай дарозе і каму ў каго вучыцца трэба.

Пытляваны. Мы з табой усё роўна ні да чаго не дагаворымся. Ты мне будзеш казаць — грамадская гаспадарка, а я — працадзень, ты мне клуб будзеш выстаўляць, а я табе калгасніка, які атрымаў сто пудоў хлеба. Па-мойму, чалавеку трэба даць спачатку пад'есці ды апрануцца, а тады і пра клуб можна падумаць.

Тумілові ч. Вядома, клуб трэба будаваць на базе моцнай грамадскай гаспадаркі. Але ж ты гаворыш, што гаспадарка ў цябе моцная.

Пытляваны. Моцная, бо я не раскідаюся. Аддай хлеб на будаўніцтва клуба, а потым і сядзі галодны ў гэтым клубе.

Стары Верас. Ды вось у іх клуб, а не відаць па іх, каб яны галодныя былі.

Паўліна. Гэта я галодная. Высахла — скура ды косці.

Тумілові ч. Тры кілаграмы — гэта не голад, Макар Піліпавіч.

Стары Верас. А клуб яно сапраўды не шкодзіла б мець. Я стары, а таксама люблю і радыё паслухаць і газету пачытаць. Шмат цікавых навін на свеце.

Пытляваны. Ты, Сымон Максімавіч, таксама за сваю нявестку цягнеш.

Стары Верас. А гэта мая нявестка?

Пытляваны. Ага. Гэта ж да яе твой сын у сваты ездзіў.

Стары Верас. Дык вельмі ж баявая нешта.

Пытляваны. Пачакай, яна цябе возьме за бараду.

Стары Верас *(падыходзіць да Насці)*. Здарова была, нявестка! *(Падае руку.)*

Насця *(паціскае руку)*. Добры дзень, Сымон Максімавіч.

Стары Верас. Дык з клубам, кажаш, весялей на свеце жыць?

Пытляваны. Па-іхняму, хоць есці нечага, але жыць весела.

Паўліна. Усё толькі есці ды есці. Гэта жывёла пад'ела, дык нічога ёй больш і не трэба. І то цяперашняя жывёла любіць, каб у яе хляве і акно было, каб і электрычнасць гарэла ноччу. А чалавеку ж крыху больш святла патрэбна, чым карове.

Пытляваны. Гэта ўсё ў мой агарод? Ну і ўз'елася ты на мяне, маладзіца. Усё за тое пудзіла не можаш мне дараваць.

Паўліна. Я вось прыглядаюся, хто з нас больш падыходзіць да гэтай пасады.

Пытляваны. А мяне куды ні пастаў, дык я ўсюды харош. У гарод паставіш — і там парадак будзе: ні адна варона ў мяне не пажывіцца.

Тумілові ч. Як я бачу, Макар Піліпавіч, дык ты ўжо і гаварыць сур'ёзна з намі не хочаш.

Пытляваны. А што толку з гэтага? Упромся, як два казлы, лоб у лоб і будзем стаяць кожны на сваім.

Насця. Тады няхай народ вырашыць нашу спрэчку. Склічце сход, мы скажам сваю думку пра ваш калгас, а вы пра наш.

Пытляваны. Маладая, а якая хітрая! Сабраць сход, каб вы падбухторвалі маіх калгаснікаў супроць мяне. Давайце ўжо лепш я сам буду гаварыць са сваімі калгаснікамі.

Тумілові ч. Што ж, раз мы не прыйшлі да згоды самі, дык няхай нас рассудзіць той, хто лепш за нас разбіраецца.

Пытляваны. Рассудзілі ўжо, ты крыху спазніўся, Іван Міхайлавіч. Каб калгас быў дрэнны, дык нас бы не прадставілі да такой высокай узнагароды.

Тумілові ч. У вас, відаць, сапраўды ёсць людзі, якія заслужылі ўзнагароду,— ураджай добры сабралі, але...

Пытляваны. Але старшыня няправільную лінію гне? Дагаворвай ужо, не саромейся.

Тумілові ч. Бадай што і так.

Уваходзіць Мікола Верас. Ён толькі што з поля: на вопратцы пыл мінеральнага ўгнаення.

Мікола *(усхваляваны і крыху збянтэжаны ад нечаканасці)*. Дзень добры, дарагія госці!

Паўліна. Дзень добры, дарагі гаспадар.

Мікола. Дык вось хто да нас завітаў! А я гляджу, чыя гэта машына стаіць. Выбачайце, рукі ў мяне... і павітацца нельга. Толькі што з поля, жыта падкармлівалі.

Насця. Не цырымоньцеся, самі такімі бываем.

Мікола. Хоць бы папярэдзілі, мы б падрыхтаваліся ды сустрэлі як мае быць... А то... аж няёмка. *(Саромеецца свае вопраткі.)*

Насця. Вы як быццам і не рады, што мы прыехалі.

Мікола. Нашто гэта вы гаворыце, Настасся Рыгораўна! Вы ж ведаеце, што я заўсёды рад вас бачыць.

Пытляваны. Ты-то рад, ды яны не рады.

Мікола *(занепакоены)*. А што такое? Пакрыўдзіў іх хто-небудзь у нас?

Пытляваны. Парадкі нашы ім не падабаюцца. Збэсцілі наш калгас ушчэнт. Так што забірай, жаніх, манаткі ды адпраўляйся ў іх найлепшы калгас.

Мікола. Ну, не так жа раптоўна. Мы яшчэ пагаворым, можа, і ў нас не так блага.

Пытляваны. Куды там! Пуд солі з'ясі, не дагаворышся.

Туміловіч. Ну, тут не мы вінаваты. Бывайце здаровы.

Пытляваны. Дык вы ўжо і да мяне не хочаце зайсці?

Туміловіч. Няма часу, Макар Піліпавіч. Нам яшчэ ў горад абавязкова трэба заехаць. Хіба назад едучы.

Пытляваны. Ну, як хочаце.

Мікола. Настасся Рыгораўна! Я вас так не адпушчу, вы павінны ў мяне ў хаце пабыць.

Насця. Я з прыемнасцю зайшла б, але ж ніяк не выпадае.

Стары Верас. Ганарлівая нявестка! І ў хату не хоча зайсці.

Насця. Не магу, Сымон Максімавіч. Я ж па справе ў горад еду.

Туміловіч. Ато заставайся. Мы па цябе заедзем.

Насця. Што вы, Іван Міхайлавіч! Мне ж хімікаты трэба атрымаць.

Мікола. Тады заязджайце назад едучы.

Насця. Добра, заедзем, калі ўправімся.

Пытляваны. Па ўсім відаць, што не ўправяцца.

Мікола. Абавязкова заязджайце, а то крыўдзіцца буду.

Туміловіч. Ды ўжо ж заедзем. Бывайце здаровы пакуль што.

Выходзяць.

Пытляваны. Нарабіў ты мне чапухі з гэтым сватаннем.

Мікола. А што такое?

Пытляваны. Чорт мне даў згадзіцца на гэтыя розгляды. Прыехалі, аблазілі ўсё... Гэта ім не так, тое не гэтак.

Мікола. Ну, гэта не страшна.

Пытляваны. Страх невялікі, але і прыемнага мала.

Мікола. Вось бяда будзе, калі дзяўчына не захоча ісці да нас.

Пытляваны. Каб большага клопату не было. Гэта не пойдзе, другая пойдзе.

Мікола. Лёгка сказаць. Такую не вельмі знойдзеш.

Пытляваны. Хопіць гэтага насення. Горш вось, што яны цяпер раззвоняць на ўсю вобласць: Пытляваны няправільна гаспадарку вядзе.

Стары Верас. А яны шмат што да толку гаварылі.

Пытляваны. І ты туды ж.

Стары Верас. Я туды, дзе лепш.

Здаравеня. Можа, мне з імі пад'ехаць, Макар Піліпавіч? Трэба было б з сельгасснабам рахункі зверыць.

Пытляваны. Са мной паедзеш. *(Да Бандарчыка.)* Выскач паглядзі, дзе там Раман. Няхай сюды зойдзе.

Здаравеня. Я на хвіліну дадому заскочу.

Пытляваны. Давай, толькі не баўся.

Здаравеня *(апранаецца)*. А дзяўчына правільна гаварыла: варта было б аб усім гэтым на сходзе пагаварыць. Няхай бы і госці сказалі сваё слова, і гэта б не пашкодзіла.

Пытляваны. Быў жа нядаўна сход. Хто сказаў, што я няправільна кірую?

Здаравеня. Многія гаварылі. Я таксама казаў.

Пытляваны. Табе што! Ты чалавек прышлы: сёння тут, а заўтра ў другім месцы будзеш костачкамі ляпаць. А я колькі сілы палажыў, каб гэтыя чатыры кілаграмы людзям даць. Да ордэнаў давёў. Вось чалавек *(паказвае на Міколу)*, можа, ордэн Леніна атрымае. Ды і мне б не шкодзіла які-небудзь медаль мець за маю працу.

Здаравеня. Я не валацуга, Макар Піліпавіч, а член партыі, як вам вядома.

Пытляваны. А хто кажа, што ты валацуга?

Здаравеня. І дзе б я костачкамі ні ляпаў, я лічу, што там і ёсць мая кроўная справа. Вы тут змагаліся за калгас, а я змагаўся за яго яшчэ тады, калі партыя мяне на хлебанарыхтоўкі пасылала і ў мяне кулакі з абрэза стралялі.

Пытляваны. Ну, закіпеў...

Здаравеня. Я гэта пытанне буду на партарганізацыі ставіць.

Пытляваны. Стаў, калі ласка, толькі не крычы на ўвесь раён.

Здаравеня выходзіць.

Дома, самі сабой, мы хоць і пасварымся, дык бяды не будзе, а вось мне рупіць: паехалі ў горад, наплятуць там чаго-небудзь непатрэбнага. Мяне больш за ўсё ўзнагародныя спісы турбуюць: зацвердзілі ўжо ці не. Калі адаслалі ў Маскву, то ўсё; назад варочаць не будуць.

Уваходзіць Раман.

Раман *(прыкладае запэцканую ў масла руку да казырка)*. Шафёр Раман па вашаму загаду тут як тут, таварыш старшыня.

Пытляваны. Кінь блазнаваць, заводзь машыну.

Раман. Куды ехаць?

Пытляваны. У горад.

Раман. Хіба гадзіны праз паўтары, Макар Піліпавіч. Я машыну разабраў.

Пытляваны. На чорта ты мне патрэбен праз паўтары гадзіны.

Стары Верас. Вось табе і тут як тут.

Мікола. Заўтра будзем у горадзе і даведаемся.

Пытляваны. Не, гэтак я ноч спаць не буду. Мне трэба сёння ведаць. *(Да старога Вераса.)* Запрагай, Сымон Максімавіч, Буланага.

Стары Верас. Добра.

Пытляваны. Толькі хутка.

Стары Верас. Умомант. Я свае машыны не разбіраў.

Стары Верас і Раман выходзяць.

Пытляваны. Зусім не ў пару ўсхадзіўся ты з гэтым сватаннем. Не мог пачакаць, пакуль героем станеш.

Мікола. Якім героем?

Пытляваны. Ну, ордэн атрымаеш. Гэта таксама герой.

Мікола. Вы ў сватах як загнулі героя, дык мне чорт ведае што і казаць. Я ледзь не згарэў ад сораму.

Пытляваны. У сватах, як на таргу: кожны цыган сваю кабылу хваліць.

Мікола. І ордэн гэты... Яшчэ невядома, як яно будзе... Мяне нават крыху сумленне мучыць.

Пытляваны. Ну, не дуры. Сабраў жа ты жыта колькі трэба для ордэна? Сабраў.

Мікола. А іншыя культуры?

Пытляваны. Гэта дробязь.

Мікола. Гэта не дробязь, а невыкананне плана.

Пытляваны. Самае пусцяковае. Буяк абяцаў пагаварыць у раённым аддзеле.

Мікола. Я сваім сумленнем жыву, а не Буяковым.

Пытляваны. Дык што? Можа, ад ордэна адмовішся?

Мікола. Можа, і адмоўлюся.

Пытляваны. Ну, гэта ты хлусіш. Ніхто сабе не вораг.

Мікола. А вось мы з вамі самі сабе ворагі. Давялі калгас да таго, што нас людзі цураюцца.

Пытляваны *(з жалем глядзіць на Міколу)*. Такі праўду кажуць, што людзі ад кахання дурнеюць. *(Выходзіць.)*

## Карціна трэцяя

Пакой абласнога кіраўніцтва сельскай гаспадаркі. Тэхсакратар Маша падшывае паперы і напявае сама сабе «Салаўі, салаўі...». Уваходзіць Вера Паўлаўна.

Вера Паўлаўна. У цябе, Маша, настрой сёння добры.

Маша. Добры, Вера Паўлаўна. Сёння жаваранка чула... Першы раз... І сонца так хораша свеціць.

Вера Паўлаўна *(крыху заклапочана)*. Вясна, Маша, зусім вясна. Зараз сяўба пачнецца. Прыйдзецца нам з табой зноў папрацаваць.

Маша. Мне што, Вера Паўлаўна! Крыху больш паперак будзе — і ўсяго толькі. А вось вам сапраўды... Дзе толькі затрымка якая, у абласное кіраўніцтва звоняць. Званкі зверху, званкі знізу — аж галава разлягаецца — падаць Веру Паўлаўну! А дзе я яе вазьму, калі Вера Паўлаўна ўжо на раёне і невядома, калі вернецца? І ўсе таксама на раёне, і я адна на ўсю ўстанову. Ну, яшчэ звесткі аб ходзе сяўбы, дык гэта я сама магу націснуць ад вашага імя.

Вера Паўлаўна *(цешыцца з яе жыццярадаснасці)*. Маладзец, ты мяне выручаеш.

Маша. Калі мала работы, дык гэта дрэнна для чалавека. Разгультаіцца, і тае яму не хочацца рабіць, якая ёсць. Прызнаюся, Вера Паўлаўна, і я была крышку разгультаілася. Глянула сёння — а мамачкі! Папер повен стол. Не разнесеныя, не раскладзеныя. Ну, я ж ім і дала дыхту! Апошнія паперыны падшываю.

Вера Паўлаўна *(з хітраватай цёплай усмешкай)*. Кажаш — жаваранак?

Маша. Жаваранак, Вера Паўлаўна. Ды такі ж звонкі, нібы хто да неба званочак прычапіў.

Вера Паўлаўна. Відаць, у душы ў цябе жаваранак спявае.

Маша *(сарамліва)*. Там салавейка, Вера Паўлаўна.

Вера Паўлаўна. Чула, чула.

Маша. Няўжо аж вам чуваць?

Вера Паўлаўна. У мяне на гэта вуха чуткае.

Маша. Вам, мусіць, нагаварылі пра мяне больш, чым трэба.

Вера Паўлаўна. Гняздзечка віць збіраецеся?

Маша *(сарамліва)*. Плёткі, Вера Паўлаўна. Мы яшчэ і не думаем пра гэта. Я яшчэ ў інстытут збіраюся паступаць. Адпусціце?

Вера Паўлаўна. Там паглядзім, не тэрміновая справа... Вось што, салавейка... Выкліч мне Баравіцкі раён.

Маша. Каго прасіць? Сельгасаддзел?

Вера Паўлаўна. Ага, Сяменчыка.

Маша *(падыходзіць да тэлефона, круціць ручку)*. Надзюша! Дай мне, калі ласка, Баравіцкі райвыканком... сельгасаддзел... Таварыш Сяменчык? Добры дзень! Зараз з вамі будзе гаварыць Вера Паўлаўна. Ага, яна хоча ў вас нешта наконт жаваранкаў запытацца... Не замаразкаў, а жаваранкаў... Зараз яна сама вам растлумачыць. *(Перадае трубку Веры Паўлаўне.)*

Вера Паўлаўна. Добры дзень, таварыш Сяменчык! Так, я хачу запытацца, ці пяюць у вас жаваранкі... Чулі?.. Вельмі добра. А ці ведаеце вы, што гэта значыць?.. Гэта значыць, што прыйшла вясна. Ага... і што саннай дарогі чакаць не прыходзіцца. Мусіць, чакаеце, бо вашых 150 тон угнаення яшчэ на станцыі ляжыць... Так, вашых калгасаў... Высветліце, у чым справа, і прыміце захады. Памятайце: калі ўгнаенне не будзе вывезена, у нас з вамі будзе сур'ёзная размова... Непакоюся, бо нешта мы на розных мовах гаворым... Я кажу — жаваранкі, а вы — замаразкі... Ну, ну, паглядзім... Чакаю вашага званка... Прыслухоўвайцеся да жаваранка, таварыш Сяменчык. *(Вешае трубку і збіраецца адыходзіць.)*

Маша. Вы далёка, Вера Паўлаўна?

Вера Паўлаўна. Недалёка. Сакратар абкома выклікае.

Маша. Другі?

Вера Паўлаўна. Так, Цімох Пятровіч. *(Выходзіць.)*

Маша бярэцца зноў за паперы, напяваючы «Салаўі, салаўі...». Уваходзіць Пытляваны.

Пытляваны. Добры дзень!

Маша. Дзень добры. *(Садзіцца зноў за паперы і мурлыкае сама сабе пад нос. Да Пытляванага.)* Што вы нам добрае скажаце?

Пытляваны. Сам зайшоў даведацца, што ў вас добрае чуваць.

Маша. Жаваранкі пяюць.

Пытляваны. Пяюць, каб яны здаровы былі... Пяюць і нам спаць не даюць.

Маша. Выспаліся за зіму, хопіць.

Пытляваны. Не вельмі выспішся... Зімою да лета рыхтуемся, а летам да зімы. Заўсёды клопату хапае.

Маша. А вы... з калгаса?

Пытляваны. Ага, з «Новай нівы».

Маша. А-а... Ці не Пытляваны будзеце?

Пытляваны. Ён самы. А вы хіба чулі што пра мяне?

Маша. Чаму ж не. Пра вас жа ў газеце пісалі.

Пытляваны. Ды пісалі крыху.

Маша. А яно прыемна, калі ў газеце пішуць.

Пытляваны. Гледзячы як пішуць. Другі раз так напішуць, што і рад не будзеш.

Маша. Калі так, як пра вас?

Пытляваны. Вядома, пашана і ўсё такое... Але я вам скажу — не лёгка гэта даецца. Трэба шмат працы палажыць.

Маша. Вядома, гэта трэба заслужыць, зрабіць нешта выдатнае. Пра мяне не напішуць, калі я вось сяджу ды паперкі падшываю.

Пытляваны. Пачакайце, напішуць. Вы яшчэ маладзенькая.

Маша. Я з вашага калгаса аднаго чалавека ведаю.

Пытляваны. Каго ж гэта?

Маша. Брыгадзіра. Ён тут на курсах быў.

Пытляваны. А-а, гэта Верас. Ну, вядома, каго ж вам ведаць? Маладога ды прыгожага.

Маша. А ён мне і пра вас расказваў.

Пытляваны. Што ж ён расказваў?

Маша. Казаў, што вы добры гаспадар.

Пытляваны. А, вось як...

Маша. Толькі вельмі ж цвёрды.

Пытляваны. Без гэтага нельга... дысцыпліна. Стань мяккім, дык тут табе ўсё і распаўзецца.

Маша. І, кажа, крышачку старасвецкі.

Пытляваны. Старасвецкі! Бачыш ты!.. Вось разбойнік! Але нічога, ён хлопец неблагі. Лепшы, можна сказаць, брыгадзір. А скажыце, грамадзяначка, Веру Паўлаўну я магу бачыць?

Маша. Чаму ж не, можаце. Толькі яна цяпер у сакратара абкома.

Пытляваны. То, можа, мне пачакаць?

Маша. Як сабе хочаце.

Пытляваны. Яна ж, мо, там доўга не будзе?

Маша. Хто ж яе ведае. А што вы хацелі?

Пытляваны. Ды вы, мусіць, не ведаеце... Бачыце, мы спісы прадстаўлялі на ўзнагароду... Вось і гэтага самага брыга-

дзіра нашага прадставілі. То я хацеў даведацца, як там... ці прайшлі. З раёна іх як быццам сюды, у вобласць, пераслалі.

М а ш а. Гэта я вам магу сказаць — прайшлі вашы спісы.

П ы т л я в а н ы *(узрадаваны)*. Прайшлі, кажаце?

М а ш а. Ага, прайшлі.

П ы т л я в а н ы. І вы гэта на свае вочы бачылі?

М а ш а. А як жа... Сама перапісвала за ўсю вобласць.

П ы т л я в а н ы. І там ёсць наш калгас?

М а ш а. Ёсць, ёсць, не турбуйцеся. І вы і ваш брыгадзір. Так што шыйце новы касцюм і рыхтуйце тут сабе мясцінку. *(Паказвае на грудзі.)*

П ы т л я в а н ы. За касцюмам справа не стане, абы ордэн... А скажыце, даражэнькая, дзе яны цяпер могуць быць?

М а ш а. Хто?

П ы т л я в а н ы. Ну спісы гэтыя самыя?

М а ш а. Пайшлі ўжо.

П ы т л я в а н ы. Вы гэта добра ведаеце?

М а ш а. Сама адсылала.

П ы т л я в а н ы. Так што яны, можа, ужо і ў Маскве?

М а ш а. Можа, і не ў Маскве, але недалёка ад Масквы.

П ы т л я в а н ы *(задаволена)*. Ну, вялікае вам дзякуй!

М а ш а. За што ж мне? Хіба я вас прадстаўляла?

П ы т л я в а н ы. За добрыя весці. То я ўжо магу ісці. Калі дазволіце, магу перадаць ад вас паклон свайму брыгадзіру.

М а ш а. Калі ласка, перадайце... Скажыце — ад Машы.

П ы т л я в а н ы. Жэніцца, разбойнік.

М а ш а *(не асабліва зацікаўлена)*. Ды ну? І каго ж ён бярэ?

П ы т л я в а н ы. Там адну... з «Светлага шляху».

М а ш а. Харошая дзяўчына?

П ы т л я в а н ы. Дзяўчына нішто, толькі з мухамі.

М а ш а. З якімі мухамі?

П ы т л я в а н ы. Шмат аб сабе думае... Што б яму ўзяць такую мілую дзяўчыну, як вы.

М а ш а. А вы б мяне прынялі ў калгас?

П ы т л я в а н ы. Чаму ж не! За мілую душу.

М а ш а. Я ж гарадская, калгаснай работы не ўмею.

П ы т л я в а н ы. Нічога, навучыліся б. Ніхто ўмелым не родзіцца. Яшчэ якая б ударніца была!

Уваходзіць В е р а  П а ў л а ў н а.

П ы т л я в а н ы. Добры дзень, Вера Паўлаўна.

В е р а  П а ў л а ў н а. Добры дзень, таварыш Пытляваны. Добра, што я вас убачыла. Дванаццатага адбудзецца нарада ў сакратара абкома таварыша Паланевіча. Там стаіць ваша справаздача.

Пытляваны *(крыху занепакоены)*. Аб чым?

Вера Паўлаўна. Аб падрыхтоўцы да сяўбы... І наогул аб становішчы калгаса. Падрыхтуйцеся, каб маглі даць адказ на ўсе запытанні.

Пытляваны. А што б гэта магло азначаць, Вера Паўлаўна?

Вера Паўлаўна *(ухіляючыся)*. Не ведаю. Мусіць, хочуць вывучыць вопыт лепшага калгаса і пашырыць на іншыя.

Пытляваны. А, гэта можна. Гэта мы зробім.

Вера Паўлаўна. Маша, дай мне спісы. Цімох Пятровіч патрабуе.

Маша. Ды ў мяне іх няма.

Вера Паўлаўна. Як няма?

Маша. Я ўжо аддала чалавеку, які павязе іх у Мінск.

Вера Паўлаўна. Вось табе і на!

Маша. Вы ж самі сказалі.

Вера Паўлаўна. Крыху паспяшаліся мы з табой.

Маша. Ды як жа марудзіць з такімі справамі? Вось чалавек ордэна чакае.

Пытляваны *(сканфузіўся)*. Не так я ўжо і чакаю... Проста запытаўся.

Вера Паўлаўна. Калі поезд адыходзіць?

Маша. У пяць гадзін. Яшчэ ён дома. Можа, збегаць?

Вера Паўлаўна. Збегай, Машачка. Скажы, што сёння ён не паедзе, і вазьмі спісы. *(Выходзіць.)*

Пытляваны. Гэта тыя самыя спісы?

Маша *(апранаецца)*. Тыя самыя.

Пытляваны. І нашто ж бы іх маглі варочаць?

Маша. Мусіць, яшчэ раз хочуць паглядзець, што-небудзь паправіць. Сем раз адмерай, а раз адрэж. Можа, каму яшчэ ўзнагароду падвысяць. Вось я не помню — вы да якога ордэна прадстаўлены?

Пытляваны. Казалі — на ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Маша. Вось возьмуць і дадуць вам героя.

Пытляваны. Героя-то не... Не дацягнуў маласць. А ордэн не грэх было б. Папрацаваў-такі нямала. Прыклад, можна сказаць, на ўсю вобласць.

Выходзіць услед за Машай.

Заслона

## АКТ ТРЭЦІ

### Карціна чацвёртая

Кабінет другога сакратара абкома партыі. Адбываецца нарада. Старшыня калгаса «Новая ніва» робіць справаздачу аб становішчы калгаса.

Паланевіч. Мы б хацелі больш грунтоўна пазнаёміцца з дасягненнямі вашага калгаса,— што ў яго можна пераняць іншым. А то хваляць вас, а мы нават добра не ведаем, за што. Можа, вас не хваліць, а лаяць трэба.

Пытляваны. Не ведаю, як хваліць, а лаяць нас, Цімох Пятровіч, здаецца, няма за што.

Паланевіч. Паглядзім... Як няма за што, то і не будзем.

Пытляваны. Што ж я магу дабавіць... Аб тым хіба, як мы ўраджаю дабіваліся. Пачну з зямелькі. Пустая засталася яна пасля гітлераўцаў. Глеба пясчаная,— ёй трэба кожны год чаго-небудзь падкінуць, а тут чатыры гады нічога ў вочы не бачыла. Першай нашай справай было зямлю направіць. А як ты яе направіш, калі жывёлы няма, гною няма... Ну, я цвёрды курс узяў: што б там ні было, а зямлю направіць трэба. Атрымалі мы васьмёра коней з воінскай часці, зрабілі некалькі бочак, і, шануючы вас, як тыя залатары, цэлую зіму і вясну, дзень у дзень, цягалі з горада тое, што яму непатрэбна. Ну, яно для нас сапраўды золатам абярнулася. Адразу пазначылася на полі. Вось так мы пачалі на ногі станавіцца. Убачылі людзі карысць ад працы, і яшчэ ахвотней рабіць пачалі. Яно ўжо тут адно за другое пайшло чапляцца: лепш робіш — больш атрымаеш, больш атрымаеш — яшчэ лепш рабіць хочацца. Ну, цяпер у нас не бяда: свой гной ёсць, і з горада прывезці ёсць на чым. Так што зямля цяпер у нас спраўная. Ураджай сёлета быў, як даўней казалі, дай Божа кожнаму добраму. Убралі ў пару, змалацілі — таксама, з дзяржавай разлічыліся поўнасцю. І калгаснікі нашы не скардзяцца: па чатыры кілаграмы збожжа, па паўпуда бульбы ды па восем рублёў грашыма атрымалі...

Паланевіч. Сабраў па сто пудоў з гектара і зазнаўся. Думае, што ўжо ўсяго дасягнуў, больш і расці няма куды.

Пытляваны. Я гэтага не думаю.

Паланевіч. Хто хоча выказацца?

Вера Паўлаўна. Таварыш Пытляваны ахвотна гаварыў пра дасягненні свайго калгаса, але калі гаворка пачалася аб недахопах, тут з яго кожнае слова трэба абцугамі выцягваць. Нябось не пахваліўся, што ў яго цяляты стаяць у халодных хлявах калгаснікаў. Бедненькі калгас, ніяк цялятніка не можа

збудаваць. Наогул пастанову аб жывёлагадоўлі таварыш Пытляваны выконвае, я сказала б, фармальна. Абы лік хвастоў быў такі, як у плане запісана, а якая карысць ад гэтых хвастоў, гэта яго мала турбуе. Скажыце, таварыш Пытляваны, колькі ваша карова дала за год малака?

Пытляваны *(крыху здзіўлены)*. Мая ўласная?

Вера Паўлаўна. Так, ваша ўласная.

Пытляваны. Літраў тысячы тры з палавінай.

Вера Паўлаўна. А ваша, таварыш Верас?

Мікола. Таксама тысяч каля трох.

Вера Паўлаўна. А фермавыя?

Пытляваны. Тысяч каля дзвюх... Гэта вось таварыш Здараўвеня дакладна можа сказаць.

Здаравеня *(разгортвае папку)*. На кожную фуражную карову прыходзіцца ў сярэднім адна тысяча пяцьсот дваццаць літраў.

Вера Паўлаўна. А чаму такая розніца?

Пытляваны. Не ведаю.

Вера Паўлаўна. І вы не ведаеце, таварыш Верас?

Мікола *(у замяшанні)*. Не ведаю. Мусіць, каровы не такія.

Вера Паўлаўна. Наіўныя людзі — яны не ведаюць. Можа, вы ведаеце, таварыш Здаравеня?

Здаравеня. Ведаю. Таму што старшынёва карова брагу есць ды бульбу, а фермавыя рэдка што бачаць, апрача сена. Ды і сена лепшае на працадні размеркавалі, а для фермы асаку пакінулі.

Вера Паўлаўна. Яшчэ адно запытанне, таварыш Пытляваны... Які ваш грашовы даход за прошлы год?

Пытляваны. Тысяч шэсцьсот.

Здаравеня *(разгортвае папку)*. Шэсцьсот трыццаць дзве тысячы сто восемдзесят пяць рублёў сорак шэсць капеек.

Вера Паўлаўна. А колькі вы на будаўніцтва вылучылі?

Пытляваны. Трыццаць тысяч.

Вера Паўлаўна. Гэта многа ці мала для вашага калгаса?

Пытляваны. У меру.

Здаравеня *(з іранічнай усмешкай)*. Гэта якраз столькі, колькі далі нам два нашы бычкі.

Паланевіч. Чулі мы пра гэтых бычкоў. Народ грабіце.

Здаравеня. Наш старшыня — чалавек гаспадарлівы. Дзе можна ўзяць, дык ён возьме, не пасаромеецца.

Паланевіч. Не толькі возьме, а і рване.

Вера Паўлаўна. А большую суму на будаўніцтва вы не маглі вылучыць?

Здаравеня. Маглі б, каб захацелі. Па рубліку з працадня зняць — вось і шэсцьдзесят дзве тысячы. За гэтыя грошы шмат

што можна збудаваць. А на працадзень і сямі рублёў хапіла б. Гэта таксама не бедна. Мы гаварылі пра гэта свайму старшыні, але ж ён не вельмі любіць слухаць нашы парады. «Ты, кажа, мяне не вучы. Маю работу ў раёне хваляць, у вобласці ведаюць».

Паланевіч. Дрэнна ведалі. Цяпер будзем лепш ведаць.

Вера Паўлаўна. Усе гэтыя факты гавораць аб тым, што таварыш Пытляваны не клапоціцца аб умацаванні грамадскай гаспадаркі калгаса, няправільна разумее асабістыя інтарэсы калгасніка. У яго на кожным кроку праяўляюцца ўласніцкія настроі. Ён яшчэ не пазбыўся аднаасобніцкай псіхалогіі.

Пытляваны. Я ўжо дваццаць гадоў у калгасе.

Вера Паўлаўна. І, нягледзячы на гэта, факт застаецца фактам. Аказваецца, настроі гэтыя досыць жывучыя.

Паланевіч. А што вы, таварыш Туміловіч, думаеце пра «Новую ніву»?

Туміловіч. Пра «Новую ніву» я чуў шмат добрага. І ў газетах чытаў. А тут здарылася і самому пабыць. Ехаў я туды павучыцца, як правільна гаспадарку весці, а прыехаў і...

Паланевіч. Расчараваўся?

Туміловіч. Не тое што расчараваўся, а, прызнацца, нават спалохаўся. Калі такі калгас хваляць, падумаў я, дык, значыць, адабраюць яго парадкі. А што ж мне рабіць, калі ў мяне парадкі зусім іншыя? Гэта ж мае калгаснікі паглядзяць, паглядзяць, а потым скажуць: «Пайшоў ты к чортавай мацеры са сваёй грамадскай гаспадаркай. Дзялі нам усё на працадні, як робіць лепшы калгас «Новая ніва».

Паланевіч. Вашы калгаснікі гэтага не скажуць.

Туміловіч. Усе-то не скажуць, а каторыя адсталыя маглі б і сказаць. Паверце, Цімох Пятровіч, аж у пот мяне кінула ад гэтай думкі... Не можа быць, думаю! А што ж будзе, калі ўсе калгасы стануць на такі шлях? І я адразу паехаў сюды: прасіць, каб мне растлумачылі, што гэта такое робіцца. Ну, тут у мяне пачынае патроху праясняцца.

Паланевіч *(да Веры Паўлаўны)*. Мяне цікавіць вось што, таварыш Марозава... Прадстаўлялі калгас да ўзнагароды, а хтонебудзь з абласнога кіраўніцтва выязджаў на месца?

Вера Паўлаўна. Выязджаць-то выязджалі... Мы Буяка туды паслалі.

Паланевіч. Дык у чым жа справа?

Круглік. Справа, відаць, у тым, што Буяк аднёсся да сваіх абавязкаў несур'ёзна.

Паланевіч. Я чуў, што ён на выпіўку сквапны.

Круглік. Ды не адсуне, калі хто паставіць.

Паланевіч *(да Марозавай)*. Чаго ж вы пасылалі п'яніцу на такую справу?

Вера Паўлаўна. Колькі разоў мы яго бралі ў работу. Кляўся, што больш на гарэлку і глядзець не будзе.

Круглік. Ён і не глядзіць. Як п'е, дык вочы заплюшчвае.

Паланевіч *(да Пытляванага)*. Частавалі Буяка гарэлкай?

Пытляваны. Паставіў чарку.

Паланевіч. Тады зразумела. У такіх выпадках усё пачынае дваіцца. Вось і вашы дасягненні паказаліся яму ўдвайне большымі.

Пытляваны. У мяне ўжо так заведзена, што я госця не пачаставаўшы не адпускаю.

Паланевіч. Ён жа не ў госці да вас прыязджаў, а па справе.

Пытляваны маўчыць.

Туміловіча вы, мабыць, не пачаставалі гарэлкай?

Пытляваны. Прапанаваў, але яму часу не было: спяшаўся ў горад данос на мяне везці.

Паланевіч. Вось як! Па-вашаму, гэта данос?

Пытляваны. Дык іначай нельга назваць.

Паланевіч. Ну, гаварыце. Што вы яшчэ скажаце ў адказ на выступленні?

Пытляваны. Я не разумею, як гэта выходзіць, таварыш Паланевіч. Быў лепшы калгас траха што на ўсю вобласць, а цяпер, выходзіць, ужо ён і не лепшы і лінія яго няправільная? А чым я гэту лінію скрывіў? Тым, што ў мяне калгаснікі багаты працадзень атрымалі? Выйшла тут не скрыўленне лініі, а скрыўленне сумлення ў таварыша Туміловіча. З чаго гэта ўсё пачалося? З глупства пачалося. З таго, што мы з брыгадзірам паехалі ў сваты да Туміловічавай калгасніцы.

Круглік. Не такое гэта ўжо і глупства. Усе добрыя людзі ездзяць у сваты.

Пытляваны. З майго боку гэта было глупства. Не трэба было займацца з такімі людзьмі. Там у нас зайшла спрэчка — чый калгас лепшы. Ну, Туміловічу ж цяжка было даказаць, што яго лепшы, дык ён рашыў даказаць, што мой нікуды не варты. *(Да Туміловіча.)* Але дарэмна ты спадзяешся, Іван Міхайлавіч, што такім чынам табе ўдасца майго брыгадзіра перацягнуць. Цяпер ён твой калгас будзе навокал аб'язджаць.

Мікола. Гэта ўжо, Макар Пiліпавіч, мая справа, як я яго буду аб'язджаць.

Пытляваны *(напаўголаса)*. Маўчаў бы ўжо нечага... жаніх няўдалы.

Паланевіч. Больш вы нічога не лічыце патрэбным сказаць?

Пытляваны. Тут жа, мусіць, трэба памылкі прызнаваць? Ну, наконт бычкоў гэта я прызнаю — дарагавата. Наконт цялятніка таксама... пабудуем у гэтым годзе. Наконт хвастоў тут гаварыла Вера Паўлаўна. Пастараемся, каб з гэтых хвастоў больш карысці было. А вось наконт лініі — прабачце, Цімох Пятровіч. Цяжкое вельмі абвінавачанне. Не магу адразу згадзіцца, дайце падумаць.

Паланевіч. Падумаць вам ёсць аб чым, таварыш Пытляваны. Моцна трэба падумаць. *(Да астатніх.)* Сапраўды, таварышы, як гэта здарылася? Хвалілі калгас тры гады падрад, ставілі ў прыклад другім, прадстаўлялі да ўзнагароды, а цяпер агледзеліся, што ў яго няправільная лінія. А здарылася гэта таму, што самі мы, кіраўнікі калгаснай справай у вобласці, яшчэ адстаём ад жыцця. Мы часта не ведаем, што робіцца на месцах, і па інерцыі лічым лепшым тое, што перастала ўжо быць лепшым і стала тормазам для справы. Трэба рухацца далей, наперад, [illegible] вы не можаце. У вас няма для гэтага моцнай базы. Вы яе не стварылі, таварыш Пытляваны. Вы дабрабыт калгасніка будуеце не на базе грамадскай гаспадаркі, а за кошт яе. Вы супрацьстаўляеце асабістыя інтарэсы калгасніка грамадскім інтарэсам. Вы хваліліся тут багатым працаднём. Багаты працадзень і мы вітаем. Рады былі б, каб у кожным калгасе быў не меншы працадзень. Але ў вас ён багаты таму, што вы шмат уварвалі ад грамадскай гаспадаркі. Гэта шкодная практыка, і мы павінны яе асудзіць. Ёсць у нас іншыя калгасы, якім станавіцца на ногі было куды цяжэй, бо яны пачалі аднаўляць гаспадарку на папялішчы. І яны вас ужо абагналі. Што вы круціце галавой? Вазьміце хоць бы калгас «Светлы шлях», з якім вы ведзяце спрэчку. Параўнайце сваю грамадскую гаспадарку з іхняй. Я ўжо не кажу пра планы на далейшае, якіх у вас зусім няма. Яны будуюць калгаснае заможнае жыццё правільна — на базе моцнай грамадскай гаспадаркі. Вы не глядзіце, што ў іх сёння працадзень меншы. Заўтра яны абгоняць вас і па ўраджайнасці і па працаднях. А па культурнасці вы далёка адсталі ад іх. А калі ўжо закранаць асабістыя справы, дык я павінен сказаць, што ваша няўдалае сватанне, пра якое мне расказвалі, гэта вам таксама ўрок. Прыехалі вы з пыхай, а паехалі з канфузам. Дзяўчына-то наша, савецкая. Сама актыўны будаўнік калгаснага жыцця. Яна адразу распазнала, што не з таго боку да яе сваты пад'язджаюць. І сапраўды — чаго ёй, перадавой калгасніцы, ісці ў ваш адсталы, некультурны калгас? Вось няхай цяпер жаніх з сватам і падумаюць, як ім да такой дзяўчыны падступіцца. Цяпер вам зразумела, таварыш Пытляваны, у чым ваша асноўная памылка?

Пытляваны. Зразумела, таварыш Паланевіч.

Паланевіч. Ці яшчэ збіраецеся думаць?

Пытляваны. Не.

Паланевіч. Дык што будзем рабіць?

Пытляваны. Будзем выпраўляць.

Паланевіч. Чэсна?

Пытляваны. Чэсна, таварыш Паланевіч.

Мікола. А калі чэсна, дык давайце, Макар Піліпавіч, пачнём тут жа, у абкоме партыі.

Пытляваны глядзіць на яго дапытліва і недаверліва. Паўза напружанага чакання.

Паланевіч. Мы вас слухаем, таварыш Верас.

Мікола *(хвалюючыся)*. Мне сорамна прызнавацца, але я... вінаваты перад партыяй. *(Паўза. Яму сапраўды цяжка гаварыць.)*

Паланевіч. Так. У чым жа справа?

Мікола. Мяне няправільна прадставілі да ўзнагароды, а я маўчаў.

Пытляваны. Вар'ят!

Круглік. Вы не сабралі дваццаць тры цэнтнеры з гектара?

Мікола. Жыта я сабраў, але не выканаў плана па іншых культурах. І мне было б сорамна насіць ордэн, якога я не заслужыў.

Паланевіч. Гэта добра, што вы, як камуніст, сказалі нам аб гэтым. Але не турбуйцеся — мы ўжо гэта выявілі і ўзнагародныя спісы пераглядзелі. З ордэнам прыйдзецца пачакаць, пакуль калгас стане сапраўды перадавым і будзе выконваць усе планы і ўзятыя абавязацельствы. Якія будуць прапановы па справаздачы таварыша Пытляванага?

Круглік. Указаць таварышу Пытляванаму на шкоднасць яго практыкі і прапанаваць выправіць памылкі.

Паланевіч. Што да вас, таварыш Пытляваны, дык мы спадзяёмся, што вы зробіце правільны вывад з таго, што тут гаварылася. У вас ёсць здольнасць і ахвота да гаспадарчых спраў. Калі вы ўразумееце да канца вашы памылкі і навучыцеся на практыцы праводзіць палітыку партыі, дык з вас яшчэ можа выйсці нядрэнны старшыня калгаса. На гэтым нашу нараду аб'яўляю закрытай.

Развітваецца з Пытляваным, Тумiловічам і іншымі. Усе выходзяць.

Пытляваны *(Туміловічу пры выхадзе)*. Ну што, ябеда? Цяпер твая душа задаволена?

Туміловіч. Задаволена, Макар Піліпавіч. Цяпер яно ўсё на месца стала. А пра ябеду гэта ты дарэмна. Пасля падзякуеш. *(Дастае партсігар, але ён пусты.)*

Пытляваны. Ды яно як быццам і належыць дзякаваць. *(Прапануе папяросу.)* Толькі нешта язык не паварочваецца. Ты пацярпі ўжо, не патрабуй сёння.

Туміловіч. Ды я не спяшаюся, магу і пачакаць... *(прыкурвае ад запалкі Пытляванага)* год-два, пакуль ты ачухаешся.

Пытляваны. Насміхайся, твая пара. *(Прыкурвае.)* Ведаеш, калі я табе падзякую?

Туміловіч. Ну, калі?

Пытляваны. Тады, калі ты зноў будзеш ззаду ў мяне плесціся.

Туміловіч. Так я магу і памерці, не дачакаўшыся твае падзякі.

Пытляваны *(хлопае Туміловіча па плячы)*. Не бядуй, дачакаешся.

Выходзяць.

## Карціна пятая

Сталовая ў абласным цэнтры. Злева ўваходныя дзверы. У задняй сцяне дзверы на кухню. У зале некалькі столікаў, накрытых цыратай. На пярэднім плане за столікам Насця, Паўліна, шафёр Валодзя — п'юць чай.

Паўліна. Дык нарада ўжо скончылася?

Валодзя. Скончылася... толькі што.

Паўліна. А дзе ж наш старшыня?

Валодзя. Пайшоў у сельгасснаб. Сказаў, пасля сюды зойдзе.

Паўліна. Як там на нарадзе — не пытаўся?

Валодзя. Пытаўся. Ну, ён жа мне ўсяго расказваць не будзе. Кажа: наша ўзяло.

Паўліна. Наш калгас лепшы?

Валодзя. А ты хіба не ведала?

Паўліна. Я-то ведала, але іншыя не ведалі.

Насця. Я вельмі рада.

Паўліна. Чаго?

Насця. Што наша ўзяло.

Паўліна. Наша ўзяло, а тваё-то яшчэ невядома.

Насця. Калі наша, то і маё.

Паўліна. Можа, твой жаніх цяпер з табой і гаварыць не захоча.

Насця. Хіба ён такі дурны?

Паўліна. Дурны не дурны, а крыўда вялікая. Мусіць жа, і яму там папала.

Валодзя. Ды, відаць, далі лазню і свату і жаніху.

Паўліна. Героем жа меціўся быць, а тут на табе.

Валодзя. Які там герой! Я чуў, што «Новую ніву» са спісаў выкасавалі.

Паўліна. Гэта ім не даспадобы.

Валодзя. Кажуць, сам Верас заявіў, што яго няправільна прадставілі.

Насця. Няправільна?

Валодзя. Ага. Плану недавыканаў.

Паўліна. Значыць, пранялі да жывога, калі сам прызнаўся.

Валодзя. Бачыў я Пытляванага.

Паўліна. Як ён выглядае? Нос такі самы задзёрты ці крыху апусціўся?

Валодзя. Выйшаў з абкома як хмара.

Паўліна. Шкада, што мяне не было, я яму яшчэ падсыпала б. Прыгадала б і бычкі, і цялятmember, і агароднае пудзіла.

Уваходзіць Раман. Падышоўшы да суседняга століка, ён кідае папяровы скрутак на стол.

Раман. Эх-ма!

Валодзя. Што так, Раман Іванавіч!

Раман. Ды, разумееш, дала жонка сала з сабою, а яно мне ў горла не лезе. Прыелася, разумееш: кожны дзень — то сала, то масла, то масла, то сала. Вось і зайшоў — дай, думаю, меню перамяню. *(Да афіцыянткі.)* Эй, золатца!

Афіцыянтка *(з кухні)*. Зараз.

Валодзя. Як жа ты яго пераменіш?

Раман. Вось як вазьму сто грам, дык гэта сала ў мяне аж закруціцца. *(Да афіцыянткі, якая падышла.)* Сто грам, золатца.

Афіцыянтка. Закуска?

Раман. Са сваёй вось не ведаю што рабіць.

Валодзя. Відаць, добра жывеш, калі без гарэлкі сала ў горла не лезе.

Раман. А што мне... Жыву, не гарую.

Паўліна. Ці гэта ў вашым калгасе ўсе задавакі?

Раман. Не, толькі я адзін. Лепшы шафёр лепшага калгаса, вось і задаюся.

Паўліна. Старшыня ваш таксама добры задавака.

Раман. Лепшы старшыня лепшага калгаса. Пытляваны — гэта ж вам не абы-хто!

Валодзя. Усыпалі сёння твайму Пытляванаму.

Раман. Ну-ну-ну, памаленьку. Хто гэта яму асмеліцца ўсыпаць?

Валодзя. Знайшліся добрыя людзі.

Р а м а н. Не гавары глупства, а то ўсе смяяцца будуць.

В а л о д з я. І так усе смяюцца. Выйшаў з абкома мокры, як пацук.

Р а м а н. Ты, брат, мяне не разыграеш. Я ведаю, чаго яго выклікалі.

В а л о д з я. Чаго?

Р а м а н. Вопыт пераймаць. Прыклад для ўсяе вобласці.

П а ў л і н а. Прыклад, як не трэба рабіць.

Р а м а н. Не, гэта вы сур'ёзна?

В а л о д з я. Вось дзівак! Спытайся ў яго самога.

Р а м а н *(да афіцыянткі, якая прынесла сто грам)*. Не трэба, золатца. Вазьміце назад.

Афіцыянтка паціснула плячамі і прыняла гарэлку.

В а л о д з я. Што так раптам перадумаў?

Р а м а н. Як заўважыць гаспадар, з трыбухамі з'есць. «Узрадаваўся, скажа, сукін сын, што мяне сплявжылі».

Уваходзіць М і к о л а. Паўліна штурхае Насцю ў бок. Ні на кога не гледзячы, Мікола праходзіць у дальні правы куток і садзіцца за столік.

П а ў л і н а *(напаўголаса да Рамана)*. І гэты, мусіць, з вашага лепшага калгаса?

Р а м а н. Чаму?

П а ў л і н а. Таксама задаецца. Прасунуўся і не прывітаўся.

Н а с ц я *(напаўголаса да Паўліны.)* Нашто ты яго чапаеш?

М і к о л а *(да афіцыянткі, якая падышла да яго)*. Сто грам і бутэрброд.

В а л о д з я *(напаўголаса)*. Рашыў геройства сваё замачыць.

Н а с ц я *(з дакорам)*. Валодзя, як табе не сорам!

П а ў л і н а. Шкадуеш? А ён і ў твой бок не глядзіць. Я табе казала, што пакрыўдзіцца.

Уваходзіць П ы т л я в а н ы. Прайшоўшы ў дальні левы куток, ён садзіцца за столік насупраць Міколы.

П ы т л я в а н ы *(да афіцыянткі)*. Дзвесце грам!

А ф і ц ы я н т к а. Што закусіць?

П ы т л я в а н ы. Не трэба.

Афіцыянтка налівае гарэлку Пытляванаму і Міколу.

Р а м а н *(напаўголаса да Валодзі)*. Які ж ты казаў — пацук? Той самы чалавек.

В а л о д з я. Той ды не той. Хіба ён калі піў гарэлку не закусваючы?

П ы т л я в а н ы *(падымае шклянку, да Міколы)*. Будзь здароў, герой! Віншую з узнагародаю!

Мікола *(падымае шклянку)*. Таксама і вас, Макар Піліпавіч!

Пытляваны. Ушанавалі нас з табой як мае быць.

Мікола. Якая заслуга, такая і пашана.

Пытляваны. Падзякуй сваёй нявесце *(ківае ў бок Насці)*. Яна ўсё гэта ўсчала.

Мікола. Перш за ўсё вам, Макар Піліпавіч. Вашых заслуг тут больш за ўсё.

Пытляваны *(залпам выпівае шклянку гарэлкі і выцірае губы адваротным бокам далоні)*. Нічога, не гаруй, мы сваё возьмем. Паглядзім яшчэ, ці ўгоняцца за намі гэтыя перадавыя. *(Кідае на стол грошы за гарэлку. Да Рамана.)* Раман! Заводзь машыну!

Раман *(усхопліваецца)*. Ёсць заводзіць машыну!

Пытляваны выходзіць. Раман дапытліва глядзіць на Міколу. Той махае яму рукой: «Едзьце». Раман выходзіць.

Паўліна. Ці не пара і нам, Валодзя?

Валодзя. Яшчэ ж Івана Міхайлавіча няма.

Паўліна *(ківае на Насцю і Міколу, даючы знак, што іх трэба пакінуць адных)*. Ты ж збіраўся машыну запраўляць.

Валодзя *(скеміўшы)*. Праўда ж, я і забыўся.

Паўліна. А мне яшчэ трэба ў магазін забегчы. *(Да Насці.)* Ты пасядзі тут, я зайду па цябе. *(На вуха.)* Падвесялі яго крыху. Зусім раскіс.

Валодзя і Паўліна выходзяць.

Насця памешвае лыжачкай у шклянцы і крадком пaглядае на Міколу. Ён неахвотна жуе бутэрброд і ў сваю чаргу крадком пaглядае на яе. Часамі позіркі іх вось-вось сустрэнуцца, тады яны хуценька адводзяць вочы ўбок. Мікола панхмурны і насцярожаны, у Насці ўвесь час на вуснах бегае ўсмешка. Нарэшце Насця не вытрымала і засмяялася ўголас.

Мікола. Няўжо я такі смешны, Настасся Рыгораўна?

Насця. Вельмі смешны.

Мікола. Вядома, цяпер вы з мяне можаце смяяцца.

Насця рагоча.

Гэта трэба нечалавечае сэрца мець: сама ўсю гэтую справу ўсчала, сама і здзекуецца.

Насця. І чаго чалавек надзьмуўся? Увайшоў — нават не прывітаўся.

Мікола. А я вас... і не заўважыў спачатку. І наогул думаў, што для вас гэта нецікава.

Насця. Наадварот, вельмі цікава.

Мікола. Цікава паздзекавацца?

Насця *(сур'ёзным тонам)*. Глупства ўсё гэта, Коля. Ніхто з цябе здзекавацца не збіраецца. Кінь свае крыўды і давай лепш пагаворым хораша, па-ранейшаму.

М і к о л а. Не ведаю, ці выйдзе ў нас па-ранейшаму.

Н а с ц я. У мяне выйдзе, а ў цябе... Я хацела б, каб і ў цябе таксама.

М і к о л а. Гэта шчыра?

Н а с ц я. Зусім шчыра, Коля.

М і к о л а *(падыходзіць да Насці)*. Прабач, Насцечка! Я гэта больш не ад крыўды, а ад сораму. І не прывітаўся па гэтай прычыне: цяжка мне было ў вочы глянуць, загаварыць.

Н а с ц я. Гонару шмат. Па гэтым балючым месцы цябе і стукнулі. Нічога, пакуль жаніцца, дык загаіцца.

М і к о л а. Я думаў, ты на мяне цяпер і глядзець не захочаш.

Н а с ц я *(з ласкавым дакорам)*. Ты думаў, я толькі на герояў гляджу, якія нос перада мной задзіраюць?

М і к о л а. Ніякі я не герой. Гэта ўсё Пытляваны выдумаў.

Н а с ц я. Каб мяне спакусіць.

М і к о л а. Ордэн меўся быць і таго не будзе.

Н а с ц я. Чула. Можа, цяпер задавацца не будзеш.

М і к о л а. А калі я задаваўся перад табой? Нешта я не помню.

Н а с ц я. А я помню... Прыехаў у сваты з такім гонарам, што куды там мне яшчэ трапятацца,— адразу лапкі ўгору. Чакай жа, думаю, Міколка, так лёгка ты мяне не возьмеш.

М і к о л а. Каб не гэты твой капрыз, то мы ўжо былі б жанатыя.

Н а с ц я. Не магла б я жыць у вашым калгасе. Нізашто не магла б. Я ж бы адчувала сябе, як у нялюбага свёкра. Прыйшлося ж бы рабіць тое, што мне не міла, чаго мая душа не прымае.

М і к о л а. Табе вельмі не спадабалася ў нас?

Н а с ц я. Вельмі. Аж не хацелася верыць, што там брыгадзірам той самы Мікола Верас, з якім мы столькі марылі, як былі на курсах. Помніш, як мы марылі? Якія мы планы складалі! І якія багатыя ўраджаі збіралі мы з табой! А якія сады мічурынскія цвілі ў нас! І як хораша пчолы ў іх гулі! А карпы ў сажалках якія плавалі! Помніш? А ў клубе ў нашым — кіно, спектаклі, лекцыі. І раптам прыязджаю і што ж бачу? Адзін здзек з усіх нашых планаў і мараў. Мне так крыўдна стала, што я ледзь не заплакала. За цябе крыўдна стала. Як жа гэта здарылася, Коля? Растлумач ты мне.

М і к о л а. Чорт яго ведае, як гэта здарылася. Спачатку я намагаўся павярнуць яго ў свой бок, але ж ён, чорт, такі напорысты... Працаднём гэтым мяне ашаламіў. І сапраўды — насыплеш засек збожжа, здаецца, і ўсё добра. А тут яшчэ ордэнам стаў спакушаць. Ці доўга з панталыку збіцца?

Н а с ц я. А я як глянула — не, думаю, завянуць тут мае мары.

Мікола. І махнула на мяне рукой?

Насця. Не, не махнула. Узялася ратаваць цябе. Бывае ж так, што і блізкага чалавека кладуць пад нож. Ды яшчэ просяць дактароў, каб хутчэй яго рэзалі. Вось і я... спадзявалася на аперацыю. Сёння яна адбылася.

Мікола. І ты старалася, каб мяне хутчэй пад нож?

Насця. Старалася, колькі магла. Падгаворвала Івана Міхайлавіча, каб ён хутчэй у абком ехаў.

Мікола. І цяпер рада?

Насця. Вядома.

Мікола. А што мне баліць — гэта табе дарма?

Насця. Пабаліць ды сціхне. Затое нашы мары... Яны ж здзейсняцца? Праўда, Коля?

Мікола. Цяпер, калі ты будзеш у нашым калгасе...

Насця. Я яшчэ не сказала, у якім калгасе.

Мікола. Дык калі ж ты ўжо скажаш?

Насця. Тады, як прыйдзе тая пара.

Мікола. Ты наконт вяселля? Я гатоў хоць заўтра.

Насця. Хто ж гэта жэніцца ў самую сяўбу? Хочаш план сарваць?

Мікола. Дык калі ж?

Насця. Пасеем, убяром — тады.

Мікола. Выпрабаванне? Хочаш паглядзець, што з нашым калгасам будзе цераз лета?

Насця. Які ты дагадлівы.

Мікола. Выпрабоўвай, Насцечка, як хочаш, толькі дай слова, што ты ад мяне не адрачэшся.

Насця. Я ўжо яго дала, а ты і не заўважыў.

Мікола. Цвёрда?

Насця. Цвёрда.

Мікола парывіста абнімае Насцю і цалуе ў вусны.

Насця *(папраўляе валасы)*. Даўно б так... А то надзьмуўся.

Афіцыянтка, якая выйшла з кухні, застыла ў нерухомасці.

Афіцыянтка *(перачакаўшы)*. Вам яшчэ што-небудзь падаць?

Мікола *(адмахваецца)*. Нічога не трэба.

Афіцыянтка *(сама сабе, з усмешкай)*. Яно і відаць, што вам больш нічога не трэба. *(Выходзіць.)*

Заслона

## АКТ ЧАЦВЁРТЫ

### Карціна шостая

Хата Аўдоцці Вярбіцкай. Перагародка, што раней аддзяляла бакоўку, знята. Пасярэдзіне хаты — бяседны стол, устаўлены пітвом і ежай. За сталом — вясельныя госці: па адным баку стала сядзіць Насця і ўся яе дружына, па другім баку — Мікола са сваёю дружынаю. Насця ў белым плацці. На грудзях у яе ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга, з правага боку — букецік кветак. У Міколы ў пятліцы таксама букецік белых кветак. Госці ўжо крыху падпілі, і ў хаце стаіць невыразны вясёлы гул. Гарманіст грае вясельную песню на традыцыйны матыў. Паўліна, Ліда, Каця і іншыя жанчыны і дзяўчаты пяюць.

Ой, ляцелі гусачкі цераз сад,
Крыкнулі, гукнулі на ўвесь сад.
Крыкнулі, гукнулі на ўвесь сад:
— Пара табе, Насцечка, на пасад.

Брат сястру на пасад вядзе,
Брат сястру на пасад вядзе,
А сястрыца ды пытаецца:
— Брацейка ты мой родненькі,
Брацейка ты мой родненькі,
Чым я табе надакучыла?
Ці хадою, ці сабою,
Ці хадою, ці сабою,
А ці русаю касою?

Ліда схіляе галаву на Насціна плячо, як бы развітваючыся. Яна цалуе Насцю ў шчаку і нешта шэпча ёй на вуха. Насця ласкава ўсміхаецца і ківае Лідзе галавой. Устае Пытляваны, перавязаны традыцыйным вышываным ручніком.

Пытляваны. Пачэсная бяседа! Родныя, крэўныя, сябры, прыяцелі і ўсе добрыя людзі! У нашай маладой ёсць багаты вясельны каравай. Што ў гэтым караваю, я ўжо і сам не знаю: сямі палёў пшанічка, сямі крыніц вадзічка, дзесяці кароў масла ды яец паўтараста. Сама сеяла, сама веяла, сама выпякала, сама гасцей гукала, каб каравая паспыталі, шчасця-долі пажадалі. Просім дазволу каравай дзяліць!

Галасы. Дазваляем! Просім!

Паўліна. Дзялі, сват, дзялі, толькі лініі не скрыві, а то мы цябе ведаем.

Пытляваны. Мы сваю лінію выпраўляем, а ў старшай дружкі як матляўся язык ля вушэй, так і цяпер матляецца.

Міколава дружына *(пяе, адказваючы на рэпліку Паўліны).*

Кіньце свае жартачкі-нападкі,—
У нашага сватачкі — парадкі:
Ён жа гаспадарлівы і дбайны —
Гудуць на палетачку камбайны.
Ідзеш ты к нам, Насцечка, на часе,
Будзе табе хараша ў калгасе:
Не самлее спіначка за жнівом,
Не змахнеш ты слёзачкі рукавом.

Пытляваны *(да спевакоў).* Дзякую, дружына, што не даяце ў крыўду мяне і наш калгас. З вашай падтрымкай мне лягчэй будзе рэй весці. *(Варочаючыся да ролі свата.)* Ёсць у гэтай хаце маладой нашай маці, што начэй не спала, дачку гадавала, дабру навучала,— Аўдоцця Захараўна Вярбіцкая. Мы яе вітаем — караваем надзяляем.

Ставіць на талерку чарку зафарбаванай гарэлкі і кладзе кавалак каравая. Дружкі пяюць.

Выграбай, маці, жар, жар,
Будзе табе дачкі жаль, жаль,
Вымятай, маці, попел,
Мы тваю дачку ўхопім.

Аўдоцця *(устае).* Вось тут бадай што ўсе людзі маладыя. Шмат хто з вас і не помняць, які такі даўней каравай быў. Цяпер гэта, можна сказаць, забаўка, вясёлая завядзёнка, каб людзей добрым словам ушанаваць, бяседны стол аздобіць. А некалі ж такім спосабам маладой пасаг збіралі. Кожны клаў на талерку што-небудзь, ■ бацька маладой — колькі старгаваліся пры сватанні. Вось і на маім вяселлі было: палажыў бацька на талерку трыццаць рублёў, а свёкар зараз жа пералічыў: «Э, кажа, сват, ты ж мне дзесяць рублёў скруціў. Трасі, кажа, кішэнь, бо нічога не будзе». А бацька ледзь і гэтыя сабраў. Дык што ж вы думаеце! Вяселле было раскідалася. Свёкрава радня з-за стала ўстала. Як мой нябожчык Рыгор ні прасіў свёкра, той ані блізка. Дык ужо дзядзька мой, каваль, збегаў дадому, залажыў за бацьку дзесяць рублёў. Тады толькі свёкар зноў за стол сеў. Добра, дзяўчаткі, што вам цяпер не трэба ніякага пасагу. Абы рукі залатыя ды сумленне чыстае. Прабач, дачушка, што і я табе пасагу на талерку не кладу. Вунь твой пасаг — на грудзях у цябе. Да яго ніякай прыплаты не трэба. Жыві, дачушка, красуйся. Няхай будзе слаўнай і шчаслівай твая доля жаночая, як была дзявочая. А я

хачу толькі аднаго: каб мне яшчэ трошкі пажыць ды дзетак тваіх паняньчыць.

Аўдоцця падыходзіць да Насці. Насця ўстае і цалуе маці ў руку, а маці яе ў лоб. Потым яны цалуюцца ў вусны і, расчуленыя, абедзве выціраюць вочы хусцінкамі. Маці бярэ ў рукі чарку з талеркі.

За шчаслівую долю маладых! *(Выпівае, бярэ сваю дзялянку каравая і ідзе на месца.)*

Пытляваны. Ёсць у нашай маладой бацька пасаджоны...

Дружкі *(перабіваюць).*

Заплакала Насцечка ў садочку:
Няма майго татачкі ў радочку.
*(Іншым ладам.)*
Узнімiцеся, буйныя ветры, на моры,
Разнясіце жоўты пясочак па полі,
Пакрышыце дубовы дошкі на крошкі
Ды падыміце майго татачку на ножкі!

Аўдоцця. Не трэба, дзяўчаткі, жаласных песень, не засмучайце вясёлай бяседы.

Пытляваны *(працягвае перапыненую рэпліку).* Ёсць у нашай маладой бацька пасаджоны, чалавек заслужоны, з якім яна ўраджай гадавала, славу здабывала — старшыня лепшага ў раёне калгаса «Светлы шлях» Іван Міхайлавіч Туміловіч. Мы яго вітаем — караваем надзяляем.

Туміловіч *(падыходзіць да Пытляванага і бярэ ў рукі чарку).* Я яшчэ не заслужыў таго, каб быць бацькам такой дачкі. Проста не дарос... гадамі не выйшаў. Але калі мне ўжо выпаў такі гонар, дык я ад усяго сэрца жадаю шчаслівай долі гэтай маёй дачцэ, як сваім родным дзецям. Дазволь, Насцечка, пацалаваць цябе, як родную сястру. Няхай ужо малады не крыўдзіцца. Калі не можа знесці, дык няхай хоць адвернецца на гэты час.

Мікола. А яно такі і крыўдна сядзець ды глядзець, як чужыя дзядзькі каля маладой увіхаюцца.

Госця. І праўда, хіба ж гэта не здзек! Напроціў пасадзілі і сталом адгарадзілі.

Паўліна. Блізка локаць, ды не ўкусіш.

Туміловіч падыходзіць да Насці і цалуе яе ў вусны, потым выпівае чарку, бярэ сваю дзялянку каравая і ідзе на месца.

Пытляваны. Ёсць у нашай маладой свёкар з барадой, маладога бацька родны, конюх знатны — Сымон Максімавіч Верас. Мы яго вітаем — караваем надзяляем.

Стары Верас. Ну, што ж мне сказаць... Як я пагляджу, дык мой хлопец не промах: выбраў сабе дзяўчыну да пары. І прыгожая, і работніца, і славу займела з маладых год. Праўда, ганарыстая крыху, але ж і мы не апошнія людзі ў калгасе, у нас таксама сякія-такія заслугі ёсць, так што яно адно за другое сыдзе. Табе, можа, дачушка, нагаварылі пра мяне ўсякіх страхаў? Праўда, чалавек я сур'ёзны, любога стаенніка магу ўтаймаваць. Але з людзьмі я заўсёды па-людску, так што ты мяне не бойся. Абы ты мяне за бараду не брала, то я цябе не пакрыўджу. Я ўсёю душою рад такога сем'яніна ў свой дом прыняць.

Паўліна. Нашто ёй ваш дом? У яе свой нядрэнны.

Стары Верас. Не век жа ў сваім сядзець... Такая доля дзявочая. *(Да Аўдоцці.)* Дзякуй і табе, сваццproperly, што такую нявестку мне выгадавала! *(Выпівае сваю чарку, бярэ дзялянку каравая і садзіцца.)*

Пытляваны. Ёсць у нашай маладой старшая дружка — галава як бручка, язык як брытва,— матляецца спрытна, дзе трэба, дзе не, усюды яго ўваткне. Мы і яе не мінаем — караваем надзяляем.

Ліда і Каця *(пяюць)*.

Не лезь, сватка, у бітву,
Не чапай нашай брытвы,
Яна спрытна голіць,
Языком з хаты гоніць.

Пытляваны *(з іроніяй)*. Дзе яна голіць, калі вунь шчарбатая.

Паўліна. Вышчарбілася аб сватаву бараду. Бо гэта ж не барада, а шчотка сталёвая. Мусіць, ёю дзядзька Верас калгасных жарабцоў чысціць.

Туміловіч. Лепш не займайся, сват, з нашымі жанкамі, яны цябе абрамізяць.

Пытляваны. Пайшоў у бойку, чупрыны не шкадуй.

Паўліна. Хачу я табе, Насцечка, шчырае слова сказаць. Пераступаеш ты парог дзявочага жыцця свайго. Можа, каму і здаецца, што з дзеўкі на бабу перавярнуцца гэта так сабе, глупства. А яно зусім не глупства. Гэта чалавек свой лёс мяняе. Трэба з другім чалавекам жыццё наладжваць... па-харошаму, па-чалавечаму, каб і яго паважаць і сябе ў крыўду не даваць. Ты ў нас дзяўчына класная, гонар наш. Глядзі ж, каб і надалей мы табою ганарыліся; каб па-ранейшаму ты ўмела пастаяць і за справу, і за свой жаночы гонар. І калі часамі муж захоча над табой уладу ўзяць... *(Глядзіць на Міколу.)* Ты не глядзі, што ён цяпер такім ласкавым цяляткам выглядае, ён яшчэ паспрабуе і кіпцюры выпусціць... Дык калі ён што-небудзь такое — не да-

вайся! Трымай наш жаночы сцяг высока. Сама не ўправішся, мяне пакліч. Гэта табе мой баявы наказ. А цяпер жадаю табе, родная мая, шчасця, долі і доўгага веку!

Цалуюцца. Паўліна падымае чарку.

Дай табе Божа столькі дзетачак, колькі тут капелек.

Хвацка перакульвае чарку, бярэ дзялянку каравая і ідзе на месца.

Пытляваны. Пачэсная бяседа! Родныя, крэўныя, сябры, прыяцелі і ўсе добрыя людзі! Благаслаўіце маладых пораўні сесці! Знудзіліся яны, паасобку седзячы, адно на другога гледзячы. Ці не пара ім разам пакрасавацца і нам на іх палюбавацца? Ці не папросім мы маладую перайсці да маладога? І месца ёй тут падрыхтавана.

Туміловіч. Чакай, сват, чакай! Па-мойму, ты ўладу сваю перавышаеш. Хочаш жывасілам дзяўчыну ад нас забраць. Як пасаджоны бацька, я мушу заступіцца за яе, а як старшыня — за інтарэсы свайго калгаса. Што ім пара сесці пораўні, з гэтым я згодзен, толькі не ёй да яго, а яму да яе пераходзіць. Такая ў нас умова была.

Пытляваны. Дык няўжо ж ты, сват, сур'ёзна наважыўся лепшага брыгадзіра ў мяне забраць?

Туміловіч. А няўжо ж ты, сват, яшчэ і цяпер будзеш упірацца і даказваць, што твой калгас лепшы?

Пытляваны. Не, не буду даказваць. Далі мне ў косці, і хопіць. Сам бачу, што не туды заехаў. Цяпер пачынаю па-новаму гаспадарку ладзіць.

Стары Верас. Цяпер, нявестачка, табе цурацца нас няма чаго. За гэта лета парадкі ў нас перамяніліся. Усё робіцца па-новаму, пад твой густ. Нават клуб пачалі будаваць.

Пытляваны. Ты, Сымон Максімавіч, вельмі не хваліся. Каб не пачалі мы з табой зноў зазнавацца. Праўда, зрабілі мы сёе-тое, некультурнымі і адсталымі нас ужо нельга назваць. Выпраўляем памылкі, на якія нам партыя ўказала. Але ж мы хочам зноў у перадавыя выбіцца.

Мікола. Па-сапраўднаму ўжо.

Пытляваны. Так, каб і героі ў нас былі сапраўдныя. А ў каго ж мне пераняць вопыт, як не ў лепшага калгаса «Светлы шлях»? Так што Настасся Рыгораўна была б у нашым калгасе самым дарагім для мяне чалавекам. Прастор мы ёй дадзім, разгарнуцца будзе дзе. І ты, Іван Міхайлавіч, не пярэч, калі хочаш па-суседску нам дапамагчы.

Галасы: — Вось пад'ехаў дык пад'ехаў!
— Хітра пад'ехаў!
— І скажы ты яму на гэта што хочаш!

Паўліна. Што вы таргуецеся, як на кірмашы? Можа б, не шкодзіла і ў іх саміх запытацца, дзе яны хочуць жыць...

Пытляваны. Вось я і хачу запытацца ў маладога: ці гэта ён жэніцца, ці замуж ідзе?

Мікола. Для мяне ясна толькі тое, што мы будзем жыць разам. Праз гэту спрэчку наша вяселле не раскідаецца, як праз тыя дзесяць рублёў, што нам Аўдоцця Захараўна расказвала. А дзе жыць, гэтага я вырашыць не магу. Не маю на гэта права. Сам згаджаўся, што будзем жыць у лепшым калгасе. А раз наш калгас аказаўся горшым, дык выходзіць, што ў гэтай спрэчцы я сам сябе прайграў. Як прайграны жаніх, я здаюся на волю і на міласць нявесты: як Настасся Рыгораўна скажа, так і будзе.

Галасы: — Брава!

— Наша ўзяло!

— «Светлы шлях» перамог!

Бурныя воплескі Насцінай дружыны.

Пытляваны. Чакайце! Мы яшчэ не чулі слова маладой.

Насця. Дапамажы, мама! Не ведаю, што мне сказаць на гэта.

Тумiловiч. Не аддавай, матка! Тваё права.

Усе глядзяць на Аўдоццю, чакаючы, што яна скажа.

Аўдоцця. Шкада мне, дачушка, расставацца з табою. Адна ты ў мяне засталася — уцеха мая, і тую трэба людзям аддаць. Але што ж зробіш? Не адной матцы патрэбны яе дзеці. Яны і людзям патрэбны, і Радзіме патрэбны. Для гэтага мы іх і гадуем. Часамі матцы і сэрца сваё трэба суняць. Хіба ж яно не балела ў мяне, калі я Міхаську, брата твайго, на вайну выпраўляла? А адпусціла, благаславіла. Радзіма большая маці, чым я. Ну, а цябе ж я, дачушка, не на вайну выпраўляю. Людзі да цябе з пашанай ставяцца, дапамагчы просяць, і адмаўляць тут ніяк не выпадае. *(Да Туміловіча.)* І ты, Ваня, не ўпірайся вельмі. Дапамаглі вы ім памылкі гэтыя ўразумець, то дапамажыце ўжо і выправіць. Гэта не толькі для іх, але і для справы таксама, для Радзімы.

Насця *(устае з-за стала і падыходзіць да маці)*. Дзякую табе, мамачка, за параду. *(Абнімае і цалуе яе.)* Сумленне мне тое самае кажа, ды баялася я цябе пакрыўдзіць. Цяпер я зраблю, як ты мне раіш. Калі мяне людзі паважаюць, дык яны і працаваць мне дапамогуць, каб я і ў іх не апошняй была. А як працаваць, пра гэта мы з Міколам Сымонавічам дагаварыліся. Ёсць у нас намеры харошыя і планы вялікія, якія мы разам выношвалі. Разам і ў жыццё іх праводзіць будзем.

Насця выйшла і села побач з Міколам.

М і к о л а в а  д р у ж ы н а. Ура! Брава! Наша ўзяло!
Г а л а с ы. Горка! Маладым горка!

Насця і Мікола цалуюцца. Усе ім горача апладзіруюць.

П ы т л я в а н ы *(радасна ўзбуджаны)*. І старым таксама горка. *(Падбягае і цалуе Аўдоццю.)* Дзякую, свацейка! Выручыла ты нас. Сэрца ў цябе залатое. А галава дык я ўжо і не ведаю, як сказаць... міністэрская, не іначай.

Т у м і л о в і ч. Вось і прайграны жаніх! Выйгрышны пройгрыш у цябе, Мікола Сымонавіч. Ад такога ніхто б не адмовіўся. Ну, што ж, запамагайцеся з нашай дабраты, жывіце на здароўе. А мы сабе яшчэ такіх дзяўчат выгадуем.

Н а с ц я. Дзякую, Іван Міхайлавіч, табе за навуку, за ўсё добрае, што ты для мяне зрабіў. Дзякую ўсім, хто прывітаў мяне шчырым словам і пажадаў шчасця-долі на новай дарозе. Няхай прабачаць мне мае сяброўкі і ўсе калгаснікі «Светлага шляху», што я іх пакідаю, а наваніўцаў прашу прыняць мяне, як родную, у сваю калгасную сям'ю.

Апладысменты.

А ў д о ц ц я. Падзякуйце, дзеткі мае, за сваю шчаслівую долю нашай роднай Камуністычнай партыі.

К а н е ц

*1950*

# ЗАЦІКАЎЛЕНАЯ АСОБА

*П'еса ў чатырох актах,*
*дзевяці карцінах*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Сухадольскі Павел Міхайлавіч — галоўны інжынер аўтазавода.
Антаніна Пятроўна — яго жонка.
Генадзій — іх сын.
Русаковіч Андрэй Данілавіч — галоўны канструктар.
Марыя Васільеўна — яго жонка.
Шугаеў Барыс Пятровіч — дырэктар аўтазавода.
Страмілін Антон Ільіч — парторг.
Зоя Кірылаўна — яго жонка.
Фёдар Мікалаевіч — міністр аўтамабільнай і трактарнай прамысловасці.
Надзя Засецкая — хатняя работніца Сухадольскіх, потым свідравальшчыца.
Валя Жукавец — Надзіна сяброўка, работніца цэха нармалей.
Валодзя Стальмашонак — каваль-штампоўшчык.
Курыльчык — майстар.
Патапаў — майстар.
Падабед Раман Пракопавіч — стары рабочы.
Паўтарак — шафёр.
Целеш — начальнік вытворчасці.
Угараў — начальнік аддзела тэхнічнага кантролю.
Вера Халімончык — навенькая на заводзе.
Шылаў — дырэктар трактарнага завода.
Сазонаў — сакратар партарганізацыі будаўнічага ўчастка.
Рэферэнт міністра.
Дзяўчына — сакратар у прыёмнай Шугаева.
Рабочыя і работніцы.

## АКТ ПЕРШЫ

### Карціна першая

Вясна ўбіраецца ў сілу. Чыгуначная платформа. На пуцях састаў, гружаны самазваламі. На пярэдняй аўтамашыне транспарант: «Будаўнікам Волга-Дона ад беларускага народа». Паступова на платформе збіраецца народ. На пярэднім плане маладая дзяўчына ў спяцоўцы. Гэта лепшая работніца цэха нармалей Валя Жуковец. Яна падыходзіць да высокага плячыстага хлопца, які, прыжмурыўшыся ад сонца, углядаецца ў вышыню.

Валя. Добры дзень, Валодзя!

Валодзя *(не перастаючы глядзець угору, працягвае ёй руку)*. Добры дзень, Валёк!

Валя. Што ты там цікавае ўбачыў?

Валодзя. Ніяк не разбяру — самалёт ці птушка?

Валя *(таксама задзірае галаву)*. Дзе?

Валодзя. Вунь там, правей белай хмаркі.

Валя *(углядаецца)*. Дык ты ж сляпы, Валодзечка: гэта бусел.

Валодзя *(углядаецца)*. Не, зрок у мяне нармальны.

Валя. Значыць, у мяне ненармальны.

Валодзя. Я ў цэху добра бачу.

Валя. Якую ты дэталь штампуеш?

Валодзя. Паваротны кулак.

Валя. Ну, гэта дэталь сама з бусла велічынёй, дзіва, што ты яе бачыш.

Валодзя. Бусел прыляцеў, значыць, вясна.

Валя. Вясна, брат. Можна на курорт ехаць.

Валодзя. Пачакай — на курорт, мне яшчэ экзамены трэба здаваць.

Валя. Праўда ж, ты вячэрнюю школу канчаеш. *(Да Надзі, якая праходзіць міма.)* Надзюша!

Надзя *(абарочваецца)*. Валя! Здарова! А я цябе і не пазнала ў гэтым убранні.

Вітаюцца за рукі.

Валя *(глядзіць у кашолку)*. Салацік, радысачка. *(Бярэ ў рукі пучок салаты. Да Валодзі.)* Вось дзе вясна! Не тое што твой бусел.

Валодзя. Гэта з парніка, а мой бусел не парніковы.

Валя *(да Надзі)*. Ну, як ты жывеш?

Надзя. Ты ж ведаеш.

Валя. Усё на тым жа месцы?

Надзя. На тым самым.

Валя. А сюды як заблудзіла?

Надзя. Бачу — плакаты, народ збіраецца, дай, думаю, гляну, што тут такое.

Валя. Свята ў нас сёння.

Надзя. Зайздрошчу я табе, Валя.

Валя. Чаго?

Надзя. Дурная была, што не пайшла з табой у рамеснае.

Валя. Гэта яшчэ можна паправіць.

Надзя. Позна.

Валя. У рамеснае позна, а на завод не позна. Валодзя, знаёмся. Гэта мая зямлячка і сяброўка. Разам з калгаса ў горад падаліся. *(Надзі.)* А гэта наш лепшы каваль-штампоўшчык.

Валодзя *(падае руку)*. Стальмашонак.

Надзя. Засецкая.

Валя. Ты бедаваў, што білет прападзе. Вось запрасі Надзю.

Валодзя. З прыемнасцю. *(Да Надзі.)* Хочаце сёння на спектакль?

Надзя. На які?

Валодзя. «Рамэо і Джульета». З горада тэатр прыязджае.

Надзя *(у нерашучасці)*. Не ведаю...

Валя. Гэта я павінна была з ім ісці, але сёння на другой змене.

Надзя. Мы ж і не знаёмыя як мае быць.

Валя. Не бойся, я за яго ручаюся. Толькі май на ўвазе, што ў тэатры ён мне заўсёды купляе апельсіны або шакалад. Калі забудзе, дык ты яму напомні.

Валодзя. Добра. Я буду чакаць вас пры ўваходзе ў клуб.

Надзя. Калі гаспадыня пусціць...

Валодзя. А хто ваша гаспадыня?

Валя. Яна ў галоўнага інжынера... хатняй работніцай.

Страмілін *(падыходзіць)*. Валянціна, скажаш некалькі слоў?

Валя. Я?

Страмілін. Ну, так, ты. Як будзеш пісьмо падпісваць.

Валя. Антон Ільіч, ды я ж не ўмею!

Страмілін. Пару слоў. Аб тым, як будзеш працаваць. *(Да Валодзі.)* І ты, каваль, таксама.

Валодзя. Можа, я лепш молатам скажу свае слова?

Страмілін. Молатам ты выказваешся нядрэнна, але ж і языком трэба крыху ўмець. Нябось з дзяўчатамі дык ты ўмееш: адразу дзвюх прыгаварыў. *(Адыходзіць.)*

Валодзя *(Да Валі)*. Вось і ўліплі мы з табой.

Валя. Хоць бы падумаць трошкі.

Валодзя *(да Русаковіча, які праходзіць міма)*. Са святам вас, Андрэй Данілавіч!

Русаковіч *(спыняецца і вітаецца)*. З якім?

Валодзя. Ну як жа, вы ж сёння імяніннік, можна сказаць. *(Ківае ў бок эшалона.)*

Русаковіч. Мы ўсе патрошку імяніннікі. *(Ідзе насустрач Сухадольскаму.)* Прывітанне, Павел Міхайлавіч!

Сухадольскі. Добры дзень, Андрэй Данілавіч.

Русаковіч. Ёсць што-небудзь новае?

Сухадольскі. Ёсць добрыя водзывы... І дзве скаргі.

Русаковіч. Зноў падрамнік?

Сухадольскі. Так.

Русаковіч. Відаць, прыйдзецца мяняць канструкцыю.

Сухадольскі. Не спяшайцеся. Яшчэ невядома, чаму яны даюць трэшчыну.

Русаковіч. У мяне ёсць некаторыя меркаванні. Калі можна будзе з вамі падзяліцца?

Сухадольскі. Чаго вы не ўпыніцеся? Я ж, як галоўны інжынер, адказваю за прадукцыю ў першую чаргу.

Русаковіч. Мяне непакоіць лёс машыны. Калі яна зразу дрэнна сябе пакажа, то потым падымаць яе рэпутацыю цяжка будзе. Я не хачу правальвацца на першай сваёй самастойнай рабоце.

Сухадольскі. Непакоіцца пакуль што няма чаго. Вось папрацуюць на Волга-Доне, тады будзе відаць. *(Праходзіць.)*

Валодзя. Не любіць лішняга клопату Павел Міхайлавіч.

Русаковіч. Хоча пачакаць, пакуль карціна праясніцца. А мяне трывога бярэ.

Валодзя. Вядома, гэта ж ваша дзіця роднае.

Русаковіч. Так. І рад, што хадзіць пачало, і баюся, каб нос не разбіла.

Уваходзіць Паўтарак з чамаданчыкам у руках.

Паўтарак. Добры дзень, Андрэй Данілавіч!

Русаковіч. Добры дзень, таварыш Паўтарак!

Паўтарак. І бывайце здаровы!

Русаковіч. Шчаслівага падарожжа. Не забудзьцеся на маю просьбу. Калі паломка якая — пішыце падрабязна: па якой прычыне, пры якіх абставінах.

Паўтарак. Добра, Андрэй Данілавіч.

Валодзя. Што, Міша, едзеш?

Паўтарак. Еду, брат.

Валодзя. Глядзі ж, не падкачай.

Паўтарак. Пастараюся.

Валодзя. Шчаслівага табе падарожжа!

Паўтарак. Бывай, браток! Давай пацалуемся на развітанне. Сябры ўсё-такі. *(Цалуюцца. Да Валі.)* Цябе таксама ведаю. *(Цалуецца з Валяй. Спыняецца ў нерашучасці перад Надзяй.)* А гэта як быццам не наша.

Валя. Цалуй, будзе наша.

Паўтарак. Ну, давай і з табой, так і быць. *(Цалуе Надзю і, радасна ўсхваляваны, адыходзіць.)*

Страмілін *(становіцца на падножку платформы)*. Таварышы аўтазаводцы! Сёння ў нас выдатны дзень. Мы адпраўляем першы эшалон нашых самазвалаў на Волга-Дон. У пісьме мы ад усяго калектыву запэўніваем будаўнікоў Волга-Дона, што апраўдаем іх высокае давер'е.

Апладысменты.

Слова мае дырэктар завода Барыс Пятровіч Шугаеў.

Шугаеў. Таварышы! Гэты адказны дакумент павінны падпісаць лепшыя людзі нашага калектыву. Папросім паставіць першым свой подпіс аўтара гэтай выдатнай машыны — галоўнага канструктара завода таварыша Русаковіча.

Апладысменты.

Русаковіч. Таварышы! Я стаўлю тут свой подпіс з вялікім хваляваннем. Машына наша пасылаецца туды, дзе ёй прыйдзецца працаваць у незвычайных умовах. Можа здарыцца, што якія-небудзь яе часткі і не вытрымаюць выпрабавання. Не вытрымаюць па маёй віне, а цень ляжа на ўвесь наш калектыў. І ўсім нам будзе балюча, бо ўсе мы ўлажылі ў яе сваю долю працы, сваё сэрца.

Я абяцаю сачыць за кожным крокам нашага самазвала і, калі выявяцца якія-небудзь непаладкі, адразу ж іх выпраўляць.

Апладысменты. Русаковіч падпісвае пісьмо.

Шугаеў. Майстар цэха нармалей таварыш Патапаў.

Патапаў. Я, таварышы, не беларус. Я гаркаўчанін. Мяне і маіх сяброў паслала сюды партыя, каб мы перадалі маладым беларускім кадрам свой вопыт. Мы гэта і робім па меры нашых сіл. Дваццаць чатыры стаханаўцы майго ўчастка — гэта маладыя беларускія рабочыя, якія выраслі на маіх вачах.

Абяцаю і надалей любоўна расціць маладыя кадры. *(Падпісвае пісьмо.)*

Ш у г а е ў. Лепшы стаханавец кавальскага цэха Уладзімір Стальмашонак.

В а л о д з я. Куючы дэталі для самазвала, мы, кавалі, разам з усім савецкім народам куём шчасце нашай Радзімы. Мая брыгада будзе і далей даваць толькі выдатную прадукцыю. *(Падпісвае пісьмо.)*

Ш у г а е ў. Стаханаўка цэха нармалей Валянціна Жукавец.

В а л я. Таварышы! Я чалавек невялікі на заводзе. І дэталі мае маленькія — шрубкі, гайкі, болцікі. Але я разумею, што мае малыя дэталі патрэбны для вялікай справы. Таму ўсе яны сагрэты цяплом маіх рук і майго сэрца. Бяруся выконваць месячнае заданне на дзвесце дваццаць працэнтаў.

Апладысменты. Валя падпісвае пісьмо.

Ш у г а е ў. Стаханавец зборачнага цэха Раман Пракопавіч Падабед.

П а д а б е д *(надзявае акуляры і старанна выводзіць подпіс. Разглядае)*. Здаецца, не сапсаваў. У рабоце таксама не падгаджу.

Ш у г а е ў. Уручаем вам, таварыш Паўтарак, гэты дарагі дакумент. Кланяйцеся ад нас валгадонцам.

П а ў т а р а к. Таварышы! Я перадам гэта пісьмо і ваша гарачае прывітанне будаўнікам Волга-Дона. Што да мае працы, дык пастараюся, каб вам сорамна за мяне не было. Думаю, што і мне там не прыйдзецца чырванець за марку нашага завода. Бывайце здаровы, жывіце багата!

Кланяецца. Апладысменты. Падыходзіць да Падабеда.

Бывай, дзядзька Раман! *(Цалуюцца.)*

П а д а б е д. Глядзі ж, пляменнічак! Калі што якое — прыеду, дык мала не будзе.

В а л о д з я *(падыходзіць)*. Ну, падпісалі, цяпер трымайся!

Свісток. Аркестр іграе марш. Састаў павольна кратаецца. Народ апладзіруе. У кузаве пярэдняй машыны з папкай пад пахай стаіць П а ў т а р а к. Ён на развітанне махае шапкай. У адказ яму махаюць рукамі, касынкамі, насавымі хусцінкамі.

Н а д з я. Паехалі твае болцікі.

В а л о д з я. Пайшлі нашы самазвалы бушаваць.

В а л я. Хоць бы ўсё добра было.

## Карціна другая

Вясновы адвячорак. Кухня ў Сухадольскіх. На стале бутэлькі, бакалы, чаркі, талеркі з нарэзанай закускай. Надзя перацірае пасуду, не адрываючы вачэй ад кніжкі, якая ляжыць на падаконніку. Захапіўшыся, яна на момант застывае з прыцiснутай да грудзей талеркай. Уваходзіць Антаніна Пятроўна.

Антаніна Пятроўна. Так мая душа і чула.

Надзя *(спалохана)*. Што, Антаніна Пятроўна?

Антаніна Пятроўна. Тое, што ты работы не робіш, а глупствам займаешся.

Надзя. Я толькі адным вокам. Кніжка вельмі цікавая.

Антаніна Пятроўна. Ты вось хутчэй пасуду перацірай. Трэба стол рыхтаваць, зараз госці прыйдуць. *(Выходзіць.)*

Надзіны рукі захадзілі жвавей, а вочы па-ранейшаму прыкаваны да кніжкі. У дзвярах паказваецца галава Валі.

Валя. Надзюша!

Надзя. Тфу, тфу, тфу! Ледзь я талерку не ўпусціла. Заходзь.

Валя *(уваходзіць у спартыўным касцюме)*. Як маешся? *(Цалуюцца.)*

Надзя. Ды вось бачыш — маюся. А ты адкуль гэта ўзялася?

Валя. З тваім Валодзем на веласіпедах ганяліся. Забегла запытацца — можа, разам у кіно пойдзем?

Надзя. Табе ж ёсць з кім ісці ў кіно.

Валя. Прыраўнавала. Не бойся, не перахаплю. Вунь тваё золата *(паказвае на акно)*, глядзіць і вачэй не спускае... Ды глянь жа ты хоць, адпусціся!

Надзя глядзіць у акно, махае рукой, усміхаецца. Адмоўна круціць галавой. Бярэ чарку і паказвае, што будуць піць.

Валя. Не пойдзеш?

Надзя. Няма як. Госці ў нас сёння.

Валя. Якія?

Надзя. Паўлу Міхайлавічу пяцьдзесят год.

Валя. Каму пяцьдзесят год, няхай той і сядзіць дома.

Надзя. Дай ты рады.

Валя. Кідай ты гэтыя чарапы ды прыходзь хутчэй да нас на завод.

Надзя. Я ўжо надумала.

Валя. Дык чаго ж ты марудзіш?

Надзя. Антаніна Пятроўна просіць, каб пабыла, пакуль другую дзяўчыну знойдзе.

Валя. Што табе за выйгрыш тут? Як шчыра ні служы, славы не заслужыш. А там перад табою — шырокая дарога.

Н а д з я. Я гэта ведаю, але страшнавата неяк.
В а л я. Чаго?
Н а д з я. А раптам не патраплю?
В а л я. А як жа я патрапляю?
Н а д з я. Дык ты ж рамеснае скончыла, а я, апрача мясарубкі, ніякага станка і ў вочы не бачыла.
В а л я. Да нас і такія паступаюць. Пройдзе месяц-два, глядзіш — ужо норму перавыконвае.
Н а д з я. Заўтра ж іду на завод. Чакай, пакуль яна адпусціць, дык яшчэ паўгода будзеш тут чарапамі бразгаць.
В а л я. Калі і сама памые пасуду, дык рукі не адваляцца. Вялікая сям'я ў іх?
Н а д з я. Трое. Самі ўдваіх і Генька пракляты.
В а л я. Сын?
Н а д з я. Ага. Ды такі ж разбалаваны. Проста ў косці ўеўся.
В а л я. Малы?
Н а д з я. Добры малы... З тэлеграфны слуп. Вунь чуеш — раве, як бугай.

Чуваць арыя, якую ў далёкім пакоі напявае Генадзій.

В а л я. Дык што ты так на яго?
Н а д з я. Прыстае — рады няма. Думае, дурніцу знайшоў.
В а л я. Пляснула б мокраю анучаю па зубах, і няхай бы аблізваўся.
Н а д з я. Ды я з ім не вельмі цырымонюся.

Арыя набліжаецца.

В а л я. Мусіць, сюды ідзе. Ну, бывай! *(Цалуюцца.)* Што Валодзю перадаць?
Н а д з я. Каб не сумаваў без мяне.
В а л я. Можа, пасля кіно сустрэнецеся?
Н а д з я. Не ўдасца, відаць.
В а л я. Бедная Надзюшка!

В а л я выходзіць. Надзя глядзіць у акно і махае Валодзю рукой. Пасылае пацалунак.

Г е н а д з і й *(за сцэнай)*. «Сатана там правит бал, там правит бал, там правит бал».
Н а д з я *(бярэцца зноў за талеркі)*. Сам ты сатана.

Г е н а д з і й уваходзіць і шырокім жэстам абводзіць закуску і бутэлькі.

Г е н а д з і й. «Сатана там правит бал, там правит бал, там правит бал».
Н а д з я. Гэта ваш бацька правіць бал, а вы яго сатаной называеце.

Генадзій. Не размаўляць! Бацька мой, а не твой: як хачу, так і называю.

Надзя. Ды мне што...

Генадзій. Э, ды тут і каньячок! *(Бярэ ў рукі бутэльку.)* О, С.! Што гэта значыць — ты не ведаеш?

Надзя. Я наконт гэтага непісьменная.

Генадзій. А, разумею: он самый. *(Бярэ чарку і налівае.)*

Надзя. Што вы робіце!

Генадзій *(паказвае на горла)*. Перасохла, разумееш. Як толькі ўбачыў, адразу і перасохла. *(Куляе чарку.)* Вось і ўсё. І чаго было хваляваццa?

Надзя. Бутэлька ж няпоўная.

Генадзій. А гэта мы зараз... *(Бярэ графін з вадой і далівае бутэльку.)*

Надзя. А-я-яй! Вы ж пітво сапсавалі.

Генадзій. Не хвалюйся, вадзічка гатаваная.

Надзя. Скажу Паўлу Міхайлавічу, будзе вам!

Генадзій. Скажаш?

Надзя. А што ж, маўчаць буду? Яшчэ каб на мяне падумалі.

Генадзій *(з жартаўлівай пагрозай)*. Ага, дык ты скажаш. *(Наступае на Надзю, хоча яе абняць.)*

Надзя *(выкручваецца)*. Адстаньце, Генадзій Паўлавіч! Адстаньце, кажу, пасуду паб'яце.

Генадзій схапіў Надзю за плечы і намагаецца пацалаваць. Надзя кідае талерку аб падлогу. Генадзій выбягае з кухні. Надзя ціхенька рагоча. Уваходзіць Антаніна Пятроўна.

Антаніна Пятроўна. Зноў талерку разбіла! Што гэта з табой робіцца? Ты мне так усю пасуду пераглушыш. *(Падымае чарапкі.)* І талерка сервізная, фарфоравая. Не, галубка, прыйдзецца вылічыць з цябе за гэту талерку.

Надзя. Гэта Генадзій Паўлавіч, з яго і вылічвайце.

Генадзій *(прасоўвае ў дзверы галаву)*. Няпраўда, мама, гэта яна. Рукі, як граблі: так усё і валіцца з іх.

Надзя. Генадзій Паўлавіч каньяк піў, а я не давала, вось ён мяне і штурхнуў.

Генадзій. Хлусіць, хлусіць! Хлусіць! Ніякага каньяку я не піў. Глянь, усе бутэлькі поўныя.

Антаніна Пятроўна. Колькі ты мне ўжо талерак перабіла! Напэўна, штук пятнаццаць.

Надзя. Столькі, колькі разоў Генадзій Паўлавіч на кухню забягаў. Вось і палічыце. І наогул, Антаніна Пятроўна, сёння я ў вас апошні дзень. Пасуду памыю пасля гасцей — і бывайце здаровы. Вось вам хамут і дуга, і я вам больш не слуга.

Антаніна Пятроўна. Які хамут? Што ты такое гародзіш?

Надзя. А вось такі... Абрыдлі мне гэтыя чарапы. На завод пайду.

Антаніна Пятроўна. Славы захацела? Можа, стаханаўкай думаеш быць?

Надзя. А чаму б і не? Што я — горшая за людзей?

Антаніна Пятроўна. Не з тваім, мусіць, спрытам. У цябе талеркі і то ляцяць з рук, а аўтамабільныя дэталі гэта табе не талеркі.

Надзя. Вядома, што не талеркі. Яны жалезныя; калі і ўпадзе, дык не разаб'ецца.

Антаніна Пятроўна. Ну што ж, дай Божа нашаму цяляці воўка спаймаці.

Надзя. Гэта я ў вас цяля, а там, можа, і чалавекам буду.

Антаніна Пятроўна. Ладна, чалавек... Нясі пасуду расстаўляй. Пра гэта заўтра пагаворым.

Надзя бярэ стопку талерак і выходзіць. Антаніна Пятроўна раскладае на блюдзе нарэзаную цяляціну. Сухадольскі ўваходзіць з брытвенным прыборам.

Сухадольскі. Вадзічкі гарачай у цябе няма?

Антаніна Пятроўна. Вунь, у чайніку.

Сухадольскі *(налівае ваду)*. Ну як, закускі хопіць?

Антаніна Пятроўна. Думаю, што хопіць. Не з галоднага краю прыехалі.

Сухадольскі. А выпіўкі?

Антаніна Пятроўна. Гэта не па маёй часці.

Сухадольскі *(лічыць бутэлькі)*. Па паўлітра на брата. Хопіць.

Антаніна Пятроўна. Гледзячы які брат. Другі літра паўтара выжлукціць.

Сухадольскі. Такіх не будзе. Адзін Русаковіч можа крыху выпіць.

Антаніна Пятроўна. Вось каго б я не хацела бачыць за сваім сталом.

Сухадольскі. Нельга, разам працуем, сябрамі лічымся.

Антаніна Пятроўна. Не мог ты на пасаду галоўнага канструктара лепшага чалавека знайсці.

Сухадольскі. Ён нядрэнны хлопец. Лепшым маім вучнем быў некалі.

Антаніна Пятроўна. Далёка вельмі глядзіць гэты твой вучань. Каб не падтаптаў ён пад ногі самога настаўніка.

Сухадольскі. Ужо і падтаптаў... У мяне яшчэ хопіць аўтарытэту, каб паставіць на месца, калі што якое...

Уваходзіць Надзя, бярэ чарговую стопку талерак і моўчкі выходзіць.

Сухадольскі. Што вы, пасварыліся?

Антаніна Пятроўна. Закруціла дзяўчыне ў носе. На завод хоча ісці.

Сухадольскі. То няхай ідзе, чаго ты яе трымаеш?

Антаніна Пятроўна. Шкада адпускаць. Дзяўчына ўвішная, нічога не скажаш. І не злодзей. Прыйдзе з рынку, усё да капеечкі падлічыць і аддасць. Толькі пасуду б'е. Дня не пройдзе, каб чаго не разбіла, і ўсё на Геньку складвае.

Сухадольскі. Можа, ён прыстае да яе?

Антаніна Пятроўна. Таксама скажаш! Ён жа яшчэ дзіця горкае.

Сухадольскі. Ты глядзі. Я сёе-тое заўважаю. Каб гэта дзіця не нарабіла нам з табою сораму.

Уваходзіць Надзя, бярэ новую стопку талерак, Антаніна Пятроўна і Сухадольскі выходзяць. Праз хвіліну ў дзвярах з'яўляецца Генадзій і заступае Надзі дарогу.

Генадзій. Ну што, паскардзілася? Думала, мяне павесяць за гэта?

Надзя. Дзе ж вас, такога пестуна, будзе хто ўшчуваць. Хоць на галаве хадзіце, дык вам ніхто слова не скажа.

Генадзій. Зараз мы паходзім крыху на галаве. *(Наступае на Надзю.)*

Надзя *(адступаецца да пліты)*. Генадзій Паўлавіч!

Генадзій. Ого, якія мы грозныя!

Надзя *(падымае ў руках талеркі)*. Вось толькі кранiце, дык так і плясну аб падлогу. Фарфоравыя!

Генадзій адступае. Надзя з талеркамі выходзіць.

Генадзій *(круціць галавой)*. Глядзі ты!

## Карціна трэцяя

Заводскі пасёлак. Вуліца каля дома Сухадольскіх. Воддаль панарама аўтамабільнага завода. На ўзроўні другога паверха балкон. Шкляныя дзверы на балкон ярка асветлены, з пакоя чуюцца гукі раяля.

З пад'езда на вуліцу, распранены, выходзіць Русаковіч. Ён на поўныя грудзі ўдыхае свежае паветра. За ім, з летнім паліто ў руках выходзіць Марыя Васільеўна.

Марыя Васільеўна. Чаго ты выбег распранены?

Русаковіч. Душна мне ад яго гаворкі.

Марыя Васільеўна *(накідвае на плечы Русаковіча паліто)*. Аж упацеў, бедны, спрачаючыся.

Русаковіч. Сама прастудзішся. *(Акрывае яе крысом паліто.)*

Марыя Васільеўна. І чаму ты ў мяне такі задзірысты?

Русаковіч. Такі ўдаўся.

Марыя Васільеўна. Бяда мне з табой. Так і бойся, што дзе-небудзь пасуду паб'еш.

Русаковіч. Цяжка табе?

Марыя Васільеўна. А то лёгка, думаеш, з такім сукаватым?

Русаковіч. А ты вазьмі сабе абцякаемага.

Марыя Васільеўна *(смяецца)*. Ну і выдумае! Абцякаемага.

Русаковіч. Будзеш жыць без ніякага клопату.

Марыя Васільеўна. Не ўжо, няхай лепш будзе задзірысты.

Русаковіч. Табе ж цяжка.

Марыя Васільеўна. Нічога, пацярплю... Эх ты, няўрымслівы. *(Цалуе яго ў шчаку.)*

З дома чуецца песня «Далеко, далеко...». Яны паціху падпяваюць.

Русаковіч *(ківае ў бок дома)*. А ён жа раней не такі быў. Помню, як выкладаў у інстытуце... Іскра Божая была ў ім. А тут нейкі мех жыцейскай мудрасці. Нуднай, але ўтульнай. Дзе толькі трэба паварушыцца, загарэцца,— яна тут як тут: не трэба, небяспечна, планам не прадугледжана.

Марыя Васільеўна. Ты ж яго ўсё роўна не пераробіш, дык чаго ты гарачышся?

Русаковіч. Ён мне жыць замінае. Вунь, глядзі, які прастор! Зямля, неба, зоры — усё да нашых паслуг. Любуйся, пазнавай, перарабляй на радасць чалавеку. А тут мех мудрасці жыцейскай. Не магу!

З пакоя чуюцца гукі вальса.

Марыя Васільеўна. Ну, годзе ўжо... Мех дык мех. Хадзем лепш патанцуем. *(Цягне яго да дзвярэй.)*

Русаковіч *(упіраецца)*. Вось яшчэ выдумала!

Марыя Васільеўна. Я так даўно не танцавала. Усё табе часу няма. Нябось, як кавалерам быў, дык і час знаходзіў.

Русаковіч *(здаючыся)*. Цесна ж там.

Марыя Васільеўна. Дык давай тут.

Русаковіч *(скідае паліто)*. Ну, трымайся, малая!

Яны кружацца ў вальсе. Марыя Васільеўна спатыкаецца. Русаковіч яе падхоплівае і цалуе ў вусны. Яна шчасліва смяецца.

Надзя (*выходзіць на балкон*). Марыя Васільеўна-а! Вас да стала просяць.

Русаковіч. А што там на стале?

Надзя. Парася.

Русаковіч. Чуеш, Маша!

Марыя Васільеўна. Ідзём, Надзюша! (*Русаковічу.*) Ты ўжо не пі больш, а то яшчэ пасварыцеся.

Русаковіч. Піць не буду, а сварыцца, мусіць, буду.

Ідуць у дом. Надзя застаецца на балконе. Па ўсім відаць, што яна некага чакае. Воддаль чуюцца галасы.

Надзя (*прыслухоўваецца*). Ідуць.

Чуваць смех Валі.

Ім весела, чэрці. Цікава, пра што яны гавораць.

Адыходзіць у цень, прыпіраецца да сцяны, прытойваецца. Паказваецца Валодзя пад руку з Валяй.

Валя. Так яна цябе і чакае.

Валодзя. А што ты думаеш, можа, і чакае.

Валя (*падражнівае*). А як жа! Толькі ты ў яе і ў галаве.

Валодзя. А хто ж яшчэ?

Валя. Ха-ха-ха! Наіўны хлопец.

Валодзя (*узрадаваны*). А вось і ў галаве! А вось і ў галаве! Вунь яна, на балконе стаіць.

Валя (*спыняецца, нібыта ўглядаецца*). Дзе? Нічога не бачу.

Надзя павольна апускаецца і садзіцца на балконе за крэслам.

Валя. Гэта яна табе ў вачах стаіць. Так набраў у галаву, што здані здаюцца. Як гэта там па-вучонаму называецца?

Валодзя. Галюцынацыя, думаеш?

Валя. Вядома.

Валодзя (*углядаючыся*). Сапраўды... Гэта нейкая бочка стаіць на балконе.

Валя рагоча.

Дурны смех на цябе напаў.

Валя. Бочку палічыў за сваю каханую. (*Рагоча.*) Я ж казала, што ты сляпы.

Валодзя. Гэта ж табе, можа, не дзень. Вельмі тут разгледзіш.

Валя. А яна такі і праўда крыху на бочку падобна.

Валодзя. Сціхні, не пасыпай солі на раны.

Адыходзіцца на сярэдзіну вуліцы, падымаецца на цыпачкі, стараецца заглянуць у пакой.

**В а л я.** Што? Не дарос крышку да другога паверха?

Валодзя падае ціхі свіст.

**В а л я.** Пасвішчы, пасвішчы. Вось зараз гаспадар выйдзе ды як свісне па патыліцы.

**В а л о д з я.** Ёй няма часу, вядома: гасцей трэба даглядаць. То падай, то прымі.

**В а л я** *(іранічна)*. Ну, вядома.

**В а л о д з я.** Што ты гэтым хочаш сказаць?

**В а л я.** А тое, што не адзін каваль мурзаты ў яе галаве. За ёю вунь студэнт прысмальвае.

**В а л о д з я.** Які студэнт?

**В а л я.** З політэхнічнага інстытута.

**В а л о д з я.** Гэта ты хлусіш, мусіць.

**В а л я.** Сама расказвала... Праходу, кажа, не дае.

**В а л о д з я.** Падумаеш, важнасць вялікая — студэнт!

**В а л я.** Студэнт, брат, гэта ўсё-такі студэнт, як ты ні кажы.

**В а л о д з я.** Вось скончу вячэрнюю школу, паступлю восенню на завочны факультэт...

**В а л я.** Што восень! Восень яшчэ далёка, а цяпер вясна, сама што кроў іграе.

**В а л о д з я.** Ды яно ўсё можа быць.

**В а л я** *(бярэ Валодзю пад руку)*. Хадзем, Валодзечка. Мне цябе проста шкада. Ці варта праз нейкую легкадумную дзяўчынку так хваляванца.

Засмучаны, Валодзя паслухмяна ідзе з ёю.

**Н а д з я** *(выйшаўшы са сховішча)*. Ну і свіння ж ты, Валька!

**В а л я** *(рагоча)*. Што, не выцерпела?

**В а л о д з я** *(пакідае Валю і падбягае да балкона)*. Надзя!

**В а л я.** Вось дык кавалер! Кінуў дзяўчыну сярод ночы на вуліцы.

**В а л о д з я.** Прабач, Валёк! Надзюша, ты пачакай мінут пятнаццаць, я правяду Валю і зараз вярнуся.

**Н а д з я.** Можаш сабе і не варочацца.

Валодзя, разгублены, не ведае, што яму рабіць.

**В а л я.** Ну, ладна, чэрці паласатыя. Мілуйцеся сабе, я і адна зайду. Спакойнай ночы!

**В а л о д з я.** Спакойнай ночы, Валёк! Ты ўжо даруй мне...

**Н а д з я.** Пабяжы, на калені стань ды перапрасі.

**В а л о д з я.** А ты ўжо і прыраўнавала.

**Н а д з я.** Глядзі, брат, за двума зайцамі пагонішся, ніводнага не зловіш.

Валодзя. За гэтым зайцам я не ганяюся.
Надзя. Дык, можа, заяц за табой?
Валодзя. У нас з ёю старая дружба.
Надзя. Я чула, як яна тут міну падводзіла пад мяне.
Валодзя. Дражнілася. Ты ж яе ведаеш.
Надзя. А наконт студэнта ты так і паверыў?
Валодзя. У жыцці ўсяк здараецца. Чым чорт не жартуе, думаю сабе.
Надзя. За каго ж ты мяне лічыш?
Валодзя. За харошую дзяўчыну.
Надзя. Якая можа кахаць двух адразу?
Валодзя. Якую могуць кахаць два адразу. Адзін горача, ад шчырага сэрца, а другі так сабе, для забавы.
Надзя. Каторы ж гэта ад шчырага сэрца?
Валодзя. А вось гэты, што стаіць тут пад балконам і вачэй не зводзіць.
Надзя. «Какие перышки, какой носок!»
Валодзя. Не верыш? Здзекуешся з майго гарачага пачуцця.
Надзя. Я нешта не адчуваю гэтай гарачыні.
Валодзя. Спусціся сюды, дык адчуеш.
Надзя. Яшчэ спускацца трэба. Помніш, мы глядзелі спектакль «Рамэо і Джульета»? Той, брат, не чакаў, пакуль да яго спусцяцца.
Валодзя. Дык таму вераўчаную лесвіцу падрыхтавалі. Але і мы зараз што-небудзь прыдумаем. *(Аглядаецца навокал.)* Вунь, здаецца, вяроўка. *(Ідзе па вяроўку.)*
Надзя *(занепакоілася)*. Не чапай вяроўкі! Мне заўтра бялізну трэба вешаць. *(Ласкава.)* Ідзі сюды, дурненькі.

Валодзя падыходзіць.

Выдумаў! Яшчэ заб'ешся, лезучы!
Валодзя. А чаго ж ты...
Надзя. І пажартаваць ужо нельга.
Валодзя. А можа, усё-такі спусцішся на хвілінку?
Надзя. Не магу, Валодзечка, мяне ж кожную хвіліну могуць паклікаць.
Валодзя. І не надакучыла табе такая работа?
Надзя. Надакучыла. Заўтра іду на завод.
Валодзя. Вось гэта маладзец! Добра б было разам працаваць, толькі цэх у нас нязручны. Горача і сілы кавалак трэба мець. Ідзі хіба ў цэх нармалей. Дэталі там дробныя — якраз для дзяўчат.
Надзя. Вось я і думаю — да Валі. Яна мяне вучыць будзе.

В а л о д з я. Я буду заглядваць. Мне на работу якраз міма вашага цэха.

Н а д з я. Сюды ідуць. Бывай, Валодзечка!

В а л о д з я. Ох ты, гора маё!

Адыходзіць.

Н а д з я. Бывай, золата маё! Заўтра ўбачымся. *(Адыходзіць у цень.)*

З папяросай у зубах уваходзіць С т р а м і л і н.

С т р а м і л і н *(угпядаючыся)*. Хто тут?

Н а д з я *(нясмела)*. Гэта я.

С т р а м і л і н. Надзя?

Н а д з я. Ага.

С т р а м і л і н. Што ж ты тут робіш адна?

Н а д з я. Выйшла паветрам падыхаць. Месяц вельмі ж прыгожы сёння.

С т р а м і л і н. А дзе твой месяц ходзіць — па небе ці па зямлі?

Н а д з я. Дзе ж гэта бывае, каб месяц па зямлі хадзіў?

С т р а м і л і н. Бывае, ходзіць, разбойнік.

Н а д з я *(сканфузілася)*. Вы ўжо скажаце.

С т р а м і л і н. Ды гэта нічога. Не з табой адной такое здараецца.

Н а д з я. Я вось пра свой лёс думаю. Перамяніць збіраюся.

С т р а м і л і н. Ужо? Замуж?

Н а д з я. Ды не, на завод хачу ісці.

С т р а м і л і н. Гэта ты добра прыдумала.

Н а д з я. Страшнавата толькі. Не ўмею ж я нічога. Што я там рабіць буду?

С т р а м і л і н. Машыны будзеш рабіць. Бачыла нашы машыны?

Н а д з я. Ведаю — пяцітонныя самазвалы?

С т р а м і л і н. А дваццаціпяцітонныя бачыла?

Н а д з я. Бачыла.

С т р а м і л і н. Вось і гэтыя будзеш рабіць.

Н а д з я. Жартаўнік вы.

С т р а м і л і н. А я зусім не жартую. Хто ж, ты думала, іх робіць? Вось такія дзяўчаты, як ты. Ну, і хлопцы, вядома. Моладзь у асноўным. Завод малады, і калектыў малады. Вось так і расцём разам... Вунь паглядзі, які горад вырас! А ці даўно тут лес шумеў? І ведаеш, куды мы іх адпраўляем — нашы машыны?

Н а д з я. Ведаю. Я была на мітынгу, як вы выступалі.

С т р а м і л і н. Ну вось. І той, хто робіць гэтыя машыны, сам з'яўляецца ўдзельнікам гэтых будоўляў. Так што ты, Надзюша, правільна надумала.

Надзя. Аж мне весялей стала ад вашых слоў.

Страмілін. А што не ўмееш, гэта не бяда; навучышся, абы ахвота.

Уваходзіць Зоя Кірылаўна.

Зоя Кірылаўна. Там Надзю шукаюць, а яна тут з маім мужам какетнічае...

Надзя. Ох, загаварылася я... *(Выбягае.)*

Зоя Кірылаўна. Э, галубок! Дык ты тут да дзяўчыны падлабуньваешся!

Страмілін. І, ведаеш, не без поспеху.

Зоя Кірылаўна. Ды ты майстар дзяўчат абдурваць.

Страмілін. А ўжо ж, калі цябе абдурыў, дык, мусіць, майстар.

Зоя Кірылаўна *(трасе яго за чупрыну)*. Ты, брат, глядзі ў мяне.

Страмілін. Ды я і так гляджу. Ніводнай харошай не прапускаю.

Зоя Кірылаўна. Спакусіў і гэту?

Страмілін. Яна ўжо і сама нарыхтавалася, я толькі падбадзёрыў.

Зоя Кірылаўна. Антаніна Пятроўна не падзякуе табе за гэта.

Страмілін. Затое Надзя некалі падзякуе.

Зоя Кірылаўна. А ведаеш, прыглядаюся я да гэтай Антаніны Пятроўны, і нешта мне ў ёй не падабаецца.

Страмілін. Я яе мала ведаю. Трымаецца як быццам прыстойна.

Зоя Кірылаўна. Яна не зычыць дабра людзям. Пра каго б ні загаварылі, абавязкова знойдзе ў ім нейкую плямінку. Вось і Русаковіча таксама не любіць. Выскачкай называе.

Страмілін. Гэта ад зайздрасці.

Зоя Кірылаўна. Чаго ж ёй зайздросціць? Яе ж муж большы начальнік — галоўны інжынер.

Страмілін. Большы то большы, але нічым асабліва не вызначыўся. А гэты вунь якую машыну сканструяваў. У славу ўваходзіць. Чаго добрага, прэмію атрымае.

Зоя Кірылаўна. Ну і на здароўе.

Страмілін. Не падабаецца гэта Паўлу Міхайлавічу.

Зоя Кірылаўна. Павел Міхайлавіч ганарыцца павінен бы. Гэта ж яго вучань.

Страмілін. Ганарыўся, пакуль той у вучнях хадзіў.

Уваходзіць Шугаеў.

Шугаеў. Няўжо ён вам дома не абрыдаў, Зоя Кірылаўна?

Зоя Кірылаўна. А калі я яго бачу дома? У восем выходзіць, у адзінаццаць прыходзіць.

Шугаеў. Няўжо ў адзінаццаць?

Зоя Кірылаўна. А то і ў гадзіну ночы.

Шугаеў *(іранічна)*. Ах, праўда, у яго ж пасяджэнні парткома, сходы партактыву, вытворчыя нарады. Так?

Зоя Кірылаўна. Ён так гаворыць.

Шугаеў. Хоць бы яны што-небудзь новае прыдумалі — гэтыя здраднікі... У кожнага тая ж самая песня.

Страмілін. Не выйдзе, Барыс Пятровіч! Дарэмна турбуешся.

Шугаеў. Што, так здорава вочы затуманіў Зоі Кірылаўне?

Страмілін. Уяві сабе.

Шугаеў. Шчаслівы ты чалавек. У мяне дык бывае наадварот. Хоць і не было, дык кажа, што было.

Зоя Кірылаўна. А ці не пара нам, хлопцы, у люлю бай?

Шугаеў. Працоўны народ спіць ужо. Дзе-ндзе толькі агні відаць.

Страмілін. А начальства гуляе.

Шугаеў. Ратуйся, хто можа! Яны сюды ідуць.

Уваходзяць Сухадольскі і Русаковіч.

Сухадольскі. Гэта не так проста, дарагі Андрэй Данілавіч. Вы думаеце — ваша справа начарціць, а наша выконваць па вашаму чарцяжу. Не, перш чым чарціць, вы, будзьце ласкавы, пацікаўцеся, у якіх умовах будзе ажыццяўляцца ваша канструкцыя.

Русаковіч. Нічога гэтага я ведаць не хачу, Павел Міхайлавіч.

Сухадольскі. Ага, вы не хочаце.

Русаковіч. Не хачу.

Сухадольскі. Вы хочаце лунаць у паднябессі і адтуль нам дыктаваць сваю волю.

Русаковіч. Я хачу кіравацца навейшымі дасягненнямі тэхнікі, толькі і ўсяго.

Сухадольскі. Не ўсякае дасягненне можна адразу ў вытворчасці выкарыстаць.

Русаковіч. Я гавару пра тыя дасягненні, якія ўжо выкарыстоўваюцца на перадавых заводах.

Сухадольскі. Вунь куды махнуў! Далёка нам да перадавых. Якія ў нас кадры? Гэта ж учарашнія пастушкі. Як ты ад яго патрэбуеш высокай тэхнікі?

Русаковіч. Дык што ж, загадаеце канструктару на пастушкоў раўняцца? Вучыце, падцягвайце кадры да перадавой тэхнікі, а не цягніце тэхніку назад.

Сухадольскі. Лёгка вам гаварыць. Не, галубок, пабылі б вы ў нашай скуры, тады б не тое запелі. Не разлічвалі б на ідэальныя ўмовы, якіх і ў прыродзе няма, а прыладжваліся б да тых, што ёсць.

Русаковіч. Ну, якія ж ідэальныя ўмовы, Павел Міхайлавіч? Вось жа вам прыклад. У мяне ў чарцяжы значыцца дэталь з коўкага чыгуну, а вы падсоўваеце мне стальное ліццё.

Сухадольскі. Дарагі мой! Мы ж таксама не прафаны ў тэхніцы. Я прывяду вам дзесяткі прыкладаў, калі падобныя дэталі робяцца іменна са стальнога ліцця. Вось Барыс Пятровіч гэта можа пацвердзіць.

Шугаеў. Я катэгарычна пратэстую!

Сухадольскі *(збянтэжаны)*. Супраць мяне?

Шугаеў. Так, супраць вас, Павел Міхайлавіч. Гэта проста бязбожна — запрасіць людзей у госці і цэлы вечар частаваць іх чыгуннымі дэталямі. У гасцях я прызнаю толькі шкляныя дэталі. *(Зоі Кірылаўне.)* Хадзем! Няхай яны даядаюць тут адзін другога. *(Бярэ яе пад руку і вядзе ў пакой.)*

Страмілін. Гэтай работы хопіць ім надоўга. *(Выходзіць.)*

Сухадольскі. Дык вось, дарагі Андрэй Данілавіч. Не разлічвайце толькі на ідэальныя ўмовы. Ідэал — гэта ідэал, гэта тое, да чаго мы павінны імкнуцца. А жыццё — гэта жыццё, гэта тое, з чым мы не можам не лічыцца. Дзеля яго часамі і сваімі ідэаламі прыходзіцца пасутпацца.

Русаковіч. А я не хачу пасутпацца сваімі ідэаламі.

Сухадольскі. Прыходзіцца, нічога не папішаш. Калі ўпрэшся носам у рэчаіснасць...

Русаковіч. У руціну? Дык яе трэба ламаць.

Сухадольскі. Ламайстар мой дарагі. Слухаць мне вас хораша.

Русаковіч *(з запалам)*. Так, бязлітасна ламаць!

Уваходзіць Марыя Васільеўна.

Марыя Васільеўна *(Русаковічу)*. Андруша! Як табе не сорамна! Ты проста замучыў Паўла Міхайлавіча. Антаніна Пятроўна нават крыўдзіцца на цябе.

Сухадольскі. Гарачы ён у вас. Ай, гарачы.

Марыя Васільеўна. Вось мы яму зараз халодны кампрэс паставім. *(Бярэ Русаковіча за рукаў.)* Хадзем! Усе ўжо апрануліся.

Русаковіч *(крыху астыўшы).* Выбачайце, Павел Міхайлавіч, я вам тут непрыемнасцей нагаварыў.

Сухадольскі. Што за цырымоніі! Мы людзі свае: што думаем, тое і гаворым.

Русаковіч. Паверце, што ў мяне да вас самыя лепшыя пачуцці. Вы мне шмат дапамаглі сваімі парадамі, і я вам вельмі ўдзячны.

Сухадольскі. Дарагі Андрэй Данілавіч! *(Цалуюцца.)* Можаце заўсёды разлічваць на маю дапамогу. *(Цалуюцца.)*

У дзвярах кожны з дзвюма чаркамі ў руках з'яўляюцца Шугаеў і Страмілін. Яны даюць па чарцы ў рукі Сухадольскаму і Русаковічу.

Шугаеў. Якраз зручны момант, каб выпіць па апошняй. Вып'ем жа за тое, каб усе нашы спрэчкі канчаліся пацалункамі. *(Выпіваюць.)*

Страмілін. І бывайце здаровы, Павел Міхайлавіч.

Сухадольскі. Бывайце, Антон Ільіч, да заўтра.

Марыя Васільеўна. Праўдзівей, да сёння, бо ўжо днее.

Усе развітваюцца. Сухадольскі на момант выходзіць у пакой. Развітаўшыся з гасцямі, ён зноў варочаецца на балкон. Да яго падыходзіць Антаніна Пятроўна. Госці выходзяць на вуліцу. Страмілін падрукуз Зояй Кірылаўнай і Шугаеў накіроўваюцца налева, Русаковіч з Марыяй Васільеўнай — направа. Яны праходзяць пад балконам, не заўважаючы Сухадольскіх.

Марыя Васільеўна. Ты там глупства ніякага не нагаварыў?

Русаковіч. Чаму гэта я буду глупства гаварыць?

Марыя Васільеўна. Пад чаркай ты можаш.

Русаковіч. Я яму больш сказаў бы, ды нязручна ў яго доме.

Марыя Васільеўна. Ты вельмі не рвіся ў бойку. Ён можа табе такую ножку падставіць... Галоўны інжынер — як ні кажы.

Русаковіч. А мне напляваць, што ён галоўны інжынер.

Антаніна Пятроўна *(Сухадольскаму).* Чуў?

Сухадольскі. А я вазьму ды не падстаўлю ножкі. Вось і не выйдзе па-іхняму.

Антаніна Пятроўна. Дзе ўжо нам ножку падстаўляць. Ён табе хутчэй падставіць.

Сухадольскі. Нічога ён мне не зробіць, і нікому я ў крыўду не дамся... У міністэрстве мяне крыху ведаюць. З самім міністрам некалі ў інстытуце на адной лаўцы сядзеў.

Антаніна Пятроўна. Памагаў, за вушы выцягваў... Вось табе падзяка за гэта...

Сухадольскі. Усіх нас хто-небудзь выцягваў.

Антаніна Пятроўна. А самаўпэўненасць якая! Вучыць пачынае!

Сухадольскі. Зазнаўся маласць, гэта праўда.

Антаніна Пятроўна. І няўжо ён прэмію атрымае?

Сухадольскі. Зусім магчыма.

Антаніна Пятроўна. Ну, я не ведаю... Я не перанясу гэтага.

Сухадольскі. Ты дарэмна хвалюешся. Да прэміі яшчэ далёка. Яшчэ невядома, як машына пакажа сябе на Волга-Доне. У ёй могуць і дэфекты выявіцца.

Антаніна Пятроўна. А хто павінен прадстаўляць?

Сухадольскі. Мы ды міністэрства.

Антаніна Пятроўна. І ты падпішаш яму водзыў?

Сухадольскі. І падпішаш, нікуды не дзенешся.

Антаніна Пятроўна *(кудлачыць яму валасы)*. Эх ты... дурань сівы! Хто толькі не захоча на табе выехаць, кожнаму ты свой хрыбет падстаўляеш.

Сухадольскі *(моцна пазяхнуўшы)*. Ведаеш, Тоня, я спаць хачу. *(Устае і накіроўваецца ў пакой.)*

Антаніна Пятроўна. Урадзіўся ты цялём, так цялём і памрэш. *(Выходзіць следам за ім.)*

Заслона

## АКТ ДРУГІ

### Карціна чацвёртая

На сцэне вялікі шчыт з паказчыкамі лепшых вынікаў працы. Партрэты стаханаўцаў. Над шчытом транспарант: «Выканаем месячны план па ўсіх паказчыках». Улева ад шчыта, на некаторай адлегласці, карыкатура: нехлямяжы чалавек з усяе сілы цягне назад канвеер з напалову сабранай машынай. Пад карыкатурай подпіс: «Майстар Курыльчык дапамагае выконваць месячны план». Справа — заводская брама і прахадная будка. Ля шчыта група рабочых.

Валя *(да Надзі)*. А каваль твой, глядзі, як сігае!

Надзя *(напаўголаса)*. Твой, твой... Прысвоіла вельмі...

Рабочы. А ты, дзяўчына, дабром не кідайся. Даюць — бяры, пакуль другія не захапілі.

Надзя засаромелася, адвярнулася. Падыходзіць Патапаў.

П а т а п а ў. Добры дзень, дзяўчаты!

В а л я. Добры дзень, Міхаіл Пятровіч!

П а т а п а ў. Ну, як нашы справы? Ад каго мы адсталі?

В а л я. Трошкі не дацягнулі да першага месца.

П а т а п а ў. А хто ўперадзе нас?

В а л я *(ківае на партрэт Валодзі)*. Вось гэты чарцяка са сваёй брыгадай.

П а т а п а ў. Стальмашонак? Ну нічога. Яшчэ два дні да канца месяца. Націснем — і дагонім. Праўда, Надзя?

Н а д з я. Дык і ў чарцякі ж таксама два дні.

П а т а п а ў. Усё роўна дагонім. І ты ж у нас ужо размахнулася як мае быць. Глядзі, Валя, абгоніць яна цябе.

В а л я. Перацягнула на сваю галаву ў наш цэх. Спрабуе ўжо на пяты наступаць.

Надзя, усё яшчэ насупіўшыся, паглядзела на Валю.

П а т а п а ў. Ды яна нешта не ў настроі. Што такое, Надзя?

В а л я. Гэта мы з ёю за хлопца пасварыліся.

П а т а п а ў. І тут яна табе на пяты наступае?

В а л я. Не, тут ужо я ёй.

Н а д з я. Ну і язычок у цябе, Валя. Ці не пара пласцінку перамяніць?

Убягае К у р ы л ь ч ы к і падыходзіць да карыкатуры.

П а т а п а ў *(да Курыльчыка)*. Што ж гэта цябе, Дзям'ян Трафімавіч, так размалявалі?

К у р ы л ь ч ы к *(махае рукой)*. Ану іх!

В а л я. Падкачаў, дзядзька Курыльчык.

К у р ы л ь ч ы к. Дзіва што з вамі падкачаеш.

В а л я. Чаму з намі? Мы ж наперад цягнем, а не назад.

К у р ы л ь ч ы к. Языком-то вы ўпраўныя. Вунь яна — кадра... *(Ківае ў бок Веры.)* Пацягні з ёю, калі хочаш.

Вера засаромелася і адышла ўбок.

П а т а п а ў. Нашто ж так дзяўчыну канфузіць?

К у р ы л ь ч ы к. Цярпення майго няма. Дадуць недарэку, і цацкайся з ёю.

В а л я. Яна ж у вас яшчэ новенькая. Чаго вы ад яе хочаце?

К у р ы л ь ч ы к. Я хачу, каб яна работу рабіла.

В а л я. Навучыце, дык і будзе рабіць.

К у р ы л ь ч ы к. Ёсць мне час няньчыцца з вамі. Мне трэба план выконваць.

В а л я. З такімі адносінамі да людзей вы ніколі не будзеце выконваць.

Курыльчык. Дай добрых работнікаў, дык выканаю.
Надзя. У вас усе дрэнныя, адзін вы добры.
Курыльчык. А ты адкуль ведаеш?
Надзя. Ведаю. Сама ў вас мучылася тыдні два.
Курыльчык. Нешта я не помню такой.
Надзя. Дзе ж вам помніць. Хіба вы цікавіцеся чалавекам?
Курыльчык. Гледзячы якім.
Надзя. За два тыдні добрага слова ад вас не пачула. І няўмека, і недарэка, і пралетарыят кухонны.
Курыльчык. Відаць, заслугоўвала.
Надзя. А вось трапіла да добрага чалавека, дык і я чаго-небудзь варта.
Курыльчык. Няхай ён і гэты скарб возьме ад мяне.

Ківае ў бок Веры.

Патапаў. А што ты думаеш, Дзям'ян Трафімавіч, я і не адмоўлюся.
Курыльчык. І калі ласка. Я яшчэ і паўлітра пастаўлю.

Вера плача.

Надзя. Няма, каб паспачуваць сіраце, паказаць ды расказаць, дык яшчэ здзекуецца.

Уваходзіць Страмілін.

Страмілін. А чаго дзяўчына плача?
Валя. Майстар яе пакрыўдзіў.
Страмілін. Што ж гэта ты, Дзям'ян Трафімавіч, сваіх рабочых крыўдзіш?
Курыльчык. Яна мяне больш пакрыўдзіла. Праз яе я прэміяльнай надбаўкі не атрымаю.
Страмілін. Як зваць дзяўчыну?
Валя. Вера Халімончык.
Страмілін *(падыходзіць да Веры)*. Чаго ж ты плачаш, Вера?
Валя. Ды як жа, Антон Ільіч. Дзяўчына-сірата. Сёлета рамеснае вучылішча скончыла... Ну слабенькая яна. Хваравітая дый ростам малая. А ён яе адразу на вялікі фрэзерны станок. Дэталь кілаграмаў дваццаць: ёй, беднай, як падняць. І замацаваць у станку як мае быць не хапае сілы. А ён толькі ходзіць ды ўсялякія словы на яе.
Курыльчык. Вы ўжо нагаворыце.
Страмілін. Цяжка табе на гэтым станку працаваць?
Вера. Я не магу ў цэху працаваць. Дайце мне другую работу.

Страмілін. Якую ж работу ты хочаш?

Вера. Хоць прыбіральшчыцай.

Страмілін. Ну, раменсае скончыла ды прыбіральшчыцай! Ты ў нас яшчэ стаханаўкай будзеш. *(Да Курыльчыка.)* У цябе не знойдзецца другога, лягчэйшага, станка?

Курыльчык. Няма. Яшчэ не зрабілі такога адмысловага для яе.

Надзя. Знарок ставіць на такі, каб не справілася, а потым выжывае з участка.

Страмілін. Нядобра так, таварыш Курыльчык.

Курыльчык. А мне з імі добра, думаеце, у хвасце плесціся? Выставілі вунь на пасмешышча.

Адыходзіць.

Валя. Антон Ільіч, перавядзіце яе ў наш цэх, да таварыша Патапава...

Страмілін. Возьмеш, Міхаіл Пятровіч?

Патапаў. А чаму ж не? Такую харошую дзяўчыну ды не ўзяць. *(Падыходзіць да Веры.)* Пойдзеш да мяне, Вера! У мяне, брат, ёсць для цябе станочак — любата. Маленькі, зграбненькі. І дэталькі лёганькія. Будзеш шрубы наразаць. Добра?

Страмілін. Дык вось так, Вера. Я пагавару з начальнікам цэха, цябе перавядуць да таварыша Патапава. Вось і Валя табе будзе памагаць.

Вера *(выціраючы слёзы)*. Добра.

Падыходзіць Валодзя і моўчкі паціскае Надзі руку.

Страмілін *(да Надзі)*. Ну, а ты, Надзя, як маешся?

Надзя. Нічога.

Страмілін. Прывыкла на заводзе?

Надзя. Пара. Ужо чатыры месяцы я тут. Спачатку вось так жа плакала ад Курыльчыка.

Патапаў. Яна ў мяне план перавыконвае.

Страмілін. Ну, вось бачыш, а ты баялася. Помніш, як мы з табой на балконе размаўлялі?

Надзя. Помню.

Страмілін. А на месяц глядзіш часамі?

Надзя *(сарамліва засмяяўшыся)*. Часамі паглядаю. *(Яна крадком пераняла вочы на Валодзю.)*

Валя. Гэты месяц і сам вачэй з яе не спускае.

Страмілін *(глянуўшы на Валодзю)*. Ага... Зразумела...

Валодзя *(з усмешкай)*. Што, Антон Ільіч?

Валя. Можна вас на хвілінку, Антон Ільіч? *(Адводзіць яго на авансцэну.)* Просьба да вас вялікая.

Страмілін. Слухаю. Што такое?

Валя. Разам ім ужо трэба было б жыць.

Страмілін. То няхай жывуць на здароўе.

Валя. Дык прытуліцца ж няма дзе. Пакутуюць, глядзець не магу на іх.

Страмілін. А ты што — балельшчыца?

Валя. Прыходзіцца. Сябры мае ўсё-такі.

Страмілін. Дык што ж ты ад мяне хочаш?

Валя. Пакойчык ім трэба які-небудзь... хоць невялічкі. А то адно ў адным інтэрнаце, а другое ў другім,— якое ж тут сямейнае жыццё можна наладзіць? Можа б, вы закінулі слова за іх дырэктару?

Надзя. Што ты там пляткарыш?

Валя. Гэта цябе не датычыцца.

Страмілін. Справа сур'ёзная...

Валя. А што, хіба нельга?

Страмілін. Усе жаніцца хочуць, а кватэр мы столькі яшчэ не набудавалі.

Валя. Ну, ім трэба як-небудзь.

Страмілін. Добра, паспрабую закінуць слова. Толькі пры адной умове...

Валя. Пры якой?

Страмілін. Што Надзя ў гэтым месяцы дасць сто пяцьдзесят працэнтаў нормы. Мне патрэбен моцны козыр. Разумееш? Для стаханаўцаў хутчэй пакой знойдзецца.

Валя. Надзя, згаджайся!

Надзя. Што такое?

Валя. Згаджайся на сто пяцьдзесят працэнтаў.

Надзя. Я ж не ведаю, у чым справа.

Страмілін. Заключаем з табой умову. Ты даеш сто пяцьдзесят працэнтаў плана...

Надзя. А вы што?

Страмілін. А я абяцаю закінуць за вас слова...

Валя. Наконт прытулку.

Надзя. Якога прытулку?

Валя *(зазлаваўшы, што Надзя такая някемлівая)*. Пакой які-небудзь трэба ж вам?

Надзя *(з дакорам)*. Валя, хто цябе прасіў?

Валя. Я сама ведаю, што вам трэба. Можа ж, я і камсорг цэха яшчэ... павінна клапаціцца.

Страмілін. Дык як, згодна?

Надзя сарамліва і дапытліва глянула на Валодзю: ці адабрае ён тое, што іх таямніца раскрыта.

Валодзя. Што ж, Надзюша, няма куды ўжо таіцца.
Надзя. Згодна, Антон Ільіч.
Страмілін. Ну, вось і добра. Дай руку!

Паціскае Надзі руку.
Падабед уваходзіць з пісьмом у руках, з ім група рабочых.

Падабед *(да Страміліна)*. Хачу я вам, таварыш начальнік, адно пытанне задаць.
Страмілін. Калі ласка, я вас слухаю.
Падабед. Ці чыталі вы, што тут напісана?

Паказвае на шчыт.

Страмілін *(чытае)*. «З гонарам выканаем заказ будаўнікоў Волга-Дона». Хораша напісана.
Падабед. Напісана-то хораша, але робіцца яно не вельмі хораша.
Страмілін. Чаму?
Падабед. Гонару гэтага нешта не відаць.
Страмілін. Чаму ж не? Глядзіце, якія паказчыкі. Хіба гэта не гонар?
Падабед. Недалёкі гэта гонар. Толькі самі сабой ганарымся. Як за браму завода выехаў, дык і гонар скончыўся.
Страмілін. Хіба пра нас дрэнна гавораць?
Падабед. А вы не чулі? На Волга-Доне вунь нашы самазвалы аскандаліліся.
Страмілін. Гэтага я не чуў.
Валя. Чуеш, Валодзя?
Галасы. Адкуль гэта ты ўзяў? Вось дык сказануў! Сасніў, мабыць, стары.

Уваходзіць Русаковіч і прыслухоўваецца.

Падабед. Мусіць, ведаю, калі гавару. *(Да Страміліна.)* Пляменнік у мяне там. Можа, помніце — шафёрам тут працаваў. Паўтарак прозвішча. Дык вось піша, што слабаваты нашы машыны для такой работы. Падрамнікі, піша, не вытрымліваюць, рысоры лопаюць, ну і яшчэ там шмат чаго... А пісалі ж у пісьме: «Падарунак ад беларускага народа». Падарунак, выходзіць, непаўнацэнны. Народ, вядома, тут ні пры чым. Народ ад шчырага сэрца. А некаторыя халтуршчыкі гэтага не разумеюць. Ім абы з рук збыць.
Рабочы. Тут не рабочага віна. Інжынеры вінаваты. Рабочаму як сказалі, так ён і зрабіў.
Падабед. Ну і інжынеры — халтуршчыкі. Ды і наш брат — майстры, рабочыя — таксама несвядомыя бываюць. Вунь пят-

наццаць машын на дэфектнай пляцоўцы стаяць — гэта што, інжынеры вінаваты? Спартачылі, прапхнулі ў сябе ў цэху праз кантроль, а на зборцы яно ўсё наверх і выходзіць. Гэта пятнаццаць такіх, што ўжо ніяк нельга прапусціць, а колькі выпускаецца з усякімі дробнымі недаробкамі? «Нічога, няхай ідзе». А гэта «нічога» — нам жа бокам вылазіць.

Рабочы. Правільна, давай ім дыхту.

Падабед. І вінаватага нікога няма. Вось тут адны стаханаўцы выстаўлены. Трэба гэтых халтуршчыкаў выставіць. Няхай на іх людзі паглядзяць.

Страмілін. Добра, таварышы, што вас хвалююць гэтыя пытанні. Рыхтуйце прапановы, мы іх на сходзе абмяркуем.

Гудок. Рабочыя хутка накіроўваюцца да прахадной будкі.

Страмілін *(да Русаковіча)*. Чуў?

Русаковіч. Чуў... У халтуршчыкі залічылі.

Страмілін. Вось і зрабі вывад.

Русаковіч. Я-то зрабіў. Трэба, каб і другія зрабілі. А то мне аднаму прыходзіцца лбом сцяну прабіваць.

Страмілін. Гузоў на тваім ілбе я пакуль што не бачу.

Русаковіч. Табе жартачкі, а мне горка слухаць папрокі, якіх я не заслужыў.

Страмілін *(з іроніяй)*. Ну, паплач, а я табе слёзы вытру.

Русаковіч. Я не прашу, каб ты мне слёзы выціраў, а на дапамогу партарганізацыі маю права разлічваць.

Страмілін. А ў чым дапамагаць?

Русаковіч. Ты ведаеш, аб чым я гавару. Сам быў сведкам нашай спрэчкі.

Страмілін. Якая скончылася пацалункамі? Ты з ім цалуешся, а я павінен у бойку лезці. Наогул, мне здаецца, што ты тушуешся перад ім. Усё яшчэ вучнем адчуваеш сябе, а не галоўным канструктарам. За падтрымкай справа не стане, ты толькі сам змагайся за тое, у чым пераконаны. *(Адыходзіць.)*

Русаковіч *(адзін)*. Я яму, старому чорту, пакажу, які я вучань.

**Карціна пятая**

Кабінет Сухадольскага.
Справа, пры самым стале, селектар.

Сухадольскі *(націскае кнопку селектара)*. Канвеер!

Голас. Канвеер слухае, Павел Міхайлавіч.

С у х а д о л ь с к і. Як у цябе там?

Г о л а с. Зараз стану.

С у х а д о л ь с к і. Я табе стану! Не забывай, што заўтра ў дванаццаць месячны план закрываем.

Г о л а с. Задні мост канчаецца.

С у х а д о л ь с к і. Зараз высветлю, у чым справа.

Г о л а с. Правае крыло — таксама.

С у х а д о л ь с к і. Правае крыло ў афарбоўцы, зараз пададуць.

Ц е л е ш *(прасоўвае ў дзверы галаву)*. Я вам патрэбен, Павел Міхайлавіч?

С у х а д о л ь с к і. Вельмі.

Ц е л е ш уваходзіць.

Скажы, Іван Пятровіч, хто з нас начальнік вытворчасці — я ці ты?

Ц е л е ш. Дагэтуль быў я.

С у х а д о л ь с к і. Дык чаму я павінен тваімі справамі займацца?

Ц е л е ш. А што такое?

С у х а д о л ь с к і. Чаму няма задзелу задніх мастоў?

Ц е л е ш. Аварыя ў цэху шасі, Павел Міхайлавіч. Адзін электраматор выйшаў са строю, а ў рэзерве няма.

С у х а д о л ь с к і. Дзе хочаш даставай, а каб заднія масты былі.

Ц е л е ш *(чухае патыліцу)*. Задача...

С у х а д о л ь с к і. Колькі сёння сышло з канвеера?

Ц е л е ш. Колькі намечана, але з іх шэсць машын кантроль не прыняў.

С у х а д о л ь с к і. Вялікія недаробкі?

Ц е л е ш. Дробязь, але ж вы ведаеце Угарава?

С у х а д о л ь с к і *(націскае кнопку селектара)*. Угараў?

Г о л а с. Я Угараў.

С у х а д о л ь с к і. Размова ёсць.

Г о л а с. Я вас слухаю.

С у х а д о л ь с к і. Па апарату не магу, сакрэтная.

Г о л а с. Зараз іду.

Ц е л е ш. І калі мы ўжо будзем працаваць без аўралаў?

С у х а д о л ь с к і. Тады, калі ты вытворчасць наладзіш.

Ц е л е ш. Як тут яе наладзіш? Адзін цэх яшчэ не разгарнуўся, другі прадукцыі не можа асвоіць як мае быць. А план давай.

С у х а д о л ь с к і. Яшчэ, можа, прыйдзецца канструкцыю мяняць.

Ц е л е ш *(спужаны)*. Машыны?

Сухадольскі. Асобных вузлоў.

Целеш. Ну, гэта магіла! На гэта ніяк нельга ісці, Павел Міхайлавіч.

Сухадольскі. Русаковіч дамагаецца.

Целеш. І вы згадзіліся?

Сухадольскі. Яшчэ не, але прыйдзецца падумаць. На Волга-Доне выявіліся некаторыя канструкцыйныя недаробкі.

Целеш. А дзе ж ён раней быў?

Сухадольскі. Зразу, відаць, не мог усяго прадугледзець.

Целеш. Ды што ў нас — эксперыментальны цэх? Машына пайшла ў масавую вытворчасць, якія цяпер могуць быць эксперыменты?

Сухадольскі. Ён хоча, каб машына была беззаганная.

Целеш. Мала чаго ён хоча. Яму можна хацець, за план жа ён не адказвае. Па ім няхай хоць увесь завод праваліцца, абы яму прыгожым выйсці.

Уваходзіць Угараў.

Угараў. Слухаю, Павел Міхайлавіч.

Сухадольскі. Ты што ж гэта план зрываеш?

Угараў. Не я, Павел Міхайлавіч.

Сухадольскі. Як жа не ты? Шэсць машын хто затрымаў?

Угараў. Зрывае той, хто брак робіць.

Сухадольскі. Можа, ты занадта прыдзіраешся?

Угараў. Паводле інструкцыі і вашага загаду дзейнічаю.

Сухадольскі. Нам гэтыя шэсць машын усю музыку сапсуюць. Праз іх прыйдзецца дакументы пэцкаць... даваць звесткі, што месячны план не выкананы.

Угараў. Значыць, не выкананы.

Сухадольскі. Каб жа сапраўды не выканалі, а то ж машыны зроблены.

Угараў. Зроблены, але недароблены.

Сухадольскі. З гэтымі недаробкамі яны хадзіць будуць?

Угараў. Будуць, вядома, але такую каравую прадукцыю сорамна пасылаць.

Сухадольскі. Гэта ж не «Пабеда». Зямлю вазіць вялікага хараства не трэба.

Угараў. Тут яўнае парушэнне тэхналогіі. Я не магу ўзяць адказнасць за іх выпуск.

Сухадольскі *(падкрэслена)*. А калі я цябе папрашу?

Угараў. Вы патрабуеце?

Сухадольскі. Пасля аўралу ты ўжо будзеш па ўсёй строгасці.

Угараў. Ну што ж... Разам будзем адказваць.

Сухадольскі. Ёсць, дагаварыліся.

Угараў выходзіць.

*(Да Целеша.)* Дык ты лічыш, што за палепшанне канструкцыі не варта брацца?

Целеш. Злачынна, Павел Міхайлавіч! Гэта пэўны правал плана.

Сухадольскі маўчыць.

Вы як сабе хочаце, а я свой чэрап пад абух не збіраюся падстаўляць дзеля яго.

Тэлефонны званок.

Сухадольскі *(бярэ трубку)*. Добра, улічым тваё меркаванні.

Целеш выходзіць.

Слухаю... Тоня? Што такое? Спакайней гавары, нічога не разберу... Непрыемнасць? З Генькам?.. Чаго нарубіў?.. Ах, нагрубіў! Ну, гэта не навіна... Двойку паставіў?.. Дык няхай папросіць прабачэння... Не выкладчык, а Генька... Ну, не, прабач, нікому я званіць не буду... Сказаў — не буду... І табе не раю. Ты абавязкова нагаворыш якога-небудзь глупства...

Уваходзіць Русаковіч.

Прабач, Тоня, у мяне людзі. *(Кладзе трубку.)* Сямейная размова. Генька, разбойнік, наскандаліў у школе. Разбалавала маці, а мне самому няма часу займацца ім. Сядайце.

Русаковіч. Я хацеў бы, Павел Міхайлавіч, закончыць нарэшце нашу размову.

Сухадольскі. Пачатую ў мяне на кватэры?

Русаковіч. Нават яшчэ раней. Што гаварылася на кватэры, я, прызнацца, добра і не помню.

Сухадольскі. А я помню... Вы абвінавачвалі мяне ў руцінёрстве.

Русаковіч. Самі вінаваты: не трэба было каньяком паіць.

Сухадольскі. Ну што ж, слухаю вас, Андрэй Данілавіч.

Русаковіч. Вы раілі мне не спяшацца з палепшаннем, а пачакаць водзываў з Волга-Дона.

Сухадольскі. Гэта вам і дырэктар раіў.

Русаковіч. Цяпер у нас матэрыялу хапае. Для мяне — аж занадта.

Сухадольскі. Гэты матэрыял яшчэ не вывучаны.

Русаковіч. Я яго вывучыў.

Сухадольскі. Спакойнае ў вас жыццё. Аўрал, усе ў мыле, а вы сабе займаецеся вывучэннем матэрыялу.

Русаковіч. Не такое спакойнае, як вам здаецца. Я сёння ноч не спаў, думаў, як лепш скамбінаваць.

Сухадольскі. І што ж вы скамбінавалі... у цішы начной?

Русаковіч. Вы іранізуеце? Гэта не абяцае мне нічога добрага.

Сухадольскі. Не звяртайце ўвагі, я вас слухаю.

Русаковіч. Для мяне цяпер карціна ясная, Павел Міхайлавіч. Трэба ўмацоўваць падрамнік, рысоры, перакanструяваць радыятар.

Сухадольскі. Усё?

Русаковіч. Гэта ў першую чаргу.

Сухадольскі. Фантазёр вы, Андрэй Данілавіч. Такія рэчы вам толькі ў цішы начной і маглі прыйсці ў галаву.

Русаковіч. Чаму — фантазёр? Я прапаную зусім рэальныя рэчы.

Сухадольскі. Таму фантазёр, што вы кіруецеся толькі адным сваім жаданнем.

Русаковіч. А вы хіба не лічыце, што гэтыя палепшанні трэба зрабіць?

Сухадольскі. Пажадана... Але не абавязкова... І нерэальна ў нашых умовах. Вы цікавіліся, пры якіх умовах адбываюцца паломкі?

Русаковіч. Так. Я вяду перапіску з вадзіцелямі. Умовы цяжкія, што і казаць. Замест пяці тон грузяць па шэсць і па сем,— гледзячы, які грунт. І такі груз экскаватар апускае ў кузаў зразу, у адзін прыём.

Сухадольскі. І яшчэ скардзяцца на паломку рысор і падрамніка.

Русаковіч. А з радыятарам яшчэ цікавей атрымалася.

Сухадольскі. Чуў. Соль раз'ядае.

Русаковіч. Аказваецца, на некаторых участках вада салёная.

Сухадольскі. І яны яе ў радыятар заліваюць.

Русаковіч. А што ж ім рабіць, калі другой няма?

Сухадольскі. Яшчэ б яны дагадаліся серную кіслату заліваць.

Русаковіч. Соль асядае ў загібах, таму і раз'ядае.

Сухадольскі. І што ж вы супраць гэтага можаце зрабіць?

Русаковіч. Ужо зрабілі. *(Падае чарцёж.)* Надалі загібам больш тупы вугал.

Сухадольскі *(разглядае чарцёж)*. І гэта памагае?

Русаковіч. Соль больш не асядае. Праверана на стэндзе.

Сухадольскі *(любуецца).* Добра прыдумана, нічога не скажаш. *(Адкладвае чарцёж убок.)* І ўсё ж мяне не пераканалі.

Русаковіч. Мяне гэта здзіўляе.

Сухадольскі. Справа ў тым, што гэта ўсё не дэфекты канструкцыі, а вынікі варварскай эксплуатацыі. Ёсць інструкцыя. Там не сказана, што на машыну можна валіць па сем тон і заліваць у радыятар салёную ваду. Машына разлічана на пяць тон. Канструкцыя зацверджана міністэрствам, і мы не абавязаны што-небудзь мяняць.

Русаковіч. Фармальна вы маеце рацыю.

Сухадольскі. І фармальна і па сутнасці. Умацоўваць часці — значыць, расходаваць лішні метал. А хто нам гэта дазволіць, калі мы павінны сэканоміць дзвесце кілаграмаў на кожнай машыне?

Русаковіч. Я прапаную канструкцыю падрамніка, якая не патрабуе лішняга металу. *(Падае чарцёж.)*

Сухадольскі *(разглядае чарцёж).* Гэта ўсё вельмі пахвальна, але нашто гэта нам патрэбна? Тым больш што з рысорай жа вы такой камбінацыі не зробіце?

Русаковіч. На жаль, не. Там прыйдзецца павялічваць таўшчыню ліста.

Сухадольскі. Вось і эканомце метал пасля гэтага. Апрача таго, прыйдзецца рабіць новыя штампы, нанава распрацоўваць тэхналогію. Усё гэта павялічыць сабекошт і прывядзе да зрыву плана. Вы, праўда, ад гэтага выйгралі б, але толькі вы адзін.

Русаковіч. Ці не занадта змрочную карціну вы намалявалі?

Сухадольскі. Я стаю на грэшнай зямлі, а не лунаю ў надхмар'і.

Русаковіч. Усе гэтыя цяжкасці можна было б перамагчы, калі б па-сапраўднаму захацець і добра арганізаваць справу.

Сухадольскі. Можа б, вы і лепш арганізавалі. У мяне не выходзіць.

Русаковіч. Я думаў, што вы больш прыхільна паставіцеся да маіх прапаноў. Крыўдна проста.

Сухадольскі. Я вас разумею. Машына, напэўна, будзе прадстаўлена на прэмію, і добра было б, каб яна паказала сябе як найлепш. Але я нічога зрабіць не магу.

Русаковіч. Праўдзівей, не хочаце.

Сухадольскі. Дарэмна вы так думаеце.

Русаковіч. Мне здаецца, вы нават рады будзеце, калі машына будзе скампраметавана.

Сухадольскі. Як вы смееце так гаварыць! Вы ж самі дзякавалі за дапамогу. Я ж, можна сказаць, за вушы вас выцягнуў.

Русаковіч. А цяпер спужаліся, ці не зашмат выцягнулі.

Сухадольскі. Чаго мне пужацца? Каб вы не засланілі мяне? Не такая вы яшчэ фігура, каб мяне засланіць.

Русаковіч. Затое вы... якраз такая фігура, каб засланіць шлях да добрай справы.

Сухадольскі. Я прашу вас трымацца ў рамках дзелавой размовы.

Русаковіч. Душаць мяне вашы рамкі. Ламаць іх трэба. І я знайду людзей, якія мяне падтрымаюць.

Ідзе да дзвярэй.

Сухадольскі *(услед яму)*. А я вам заяўляю, што ніякая сіла не прымусіць мяне прыняць вашы бязглуздыя прапановы.

Стукнуўшы дзвярыма, Русаковіч выходзіць.

Бач ты яго! Хлапчук!

Расхваляваны ходзіць па пакоі. Уваходзіць Целеш.

Целеш. Ну і шуганулі вы яго! Выскачыў як апараны. Чуць мяне з ног не збіў.

Сухадольскі. Эгаіст, сукін сын.

Целеш. Шкурнік. Прэмію яму давай, а завод — чорт яго бяры.

Сухадольскі. Відаць, да Страміліна пабег.

Целеш. Калі людзі даведаюцца, што ён хоча план сарваць, што праз яго яны самі прэміі не атрымаюць, дык тут ніякі Страмілін не паможа... Кішэнь — гэта месца кволае, закрані толькі.

Сухадольскі. Людзі нічога не ведаюць.

Целеш. Уведаюць. Увесці ў вушы якому-небудзь Курыльчыку, дык ён такі гармідар падніме...

Сухадольскі. Без схваткі тут не абыдзецца.

Целеш. Ну што ж, паваюем. Войска ў нас знойдзецца.

Паўза. Кожны ў думках падлічвае свае рэзервы.

Разявіў рот на прэмію... Чакай, галубок!.. Тут ёсць людзі больш дастойныя, ды яшчэ без прэміі ходзяць.

Заслона

## АКТ ТРЭЦІ

### Карціна шостая

Кабінет дырэктара завода Шугаева.

Шугаеў *(выходзіць з-за стала і ідзе насустрач Шылаву, які ўвайшоў у кабінет)*. Добрага здароўя, сусед! Даўненька я цябе не бачыў.

Шылаў. А мы, як у той загадцы: цераз дарогу жывём, адзін аднаго не бачым.

Шугаеў. Але ведаем адзін пра аднаго.

Шылаў *(насцярожана)*. Ведаем, кажаш?

Шугаеў. Усё ведаем. І колькі ты трактароў выпусціў і колькі качак забіў у нядзелю.

Шылаў. Добра ў цябе разведка працуе.

Шугаеў. Трэба ж мне ведаць, чым дыша праціўнік.

Шылаў. Значыць, я табе праціўнік? Добра ж, улічым.

Шугаеў. Я цвёрда вырашыў пабіць цябе сёлета.

Шылаў. Ёсць у цябе на гэта шансы?

Шугаеў. Бясспрэчна. Ужо я на паўгалавы ўперадзе за цябе.

Шылаў. Цяпер я ведаю, чаму ты заказ мой марынуеш.

Шугаеў. Калі ж было? У мяне ў самога з ліццём яшчэ затрымка.

Шылаў. У самога — гэта мяне не датычыцца. Дома ўпраўляйся як хочаш, а мне давай што належыць, іначай я з табой кааперавацца не буду.

Шугаеў. Сур'ёзны таварыш! Чакай, зараз даведаюся. *(Націскае кнопку селектара.)* Ліцейны!

Голас. Ліцейны слухае.

Шугаеў. Як там заказ трактарнага?

Голас. Яшчэ не пачыналі.

Шугаеў. Пытаюцца ўжо.

Голас. Пачакаюць. У саміх яшчэ няўпраўка.

Шугаеў *(падморгвае Шылаву)*. Яны пагражаюць, што не будуць кааперавацца з намі.

Голас. Пашліце іх к чорту, Барыс Пятровіч. Самі яны не лепшыя.

Шылаў. Но, но! Цішэй там!

Шугаеў. Пазнаеш голас?

Голас. Прабачце, таварыш Шылаў. Незнарок вырвалася.

Шылаў. Калі заказ будзе?

Голас. Праз тыдзень.

Шугаеў. Шылаў кажа, што ты знарок ножку яму падстаўляеш.

Голас. Што ж мы — шкоднікі якія?

Шугаеў. Дык вось і давай. *(Да Шылава.)* Колькі табе на першы час?

Шылаў. Дай хаця восемдзесят пакуль што.

Шугаеў. Восемдзесят заўтра можаш даць?

Голас. Паслязаўтра.

Шылаў. Толькі з раніцы, а то ты мне канвеер спыніш.

Шугаеў. Паслязаўтра к дванаццаці гадзінам. І ні на хвіліну не пазней. *(Выключае селектар.)* Не бойся, не падвяду. Мне нявыгадна табе козыр у рукі даваць.

Шылаў. Вось наладжу сваё ліццё, тады пазмагаемся.

Шугаеў. Ты наладзіш, і я што-небудзь наладжу.

Шылаў. На лёгкую перамогу не спадзявайся. Паўгалавы ці паўхваста цяпер яшчэ справы не вырашае. Паглядзім у канцы года.

Шугаеў. Ды ўжо абганю, раз надумаў... Калі не перашкодзяць.

Шылаў. А хто табе збіраецца перашкодзіць?

Шугаеў. Не хто чужы, свае работнічкі. Падсоўваюць тут адну справу.

Шылаў. Ну, з сваімі ты зможаш управіцца... сам гаспадар. Бывай здароў.

Шугаеў. Усяго добрага. Як Галіна Карпаўна маецца?

Шылаў. А ты прыйдзі даведайся. Друг называецца — паўгода носа не паказвае.

Шугаеў. Загляну як-небудзь. Прывітанне перадай.

Шылаў. Дзякую. Наконт заказу не падвядзі. *(Выходзіць.)*

Шугаеў. Ёсць там яшчэ хто-небудзь?

Сакратарка. Ёсць. Двое.

Шугаеў. Па якой справе?

Сакратарка. Па асабістай.

Шугаеў. Для гэтага ёсць пэўны дзень. У пятніцу, у шэсць гадзін.

Сакратарка. Просяцца, кажуць — тэрміновая справа.

Шугаеў *(глядзіць на гадзіннік)*. Няхай заходзяць.

Сакратарка выходзіць. Уваходзяць па-святочнаму апраненыя Валодзя і Надзя.

Шугаеў *(у прытворным жаху)*. Ой, мамачкі мае! *(Зняможаны апускаецца ў крэсла.)*

Валодзя і Надзя спыніліся збянтэжаныя.

Жаніцца?

Валодзя. Так, Барыс Пятровіч... Мы б хацелі...

Ш у г а е ў. Ведаю я, чаго б вы хацелі... А мне што рабіць?

В а л о д з я. Можа б, знайшоўся пакойчык?

Ш у г а е ў *(з дакорам ківае галавой)*. Эх, каваль, каваль! Як табе не сорам ставіць мяне ў такое бязвыхаднае становішча! А яшчэ стаханавец, свядомы чалавек!

В а л о д з я. Вы так мяне дакараеце, што хоць і не жаніся.

Ш у г а е ў. Харошыя мае, а ці не маглі б вы крышку пацярпець?

В а л о д з я. Колькі гэта крышку?

Ш у г а е ў. Вось скончым стокватэрны дом на Савецкай ды ў заводскім пасёлку шэсць дамоў будуюцца. Годзік, паўтара — не больш.

Н а д з я. Вось дык крышку!

Ш у г а е ў. Што, не згодна?

Н а д з я. Так і састарэешся, пакуль той дом.

Ш у г а е ў. Чакай... чакай... Ды гэта ж Надзя! *(Да Валодзі.)* Ты гэта ведаеш?

В а л о д з я. Я-то гэта ведаю, Барыс Пятровіч.

Ш у г а е ў. Нічога ты не ведаеш. Ёсць выхад. Разумееш? Ідзі да яе пакуль што. У галоўнага інжынера кватэра вялікая, пажывеш годзік.

Н а д з я. А я ўжо не ў галоўнага інжынера, Барыс Пятровіч.

Ш у г а е ў. А ў каго ж ты?

Н а д з я. У вас.

В а л о д з я. Яна ўжо чатыры месяцы на заводзе працуе.

Ш у г а е ў. Гм... І тут не пашанцавала. Як з планам?

Н а д з я. Перавыконваю...

Ш у г а е ў. Засецкая?

Н а д з я. Так.

Ш у г а е ў. У цэху нармалей?

Н а д з я. Так.

Ш у г а е ў. Чуў, ёсць такая... *(Падумаўшы.)* Ніяк ад вас не выкруцішся. *(У тэлефонную трубку.)* Галахвостаў? Вось мне цябе і трэба. Патрэбна, разумееш, кватэра... Ды не палохайся, адзін пакой... Не пакой нават, а пакойчык... Маладажоны, разумееш, народ неперабарлівы... Пацерпяць? Ты сам угавары іх на гэта. Стаханаўцы абое, разумееш?.. Не, ты ўжо, будзь ласкаў, зрабі... Скамбінуй як-небудзь... Страмілін таксама прасіў за іх... Я табе загадваю... Падасі заяву?.. Што ж, мы цябе з работы знімем, а яны нежанатымі застануцца?.. Так не выйдзе. Ты спачатку пакой знойдзеш, а потым мы цябе з работы знімем. Вось так. *(Кладзе трубку.)*

Н а д з я. Шчырае вам дзякуй, Барыс Пятровіч.

Ш у г а е ў. Уселіцеся, тады падзякуеце. У загсе былі ўжо?

Валодзя. Не, мы раней да вас. Хацелі б, каб з загса ды адразу ў сваю хату.

Шугаеў. Жаданне законнае, ды не ведаю, як там Галахвостаў. *(Да Страміліна, які ўваходзіць.)* Прывітанне, Антон Ільіч! Я ўжо да цябе збіраўся, ды вось тут у маладых людзей тэрміновая справа.

Стramілін *(да Валодзі).* Ну што? Усё ў парадку?

Валодзя. Не зусім яшчэ.

Шугаеў. Напусціў ты іх на мяне.

Стramілін. А ты дапамажы, яны гэта заслужылі.

Шугаеў. І што гэта за пошасць такая! Усе жэняцца. Дай кватэры, дык заўтра ж палавіна завода ажэніцца.

Стramілін. А другая замуж пойдзе. *(Да Валодзі і Надзі.)* Ну, жадаю вам жыць у згодзе і любві ды збудаваць моцную савецкую сям'ю. *(Паціскае ім рукі.)*

Надзя. Дзякую, Антон Ільіч.

Стramілін. А пакой Барыс Пятровіч як-небудзь выкраіць.

Шугаеў. З мілым, кажуць, і ў шалашы рай, але я ўсё-такі пастараюся.

Валодзя. Дзякуем, Барыс Пятровіч. Бывайце здаровы!

Шугаеў. Жывіце багата! *(Страміліну.)* Сядай, Антон Ільіч. Ты мне хацеў нешта сказаць?

Стramілін. Як там нашы інжынеры? Не пamірыў ты іх?

Шугаеў. Не, разумееш. Заеліся так, што куды там.

Стramілін. А ты як думаеш, каго з іх трэба падтрымаць?

Шугаеў. Вось хацеў з табой параіцца. Цяжкасць заключаецца ў тым, што абодва маюць рацыю.

Стramілін. А прапановы процілеглыя.

Шугаеў. Так, прапановы процілеглыя. Я разумею Русаковіча: ён хоча, каб машына была без сучка, без задзірынкі.

Стramілін. А ты гэтага не хочаш?

Шугаеў. Але калі Сухадольскі прыходзіць да мяне з фактамі ў руках...

Стramілін. Сухадольскі гэта адно, а ты паслухай, што рабочыя гавораць.

Шугаеў. Што б ні гаварылі, нам з горкі ўсё-такі відней. Паставілі мы сабе мэту, і трэба ісці да яе, не адхіляючыся ўбок.

Стramілін. У чым жа ты бачыш мэту?

Шугаеў. Я думаю, у тым, у чым і ты: выканаць план па ўсіх паказчыках і заняць пачэснае месца ў спаборніцтве. Кожнага, хто дапамагае ў гэтым, я гатоў расцалаваць, а хто перашкаджае... ты сам разумееш.

Стramілін. Русаковіч, па-твойму, перашкаджае?

Шугаеў. Калі мы прымем яго прапанову, усе нашы разлікі паляцяць к чорту.

Страмілін. Баязлівы ты, аднак, Барыс Пятровіч.

Шугаеў. Крыўдна, што ты не разумееш мяне, Антон Ільіч! Не разумееш, чаго я хачу, чаго прападаю на заводзе дзень і ноч. Ты тут навічок, а я ўжо тры гады паруся ва ўсякіх непаладках пускавога перыяду. Хочацца хутчэй выцягнуць завод з гэтай паласы, зажыць сапраўдным вытворчым жыццём. Хочацца даць людзям выпрастаць спіну, уздыхнуць на поўныя грудзі і сказаць: «Вось зрабілі! І мы не горшыя за людзей!»

Страмілін. Мне здаецца, што ты крыху аднабока разумееш інтарэсы завода.

Шугаеў. А ты, Антон Ільіч, прабач за шчырасць, і зусім не хочаш іх зразумець.

Страмілін. Вось як!

Шугаеў. Ну, сапраўды... Хто ад нас патрабуе гэтых палепшанняў? Ніхто. Дык нашто ж нам шукаць сабе пятлі на шыю? Нам жа з табой не паздаровіцца, калі план не будзе выкананы. Можа, цябе гэта і не турбуе, а для мяне — гэта справа мае рэпутацыі!

Страмілін. Дык ты думаеш падняць сваю рэпутацыю, выпускаючы непаўнацэнную прадукцыю?

Шугаеў. Мы даём прадукцыю такой якасці, якая ўстаноўлена дзяржаўнай камісіяй.

Страмілін. І такой не даём. Машыны сыходзяць з канвеера з недаробкамі.

Шугаеў. Завод толькі яшчэ ўступіў у строй, дзе ж тут даб'ешся, каб усё было на «выдатна».

Страмілін. Дык ты прапануеш халтурыць? Арыгінальны спосаб падтрымання рэпутацыі.

Шугаеў. Завастраеш, Антон Ільіч.

Страмілін. Так, завастраю. І палепшанне і план — вось як я стаўлю пытанне.

Шугаеў. Ставіць-то ты майстар, а вырашаць хто будзе?

Страмілін. Людзі, шматтысячны калектыў.

Шугаеў. Гэта толькі словы. Ты ж не вывучаў гэтага пытання, а я вывучаў.

Страмілін. Наўрад ці ты сам. Сухадольскі табе вывучаў.

Шугаеў. А што, Сухадольскі вопытны інжынер.

Страмілін. Гэта падазрона, што ён так заўзята змагаецца супраць палепшання канструкцыі.

Шугаеў. У чым жа ты яго падазраеш?

Страмілін. Мне здаецца, што ён не зацікаўлены, каб машына была ў лепшым выглядзе. Хутчэй наадварот.

Шугаеў. Нават так?

Страмілін. Іменна так.

Шугаеў. Табе гэта сапраўды здаецца. Я яго ведаю як сумленнага чалавека.

Страмілін. Я думаю паставіць даклад галоўнага інжынера на парткоме.

Шугаеў. Што ж, стаў... Толькі калі мы паміж сабой не маглі дагаварыцца, дык наўрад ці партком тут паможа. А шкада.

Страмілін. Так, вельмі шкада. *(Выходзіць.)*

Шугаеў *(набірае нумар тэлефона. У трубку)*. Угараў? Ты там што брак прапускаеш? Страмілін мне толькі што гаварыў... Праз гэтыя дробныя недахопы могуць быць буйныя непрыемнасці... Няма чаго хавацца за галоўнага інжынера... За гэта ты адказваеш... Так што глядзі, не вельмі размахвайся. *(Да Сухадольскага, які ўвайшоў.)* Ну, трымайся, Павел Міхайлавіч!

Сухадольскі. Што такое?

Шугаеў. Твой даклад на парткоме.

Сухадольскі. Мне Страмілін нічога не казаў.

Шугаеў. Скажа яшчэ. Толькі што быў у мяне.

Сухадольскі. Гэта ўжо Русаковіч настроіў яго.

Шугаеў. Відаць.

Сухадольскі. Сарве ён нам план.

Шугаеў. Прывядзі такія аргументы, каб не сарваў.

Сухадольскі. Аргументы ёсць. Ты іх ведаеш.

Шугаеў. Не пашанцавала нам з парторгам.

Сухадольскі. Прывык мітынгаваць, дык думае і тут таксама: паагітаваў — яно ўсё само і зробіцца.

Шугаеў. Няма ў яго сапраўднай любві да свайго завода — вось што дрэнна.

Сухадольскі. А што яму завод? Гэта для нас завод — дом родны, а ён — сёння на заводзе, заўтра ў райкоме, паслязаўтра яшчэ дзе-небудзь.

Шугаеў. Значыць — бой?

Сухадольскі. Так. І кровапралітны.

Шугаеў. Ну глядзі ж, ты на пярэдняй лініі.

Сухадольскі. Нічога, у мяне надзейны рэзерв. *(Ляпае Шугаева па плячы.)* У асобе самога дырэктара.

**Карціна сёмая**

Кабінет сакратара парткома на заводзе. Прысутнічаюць: Страмілін, Русаковіч, Шугаеў, Сухадольскі, Патапаў, Курыльчык, Падабед, Валодзя, Валя, Паўтарак і іншыя.

Сухадольскі *(канчае даклад)*. Такім чынам, я лічу, што прапанову таварыша Русаковіча мы не можам прыняць.

Па-першае, паломкі здараюцца не па нашай віне.

Па-другое, канструкцыя зацверджана міністэрствам, і мы не маем права самавольна яе мяняць.

Па-трэцяе, змена канструкцыі на хаду, калі машына знаходзіцца ў масавай вытворчасці, справа вельмі складаная. Яна патрабуе дадатковага часу, дадатковых сродкаў, дадатковага металу, дадатковай рабочай сілы. Нічога гэтага ў нас няма. Узяўшыся за палепшанне канструкцыі, мы не выканаем плана.

Па-чацвёртае, не выканаўшы плана, нашы людзі не атрымаюць прэміі, якую заслужылі сваёй сумленнай працай.

І, нарэшце, пятае, усё гэта калектыў павінен прынесці ў ахвяру адной асобе — таварышу Русаковічу, які дзеля сваіх асабістых інтарэсаў хоча падвесці пад удар увесь завод.

Падабед. Дык вы лічыце, што мы выпускаем добрыя машыны? Ніякіх палепшанняў не трэба?

Сухадольскі. Я лічу, што мы выпускаем зусім добрыя машыны. Якраз такія, якія нам зацвердзіла дзяржаўная камісія.

Страмілін. Па-вашаму, Павел Міхайлавіч, Русаковіч праследуе тут свае шкурныя інтарэсы?

Сухадольскі. Я не казаў — шкурныя, я кажу — асабістыя.

Страмілін. Якія, напрыклад?

Сухадольскі. Ён баіцца, што праз гэтыя паломкі машына будзе скампраметавана і яе не прадставяць на прэмію.

Страмілін. Слова мае таварыш Паўтарак.

Паўтарак. Таварышы аўтазаводцы! Шафёры нашай аўтабазы шлюць вам нізкі паклон і вялікае дзякуй за выдатную машыну. Палюбілі мы ваш самазвал. Але, таварышы... З тэхнікі мы павінны выціснуць усё. На вашу машыну можна грузіць не пяць, а сем тон. Падумайце толькі — лішнія дзве тоны! Гэта за адзін рэйс. А колькі рэйсаў зробіць машына за год? А колькі вашых машын працуе на вялікіх будоўлях? Памножце адно на другое. Гэта ж горы зямлі! Гэтыя горы вы можаце зрушыць, калі трошкі пашавеліцеся. А пашавяліцца ёсць дзеля чаго. Камунізм жа будуем, таварышы! Вы, Андрэй Данілавіч, абяцалі падрамнік патаўсціць на два міліметры. Прайшло ўжо некалькі месяцаў, а справа на гэтыя два міліметры не пасунулася. Я сам наварваю сталёвыя палосы на падрамнік, сам стаўлю таўсцейшыя лісты ў рысорах. І еду, і план перавыконваю, і зарабляю па чатыры тысячы ў месяц. А вы ж можаце гэта лепш зрабіць. Быў і ў нас такі работнік... галоўны інжынер аўтабазы, які... адным словам, стаяў напоперак стаханаўскаму руху. Ну, яго ўжо ў нас няма... Бо вы самі разумееце... Нельга нам без стаханаўскага руху... Дык вось я і прашу... *(Садзіцца.)*

Русаковіч. Вось ён — свежы волжскі вецер! Можа, ён правятрыць мазгі тым, у каго яны забраснелі. Прызнаю, і я вінават перад валгадонцамі. Вінават у тым, што не быў досыць напорыстым. Трэба зрушыць гэту сцяну коснасці і руціны. Трэба даць прастор творчай ініцыятыве. Трэба, нарэшце, палажыць канец халтуры.

Сухадольскі. А хто ж за халтуру?

Русаковіч. Вы.

Сухадольскі. Мы гэту халтуру выпускаем па вашых чарцяжах.

Русаковіч. Чарцяжоў вы не прытрымліваецеся. Апрача таго, я вам прадставіў новыя чарцяжы. Вы іх не прынялі. Яшчэ шкурнікам выстаўляеце мяне перад людзьмі. Праз сваіх падхалімаў распускаеце чуткі сярод рабочых, што я хачу ўвесь завод пад удар падставіць. Сорамна вам, старому чалавеку, займацца такімі справамі. Калі не шануеце сябе, дык пашанавалі б хоць пасаду, якую вы займаеце.

Сухадольскі. Што вы мне мараль чытаеце? Хлапчук!

Русаковіч. Гэта вельмі сумна, што хлапчук вымушан чытаць мараль сіваму чалавеку, але не я ў гэтым вінават. Сёння мы гаворым аб важнай справе, аб гонары нашым. І не да твару вам прыкрываць сівізной свае недастойныя паводзіны. Вы тут налічылі кучу ўсякіх цяжкасцей і перашкод, але і пальцам не кранулі, каб пераадолець хоць адну з іх. Вашу заскарузлую душу не кратаюць ніякія довады.

Валя. Таварышы, што ж мы сабе думаем! Пакуль мы тут гаворым, там, можа, дзесяткі нашых машын стаяць з паломкамі.

Целеш. Мы не вінаваты, няхай не ломяць.

Валя. Чакайце, таварыш Целеш, не забівайце мне дух. Вось я даведалася, што дэталь, якую я апрацоўваю, не вытрымлівае. Не мая гэта віна. Але дэталь гэта ў мяне вось тут сядзіць. *(Стукае ў грудзі.)* Я прашу вас, таварышы інжынеры, зрабіце так, каб будаўнікі Волга-Дона не паміналі нас нядобрым словам...

Валодзя. Праца ў нашай краіне стала справай гонару. Але ёсць людзі, якім напляваць на наш рабочы гонар. Яны думаюць толькі аб сваёй выгадзе: дабіваюцца прэміі, якой не заслужылі. А я не хачу прэміі за дрэнную прадукцыю. Я хачу, каб яна была паўнацэннай, тады і мой стаханаўскі гонар будзе паўнацэнным. Я за тое, каб прыняць прапанову галоўнага канструктара.

Курыльчык. Ты не хочаш прэміі, то і не бяры. Ты яшчэ чалавек малады, несямейны, можаш і без прэміі пражыць. А мне прэмія вельмі патрэбна, і я ад яе не адмоўлюся.

Пададбед. Любіш прэмію, Дзям'ян Трафімавіч?

Курыльчык. А чаму ж не? Раз я выканаў план, дык давай мне тое, што належыць.

Падабед. А работы шмат не любіш?

Курыльчык. Хто яе любіць — лішнюю? Цераз сілу і конь не цягне. Выдумаў нехта гэта палепшанне, каб яму дабра не было. Хіба тут выцягнеш на прэмію? *(Да Паўтарака.)* Ездзіў ты з латаным падрамнікам дагэтуль, то паездзіш і яшчэ крыху. З кім гэта мы будзем гэтыя палепшанні рабіць? З дзецьмі? З невукамі?

Патапаў. Старая песня, Дзям'ян Трафімавіч, ды яшчэ і фальшывая. Кадры маладыя — гэта праўда. Дык хіба ж гэта загана? Маладыя, значыць, ёсць куды расці. А народ харошы, сумленны. Семнаццацігадовая дзяўчына — яна ўжо клапоціцца аб інтарэсах дзяржавы. Чуў вось — Валянціна выступала. Там недзе на Волга-Доне самазвал стаў, а ёй тут сэрца баліць. За справу хварэе... Так што на нашы кадры няма чаго кляпаць. Скажы, што рабіць, пакажы як, а дзеля чаго — гэта яны самі ведаюць. І зробяць. І якасць дадуць. І няма чаго баяцца гэтых палепшанняў. І палепшанні зробім, і план выканаем.

Целеш. Я, таварыш, не лірык.

Страмілін. Мы вас у гэтым не абвінавачваем.

Целеш. І, прызнаюся, не люблю лірыкі, бо гэта ўся лірыка кладзецца на мой горб. *(Ляпае рукой сабе па карку.)* Я ў першую чаргу адказваю за вытворчасць. Тут прыходзіцца справу мець з тэхнікай, а яе ты лірыкай не возьмеш. Калі штамп прыстасаваны для аднае дэталі, дык ты хоць тры дні яму прамовы гавары, ён табе другой не адцісне... Яго трэба мяняць, рабіць новы. А для гэтага патрэбны сродкі, людзі, час. Так што гэта лірыка не выклікае ў мяне ніякага энтузіязму.

Русаковіч. З энтузіязмам у вас сапраўды дрэнна.

Целеш. Калі мы прымем гэту авантурную прапанову, то я ручаюся, што правалімся з трэскам.

Русаковіч. Пры вашай актыўнай дапамозе.

Целеш. Загадзя заяўляю, што я казлом адпушчэння быць не хачу і знімаю з сябе ўсякую адказнасць.

Шугаеў. Добра мы паспрачаліся сёння, таварышы. І памарылі, і аб справе пагаварылі. Давайце ж мы спалучым добрыя мары з добрымі справамі. Тое, што можна сёння выканаць, выканаем сёння. Чаго нельга, паставім у парадак дня, каб выканаць заўтра. А аб чым жа марыць дырэктар? — можаце вы запытацца. Перш за ўсё я мару аб тым, каб вывесці завод на пачэснае месца. Выканаць і перавыканаць план па ўсіх паказчыках, знізіць сабекошт, сэканоміць дзяржаве мільёнаў дзесяць сродкаў. Каб я, як дырэктар, меў свой дырэктарскі фонд. Каб мог і на курорт паслаць рабочага за выдатную працу, і дапамогу аказаць у патрэбны момант. Вось, напрыклад, жэніцца таварыш Стальмашонак. Абое стаханаўцы. Чаму б не даць ім на абзавя-

дзенне якую-небудзь тысячу рублёў? А вось не магу. Няма ў мяне такой магчымасці.

Страмілін. Спрытна падладжваешся, Барыс Пятровіч.

Шугаеў. І я вам шчыра скажу, таварышы, калі мы возьмемся за палепшанне канструкцыі, гэтага ў нас і ў наступным годзе не будзе. Таму давайце нашы добрыя і законныя пажаданні аб палепшанні канструкцыі адложым да наступнага года, а цяпер дружна возьмемся за выкананне плана па ўсіх паказчыках.

Страмілін. Больш ніхто не хоча выказацца? Тады дазвольце мне некалькі слоў... Вось тут казалі, што Русаковіч праследуе асабістыя мэты: хоча ўдасканаліць машыну, каб прэмію атрымаць. Але ж дзяржава таксама зацікаўлена, каб машына была лепшая. А калі так, дык мы павінны падтрымаць Русаковіча, а не называць яго шкурнікам. А вось галоўны інжынер, начальнік вытворчасці ды і дырэктар таксама — не шкурнікі. Яны думаюць толькі аб інтарэсах завода: аб тым, каб план перавыканаць, дабрабыт рабочых палепшыць. Мэта высакародная, але якім спосабам вы хочаце яе дасягнуць? Любым. Дзеля гэтага можна заплюшчыць вочы на тое, якія машыны сыходзяць з канвеера, можна не палічыцца з просьбай будаўнікоў Волга-Дона. Ну і дапусцім, што мы такім чынам перавыканалі план. А што ад гэтага атрымала дзяржава? Мы ёй прычынілі страту: тым, што не палепшылі канструкцыі, хоць маглі гэта зрабіць; тым, што падсунулі непаўнацэнную прадукцыю; ды яшчэ і тым, што патрацілі сродкі на прэмію, якой не заслужылі. Нам прэміі, нам гонар, а дзяржава ад гэтага траціць. Хіба гэта гонар? Не, гэта не той гонар, які нам патрэбен.

Я прапаную падтрымаць таварыша Русаковіча і ўзяцца за палепшанне канструкцыі.

Сухадольскі. А з планам як жа быць?

Страмілін. Выканаць.

Сухадольскі. Я ўжо сказаў, што гэта немагчыма.

Страмілін. А вось таварыш Патапаў кажа, што магчыма.

Сухадольскі. Дык няхай Патапаў і выконвае.

Страмілін. Я прапаную абавязаць галоўнага інжынера прыняць усе захады, каб канструкцыя была палепшана як мага хутчэй.

Сухадольскі. Прашу вызваліць мяне ад абавязкаў галоўнага інжынера.

Страмілін. Ультыматум?

Сухадольскі. Лічыце, як хочаце.

Страмілін. А можа, вы яшчэ падумаеце, Павел Міхайлавіч? Справа сур'ёзная.

Сухадольскі. Я не падумаўшы нічога не раблю.

Страмілін. Што ж будзем рабіць, таварышы члены парткома? Можа, адмовімся ад свае пастановы? Ці станем на калені ды будзем умаляць таварыша Сухадольскага?

Напружаная паўза.

Падабед. Я думаю, не будзем станавіцца на калені.

Страмілін. Значыць, падтрымаем просьбу таварыша Сухадольскага? Хто за гэта, прашу галасаваць. Большасць.

Шугаеў. Вялікімі кускамі кідаешся, Антон Ільіч. Я хачу табе напомніць, што галоўнага інжынера назначае і знімае міністр.

Страмілін. Я гэта ведаю, але партком таксама можа сваю думку выказаць. Можа, з ім і міністр палічыцца. Я прапаную персанальную адказнасць за палепшанне канструкцыі ўскласці на таварыша Шугаева.

Шугаеў. Вось гэта дарэмна.

Страмілін. Што — дарэмна?

Шугаеў. Дарэмна партком ставіць мяне ў такое становішча. Ты ж сам ведаеш, што гэтай пастановы я выканаць не магу.

Страмілін. Чаму?

Шугаеў. Справа, па сутнасці, ідзе аб стварэнні новай машыны — сямітоннай.

Страмілін. Якой сямітоннай? Што вы прычапіліся да слова? Справа ідзе аб палепшанні пяцітоннай машыны, каб яна з поспехам магла працаваць у новых умовах эксплуатацыі.

Шугаеў. І на тое, і на другое патрэбен дазвол вышэйшых інстанцый.

Страмілін. А я што ж — прапаную самавольнічаць? Паставім пытанне перад вышэйшымі інстанцыямі. На тое мы і кіраўнікі, каб падхопліваць ініцыятыву мас.

Шугаеў. Паставім, толькі не ў тваім асвятленні.

Страмілін. Там будзе відаць, чыё асвятленне акажацца больш правільным. Пасяджэнне парткома аб'яўляю закрытым.

Народ разыходзіцца. Шугаеў, Сухадольскі і Целеш застаюцца ў пакоі.

Сухадольскі. Разумнікі знайшліся! Хочуць на чужым карку ў рай уехаць. Яму што! Закаціў прамову — вось ён і ўнёс уклад у вялікія будоўлі. А ты выкручвайся як хочаш.

Целеш. Тут і так вочы на лоб лезуць.

Сухадольскі. А шкада, маглі б добра год закончыць.

Шугаеў. І трэба закончыць.

Сухадольскі. Цяпер ужо цяжка... калі дырэкцыя сабе, партком сабе.

Шугаеў. Ты таксама нечага варты. У бутэльку палез. Пойдзеш у адстаўку, а я з кім буду?

Сухадольскі. Няхай адчуюць, што я жартаваць не збіраюся.

Шугаеў. А яны не вельмі і спужаліся.

Сухадольскі. Ну і я іх таксама.

Шугаеў. А прапанову нам усё-такі прыйдзецца ўносіць.

Сухадольскі. І што — прасіць, каб дазволілі палепшыць канструкцыю?

Шугаеў. Так. Рыхтуй матэрыял.

Сухадольскі. А раптам дазволяць?

Целеш. Дык трэба ж умець прасіць.

Шугаеў. Пастанову партыйнай арганізацыі мы павінны выканаць, а там няхай міністэрства глядзіць. *(Выходзіць.)*

Сухадольскі. Ды я ўжо абгрунтую.

Целеш. Што гэта ён? Спужаўся?

Сухадольскі. Дыпламат. Не хоча ў адкрытую з Страмілiным сварыцца. А нас ён падтрымае.

Целеш. А я ўжо думаў, што поле бою за праціўнікам застаецца.

Сухадольскі. Няхай яны яшчэ не радуюцца. Мне толькі ў міністэрства з'ездзіць, з Фёдарам Мікалаевічам пагаварыць.

Уваходзяць Страмілін і Русаковіч.

Страмілін. Што, Барыс Пятровіч пайшоў?

Целеш. Пайшоў.

Русаковіч. Зусім?

Целеш. Зусім.

Сухадольскі і Целеш выходзяць.

Русаковіч *(ківае ў бок дзвярэй)*. Будуць валаводзіць.

Страмілін. Відаць, што так.

Русаковіч. Яны ўжо дадуць асвятленне... Такое, што маім прапановам не паздаровіцца.

Страмілін. А ты дабівайся свайго. Падтрымку парткома маеш і дзейнічай.

Русаковіч. У Маскву ехаць?

Страмілін. А чаму б і не?

Русаковіч. Кажуць, у яго там прыяцелі... ледзь не сам міністр.

Страмілін. Што ж прыяцелі... Праўда на нашым баку. Бяры факты ў рукі і едзь.

Русаковіч *(рашуча)*. Паеду!

Заслона

## АКТ ЧАЦВЁРТЫ

### Карціна восьмая

Кабінет міністра аўтамабільнай і трактарнай прамысловасці.
Уваходзіць Рэферэнт.

Рэферэнт. Фёдар Мікалаевіч! Па вашаму вызаву прыехаў Сухадольскі.

Фёдар Мікалаевіч. Няхай заходзіць.

Рэферэнт. Зараз?

Фёдар Мікалаевіч. Так, зараз. Учора яшчэ прасіўся на прыём іх галоўны канструктар Русаковіч. Як прыйдзе, даложыце.

Рэферэнт. Добра. *(Выходзіць.)*

Уваходзіць Сухадольскі.

Сухадольскі. Добрага здароўя, Фёдар Мікалаевіч!

Фёдар Мікалаевіч *(устае насустрач Сухадольскаму)*. Добры дзень, Павел Міхайлавіч! Сядай.

Сухадольскі *(садзіцца ў крэсла)*. Як жывём-маемся?

Фёдар Мікалаевіч. Памаленечку.

Сухадольскі. Выглядаеш нядрэнна. Камплекцыя толькі не па пасадзе. Ніякага гаспадарчага абрастання. Як здароўе?

Фёдар Мікалаевіч. Не скарджуся.

Сухадольскі. Працуеш, мабыць, шмат?

Фёдар Мікалаевіч. Прыходзіцца.

Сухадольскі. Вядома, гаспадарка вялікая. Як жонка, дзеткі?

Фёдар Мікалаевіч. Дзякую, здаровы.

Сухадольскі. Таня, мусіць, ужо нявеста?

Фёдар Мікалаевіч. Нават больш... Яна ўжо замуж выйшла.

Сухадольскі. Таня! Замуж!

Фёдар Мікалаевіч. На Кастрычніцкія святы вяселле гулялі.

Сухадольскі. Дзівосы проста! Ці даўно я яе на руках насіў! Помніш, Фёдар Мікалаевіч, як мы ложачак ёй куплялі?

Фёдар Мікалаевіч. На Цішынскім рынку? Помню.

Сухадольскі. Яшчэ ў нас грошай не хапіла на рамізніка, і мы аж на Трубную на сабе неслі.

Фёдар Мікалаевіч. Відаць, тады я і пераканаўся, што трэба развіваць аўтамабільную прамысловасць.

Сухадольскі. Перадай ёй ад дзядзі Павы самае шчырае прывітанне.

Фёдар Мікалаевіч. Дзякую. Ды ты сам бы лепш гэта зрабіў. Прыходзь да мяне, а [redacted] ёй пазваню. Яна ж тут, у Маскве.

С у х а д о л ь с к і. Выходзіць, сам напрасіўся.

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Ну, вось яшчэ! Што за цырымоніі!

С у х а д о л ь с к і. Веры Сцяпанаўне лішні клопат.

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Яна рада будзе. Прыходзь у пяць гадзін, паабедаем разам.

С у х а д о л ь с к і. Ну, дзякую. Вельмі цікава мне пабачыць усіх тваіх. Малодшага я ж і не бачыў ні разу.

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. А ён таксама ўжо ў пятым класе.

С у х а д о л ь с к і. Ляціць час, ляціць... Здаецца, учора яшчэ мы з табой у інстытуце на адной лаўцы сядзелі. Цікавы час быў. Самы разгар барацьбы са шкодніцтвам у прамысловасці... Якія мітынгі былі!

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Добра ты тады выступаў... з агнём.

С у х а д о л ь с к і. Мы ж былі першым атрадам чырвоных спецаў, выгадаваных савецкай уладай.

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Так і рваліся ў бой. Патрабавалі датэрміновага выпуску. Дапусціце, казалі, нас, мы ўжо завернем як мае быць.

С у х а д о л ь с к і. А што ж, і завярнулі. Папрацавалі нядрэнна. А якія цяжкасці перамаглі! Хіба цяперашнія маладыя ведаюць што-небудзь падобнае? Што ім! Прыйшоў на гатовенькае — працуй, разгортвайся, праяўляй свае таленты.

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Папрацавалі, праўда, нядрэнна, ды ўжо старэць пачынаем — вось што дрэнна.

С у х а д о л ь с к і. Гады бяруць сваё, але я б не сказаў... На табе, па крайняй меры, я гэтага не заўважаю...

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. А вось ты пачаў здаваць.

С у х а д о л ь с к і. Клопату шмат... Ды і здароўе няважнае... Печань ці якое ліха... Ну нічога, яшчэ пацягнем.

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч *(глядзіць ва ўпор на Сухадольскага)*. Пацягнуць-то мы пацягнем...

С у х а д о л ь с к і *(адчуваючы сябе няёмка пад позіркам Фёдара Мікалаевіча)*. Што ты мне скажаш добрае? Я толькі быў у адпачынак сабраўся, а тут тэлеграма...

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Ды вось аб гэтым і хацеў пагаварыць.

С у х а д о л ь с к і *(насцярожана)*. Аб чым?

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Аб тым, што ты пачаў здаваць.

С у х а д о л ь с к і. Гэта як жа разумець?

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Старэеш, Павел Міхайлавіч... Духам старэеш.

С у х а д о л ь с к і. Што ты кажаш, Фёдар Мікалаевіч! Хіба ёсць якія-небудзь адзнакі?

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Адзнакі ёсць. *(Дастае з шуфляды паперу.)* Вось яны!

С у х а д о л ь с к і *(занепакоены)*. Што гэта такое?

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Акт камісіі дзяржаўнага кантролю... Захацела яна праверыць, якую ты прадукцыю пасылаеш на Волга-Дон,— узяла ды зняла адзін самазвал з платформы, як толькі яны прыбылі. І вось палюбуйся. *(Перадае акт Сухадольскаму.)* Сорак шэсць дэфектаў.

С у х а д о л ь с к і *(бярэ акт)*. Не можа гэтага быць! *(Праглядае акт.)* Мы ўжо і самі бачым, што канструкцыя недасканалая.

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Не ў канструкцыі справа... Парушэнне тэхналогіі. Поўная адсутнасць вытворчай дысцыпліны.

С у х а д о л ь с к і *(праглядаючы акт)*. Не ведаю, як гэта магло здарыцца.

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Пускавы перыяд, трэба магутнасці нарошчваць, план выконваць, а якасць пасля... Вось адкуль гэта ідзе.

С у х а д о л ь с к і *(збянтэжаны)*. І трэба ж якраз натрапіць на такі самазвал.

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Падлажыў ты мне свінню, Павел Міхайлавіч. Прыйшлося чырванець у Савеце Міністраў.

С у х а д о л ь с к і. Вялікія непрыемнасці былі?

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Халтуршчыкам назвалі. Так што дазволь падзяліцца з табой гэтым «ганаровым» званнем.

С у х а д о л ь с к і. Прабач, Фёдар Мікалаевіч, паправім.

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Між іншым, што ж Шугаеў не прыехаў?

С у х а д о л ь с к і. Хварэе.

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Думаю, не за якасць прадукцыі?

С у х а д о л ь с к і *(у замяшанні)*. Не... Грып у яго.

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Ну, я яму асобна выкажу падзяку.

С у х а д о л ь с к і. Даруй, калі ласка. Я ўжо сам прасачу за якасцю. І канструкцыю мы вырашылі палепшыць. Чытаў нашу дакладную?

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Знаёміўся, як жа...

С у х а д о л ь с к і. Адабраеш?

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Выходзіць, трэба амаль што завод спыніць, каб гэтыя палепшанні ажыццявіць.

С у х а д о л ь с к і. Дык ты лічыш, што не трэба?

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Гэта ты так лічыш. Так і дакладная напісана, каб мяне напужаць. Але ты пужаеш, а мне не страшна. У мяне ёсць іншыя разлікі. І людзі ёсць, якія не запрошваюць столькі з дзяржавы...

С у х а д о л ь с к і *(убок)*. Паспеў-такі наперад забегчы.

Ф ё д а р  М і к а л а е в і ч. Здаў ты, Павел, зусім здаў. Тлушчам аброс, цяжкасцей стаў баяцца. Хочаш харошым быць без лішніх клопатаў, без рызыкі. Там людзі гараць энтузіязмам. Вадзіцелі з

экскаватаршчыкамі змагаюцца за перавыкананне тэхнічных норм. Тут бы ім і дапамагчы. А ты ў кусты. Сам не робіш і маладым ходу не даеш. Мабыць, тут і зайздрасці старэчай крыху ёсць.

Сухадольскі. Зусім ты ўжо мяне нізашто лічыш, Фёдар Мікалаевіч.

Фёдар Мікалаевіч. Горкая, але праўда.

Сухадольскі. Прабач, не хацеў я табе непрыемнасць зрабіць. Незнарок выйшла. Ты ўжо мне даруй... па старой дружбе.

Фёдар Мікалаевіч. Каб гэта датычылася толькі нас з табой, дык сказаў бы я табе, як бывала: «Свіння ты, Пашка! Такую пакасць мне зрабіў» — ды на гэтым бы і справа скончылася. Але ёсць трэцяя зацікаўленая асоба. Яна не паглядзіць на нашы прыяцельскія адносіны.

Сухадольскі. Вера Сцяпанаўна?

Фёдар Мікалаевіч. Тая, якой мы з табой кляліся некалі аддаць усе нашы сілы.

Сухадольскі *(прыгнечаны, пасля доўгай паўзы)*. Якая ж кара мяне чакае?

Фёдар Мікалаевіч. Праветрыцца табе трэба, Павел Міхайлавіч.

Сухадольскі. Куды ж ты мяне? На Калыму ці што?

Фёдар Мікалаевіч. Нашто на Калыму? На Волгу. Самы свежы вецер там. Прасілі ў мяне чалавека на пасаду галоўнага інжынера аўтабазы. Вось і едзь. Там на практыцы і ўбачыш, як працуюць машыны, якія ты выпускаў.

Сухадольскі. Значыць, гоніш з завода?

Фёдар Мікалаевіч. Думаю, што табе перамена клімату будзе карысна... Ты ж і сам прасіў, каб цябе вызвалілі.

Сухадольскі *(прыгнечаны і пакрыўджаны)*. Так, я прасіў. Гэта праўда... *(Устае.)* Ну, усяго добрага, Фёдар Мікалаевіч. Дзякуй за твае клопаты аба мне.

Фёдар Мікалаевіч. Ды мы яшчэ ўбачымся. У пяць гадзін я цябе чакаю.

Сухадольскі. Дзякую, думаю сёння ехаць. Я абяцаў Антаніне Пятроўне не затрымлівацца. Яна ў мяне нездарова нешта... Усяго добрага!

Фёдар Мікалаевіч *(паціскае руку)*. Дарэмна крыўдзішся. Падумай, можа, і не варта.

Сухадольскі. Ды я падумаю... *(Выходзіць.)*

Фёдар Мікалаевіч. Прывітанне Антаніне Пятроўне! Скажы, няхай не хварэе.

Рэферэнт уваходзіць і спыняецца ля дзвярэй.

Рэферэнт. Фёдар Мікалаевіч, Шугаеў звоніць. Просіць падняць трубку. *(Выходзіць.)*

**Фёдар Мікалаевіч** *(бярэ трубку)*. Слухаю. Так, я... Добры дзень, таварыш Шугаеў! Дакладную? Чытаў... Цікавае сачыненне... Што, сумленне загаварыла?.. А раней вы гэтага не бачылі?.. Дырэктару не шкодзіла б і свой розум мець... Не ўжо, няхай тут застаецца. Гістарычны дакумент усё-такі... Сухадольскі быў... Забіраю я яго ад вас... Каштоўнага берагчы трэба, а вы не ўмееце. Знойдзем... Як ваш грып?.. Дзякуй богу! Ваша хвароба паставіла мяне ў цяжкае становішча... Ды як жа,— чалавеку трэба вымову аб'яўляць, а ён хворы ляжыць... У загадзе ўсё будзе напісана... Хутка сам буду ў вас... пагаворым... Дапамагу, як жа... Усяго добрага. *(Кладзе трубку.)*

Рэферэнт з'яўляецца ў дзвярах.

**Рэферэнт.** Русаковіч прыйшоў, Фёдар Мікалаевіч.

**Фёдар Мікалаевіч.** Прасіце.

Рэферэнт выходзіць. Уваходзіць Русаковіч.

**Русаковіч.** Добры дзень, Фёдар Мікалаевіч.

**Фёдар Мікалаевіч** *(вітаецца)*. Добры дзень. Сядайце.

Русаковіч садзіцца.

Што ж гэта вы скандаліце на заводзе, таварыш Русаковіч?

**Русаковіч.** Я не скандалю, Фёдар Мікалаевіч. Вас няправільна інфармавалі. Я толькі змагаюся за тое, у чым цвёрда пераконаны.

**Фёдар Мікалаевіч.** Аўтарытэтаў не прызнаяце.

**Русаковіч.** Аўтарытэт я паважаю, калі ён сапраўдны. Але другі аўтарытэт так заваліць дарогу да добрай справы, што цераз яго і не пералезеш.

**Фёдар Мікалаевіч.** З міністэрствам не лічыцеся. Мы ж гэту канструкцыю зацвердзілі як добрую, а вы кажаце, што яна дрэнная. Выходзіць, што мы нічога не разумеем у сваёй справе.

**Русаковіч.** Яна нядрэнная, але яе можна зрабіць яшчэ лепшай. Пры малой затраце можна дабіцца вялікага эфекту.

**Фёдар Мікалаевіч.** Які ж эфект, калі сабекошт машыны павысіцца, плана завод не выканае...

**Русаковіч.** Калі ўмела і з душой узяцца за справу, дык і план будзе выкананы, і сабекошт не павысіцца.

**Фёдар Мікалаевіч.** Сухадольскі з вамі не згодзен. І што ж будзе, калі яму прыйдзецца праводзіць у жыццё вашу прапанову?

**Русаковіч.** Ён пастараецца даказаць, што я памыляюся.

**Фёдар Мікалаевіч.** Дык што ж нам тады рабіць? Вас ці што назначыць галоўным інжынерам?

**Русаковіч.** Я на гэта не прэтэндую, Фёдар Мікалаевіч.

Фёдар Мікалаевіч. Відаць, так і прыйдзецца зрабіць. Самі заварылі гэту кашу, самі і расхлёбвайце.

Русаковіч. Вы, вядома, жартуеце.

Фёдар Мікалаевіч. І не думаю жартаваць.

Русаковіч *(спалоханы)*. Гэта немагчыма, Фёдар Мікалаевіч.

Фёдар Мікалаевіч. Чаму ж не? Мы лічым, што гэта зусім магчыма. Вы ж возьмецеся з душой.

Русаковіч. Аднае душы мала. Вопыт кіраўніцтва патрэбен.

Фёдар Мікалаевіч. Вопыт набываецца на рабоце.

Русаковіч. Ёсць яшчэ адна акалічнасць, якая не дазваляе мне прыняць гэту прапанову.

Фёдар Мікалаевіч. Што гэта за акалічнасць?

Русаковіч. Этыка. Выходзіць, што я сапхнуў Сухадольскага, каб самому сесці на яго месца.

Фёдар Мікалаевіч. Ён павінен быць задаволены. Сам жа прасіў, каб яго вызвалілі.

Русаковіч. Не думаю, што шчыра. Стратэгічны ход.

Фёдар Мікалаевіч. Калі ён стане ахвярай свае стратэгіі, дык і крыўдзіцца няма на каго.

Русаковіч. Я яму шмат чым абавязан, і нядобра было б з майго боку...

Фёдар Мікалаевіч. Апрача вас двух, ёсць яшчэ трэцяя зацікаўленая асоба — дзяржава. Вы пра яе не забывайце. Яна не згодна, каб вы праяўлялі такую велікадушнасць... за яе кошт.

Русаковіч *(збянтэжаны)*. Не ўяўляю, як я прыйду да яго справу прымаць.

Фёдар Мікалаевіч. Мы аблегчым вам гэту задачу.

Русаковіч сядзіць у роздуме.

Ну дык як?

Русаковіч. Што ж, калі трэцяя зацікаўленая асоба сапраўды ў гэтым зацікаўлена...

Фёдар Мікалаевіч. Безумоўна.

Русаковіч. Тады...

Фёдар Мікалаевіч. Тады я даю ўказанне аб вашым назначэнні. Ну, у добры час! *(Пацiскае Русаковічу руку.)*

## Карціна дзевятая

Веранда дома Сухадольскага на Волга-Доне. Шырокая панарама вялікай будоўлі. На верандзе — стол і некалькі плеценых крэслаў. За сталом з газетай у руках Сухадольскі. Дапіваючы шклянку кавы, ён праглядае газету. Уваходзіць Антаніна Пятроўна.

Антаніна Пятроўна. Наліць яшчэ?

С у х а д о л ь с к і *(не адрываючыся ад газеты)*. Не, дзякую.

А н т а н і н а  П я т р о ў н а. Што там такое цікавае?

С у х а д о л ь с к і. Пра нас сёе-тое.

А н т а н і н а  П я т р о ў н а. Лаюць, вядома.

С у х а д о л ь с к і. На гэты раз ты не ўгадала.

А н т а н і н а  П я т р о ў н а. Няўжо хваляць?

С у х а д о л ь с к і. Паўтарака хваляць за стаханаўскую працу. Адзначаюць добры стан аўтамабільнага парка. Успамінаюць і маё прозвішча.

А н т а н і н а  П я т р о ў н а. Дзякуй і за гэта.

С у х а д о л ь с к і. Нашто ж такая іронія? Усё ж такі гэта прыемна, калі хваляць.

А н т а н і н а  П я т р о ў н а. Калі генерала хваляць за тое, што ён добра ўзводам камандуе, гэта яшчэ не вялікі гонар.

С у х а д о л ь с к і. Ты ўсё-такі наважыла сапсаваць мне настрой.

А н т а н і н а  П я т р о ў н а. Прабач, я не думала, што для цябе гэта так важна...

С у х а д о л ь с к і. Дзіўны талент — знаходзіць ва ўсім толькі адмоўнае.

А н т а н і н а  П я т р о ў н а. Добра, што хоць які-небудзь талент ты нарэшце ў мяне выявіў.

С у х а д о л ь с к і. На жаль, не ўпершыню.

А н т а н і н а  П я т р о ў н а. Спадзяюся, што шкоды табе не было ад майго таленту?

С у х а д о л ь с к і. Як сказаць. Можа, і я часамі глядзеў на рэчы тваімі вачамі.

А н т а н і н а  П я т р о ў н а. Злы геній твой.

С у х а д о л ь с к і. Ты ніколі не думала, чаму гэта ў нас блізкіх сяброў няма?

А н т а н і н а  П я т р о ў н а. Якіх сяброў?

С у х а д о л ь с к і. Звычайных, якія ў людзей бываюць.

А н т а н і н а  П я т р о ў н а. Дык ты лічыш, што гэта праз мяне?

С у х а д о л ь с к і. Мы добрыя, а ўсе дрэнныя, вось нам і няма з кім сябраваць.

А н т а н і н а  П я т р о ў н а. Валі ўсё на мяне. З завода цябе прагналі, і тут я вінавата.

С у х а д о л ь с к і. Недаацэньвалі людзей, не верылі ў іх сілы. А вось яны зрабілі. Яшчэ і мяне хваляць за іх работу.

А н т а н і н а  П я т р о ў н а. Табе застаецца толькі падзякаваць Русаковічу, што ён цябе вытурыў.

С у х а д о л ь с к і. Ведаеш што... Ты ўжо дасягнула свайго — сапсавала мне настрой. Давай лепш пакінем гэту гаворку.

А н т а н і н а  П я т р о ў н а *(збіраючы са стала пасуду)*. Дурны ты, вось я табе што скажу.

Сухадольскі. Дурны, дурны, не пярэчу, толькі сціхні. Вунь людзі ідуць.

Антаніна Пятроўна выходзіць. Уваходзіць парторг будаўнічага ўчастка Сазонаў.

Сазонаў. Добрай раніцы, Павел Міхайлавіч!

Сухадольскі *(устае насустрач)*. Добры дзень, Мікалай Спірыдонавіч. Сядайце, калі ласка.

Сазонаў. Дзякую. Я на хвілінку. Спецыяльна зайшоў, каб дамовіцца. Прыйдзецца вам выступіць, Павел Міхайлавіч.

Сухадольскі. Дзе?

Сазонаў. На мітынгу. Гадавіна камсамола. Госці прыехалі. З Беларусі, між іншым, таксама.

Сухадольскі. З аўтазавода?

Сазонаў. Так.

Сухадольскі. А да мяне не зайшлі.

Сазонаў. Пыталіся пра ваша здароўе. Я даў ім ваш адрас.

Сухадольскі *(да Антаніны Пятроўны, якая ўвайшла)*. Знаёмся, Тоня. Гэта сакратар партарганізацыі будаўнічага ўчастка — Мікалай Спірыдонавіч Сазонаў.

Антаніна Пятроўна *(вітаецца)*. Ведаю, як жа... Нагрузачку прынеслі майму мужу?

Сазонаў. Невялічкую, Антаніна Пятроўна.

Антаніна Пятроўна. Чула. Я думала, што ён ужо выйшаў з камсамольскага ўзросту.

Сазонаў. Трэба моладзь прывітаць ад аўтабазы *(да Сухадольскага)*. Партбюро лічыць, што гэта найлепш вам зрабіць. Былы камсамолец, і ўсё такое...

Сухадольскі. Трэба яшчэ падумаць, што гаварыць.

Сазонаў. Прывітаеце моладзь, гасцей, падзякуеце аўтазаводцам за добрыя машыны.

Антаніна Пятроўна. Самому сабе і дзякаваць няёмка. Сам жа гэтыя машыны рабіў.

Сухадольскі. Гэта не зусім так.

Антаніна Пятроўна. Як жа не так? Ты ж сам пісаў міністру дакладную аб палепшанні канструкцыі.

Сазонаў. Мы ведаем, якую ролю адыграў на заводзе Павел Міхайлавіч, але каля года ўжо ён працуе ў нас, і з поўнай падставай можа лічыць сябе прадстаўніком Волга-Дона.

Сухадольскі. Ну што ж, раз трэба, дык трэба.

Сазонаў. Значыць, дагаварыліся. Ну, добра. Бывайце здаровы. *(Развітваецца і выходзіць.)*

Сухадольскі. І нашто ты ставіш мяне ў няёмкае становішча?

Антаніна Пятроўна. А што ж, няпраўда, што Русаковіч пажынае плады твае працы?

Сухадольскі. Ты сама ведаеш, якая гэта праўда.

Антаніна Пятроўна. Скромнасць заела таварыша.

Сухадольскі. Ведае ж ён. З завода дэлегацыя прыехала — напэўна, была гаворка пра мяне. Ты заўважыла, як ён сказаў: «Мы ведаем, якую ролю адыграў на заводзе Павел Міхайлавіч»?

Антаніна Пятроўна. Я заўважыла, што ты размазня. Больш я нічога не заўважыла. *(Выходзіць.)*

Сухадольскі. Зусім ашалела баба.

Уваходзіць Генадзій.

Генадзій. «Сатана там правит бал, там правит бал...»

Сухадольскі. Перастань гарлапаніць!

Генадзій. Нешта ты не ў гуморы. Ці не дала табе зноў дыхту мая дарагая матуля?

Сухадольскі. Аб справе падумаў бы. Паступаць куды будзеш?

Генадзій. У кансерваторыю, Рэйзену змена патрэбна.

Сухадольскі. Я ў цябе сур'ёзна пытаюся.

Генадзій. А гэта хіба не сур'ёзна? *(Пракашліваецца. На ўвесь голас.)* «Сатана там правит бал, там правит бал, там правит бал».

Сухадольскі *(крычыць)*. Перастань, кажу! Асталоп!

Генадзій. Таленавітае выкананне выклікала бурную рэакцыю ўсяе залы. *(Тэатральна раскланьваецца і выходзіць.)*

Сухадольскі. Вось яшчэ ўцеху Бог даў. *(Збіраецца выходзіць з дому.)*

Уваходзяць Русаковіч з лаўрэацкім значком на грудзях, Валя, Валодзя, Надзя.

Русаковіч. Добры дзень, Павел Міхайлавіч!

Сухадольскі. Добры дзень, добры дзень. *(Вітаецца з усімі за руку.)* А я ўжо хацеў крыўдзіцца.

Валя. За што ж так адразу?

Сухадольскі. Ды як жа... Чую, што прыехалі, а да мяне не заходзяць.

Русаковіч. Ды мы яшчэ не паспелі агледзецца.

Сухадольскі *(прыглядаецца да Надзі)*. А гэта ж... Надзежда... Прабачце, забыўся, як вас па бацьку.

Надзя *(дабратліва)*. Ды вы, мусіць, і не ведалі ніколі. Завіце, як некалі,— Надзя.

Сухадольскі *(няёмка)*. Вунь вы якая сталая... дзяўчына.

Надзя. Дама, Павел Міхайлавіч.

Сухадольскі. Ну, вось бачыце, тым больш.

Надзя. Вось гэты каваль мурзаты — мой муж.

Сухадольскі. Таварыш Стальмашонак. Помню, як жа... Ды ён і не мурзаты зусім. Віншую вас.

Надзя. Дзякую.

Сухадольскі *(да Валі)*. І вас помню. Лепшая стаханаўка цэха нармалей...

Русаковіч *(падказвае)*. Валянціна Жукавец.

Валя. Ужо не стаханаўка. Сакратар камсамольскай арганізацыі.

Сухадольскі. Гэта таксама пачэсна.

Валя *(паказвае на Надзю)*. Вось яна — лепшая стаханаўка.

Сухадольскі. Вельмі рад гэта чуць.

Надзя. Гэта я на злосць Антаніне Пятроўне. Яна казала, што з мяне стаханаўка не выйдзе.

Сухадольскі. Антаніна Пятроўна шмат у чым памылялася. Аднак жа яна рада будзе вас бачыць. Пайду скажу ёй.

Выходзіць.

Валодзя. Памякчэў Павел Міхайлавіч.

Надзя. Здаецца, сапраўды рад нас бачыць.

Валодзя. Відаць, пераканаўся.

Русаковіч. Каб не пераканаўся, мы б да яго і не заходзілі. Я за ім увесь гэты час сачыў здалёк. У Маскве даведваўся. Кажуць, пайшло на карысць.

Валодзя. Свежы волжскі вецер, як вы казалі.

Валя. Тут не цяжка пераканацца. *(Глядзіць удаль.)* Вунь яны — нашы палепшаныя. Як мурашкі, працуюць.

Надзя. Вадзіцелі не нахваляцца імі.

Валодзя. Гэта разумна нехта прыдумаў, што яго сюды паслалі. Наглядны ўрок.

Валя *(гледзячы ўдаль)*. Як паглядзіш на гэтую веліч працы, на гэтыя горы перавернутай зямлі, дык нібы крылы вырастаюць. І нашай жа капля працы ёсць тут.

Валодзя. Прамовы на мітынгу, Валя.

Валя. Не, ты паглядзі! Гэта велічныя крокі да камунізму.

Русаковіч. Гэта ранне камунізму. А дзень наперадзе. Ясны, сонечны і... працавіты. Ах, як мы з вамі папрацуем, таварышы! Якіх машын яшчэ наробім на радасць людзям!

Генадзій *(за сцэнай)*. «Жил-был король когда-то, при нем блоха жила...»

Надзя. Во, Генька пракляты!

Валодзя. Вось вам і ўчарашні дзень.

Генадзій уваходзіць і тэатральна раскланьваецца.

Генадзій *(рэчытатывам)*. Прывітанне дарагім гасцям!

Надзя. Добры дзень, Генадзій Паўлавіч! Як маецеся?

Генадзій. Цудоўна.

Надзя. А талеркі вашы як маюцца?

Генадзій. Таксама нядрэнна... з таго часу, як іх няма каму біць.

Надзя. Вас, здаецца, можна павіншаваць з атэстатам сталасці?

Генадзій. Калі ласка. Атэстат магу прадставіць, а наконт сталасці мяркуйце самі.

Надзя. І што ж вы цяпер парабляеце?

Генадзій *(пяе)*. «Жил-был король когда-то». *(Паказвае на бацьку, які ўваходзіць.)* «При нем блоха жила». *(Паказвае на сябе.)* Ха-ха! Блоха!

Сухадольскі. Перастань блазна строіць!

Генадзій *(выходзіць)*. Ха-ха-ха-ха-ха-ха-ха!

Сухадольскі *(ставіць на стол бутэльку віна і закуску)*. Антаніна Пятроўна прасіла прабачыць. Ёй нешта нездаровіцца.

Валя і Надзя пераглянуліся.

Валя. Мы не ў пару вас патурбавалі.

Русаковіч. А што такое з Антанінай Пятроўнай?

Сухадольскі. Нічога сур'ёзнага. З ёю гэта бывае.

Русаковіч. Нічога гэтага не трэба было, Павел Міхайлавіч. Мы толькі што паснедалі.

Сухадольскі. Не бойцеся, не абкармлю... Сядайце, калі ласка. Андрэй Данілавіч, сюды! Моладзь, бліжэй да стала падсоўвайцеся! *(Наліваючы чаркі.)* Рассталіся мы нядобра... Давайце хоць сустрэнемся па-людску. Вы ж, напэўна, думаеце, што я вас ворагамі лічу.

Валя.<br>
Русаковіч. } Што вы, Павел Міхайлавіч!<br>
Валодзя.

Сухадольскі. Ды чаго ўжо там... Так яно фактычна і было.

Няёмкае маўчанне.

Русаковіч. Калі вы гаворыце пра гэта ў мінулым часе, дык ужо добрая адзнака.

Валя. Давайце больш не будзем пра гэта.

Надзя. А то, чаго добрага, зноў пасварымся.

Сухадольскі. Крыўдна, таварышы... Крыўдна і горка, калі той, каго ты за вушы выцягваў, лічыў малакасосам, раптам апынаецца ўперадзе цябе — усімі прызнанага майстра сваёй справы.

Надзя *(да Валі)*. Пачынаецца.

Сухадольскі. Цяжка пamірыцца з тым, што цябе адціскаюць на задні план. Табе ўсё здаюцца падвохі ды падкопы.

Крыўда засцілае вочы і перашкаджае бачыць рэчы ў іх сапраўдным святле. І нават калі розум твой пачынае пасягаць ісціну, пачуццё гаркоты яшчэ надоўга застаецца ў душы.

Русаковіч. Магчыма, Павел Міхайлавіч...

Сухадольскі. Магчыма, што мы з вамі так бы і засталіся ворагамі на ўсё жыццё, каб не ўмяшалася ў справу трэцяя зацікаўленая асоба. Перад яе веліччу нашы асабістыя крыўды здаюцца дробнымі і нікчэмнымі. Давайце ж вып'ем за яе шчасце і росквіт!

Русаковіч. Дазвольце мне прадоўжыць гэты тост. Цяжка, таварышы, прычыняць боль блізкаму чалавеку. Асабліва, калі ты яму многім абавязан. Да таго цяжка, што ты гатоў адмовіцца ад сваіх самых лепшых намераў. Але тут умешваецца ў справу, як вы правільна сказалі, Павел Міхайлавіч, трэцяя зацікаўленая асоба. «А ці маеш ты права?» — пытаецца яна. І тады...

Сухадольскі. Тады блізкія людзі становяцца часам ворагамі.

Русаковіч. Для таго каб потым стаць яшчэ больш блізкімі сябрамі. Давайце ж вып'ем за яе... За тое, што яна ачышчае нашы душы ад усякага смецця.

Валодзя. І адкрывае ў іх сапраўднае золата.

Чокаюцца і выпіваюць.

Сухадольскі. Вось вы пра сяброў сказалі... Няма ў мяне блізкіх сяброў. Нават у сям'і, як ні цяжка ў гэтым прызнацца. І таму гэты другі бакал я падымаю за маіх так званых ворагаў, якія, можа, і ёсць самыя блізкія мне людзі. Вось ён — мой вораг нумар першы. *(Чокаецца з Русаковічам.)* А за ім усе па парадку. *(Чокаецца з астатнімі.)*

Здалёк даносіцца песня многіх маладых галасоў.

Валя *(падыходзіць да акна)*. Камсамольцы на мітынг збіраюцца.

Сухадольскі *(з вінаватым выглядам)*. Мне выступаць, а я і не рыхтаваўся.

Усе ўстаюць, каб ісці на мітынг.

Русаковіч. Мы вам перашкодзілі.

Сухадольскі. Нічога, скажу... Цяпер я скажу.

Песня набліжаецца. Усе накіроўваюцца да дзвярэй.

Канец

*1952—1953*

# ЛЮДЗІ І Д'ЯБЛЫ

*Драма ў трох актах,*
*дзесяці карцінах*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Прымаковіч Алена Сцяпанаўна.
Барута Андрэй Пятровіч — яе муж.
Вікця — іх дачка, гадоў 25.
Таня — другая іх дачка, гадоў 12.
Суседка.
Даніловіч («Шаўцоў»).
Рунец Рыгор Тарасавіч («Вусаты»).
«Цётка».
«Страказа».
«Братка» — камандзір партызанскага атрада.
Канцавы — камандзір узвода.
Кузьмін Аляксандр Ільіч.
Міхаіл Фёдаравіч — урач.
Чэпік — партызан.
Акуліч — партызан.
Радыст.
Скробат Антон Іванавіч («Нёманскі»).
Жэня — яго жонка.
Валерык — іх сын, гадоў 12.
Марына — агент гестапа.
Кунц — палкоўнік, начальнік СД.
Нагель — маёр, начальнік следчага аддзела.
Мюлер — лейтэнант, яго намеснік.
Пельцэр — капітан, камандзір роты СС.
1-ы салдат-эсэсавец.
2-і салдат-эсэсавец.
Паліцэйскі.
Партызаны, нямецкія салдаты.

Дзея адбываецца ў канцы 1941 і пачатку 1942 года ў адным з гарадоў, часова акупіраваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

## АКТ ПЕРШЫ

### Карціна першая

Кватэра Алены Прымаковіч. Невялікі пакой. У правай сцяне — дзверы ў суседні пакой. У левай сцяне — акно. У задняй сцяне — дзверы ў пярэднюю, завешаныя таннай парцьерай. За парцьерай злева ўгадваюцца дзверы ў суседні пакой, справа — на кухню, прама дзверы на двор, якія відаць, калі адхінаецца парцьера. На левай сцяне — ходзікі. Пад ходзікамі сямейныя фатаграфіі. Пры сцяне засланы ложак. Управа ад ложка, пры задняй сцяне,— шафа для адзення. Пасярэдзіне пакоя стол.

Таня высоўвае з-пад ложка куфэрак, адчыняе, дастае піянерскі гальштук. Завешвае фіранкай акно. Глядзіць на гадзіннік. Завязвае гальштук і глядзіцца ў люстэрка, якое стаіць на акне. Распраўляе гальштук.

Уваходзіць Алена. Таня аглядаецца, але не пакідае свае работы.

Алена. Што гэта ты надумала?

Таня. Гальштук завязваю.

Алена. Не трэба гэтага рабіць.

Таня. Трэба. Каб заўсёды помніць, што я піянерка.

Алена. Бачыла, як на рынку людзей вешалі?

Таня. А я не баюся.

Алена. Храбрая вельмі. А чаго ж ты плакала?

Таня. Мне іх шкада было. І злосць на фашыстаў. Тады мы з Надзяй Андруковіч і пакляліся завязваць гальштук кожны дзень на пяць мінут, аж пакуль нашы не вернуцца.

Алена. Знімі ды схавай, я табе кажу.

Таня. Яшчэ... *(Глядзіць на гадзіннік.)* Дзве мінуты.

Алена. А як прыйдзе немец?

Таня. А я яму ў рыла.

Алена *(смяецца)*. Якая ж ты яшчэ дурная!

Бразнулі дзверы. Таня бяжыць у бакоўку. Праз хвіліну з дзвярэй высоўваецца яе галава.

Алена *(расхінае парцьеру)*. Гэта ты?

Барута ўваходзіць і аддае ёй гавяджую нагу з капытом.

Барута. На, халоднае зварыш.

Таня. Халоднае! Халоднае! *(Плешча ў далоні.)*

А л е н а. Беднае дзяўчо. Як быццам і ў вочы ніколі не бачыла.

Т а н я. Яно смачненькае.

А л е н а. Цяпер і бульба з мундзірамі смачненькая. *(Да мужа.)* Зарабіў, мусіць, нешта?

Б а р у т а. Вагон дроў разгрузілі ўтрох.

В і к ц я ўваходзіць.

В і к ц я. Што тут за радасць такая?

Б а р у т а. Радасць вялікая. Гавяджы капыт дастаў.

А л е н а. А гавядзіну фашысты жаруць.

Б а р у т а. Цэлымі эшалонамі вывозяць. Бачыў сёння.

А л е н а. Хіба мы думалі калі, што дабро, набытае нашым мазалём, будуць спажываць злыдні? Што савецкую зямлю будуць таптаць гэтыя фашысцкія вырадкі?

Б а р у т а. Крыўда. Вялікая крыўда. Ну, але прыйдзе на іх пагібель.

Т а н я. А Вікця...

В і к ц я. Што — Вікця?

Т а н я. Ты ж ім служыш.

В і к ц я. Што б ты ела, каб я не служыла?

Т а н я. Мама, ты не давай мне таго пайка, што яна прыносіць. Я есці не буду.

А л е н а. Таня! Што гэта ты гаворыш!

Т а н я *(да Вікці)*. Камсамолка, як табе не сорам!

В і к ц я *(пакрыўджаная да слёз)*. Тата, растлумач ты гэтай дурніцы.

А л е н а. А як Вікцю ў Германію хацелі пагнаць, дык, нябось, плакала.

Б а р у т а. Ты, Танюша, дарэмна Вікцю пакрыўдзіла. Яна не фашыстам служыць, а людзям. Хворых лечыць. Гэта ж нашы людзі, нашто ж каб яны паміралі?

Т а н я. Паліцаяў яна лечыць.

Б а р у т а. Тут яна нічога зрабіць не можа. Калі адмовіцца, дык яе арыштуюць. Але ж паліцаяў там адзінкі, а больш такія людзі, як я ды твая мама.

В і к ц я. Тата, можа, і для цябе нядобра, што я там працую?

Б а р у т а. Я б табе сказаў.

В і к ц я. Твае таварышы могуць пра цябе дрэннае падумаць. Лепш, калі я не буду лічыцца тваёю дачкою.

А л е н а. Як гэта так?

В і к ц я. Я ваша кватарантка. Так лепш будзе.

А л е н а. Невядома, што ты выдумала.

Б а р у т а *(задумаўся)*. Можа, і лепш. І не ў табе тут справа. Я таксама злажыўшы рукі сядзець не буду, і ўсяк можа быць.

А раптам мяне схопяць. Тады і вас пацягнуць як радню. А так я — чужы чалавек. Кватарант, як ты кажаш. А гаспадыня кватэры — вось яна — Алена Сцяпанаўна Прымаковіч. І прозвішчы ў нас розныя.

Т а н я. А я хто?

А л е н а. А ты мая дачка.

Т а н я *(да Баруты)*. А цябе як я буду зваць?

Б а р у т а. Ну як ты будзеш зваць... Заві, напрыклад, дзядзька Мікіта.

Т а н я. Мікіта! Як смешна!

Б а р у т а. Пры людзях. Гэта будзе мая мянушка.

А л е н а *(нявесела)*. Вось мы і чужыя сталі. Хадзем, Танюша, паможаш мне бульбы начысціць.

А л е н а і Т а н я выходзяць.

В і к ц я *(падыходзіць да Баруты і абнімае яго за плечы)*. Татачка мой! Ты не крыўдзішся, што я ад цябе адраклася?

Б а р у т а. Не ты ў гэтым вінавата. Ды яно і лепш так. Мы ж дамовіліся.

В і к ц я. Не сумуй, татачка. Ты мне яшчэ раднейшы цяпер. *(Цалуе бацьку і выходзіць.)*

Г о л а с з а а к н о м. Пілы наразаць! Брытвы, нажніцы тачыць! Пілы наразаць! Брытвы, нажніцы тачыць!

Адчыняюцца дзверы. Голас у пярэдняй.

Можа, нажы павастрыць трэба?

Б а р у т а *(расхінае парцьеру)*. Заходзьце сюды.

Уваходзіць Р у н е ц з тачылам.

Нож зусім выгупіўся.

Дае Рунцу нож. Рунец круціць тачыла. Яны неўзаметку прыглядаюцца адзін да аднаго.

Гэта вам не ўдалося выехаць? Ці вы наўмысля засталіся?

Р у н е ц. Так прыйшлося. *(Вострыць. Прабуе пальцам лязо.)* А сам працуеш дзе?

Б а р у т а. Нідзе.

Р у н е ц. Так мы тваю заяву і не паспелі разгледзець.

Б а р у т а. Яшчэ разгледзіце.

Р у н е ц. Можа, ты і назад хацеў бы забраць, дый яна вывезена з партыйным архівам.

Б а р у т а. А нашто яе забіраць?

Р у н е ц. Усяк бывае. Улада перамянілася.

Б а р у т а. Сумленне маё не перамянілася.

Р у н е ц. Добра і гэта.

Б а р у т а. А што нядобра?

Рунец. Нядобра тое, што некаторыя хочуць у зацішку перасядзець.

Барута. Гэта ты пра мяне?

Рунец. Пра некаторых.

Барута. То ты некаторым і кажы.

Рунец. Пакрыўдзіўся? Гэта крыўда мне падабаецца.

Барута. Я камуніст малады. Чакаю, што мне старэйшыя скажуць. У іх, напэўна, указанні ёсць.

Рунец. Ёсць такія ўказанні. Цэнтральны Камітэт даваў іх тым камуністам, якіх пакідаў у нямецкім тыле. Мы ведаем таксама выступленні кіраўнікоў нашай партыі. Асноўнае ўказанне — знішчаць ворага. Ёсць чуткі, што ў нашай вобласці нават дзейнічае абком, які ператварыўся ў падпольны. Дзей-ні-чае, разумееш? Нам, можа, не скора ўдасца звязацца з абкомам і ЦК, але гэта не значыць, што мы павінны сядзець склаўшы рукі.

Барута. Я гатоў рабіць тое, што мне скажуць. Скажуць страляць — буду страляць. Патраплю. У імперыялістычную вайну аддзяленнем камандаваў.

Рунец. Дзейнічаць трэба арганізавана.

Барута. А гэта вядома. Дык, напэўна ж, ёсць ужо якая-небудзь арганізацыя ў горадзе.

Рунец. Ёсць такая арганізацыя. Яна і ўзнімае на барацьбу ўсіх, каму нямецкае ярмо муляе карак, каму нязносна бачыць народ свой у фашысцкай няволі. Тут першая скрыпка належыць нам, камуністам. Нам жа і першая пятля, калі што якое. Хто гэтага баіцца, няхай лепш не блытаецца пад нагамі.

Барута. Якое заданне ты мне дасі?

Рунец. Вось хата твая мне падабаецца.

Барута. Хата нішто, толькі яна не мая. Я ў гаспадыні пакой наймаю.

Рунец. У зацішным месцы, падход зручны. Але калі не твая, то няма чаго і гаварыць.

Барута. А ты ўсё-такі пагавары з гаспадыняй.

Рунец. Ці варта?

Барута. Калі я кажу, дык ведаю.

Рунец. Хто тут яшчэ жыве?

Барута. У тым пакоі, супраць кухні, кабеціна маладая. Муж яшчэ перад вайной на граніцы загінуў.

Рунец. І як яна?

Барута. Можна не сумнявацца. Ды яна і дома рэдка бывае. У бальніцы працуе.

Рунец. Ручаешся?

Барута. Ручаюся.

Рунец. Пакліч гаспадыню.

Барута. Алена Сцяпанаўна! Зайдзіце сюды на хвілінку.

Алена ўваходзіць.

Рунец. Можа, нажы павастрыць трэба?

Алена. Не, не трэба. У мяне вось кватарант майстар на гэта.

Барута. У гэтага чалавека ёсць другая справа да вас. А чалавек гэты — наш.

Алена. Якая ж у вас справа да мяне?

Барута. Кватэра ваша яму падабаецца.

Рунец. Зацішная. Тут бы добра і сабрацца добрым людзям.

Алена. Добрым — чаму ж не сабрацца. Гэта як дзядзька Мікіта скажа. Пакойчык яго.

Рунец. З дзядзькам *(падкрэслена)* Мікітам мы дамовіліся, але ■ хачу папярэдзіць, што і для вас тут вялікая небяспека. Калі немцы даведаюцца...

Алена. А вы ж не зважаеце на гэта...

Рунец. Мая справа такая.

Алена. Дык, можа, і мая такая самая. Ва ўсіх савецкіх людзей цяпер адна справа.

Рунец. Можа, калі і прыхаваць што прыйдзецца, дык, думаю, не адмовіце?

Алена. Што, напрыклад?

Рунец. Коўдру, ватоўку якую-небудзь. У лесе ж нашы людзі ёсць... А часамі і стрэльбу.

Алена. Людзей хаваем, дык і гэта можна. Надоечы з гета адзін знаёмы ўцёк, дык тры дні ў нас у склепе сядзеў, пакуль у лес не пераправілі.

Рунец. Дзякуй, Алена Сцяпанаўна. То я і пайду ўжо.

Алена. Пачакайце. Вунь валакуцца ірады. Як у вас з дакументамі?

Рунец. Дакументы ёсць, але лепш не сустракацца.

Алена. То лезьце на вышкі.

Алена і Рунец выходзяць. Барута бярэ нож і пачынае вастрыць. Уваходзяць немец і паліцэйскі.

Паліцэйскі. Дома сядзіш, лынды б'еш.

Барута. Не сяджу, а стаю, і не лынды б'ю, а нож вастру.

Паліцэйскі. Чаму на работу не ідзеш?

Барута. А гэта хіба не работа?

Немец. На завод. На чыгунка.

Барута. Гэта ён няхай ідзе *(паказвае на паліцэйскага)*, а я стары.

Паліцэйскі. Пагавары ў мяне.

Барута *(немцу)*. Альтэ. Альтэ. *(Торкае сабе пальцам у грудзі.)*

Немец. Пас!

Барута. Пашпарт? Калі ласка! *(Дастае пашпарт.)* Во! Год нараджэння — тысяча восемсот восемдзесят.

Немец *(уважліва разглядае пашпарт і аддае Баруту. Да паліцэйскага)*. Форт!

Немец і паліцэйскі выходзяць.

Барута. Здохне ваш фюрер, пакуль я на яго буду працаваць. *(За парцьеру.)* Злазь, пайшлі ўжо!

Уваходзіць Рунец.

Рунец. Чаго ім трэба?

Барута. Дурняў шукаюць. Ідзі на завод працаваць. А я ім пашпарт тыц у зубы. *(Паказвае Рунцу пашпарт.)*

Рунец. Гэта ты такі стары?

Барута. Для іх — стары. З дзевяткі зрабіў васьмёрку і зразу пастарэў на дзесяць гадоў.

Рунец. Мастак. Будзем гэта мець на ўвазе. Яны ў які бок пайшлі?

Барута. У той.

Рунец. То я ў гэты. Бывай. *(Многазначна.)* Хутка спаткаемся. А пакуль што — вось, пачытай. *(Вымае з кішэні некалькі зялёных лістовак і дае Баруту.)* І таварышам дай, каго добра ведаеш. *(Выходзіць.)*

## Карціна другая

Бальніца. Палата на тры ложкі. На адным ляжыць хворы ў непрытомнасці. Дыханне з хрыпам вырываецца з яго грудзей. На другім — Кузьмін. Адзін ложак пусты. Кузьмін, прыўзняўшыся на локаць, нецярпліва пазірае на дзверы. Уваходзіць Вікця ў бальнічным халаце.

Кузьмін *(адкінуўся на падушку)*. Ну, нарэшце!

Вікця. Цярплівасці больш, малады чалавек! *(Падыходзіць да ложка.)* Як тэмпература?

Кузьмін *(ківае галавой на столік)*. Нармальная.

Вікця *(бярэ са століка тэрмометр, глядзіць)*. Усё ж такі... Трэба было б яшчэ паляжаць.

Кузьмін. Адзін такі паляжаў ужо.

Вікця *(з апаскай паглядзела на суседні ложак)*. Не прыходзіў да памяці?

Кузьмін. Не.

Вікця. Сяргеева выдаў наш загадчык гаспадаркі.

Кузьмін. О гадзіна! Я яго прыкончу.

Вікця. Не дурыцеся!

Кузьмін. Чалавека якога загубіў!

Віцця. Вам раней трэба на ногі стаць.

Кузьмін. Гэта я магу. *(Становіцца на ногі.)* Вось ужо стаю.

Віцця. Трымаючыся за ложак.

Кузьмін. Калі ласка! *(Накульгваючы, робіць некалькі крокаў.)*

Віцця. Поўзаць можаце сяк-так.

Кузьмін. Ці хутка вы мяне выпусціце?

Віцця. Відаць, хутка.

Кузьмін. Ад каго гэта залежыць?

Віцця. Больш за ўсё ад яго. *(Ківае галавой на цяжкахворага.)*

Кузьмін *(здзіўлены)*. Ад яго? Ён жа пры смерці.

Віцця. У гэтым і ўся справа.

Кузьмін. Не разумею.

Віцця. Хутка зразумееце. Кладзіцеся ў пасцель. Зараз сюды зойдзе Міхаіл Фёдаравіч, а з ім немец, капітан Пельцэр. Што я буду гаварыць, вы не пярэчце.

Кузьмін кладзецца ў пасцель.

Кузьмін. У вас ёсць які-небудзь план?

Віцця. Вы прозвішча суседа ведаеце? *(Ківае на цяжкахворага.)*

Кузьмін. Ведаю. Шуляк.

Віцця. Хто ён такі і адкуль?..

Кузьмін. Вы мне гаварылі пра яго.

Віцця *(садзіцца на край яго ложка)*. Можа, вам прыйдзецца ім пабыць.

Кузьмін. Паліцаем?

Віцця. Нібыта.

Кузьмін. А вам гэта не пагражае?

Віцця. Вайна ўсім пагражае.

Кузьмін. Я не хачу, каб праз мяне вы на шыбеніцу трапілі.

Віцця. Я гэта раблю не толькі дзеля вас.

Кузьмін бярэ яе руку, гладзіць, падносіць да губ.

Не трэба.

Кузьмін. Чаму? Вам непрыемна?

Віцця. Не час цяпер.

Кузьмін. Таго часу можна і не дачакацца.

Віцця. У мяне такое адчуванне, як быццам я злачынства раблю.

Кузьмін. Страшэннае злачынства.

Віцця. Ну як жа! Бяда такая, людзі гінуць, а нам глупства наўме.

К у з ь м і н. Гэта глупства апета паэтамі ўсіх часоў.

В і к ц я. Я не так сказала. Не глупства, вядома. Я яшчэ не ведаю, наколькі гэта сур'ёзна... для нас з вамі. Толькі для нас з вамі. Дык хіба ж мы можам са сваімі пачуццямі адгарадзіцца ад усяго? Вы там як сабе хочаце — хоць жывіце, хоць памірайце,— а нам не да гэтага: у нас каханне.

Кузьмін задумаўся.

Што ж вы маўчыце?

К у з ь м і н. А я вось... не адчуваю сябе злачынцам.

В і к ц я. Вы — справа іншая. Вы ваявалі, смерці ў вочы не раз глядзелі, кроў пралілі. Вы — паўнацэнны савецкі чалавек. А я вось пад нямецкай уладай працую. Прыйдуць нашы, спытаюцца: «А ты што рабіла ў гэты цяжкі час?» — «А я лётчыка савецкага кахала». Добра хоць, што не нямецкага, але наўрад ці палічаць мне гэта за подзвіг.

К у з ь м і н. Калі чалавек жыццём рызыкуе за добрую справу, дык гэта, напэўна, подзвіг?

В і к ц я *(пачуўшы на калідоры галасы)*. Ідуць. *(Устае і папраўляе пасцель.)*

Уваходзяць М і х а і л Ф ё д а р а в і ч і П е л ь ц э р, у якога з-пад халата відаць нямецкая уніформа.

П е л ь ц э р *(глядзіць у паперку)*. Кузьмін Аляксандр Ільіч — каторы?

В і к ц я. Вось гэты. *(Паказвае на Шуляка.)*

Міхаіл Фёдаравіч здзіўлена глядзіць на яе з-за Пельцэра і паціскае плячамі.

П е л ь ц э р. Я хацеў бы з ім пагаварыць.

В і к ц я. На жаль, гэта немагчыма, пан капітан. Ён у непрытомнасці.

П е л ь ц э р *(раскрывае хворага, заглядае яму ў твар)*. Як ён да вас трапіў?

В і к ц я. На вуліцы падабралі... цяжкараненага.

П е л ь ц э р *(да Міхаіла Фёдаравіча)*. Гэта праўда?

М і х а і л Ф ё д а р а в і ч. Гэта было так. І дакумент адзін пры ім быў.

П е л ь ц э р. Калі ён будзе магчы гаварыць, вы мне паведаміце.

В і к ц я. Ён у безнадзейным стане.

М і х а і л Ф ё д а р а в і ч *(падыходзіць да хворага, мацае пульс)*. Да вечара наўрад ці дацягне.

П е л ь ц э р. У той дзень, як вы яго палажылі, недалёка ад горада быў збіты савецкі самалёт. Два лётчыкі выкінуліся з парашутамі. Вельмі магчыма, што гэта адзін з іх. Вы яго прытулілі. *(Да Вікці.)* Вось вы.

Вікця. Што за прыемнасць прытульваць мерцвяка?
Пельцэр. А каго б вы прытулілі?
Вікця. Ва ўсякім разе не труп.
Пельцэр. А наогул вы гэта можаце?
Вікця. Калі хто таго заслугоўвае.
Пельцэр. А я магу заслужыць?
Вікця. Паспрабуйце.

Міхаіл Фёдаравіч дзівіцца з такіх яе паводзін, дакорліва ківае галавой.

Пельцэр. Як вас зваць?
Вікця. Вікторыя.
Пельцэр. Вікторыя! Перамога, значыць. Такую перамогу я хацеў бы атрымаць.
Вікця. Гэта перамога не так лёгка даецца.
Пельцэр. Скажыце, мілая перамога, вы не хочаце сёння са мной на танцы?
Вікця. А хворыя *(ківае на Шуляка)* няхай паміраюць?
Міхаіл Фёдаравіч. Сёння ніяк нельга.
Пельцэр *(да Вікці)*. А калі-небудзь?
Вікця. Калі-небудзь — паглядзім.
Пельцэр. Буду спадзявацца. *(Да Міхаіла Фёдаравіча.)* А наконт хворага папярэджваю: вы за яго галавой адказваеце.
Міхаіл Фёдаравіч. Ён у вашым распараджэнні, пан капітан. Рабіце з ім, што хочаце.
Пельцэр. Дзякую. Мёртвы ён мне не патрэбен.
Міхаіл Фёдаравіч. На жаль, мы не ў сілах вярнуць яму жыццё.
Пельцэр *(глядзіць у паперку)*. А ваша прозвішча?
Кузьмін. Шуляк, пан капітан.
Пельцэр. У паліцыі служыце?
Кузьмін. У паліцыі.
Пельцэр. Як жа гэта вас падстрэлілі?
Кузьмін. Ноччу, у часе аднае аперацыі.
Пельцэр. І як здароўе?
Кузьмін. Добра, пан капітан. Рана, можна сказаць, зажыла.
Вікця. Мы яго выпісваць збіраемся.
Пельцэр. А партызан вы цяпер не будзеце баяцца?
Кузьмін. Партызан! Мне б толькі дарвацца да іх.
Пельцэр *(задаволена ківае галавой)*. Я далажу пра вас каму належыць.
Кузьмін. Дзякую, пан капітан.

Пельцэр накіроўваецца да дзвярэй. У дзвярах ён паварочваецца, галантна кланяецца Вікці і выходзіць. За ім — Міхаіл Фёдаравіч.

Вікця *(уздыхае з палёгкай)*. Фу!

Кузьмін. Ну і ну!

Віцця. А пра лётчыка яны не забыліся. Майце на ўвазе.

Кузьмін. Няўжо вы сапраўды на танцы з ім пойдзеце?

Віцця. Яшчэ чаго не хапала.

Кузьмін. Вы так какетнічалі.

Віцця. Гора плача, гора скача, гора песенькі пяе.

Уваходзіць усхваляваны Міхаіл Фёдаравіч.

Міхаіл Фёдаравіч. А-я-яй, Вікторыя Андрэеўна! Як жа вы так адважыліся?

Віцця. А што ж было рабіць, Міхаіл Фёдаравіч?

Міхаіл Фёдаравіч. А каб я не пацвердзіў вашай маны?

Віцця. Вы б загубілі чалавека.

Кузьмін. І не аднаго.

Міхаіл Фёдаравіч. Чаму ж вы рашылі, што я буду рызыкаваць жыццём?

Віцця. Бо я вас ведаю.

Міхаіл Фёдаравіч *(злосна)*. Ні чорта вы мяне не ведаеце. І я прашу без майго ведама маім жыццём не распараджацца.

Віцця *(весела падморгвае Кузьміну)*. Але ж цяпер позна ўжо пра гэта гаварыць.

Міхаіл Фёдаравіч. І трымалі вы сябе з ім вельмі вольна. Ён можа чорт ведае што падумаць.

Віцця. Няхай думае.

Міхаіл Фёдаравіч. Глядзіце, дагуляецеся. А гэтага *(паказвае на Кузьміна)* выпісаць! Зараз жа!

Віцця. Вядома. Праўда, ён яшчэ слаба ходзіць.

Міхаіл Фёдаравіч. Няхай хоць ракам поўзае. Аддаць яму дакументы Шуляка. А гэты... *(Ківае на Шуляка.)* Тут справа ясная... *(Выходзіць.)*

Віцця. І куды ж вы пойдзеце? Ні кутка ў вас няма, ні знаёмых. Пагавару я са сваёй гаспадыняй. Можа, яна прытуліць, пакуль паправіцеся.

### Карціна трэцяя

Кабінет начальніка следчага аддзела Нагеля.

Кунц. Чым вы можаце мяне парадаваць, пан маёр?

Нагель. Навін, якія б маглі вас парадаваць, пан палкоўнік, у мяне няма.

Кунц. А ў мяне ёсць для вас навіны. *(Вымае з папкі зялёную лістоўку.)* Вось! Палюбуйцеся!

Н а г е л ь. Гэта ў мяне ўжо ёсць, пан палкоўнік. *(Вымае такую ж лістоўку з верхняй шуфляды свайго стала.)*

К у н ц. Не высветлілі, дзе надрукавана?

Н а г е л ь. Яшчэ не ўдалося. Я ўстанавіў нагляд за гарадской друкарняй.

К у н ц. А гэта вы бачылі? *(Вымае аб'яву акупантаў і разгортвае перад Нагелем.)* Вы ж па-руску чытаеце?

Н а г е л ь *(чытае)*. Брах-ня.

К у н ц. Так па ўсім горадзе на аб'явах нямецкай улады. Штамп спецыяльны выразалі. А ёсць і горшыя рэчы. *(Вымае з папкі наступную паперу.)* Гэта загад камандавання, дзе ўпамінаецца імя фюрера. Вы па-беларуску, здаецца, таксама чытаеце?

Н а г е л ь *(чытае па складах)*. Па-ца-луй-це свай-му фю-р-эру...

К у н ц. Як вам гэта падабаецца?

Н а г е л ь. Мне гэта зусім не падабаецца, пан палкоўнік.

К у н ц. На шашы, на трыццаць сёмым кіламетры, абстралялі грузавую машыну. Трох нашых салдат забілі, зброю і прадукты забралі.

Н а г е л ь. Я магу прадоўжыць гэты спіс, пан палкоўнік. З лагера знікла група палонных. З паліцэйскай казармы прапалі аўтамат і чатыры вінтоўкі.

К у н ц. Як вы ўсё гэта расцэньваеце?

Н а г е л ь *(вымае з шуфляды і падае Кунцу паперку)*. Гэта вам сёе-тое растлумачыць.

К у н ц. Партызанская прысяга. *(Чытае.)* «...і не палажу зброі да таго часу, пакуль родная беларуская зямля не будзе ачышчана ад нямецка-фашысцкай погані». Якое нахабства!

Н а г е л ь. Горш за ўсё, што гэта нахабства з кожным днём расце.

К у н ц. Прыгледзеліся да нашай работы і рашылі, што не такі чорт страшны, як яго малююць.

Н а г е л ь. Нашу работу яны бачылі на рыначнай плошчы, калі іх прыяцелі матляліся на вяроўках. Яна не дае ім падставы так думаць.

К у н ц. Усе гэтыя факты зараз жа будуць вядомы ў Берліне.

Н а г е л ь. Не абавязкова пра кожную дробязь у Берлін паведамляць.

К у н ц. Без нас паведамяць. Ёсць прыяцелі, якія рады выслужыцца за наш кошт. І калі мы не прыдумаем чаго-небудзь незвычайнага, дык на ласку фюрэра нам няма чаго спадзявацца.

Н а г е л ь. Гэта ўсё гучыць як дакор у мой адрас, пан палкоўнік. Але ж вы помніце фразу з данясення гаўляйтэра фюрэру: «У Беларусі няма матэрыяльных і персанальных прад-

пасылак для стварэння мясцовага самакіравання». Гэта значыць, што тут вельмі цяжка знайсці людзей, якія б захацелі з намі працаваць.

Кунц. Калі мы будзем спадзявацца толькі на тых, хто захоча, дык лепш кінуць гэту работу.

Нагель. Вы мне прапануеце адстаўку?

Кунц. Я вам прапаную сур'ёзна займацца справай, маёр Нагель. Апрача добрай волі, ёсць яшчэ прымус, тэрор, жах, якія могуць працаваць на нас.

Нагель. Я раблю ўсё, што ў маіх сілах, пан палкоўнік.

Кунц. А вынікі? Дзе рука, якая накіроўвае ўсю гэту падрыўную работу? У вас пад носам, можа, падпольны гарком дзейнічае, а вы ўсё будзеце пра цяжкасці размаўляць.

Нагель. Што ў горадзе дзейнічае падпольная камуністычная арганізацыя, у гэтым я не сумняваюся.

Кунц. Дык што вы думаеце рабіць?

Нагель. Ёсць адна ідэя, пан палкоўнік.

Кунц. Што за ідэя?

Нагель. Пралезці ў гэту арганізацыю.

Кунц. Гэта хто ж пралезе? Вы, ці што?

Нагель. Мы.

Кунц. Паспрабуйце, а я пагляджу.

Нагель. Як вы ведаеце, у падвале гэтага дома сядзяць, праўдзівей, ляжаць некалькі камуністаў. Гэта тыя, што не паспелі ўцячы, а можа, наўмысна пакінуты для падрыўной работы. Усе яны адмаўляюцца, што ведаюць што-небудзь пра падпольную работу. На вочных стаўках адзін аднаго не прызнаюць.

Кунц. Білі?

Нагель. Трох забілі да смерці.

Кунц. Грубая работа. Трэба так біць, каб што-небудзь выбіць.

Нагель. Можа, вы, пан палкоўнік, хочаце глянуць на аднаго з іх? Вельмі цікавы экземпляр. Жывы яшчэ. Спецыяльна для вас пакінуў.

Кунц. Цікава.

Нагель націскае кнопку. Уваходзіць салдат.

Нагель. Прывесці сюды Шаўцова!

Салдат казырае і выходзіць.

Вось гэтага б нам уламаць. Але... А ўрэшце, ёсць некаторыя нечаканыя для яго акалічнасці *(Вымае са стала танюсенькую шаўковую стужачку.)*... у выглядзе вось гэтага дакумента.

Кунц *(разглядае дакумент)*. Гм... Вось якая штучка! Гэта яго сапраўднае прозвішча?

Н а г е л ь. Так. І подпісы на дакуменце таксама сапраўдныя.

Два салдаты ўводзяць пад рукі скатаванага Даніловіча.

Н а г е л ь. Падыходзьце бліжэй.

Даніловіч зрабіў некалькі крокаў і пахіснуўся.

К у н ц *(падтрымаў яго пад локаць)*. Вось да якога стану вы сябе давялі, пан Шаўцоў.

Даніловіч рыўком адняў сваю руку і апусціўся ў крэсла.

Н а г е л ь. Вы ведаеце, хто перад вамі?

Д а н і л о в і ч *(гаворыць з цяжкасцю, з доўгімі паўзамі)*. Мне... усё роўна.

Н а г е л ь. Гэта — шэф нашай установы, палкоўнік Кунц. Спадзяюся, чулі?

Даніловіч маўчыць.

Пан палкоўнік хоча з вамі гаварыць.

Д а н і л о в і ч. Але... я з ім... не хачу.

Н а г е л ь. У яго ёсць некалькі пытанняў да вас.

Д а н і л о в і ч. Перадайце яму... тое... што я вам сказаў.

К у н ц. Вы рашылі абвастрыць нашы адносіны? Гэта не ў вашых інтарэсах.

Д а н і л о в і ч. Аб маіх інтарэсах... не вам... меркаваць.

К у н ц. Я мяркую, што ў вашых інтарэсах падумаць аб тым, ці варта аддаваць жыццё за безнадзейную справу.

Д а н і л о в і ч. Усё абдумана... без вашай... дапамогі.

К у н ц. Хутка будзе ўзята Масква.

Д а н і л о в і ч. Не веру.

К у н ц. Чаму? Гляньце, дзе фронт. *(Паказвае на карту.)*

Д а н і л о в і ч *(не глядзіць на карту)*. Таму што... веру... у сілу савецкага народа.

К у н ц. Незалежна ад вашай веры, Маскву мы ўсё-такі хутка возьмем. І тады ўся справа, за якую вы змагаецеся, не варта будзе і ломанага гроша.

Д а н і л о в і ч. Не лічу патрэбным... дыскусіраваць... на гэту тэму.

Н а г е л ь. Дарэмна, пан Даніловіч. *(Падкрэслена.)* Даніловіч, а не Шаўцоў, як вы сябе называеце. Вось! *(Расцягвае перад вачамі стужачку.)* Пазнаяце? З гэтым вас паслалі сюды. *(Чытае.)* «...Выполняет поручение ЦК КП(б) Белоруссии». Так што мы цяпер ведаем, хто вас паслаў, для чаго і хто вы такі.

Д а н і л о в і ч. Тым... лепш. Значыць... ведаеце... з кім маеце справу.

К у н ц. І гаварыць нам з вамі неабходна.

Д а н і л о в і ч. Я ўсё... сказаў.
К у н ц. Вы так па-дурному хочаце памерці?
Д а н і л о в і ч. Вы... не можаце мяне... умярцвіць.
К у н ц *(здзіўлена)*. Чаму?
Д а н і л о в і ч. Я... бессмяротны.
К у н ц *(яшчэ больш здзіўлены)*. Вось як!

Жэстам паказвае Нагелю, што гэта вар'ят. Нагель адмоўна ківае галавой.

Я вельмі лёгка мог бы даказаць, што вы памыляецеся. *(Бярэ ў рукі пісталет, які ляжыць на стале.)* Варта толькі націснуць.
Д а н і л о в і ч. Справа... за якую мы... змагаемся... не памрэ. Значыць... і я...

Ён траціць прытомнасць і падае з крэсла.

Н а г е л ь. Вынесці!

С а л д а т ы выносяць Д а н і л о в і ч а.

К у н ц. Фанатык.
Н а г е л ь. Вы цяпер бачыце, пан палкоўнік, як мне лёгка з імі.
К у н ц. Гэтага павесіць. Але не ўсе ж такія?
Н а г е л ь. Ёсць адзін, з якога можа выйсці толк. Праўда, без такіх паўнамоцтваў.
К у н ц. Чаму вы думаеце, што з яго выйдзе толк?
Н а г е л ь. Заплакаў.
К у н ц. Вы дабіліся ад яго чаго-небудзь?
Н а г е л ь. Не паспеў. Ён прытомнасць страціў. Цяпер ужо, напэўна, ачухаўся.
К у н ц. Дык, можа, мы зараз і зоймемся ім?
Н а г е л ь. Можна. *(Націскае кнопку.)*

Уваходзіць с а л д а т.

Прывесці сюды Скробата!

С а л д а т казырае і выходзіць.

Цяпер вам зразумела мая задума, пан палкоўнік?
К у н ц. Яе яшчэ трэба ажыццявіць.

Д в а с а л д а т ы ўводзяць пад рукі скатаванага С к р о б а т а.

Н а г е л ь. Сядайце, пан Скробат.

Салдаты апускаюць Скробата ў крэсла.

Мы ў мінулы раз не скончылі нашай гутаркі.
С к р о б а т. Я нічога гаварыць не буду.
Н а г е л ь. А мы будзем прасіць, каб вы гаварылі. Вы ведаеце, як мы ўмеем прасіць.

Скробат. Зноў катаваць! Забіце лепш адразу. Застрэльце або павесьце!

Нагель крадком падмаргнуў Кунцу.

Кунц. Бач, чаго захацеў! Можа, яшчэ пад наркозам вас на той свет адправіць, каб вы болю не адчулі?

Нагель. Дазвольце мне, пан палкоўнік.

Кунц ківае галавой.

Мы ведаем стойкасць камуністаў, пан Скробат. Што яны гатовы памерці за сваю справу, мы ў гэтым не раз пераконваліся. Але ці варта сама справа такой ахвяры? Можа, яна безнадзейная? Вы чалавек інтэлектуальна развіты, і я раіў бы вам падумаць пра гэта. Як вы думаеце, хто пераможа ў вайне?

Скробат. Не ведаю.

Кунц. А вы гляньце сюды.

Паказвае на карту, на якой абазначана лінія фронту.

Нагель. Дзе была лінія фронту, калі мы вас злавілі?

Скробат маўчыць.

Я вам напомню — на Дняпры. А сёння? Вунь дзе: пад самай Масквой.

Скробат. Напалеон нават у Маскве быў.

Нагель. Прыклад няўдалы. У Напалеона не было танкаў і самалётаў.

Кунц. Вам Сталін гаворыць, што справядлівасць на вашым баку і вы пераможаце. Але ж не заклінанне вырашае справу, а рэальная сіла, баявая тэхніка. Успомніце, што вашы кіраўнікі гаварылі перад вайной: «Ніводнага вяршка свае зямлі мы не аддадзім». І што ж, спраўдзілася гэта заклінанне? Палічыце, колькі вяршкоў ад Брэста да Масквы.

Нагель. Няўжо ў вас і пасля гэтага засталася яшчэ якая надзея на перамогу?

Кунц. Ён не такі наіўны. Адказнасць перад партыяй — вось што яго пужае. Але ж хутка не будзе ні вашай партыі, ні самога Сталіна. Можаце лічыць, што іх ужо няма. Вы вольны распараджацца сваім лёсам, не баючыся ніякай адказнасці.

Скробат. Чаго вы ад мяне хочаце?

Нагель. Вельмі нямнога.

Кунц. Вы будзеце весці падрыўную работу супраць нямецкіх захопнікаў.

Нагель. Магчыма, што існуе падпольны гарком ці іншая камуністычная арганізацыя. Вам трэба туды ўвайсці.

Кунц. Не выклікаючы падазрэння.

Н а г е л ь. Возьмеце на ўлік усіх камуністаў горада.

С к р о б а т. Я не магу гэтага зрабіць.

К у н ц. Чаму?

С к р о б а т. Я беспартыйны.

К у н ц *(да Нагеля)*. Як беспартыйны?

Н а г е л ь. Мы пра гэта ведаем. Але выключылі вас з партыі пасля таго ўжо, як пачалася вайна.

К у н ц. За што выключылі?

Н а г е л ь. Не выканаў партыйнага задання. Яму даручылі эвакуіраваць завод, а ён збег. Але адбылося гэта не тут. Тут пра гэта ніхто не ведае.

К у н ц. А калі б і сустрэўся хто, можна сказаць, што выключэнне было памылковым. Памылка выпраўлена.

Н а г е л ь *(паказвае Скробату дакумент Даніловіча)*. З такім дакументам давер'е вам забяспечана.

К у н ц. Нашы спецыялісты зробяць якраз такі.

С к р о б а т. Я не даваў вам згоды.

К у н ц. Я ж казаў, што ён баіцца адказнасці.

С к р о б а т. Апрача адказнасці ёсць яшчэ сумленне. Звычайнае чалавечае сумленне.

Н а г е л ь. Сумленне — гэта нешта вельмі неакрэсленае. Логіка, дарагі мой, логіка! Вось чым трэба кіравацца ў жыцці.

К у н ц. У вас ёсць сям'я?

С к р о б а т. Была.

Н а г е л ь. Ваша сям'я жывая.

С к р о б а т. Цешыце, каб я больш згаворчывы быў.

Н а г е л ь. Жонка ваша завецца Жэня, сын — Валерык, дачка — Надзя. Жывуць у вёсцы, у сястры вашай жонкі.

С к р о б а т *(усхваляваны)*. Сапраўды жывыя!

Н а г е л ь. І здаровыя. Не турбуйцеся, мы іх без увагі не пакінем.

С к р о б а т. І іх таксама... будзеце катаваць?

К у н ц. Іх лёс залежыць ад вас.

Скробат сядзіць прыгнечаны.

Н а г е л ь. Выгляд у вас няважны. Мы дадзім вам адпачыць, каб гэта ўсё зажыло. Ногці чорныя. Гэта вынік...

С к р о б а т. Вашай шчырай размовы са мной.

Н а г е л ь. Мае хлопцы незнарок дзвярамі прыціснулі? Глупства, новыя нарастуць. Жыць будзеце ў аднае цікавай жанчыны. Яна піражкамі гандлюе і вас падкормліваць будзе. Часамі будзеце ездзіць з намі да знаёмых у госці. А каб вас не пазналі, будзеце надзяваць вось гэту штуку. *(Дастае з шафы чорны плашч з капюшонам, у якім прарэзаны дзіркі для вачэй.)* Гэта

вельмі зручна. *(Надзявае на сябе плашч.)* Вы яго бачыце, а ён вас не.

Скробат *(з жахам.)* Я не хачу быць здраднікам!

Кунц *(раззлаваны)*. Асёл.

Нагель. Вам жа пан палкоўнік растлумачыў, што здраджваць няма каму.

Скробат. Я не магу! Не патрабуйце ад мяне гэтага!

Кунц і Нагель пераглянуліся.

Кунц. Чорт з ім, няхай здыхае.

Нагель. Мае хлопцы яшчэ пагавораць з ім. *(Звоніць.)*

Скробат. Забіце мяне тут! Я не пайду адгэтуль.

Нагель. Выведуць.

Скробат. Выродкі фашысцкія! Сабакі шалёныя. І Гітлер ваш — сабака. Паздыхайце вы ўсе разам з ім.

Кунц хапае са стала пісталет. Нагель падае яму знак.

Кунц *(апускае пісталет і, усміхаючыся, ківае Скробату пальцам)*. Не выйдзе.

Нагель. Правакацыя не ўдалася.

Кунц. Лёгкай смерцю ты не памрэш.

Уваходзяць два салдаты.

Нагель. Паўтарыць!

Салдаты хапаюць Скробата пад рукі.

Скробат *(супраціўляючыся, хапаецца за стол, за крэслы)*. Забіце мяне! Я не пайду. Забіце мяне!

Кунц *(Нагелю)*. І наконт сям'і... таксама паклапаціцеся.

Салдаты цягнуць Скробата да дзвярэй.

Скробат *(з адчаем)*. Чакайце! Пусціце, я нешта хачу сказаць.

Нагель дае знак, салдаты адпускаюць Скробата, і ён, знясілены, асядае на падлогу.

Нагель. Я вас слухаю.

Скробат. Дайце мне падумаць.

Нагель дапытліва глядзіць на Кунца.

Кунц. Няхай падумае.

Нагель *(салдатам)*. Завядзіце ў камеру. Не чапаць пакуль што.

Заслона

## АКТ ДРУГІ

### Карціна чацвёртая

Кватэра Алены Прымаковіч. Дэкарацыя першай карціны. Алена сядзіць ля стала, папраўляе Таніна асенняе паліто. З суседняга пакоя ўваходзяць Барута і Кузьмін.

Барута *(Кузьміну)*. Зараз праверым. *(Да Алены.)* Пазнайце, Алена Сцяпанаўна, дзе тут падробка.

Алена. А нашто было яго падрабляць?

Кузьмін. Я не хачу насіць гэта паганае імя.

Барута. Як прачытаў у газеце, што Шуляка немцы ўзнагародзілі за верную службу...

Кузьмін. Мне той пашпарт цяпер і паказваць нельга было б.

Барута. Гэты смела можаш паказваць. *(Да Алены.)* А вось два аўсвайсы. Пазнайце, каторы з іх падроблены.

Алена. Што вы ўсё мяне экзаменуеце!

Барута. Гэта я сябе экзаменую.

Алена *(разглядае пропускі)*. Дайце самому таму, што падпісваў, дык і ён не распазнае.

Барута. То-та ж. Тут тонкасць патрэбна. Пазнаюць, што падроблены, і прапаў чалавек. А так патрэбуюць: «Форцайген зі!» — «Бітэ. Калі ласка». Подпіс, пячатка, усё як мае быць! Пяць дзён сядзеў, пакуль выразаў. Вось яна. *(Вымае з кішэні пячатку.)*

Кузьмін. А бланкі ж вы не самі робіце?

Барута. На гэта ёсць у мяне прыяцель адзін у гарадской управе. Паўкіло сала за кожны бланк дзярэ, сукін сын.

Чуваць стук у дзверы. Барута прахінае трошкі парцьеру.

*(Алене.)* Да цябе, відаць.

Кузьмін выходзіць за парцьеру, Барута ў суседні пакой. Уваходзіць Чэпік.

Чэпік. Добры дзень.

Алена. Добры дзень. Што добрае скажаце?

Чэпік. Я чуў, што вы нажную машыну прадаяце.

Алена. Нажной няма. У нас толькі ручная.

Чэпік. Я рад, што трапіў куды трэба. Мне сказалі, што вы можаце дапамагчы.

Алена. Якая ж дапамога вам патрэбна?

Чэпік. Ёсць такі таварыш Братка. Мне б да яго. Тут мяне шукаюць.

А л е н а *(уважліва паглядзеўшы на Чэпіка)*. Калі шукаюць, то трэба дапамагчы. *(Гукае.)* Танюша!

Уваходзіць Т а н я.

Завядзі гэтага чалавека на рынак. Да тае цёткі, што гузікі прадае.

Т а н я *(Чэпіку)*. Добры дзень.

Ч э п і к. Добры дзень.

Т а н я *(аглядае Чэпіка з галавы да ног)*. Шэрая кепка, чорная ватоўка, зашмальцаваныя штаны, падраныя чаравікі... Пайшлі!

Ч э п і к *(усміхаецца)*. Баявая яна ў вас.

Т а н я. Як толькі адыдуся ад століка з гузікамі, вы зараз жа падыходзьце. Па вуліцы ідзіце за мной на дваццаць крокаў.

Ч э п і к *(да Алены)*. Дзякую. Бывайце здаровы.

А л е н а. Шчасліва дайсці.

Т а н я і Ч э п і к выходзяць. Уваходзіць Б а р у т а.

Б а р у т а. Папаўненне?

А л е н а. Прыбывае патроху.

Б а р у т а. Пачакай, хутка вясна, яшчэ не тое будзе.

Уваходзіць Р у н е ц.

Р у н е ц. Добры дзень.

Б а р у т а. Добры дзень.

Рунец вітаецца за руку з Барутам і Аленай.

А л е н а. Сядайце, таварыш Вусаты.

Р у н е ц. А такі не пашкодзіць. На чатырох кватэрах быў, а яны ў розных канцах горада.

А л е н а. Можа, што добрае чуваць?

Р у н е ц. Чуваць, Алена Сцяпанаўна. Такія гучныя навіны, што іх пачуе ўвесь горад і яго наваколле. Але... больш не пытайцеся, нічога не скажу. Вось яшчэ Цётка нешта важнае мае сказаць. Таварышы прыйдуць. Вунь і лесавік наш, Братка, прыехаў ужо. Сапраўдны шляхціц. Бурку аднекуль выкапаў.

Уваходзіць Б р а т к а з торбай у руках.

Б р а т к а. Добры дзень у хату.

Р у н е ц. Здароў, ваша мосць.

Б р а т к а. Што, пазайздросціў? *(Ляпае рукой па бурцы.)* Гэта вам, гаспадынька. *(Дае Алене торбу.)*

А л е н а. Што ж гэта такое?

Б р а т к а. Я чуў, што ваш кватарант без скаромнага вас пакінуў.

А л е н а. Я не вазьму. Самім есці нечага. Вы ж там у лесе парсюкоў не корміце.

Б а р у т а. Бярыце, Алена Сцяпанаўна.

Бярэ ў рукі торбу і перадае Алене.

Гэта ж колькі бланкаў можна выменяць на гэта сала.

Б р а т к а. Добрых хлопцаў вы нам прысылаеце.

А л е н а. Хіба ж гэта я? Да мяне іх таксама нехта прысылае.

Б р а т к а. Добрыя хлопцы, толькі без зброі некаторыя прыходзяць. А без зброі хто ён у нас? Дармаед.

А л е н а. Ёсць трошкі і зброі.

Б р а т к а. Дык трэба даставаць ды ў ход пускаць.

А л е н а. А як пераправіць? Пад паху ж не возьмеш. Фурманка патрэбна.

Б р а т к а. Фурманка — вунь яна. Фурман патрэбен. Я для такога грузу не падыходжу. І так тры разы запынялі, пакуль сюды прыехаў.

Р у н е ц. Тут бы жанчыну, ды пажылую.

А л е н а *(зразумеўшы гэта як просьбу)*. Калі трэба, дык трэба.

Б р а т к а. Вельмі трэба, Алена Сцяпанаўна.

А л е н а *(да Баруты)*. Пішыце аўсвайс, таварыш Мікіта. Еду на вёску барахло мяняць.

Б а р у т а выходзіць.

Б р а т к а. Куды везці, я потым скажу.

А л е н а. Вікця пыталася, што ёй з медыкаментамі рабіць.

Б р а т к а. А ёсць?

А л е н а. Збірае патрошку. Кожны раз, як прыйдзе з бальніцы, дык і прынясе што-небудзь. Гляджу раз, нешта як быццам папаўнела дзяўчына. Пачала раздзявацца, а на ёй метраў дваццаць марлі накручана.

Б р а т к а. Гэта ўсё нам патрэбна, гаспадынька.

Уваходзіць Б а р у т а.

Б а р у т а. Калі ласка. *(Дае Алене пропуск.)*

Р у н е ц. Пакажыце. *(Разглядае дакумент.)* Не падкапаешся. *(Аддае Алене.)*

Уваходзіць Т а н я.

Т а н я. Добры дзень.

Р у н е ц. Добры дзень, Танюша.

Т а н я. Мама, я гузікі купіла.

А л е н а. Добра, дачушка. Пайдзі цяпер пагуляй ля варот. Калі што якое...

Т а н я. Дык я буду гукаць: «Мама, парсючок есці хоча». *(Выходзіць.)*

А л е н а. Дык, можа, укладваць мне паможаце?

Б р а т к а. Камандуйце.

А л е н а. Вы, таварыш Мікіта, лезьце на вышкі, знімайце, што там ёсць. А вам *(звяртаецца да Браткі і Рунца)* я таксама дам работу.

Накульгваючы, уваходзіць К у з ь м і н.

Б р а т к а. Вось і яшчэ памочнік з'явіўся.

А л е н а. Мы без яго ўправімся.

Б р а т к а. Як ногі, салдат?

К у з ь м і н. Ногі зажываюць. З рукамі дрэнная справа.

Б р а т к а. А што такое?

К у з ь м і н *(паказвае рукі)*. Пустыя яны ў мяне. А з пустымі рукамі які ж я салдат?

Б р а т к а. Ах, вось што. Ідзі на склад і атрымай «ТТ». Можа, табе трэбаванне выпісаць?

К у з ь м і н. Сам здабуду. Пакуль што мне хоць бы фінку якую. Поскудзь адна тут поўзае. Друга майго выдаў фашыстам. Я пакляўся адпомсціць.

Б р а т к а. Святая клятва. Магу табе пазычыць для такой справы. *(Дае Кузьміну фінку.)*

К у з ь м і н. Дзякую.

А л е н а. Выходзьце ў двор, я зараз.

Усе выходзяць. Алена зараз жа варочаецца з В і к ц я й.

Апаражняй свае сховішчы. Пакуй у кошыкі, павязём у лес.

В і к ц я. Ты сама павязеш?

А л е н а. Мне гэта зручней, як каму другому.

В і к ц я *(абняла маці)*. Мамачка!

А л е н а. Трэба, дачушка. Дыхаць жа нельга, [redacted] не тое што жыць.

Нейкі час яны стаяць моўчкі.

Калі што якое, глядзі бацькі і Тані. Глядзіце адно аднаго. Саша нешта задумаў. Братка яму фінку даў. Хлопец ён гарачы, каб у бяду не трапіў. *(Выходзіць.)*

Вікця вымае са сховішчаў і складае ў кошык вату, марлю, бінты, бутэлькі, бутэлечкі. Уваходзіць К у з ь м і н.

К у з ь м і н. Ты мяне клікала?

В і к ц я. Скажы, што ты надумаў?

К у з ь м і н. Я пакляўся знішчыць здрадніка. Ты гэта ведаеш.

В і к ц я. Баюся я за цябе.

К у з ь м і н *(абнімае яе за плечы)*. Шкадуеш трошкі?

В і к ц я. І шкадую. Ты ж мне не чужы.

Кузьмін. Харошая мая. *(Цалуе ў шчаку.)* За ўсіх ты баішся, толькі за сябе не баішся.

Віцця. Я здаровы чалавек, спрытней магу павярнуцца, а ты вось... кульгаеш яшчэ.

Кузьмін. А калі я не перастану кульгаць, дык гэты падлюга так і застанецца жыць?

Віцця. Цябе і прыкмеціць лёгка, і бегчы ты не можаш, калі што.

Кузьмін. А ты мне дапаможаш, дык усё добра будзе.

Віцця. Як жа я табе дапамагу?

Кузьмін. У цябе ёсць на гэта хуткая дапамога. Шафёр, ты казала, свой хлопец. Я прыеду на тэрыторыю бальніцы як санітар. Хуткая дапамога будзе напагатове.

Віцця. Ты, здаецца, нядрэнна прыдумаў.

Кузьмін. Сумленне мучыць, вось і думаю. Сяргеева сёння сніў.

Уваходзіць Рунец.

Рунец. Дазволь, салдат, мне крыху пасакрэтнічаць.

Кузьмін выходзіць.

Як у цябе справы з фрыцам, пра якога ты мне расказвала?

Віцця. Ніякіх спраў у мяне з ім няма.

Рунец. Дарэмна. Трэба, каб былі.

Віцця. Што ж я павінна рабіць?

Рунец. Язык яму развязаць. Чары, чары трэба ў ход пускаць. Супраць жаночых чар і фашыст не ўстаіць. Дражніся, падбівай, каб больш балбатаў. Што-небудзь прабалбочацца, а ты на вус матай.

Віцця. Паспрабую.

Рунец. Абавязкова паспрабуй. *(Выходзіць.)*

Віцця ўкладвае медыкаменты і выходзіць з кошыкам у двор. Праз хвіліну ўваходзіць Цётка.

Цётка. Няма нікога. Але ж Таня на варце, значыць, яны недзе тут.

Уваходзіць Страказа.

Страказа прыляцела, навіны прынесла. *(Вітаецца са Страказой.)*

Страказа. Свежая зводка Саўінфармбюро.

Цётка. Ёсць чым людзей парадаваць?

Страказа. Ёсць. Пра нашы трафеі на Калінінскім фронце.

Цётка. О! Гэта трэба зараз жа ў газету. Давай сюды.

Страказа. Пакуль тая газета выйдзе. *(Аддае Цётцы матэрыял.)*

Цётка. Цяпер хутчэй пойдзе справа. *(Таямніча.)* Сваю друкарню маем. *(Дастае з-за пазухі газету.)* Бачыла?

Страказа *(у яе загарэліся вочы)*. Якая вы маладзец, цётачка Нюра! *(Цалуе.)*

Цётка. Не я адна.

Уваходзяць Рунец, Братка, Барута.

Рунец. Пакажы, пакажы!

Усе разглядаюць газету.

«Вынікі разгрому немцаў пад Масквой».

Братка. Шкада, што пазнавата. Каб гэтыя весткі месяцы на два раней.

Цётка. Затое грунтоўна. Не тое, што лістоўкі.

Рунец. Сам факт, што ў нямецкім тыле выходзіць савецкая газета, многа значыць.

Цётка. А яшчэ дакладваю: падрыўная група заданне выконвае. Узрыўчатка дастаўлена на месца. Пачуць павінны ў дзве пятнаццаць.

Рунец. Маладзец, Цётка. Цябе сёння гушкаць трэба.

Цётка. Пасля пагушкаеце, калі я вам яшчэ навіну скажу.

Рунец. Ну, ну!

Цётка. Да нас з Вялікай зямлі прыслалі адказнага работніка.

Рунец. Няўжо?

Цётка. Сама гаварыла з ім.

Братка. Трымайся, фашысцкая навалач!

Рунец. Як жа ты яго знайшла?

Цётка. Ён сам мяне знайшоў. Да вайны разы два начаваў у нас. Муж яго добра ведаў.

Рунец. Як яго прозвішча?

Цётка. Гэта ён сам вам скажа, калі палічыць патрэбным.

Таня *(стукае ў акно)*. Мама, парсючок есці хоча.

Усе занепакоіліся. Рунец і Братка вымаюць пісталеты.

Цётка. Гэта, мусіць, ён. Я сказала яму, як нас знайсці.

Мужчыны і Страказа выходзяць у суседні пакой. Цётка з-за парцьеры глядзіць у пярэднюю.

Скробат *(у пярэдняй)*. Ці ёсць хто ў хаце?

Цётка *(шырока расхінае парцьеру)*. Ёсць, ёсць. Міласці прашу к нашаму шалашу. *(Да астатніх.)* Выходзьце, таварышы! Гэта той, каго мы чакаем.

Рунец, Братка і Страказа выходзяць з суседняга пакоя.

Скробат. Гэта, наколькі я разумею, члены гаркома?

Рунец. Падпольнай арганізацыі.
Скробат. Вельмі прыемна. Давайце знаёміцца.

Прысутныя падыходзяць да Скробата і па чарзе паціскаюць руку.

Рунец. Вусаты.
Скробат. А сам бязвусы. Для кіраўніка яно б і не шкодзіла вусы загадаваць.
Рунец. Мы тут калектыўна кіруем, так што ўсе самі з вусамі.
Барута. Мікіта.
Братка. Братка.
Страказа. Страказа.
Скробат. А па-сапраўднаму?

Усе паглядзелі на Рунца.

Рунец. Мы ўмовіліся карыстацца мянушкамі.
Скробат. Гэта разумна. Тым больш што вы яшчэ не ведаеце, з кім маеце справу.
Рунец. Я вас ведаю.
Скробат. Адкуль?
Рунец. Бачыў на адной нарадзе, як вы выступалі.
Скробат. Была такая справа. Вось мой пашпарт.
Рунец *(чытае)*. «Нёманскі Антон Гаўрылавіч». Добрая ліпа.
Скробат. Але вы можаце запытацца, чаго гэтаму Нёманскаму тут трэба. Дайце ножык.

Братка дастае з кішэні складаны ножык і дае Скробату. Скробат адпорвае падкладку пінжака і дастае танюсенькую шаўковую стужачку.

Калі ласка!
Рунец *(бярэ ў рукі дакумент)*. Вось гэта ўжо не ліпа. *(Чытае.)* «Скробат Антон Іванавіч... Выконвае даручэнне ЦК КП(б) Беларусі». *(Перадае дакумент Братку.)*
Братка. Подпіс знаёмы. І пячатка, усё як мае быць. *(Перадае Баруту.)*
Барута. Важны дакумент. *(З пашанай аддае Скробату.)*
Скробат. Як у вас тут справы?

Уваходзіць Таня.

Барута. Што ж ты пост пакінула?
Таня. Я на хвілінку, дзядзя Мікіта. На гадзіннік паглядзець.
Рунец. Ведаем мы тваё хітрыкі. Прыйшла паглядзець, які гэта чужы дзядзька прыйшоў. *(Да Скробата.)* Гэта наша варта.
Цётка. Гэты дзядзька наш, Танюша, ты яго не бойся.
Скробат. Колькі ж табе гадоў, варта?
Таня. Дванаццаць.
Скробат. У школу ходзіш?

Т а н я. Не. Там трэба гаварыць «хайль Гітлер», а я піянерка.

С к р о б а т. Ах ты разумніца якая! *(Прыцягвае Таню да сябе.)*

Т а н я. А чаму ў вас ногці чорныя?

С к р о б а т. Прыбіў мне адзін дурань. Дзвярамі.

Т а н я. Вось, мусіць, балела?

С к р о б а т. Балела.

Т а н я. Чорны манікюр вам зрабілі. Я раз цвік забівала ды як стукнула малатком па пальцы, дык ногаць і счарнеў увесь. Больш за паўгода прайшло, пакуль новы вырас.

С к р о б а т. Ну, ідзі ўжо на пост.

Т а н я выходзіць.

Р у н е ц. Справы ў нас ідуць угору, таварыш Нёманскі. Народ заварушыўся.

Ц ё т к а. Асабліва пасля таго, як пад Масквой фашыстам далі па зубах.

Р у н е ц. Вось і газету сваю выпусцілі.

С к р о б а т *(бярэ ў рукі газету)*. Малайцы. *(Углыбляецца.)* Здорава.

Р у н е ц. Хіба вы пра гэта не ведалі?

С к р о б а т. Адкуль жа? Я вымушан быў па вёсках туляцца, пакуль вас знайшоў. *(Углыбляецца ў газету.)* Як жа цяпер...

Р у н е ц. Што?

С к р о б а т *(нарэшце авалодаўшы сабой)*. Як жа цяпер з бліцкрыгам будзе? Хваліліся, што вось-вось Маскву возьмуць.

Б р а т к а. Выходзіць, не хваліся, ідучы на рацьь.

С к р о б а т *(адсоўвае газету)*. А што значыць «заварушыўся народ»?

Р у н е ц. Бярэцца за зброю, патрабуе кіраўніцтва.

Б р а т к а. З таго часу як пачала дзейнічаць падпольная арганізацыя, іначай справа пайшла. Людзі адчулі, што і тут жыве партыя, жыве савецкая ўлада.

С к р о б а т. У горадзе ёсць якія-небудзь баявыя атрады?

Р у н е ц. У горадзе няма, а вакол горада фарміруюцца шэсць атрадаў. Дзвесце пяцьдзесят чалавек толькі з горада паслалі мы туды за апошні час.

С к р о б а т. Якая сувязь у нас з атрадамі?

Р у н е ц. Праз сувязных. Яны і весткі дастаўляюць, і людзей выводзяць у лес.

С к р о б а т. І ўдачна праходзяць такія аперацыі?

Р у н е ц. Правалаў не было пакуль што.

Уваходзіць А л е н а.

А л е н а. Выбачайце, я на хвілінку.

Праходзіць у суседні пакой.

Ц ё т к а. Гэта гаспадыня хаты.

С к р о б а т. Член партыі?

Р у н е ц. Каб яна захацела ўступіць у партыю, я б за яе паручыўся.

А л е н а выходзіць з клункам у руках, павязаная цёплай хусткай. Братка непрыкметна махае ёй рукой: «Можаце ехаць».

С к р о б а т. Куды ж гэта вы?

А л е н а *(паказвае клунак)*. Паеду барахло мяняць. *(Выходзіць.)*

С к р о б а т. Шмат камуністаў у горадзе?

Р у н е ц. Шмат, а колькі, цяжка сказаць. Кожны з нас мае сувязь з групай таварышаў. Каля кожнага з гэтай групы свая група.

С к р о б а т. Актыў свой трэба ведаць. Ёсць заданне лепшых людзей да ўзнагароды прадставіць. Прыйдзецца спісы пасылаць у адпаведныя органы. Цяпер адносна явачных кватэр. Вы многія з іх ведаеце, а я чалавек новы: магу сунуцца не туды, куды трэба.

Р у н е ц. Явачныя кватэры мы вам пакажам.

Ц ё т к а. Прабачце, таварыш Нёманскі. Можа, вам што і крыўдным паказалася, але абставіны прывучылі нас да асцярожнасці.

С к р о б а т. Я разумею. Вайна ў тыле ворага — справа небяспечная. За кожную памылку людзі жыццём расплачваюцца. Таму тут патрэбна ва ўсім дакладнасць, жалезная дысцыпліна і ніякай партызаншчыны, хоць мы і партызаны. Што да баявых аперацый, дык трэба перадаць камандзірам атрадаў, каб людзей дарэмна не губілі. Трэба сабрацца з сіламі, узброіцца, моцныя камандныя кадры падабраць, тады і эфект будзе. Кожную сур'ёзную аперацыю трэба ўзгадняць.

Б р а т к а. З кім?

С к р о б а т. Ды вось з намі. *(Жэст у бок Рунца.)* Разам будзем абмяркоўваць.

Б р а т к а. Людзі рвуцца ў бой. Калі не даваць ім дзейнічаць, яны разыдуцца.

С к р о б а т. А вы растлумачце, у чым справа.

Р у н е ц *(глядзіць на гадзіннік)*. Хвілiначку, таварышы! *(З хваляваннем.)* У каго колькі часу?

Ц ё т к а. Я ўжо таксама непакоюся. У мяне дзевятнаццаць на трэцюю.

С т р а к а з а. Хлусіць ваш гадзіннік. Цяпер чатырнаццаць мінут.

Р у н е ц. Гэта дакладна?

С т р а к а з а. Абсалютна дакладна. Сёння па маскоўскім радыё правярала.

Рунец, Цётка і Братка да нечага прыслухоўваюцца.

Р у н е ц. Зараз павінны пачуць навіну.

Напружанае чаканне.

Цётка. Няўжо асечка?

Чуецца далёкі выбух.

Рунец. Ёсць! Віншую, таварышы!

Братка. Малайцы хлопцы.

Скробат *(няўцямна глядзіць на радасныя твары падпольшчыкаў)*. Гэта што? Дыверсія?

Рунец. На заводзе кацельня ўзляцела.

Братка. Выбачайце, не паспелі ўзгадніць.

Скробат. Дарэмна іранізуеце. Я выказаў не сваю асабістую думку.

Рунец. Нам цяпер лепш за ўсё разысціся.

Скробат. Ну, я рад, таварышы, што буду з вамі працаваць. Наступны раз пагаворым больш грунтоўна.

**Карціна пятая**

Пакой у кватэры Марыны. У пакоі стол, ложак, туалетны столік, крэслы.

Скробат *(адзін, ходзіць па пакоі.)* Вось і балансіруй, таварыш... Ды ўжо, мабыць, і не таварыш, а грамадзянін Скробат. І ці будзеш ты калі зноў таварышам? Хоць бы мне хто сказаў, што будзе далей... З краінай, з усім светам... І нікому душы не раскрыеш, не параішся. І тых страшна, і гэтых ужо страшна. Яшчэ і шкоды ніякай не зрабіў, а страшна. Цяжка гаварыць з імі, у вочы глядзець... Вось і круціся паміж нашымі і вашымі, пакуль галаву не скруціш.

Уваходзіць Марына.

Марына. Што ж ты піражкоў не ясі?

Скробат. Дзякую.

Марына. Не рынычныя. Для цябе спецыяльна пякла.

Скробат. Не хочацца.

Марына. Апетыт прапаў?

Скробат. І ў цябе прапаў бы на маім месцы.

Марына *(здзекліва)*. Цяжка табе, небарака. Хіба жонка развяселіць, як прыедзе.

Скробат. Я павінен убачыць яе сваімі вачамі. Пераканацца, што яна і дзеці жывыя. Я Нагелю паставіў такую ўмову.

Марына. Убачыш, а потым што?

Скробат. Не ведаю.

Марына. Думаеш, лягчэй табе стане ад гэтага?

Скробат. Наўрад.

Марына. Разамлееш пры жонцы, яшчэ горш будзе. Які ты слуга тады фюрэру?

Скробат. Я цябе аб адным прашу: ёй ні гуку пра гэта.

Марына. Разумею. Няхай яна думае, што ты цаца-хлопчык.

Скробат. Я хачу застацца ў яе вачах такім, якім яна ведала мяне дагэтуль.

Марына. Якая чулая душа ў здрадніка радзімы!

Скробат. Перастань, прашу цябе!

Марына. Калі ты д'ябал, дык анёльскае апярэнне табе не паможа.

Скробат. А ты?

Марына. Што — я?

Скробат. Служыш ім у сілу сваіх перакананняў?

Марына. У мяне няма перакананняў.

Скробат. За страх працуеш?

Марына. За грошы. Плацяць, дык і працую!

Скробат. А сумленне не мучыць?

Марына. Не адчуваю.

Скробат. Зайздрошчу. У мяне так не выходзіць.

Марына. І не выйдзе. Ідэйнасць... Будаўнік самага перадавога ў свеце грамадства, і раптам — такая службіца.

Скробат. Не здзекуйся.

Паўза.

Прасвету ніякага няма — вось што горш за ўсё.

Марына. Фюрэр цябе не забудзе. Купіш за яго срэбранікі маёнтак і будзеш жыць прыпяваючы.

Скробат. З такім мінулым?

Марына. Тады павеся.

Скробат. Думаў пра гэта. Волі не хапае.

Марына. Магу табе дапамагчы. Напішы запіску, што ў смерці сваёй просіш нікога не вінаваціць, а я цябе прыстрэлю. *(Бярэ ў рукі пісталет, які ляжыць на стале.)*

Скробат. Не дурыся, ён зараджаны.

Марына. Магу ноччу, калі спаць будзеш, каб не страшна было.

Скробат. Не разумею, адкуль у цябе такая ўраўнаважанасць. У цябе што — мэта якая-небудзь ёсць у жыцці? Чаго ты прыехала сюды ўслед за немцамі?

Марына. Збяру грошай, адкрыю камерцыю. Вось і ўся мая мэта.

Скробат. Чым гандляваць будзеш?

Марына. Падумаю. Можа, вясёлы дом адкрыю.

Скробат. А ты можаш.

Марына. Магу, абы выгадна было.

Скробат. І сама, напэўна, будзеш гасцей прымаць.

Марына. Буду. За павышаную плату.

С к р о б а т. Там жа маладзейшыя будуць.

М а р ы н а. Затое ў мяне вопыт. Май на ўвазе. Жонка ж не кожны тыдзень будзе прыязджаць да цябе.

С к р о б а т. Да чаго ж ты цынічная асоба!

М а р ы н а. Нават цябе гэта шакіруе?

С к р о б а т. Я не прывык чуць такое ад жанчыны.

М а р ы н а. А чаго мне цябе саромецца? Чым маё рамяство горшае за тваё?

С к р о б а т. Гэта жахліва!

М а р ы н а. Прывыкай. Ці тое яшчэ сустрэнеш на сваім шляху. Не раз у чалавечую кроў рукі запэцкаеш.

С к р о б а т. Я не кат.

М а р ы н а. А толькі здраднік. Цябе чаго паслалі ў іх арганізацыю?

С к р о б а т. Каб я не даваў разгортвацца падпольнай барацьбе.

М а р ы н а. І табе гэта ўдаецца?

С к р о б а т. Не заўсёды. Вось на заўтра назначаны вывад у партызанскі атрад чатырнаццаці чалавек. І я не ведаю, як гэтаму перашкодзіць.

М а р ы н а. Вельмі проста: ты павінен іх выдаць.

С к р о б а т. Іх усіх расстраляюць.

М а р ы н а. Не расстраляюць іх, дык расстраляюць цябе.

С к р о б а т. Немцы пра гэта не будуць ведаць.

М а р ы н а. Дарэмна ты мне сказаў пра гэта.

С к р о б а т. Чаму?

М а р ы н а. Я табе казала, што мне патрэбны грошы. Я тут магу зарабіць сёе-тое.

С к р о б а т. Ты ж не ведаеш, калі і куды іх будуць выводзіць.

М а р ы н а. Ты мне скажаш пра гэта.

С к р о б а т. Не скажу.

М а р ы н а. Калі я разам з імі і цябе выдам, дык мне яшчэ прыбавяць сёе-тое.

С к р о б а т. Ты сапраўдная фашыстка. Усе іх метады пераняла.

М а р ы н а. Не лічу патрэбным абвяргаць.

С к р о б а т. Кроў гэтых людзей будзе на тваім сумленні.

М а р ы н а. Калі табе ад гэтага лягчэй — калі ласка. Маё сумленне вытрымае. *(Бярэ ў рукі карандаш і паперу.)* На якую дарогу будуць выходзіць? Ну! Не ўздумай упірацца.

С к р о б а т. На паўднёвы тракт.

М а р ы н а. Дзе зборны пункт?

С к р о б а т. У вёсцы Мацеевічы.

М а р ы н а. Калі павінны там сабрацца?

С к р о б а т. У чатыры гадзіны дня.

М а р ы н а. Гэта я цябе ратую ад расстрэлу.

Скробат. Гаспадары ведалі, куды паставіць мяне на кватэру.

Марына. Яны ведаюць, што я дапамагу табе ў цяжкую хвіліну. Сёння я ўжо дзве разумныя парады табе дала. Адзін раз, як расстацца з жыццём, а другі раз, як яго захаваць, паколькі ты за яго чапляешся.

Скробат. Дарэмна, відаць, чапляюся.

Марына. Прадчуваеш нядобрае?

Скробат *(з болем)*. Нашто яны мяне ў СД выклікаюць? Могуць жа свае ўбачыць.

Марына *(з іроніяй)*. Свае! Камуністы, ты хочаш сказаць.

Скробат. Ну, камуністы.

Марына. Чаго ж ты баішся, калі яны свае?

Скробат. Прыкончаць.

Марына. Гэта яны могуць. Утопяць у прыбіральні — і шыта-крыта.

Скробат. Брр!

Марына. Але калі ты ўжо закончаны д'ябал, дык выхад знойдзеш.

Скробат. Баюся, што адзін з іх бачыў ужо мяне, як я выходзіў з СД.

Марына. Між іншым, дзіўна, што табе не прыходзіць у галаву яшчэ адзін выхад.

Скробат. Які?

Марына. Перакінуцца на іх бок.

Скробат. Ты не ад шчырага сэрца наводзіш мяне на гэту думку.

Марына. Тады, ведаеш, што было б? У газетах з'явіўся б некралог, што такі-та, які верна служыў вялікай Германіі і новаму парадку, трапіў у рукі бандытаў. Побач — сапраўдныя твае дакументы і здымак, дзе ты мірна гутарыш з самім начальнікам СД. Ты, відаць, і не заўважыў, як цябе шчоўкнулі. Не, брат, раз ты стаў на гэты шлях, дык назад дарогі няма.

Скробат. У мяне ёсць да цябе адна просьба.

Марына. Слухаю.

Скробат. Мне патрэбна пісьмо з турмы, напісанае жаночым почыркам. На выпадак, калі ён мяне пазнаў...

Марына. Паслуга невялікая, магу зрабіць. *(Глядзіць у акно.)* Вунь, мусіць, твая ненаглядная ідзе. Яна ўзліе бальзам на тваю пакутную душу. З клункам. Задзірае галаву, нумар дома разглядае. Пацан у цябе ёсць?

Скробат. Ёсць.

Марына. І ён з ёю.

Скробат падыходзіць да акна.

У двор ужо зайшлі.

Скробат *(апранае пінжак, глядзіцца ў люстэрка)*. Ты, можа, выйшла б куды-небудзь на гэты час?

Марына. Іду. Мне загадана стварыць спрыяльныя ўмовы для спаткання. *(Апранаецца, бярэ кошык з піражкамі.)* Мілуйцеся. *(Выходзіць.)*

Скробат, усхваляваны, прыслухоўваецца да крокаў за дзвярамі. Адчыняе дзверы. На парозе з'яўляюцца Жэня з клункамі Валерык.

Жэня. Антоша! *(Павісла ў мужа на шыі.)*

Скробат *(цалуе жонку ў вусны і ў лоб)*. Вось і ўбачыліся. Знімі.

Знімае ў яе з плеч клунак і кладзе на канапу.

Валерык. Здароў, тата!

Скробат. Здароў, сынок! *(Цалуе сына.)* А худзюшчы ж ты які!

Жэня. Добра што жывы, скажы.

Скробат. Распранайся. *(Знімае з жонкі паліто.)* Дай хоць паглядзець на цябе.

Жэня. Пачакай, прычашуся трохі.

Падыходзіць да люстэрка, прычэсваецца.

Скробат. Як жа вы дабіраліся?

Жэня. Ехалі трохі на фурманцы, потым пяшком ішлі.

Скробат. Здарожыліся.

Жэня. Цяпер можаш глядзець.

Скробат. Сядай. *(Углядаецца ёй у твар.)*

Жэня. Што, перамянілася?

Скробат. Пахудзела трошкі.

Жэня. А ў цябе вусы. Нек смешна.

Скробат. Тут рогі адгадуеш, не тое што вусы.

Валерык *(убачыў на стале пісталет)*. Ого! Вось бы мне такую штуку!

Скробат. Дай сюды, а то яшчэ стрэліш. *(Бярэ пісталет, ставіць на засцерагальнік.)* Вось гэтай штучкі не чапай.

Валерык. Ведаю. Колькі фашыстаў ты з яго палажыў?

Скробат. Не лічыў.

Валерык. Ого! Так многа, што аж лічыць трэба.

Жэня. А мы думалі, што цябе і жывога няма. Ты ж у горадзе быў, як бамбілі. У нас аж зямля дрыжала. Хацелі ўцякаць. Выйшлі на шашу, а тут дэсант. Ды куды ты пойдзеш! Надзюша на руках. Пайшла я да сястры, ды так і засталіся там.

Скробат. Не чапаюць вас... немцы?

Жэня. Спачатку чапляліся, дапытваліся, дзе ты. Не ведаю, кажу, мусіць, загінуў. Апошні час не чапаюць.

Скробат. Я тады не мог па вас прыехаць. Заданне выконваў.

Жэня. Цябе тут пакінулі?

Скробат. Так.

Жэня. Баюся я за цябе. Не дай Бог трапіш ім у лапы...

Валерык. А гэта на што? *(Паказвае пісталет.)* Як смальне ў лоб.

Жэня. Учора цэлую ноч не спаў. Абняў, шэпча на вуха: «Праўда, мама, наш тата герой?» Раніцой, пакуль збіраліся ў дарогу, як на крыллях лятаў. І так яму хацелася пахваліцца сябрам, хто такі яго тата. Але я загадала, каб не пікнуў. *(Валерыку.)* Нікому не сказаў?

Валерык. Я ж не баба.

Скробат. Хто ж вам перадаў, каб да мяне ехалі?

Жэня. Той жа, мусіць, каго ты паслаў. Такі невысокі, чарнамазы. Зайшоў нібыта вады напіцца, а потым шэпча мне: «Я ад Антона Іванавіча. У госці запрашае». Я баялася, што правакацыя, але ён пералічыў усе твае прыметы, пакляўся, што сам гаварыў з табою. Малую ўбачыў, кажа: «Здарова, Надзюша! Паклон табе ад таты». Я і паверыла. Тады ён пропуск дастаў: «Гэта, кажа, Антон Іванавіч для вас падрыхтаваў». Але як ты даведаўся, дзе мы?

Скробат. Людзі сказалі.

Валерык. Тата, а ў нас партызаны таксама ёсць.

Скробат. А не хлусіш?

Валерык. Папытайся ў мамы.

Жэня. Праўда, ёсць недзе каля нас. Разы два ноччу ў вёску прыязджалі. Хлеб забралі, што для немцаў нарыхтаваны быў. У паліцая карову забралі.

Валерык. А ў вёсцы Гарбачы дык здрадніка злавілі, які двух пераапраненых чырвонаармейцаў выдаў. Вывелі ў лясок і сякерамі пасеклі на дробныя кавалкі.

Жэня. Назаўтра жонка знайшла, сабрала ў посцілку ды на плячах прынесла дадому.

Скробат. Які жах!

Жэня. Я б такога гада сама на кавалкі пасекла.

Валерык. Тата, ідзі і ты з намі ў вёску. Будзеш партызанамі камандаваць.

Скробат. У іх жа, напэўна, ёсць камандзір?

Валерык. Ёсць там нейкі старшыня калгаса, дык хіба ж такі, як ты?

Скробат. Не магу я адгэтуль пайсці.

Валерык. Чаму?

Скробат. Не пусцяць мяне.

Валерык. А хто цябе не пускае?

Скробат. Той, у чыім я распараджэнні.

Валерык. Шкада. Ты б і мяне ўзяў у партызаны. У мяне граната ёсць. Толькі без запала.

Скробат. Ты з гэтым асцярожна. Яна можа яшчэ ўзарвацца.

Жэня. Я ж так баюся.

Валерык. Я яе на вышках у пяску хаваю. Тата, я пайду на вуліцу пагуляю.

Скробат. Заблудзіш.

Валерык. Я толькі ля дома на лавачцы пасяджу. Хачу паглядзець, якія немцы ў горадзе. *(Выходзіць.)*

Жэня *(аглядае пакой)*. Гэта твой ложак?

Скробат. Не, гаспадыня тут спіць. Я ў тым пакойчыку.

Жэня. Замужняя?

Скробат. Не ведаю. Адна жыве.

Жэня. Маладая, старая?

Скробат. Гадоў пад сорак.

Жэня. Можа, гэта ты ў прымы да яе прыстаў?

Скробат. Як табе магло прыйсці ў галаву?

Жэня. Камуністка?

Скробат. Не.

Жэня. Чым займаецца?

Скробат. На рынку піражкамі гандлюе.

Жэня. Яна цябе не выдасць?

Скробат. Не павінна. Я ёй добра плачу.

Жэня. Чаму ты такі сумны, Антоша? Не ўсміхнешся ні разу. Не пацалуеш мяне, як некалі.

Скробат прыцягвае да сябе Жэню і цалуе.

Насілу выпрасіла.

Скробат. Цяжка мне, Жэня.

Жэня. Я ведаю, што цяжка. Але ж вось мы сустрэліся. І гэтаму трэба радавацца.

Скробат. Радасць недаўгавечная. Вось ты паедзеш...

Жэня. Расстанемся, а потым зноў сустрэнемся. Можа, назаўсёды ўжо.

Скробат. Назаўсёды расстанемся — гэта хутчэй.

Жэня *(кладзе яму галаву на плячо)*. Не гавары так, Антоша. Давай у добрае будзем верыць. Што наша шчасце вернецца, што мы яшчэ дзяцей пагадуем.

Скробат гладзіць яе па галаве, а яго позірк накіраваны кудысьці далёка.

Я часамі не сплю ноччу, пра цябе думаю. І ніякіх дрэнных прадчуванняў у мяне няма. Думкі ўсё харошыя такія. Кончыцца

вайна, і будзем мы зноў разам. Яшчэ ж мы не старыя, і наперадзе многа, многа шчаслівых год. Дзеці вырастуць. Нам радасць і ім гонар на ўсё жыццё, што ў іх такі слаўны татка. Ты плачаш? Харошы мой! Герой ты мой дарагі. *(Абнімае і цалуе.)*

## Карціна шостая

Кватэра Алены Прымаковіч. Дэкарацыя першай карціны. За сталом сядзіць Віцця. Каля яе стаіць Кузьмін.

Віцця. Зараз я цябе нечым смачненькім пачастую.

Кузьмін. Баюся, каб не занудзіла. Я ўжо адвык ад смачненькага.

Віцця. Не занудзіць, пальчыкі абліжаш. *(Вымае з куфэрка каробку цукерак, перавязаную блакітнай стужкай, кладзе на стол.)*

Кузьмін *(бярэ ў рукі каробку)*. Нямецкія.

Віцця. Пакаштуй.

Кузьмін *(падазрона аглядае каробку)*. З якой стужкай! Падарак, мусіць?

Віцця *(есць цукерку)*. Ага.

Кузьмін. Хто ж гэта табе падарыў?

Віцця. Знайшоўся дурань. Прынадзіць хоча — а раптам клюне.

Кузьмін. Хто тут застанецца дурнем, гэта яшчэ невядома.

Віцця. Ва ўсякім разе не я.

Кузьмін. Дык, можа, я? У мяне няма за што купляць такія цукеркі.

Віцця. Ты мне і без цукерак салодкі.

Кузьмін. Бачу. Хто ён? Фрыц, напэўна?

Віцця. Фрыц. Той, што ў бальніцу прыходзіў.

Кузьмін. І ты ўзяла!

Віцця. Не глядзі на мяне з такой пагардай.

Убягае Таня.

Таня. О, цукеркі! Можна? *(Бярэ цукерку і есць.)*

Кузьмін. Не еш, Таня, гэта ёй фрыц падарыў.

Таня *(выплёўвае цукерку)*. Фу, якая гадасць!

Віцця. Не слухай, Таня, еш.

Пагардліва глянуўшы на сястру, Таня выходзіць.

Кузьмін. Чым жа ты расплачвацца будзеш?

Віцця. Хіба гэта абавязкова?

Кузьмін. Фрыц дарэмна нічога не дае.

Віцця. Аб расплаце прыйдзецца падумаць.

Кузьмін. А нашто ты брала?

Віцця. Каб прыручыць. Няхай будзе свойскі фрыц.

Кузьмін. Хто табе даваў такое заданне?
Віцця. Вусаты раіў улезці да яго ў давер'е.
Кузьмін. Прывядзі яго сюды.
Віцця. Нашто?
Кузьмін. Я з ім разлічуся за падаркі.
Віцця. Яшчэ рана.
Кузьмін. То глядзі, каб не было позна!
Віцця. Ці не раўнуеш ты?
Кузьмін. Цяжка мне прымірыцца з гэтым.
Віцця. Зразумей, што гэта мая зброя. Ты ж б'еш ворага. Я таксама хачу біць.
Кузьмін. Я рызыкую толькі жыццём, а ты яшчэ і гонарам савецкай жанчыны.
Віцця *(падыходзіць да яго)*. Не бойся, я сябе зберагу. *(Туліцца.)* І пацалаваць не хочаш?
Кузьмін. А губы... не паганыя?
Віцця. Я яго не цалавала.
Кузьмін *(цалуе Віццю)*. Пакута ты мая.

Убягае Таня.

Таня. Толькі што сварыліся і ўжо цалуюцца.
Віцця. А ты ўсюды паспееш.
Таня. Скажыце дзякуй. Каб не я, застаў бы вас Нёманскі.
Віцця. Зноў ідзе? *(Хавае цукеркі.)*

Уваходзіць Скробат.

Скробат *(да Тані)*. Ну што, выканала заданне?
Таня *(становіцца ў позу)*. Рапартую, таварыш Нёманскі: Вусатаму і Цётцы перадала. Яны будуць роўна ў дзве.
Скробат. Маладзец. Вось табе за гэта цукерка. *(Дастае з кішэні цукерку.)*
Таня *(няўпэўнена бярэ)*. Можа, і вам фрыц падарыў?
Скробат. Што за глупства ты гаворыш!

Уваходзіць Барута.

Барута. Таня! Станавіся на варту! *(Падае руку Скробату.)* Добры дзень, таварыш Нёманскі.
Таня. Ёсць станавіцца на варту, таварыш Мікіта. *(Выходзіць.)*
Скробат *(дапытліва глядзіць Баруту ў вочы)*. Дзе хадзіў? Я зранку заходзіў, цябе не было.
Віцця *(Кузьміну)*. Мы тут лішнія.

Віцця і Кузьмін выходзяць.

Барута. На таварнай быў. Думаў, работа якая трапіцца. А там людзей у Германію адпраўлялі. Жах, што рабілася.

Скробат. Вусатага і Цёткі не бачыў сёння?
Барута. Не. А што?
Скробат. Я іх выклікаў.
Барута. Можа, навіны якія важныя?
Скробат. Адну справу трэба абмеркаваць.
Барута. А я думаў, вам што-небудзь ад іх удалося даведацца.
Скробат *(занепакоены)*. Ад каго?
Барута. Ад немцаў.
Скробат. Што такое ты гаворыш?
Барута. Ды вы не бойцеся, я нікому не скажу. Гэта вельмі добра, што вам удалося ў самы звярынец пралезці.
Скробат. Што ты такое вярзеш? Які звярынец?
Барута. А я думаў, што вы мяне пазналі.
Скробат. Ты што? Разыгрываць мяне ўздумаў?
Барута. Не разыгрываць, Антон Іванавіч. Я незнарок наткнуўся, як вы з СД выходзілі.
Скробат *(грозна)*. Што? Ты ў сваім розуме?
Барута. Ну добра, не буду. Няхай будзе, што гэта не вы былі.
Скробат. Гэта ж трэба выдумаць такое глупства!
Барута. А хіба дрэнна было б, каб хто з нас пралез туды?
Скробат. Ты, можа, сказаў каму?
Барута. Як я буду казаць без вашага дазволу? Там нехта стукае. *(Выходзіць.)*
Скробат *(адзін)*. Вось цяпер і вырашай, Антон Скробат, хто ты такі... Чалавек ці д'ябал. Тут ужо нікуды не дзенешся: або сюды, або туды. Прызнацца ва ўсім? А чатырнаццаць чалавек, выданых немцам? Яны мне гэтага не даруюць. Захлынуцца ў прыбіральні!.. Брр!..

Уваходзяць Барута, Цётка і Рунец.

Рунец. Бяда, таварышы.
Барута. Што такое?
Цётка. Правал.
Рунец. Людзі, якіх мы паслалі ў атрад, трапілі ў засаду.
Цётка. І Страказу арыштавалі.
Скробат. Гэтага трэба было чакаць.
Цётка. Чаму?
Рунец. Я сам арганізоўваў выхад. Усе захады былі прыняты.
Скробат. Хто ведаў, што рыхтуецца выхад?
Рунец. Я, ты, вось яна. *(Паказвае на Цётку.)*
Барута. І я. *(Да Рунца.)* Ты мне даваў адно даручэнне.
Цётка. Засада не выпадковая. Нехта данёс.
Скробат. Справа вельмі сур'ёзная. Я прашу застацца толькі членаў партыі.
Барута. Я буду пад павеццю. Калі трэба будзе, клікніце.

Скробат. Клікнем.

Барута выходзіць.

Дык хто з нас траіх даносчык?

Рунец і Цётка паціскаюць плячамі.

Такога не аказалася? А наконт чацвёртага што вы думаеце?

Цётка. Я не думаю.

Скробат. Хто выбраў гэту кватэру?

Рунец. Я.

Скробат. Вельмі неасцярожна даверыў ты сваё і наша жыццё гэтаму чалавеку.

Рунец. Я яго ведаю даўно.

Скробат. Мала хто якім быў даўно.

Рунец. Ён і ў падполлі сумленна выконваў усе даручэнні.

Цётка. Адных дакументаў колькі нарабіў для нашых людзей.

Скробат. Бланкі дзе браў?

Рунец. Даставаў цераз знаёмага.

Цётка. На сала выменьваў.

Скробат. А можа, сала сам еў, а бланкі яму немцы давалі?

Рунец. Для чаго?

Скробат. Для правакацыі.

Цётка. З гэтымі дакументамі дзесяткі нашых людзей у лес перапраўлены.

Скробат. Чатырнаццаць чалавек на той свет адпраўлены з гэтымі дакументамі.

Рунец. Чаму ты так думаеш?

Скробат. Напярэдадні я бачыў яго каля СД. Мне здалося, што ён выйшаў адтуль.

Цётка. Мой адзін хлопец таксама бачыў яго каля СД. Але ж «здалося» гэта яшчэ не доказ.

Скробат. Вось гэта-то напэўна доказ. *(Вымае з кішэні паперку.)* Запіска з турмы. Крывёй пісаў чалавек.

Цётка *(глядзіць на подпіс)*. Бедная дзяўчынка! Яе схапілі тры дні назад, калі яна слухала радыё.

Рунец. Страказа?!

Скробат. Так, Страказа.

Цётка. Небарака, шчэпкай, відаць, пісала. *(Чытае.)* «Асцерагайцеся Мікіты. Ён, подлы здраднік, загубіў мяне і можа загубіць яшчэ многіх».

Скробат. Ім трэба было пазбавіць нас інфармацыі.

Цётка. Вось гэта сюрпрыз! Як абухом па лбе.

Скробат. Я прапаную ліквідаваць здрадніка.

Рунец. Каб не зрабілі мы тут страшэннай памылкі.

Скробат. Што ты прапануеш?

Рунец. Трэба паслухаць яго самога.

Скробат. Думаеш, прызнаецца? Цягнуць, пакуль і нам такія вось запіскі прыйдзецца пісаць?

Рунец. Прызнаецца не прызнаецца, а паслухаць трэба. А раптам выявіцца, што ўсё гэта не так.

Скробат. Вось як! Ты гатоў больш яму паверыць, чым мне.

Рунец. На смерць жа асуджваем. Гэта не жарты.

Скробат. Цяпер мне зразумела, дзе прычына правалаў. Цацкаліся са здраднікамі. За гэта прыходзіцца расплачвацца кроўю савецкіх людзей. *(Да Цёткі.)* Ты як думаеш?

Цётка. Я ніяк апамятацца не магу.

Скробат. Папярэджваю: за правал арганізацыі галавой адкажаце.

Цётка. Доказы пераканаўчыя. А з другога боку...

Скробат. А з другога боку давайце пачакаем, пакуль усіх накрыюць.

Цётка. Тут сапраўды можна накрыцца.

Скробат. Значыць ты — за. А ты?

Рунец. Я ўжо сказаў.

Скробат. Двое — за, адзін — супраць. Вырашае большасць.

Напружаная паўза.

Каму даручым выкананне?

Цётка. Я для такой справы не падыходжу.

Рунец. У даным выпадку і я не падыходжу.

Скробат. Ёсць у нас такі чалавек.

Цётка. Хто?

Скробат. Салдат.

Рунец. Яго прытулілі ў гэтым доме.

Цётка. Праўда, гэта нязручна.

Скробат. Наадварот, гэта яшчэ лепш. Лягчэй знайсці зручны выпадак.

Рунец. Аддзякаваць за хлеб-соль.

Скробат. За здраду. Звычайныя этычныя нормы тут не падыходзяць.

Цётка. Трэба яго паклікаць. *(Стукае ў акно.)* Таня! Скажы Сашу, каб зайшоў у хату. *(Да прысутных.)* Невядома, як ён гэта прыме.

Скробат. Як павінен прыняць камуніст рашэнне партыйнай арганізацыі пры надзвычайным становішчы?

Чакаюць. Рунец, усхваляваны, ходзіць па пакоі. Уваходзіць Кузьмін.

Кузьмін. Добры дзень.

Усе ўважліва на яго глядзяць, і ён пачынае хвалявацца.

Клікалі?

Скробат. Справа ёсць, таварыш Кузьмін.

Кузьмін. Слухаю.

Скробат. Выявіўся здраднік. Вельмі небяспечны. Вы разумееце сэнс даручэння?

Кузьмін. Хто гэта асоба і як яе знайсці?

Скробат. Шукаць далёка не трэба. Асоба пражывае ў гэтым доме.

Кузьмін *(з жахам)*. Яна?! Гэта няпраўда!

Цётка. Не яна, а ён.

Кузьмін стаіць ашаломлены.

Скробат. Ну што?

Кузьмін. Ён здаваўся мне сумленным савецкім чалавекам.

Скробат. Які ён чалавек, мы ўжо высветлілі. І не для гэтага цябе сюды паклікалі. На, пачытай. *(Дае запіску.)*

Кузьмін чытае запіску, і бровы яго лезуць угору.

Ну што, заслугоўвае ён смерці?

Кузьмін *(уражаны)*. Не чакаў.

Скробат. Вось мы і вынеслі прысуд. Табе даручаецца яго выканаць.

Кузьмін. Я прашу вызваліць.

Скробат. Прысягу партызанскую забыў?

Кузьмін. Не забыў, але тут...

Скробат. Што там сказана? «Калі ж па сваёй слабасці, трусасці або злой волі я парушу гэту прысягу...»

Кузьмін. Проста, я... не гатоў. Так нечакана.

Цётка. Я казала.

Скробат. Ты казала, што ён герой, а ён, аказваецца, баязлівец, дрэнь.

Кузьмін. Што? *(Сціснуўшы зубы, парываецца да Скробата.)*

Скробат *(выхапіў пісталет)*. Ну!

Кузьмін спыняецца.

Зброя ёсць? Выкладвай на стол!

Кузьмін вымае фінку і кладзе на стол.

Я прапаную судзіць за парушэнне прысягі і невыкананне баявога загаду.

Цётка. Ён адумаецца.

Скробат *(да Кузьміна)*. Дык як?

Кузьмін. Ганебнай смерцю я не хачу паміраць.

Скробат. Значыць?

Кузьмін. Загад выканаю.

Скробат. Даўно б так. Вазьмі зброю.

Кузьмін хавае фінку ў кішэнь.

Можаш выйсці.

Кузьмін выходзіць.

Рунец. Цяпер гэта кватэра для нас непрыдатная.

Скробат. Пакуль схамянуцца, яна надзейная. А наогул, трэба падумаць, а то мы можам загубіць нашы лепшыя кадры і саму справу.

Рунец. У цябе ёсць які-небудзь план?

Скробат. Ёсць, але яго трэба абмеркаваць больш шырока, на партыйным актыве. Я думаю, што асноўныя кадры трэба вывесці з горада, явачныя кватэры ўсе перамяніць. Калі ўціхне, вернемся зноў.

Цётка. Дзе ж мы яго збяром?

Скробат. Я прапаную сабрацца на яўрэйскіх могілках. Прайсці днём туды можна свабодна. Прыхавацца там да цемнаты таксама ёсць дзе. А як сцямнее, пагаворым. Калі вырашым, што трэба выйсці з горада, выйдзем арганізавана. А калі не, дачакаемся раніцы і спакойна вернемся, ведаючы, што далей рабіць.

Рунец. Гэта небяспечна. Калі справа толькі ў тым, каб ведаць думку актыву, няхай арганізацыя даручыць гэта мне. Я абыду ўсе раёны горада і даведаюся.

Скробат. Я хачу сам сустрэцца з людзьмі. Хачу, каб яны з першых вуснаў пачулі пра тыя задачы, якія Цэнтральны Камітэт ставіць перад партызанамі. А ты як быццам хочаш адгарадзіць мяне ад народа.

Рунец. Ці не баішся ты, што я на твае паўнамоцтвы замахваюся?

Цётка. Кіньце, таварышы. Не хапала яшчэ, каб паміж намі грызня пачалася.

Рунец. Калі пытанне ставіцца ў такой плоскасці, я не магу пярэчыць.

Цётка. Можна паспрабаваць. Мы яшчэ ні разу не збіраліся.

Скробат. Сёння мы не паспеем паведаміць. Давайце на заўтра.

Барута *(у дзвярах)*. Можна ўжо?

Цётка. Мы скончылі, можаце заходзіць.

Барута. Я вам сёння не патрэбен буду?

Скробат. Ты нам больш не патрэбен.

Барута. Бо я думаю адлучыцца. Схаджу, можа, удасца яшчэ бланкаў дастаць.

Скробат *(многазначна падморгвае Цётцы)*. Пачакай, а раптам што трэба будзе.

Барута. Ды я магу і пасля абеду.
Скробат. Пакліч сюды салдата.

Барута выходзіць.

Гэты яго паход мог аказацца для нас гібельным.

Уваходзіць Кузьмін і моўчкі спыняецца ў дзвярах.

Май на ўвазе: ён збіраецца ісці па бланкі да аднаго нямецкага прыслужніка. Ён не павінен туды дайсці. У разбураных дамах для гэтага ёсць шмат зручных падвалаў.

Скробат, Рунец і Цётка выходзяць. Кузьмін, узбуджаны, ходзіць па пакоі. Уваходзіць Віктя.

Віктя. Саша, што з табой?
Кузьмін. Са мной — нічога.
Віктя. Выгляд у цябе... Гэта табе цукеркі так сапсавалі настрой?
Кузьмін. Ёсць рэчы больш страшныя.
Віктя. Ты мяне пужаеш, Саша. Гэта мне можна ведаць?
Кузьмін. Не.
Віктя. Вядома. Я толькі камсамолка.
Кузьмін. Табе лепш гэтага не ведаць.
Віктя. Бяда якая-небудзь пагражае?
Кузьмін. Калі-небудзь ты ўсё ўведаеш.
Віктя. Забіў ты мяне гэтымі словамі.
Кузьмін. Я не павінен быў табе нічога гаварыць.

Віктя прыпадае галавой на край стала. Уваходзіць Барута.

Барута. Што ў вас тут? Не паладзілі?

Яму ніхто не адказаў.

Што гэта сёння: куды ні паткніся, дык усё загадкі нейкія. Дзе Алена Сцяпанаўна?
Віктя. Пайшла некаму бялізну мыць.
Барута. Хапае ёй, беднай. Гляджу ўчора, дык у яе аж скура з костачак пазлазіла. Дай, Віктя, мне што-небудзь перакусіць. Перакушу ды схаджу да гэтага свайго знаёмага.

Віктя моўчкі выходзіць.

Сала, праўда, няма. Можа, напавер дасць дзесятак які бланкаў.

Кузьмін маўчыць. Віктя прыносіць бульбу ў мундзірах і талерку з агуркамі.

Садзіся, салдат, падмацуйся.
Кузьмін. Не хочацца.

Барута. Прысмакі, праўда, невялікія, але ж нечым жывіцца трэба. Ідзі, не саромейся. Не збяднеем, калі бульбіну з'ясі.

Віцця. Перакусі, ты ж таксама збіраўся ісці некуды.

Кузьмін садзіцца да стала і моўчкі абірае бульбіну.

Барута. У цябе, Віцця, недзе спірытус ёсць.

Віцця. Вы ж ведаеце, для каго ён прызначаны.

Барута. На душы цяжка. Наглядзеўся на станцыі на людское гора, а тут яшчэ з партызанамі такая справа. Першы раз і апошні — дай капельку. Па пяцьдзесят грамаў — мне і салдату.

Кузьмін. Мне не трэба.

Віцця выходзіць.

Барута. Ты ж, мусіць, хутка ў лес падасіся?

Кузьмін. Падамся.

Барута. Дык гэта Віцця таму і плакала?

Кузьмін. Чаго ёй плакаць?

Барута. Ты мне вачэй не адводзь, я сёе-тое заўважаю. Не абы-хто ты для яе.

Кузьмін маўчыць. Доўгая паўза.

Каб не вайна, дык бы пажаніліся ды жылі сабе. І я б парадаваўся, гледзячы на вас.

Кузьмін. А вам што за радасць?

Барута *(збянтэжаны)*. Ды так... Старому яно прыемна.

Уваходзіць Віцця з дзвюма налітымі чаркамі і ставіць перад мужчынамі. Барута бярэ чарку.

Барута. Дык давай, можа... За гэта самае, пра што я казаў.

Кузьмін рэзка ўстаў з-за стала. Чарка абярнулася. Ён выйшаў з пакоя.

Чаго гэта ён? Пакрыўдзіўся?

Віцця. Нешта з ім робіцца. Сама не разбяру.

Барута *(адстаўляе чарку ўбок)*. Я ж, здаецца, нічога дрэннага не сказаў. *(Есць бульбу з агурком.)* У рот нічога не лезе.

Уваходзіць Кузьмін, таксама апранены.

І ты ідзеш?

Кузьмін. Іду.

Барута. Можа, у адну дарогу? Мне на Сталярную.

Кузьмін. У адну.

Барута. Вось і добра. *(Віцці.)* Не сумуй. Усё будзе добра.

Ён і за ім Кузьмін накіроўваюцца да дзвярэй.

Заслона

## АКТ ТРЭЦІ

### Карціна сёмая

Перавязачная ў бальніцы. Віцця адна — рыхтуе інструменты, бінты. Уваходзіць Пельцэр.

Пельцэр. Можна?

Віцця *(здрыгануўшыся)*. Вы ж ужо зайшлі.

Пельцэр. Я не пастукаў, прабачце. *(Цалуе Віцці руку.)* Вы ўсіх так пужаецеся?

Віцця. Не, толькі некаторых.

Пельцэр. Да мяне вам пара прывыкнуць.

Віцця. Вы таму і зайшлі, каб я прывыкала?

Пельцэр. Я не мог прайсці міма перавязачнай.

Віцця. А вы што — хворы?

Пельцэр. Вельмі сур'ёзна.

Віцця. Патрэбна хірургічнае ўмяшанне?

Пельцэр. Без вашага ўмяшання нічога не будзе.

Віцця. А што такое ў вас?

Пельцэр *(са штучным пафасам)*. Каханне.

Віцця. Ну што ж, давайце выражам.

Пельцэр. Гэта нельга. Гэта глыбока, у душы.

Віцця. Дабяромся і да душы. Дзе яна ў вас? У пятках, мусіць?

Пельцэр *(грозіць ёй пальцам)*. Ну-ну! Я ведаю, на што вы намякаеце. Не забывайцеся, што я афіцэр самай храбрай у свеце арміі.

Віцця. І на храбрых ёсць граза. Кажуць, лясы кішаць гэтымі... як вы іх называеце...

Пельцэр. Бандытамі.

Віцця. Кажуць, быццам іх і ў горадзе поўна.

Пельцэр. Няхай. Мы іх б'ём і зарабляем ордэны.

Віцця. Я іх у вас яшчэ не бачу.

Пельцэр. Хутка ўбачыце. Учора ліквідавалі групу ў чатырнаццаць чалавек, якая прабіралася ў лес. Кіраваў аперацыяй я.

Віцця. І што вы з імі зрабілі?

Пельцэр. Яны там. *(Паказвае ў зямлю.)*

Віцця. І яны не супраціўляліся?

Пельцэр. У іх не было чым.

Віцця. Ордэн, відаць, невялікі будзе... за такі подзвіг?

Пельцэр. Хутка ў мяне будзе вялікі. Жалезны крыж з дубовымі лістамі.

Віцця. Гэта ваша мара.

П е л ь ц э р. Гэта ўжо рэальнасць. Вы яго ўбачыце ў мяне вось тут.

В і к ц я. А што, калі ў вас будзе тут дзірачка?

П е л ь ц э р. Якая дзірачка?

В і к ц я. Аперацыя ж, відаць, будзе сур'ёзная?

П е л ь ц э р. О, каласаль! Могілкі на могілках.

В і к ц я. І не заўсёды вы будзеце мець справу з бяззбройнымі людзьмі.

П е л ь ц э р. На вайне без рызыкі не бывае.

В і к ц я *(з прытворным смуткам)*. Хто ж мне будзе падаркі насіць?

П е л ь ц э р. А падарак вам спадабаўся?

В і к ц я. Я яго з'ела з прыемнасцю. І з кожнай цукеркай успаміналa вас.

П е л ь ц э р *(цалуе руку)*. Я вам прынёс яшчэ даражэйшы падарак. *(Вымае флакон духоў.)* Французскія. Самая шыкарная фірма.

В і к ц я. А чым жа я расплачуся за такі шыкарны падарак?

П е л ь ц э р. О, не турбуйцеся. Вы маеце такі скарб, што можаце аплаціць сто такіх флаконаў. *(Спрабуе абняць.)*

В і к ц я *(вызваляецца)*. Адкуль жа? Я бедная дзяўчына.

П е л ь ц э р. Вы — наіўная дзяўчына.

В і к ц я. Няма ў мяне ніякага скарбу.

П е л ь ц э р. Вы толькі дазвольце, я сам яго знайду. *(Абнімае больш рашуча.)*

В і к ц я *(супраціўляецца)*. Я бачу, што для мяне ваш падарак занадта дарагі. Вазьміце яго назад.

П е л ь ц э р. Не, не! Толькі трошкі прыхільнасці.

В і к ц я. Але ж вы так прыхіляецеся...

П е л ь ц э р. Я не вінават. Гэта тэмперамент.

В і к ц я. Кажуць, што для немцаў гэта не характэрна.

П е л ь ц э р. О-о-о!

Кідаецца ў атаку на Вікцю. Вікця выкручваецца, хапае са стала скальпель і, жартуючы, настаўляе на Пельцэра. Спалоханы, Пельцэр адхіснуўся.

О-о-о!

В і к ц я *(смяецца)*. Як маецца ваш тэмперамент?

М і х а і л  Ф ё д а р а в і ч *(адчыняе дзверы і спыняецца ля парога)*. Вас тут аперыраваць збіраюцца, пан капітан.

П е л ь ц э р *(жартуючы)*. Бандыт! Яе трэба вешаць.

М і х а і л  Ф ё д а р а в і ч. Прашу прабачэння. *(Выходзіць.)*

В і к ц я. Вось бачыце. Тут зусім непрыдатнае месца для вашага тэмпераменту.

П е л ь ц э р. Я прапанаваў вам іншае месца. Я прасіў вас да сябе ў госці.

Віктя. Я на гэта не магла адважыцца. Калі б яны даведаліся...

Пельцэр. Хто — яны?

Віктя. Тыя, за каго вы збіраецеся жалезны крыж атрымаць.

Пельцэр. Вы іх баіцеся?

Віктя. Вы ведаеце, што яны робяць у такіх выпадках.

Пельцэр. Кажуць, ёсць нейкі Саша ці Міша, якога завуць «смерць здраднікам».

Віктя. Вось гэтага Сашы я і баюся.

Пельцэр. А ваша прыхільнасць, якую вы адпускаеце мне аптэчнымі дозамі? Дзе ж знайсці такое месца, каб вы праявілі яе больш шчодра?

Віктя. Лепш я сама вас у госці запрашу. Я змагу абставіць так, што ніхто і ведаць не будзе.

Пельцэр. Вы разумніца! *(Цалуе руку.)* Калі гэта будзе?

Віктя. Калі-небудзь. Трэба выбраць вечар, калі дома нікога не будзе.

Пельцэр. Не мучце!

Віктя. Каб вы не мучыліся,— можа, і сёння. *(Заўважыўшы, што Пельцэр у нерашучасці.)* Бадай што сёння я вам змагла б падарыць вечарок.

Пельцэр. Сёння мне не зусім зручна.

Віктя. Я і забылася: у вас сёння аперацыя «каласаль». Магілкі на магілках.

Пельцэр. Хіба я сказаў сёння?

Віктя. Адкуль жа я ведала б?

Пельцэр. Але ў нас ёсць час. Да дзевяці гадзін вечара я вольны.

Віктя. А можа, там без вас абыдзецца?

Пельцэр. Без мяне? О, не! Без мяне там нічога не выйдзе.

Віктя. Тады трэба спяшацца. Я павінна ўсё падрыхтаваць. Чакаю вас роўна ў сем. Адрас — Ціхая, 16.

Пельцэр. Буду пунктуальны. *(Старанна запісвае адрас.)*

Віктя. Выходзьце. Разам нам нязручна. І так плёткі ходзяць.

Пельцэр. Глупства.

Віктя. Для вас. А я ж, можа, дзяўчына.

Пельцэр. Іду, дарагая. *(Цалуе руку і зноў хоча абняць.)*

Віктя. Будзьце цярплівы.

Пельцэр. І вы мне абяцаеце шмат шчасця?

Віктя. Столькі, колькі вы заслужылі.

Пельцэр выходзіць. Віктя, спяшаючыся, развязвае матузы халата. Уваходзіць Міхаіл Фёдаравіч.

Міхаіл Фёдаравіч. Паважаная Вікторыя Андрэеўна! Я хацеў вам напомніць, што ў нас існуе прафесіянальная этыка.

Віктя. Гэта вы растлумачце яму, Міхаіл Фёдаравіч.

Міхаіл Фёдаравіч. Якога чорта яму трэба ад вас?

Віцця. Вы не маленькі, самі павінны здагадацца.

Міхаіл Фёдаравіч. Можа, хоча якія весткі здабыць?

Віцця. Не, справа куды прасцей.

Міхаіл Фёдаравіч. Дык нельга ж ператвараць перавязачную ў чорт ведае што.

Віцця. Я нават абразіцца не маю часу.

Міхаіл Фёдаравіч. Чаго ж абражацца? Вы самі какетнічаеце. Каб гэтыя прыставанні былі вам непрыемныя, дык вы б яго адшылі.

Віцця. Наадварот, я хачу яго прышыць.

Міхаіл Фёдаравіч. Я нічога не разумею.

Віцця. Адпусціце мяне, Міхаіл Фёдаравіч, я павінна зараз жа пайсці.

Міхаіл Фёдаравіч. Але ж там *(паказвае на дзверы)* хворыя чакаюць.

Віцця. Калі я не пайду, загінуць людзі. Шмат харошых людзей.

Міхаіл Фёдаравіч. Так бы вы і сказалі.

Віцця знімае халат і выходзіць.

## Карціна восьмая

Кватэра Алены Прымаковіч. Дэкарацыя першай карціны.

Алена. З могілак і ў лес? І дадому нельга будзе зайсці?

Рунец. Паглядзім, можа, і вернемся.

Алена. Я мушу вярнуцца. Колькі тут чаго засталося, а шкада. Можа, што прыхаваю, што да суседзяў занясу.

Рунец. А потым як жа вы?

Алена. Да Браткі падамся. Дарогу я ведаю. А вось з Таняй як быць?

Рунец. Не ведаю, што вам параіць.

Алена. На Зарэчнай вуліцы жыве мужава сястра, але ёй і самой няма чаго есці. Можа, з сабой узяць?

Рунец. Раз нічога іншага нельга прыдумаць...

Уваходзіць Таня з піянерскім гальштукам на шыі.

Таня. Салют, дзядзя Вусаты!

Рунец. Будзь гатова!

Таня. Заўсёды гатова! *(Глядзіць на гадзіннік.)* Ужо можна знімаць. *(Знімае гальштук і кладзе ў куфэрак.)*

Алена. Мусіць, прыйдзецца нам у лес ісці, дачушка.

Таня. У які лес?

Алена. Да Браткі.

Таня. А можна?

Алена. Дзядзя Вусаты кажа, што трэба.

Таня. Вось здорава! І дзядзя Мікіта з намі?

Алена *(спахмурнеўшы)*. Няма дзядзі Мікіты. Як пайшоў учора па бланкі, дык і не прыйшоў. Можа, той прыяцель сам і выдаў яго. *(Выцірае слёзы.)* Можа, там цяпер, беднаму, косці ломяць.

Таня. Мама, гэта няпраўда. *(Падыходзіць і абнімае маці.)* Ён вечарам прыйдзе. *(У яе самой слёзы на вачах.)*

Алена. Пыталася я, можа, у турме яго бачылі. Знаёмая жанчына прыбіральшчыцай там працуе. Кажа, не бачыла. Можа, яшчэ ў гестапа трымаюць.

Вікця ўваходзіць, задыхаўшыся.

Вікця. Добра, што я вас застала.

Рунец. Што здарылася?

Вікця. Фашысты некую пастку строяць.

Рунец. Адкуль гэта вядома?

Вікця. Мой немец прагаварыўся. Рыхтуецца некая аперацыя, якую ён называе «каласаль». Могілкі на могілках.

Рунец. Могілкі на могілках! Гэта была б сапраўды пастка.

Вікця. Да дзевяці гадзін нічога не будзе, а далей не ручаюся.

Кузьмін. А чаму ты да дзевяці ручаешся?

Вікця. Да дзевяці гэты немец будзе ў маім распараджэнні. А ён у гэтай справе адзін з галоўных.

Усе здзіўлена глядзяць на яе.

Чаго вы так глядзіце? Я запрасіла яго ў госці.

Алена. Што ты надумала!

Вікця. Тлумачэнні пасля. Трэба людзей ратаваць.

Рунец. Гэта праўда. Алена Сцяпанаўна і Таня, прашу мне дапамагчы. Я вам дам некаторыя адрасы. Сам пайду ў раён могілак, каб папярэдзіць, каго ўбачу. Начаваць тут я вам не раю. Калі ў іх сарвецца на могілках, яны кінуцца на явачныя кватэры. Правакацыя, відаць, задумана шырока.

Алена *(да Тані)*. Дачушка! Ты сюды больш не варочайся. Ідзі на Зарэчную да цёткі Надзі. Я таксама туды прыйду. А ты, Вікця, з агнём не гуляй.

Вікця. Вы ж бачыце, якая тут гульня.

Рунец. Пастарайся затрымаць яго як мага даўжэй.

Рунец, Алена і Таня выходзяць.

Кузьмін. Якою цаною ты здабыла гэтыя весткі?

Вікця. Хітрыкамі.

К у з ь м і н. І толькі? Ты мне ўсё скажы. Нешта ж было, відаць.

В і к ц я. Самая дробязь. *(Бярэ з шафы святочнае плацце.)* Выбачай, мне трэба пераадзецца.

Выходзіць у суседні пакой.

К у з ь м і н. Што трэба разумець пад гэтай дробяззю?

В і к ц я *(з суседняга пакоя)*. Глупства. Прывабная ўсмешка, няпэўны намёк.

К у з ь м і н. І табе не агідна?

В і к ц я. Агідна. *(Выходзіць у святочным плацці, з падфарбаванымі вуснамі.)* Ты нават уявіць не можаш, як агідна. *(Скаланулася.)*

К у з ь м і н *(з захапленнем глядзіць на яе)*. У фрыца губа не дура.

В і к ц я. Што ж рабіць, Сашачка? Гэта мая невялікая ахвяра.

К у з ь м і н. Разумею. Усё разумею, але як падумаю, што гэта поскудзь будзе дакранацца да цябе, дык мяне аж калоціць.

В і к ц я. А калі я гэтым людзей ад смерці ўратую, няўжо ты ўсё-такі асудзіш мяне?

Дастае абрус, засцілае стол, ставіць два прыборы.

К у з ь м і н. Не асуджваю, а баюся я за цябе. Баюся, што страчу цябе назаўсёды.

В і к ц я. Нічога страшнага не здарыцца. *(Выходзіць.)*

Кузьмін, узбуджаны, ходзіць па пакоі. В і к ц я варочаецца з графінчыкам.

Я нават спірту не шкадую, прызначанага зусім не для фашысцкіх афіцэраў.

К у з ь м і н. Гэтым не адбудзеш.

В і к ц я. Ты не бойся. Я што-небудзь прыдумаю.

К у з ь м і н. Я ўжо прыдумаў.

В і к ц я *(з трывогай)*. Што ты прыдумаў?

К у з ь м і н. Я заб'ю яго.

В і к ц я. Ты гэтага не зробіш.

К у з ь м і н. Зраблю. З вялікай асалодай.

В і к ц я. І засыплеш явачную кватэру.

К у з ь м і н. Яна ўжо засыпана.

В і к ц я. Ідзі, я цябе прашу. Ён вось-вось павінен прыйсці.

К у з ь м і н. Не пайду.

В і к ц я. Нічога не здарыцца, запэўняю цябе. Я хутчэй сама сабе смерць зраблю, чым дапушчуся да чаго-небудзь.

К у з ь м і н. Не хачу, каб ты і сама сабе смерць рабіла. *(Абнімае.)* Я не пакіну цябе адну на пагібель. *(Цалуе.)* Не праганяй.

В і к ц я. Узнімеш трывогу і загубіш усю справу.

К у з ь м і н. Я ціхком. Нават боты зніму, каб ямчэй падкрасціся было. *(Знімае боты.)*

Віцця (глянула ў акно). Усё! Ён ужо ідзе.

Кузьмін. Прыкрыеш дзверы ў склеп посцілкай. (Хапае боты і бяжыць на кухню.)

Віцця выходзіць у пярэднюю сустракаць немца.

Віцця. Ох! Вы мяне напужалі сваім пісталетам.

Пельцэр. Я так заўсёды заходжу ў незнаёмую кватэру.

Віцця. Які вы асцярожны.

Пельцэр. Гэта не перашкаджае быць храбрым.

Віцця. Прашу сюды. (Расхінае парцьеру.)

Пельцэр. Я раней хачу сюды. (З пісталетам у руках заглядае ў пакой налева.) І сюды. (Заглядае на кухню.) А цяпер можна і сюды. (Уваходзіць у пакой.) Тут яшчэ пакой. (Заходзіць з пісталетам у бакавы пакой. Выходзіць адтуль і тады толькі хавае пісталет у кішэнь і весела глядзіць на Віццю.) Так лепш.

Віцця. Мне гэта крыўдна.

Пельцэр. Прабачце, я ў заваяванай краіне.

Віцця. І заўсёды гэта помніце.

Пельцэр. На жаль, нам часта аб гэтым напамінаюць.

Віцця. Вы нават дзяўчат баіцеся. Прашу распранацца.

Пельцэр (распранаецца). Адзін мой знаёмы загінуў праз дзяўчыну.

Віцця. Вы што ж, думалі, што я таго Сашу ці Мішу тут схавала?

Пельцэр. Я хацеў бы з ім сустрэцца. У мяне ёсць для яго добры гасцінец. (Падкрэслена ляпае па кішэні з пісталетам.)

Віцця. Прашу садзіцца. Дазвольце наліць... для храбрасці.

Пельцэр (садзіцца да стала). Храбрасць мне патрэбна: я на подступах да непрыступнай крэпасці. (Жэст у бок Віцці. Бярэ ў рукі графін, нюхае.) Спірт. Лепш вось гэта. (Устае і вымае з кішэні вопраткі пляскатую бутэльку.) Замкніце, калі ласка, уваходныя дзверы.

Віцця. А ў вас там хіба варты няма?

Пельцэр. Я да дзяўчат у госці хаджу без варты. І... каб ніхто не ведаў. Нам строга забаронена хадзіць у дом да рускіх дзяўчат.

Віцця зашчэплівае дзверы і варочаецца.

Пельцэр (налівае ў чаркі лікёр). За ваша хараство, Вікторыя Андрэеўна. (Выпіваюць.) Дзякую, што падарылі мне гэты вечарок. (Цалуе руку.) Цяпер бы крыху музыкі. Вальс. (Напявае.) Прыёмніка няма?

Віцця. Прыёмнікі ўсе ў вас. А вальс можна. (Заводзіць патэфон.)

П е л ь ц э р *(кружыць яе ў танцы, блізка прыціскае да сябе, цалуе ў шчаку).* Харошая!

Віцця вызваляецца з абдымкаў і садзіцца на крэсла. Пельцэр — на другое. плячамі да парцьеры.

Вам дрэнна?

В і к ц я. Галава закружылася.

П е л ь ц э р. Палажыце яе мне на плячо.

Хоча зноў абняць. Віцця адхіляецца.

А што вы мне абяцалі?

В і к ц я. Вы ўсё сваё атрымаеце.

П е л ь ц э р. Я не люблю доўгай уверцюры. У мяне вельмі мала часу.

В і к ц я. Мала часу для кахання.

П е л ь ц э р. Там *(паказвае некуды ў прастору)* гэта вельмі важна.

В і к ц я. Бандыта якога-небудзь зловяць і без вас.

П е л ь ц э р. Аднаго? Усіх бандытаў.

В і к ц я. Так ужо і ўсіх?

П е л ь ц э р. Усіх самых галоўных.

За плячамі ў Пельцэра паказваецца К у з ь м і н з фінкай. Немец паварочваецца, і ён хаваецца за парцьеру.

В і к ц я. І вы не баіцёся выдаваць мне такія сакрэты?

П е л ь ц э р. Не. Вы не ўспееце нікому расказаць. Праз дваццаць мінут пасля таго, як я выйду адгэтуль, вы пачуеце стрэлы. Гэта я буду зарабляць жалезны крыж. *(Налівае чаркі.)* За мой жалезны крыж.

В і к ц я. За крыж я вып'ю. *(Выпіваюць.)*

П е л ь ц э р. Як галава?

В і к ц я. Кружыцца.

П е л ь ц э р. Вам трэба адпачыць. Я вас завяду на ложак.

В і к ц я. Не трэба, пройдзе.

П е л ь ц э р. Я вас занясу.

Віцця супраціўляецца, але немец бярэ яе ў ахапку. Віцця моцна абхапіла Пельцэра рукой, дае знак Кузьміну. К у з ь м і н выбягае з-за парцьеры і ўсаджвае Пельцэру нож пад лапатку. Немец падае.

В і к ц я *(вызваліўшыся з абдымкаў Пельцэра).* Хутчэй хадзем!

К у з ь м і н. Трэба прыбраць з вачэй. У склеп хіба.

Цягне труп Пельцэра за парцьеру.

В і к ц я. І гэта трэба прыбраць. *(Прыбірае са стала.)*

К у з ь м і н *(уваходзіць, надзявае Пельцэраў шынель і шапку).* Апранайся!

В і к ц я *(апранаецца)*. Куды ж мы цяпер?

К у з ь м і н. У лес, да Браткі.

Паспешна выходзяць. Сцэна некаторы час пустая. Прачыняюцца дзверы, і высоўваецца галава Т а н і. Яна аглядае пакой, потым шпарка ўваходзіць і накіроўваецца да ложка. Высоўвае з-пад ложка куфэрак і дастае гальштук.

Т а н я. Гальштучак мой дарагі! Чуць я цябе не забыла. *(Цалуе гальштук.)* Вось якая няўдалая піянерка! Цяпер я з табой ніколі не разлучуся. *(Вешае гальштук на плячо. Перабірае ў куфэрку рэчы.)* І кнігі шкада пакідаць. Можа, і ў лесе можна будзе чытаць. *(Адбірае тры-чатыры кнігі.)* Вазьму. А сукенка? *(Адчыняе шафу, вымае сукенку.)* Гэта ж мая самая лепшая. Занясу да цёткі Надзі. *(Прыслухоўваецца.)* Машына! *(Глянула ў акно.)* Немцы. Сюды ідуць. *(Кідае сукенку і зачыняе хутчэй шафу. Залазіць пад ложак.)*

У пакой уваходзяць д в а  с а л д а т ы заўтаматамі, Н а г е л ь  і  М ю л е р з пісталетамі ў руках, С к р о б а т у чорным плашчы. Твар Скробата закрыты капюшонам.

Н а г е л ь. Вылецела дзічына.

Салдаты з аўтаматамі абходзяць пакоі.

М ю л е р. У гэтым ящчэ трэба пераканацца.

1-ы  с а л д а т. Там нікога няма, пан маёр.

Н а г е л ь. Цікава, кватэру часова пакінулі ці зусім?

М ю л е р. Яна была не замкнёна.

Н а г е л ь. Калі часова, тады ў кватэры вобыску не рабіць, рэчы ўсе няхай застаюцца як ёсць, як быццам нас тут не было.

2-і  с а л д а т. Тут нехта толькі што быў, пан маёр. Куфэрак адчынены і кнігі на падлозе. *(Зазірнуў пад ложак і, адскочыўшы, наставіў аўтамат.)* Ён тут!

Усе схапіліся за зброю.

Н а г е л ь. Ану, вылазь, хто там ёсць!

Адказу няма.

Дастаць!

Адзін з салдат рыўком адсоўвае ложак. З падлогі ўсхопліваецца Таня. Яна стаіць пад наведзенымі на яе дуламі, прыціснуўшы да грудзей гальштук. Дулы павольі апускаюцца.

М ю л е р. Піянерка.

Н а г е л ь. Што ты тут робіш?

Т а н я. Гэта мой дом.

Н а г е л ь. Чаго ж ты ў сваім доме пад ложак хаваешся?

Т а н я. Ад немцаў усе хаваюцца.

Нагель. Усе дрэнныя людзі. Партызаны.

Таня маўчыць.

Ты таксама партызанка?

Таня. Я яшчэ малая.

Нагель. А як вырасцеш?

Таня. Тады вас тут не будзе.

Немцы пераглянуліся.

Нагель. З кім ты жывеш тут?

Таня. З мамай.

Нагель. Дзе мама?

Таня. Мые бялізну ў аднаго начальніка.

Нагель. Калі прыйдзе?

Таня. Сёння не прыйдзе. Ноччу хадзіць няможна.

Мюлер. Хто тут яшчэ жыве?

Нагель. Нашто нам гэта ведаць? Няхай жывуць на здароўе. *(Да Тані.)* Вось бачыш, ты нас баялася, а мы цябе не чапаем, хоць ты і піянерка. І ў кватэры нічога не чапаем. Гэта ад нас збег адзін злачынец. Нам сказалі, што ён у ваш двор забег. Вось мы яго і шукаем. Просім прабачэння, што патурбавалі. *(Салдатам.)* Абшукаць двор!

Салдаты выходзяць.

Мюлер. У мяне ёсць некаторыя меркаванні, пан маёр. *(Ківае ў бок Скробата.)* Я хачу пагаварыць з вамі адзін на адзін.

Нагель і Мюлер выходзяць у другі пакой. Таня стаіць усё ў той жа позе. Скробат паглядае на Таню праз дзіркі ў капюшоне, садзіцца, барабаніць пальцамі па стале. Таня з жахам глядзіць на яго пальцы. Скробат заўважае гэта, хутка хавае руку, але ўжо позна.

Таня *(ціха, нібы сама сабе)*. Чорныя ногці!

Скробат *(кідаецца да Тані)*. Ціха! *(Хоча закрыць рот рукой.)*

Таня *(вырываецца, расчыняе акно, крычыць на ўсю моц)*. Чорныя ногці!

Хоча ўцячы праз акно. Скробат сцягвае яе з падаконніка, душыць за горла. Таня хрыпіць.

Чорн... чорн... *(Б'ецца ў сутаргах.)*

Убягаюць Нагель і Мюлер.

Нагель. Што вы робіце?

Скробат *(са скрыўленым ротам)*. Яна мяне пазнала.

Нагель. Адпусціце!

Скробат. Крычыць. На вуліцы пачуюць.

Нагель. Заткніце рот.

Мюлер моцна хапае Таню за рукі. Скробат дрыжачымі рукамі спрабуе запхнуць Тані ў рот гальштук.

І гэтага не ўмееце. *(Падыходзіць і спрытна затыкае Тані рот.)*

Уваходзіць 1-ы салдат.

1-ы салдат. У двары нікога няма, пан маёр.

Нагель. Бярыце яе ў машыну. Глядзіце, каб не ўцякла.

Салдат заломлівае Тані рукі, штурхаючы перад сабой, выводзіць.

Мюлер. Яна магла нам усю справу сапсаваць.

Нагель *(Скробату)*. Чаму так выйшла?

Скробат *(паказвае пальцы)*. Вось. Вы самі вінаваты.

Нагель. Можа, мы вінаваты і ў тым, што задуманая аперацыя правалілася?

Скробат. Я ўсё зрабіў, што мог.

Нагель. Каб выратаваць сваіх сяброў.

Скробат. Гэта страшнае і незаслужанае абвінавачанне.

Нагель. Хто ведаў пра аперацыю? Шэф, я і вы. Хто ж з нас папярэдзіў камуністаў?

Скробат. Я не папярэджваў. Клянуся.

Нагель. Вы водзіце нас за нос, таварыш упаўнаважаны. Грошы бераце ў нас, а служыце ім. Мусіць, забыліся, чый вы ўпаўнаважаны.

Скробат *(спалоханы)*. Як вы можаце гэтак думаць, пан маёр!

Нагель. Для гэтага ў мяне ёсць усе падставы. У нас ёсць даныя, што дзякуючы вашаму ўмеламу кіраўніцтву колькасць злачынных элементаў у горадзе павялічылася. Сотні людзей выведзены ў лес. Туды ж цэлымі фурманкамі і нават грузавікамі вывозіліся зброя, цёплае адзенне, медыкаменты.

Скробат. Я не мог усяму гэтаму перашкодзіць.

Нагель. Яны не слухаюць партыйнага кіраўніцтва?

Скробат. Слухаюць. Яны робяць тое, што сказала партыя.

Нагель. А што яна сказала?

Скробат. Тое, чым канчаюцца зводкі Саўінфармбюро.

Нагель. Смерць нямецкім акупантам?

Скробат. Так. І я не ў сілах гэтаму перашкодзіць.

Нагель. Тое, што маглі, вы таксама не зрабілі. Дзе актыў, які вы абяцалі нам сабраць на могілках?

Скробат. Не ведаю. Тут нешта здарылася.

Нагель *(злавесна)*. Даўно мы з вамі не размаўлялі па шчырасці, пан Скробат. Я скажу хлопцам, каб яны вамі сёння заняліся.

Скробат увабраў галаву ў плечы, нібы чакаючы ўдару.

Вы хочаце загладзіць сваю віну і заслужыць наша давер'е?

Скробат. Мне больш нічога не застаецца.

Нагель. Даю вам такую магчымасць. Як вы думаеце, дзе цяпер вашы прыяцелі?

Скробат. У лесе. А калі не, дык хутка там будуць.

Нагель. І вы павінны туды ўцячы... ад гестапа. Дарогу ведаеце?

Скробат. Не.

Нагель. Хто ведае?

Скробат. Маці гэтай дзяўчыны.

Нагель. Прасачыце, як вернецца, і скажыце, каб завяла. Вернецеся зноў для падпольнай работы і раскажаце нам, дзе штаб, якая ахова, падступы, пароль. Зразумелі задачу?

Скробат. Зразумеў.

Нагель. А калі хочаце, можаце з імі застацца. Мы гэтага не баімся. Зараз яшчэ знімем вас у гэтым балахоне. Мюлер, апарат пры вас?

Мюлер дастае фотаапарат і здымае.

Вось так. А цяпер адкіньце капюшон, каб твар відаць быў. Мы з вамі робім вобыск. Падымайце матрац. Мюлер, шчоўкніце нас!

Мюлер фатаграфуе.

Вось так. Дакумент пераканаўчы. Вазьміце са сцяны гэту картку.

Скробат знімае картку.

Гэта хто?

Скробат. Мікіта.

Нагель. Якога вы загадалі прыкончыць?

Скробат. Так.

Нагель. Вельмі добра. Пан Скробат, ён жа Нёманскі, разглядае картку свае ахвяры. Паказвайце яе мне! Вось так. Шчоўкніце, Мюлер, нас яшчэ разок.

Мюлер фатаграфуе.

Цяпер, калі хочаце, можаце да нас не варочацца.

Заслона

Дзея працягваецца назаўтра рана ў той жа дэкарацыі. Асцярожна ўваходзіць Алена. Яна прыглядаецца да ўсяго, нібы першы раз у гэтай хаце. Падняла кнігі, што ляжалі на падлозе, патрымала і палажыла ў куфэрак. Адчыніла шафу. Убачыла сукенку, кінутую абы-як, расправіла, павесіла на вешалку. Заглянула ў адзін пакой, у другі. Вярнулася назад і села ля стала.

Алена. Яна яшчэ прыходзіла сюды. *(Ціха заплакала. Выцірае слёзы рогам хусткі.)* Дзе ж ты, дзіця маё роднае? Дзяўчынка мая дарагая. Можа, яны цябе застрэлілі, як ты ноччу ішла па вуліцы. І ты ляжыш дзе-небудзь у руінах, прабітая

кулямі. А можа, схапілі цябе каты на страшную пакуту і выпытваюць, крамсаюць тваё кволае цела.

У пярэдняй пачуўся стук дзвярэй і шоргат. Алена хуценька ўстала. Твар яе засвяціўся надзеяй.

Можа, яна.

С у с е д к а *(за парцьерай)*. Можна зайсці?

А л е н а *(засмучаная)*. Заходзьце.

Уваходзіць с у с е д к а.

С у с е д к а. Вы, мусіць, мяне не ведаеце?

А л е н а. Ведаю. Вы жывяце напроці.

С у с е д к а. Гора ў вас вялікае.

А л е н а. Вы, можа, ведаеце што пра маё гора?

С у с е д к а. Бачыла, як прыйшла ваша малая.

А л е н а. Дык вы яе бачылі?

С у с е д к а. Падышла, спачатку ў акно паглядзела. Потым дзверы адчыніла асцярожненька. Толькі зайшла, зараз і немцы тут.

А л е н а. Гестапаўцы!

С у с е д к а. Чорт іх ведае, хто яны такія, толькі пяцёх з машыны вылезла. Чатыры ў нямецкай форме, а пяты ў чорным балахоне. Так і кінуліся да вашых дзвярэй.

Алена з жахам схапілася за галаву.

У мяне сэрца так і зайшлося. Можа, думаю, яна праз акно як выскачыць. Не.

А л е н а. І што ж далей?

С у с е д к а. А далей самае страшнае. Спачатку ціха было, а потым раптам расчыняецца акно і яна ў акне паказалася на момант. Уся трымціць ад страху ды як крыкне: «Чорныя ногці!» І тут я бачу: балахон той схапіў яе за шыю.

А л е н а. Чорныя ногці?

С у с е д к а. «Чорныя ногці!» — гэта я добра чула.

А л е н а. Беднае маё дзіця! Яна звар'яцела ад страху.

С у с е д к а. Дзіва што можна звар'яцець. Зараз бачу, валакуць яе, небараку, у машыну. Салдат рукі заламаў назад, а яна, бедная, і крыкнуць не можа, рот заткнулі, нягоднікі.

Паўза. Алена ціха плача.

Дык вось я і зайшла. Можа, памагчы што трэба.

А л е н а. Што ж вы мне паможаце, дарагая мая? Сілы ў вас няма такой, каб мне памагчы.

Уваходзіць С к р о б а т.

С к р о б а т. Добры дзень. Што ў вас, Алена Сцяпанаўна! Бяда якая здарылася?

А л е н а. Бяда, таварыш Нёманскі. Вялікая бяда.

С у с е д к а. То я пайду ўжо. *(Выходзіць.)*

А л е н а. Таню гестапаўцы схапілі.

С к р о б а т. Што вы кажаце?!

А л е н а. Суседка бачыла, як яе валаклі ў машыну.

С к р о б а т. Не ўпадайце ў роспач, Алена Сцяпанаўна. Выпусцяць, яна ж дзіця яшчэ.

А л е н а. Вы ж ведаеце, якое гэта дзіця.

С к р о б а т. Будзем спадзявацца на лепшае. Я разумею ваша матчына гора, але ж не трэба рукі апускаць. Давайце падумаем, што нам рабіць.

А л е н а. Я і хацела з вамі параіцца.

С к р о б а т. Дзе нашы ўсе?

А л е н а. У лес пайшлі. Немцы хацелі накрыць усіх на могілках.

С к р о б а т. Не казалі, хто выдаў?

А л е н а. Ніхто нічога не ведае.

С к р о б а т. Нам з вамі таксама трэба ў лес ісці.

А л е н а. А як жа Танюша?

С к р о б а т. Чым жа вы ёй дапаможаце?

А л е н а. Даведацца, ці жывая. Можа, перадачу будуць прымаць.

С к р о б а т. Яны і вас схопяць. Ёй не дапаможаце, а сябе загубіце. І справе можаце пашкодзіць.

А л е н а. А калі яе выпусцяць?

С к р о б а т. Да знаёмых зойдзе ці да сваякоў. А нам трэба падавацца зараз жа, каб не было позна.

А л е н а. Можа, вы і праўду кажаце. Пайду клунак збяру. Вы пачакайце трошкі. *(Выходзіць на кухню і праз хвіліну, азіраючыся, убягае ў пакой.)* Які жах!

С к р о б а т *(усхапіўся)*. Што такое?

А л е н а. Там у склепе немец.

С к р о б а т. Які немец?

А л е н а. Нежывы, здаецца.

С к р о б а т. Яшчэ гэтага не хапала. *(Выходзіць на кухню.)*

А л е н а. Ну што — жывы?

С к р о б а т *(з кухні)*. Мёртвы. *(Уваходзіць.)* Нажом яго шарахнулі.

А л е н а. Відаць, той, што каля Вікці круціўся. Гэта Саша яго.

С к р о б а т. Цяпер нам тут і аднае хвіліны нельга заставацца.

А л е н а. Я ўжо і сама бачу.

С к р о б а т. Толькі рукі ў кроў запэцкаў. *(Растапырвае пальцы.)*

А л е н а. Ідзіце, я палью.

Выходзяць на кухню. Алена варочаецца адна.

Чорныя ногці! У яго чорныя ногці!

## Карціна дзевятая

Лагер партызанскага атрада. Злева штабная зямлянка. Справа, пад елкаю, самаробны стол і лаўкі каля яго. У глыбіні лесу, паміж дрэвамі, відаць партызанскія зямлянкі і буданы з яловых лапак. На сцэне — Братка, Цётка, Рунец, Кузьмін, камандзір узвода Канцавы, радыст з рацыяй за плячамі, Чэпік з вінтоўкай напагатове, накіраванай на радыста.

Братка. Ты дзе яго знайшоў?

Чэпік. Ён сам мяне знайшоў, таварыш камандзір. Я ў сакрэце ляжаў. Чую — нешта шастае ў кустах. Я думаў, кабан дзікі, адно ж ён вылазіць з бандурай за плячамі. Проста на мяне. Тут [redacted] яго за шкірку — хадзі сюды!

Братка. Гэта што ў цябе за плячамі?

Радыст. Рацыя.

Братка. А як ты сюды трапіў?

Радыст. З самалёта. На парашуце спусціўся.

1-ы партызан. Брэша і не чырванее.

Братка. Хто цябе паслаў і для чаго?

Радыст. Партызанскі штаб, што ў Маскве. Для абслугоўвання атрадаў таварыша Камлёва.

Братка. Добра цябе немцы брахаць навучылі.

Радыст. Чэснае камсамольскае, таварыш камандзір!

Канцавы. Як прозвішча начальніка партызанскага штаба?

Радыст. Рымарэнка.

Кузьмін. Гэта яму і немцы маглі сказаць.

2-і партызан. Шпіён, ясна.

Кузьмін. Услед за намі паслалі, каб разведаў, дзе атрад, і радзіраваў немцам.

Радыст *(пратэстуючы)*. Таварыш камандзір!

Братка. Што «таварыш камандзір»? Чым ты дакажаш, што не шпіён?

Радыст. Дакументаў у мяне няма, але ж і так відаць.

1-ы партызан *(іранічна)*. Відаць як на далоні.

Радыст. Вось і рацыя савецкая.

Канцавы. Такія і ў немцаў ёсць.

Братка. Проста дзіва! Скінулі цябе з самалёта і якраз на наш атрад. Як быццам там ведаюць, дзе мы знаходзімся.

Радыст. Мяне пасылалі да таварыша Камлёва. Лётчык скінуў не там, дзе трэба. Я блукаў па лесе і наткнуўся на яго. *(Паказвае на Чэпіка.)*

1-ы партызан. Выкручваецца, гадзіна.

Канцавы. Чаго з ім цацкацца? Дазвольце, таварыш камандзір. *(Вымае пісталет і падморгвае Братку.)* Я адвяду яго за зямлянку.

Рунец. Чакайце, таварышы! Трэба яму выпрабаванне даць.

Братка. Прыдумаў?
Рунец. Шыфр у цябе ёсць?
Радыст. Ёсць.
Рунец. Пакажы.
Радыст. Ён у мяне ў галаве.
Рунец. Звязацца з Масквой можаш?
Радыст. Магу.
Рунец. Няхай перадасць аб аперацыях атрада «Смерць фашыстам», і каб паслязаўтра раніцой было гэта ў апошніх паведамленнях.
Братка *(радысту)*. Чуеш? Калі паслязаўтра не будзе ў апошніх паведамленнях, мы з табой цацкацца не будзем.

Радыст выцірае рукавом спацелы лоб.

Канцавы. А калі ён не з Масквой звяжацца, а немцаў выкліча? Мы ж не можам праверыць, які шыфр у яго галаве.
Братка. Атраду быць у баявой гатоўнасці. Таварыш Канцавы, выстаўце ўзмоцненую варту. *(Радысту.)* Зарубі сабе на носе: калі немцы нападуць на нас, ты першы кулю схопіш. Хадзем, я прадыктую данясенне ў партызанскі штаб.
Цётка *(Рунцу)*. Каб яны яго ў расход не пусцілі.
Рунец. Не пусцяць, пакуль не выпрабуюць.
Цётка. А можа такое быць, што падасланы?
Рунец. Колькі хочаш.
Цётка. Вось тут і ўгадай.

**Карціна дзесятая**

Лагер партызанскага атрада. Дэкарацыя папярэдняй карціны. На варце ля зямлянкі стаіць Чэпік.
Уваходзяць Алена з клункам за плячамі і Скробат. За імі Акуліч з вінтоўкай напагатове.

Акуліч. Стой!

Алена і Скробат спыняюцца.

Чэпік. Папаўненне прывёў?
Акуліч. Трэба яшчэ разабрацца, што гэта такое. Так проста і садзяць па нашай сцежцы. А пароля не ведаюць. Гэты нават з пісталетам. *(Вымае з кішэні пісталет.)* Аддаваць не хацеў. Дзе камандзір?
Чэпік. Тут. *(Ківае на зямлянку.)*
Акуліч. Далажы. Або папільнуй іх, дык я сам.
Чэпік *(бярэ вінтоўку напагатоў)*. Ідзі дакладвай.

Акуліч ідзе ў зямлянку.

Чэпік. Садзіся, цётка. Ды клунак знімі, далей ісці няма куды.

Алена. А мне далей і не трэба.

Чэпік *(прыглядаецца)*. О-о! Здаецца, знаёмая! Я чуў, што вы нажную машыну прадаяце. Здарова, маці!

Алена. Здароў, сынок!

Чэпік. Памагаць нам прыйшлі?

Алена. Прыйшлі. Ледзь жывыя выбраліся.

Чэпік. Ці пазналі вы мяне?

Алена. Адзенне другое, дык не зразу і пазнаеш.

З зямлянкі выходзяць Братка і Акуліч.

Братка. О-о! Каго я бачу! А тут мне дакладваюць, што чуць не шпіёнаў злавілі. Добры дзень, таварыш Нёманскі. *(Паціскае руку.)* Алена Сцяпанаўна! Нарэшце і вы да мяне ў госці прыйшлі.

Скробат. Строгасці тут у цябе. Абяззброілі, чуць не застрэлілі.

Братка. Хлопцы службу знаюць.

Акуліч. Пісталет куды загадаеце, таварыш камандзір?

Братка. Аддаць па прыналежнасці.

Акуліч *(аддае пісталет Скробату)*. Дазвольце ісці на месца, таварыш камандзір.

Братка. Дзякую за службу, таварыш Акуліч.

Акуліч. Служу савецкаму народу.

Братка. Можаце ісці.

Акуліч адыходзіць.

Скробат. І шмат у цябе такіх арлоў?

Братка. Усе паўтараста. Алена Сцяпанаўна! Занясіце клунак у зямлянку. Там і ложак ёсць, можаце адпачыць, калі хочаце.

Алена. Я б хацела сваіх пабачыць... калі яны тут.

Братка. Тут.

Алена. Можа, і Таня?

Братка. Не, Тані няма. Вы адпачніце пакуль што, я іх паклічу.

Алена. Калі ласка. *(Бярэ клунак і ідзе ў зямлянку.)*

Братка. Таварыш Чэпік! Паклічце сюды таварышаў, што з горада прыйшлі. А ў восем ноль-ноль прывядзіце таго... радыста.

Чэпік. Ёсць, таварыш камандзір. *(Адыходзіць.)*

Скробат. Колькі ты ад нас папаўнення атрымаў?

Братка. З горада да мяне прыйшло... восемдзесят тры, здаецца.

Скробат. А не цэніш.

Братка. Вельмі нават цаню.

Скробат. Ад партыйнай арганізацыі адарваўся. Аб планах сваіх нічога не паведамляеш.

Братка. Пашлеш планы, а іх перахопяць. Вунь якую правакацыю супраць нас задумалі.

Скробат. А мы іх усё ж перахітрылі.

Братка. Апрача таго, я ўстанавіў сувязь з падпольным абкомам.

Скробат. Вось як! Я чуў, што ёсць такі.

Братка. І што датычыцца баявых аперацый, я выконваю яго заданні.

Скробат. Гэта ты так вырашыў?

Братка. Не, ёсць загад.

Скробат. Ад каго?

Братка. Ад Цэнтральнага Камітэта і партызанскага штаба.

Скробат. У гэтага абкома ёсць сувязь з ЦК?

Братка. Ёсць.

Скробат. А з намі няма. Як у цябе са зброяй?

Братка. Здабываем.

Скробат. Там на мяне нават ручныя кулямёты настаўлялі.

Братка. І станковыя ёсць.

Скробат. «Максімы»?

Братка. Тры нямецкія і два нашы. Нават артылерыя ёсць.

Скробат. Хвалішся.

Братка. Процітанкавая гармата. Хадзем пакажу. *(Адыходзяць.)*

З зямлянкі выходзіць Алена. Да яе падбягае Віцця.

Віцця. Мама! *(Цалуюцца.)* Ты адна?

Алена. Вунь з гэтым чалавекам. *(Ківае ўслед Скробату.)*

Віцця. А... *(Не адважваецца запытацца.)*

Алена *(садзіцца на лаўку. Са смуткам)*. А Танюшы няма. Гестапаўцы схапілі.

Віцця абхапіла матчыну шыю рукамі і прыпала да грудзей.

Віцця. І пра бацьку нічога не чула?

Алена. Нічога. Можа, разам яны там. А можа, і жывога няма. *(Убачыўшы, што падыходзяць Рунец і Цётка.)* Адыдзіся крыху, мне трэба з гэтымі людзьмі пагаварыць.

Віцця адыходзіцца.

Рунец. Алена Сцяпанаўна! Прыйшлі!

Алена. Прыйшла і чалавека прывяла.

Рунец. Мы яго там сустрэлі.

Алена. А каго прывяла, і не ведаю.

Цётка. Як — каго? Гэта ж таварыш Нёманскі. Вы ж яго ведаеце.

Алена. Я яго не ведаю. Душы яго не ведаю.

Рунец. Вы ведаеце, хто яго паслаў да нас.

Алена. Даруйце. Можа, я ад гора здурнела.

Рунец. Нейкая ж прычына ёсць у вас?

Алена. Што гэта можа значыць: «чорныя ногці»?

Цётка. Нічога не разумею. Якія ногці?

Алена. Калі гестапаўцы зрабілі налёт на маю кватэру, там быў адзін у чорным балахоне з закрытым тварам. Суседка бачыла, як Танюша кінулася ў акно з крыкам: «Чорныя ногці!», а ён сцягнуў яе з падаконніка і стаў душыць.

Цётка. Чорныя ногці?.. Пачакайце...

Алена. Прыгледзелася я, дык у яго ж чорныя ногці.

Рунец *(да Цёткі)*. «Чорны манікюр» — помніш?

Цётка. Гэта абсурд.

Рунец. Хто мог хавацца пад балахонам? Немец? Не. Нехта баяўся, каб не пазналі.

Цётка. Але падазраваць яго?

Алена. Каб жыў быў Андрэй Пятровіч, ён бы мог сказаць пра яго нешта больш важнае.

Рунец. Што ж Мікіта мог вам пра яго сказаць?

Алена. Што Нёманскі хадзіў у СД.

Цётка. Дык вось адкуль у вас падазрэнне! Цяпер зразумела. Мікіта мог яшчэ і не тое сказаць. Дзіўна толькі, што вам, беспартыйнай, сказаў, а нам пра гэта ні словам не заікнуўся. Вы, мусіць, не ведаеце, што Страказа пісала.

Алена. Вось якая бяспамятная стала. За сваім горам пра чужое забылася. *(Вымае з запазухі паперку.)* Заходзіла я зноў да тае прыбіральшчыцы пра Андрэя Пятровіча пытацца. Пра яго яна нічога не ведае, а ад Страказы запіску перадала.

Рунец чытае запіску і, усхваляваны, перадае Цётцы. Тая прачытала, і яны моўчкі пераглянуліся.

Рунец. А самому Нёманскаму Андрэй Пятровіч гаварыў пра гэта?

Алена. Меўся сказаць, але я не ведаю: больш не бачылася з мужам.

Цётка. А Мікіта хіба ваш муж?

Алена. Таму ён мне адной і сказаў пра гэта.

Рунец *(да Цёткі)*. Што скажаш цяпер пра яўрэйскія могілкі?

Цётка. Што ж цяпер рабіць?

Рунец. Судзіць.

Цётка. Тады трэба Братку папярэдзіць. Я пайду ў зямлянку нібыта вады напіцца, а ты прышлі яго да мяне. *(Ідзе ў зямлянку.)*

Алена. Дык гэта ён, гэты д'ябал з чорнымі кіпцюрамі, загубіў іх!

Падыходзяць Братка і Скробат.

Скробат. З поўначы і з усходу ў цябе подступы ахоўваюцца добра, а з гэтага ж боку нічога няма.

Братка. Там балота.

Скробат. Непраходнае?

Братка. Хто ведае сцежкі, прайсці можна. *(Да Рунца.)* А дзе ж Цётка?

Рунец. У зямлянцы. Ёй нешта дрэнна стала, пайшла вады напіцца.

Братка. Ці ёсць там вада яшчэ, трэба паглядзець. *(Ідзе ў зямлянку.)*

Скробат. А ты тут ужо камісарыць пачаў?

Рунец. Правёў гутарку з байцамі.

Скробат. Як маральны стан?

Рунец. У бой рвуцца.

Скробат. Братка, мусіць, хоча, каб ты тут застаўся. Заставайся, калі хочаш. Я вярнуся ў горад, а там будзе відаць.

Рунец. Гэта як партыйная арганізацыя скажа.

Скробат *(Цётцы, якая з Браткам выйшла з зямлянкі)*. Што, нездаровіцца?

Цётка. Нічога, прайшло ўжо.

Братка. Сядайце, дарагія госці. Пагаворым.

Скробат. Госці, а на стале чамусьці нічога няма. *(Садзіцца.)*

Братка. Будзе. *(Становіцца ў Скробата за плячамі.)* Зараз усё будзе. Віцця, Кузьмін! Ідзіце сюды!

Віцця і Кузьмін падыходзяць.

Скробат. Аб чым гаварыць будзем?

Братка. Ёсць аб чым.

Скробат. Ды ты сам хоць сядзь, а то стаіш над душою.

Братка. А душа што... адчувае што-небудзь?

Скробат. Не люблю, калі за плячамі стаяць. Пра што гаворка?

Братка. А хоць бы пра подступы, якімі ты цікавішся.

Скробат. Што гэта значыць?

Братка. Ты для каго гэтыя весткі збіраеш?

Скробат. Ты што — жартуеш? *(Намацвае ў кішэні пісталет.)* Я абавязан ведаць пра баявую гатоўнасць атрада.

Рунец. Вымі рукі з кішэняў!

Скробат. Гэта што яшчэ такое?

Рунец. Вымі, табе кажуць! Ну!

Скробат павольна вымае рукі.

Братка. А гэта дай мне пакуль што. *(Адбірае пісталет.)*

Рунец. Палажы на стол! Лапы палажы на стол!

Скробат. Што вы — падурнелі? *(Кладзе рукі на стол.)*

Рунец. Наадварот, паразумнелі.

Цётка. Нам твой чорны манікюр падабаецца.

Рунец. Каго ты душыў гэтымі рукамі?

Скробат. Я?! Душыў?

Рунец. Успомні. У чый дом у чорным балахоне прыходзіў?

Скробат. Калі? Што вы, таварышы! У якім балахоне?

Цётка *(з абурэннем)*. Падлюга. Яшчэ таварышамі называе.

Рунец. У СД чаго хадзіў?

Скробат. Калі? Хто гэта бачыў?

Рунец. Муж гэтай жанчыны, якога ты на той свет адправіў — таварыш Мікіта.

Кузьмін. Ох! Дык гэта... *(Парываецца да Скробата.)*

Братка *(спыняе яго)*. Сядзь!

Алена. Ты думаў, праўду ў зямлю загнаў, а яна наверх выйшла.

Кузьмін *(становіцца на калені перад Аленай)*. Карай мяне, маці. Я забіў Андрэя Пятровіча.

Алена *(з жахам адхіснулася)*. Ты!

Віцця. Гэта няпраўда, Саша! Ты не забіваў!

Кузьмін. Гэта праўда, Віцця.

Рунец. Смяротны прысуд вынесла падпольная арганізацыя. Кузьміну даручана было яго выканаць. Мы аднолькава вінаваты і з роспаччу схіляем галовы перад памяццю нашага таварыша, перад пакутамі жонкі і дачкі. Гэты гад *(паказвае на Скробата)* узвёў на яго паклёп.

Алена. Ваша спачуванне не загоіць маіх страшных ран. Дараваць мне вам цяжка, але і праклінаць не хачу. Няхай навекі будуць пракляты тыя, хто прынёс нам гора і пакуты. І тыя выродкі, што прадалі сваё сумленне ворагу.

Цётка. Запіску падсунуў, правакатар пракляты.

Рунец. Вось яе сапраўдная запіска. *(Чытае.)* «Родныя мае: Вусаты, Цётка, Алена Сцяпанаўна, Братка, Мікіта... *(Яшчэ раз падкрэслівае.)* Мікіта! Пасылаю вам сваё апошняе прывітанне. Заўтра, калі сонца гляне на нашу пакутную зямлю, мяне ўжо не будзе на свеце. Яны возьмуць маё жыццё, але не вырвуць з маіх грудзей веры ў нашу перамогу. Бывайце назаўсёды, мае дарагія! Адпомсціце за мяне, за ўсе крыўды і пакуты нашага народа».

Усе глыбока ўсхваляваны. Доўгая паўза.

Што ж ты маўчыш, гад? Можа, і цяпер яшчэ будзеш адпірацца?

Скробат. Усё... Канец мой прыйшоў.

Рунец. Як здраднікам стаў?

Скробат. Катаванняў не вынес. Спужаўся, думаў, што ўсё загінула. Упаў, а ўстаць не змог. Іх баяўся і вас баяўся. Баяўся смерці, баяўся пакуты. А больш за ўсё баяўся ганьбы, каб людзі не ўведалі.

Рунец. І нічога гэтага ты не пазбег.

Алена. Дзе дачку дзеў, ірад?

Скробат. Яе няма на свеце.

Алена. Ты забіў яе?

Скробат. Яна не магла жыць, ведаючы, хто я.

Алена заплакала наўзрыд.

Рунец. Правакацыя на могілках твая справа?

Скробат. Мая.

Братка. Сюды чаго прыйшоў?

Скробат. Каб потым іх прывесці.

Рунец. Пачаў з маладушнасці і кончыў здрадай. Такі твой ганебны канец, Скробат-Нёманскі. І калі зноў заззяе сонца над нашай зямлёй, не тваё сэрца сагрэюць яго прамені. Не твае дзеці прытуляцца да грудзей свайго бацькі з гордасцю за яго подзвігі. Народ уславіць сваіх герояў — жывых і мёртвых, а цябе калі ўспамяне хто, дык толькі з праклёнам. Які прысуд вынесем здрадніку?

Братка. Смерць!

Цётка. Смерць!

Кузьмін. Смерць!

Вікця. Смерць!

Братка. Вунь вядуць і таго. *(Глядзіць на гадзіннік.)* Зараз будуць перадаваць апошнія паведамленні.

Уваходзіць радыст і за ім Чэпік з вінтоўкай напагатове. Братка адчыняе дзверы зямлянкі.

*(Да радыста.)* Зараз вырашыцца твой лёс.

З зямлянкі, дзе стаіць прыёмнік, чуваць голас дыктара, які паведамляе аб асобных баявых эпізодах на фронце і ў тыле ворага.

Рунец. Ціха, таварышы!

Усе напружана слухаюць.

Голас дыктара. Народныя мсціўцы з атрада «Смерць фашыстам», якім камандуе таварыш Б., напалі на паліцэйскую казарму ў населеным пункце М. Восем паліцэйскіх забіта. Захоплена шаснаццаць вінтовак, два ручныя кулямёты і шмат патронаў.

Братка *(радысту)*. Ну, друг, прабач. Давай я цябе пацалую. *(Моцна абнімаюцца.)*

Рунец. А цяпер перадай Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі, што здраднік Радзімы Скробат-Нёманскі па прыгавору камуністаў-падпольшчыкаў расстраляны. Падпольная арганізацыя працягвае барацьбу ў тыле ворага.

Канец

*1958*

## КАМЕНТАРЫ

Чацвёрты том Збору твораў Кандрата Крапівы склалі драмы і камедыі, напісаныя пісьменнікам у 1939—1958 гады. У параўнанні з вечнасцю гэтыя дваццаць год — велічыня мізэрная, аднак у гісторыі Беларусі яны маюць эпахальную напоўненасць. Прынамсі, многія народы за ўвесь час свайго гістарычнага існавання не перажылі і палавіны тых трагічных выпрабаванняў, якія выпалі на долю беларусаў у гэтае дваццацігоддзе. Сталінскія рэпрэсіі 30-х гадоў, фашысцкі генацыд перыяду Вялікай Айчыннай вайны, неймаверныя нягоды пасляваеннага ўзнаўлення ўшчэнт разбуранай народнай гаспадаркі... І зусім заканамерна, што рэаліі гэтага суровага часу занялі вельмі важнае месца ў сюжэтнай структуры п'ес.

П'есы ў томе размешчаны ў храналагічным парадку.

### ХТО СМЯЕЦЦА АПОШНІМ (с. 6)

Сатырычная камедыя напісана ў 1939 г. Упершыню ўрывак з п'есы апублікаваны ў газеце «Звязда» (1939, 23 красав.), цалкам надрукавана ў часопісе «Полымя рэвалюцыі» (1939, № 9). Неаднаразова перавыдавалася на беларускай мове («Выбраныя творы». Мн., 1941; «П'есы». Мн., 1946; Выбраныя творы. Мн., 1947; «Драматычныя творы». Мн., 1951; «Байкі. Вершы. П'есы». Мн., 1960; Выбраныя творы. У 2 т. Мн., 1986; Збор твораў. У 3 т. Мн., 1956; Збор твораў. У 4 т. Мн., 1963; Збор твораў. У 5 т. Мн., 1974—1976 і г. д.). Выдавалася таксама за межамі Беларусі: У Расіі (1940, пер. Г. Рыкліна; 1949, пер. В. Уладзімірава і Я. Шварца; 1953, пер. Я. Шварца; 1955, пер. яго ж і г. д.), Украіне (1953, пер. Г. Вігурскай), ГДР (1954, пад назвай «Мамантава свіння», пер. А. Вагнера), Кітаі (1955 і 1956, пер. Гун Жэньфана), Чэхаславакіі (1955, пер. Е. Фенцля), Польшчы (1956, пер. Е. Юрандота).

П'еса ўпершыню пастаўлена ў кастрычніку 1939 г. на сцэне БДТ-І (пастаноўка І. Раеўскага, рэжысёр Л. Рахленка, мастак В. Шкляеў). Ролі выконвалі: Л. Рахленка — Гарлахвацкі, Б. Платонаў — Зёлкін, Г. Глебаў — Туляга, С. Станюта — Зёлкіна, С. Бірыла — Чарнавус, Б. Кудраўцаў — Левановіч, Л. Ржэцкая — цёця Каця, Г. Грыгоніс — Нічыпар, В. Пола — жонка Гарлахвацкага. Звыш 120 тэатраў беларускага замежжа пазнаёмілі сваіх гледачоў з гэтай славутай камедыяй К. Крапівы. У 1954 г. з'явілася кінаэкранная версія гэтага твора (сцэнарый К. Крапівы, рэжысёр У. Корш-Саблін).

У 1941 г. за спектакль «Хто смяецца апошнім» у БДТ-І была прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР.

Датуецца 1939 г.

### ПРОБА АГНЁМ (с. 64 )

Драма напісана ў 1942 г. Упершыню надрукавана ў выданні «Беларусь: Альманах першы». М., 1943. Урывак з п'есы змяшчаўся ў газеце «Звязда» (1944, 23 жн.). Неаднаразова перавыдавалася на беларускай мове («П'есы». Мн., 1946; Выбраныя творы. Мн., 1947; «Драматычныя творы». Мн., 1951; Збор твораў.

У 3 т. Мн., 1956; Збор твораў. У 4 т. Мн., 1963; Збор твораў. У 5 т. Мн., 1974—1976; П'есы. Мн., 1983; Выбраныя творы. У 2 т. Мн., 1986). На рускай мове ў перакладзе Л. Ракоўскага друкавалася ў кнігах «Избранные драмы» (М., 1953) і «Драмы и комедии» (М., 1975).

Упершыню пастаўлена ў чэрвені 1943 г. на сцэне БДТ-II, які тады працаваў ва ўмовах эвакуацыі ў горадзе Уральску (рэжысёр Н. Лойтар, мастак А. Марыкс). Ролі выконвалі: П. Малчанаў — Караневіч, А. Радзялоўская — Наталля Мікалаеўна, А. Шэлег — Перагуд, М. Звездачотаў — Рыбнікаў, С. Скальскі — Дубавец, А. Трус — Родны, Ф. Шмакаў — Бондараў, І. Матусевіч — Шумейка і інш.

Датуецца 1943 г.

ВАЛОДЗЕЎ ГАЛЬШТУК (с. 109 )

Драма напісана ў 1943 г. Упершыню надрукавана ў выданні «Беларусь: Альманах другі». М., 1945. Неаднаразова перавыдавалася на беларускай мове («П'есы для гурткоў мастацкай самадзейнасці». Мн., 1945; Збор твораў. У 3 т. Мн., 1956; Збор твораў. У 4 т. Мн., 1963; Збор твораў. У 5 т. Мн., 1974—1976). Упершыню пастаўлена выязной брыгадай БДТ-І у 1944 г. для паказу ў часцях дзеючай арміі.

Датуецца 1943 г.

МІЛЫ ЧАЛАВЕК (с. 121 )

Сатырычная камедыя напісана ў 1945 г. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (1945, № 9). Урывак з п'есы друкаваўся ў часопісе «Беларусь» (1945, № 10). Неаднаразова перавыдавалася на беларускай мове (Збор твораў. У 3 т. Мн., 1956; Збор твораў. У 4 т. Мн., 1963; Збор твораў. У 5 т. Мн., 1974—1976; Выбраныя творы. У 2 т. Мн., 1986). У аўтарскім перакладзе на рускай мове друкавалася ў выданнях «Милый человек» (М., 1945) і «Драмы и комедии» (М., 1975).

Упершыню пастаўлена ў 1945 г. на сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы (рэжысёр І. Раеўскі, мастак Б. Малкін). У спектаклі былі заняты вядучыя акцёры тэатра: Б. Платонаў — Жлукта, У. Уладамірскі — Канягін, Г. Глебаў — Язва, Р. Кашэльнікава — Клава, З. Стома — памочнік Жлукты, А. Бараноўскі — першы кліент і інш.

Датуецца 1945 г.

З НАРОДАМ (с. 174 )

Драма напісана ў 1948 г. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (1948, № 6). Неаднаразова перавыдавалася на беларускай мове («З народам». Мн., 1948; «Драматычныя творы». Мн., 1951; Збор твораў. У 3 т. Мн., 1956; Збор твораў. У 4 т. Мн., 1963; Збор твораў. У 5 т. Мн., 1974—1976; Выбраныя творы. У 2 т. Мн., 1986). У перакладзе А. Астроўскага і П. Кабзарэўскага друкавалася на рускай мове ў выданнях: «Белорусская драматургия». Л.-М., 1949; «Избранные драмы». М., 1953; «Драмы и комедии». М., 1975. У 1950 г. кіеўскае выдавецтва «Мистецтво» выдрукавала драму на ўкраінскай мове ў перакладзе Ю. Назарэнкі.

Упершыню пастаўлена на сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў 1948 г. (рэжысёр К. Саннікаў, мастак А. Багданаў, І. Ушакоў). У спектаклі былі заняты: У. Уладамірскі — Гудовіч, Б. Платонаў — Мігуцкі, Г. Грыгоніч — Шкуранкоў, В. Краўцоў — Шуфт, Р. Кашэльнікава і Л. Шынко — Броня, В. Галіна — жонка Гудовіча і інш. П'еса ставілася таксама і за межамі Беларусі — Расія, Украіна.

Датуецца 1948 г.

ПЯЮЦЬ ЖАВАРАНКІ (с. 224 )

Лірычная камедыя напісана ў 1950 г. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (1950, № 8). Урывак з п'есы друкаваўся ў газеце «Літаратура і мастацтва» (1950, 9 верас.). Неаднаразова перавыдавалася на беларускай мове («Пяюць жаваранкі». Мн., 1951; «Драматычныя творы». Мн., 1951; «П'есы». Мн., 1953; Збор твораў. У 3 т. Мн., 1956; Збор твораў. У 4 т. Мн., 1963; Збор твораў. У 5 т. Мн., 1974—1976; Выбраныя творы. У 2 т. Мн., 1986). На рускай мове ў

перакладзе П. Кабзарэўскага і В. Петушкова друкавалася ў часопісе «Звезда» (1951, № 4), а таксама ў наступных выданнях: «Поют жаворонки». Мн., 1950; «Советская драматургия». М., 1950; «Выдающиеся произведения советской литературы, 1950 год». М., 1951; «Избранные драмы». М., 1953; «Пьесы советских писателей». Т. 10. М., 1956; «Драмы и комедии». М., 1975; бібліятэчка «Художественная самодеятельность» выпусціла п'есу ў перакладзе В. Баскінай і Г. Осіпава. Камедыя друкавалася на Украіне (1951, пер. Ю. Назарэнкі), у ГДР (1952, пер. К. Зэгера); Румыніі (1952, пер. Э. Емільяна і Л. Яфрэмава), Польшчы (1953, пер. В. Камарніцкай, І. Літвінюк), Венгрыі (1954, пер. Чэкелі), Кітаі (1955, пер. Гун Жэньфана).

Упершыню пастаўлена на сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы 6 лістап. 1950 г. (рэжысёр К. Саннікаў, мастак І. Ушакоў). Ролі выконвалі: Б. Платонаў — Туміловіч, У. Дзядзюшка — Пытляваны, Л. Ржэцкая — Аўдоцця Захараўна, І. Шаціла — Мікола Верас, Г. Грыгоніс — Сымон Верас, І. Ждановіч і Л. Драздова — Насця, В. Пола — Паўліна, Б. Кудраўцаў — Паланевіч і інш. Шырока — звыш пяцідзесяці тэатраў — ставілася п'еса за межамі Беларусі. У 1953 г. паводле п'есы (сцэнарый К. Крапівы, рэжысёр У. Корш-Саблін) на кінастудыі «Беларусьфільм» быў зняты аднайменны кінафільм. У 1952 г. спектакль купалаўцаў быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй СССР.

Датуецца 1950 г.

## ЗАЦІКАЎЛЕНАЯ АСОБА (с. 274 )

Драма напісана ў 1952 г. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (1953, № 2). Урывак з п'есы змяшчаўся ў газеце «Літаратура і мастацтва» (1952, 20 верас. пад назвай «Трэцяя асоба»). Неаднаразова перавыдавалася на беларускай мове («Зацікаўленая асоба». Мн., 1953; Збор твораў. У 3 т. Мн., 1956; Збор твораў. У 4 т. Мн., 1963; Збор твораў. У 5 т. Мн., 1974—1976). На рускай мове ў перакладзе А. Пюнкеля друкавалася ў часопісе «Звезда» (1953, № 9).

Упершыню пастаўлена на сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы 15 лют. 1953 г. (рэжысёр К. Саннікаў, мастак І. Ушакоў). Ролі выконвалі: Б. Платонаў — Русаковіч, П. Малчанаў — Сухадольскі, Л. Шынко — Антаніна Пятроўна, Ю. Галкін — Генадзь, А. Рахленка — Фёдар Мікалаевіч і інш.

Датуецца 1952—1953 гг.

## ЛЮДЗІ І Д'ЯБЛЫ (с. 331 )

Драма напісана ў 1958 г. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (1958, № 4). Урывак з п'есы змяшчаўся ў газеце «Калгасная праўда» (1958, 12 чэрв.). Неаднаразова перавыдавалася на беларускай мове («Людзі і д'яблы». Мн., 1958; «Байкі. Вершы. П'есы». Мн., 1960; Збор твораў. У 4 т. Мн., 1963; Збор твораў. У 5 т. Мн., 1974—1976; Выбраныя творы. У 2 т. Мн., 1986).

У аўтарскім перакладзе на рускай мове друкавалася ў кнізе «Драмы и комедии». М., 1975.

Упершыню пастаўлена на сцэне Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Якуба Коласа ў красавіку 1958 г. (рэжысёр А. Скібнеўскі, мастак Я. Кікалаеў). Ролі выконвалі: А. Ільінскі і Ф. Сяргейчык — Барута, Ф. Шмакаў — Рунец, А. Радзялоўская — Алена Сцяпанаўна, М. Маркоўская — Марына, Б. Левін — Нагель, Я. Буракоў — Пэльцэр, М. Звездачотаў — Скробат і інш.

Арыгінальнае сцэнічнае прачытанне атрымала драма ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы (1958) і Стрыйскім вандроўным украінскім драматычным тэатры (1958).

Датуецца 1958 г.

# ЗМЕСТ

ПЕСЫ

**Крапіва К.**

К 78 Збор твораў. У 6 т. Т. 4. П'есы/Кандрат Крапіва; Уклад. і камент. С. Лаўшука; Маст. А. Александровіч.— Мн.: Маст. літ., 2003.— 399 с., [4] л., іл.

ISBN 985-02-0629-2.

У чацвёрты том Збору твораў Кандрата Крапівы ўвайшлі п'есы «Хто смяецца апошнім», «Мілы чалавек», «Пяюць жаўранкі» і інш.

**УДК 821.161.3-2**
**ББК 84(4Бен)-6**

ISBN 985-02-0629-2



*Літаратурна-мастацкае выданне*

**КРАПІВА** КАНДРАТ

(**Атраховіч** Кандрат Кандратавіч)

*Збор твораў у шасці тамах*

Том 4

*П'есы*

Рэдактар *Н. І. Семашкевіч*
Мастак *А. В. Александровіч*
Мастацкі рэдактар *Л. М. Рудакоўская*
Тэхнічны рэдактар *В. І. Барута*
Стылістычныя рэдактары *Я. А. Бебель, А. М. Анцытовіч, Д. Р. Лосік, М. Ч. Пермякова*

Падпісана да друку 15.07.03. Фармат 84×108 1/32. Папера афсетная. Гарнітура Тып Таймс. Умоўн. друк. арк. 21,0 + 0,42 укл. Улік.-выд. арк. 25,02. Тыраж 3100 экз. Заказ 1614.

Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 28.11.2002. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Адкрытае акцыянернае таварыства «Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа». 220600, Мінск, вул. Чырвоная, 23.